№3 (112)
/травень-чэрвень/ 2021

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Леанід Галубовіч



...я мацнейшы
за яшчэ не напісаныя
мной словы....

# Начныя начыркі

* * *

Памрэ чалавек,
і некаторыя кажуць:
Бог забраў.

А лепш бы казаць:
адышоў да
Бога.

Бо ці патрэбен
Богу выгнаны Ім
чалавек?

Каб даведацца –
трэба вярнуцца...

*20 ліпеня 2020*

* * *

Аддаць Богу
душу –
не страціць,
а захаваць.

*22 ліпеня 2020*

* * *

Ці страшна ў *гэтым* свеце ад таго,
што мне сябе хапае аднаго?
Сказаць па шчырасці, я больш баюся,
што ў свеце *тым* сам-н*а*сам застануся...

*2 траўня 2020*

* * *

Словы,
напісаныя мной,
мацнейшыя
за мяне.

Але я мацнейшы
за яшчэ не напісаныя
мной словы.

*14 ліпеня 2020*

## ***ЧМЯЛІНЫ ЧАС***

На падваконні памірае чмель,
які кружляў наўкол сваіх зямель...
І з ружы піў нектар, і ў квет асота
залазіў ён, калі была ахвота
салодка жыць...
Але – настала слота,
імжыць...

Гудлівы чмель варушыцца ледзь-ледзь,
але, на жаль, не можа ўжо ўзляцець...

Успамінае ён жыцця турботы,
і свет зямны, што прытуляў яго,

і час, што быў адпушчан для палёту,
каб даляцець да пожаду свайго...

*29 ліпеня 2020*

* * *

Вершы пішуцца з пыхаю,
роздумна й красамоўна.
Паэзіі ж боль – выдыхваюць,
нібыта грэх незамольны.

*6 траўня 2020*

## ЗВАРОТНЫ ЗМЫСЛ

Каб не было нідзе нікога,
апроч людзей, – ні Сатаны, ні Бога –
ці дажылі б мы да канца такога,
што ўсё ж стварылі б Сатану і Бога?..

*16 лютага 2021*

## БАБЫЛЬ

Крупы купляе і поўніць кармушкі
ў зімным двары каля дома свайго.
Блізкімі толькі паднебныя птушкі
тут, на зямлі, засталіся ў яго.

Зранку за імі цікуе з хрушчоўкі,
моўчкі з-за шторы, згарбеўшы спіной,
гэты бабыль – інсургент гарбачоўскі –
з вечным чаканнем адлігі зімой...

Веры няма ў ім, надзея слаб*а*я...
Сочыць, як доўга ў паднебнай вышы
птушка застыглая крыл не складае,
быццам вісіць на няўвідным крыжы...

*27 лютага 2021*

* * *

Лупілі нас і сяк, і так,
ляпілі з нас такіх і гэткіх,

каб сёння сцвердзілі ўсе сведкі,
што мяккі знак – наш цвёрды знак.

*17 лютага 2021*

## НАПЯРЭДАДНІ

Кволіцца за вокнамі зіма.
Сонца выцалоўвае пагоркі.
Навакол – расхлябанасць, глум*а*,
плыткасць, беззаконне ў панадворку...

Гразь, і бруд, і выбуцвелы снег –
новых завязяў жыцця пялюшкі –
прачцы пакідаюцца – вясне –
для мыцця, выпарвання, прасушкі...

Дзень, другі міне і тыдзень, два
пройдзе, і, зляжалая пад спратам,
гэта ўся адталая брыда
зацвіце й зазелянее раптам...

*5 сакавіка 2021*

## НЯВЫЗНАЧАНАСЦЬ

Я беспрытульны быў,
                                бы ў сне,
дзе абуджэнне смерць таіла,
і спрат, што прыналежаў мне,
быў лонам маці і... магілай...

Я быў няздольны выбіраць,
ды й права сам не меў такога:
мець прывілею – паміраць,
тым болей – жыць без волі Бога.

І вось цяпер – адзін,
                                бы ў сне,
чакаючы з нябёс рашэння,
не ведаю, шт*о* будзе мне –
смерць дадзена ці нараджэнне...

*10 кастрычніка 2020*

Уладзімір Някляеў



...немагчыма
пазбегнуць
непазбежнага...

# Гэй бэн гіном

***Раман***

*Заканчэнне. Пачатак у №№1-2 (110-111).*

## XLIII

Высокі, ці не ў тры чалавечыя росты крыж паднялі – і толькі тады ўбачылі, што ў Купалы не прыбітая левая рука. Пра яго ўвогуле забыліся, накінуўшыся на Сталіна, перад якім цяпер, калі ён не ляжаў пад нагамі, а ўзвысіўся, зноў адчулі трымценне. Таму завагаліся: не класці ж, каб прыбіць руку паэта, тварам у зямлю правадыра, – і маладзенькі чыгуначнік у форме інжынер-лейтэнанта, які прынёс з сутарэнняў крэматорыя рыдлёўку, каб крыж укапаць, успомніў, што ў крэматорыі і драбіны ёсць. Па іх збегалі, прыставілі, упёршы верхнюю папярэчыну ў падбароддзе Купалы, да крыжа. Чыгуначнік, падняўшыся, паспрабаваў, увагнаць цвік у Купалаву сціснутую далонь, той не лез, хлопец стукнуў мацней, урэшце ўдарыў з размаху, цвік сагнуўся – і, не ўтрымаўшы раўнавагі, чыгуначнік услед за малатком зляцеў з драбінаў. Ускочыў, схапіў малаток,

сабраўся палезці зноў, але Несцярэнка яго апярэдзіў. Падняўшыся ўпоравень з Купалам, працягнуў яму руку: "Ведаеце, не кожны палкоўнік – паэт, але і не кожны паэт – палкоўнік. Бывайце!"

Каб такое сказаць, не абавязкова было па драбінах лезці. "Ці нечага я, – падумаў Купала, – не зразумеў?" Падаў руку з медальёнам: "Вазьміце. Зараз прыб'юць, не будзе як трымаць", – але Несцярэнка медальён не ўзяў: "Куды браць? На расстрэл?.. – злез і адкінуў, спыніўшы інжынер-лейтэнанта, драбіны. – Не прыбівайце, няхай сам адной рукой за папярэчыну трымаецца".

Мусібыць, яго ўсё ж моцна яго ўразілі Купалавы стыгматы.

Сталі рыхтавацца да расстрэлу. Да Несцярэнкі падышоў паэт Васільеў, пяць гадоў таму расстраляны і пахаваны ў магіле незапатрабаваных прахаў: "Палкоўнік, дасцё пралетарскага пісьменніка Горкага стрэльнуць? Ён напісаў, што я вораг. Мяне праз гэта расстралялі, дык маю права на сатысфакцыю". – "Тады двубой, калі сатысфакцыя, – разважліва сказаў Несцярэнка. – Яму таксама зброю дам... Аляксей Максімавіч, даць вам пісталет?"– "Не, – адмовіўся Горкі. – Я страляць не ўмею". – "Нічога вы не ўмееце, – уздыхнуў палкоўнік. – Ні цвік увагнаць, ні стрэліць. А столькі, калі людзей паслухаць, натварылі ўсяго..."

Крыж трымалі так, што Сталін вісеў тварам да новых могілак, да крэматорыя, а Купала – да могілак старых, да Малога сабора, таму не мог бачыць, а толькі чуў, што адбывалася за ягонай спінай. "Адыдзіце, таварыш Васільеў, вы не запісаны... Таварыш Коган, калі ласка, да сцяны, – казаў Несцярэнка. – І вы, таварышы святыя Ганна і Серафім, не трэба мне паказваць вашы партбілеты, да сцяны... Валяр'ян Уладзіміравіч, вы сюды, да Сяргея Міронавіча... Аляксей Максімавіч, не цягнуць жа мне вас... Тое, што я Васільеву стрэліць у вас не даў, не азначае, што вы памілаваны... Ды адыдзіце вы, Васільеў!.. Трохі ўлева, Уладзімір Уладзіміравіч, я побач з вамі стану..."

На хвіліну ўсё сціхла, потым пачуўся – прычым жывы, не мёртвы, абуты ў падкаваныя боты – тупат дзясятка ног. Прыгавораны да расстрэлу і прызначаны ягоным выканаўцам палкоўнік Несцярэнка скамандаваў: "Аддзяленне, стой! Зброю да бою!.." – і тут узляцеў, празвінеў, як малы звон на Малым саборы, голас Коган: "Павел! Я хачу папрасіць вас, Павел! Калі ўсё скончыцца, прачытайце верш!.." – "Які?.." – "По стране красавица идёт... Так идёт, что ветви зеленеют, Так идёт, что соловьи чумеют, Так идёт, что облака стоят!.." – "Мяне забілі, я не помню..." – "Успомніце! Гэта я так ішла, Павел! Гэта я..." – "На руку! Цэлься!.. Плі!" – дакамандваў Несцярэнка, і за спінай трэснула, грымнула залпам, і нешта стала валіцца, падаць з гэтакім гукам, як увосень у намоклыя лапухі даспелыя яблыкі падаюць...

"Так идёт, что ветви зеленеют,

Так идёт, что соловьи чумеют,

Так идёт, что облака стоят!.." – глуха пачаў, калі рэха залпу скацілася на старыя могілкі, Васільеў, і не дачытаў, заплакаўшы.

Некалі паэт Павел Васільеў перапісаў гекзаметрам усім вядомыя "шэсць умоваў таварыша Сталіна". Выйшла эпіграма, Купала помніў пачатак: "Ныне, о муза, воспой Джугашвили, сукина сына..." Потым хадзілі чуткі, што Горкі, які ў сваім нашумелым артыкуле "Літаратурныя забавы" назваў Васільева палітычным ворагам, палічыў сябе вінаватым і прасіў за яго, але Сталін пакінуў паэта, якому было ўсяго дваццаць сем, у расстрэльным спісе.

"Так ідзе, што воблакі стаяць..."

– Вось і не стала антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі, – не

звярнуўшы, як здалося Купалу, ніякай увагі на лірычныя дэкламацыі ў час расстрэлу, задаволена сказаў Сталін. – Малайчына палкоўнік. Самога сябе расстраляць не кожны здольны. Хаця... Вы ж спрабавалі, Іван Дамінікавіч, скончыць самагубстам. Я таксама, між іншым... Даўно, калі яшчэ ў семінарыі вучыўся. Кожны нармальны чалавек, аднойчы ўцяміўшы, у якім свеце ён жыве, самагубствам спрабуе скончыць. Ці падумвае пра гэта. Але сілы волі, духу не хапае. Мне ў той час не хапіла. І я падумаў: калі нехта некага забівае, дык ці не робіць ён тым самым найвялікшую паслугу таму, каго забіў?.. Хто ўжо не будзе мыкацца да старасці ў несправядлівым, подлым свеце. У здрадах, прыніжэннях, крыўдах, хваробах. І не памрэ старым, бездапаможным ідыётам, абмачыўшыся ад страху праз тое, што памірае... Вы што маўчыце?

– Думаю... Тады, выходзіць, не толькі палкоўнік, але і Берыя малайчына.

– Калі забіў мяне?

– Калі вас забіў.

– Так. Калі забіў, малайчына. Тым больш, што ў яго не было ніякай патрэбы мяне забіваць.

– А мяне?..

Купалу ўжо ўсё адно было, хто і чаму яго забіў, ён іншым быў заняты, спрабаваў разгадаць пасланыя яму сілай нячыстай, кур'ерам з Крамля, "лётчыкам", і чыстай сілай, святой Ганнай, знакі, дый наперад ведаў ён, што адказу ад Сталіна не пачуе, таму не збіраўся пытацца, але размова так склалася, што пытанне само вырвалася: "А мяне?.." – і Сталін уздыхнуў:

– Вам гэта цікава?

– Як сказаць... Цяпер ужо не надта. Але ўсё адно больш, чым некаму.

Сталін памаўчаў, як бы ўзважваючы, адказаць ці не?..

– Ну, што ж... Калі мы вырашылі арганізаваць партызаншчыну ў Беларусі і прызначылі вашага добрага знаёмца Панамарэнку начальнікам партызанскага штабу, я паклікаў яго да сябе. І між іншым спытаў... жартам спытаў, я з ім даўно жартую: ты што гэта, Панцеляймон, найпершага беларускага нацыяналіста ленінскім ардэнаносцам і сталінскім лаўрэатам зрабіць парэкамендаваў? Вось я – найпершы савецкі нацыяналіст, але ж не ардэнаносец і не лаўрэат. Скажы, пытаю, Панцеляймон, ты б мяне ў сталінскія лаўрэаты парэкамендаваў, калі б ведаў, што я нацыяналіст, няхай сабе і савецкі? А пра Купалу ты ведаў, нават дакладную пісаў: "Падлягае арышту і суду як вораг народа". Дык для чаго ты мне перад вайной яго падсунуў? Каб падставіць мяне? Сталін, маўляў, нічога не разумее? У людзях, у кадрах не разбіраецца?.. Так вось я пажартаваў, а Панцеляймон, пэўна, падумаў, што гэта не жарты. І, перапудзіўшыся, вунь да тых хлопцаў пабег... Бачыце іх?.. А яны яму, думаю, сказалі, каб ён сам з гэтым разбіраўся... Ды вы не ў той бок глядзіцё, да мяне павярніце галаву... Вунь туды, дзе гэты Васільеў плача. Не ведаў гэтую Коган, убачыў толькі пасля смерці, а стаіць і плача. Уражлівы такі... Ведаеце, за што яго расстралялі? За тое, што ён, п'яны, прыпеўкі спяваў. "Как-то по лесу я шла, А в лесу прогалина, Я присела и прочла Шесть условий Сталина". А ён думае, што за эпіграму гекзаметрам. Ну, вядома, калі за гекзаметр, дык ён ахвяра. А за прыпеўкі... Ну, бачыце цяпер?..

Купала, павярнуўшы, наколькі здолеў, галаву да Сталіна, убачыў спачатку плячо ў фрэнчы і руку на папярэчыне крыжа, а пасля – крайком вока – Берыю з Мяркулавым, якія, тулячыся да манастырскай сцяны і як бы хаваючыся пад ёй, ішлі ад крэматорыя.

Сталін засмяяўся. Коратка, адным смяшком, але засмяяўся. І дзіўна было чуць гэты смех на крыжы.

– З’явіліся! Пасля расстрэлу прыйшлі. Баяліся, што іх таксама... Між іншым, нацыяналісты. Толькі грузінскія. Берыя дык увогуле...

Хто Берыя ўвогуле, Сталін не дагаварыў, бо крыж хіснуўся, яго падцягнулі да выкапанай яміны, паставілі ў яе і пачалі прысыпаць... “Пачакайце, – раптам уваткнуў рыдлёўку ў зямлю інжынер-лейтэнант, прайшоў кругам і, паглядзеўшы на выцягнутага, з закінутай на папярэчыну крыжа рукой, Купалу, на прагнутага ў каленях, бо яму ногі, калі прыбівалі, не выпрасталі, і праз тое ён выглядаў яшчэ меншым, амаль карлам, Сталіна, сказаў нерашуча: “Усё ж трэба было б неяк ушанаваць... Не Дысмас з Гестасам...”

Патрыярху, мусіць, не спадабалася, што імёны разбойнікаў, якіх з Хрыстом раскрыжавалі, чыгуначнік назваў так, як іх звычайна каталікі называюць, ён пракінуў раздражнёна: “Дык маліцеся на іх!” – і равеснік інжынер-лейтэнанта, малады чалавек у мундзіры з пагонамі правінцыйнага сакратара крыкнуў са старых могілак: “Каб ушанаваць, можна хросным ходам вакол манастыра прайсці! З раскрыжаванымі! З патрыярхам, са святымі! Калі такое было?..” – на што патрыярх Ціхан перахрысціўся: “Не было і не будзе, я не пайду!” – а Берыя, падышоўшы, узяў яго пад руку: “Пойдзеш!”

Вось што яму да гэтага хроснага хода? Будзе ён ці не будзе, з патрыярхам ці не... Нічога, апроч таго, што можна ўладу паказаць. Нават мёртваму.

Усе, апроч Ціхана, прапанову правінцыйнага сакратара ўспрынялі з імпэтам. Бязбожнік Кашкадамаў тут жа ўспомніў, што ён таксама святар і мае права хросны ход павесці, калі патрыярх не хоча. “Толькі хто крыж панясе? Яго ж не падняць аднаму?”

“Мы можам, – сказаў Няжыла. – Я і Кумец з Кругляцом. Бо, можа быць, Купала...”

“Бог, ваш бог! – загарэўся ўжо ідэяй, убачыўшы ў ёй нешта такое, што можна скарыстаць, Кашкадамаў. Бярыце крыж!”

Кумец з Кругляцом разламалі драбіны, прыбілі да бакавін папярэчыны. Выйшлі яшчэ два невялікія крыжы, якімі можна было падпіраць папярэчыну крыжа вялікага. Віленскія пакутнікі яго паднялі: “Мы гатовы”.

– Талковыя, – здзівіўся Кашкадамаў. – А ў такой даўніне жылі... Толькі крыж павярніце! Што гэта вы яго – вашым богам наперад?

– Можам і вашым, – сказаў Няжыла. – Калі Вільню нам верне.

Рушылі да выхаду з могілак, на Данской павярнулі ў абыход манастыра налева. Паперадзе віленскія пакутнікі з крыжам, Сталіным і Купалам на ім; следам Берыя пад руку з патрыярхам Ціханам і сакратаром беларускага партыйнага ЦК Геем, за імі Мяркулаў з Кашкадамавым, маршал Тухачэўскі з маршалам Блюхерам, камандармы Убарэвіч і Якір, лётчык Чкалаў з пісьменнікам Бабелем, рэжысёр Мейерхольд з паэтам Клычковым, архіепіскап Амвросій і ягоны пляменнік Бантыш-Каменскі, архімандрыт Данскога манастыра Ісідар і генерал-аншэф Нарышкін, манахіня Агнія і губернатар Акінфаў, секунд-маёр Баскакаў з незаконнай дачкой Кацярынай і законнай дачкой Соф’яй, гаспадар рэстарацыі “Яр” Аксёнаў і ганаровы грамадзянін Аляксандраў, князь Баграціён і ротмістрша Дэмбская, княжна Гарчакова і двойчы лаўрэат дзяржпрэміі СССР Гарушына, паэт Павел Васільеў і дырэктар Эрмітажу Васільчыкаў, генерал-пракурор Шахоўскі і купецкі сын Жыгалкін з падпалкоўніцай Алягеўскай, протаіерэй Дабрагурскі і фрэйліна Дзмітрыева, паэт Майкаў і стольнік цара Арчыла Вахтангавіча Мацвей, капітан Забіякін і ледзі Суханава-Падкалзіна, гісторык Ключэўскі і акадэмік АН БССР Кайгародаў, заводчык Дзямідаў і архітэктар Басэ, масон Зіноўеў і мецэнат Засіма, камергер Нарышкін і заслужаная настаўніца

РСФСР Назарава, генерал-маёрша Ізвольская і паручнік Войска Данскога Ілавайскі, дуэлянт Навасільцаў і карлік графа Зубава Якубоўскі, прэм'ер-маёр Сабакін і член Прэзідыума Замаскварэцкага Савета, паліткамісар палка імя Валадарскага Смірноў, імератынскі князь Яшвілі і дачка юрыста Юрасоўская, секунд-маёр паліцыі Ішуцін і падпалкоўнік ГРУ Каменскі, князі (чатыры) і княгіні (сем) Абаленскія, князі (шэсць) і княгіні (шэсць) Гарчаковы, князі (восем) і княгіні (шэсць) Урусавы, князі (пяць) і княгіні (пяць) Хаванскія, князі (сем) і княгіні (сем) Чаркаскія, князі (чатыры) і княгіні (дзевяць) Шахаўскія, князі (дзесяць) і княгіні (дзевяць) Шчарбатавы, князі (восем) і княгіні (сем) Валконскія, князі Дадыян і Дадыянавы (восем) з княгінямі Дадыян і Дадыянавымі (восем), князі (пяць) і княгіні (сем) Вяземскія, князі (дзевятнаццаць) і княгіні (дзевятнаццаць) Галіцыны, князі (дваццаць адзін) і княгіні (дваццаць дзве) Даўгарукія, штаб-лекар Меч і раб божы Міхаіл, выпускнік Марскога кадэцкага корпуса, афіцэр Чырвонай арміі Нахімаў і хатняя настаўніца Мікалаева, пападдзя Гур'ева і жонка обер-дырэктара Гусятнікава, мешчанін Кекішаў з маладзіцай Мясновай, генеральша Молер і купецкая ўдава Нахоткіна, сенатар Небальсін і фур'ер лейб-гвардыі Ізмайлаўскага палка Пісараў, сын архіварыуса Няспанаў і пратапрасвітар Нікольскі, ротны абозны Шустаў і мануфактур-саветніца Чарокава, памешчык Агонь-Даганоўскі і камер-фрэйліна Акулава, служачы Маскоўскага камісарыяцкага камітэта Шостка і асэсарша Шніткіна, артыстка імператарскіх тэатраў Чарняўская і карнэт Чаркаскі, купчыха Царавіцінава і баярын Хрушчоў, жонка контр-адмірала Хітраво і граф Фон Гротэ дэ Бука, юнкер Фон Брумер і жонка паручніка Фаміна, палкоўніца Фабр і калежскі асэсар Угрумаў, правізар Лук'янаў і царэвіч Леон, вахмістр Бухвостаў і барон Бюлер, дырэктар Румянцаўскага музея Веневіцінаў і прафесар медыцыны Веніямінаў, баранэса Вольф і доктар Геральдштэйн, статс-дама Глебава-Страшнёва і князь-кампазітар Галіцын, манахіня Зачацьеўскага манастыра Алімпіяда і член РСДРП Арэхаў, кавалер-дама Гарчакова і тэатрал-аматар правінцыйнага маштабу князь Імерэтынскі, обер-правіянтмайстар Кіслінскі і штабс-капітанша Кленус, першая жонка Казлова-малодшага Хамутова і другая жонка Казлова-малодшага Талстая, крыгс-цалмайстар Скрыпіцын і сталінскі сокал Рыбко, прыдворны обер-гафмейстар Куракін і заслужаны артыст РСФСР Ларын, цётка Тургенева Цяплова і цётка Пушкіна Сонцава, купцы Пярвушын і Прасцякоў, генерал ад інфантэрыі Левачоў і прапаршчык Мінскага пяхотнага палка Левашоў, рэвалюцыянер Траяноўскі і брыгадзір Сувораў, ардынарны прафесар Камароўскі і нехта Коста Анастасій, на надмагіллі якога напісана, што ён пражыў 64 гады, а больш не напісана нічога, – і ўсе гэтыя людзі, даўнія і нядаўнія нябожчыкі меркавалі, што яны абыдуць манастыр і палягуць у свае магілы, але тут да старшыні таварыства аматараў крэмацыі Кашкадамава, які, пазбегнуўшы раскрыжавання, стаў яшчэ больш актыўны, чым раней, раптам падскочыў, узяўшыся як ніадкуль, не падобны ні да нябожчыка, ні да жывога, чалавек у лётным шлеме з чырвонай зоркай, нешта Кашкадамаву сказаў, махнуўшы рукой у бок Серпухаўскага вала, і Кашкадамаў, стаўшы паперадзе віленскіх пакутнікаў, з Данскога правулка, дзе ў абыход манастыра трэба было зноў павярнуць налева, павёў хросны ход на Серпухаўскі вал. "Цераз Маскварацкі мост на Красную плошчу!" – закрычаў старшыня таварыства аматараў крэмацыі, на што "лётчык" паківаў задаволена, а Купалу, які пазнаў у ім "кур'ера з Крамля", чамусьці падумалася, што з гэтага паходу на Маскву не ўсе нябожчыкі ў свае магілы вернуцца.

“Ну і што?.. Затое прагуляемся, – сказаў Сталін. – Вас калі-небудзь па Маскве на руках насілі?”

Ва ўзбуджаным голасе ягоным было чаканне. Амаль радаснае. Мусібыць, ён успомніў, як яго ў маўзалей неслі. А потым выносілі. І цяпер падумаў, што вернуць.

## 44

Нельга было Віктару пакідаць Крэва. Трэба было хоць пастухом там застацца, хоць прывідам, хоць валуном у замкавай сцяне, але не пакідаць. Ні ў Мінск не сунуцца, ні ў Маскву.

Застаўся недапісаным раман пра Купалу, і ён адчуваў, ведаў, што нідзе, апроч Крэва, ён яго не дапіша. І паэма пра Крэва, якую ён пачаў, засталася недапісанай.

Раніцай, яны яшчэ не паспелі выспацца, прыбегла запыханая сельсавецкая сакратарка: “Ганна Васільеўна! Там вам... – І выдыхнула тое, з чым бегла: – Звоняць! З Масквы! Каб вы ў Маскву ехалі!..”

З Масквой не мела Крэва ніякіх зносінаў ад часоў князя Андрэя Курбскага, які збег у Крэўскі замак ад Івана Грознага, таму сакратарку, якая папрасілася: “Я ў вас трохі прысяду, нейкія ў каленях дрыжыкі”, – можна было зразумець. “Хто званіў?”, – спытаў Віктар, хоць мог не пытаць, ясна было, хто званіў, і сакратарка зноў выдыхнула: “Крэмль!”

Грачын зноў умешваўся ў ягонае жыццё.

– Ты ў фантазіях тут жывеш! У выдумках! У казках! А жыццё ў рэальнасці. І трэба вяртацца ў рэальнасць, каб жыць, а не выдумляць, што жывеш! – нечакана, бо яму здавалася, што пасля таго, што ўбачыла, адчула, яна сама хоча тут яшчэ пабыць, усхадзілася Ганна, калі ён сказаў, што нікуды з Крэва не паедзе. – І мы ў Індыю сабраліся!

– Што мне рабіць у тваёй Індыі?

– Такая ж яна мая, як і твая! Ты не хочаш, каб у нас дзеці былі!

Гэта быў аргумент, які яго зламаў. Яна ўбіла сабе ў галаву, што Індыя – месца, дзе здарыцца дзіва, а супраць дзіва не можа быць аргументаў. Дый не скажаш тваёй жанчыне, якая марыць нарадзіць табе дзіця, што не хочаш, каб яна дзіця табе нарадзіла.

Па дарозе заехалі ў Смаргонь, і ён пазнаёміў яе з бацькамі. “Твой дзе ваяваў?” – спытаў Ганну бацька, і калі пачуў, што нідзе, не зразумеў: “Як гэта? Як тады ён партыяй кіруе?”

“Нейкая яна надта гарадская, – сказаў бацька, ужо развітваючыся. – Порткі, калі абсярэшся, не памые”. А маці сказала: “Дык не трэба абсірацца”.

Маці Ганна спадабалася. “І лытка ня брыдка, і кумпяк сабе так. Ды яшчэ і не дурная”. Спытала Ганну, не стрываўшы: “А пра дзіцятка думаеш?” І калі яны ўдзвюх, без бацькі і Віктара, пагаварылі пра гэта, маці дастала з куфра даматканую крэўскую посцілку. “Тры шлюбныя ложкі ёй засцілаліся: бабулі маёй, маці маёй і мой. Засцялі свой, замову, я табе напішу яе, на зачацце прачытай – і не трэба будзе на край свету па дзіця ехаць”.

Ганна настолькі сур’ёзна ўсё гэта ўспрыняла, што Віктар спытаў: “Дык, можа, у Крэва вернемся? Там яшчэ і ложак, які гэтай посцілкай засцілаўся, стаіць”. Яна сказала: “Дома ў Маскве засцелем”.

Які ў яго ў Маскве дом?..

Ён тут, ягоны дом, дзе маці ў запечны ціха, каб ніхто не пачуў, сказала,

што ў бацькі рак і што ён не хоча, каб нехта пра тое ведаў, каб яго шкадавалі. “Нават я нібы не ведаю, але дачка Гэльчына, помніш Гэльку, яна ў бухгалтэрыі са мной працавала, а дачка яе ў шпіталі цяпер медсястрой, сказала мне, і я табе кажу, бо ты ў Маскве, дык, можа, там гэта лечаць, бо ні ў Смаргоні, ні ў Мінску, я пыталася, не…”

– Нікуды я не паеду! – адрэзаў бацька, калі Віктар, развітваючыся, доўга не выпускаў яго з абдымкаў: “Слухай, чорт стары, у цябе ж медаль “За абарону Масквы”, дык давай хоць паглядзіш, што абараняў», – а бацька вырываўся з абдымкаў: “Ты бабу сваю абдымай, каб я ўнука дачакаўся!..” – і падазрона зыркаў на маці.

Квіткоў у купэйныя вагоны, нават у мяккія, у якія, бо дарагія, амаль заўсёды квіткі можна было набыць, ні на адзін цягнік да Масквы не знайшлося, толькі ў плацкартныя. Ганна пайшла да начальніка вакзала, той сказаў: “Адно месца”. – “Ты едзь, а я днямі...” – прапанаваў Віктар, але Ганна не захацела зноў шукаць яго ні ў Смаргоні, ні ў Крэве: “Разам паедзем! У плацкартным. Гарбаты пап’ем з народам, пагаворым, пабачым, чым і як народ жыве”.

Народ пачаў жыць, як толькі крануўся цягнік, і правадніца, сабраўшы квіткі і раздаўшы бялізну, пайшла па вагоне: “Каму чаю?”

– Я без чаю не скучаю, – схадзіў у прыбіральню, дзе выліў прынесены правадніцай чай, дзяцюк у чорным бярэце з чырвоным вымпелам і ў чорнай куртцы, з-пад якой віднелася цяльняшка. І дастаў з чамаданчыка паўлітэрак гарэлкі. – Каму яшчэ выліць і наліць? Марская пяхота частуе!

– Калі ўсе п’юць, тады ўсе чай бяруць, бо так шклянак не дам, – сказала правадніца, а дзядзька ў пінжаку з дзіркай на локці, які сядзеў побач з марскім пехацінцам, паставіў на стол паходныя, пластыкавыя, якія вымаліся адна з адной, чаркі і прадэкламаваў: “Если водка будет восем, всё равно мы пить не бросим, передайте Ильичу: нам и десять по плечу!”

– А вам, – спытаў марскі пехацінец не так Віктара, як Ганну. – Вы дакуль едзеце? Да Смаленска ці да самай Масквы?.. – І калі Ганна, нават не зірнуўшы на Віктара, махнула рукой: “Налівайце!” – падняўся са шклянкай: “Люби меня, как я тебя, и будем вечно мы друзья!”

– А мы вас ведаем, вы ў Маладэчне ў нас выступалі. Пасля ў Маскве, мы па тэлевізары бачылі, – падселі да іх з бакавых месцаў мужык з кабетай, па выглядзе сямейная пара. – Наша дачка ў Маскве ў балетным тэатры. Во, – паказала фотаздымак кабета, – як схуднела. Дык мы яе падкарміць”. – І мужык паставіў на стол яшчэ адну пляшку, а жонка ягоная расклала на сурвэтцы яйкі, памідоры, гуркі...

У Віктара была адна даўняя знаёмая, акторка на пенсіі, якая любіла ў цягніках чай піць і размаўляць з народам. Далёка яна не ездзіла, грошай столькі не мела, каб далёка ездзіць. Купляла квіток да першай станцыі, Барысава ці Маладэчна, заходзіла, як толькі пачыналася пасадка, у вагон, даставала мяшэчак з ядой: яйкі, соль, памідор з гурком, – раскладвала ўсё на сурвэтцы і, дачакаўшыся спадарожнікаў, замаўляла на ўсіх чай. Праваднікі звычайна лаяліся: “Яшчэ цягнік не рушыў! Які чай!” – але кожны раз яна кожнага з іх неяк угаворвала, частавала спадарожнікаў, пагаварыўшы з якімі: як завуць, хто, куды і чаго едзе? – на першай станцыі выходзіла і доўга глядзела ўслед апошняму вагону…

Неяк Віктар, ён не помніў ужо, да чаго, распавёў гэтую гісторыю Ганне, яна сказала: “Сумна. І да слёз шкада”.

Але цяпер ёй было весела.

“Ой сівы конь бяжыць, на ім сіва грыва, ой спадабалася, ой спадабалася мне тая дзеўчына”, – заспяваў пад Смаленскам бацька дачкі, якая схуднела ў Маскве ў балетным тэатры, а за Смаленскам марпех пачаў клеіцца да Ганны. Віктар прапанаваў яму выйсці ў тамбур, той выйшаў: “Ды ты што, мужык? Ты б хіба да такой не клеіўся? Я ж так, каб весялей было”.

Каб весялей было, Ганна вярнула Віктара ў Маскву. Калі мыліся пасля цягніка, сказала: “Я ўся пахну народам. – І, прачытаўшы замову на зачацце, засцяліла ложак крэўскай пасцілкай. – Давай паляжым”.

Паляжалі нядоўга – зазваніў тэлефон. Тэлефанаваў Грачын. Пагаварыў з Ганнай, тая перадала трубку Віктару. “Ганна кажа, што вы ў цягніку не спалі ўсю ноч, але нічога. Пару гадзін перадыхніце – і да мяне. Я хачу з чалавекам адным цябе пазнаёміць. На перспектыву”.

І скончыў размову.

І так заўсёды.

Калі хоча і што хоча пачынае – калі хоча і што хоча сканчае.

– Вось яна, рэальнасць, – раздражнёна кінуў трубку Віктар. – Запрашае, як загадвае. Нібы я служу ў яго. І чаму сёння? Чаму нельга заўтра?

– Таму што бацька хоча сёння.

Яна так гэта сказала, нібы апроч таго, што хоча яе бацька, ніхто і нічога не можа хацець, і раздражненне выплюхнула вонкі.

– Ці мала чаго ён хоча! Бацька, бацька! Хто ён, твой бацька?

– Сакратар ЦК!

– Я ведаю, што сакратар! Але хто ён? Цясляр? Будаўнік? Што ён збудаваў? Камунізм? Дзе? У 300-й секцыі?

Ганна зрабіла выгляд, нібы страшэнна здзівілася.

– Не падабаецца камунізм 300-й секцыі? Чаго ж ходзіш туды?

– Я туды хаджу? Ты мяне туды цягаеш! Каб не ты, я б і не ведаў, што ёсць такі камунізм!

Яна стала рукі ў бокі – як заўсёды перад скандалам.

– Каб не я, ты дасюль ездзіў бы толькі плацкартам, спяваў бы з п’янтосамі пра сівага каня і спаў бы ў качагарцы!

– А мне нармальна было ездзіць плацкартам з п’янтосамі! І ў качагарцы спаць файна было!

– Дык і ездзі! І спі! Але заўтра. А сёння да бацькі. Бо заўтра ён увесь дзень заняты. А нам трэба дазнацца, на якім мы свеце? Што з нашай Індыяй?

– Навошта табе Індыя, калі ёсць пасцілка?

– І пасцілку з сабой возьмем.

Пасцілка Індыю не адмяняла.

Віктару не хацелася ехаць да Грачына не таму, што не спаў усю ноч. Праз тое, як Грачын запрасіў яго, ехаць не хацелася. Не жадаў ён бачыць Грачына, а тым больш знаёміцца на перспектыву ні з кім не жадаў.

Якая перспектыва?.. У якім-небудзь крэсле, трасучыся, што яго з-пад цябе вырвуць, усё жыццё прасядзець?

Ганна скінула рукі з клубоў: пэўна, перадумала, бо разам да бацькі ехаць, скандаліць, – і Віктар сказаў спакайней:

– Нічога з Індыяй і пазней не станецца. Сёння я збіраўся крэўскія рукапісы прагледзець.

– А што з тваімі рукапісамі стацца можа?

– Усё, што заўгодна. Згубіцца могуць. Згарэць.

– Рукапісы не гараць. Зрэшты, у цябе ёсць пара гадзін. Ідзі ў свой кабінет, глядзі. І не псіхуй.

“Што гэта я сапраўды?..” – дастаў ён з валізы тэчку з рукапісамі, прайшоў у пакой, адведзеным яму пад кабінет, сеў за стол – следам увайшла Ганна з паперкай, што дала ёй маці.

– А хто напісаў гэтую замову?

– Ніхто.

– Як гэта ніхто? Нехта ж напісаў, калі яна напісаная.

– Ну, народ...

– Народ... Народ у плацкартным вагоне. “Люби меня, как я тебя, и будем вечно мы друзья”. А тут: “*Вы, замочкі, адмыкайцеся, царскія вароты, адчыняйцеся…”* – І яна, не пытаючыся, ці не замінае яму, легла на канапу ў кабінеце, бо і канапа, і кабінет, як і ўсё ў гэтым доме, і ён разам з усім належалі ёй. – *“Гара, разыдзіся, камень, раскаціся… Вада, разліся, дубок, развейся…”* Маці сказала, каб на памяць вывучыла.

Ён узяўся за рукапісы.

Шэракардонная тэчка з рукапісамі была старая, зашмальцаваная, з адным адарваным матузком, замест якога Віктар, пракалоўшы дзірачку ў кардоне, прывязаў шнурок. Даўным-даўно гэтую тэчку прынесла з бухгалтэрыі маці. На вокладцы тэчкі было напісана “І959. 2 квартал”.

У другім квартале 1959 года, вясной, у красавіку ён пазнаёміўся з Лёляй. На танцах у раённым Доме культуры. Лёля была дачкой вайскоўца, маёра. Яна хадзіла ў балетную студыю, вучылася ў рускай школе і смяялася, калі Віктар чытаў ёй беларускія вершы. Казала: “Вы, як амерыканскія індзейцы”.

Тады ён і напісаў сваю першую паэму, для якой маці прынесла тэчку “І959. 2 квартал”.

Паэма была рамантычная. Пра каханне паэта, якім пагарджае прыгожая, але пустагаловая лялька. Маці, калі чытала, плакала.

Ён плакаў разам з ёй: “Яна яшчэ пашкадуе!..”

Маці гладзіла яго па галаве: “Вядома, пашкадуе... Яшчэ як...”

Як чыста ў ім было. Як скрозь слёзы светла...

Цяпер цёмна – хоць ты плач.

У тым, што адбылося ў Крэве, нешта яго бянтэжыла. Не тое, што ўбачыў ён, што паказаў яму ў замку штукар Вензель. Яго бянтэжыла тое, што ён глядзеў гэта нібы не ўпершыню.

“Замочкі, адмыкайцеся...”

Віктар адгарнуў вокладку, здзіўлена ўтаропіўся ў першую старонку рукапісу. Ён не помніў, калі і як з’явіўся, адкуль узяўся напісаны на ёй тэкст.

Ганна круцілася на канапе. Мармытала замову на зачаццё. Ён падышоў:

– На, пачытай...

– Я не люблю чытаць рукапісы. І пішаш ты так, што не разабраць. Надрукуеш – прачытаю.

– Я не ведаю, ці буду друкаваць.

– Чаму?

– Бо не ведаю, ці маё гэта.

Яна прыпаднялася, узяла рукапіс.

– Як гэта, ці тваё? Тваёй рукой напісана.

– Прашу цябе: прачытай. Хоць самы пачатак. І прашу: уголас. Каб я чуў, што ты чытаеш.

Ганна зірнула на яго здзіўлена, ямчэй села на канапе, пачала чытаць.

“1382 год. Крэва, замак. Пакой у Кутняй вежы. Не цямніца, але і не княскія палаты. Ложак, стол, крэсла. Пры пакоі камора.

На ложку *Вітаўт*. На крэсле *Ганна* расчэсвае валасы.

ГАННА
Які Ягайла звер!.. Пачвара ён якая!

ВІТАЎТ
Мне гэты звер сказаў, што ён цябе кахае.

ГАННА
А мне сказаў, што любіць ён цябе…
Мой Бог!.. Ужо маршчынкі на ілбе…”

Яна ўстала з канапы, села да стала, пачала перабіраць спісаныя аркушы паперы.

– Чакай, гэта ж нам Вензель паказваў... Дык ты, выходзіць, напісаў, а ён паказаў? Вы дурылі мяне?

– Так, гэта нам паказваў Вензель. Дырэктар антыкварнай крамы, дырэктар цырка, паштальён. І яшчэ ён, мусібыць, драматург. Бо што да мяне, дык я не помню, пісаў я гэта ці не пісаў?

– Не разумею.

– Я таксама. Толькі мы рознае не разумеем. Ты не разумееш, як я, напісаўшы гэта, магу не помніць, што я гэта напісаў. Але так бывае. Здараецца, што я знаходжу напісанае і ні па чым не магу пазнаць, што яно напісана мной. Толькі па почырку. Бо гэта было мной не напісана, а запісана. Як дыктант. Гэтак, думаю, Моцарт, Бах запісвалі сваю музыку. Такую музыку, як “Рэквіем”, нельга напісаць, можна толькі запісаць, пачутую.

Ганна перапыніла яго.

– Ты хочаш сказаць, што ты геній? Ці што вар’ят?

– Не ведаю. Ёсць слова, якое прыблізна вызначае гэткі стан. Ён называецца натхненнем, хоць насамрэч гэта стан трансу. Гэта ненармальна, так, але так ёсць. Толькі нават, калі яно так, дык хто і як дазнаўся, што я гэта запісаў? Ведаць гэта мог толькі той, хто дыктаваў.

– Ты хочаш сказаць – Бог?

– Я хачу сказаць, што нікому рукапіс гэты не паказваў. А па ім нам паказалі спектакль. Вось чаго я не разумею... І вось што думаю. Магчыма, калі я запісваю дыктанты, дык ствараю не ўяўны, а рэальны свет. Дакладней, не ствараю, ён ужо створаны тым, хто дыктуе, а я пераношу яго з аднаго вымярэння ў іншае. З паралельнага свету ў наш. Ну, як мы з маскоўскім Віктарам Маргерам, светамі памяняўшыся, перанесліся.

– Дык ты – гэта ты, ці ты – гэта ён?

– Не ведаю! Але думаю, што ўсё, што мы з табой перажылі, што паказваў нам Вензель у Маскве і паказаў у Крэве, усё яно з таго, паралельнага, прыдуманага мной свету, перанесенае ў свет рэальны. Толькі так ва ўсім гэтым можна нешта ўцяміць, а інакш...

– Але дырэктар антыкварнай крамы Назар Януаравіч Вензель не падобны да Бога!

– Так! Не падобны. І яго не было, ён не з’яўляўся ў маім жыцці, пакуль

я не спакусіўся, пакуль не напісаў пра ледакол эпохі! – І ён грукнуў кулаком па стале. – Які да д’ябла ледакол!

Ганна адхіснулася і паглядзела на яго, як часцяком глядзела, з жалем – ён не трываў гэты яе пагляд.

– Дык цябе д’ябал спакушае? Можа, гэта ён і вершы табе дыктуе?

– Можа быць. Мы ўсе думаем, што талент ад Бога. А ён, можа быць, ад д’ябла! Навошта Богу нашы вершы?

– А д’яблу нашто?

– Не ведаю.

– Таму і блытаешся...

– У чым?

– У тым, ці Бог табе вершы дыктуе, ці ты іх для д’ябла пішаш.

Віктар пагартаў рукапісы, у яго дрыжалі рукі, і Ганна не прамінула заўважыць: “У цябе рукі дрыжаць”.

– Вось я напісаў пра Купалу, – знайшоў ён тое, што шукаў. – “Ягоныя вершы – тлумачэнні Богу: хто ён такі і чаму ён гэтакі, які ёсць. Ён разумеў, што Бог і без яго пра яго ўсё ведае, але думаў: а раптам не? І тлумачыў, тлумачыў, тлумачыў – пісаў, пісаў і пісаў...”

– І ліст таварышу Сталіну – тлумачэнне Богу?

– Ліст таварышу Сталіну ён напісаў, калі ўжо яго не было!

– Каго не было? Сталіна?

– Купалы! Яго не стала не тады, калі не стала Івана Луцэвіча. Ён памёр тады, калі ў ім памёр Купала. І ліст Сталіну ён напісаў мёртвы! Разумееш? І я баюся, што таксама мёртвы буду пісаць, калі ўжо мёртвы не пішу!

– І пра ледакол ты мёртвы напісаў?..

Калі б Ганна не стамілася ў цягніку, калі б выспалася, яна, мусіць, не сказала б таго, што далей сказала. Спынілася б. Але яна стамілася і не выспалася, таму ўспомніла, як ёй абрыдлі ягоныя рэфлексіі – і не спынілася:

– Ведаеш, у мяне сяброўка ёсць. Яшчэ са школы. Ты з ёй не знаёмы, яна ў Варшаве жыве. За паляка замуж выйшла. Дык яна паляку свайму, някепскаму, дарэчы, мужу здраджвае не таму, што ёй гэтага хочацца, а дзеля таго, каб пасля перажываць. Ёй у асалоду пасля перажываць, што яна блядзь!

Жаласлівы пагляд Ганны стаў пагардлівым – гэтага ўжо было не стрываць.

Яна ведала, куды страляла.

І пацэліла.

Віктар згроб са стала рукапісы, ускінуў пад столь – лісты разляцеліся па ўсім пакоі; ён нагамі, бегаючы ад дзвярэй да вакна, расфутбольваў іх па кутах: «Пару гадзін перадыхніце – і да мяне!.. На ледаколе!.. Які да д’ябла ледакол!.. Які ледакол!.. Які да д’ябла!.. Які раман пра Купалу! Які да д’ябла пра Купалу раман! Якія да д’ябла вершы!.. Якія паэмы, калі ўсе раманы, вершы і паэмы напісаныя!.. “*Замочкі, адмыкайцеся, царскія вароты, адчыняйцеся…”* Ва ўсе часы адны і тыя тры сюжэты!.. Ён хоча, яна не дае!.. Яна дае, ён не хоча! Ці не можа!.. Ён і яна хочуць і могуць, але ім замінаюць!.. І тады гэта Шэкспір!.. “Рамэа і Джульета!..” І ўсё!.. Усё напісана!.. А тое, што я пішу, проста спосаб абазначыцца, вылучыцца. Уладкавацца – іншых спосабаў я не ведаю! Нічога болей не ўмею!.. І не хачу ўмець, давай скончым гэта, Ганя!..»

Знясілены, ён сеў на канапу, на месца, дзе сядзела Ганна, паклаў падушку на калені, на падушку галаву, на галаву рукі. Сплёўшы і сціснуўшы пальцы, паўтарыў здушана, скрозь слёзы: “Давай скончым гэта, Ганя. Давай як-небудзь гэта скончым!..”

Ганна паднялася з-за стала: «Што? Што скончым?.. – Пачала збіраць паперы, прамаўляючы, як сама сабе, раздражнёна: – Ён не хоча ва ўладу. Ён не хоча ў літаратуру. У што тады ён хоча? У дзярмо?.. – І спытала: – Ты ў дзярмо хочаш? Каб я табе порткі прала?.. – Дастала аркуш з-пад крэсла. – Ну, твой жа почырк? Ты пісаў!.. – І, сеўшы на падлогу, стала чытаць уголас: "Калі гэты стан, Які ўва мне, і ёсць усё, што Богам Паслана можа быць, тады не так і многа Бог можа нам пасланць… І калі больш нічога, Калі ўсё гэта ўсё… то ўсё на свеце – зман"».

Яна ўскочыла.

– Ты пра сябе гэта напісаў! Пра нас! Калі пра сябе, пра нас, тады ўсё зразумела. А так – не!

– Што – не?

– Дзеля чаго яна жыццём ахвяруе?.. Дзеля чаго Ганна рызыкуе, зразумела. Дзеля Літвы! А дзеля чаго Любоў? Каб царскія вароты расступіліся?.. Дзеля гэтага? – скамечыла і кінула Ганна ў твар яму, ён якраз галаву падняў, выцягнуты з-пад крэсла аркуш рукапісу. – Гэта не вартае жыцця!

Яно так прагучала, нібы не толькі тое, дзеля чаго прынесла сябе ў ахвяру Любоў, але і тое, чым ён, Віктар, займаецца, тое, што піша, а значыць, усё, што ў ягоным жыцці ёсць, не вартае жыцця.

Тады што ў ягоным жыцці жыцця вартае?..

Нічога.

Так балюча ўдарыць можа толькі жанчына, якая помсціць.

За што?..

Ён падняўся з канапы, каб пайсці, каб сказаць, сыходзячы: «Тады разам нам, Ганя, рабіць у гэтым жыцці няма чаго», – а яна раптам гэтак паглядзела, як глядзела на Юр'евай гары, выструньваючыся на цырлачках, каб убачыць тое, што бачыць ён, і раптам кінулася да яго, прыціснулася, як да той гары, каб адчуць магніт пад ёй, які так прыцягвае, што праз усё жыццё не адпускае, і ў паглядзе гэтым прачыталася, і ў тым, як яна прыціснулася, адчулася, ясна зразумелася: «За Крэва!..» Яна помсціла не яму, а Крэву, якое паспрабавала ўжо забраць яго ў яе – і можа яшчэ паспрабаваць.

– Тады што ў маім жыцці майго жыцця вартае, Ганя? – спытаў ён замест таго, што збіраўся сказаць. – Я ў Крэве з вялікімі князямі жыў. З крэўнай раднёй. А ў Маскве мне жыць з кім? З тваім бацькам? З Брэжневым, з Андропавым? Хто мне яны? Ці, можа, жыцця майго вартае тое, што яны даюць? – І яна адказала, бо ў яго было Крэва, а ў яе была Масква: «Так! Нам жыць з тым, што яны даюць! І паехалі, пакуль даюць, браць».

## XLV

Гэтай дарогай Купала ўжо аднойчы йшоў – толькі з процілеглага боку. Ад Краснай плошчы да Данской. Па Васільеўскім спуску на Вялікую Ардынку, з яе на Люсінаўскую і на Серпухаўскі вал. Ганна так павяла яго, калі вярнуліся з Горак і пайшлі ў манастыр. Сказала, што гэта вуліцы яе дзяцінства, на якіх ёй заўсёды добра.

– Іосіф Вісарыёнавіч, як вам там? – спытаў Берыя, калі выйшлі на Серпухаўскі вал і стала відавочна, што "хросны ход" скіроўваецца да Крамля. – Нармальна?..

Сталін хмыкнуў.

І праўда. Знайшоў, пра што спытаць.

А ўвогуле: пра што гаварыць на крыжы?..

– Я чаму спытаў? – не адчапляўся ад Сталіна Берыя. – Я тут падумаў: гэта добра, што вы на крыжы! Хто на крыжы, той ажывае!

– Раўней нясіце! – падскочыў да віленскіх пакутнікаў Мяркулаў, які таксама вырашыў выявіць клопат пра Сталіна. – І павярніце, правадыр павінен уперад глядзець!

Кумец з Кругляцом яго нібыта й не пачулі, а Няжыла сказаў: “Іншым разам і назад глянуць варта”.

Ад Серпухаўскага валу да Краснай плошчы бліжэй было б прайсці па Шабалаўцы, але ці то ў Кашкадамава былі тыя ж вуліцы дзяцінства, што і ў Ганны, ці “кур’ер з Крамля”, які як раптам з’явіўся, гэтак раптам і знік, сказаў яму не спяшаць – прайшлі Серпухаўскі вал і павярнулі на Люсінаўскую...

Над Масквой світала. Па Люсінаўскай вуліцы, названай так па імені нейкай рэвалюцыянеркі, якую звалі Люсі, паўзлі першыя палівачкі. Першыя аўтобусы падбіралі першых пасажыраў. Маладзіца ў васільковай сукенцы не паспела ўскочыць у аўтобус, кіроўца крануўся, а яна забегла наперад і стала перад ім, рукі раскінуўшы: ці вазьмі, ці задушы!

– Нехта возьме, – сказаў Сталін, якому, як выглядала, не хацелася маўчаць. – А нехта задушыць. У кожнага ў руках хай невялікая, як у кіроўцы аўтобуса, але ўлада. Тым усе і жывуць.

“Цікава... Я гляджу ўперад, ён глядзіць назад, а бачым адно і тое...”

– А вы як да ўлады? – не перапыняючыся, спытаў Сталін. – Любіце?

– Не, – адразу адказаў Купала. – І не любіў ніколі.

Адказаўшы, падумаў, што адказ ягоны можна зразумець па-featureрознаму, а Сталін, перамаўчаўшы, прамармытаў на гэта: “Тым больш...”

Кіроўца адчыніў дзверы, маладзіца ў васільковай сукенцы скочыла ў аўтобус.

Не скарыстаў кіроўца ўладу.

Ці скарыстаў?

– Што тым больш?..

– Што мы розныя. Я любіў уладу, вы – не. А разам на адным крыжы. Як вы думаеце, чаму?

– Так выйшла

– А як так выйшла?

– Выпадкова.

– Не. Не выпадкова. Мы на адным крыжы, бо рабілі адно і тое. Я з гэтага боку – вы з таго. Гэтак і вісім, – з нейкім, як здалося, задавальненнем скончыў Сталін. Потым дадаў, калі паўз храм Узнясення Гасподняга за Серпухаўскай брамай праходзілі: – Нездарма Няжыла крыж не паварочвае. Яго хоць так нясі, хоць гэтак... Ці вы пра гэта не думалі?

Не раз ён пра гэта думаў...

Успомнілася лета ў Акопах. Сухое, спякотнае. Ды хіба толькі тое спякотнае!.. Колькі ён вінаваціўся перад сабой, перад светам. Балюча, пакутліва. Але што мог зрабіць? Што можна зрабіць на крыжы?

– Думаў. Але што я мог зрабіць на крыжы?

– Зноў апраўданні, – чмыхнуў Сталін. – Па-мойму, я прастудзіўся. І не ўзяць насоўку... Вось прыбіваюць рукі і не думаюць, што насоўку будзе не ўзяць.

З храма выйшла манашка. З вядром. Пэўна, прыбіральшчыца. Толькі чаму манашка, калі храм не дзейнічае – у ім даўно ўсялякія канторы.

– Ва ўсіх і ў кожнага апраўданні, – доўжыў Сталін. – Толькі іх і чуў... Тады скажыце: калі ёсць яны ў вас, чаму не могуць быць у мяне?

Манашка пачакала, пакуль з ёй параўняўся крыж, укленчыла, потым лёгка падхапілася і пайшла з хросным ходам. Нешта ў хадзе, у постаці яе падалося Купалу бачаным, знаёмым... Але не павярнуцца на крыжы, не разгледзець манашку было.

– Шыю не скруціце, – сказаў Сталін. – Можа, яшчэ вешаць будуць.

З Люсінаўскай выйшлі на Вялікую Ардынку – вуліцу, па якой пачыналася дарога з Масквы ў Залатую Арду.

– Тут блізкага мне чалавека, – казала Ганна, калі ўпершыню вяла яго па Вялікай Ардынцы і спынілася каля Іверскага правулка, адкуль добра відаць быў храм Іверскай іконы Божай маці, – з якім мы ў гэтым храме павянчацца ўпотай збіраліся, забілі. Мастака. Ён па Маскве ў шаліку сіне-бела-чырвоным хадзіў. Яму казалі, што на шыі ў яго царскі сцяг, а ён казаў, што французскі шалік. Пасля карціну намаляваў. "Залатая Арда". На ёй цары ўсе маскоўскія і Сталін у шапцы хана Узбека, што стала шапкай Манамаха. Дык за дзень да вянчання на яго машына наехала. Выйшаў раніцай сабаку выгуляць... І разам з сабакам... Я да Берыі кінулася: за што вы жаніха майго?!. А ён: "Гэта былая каханка ягоная, якой ён машыну купіў, на яго наехала". Ну, нібы насмерць яна ўзраўнавала, калі пра мяне дазналася. Так што сам, маўляў, вінаваты... Сталін потым казаў: "Не трэба каханкам купляць машыны! Вунь Маякоўскі застрэліўся, а каханка ягоная за катафалкам на машыне ехала, якую ён для яе купіў".

"Я не купляў..." – паспрабаваў пажартаваць Купала, і Ганна сказала: "Не надта ўдалы жарт".

Так. Не надта...

Потым, ужо каля Данскога манастыра, спытала: "А ў цябе была хоць адна каханка, якая хацела цябе забіць?" І калі ён адказаў, што такіх, дзякуй Богу, не было, зноў спытала: "А за што тады Богу дзякаваць?.."

Шалёная яна ўсё ж.

– Некалі ў Данскім манастыры, – падаў голас Няжыла, – наша войска стаяла. Па гэтай дарозе вялікі гетман Хадкевіч на Крэмль яго вёў. Вунь там, над Кліменцеўскім астрогам, – махнуў ён рукой наперад, – зусім блізка ад Крамля літоўскія сцягі былі ўзнятыя. Нашы коні падковамі ў крамлёўскую сцяну білі. Увайшоў бы гетман у Крэмль – і Масковія стала б Літвой. Еўропай. А так Ардой, Азіяй засталася.

Сталін заварушыўся на крыжы.

– Скуль вы пра тое ведаеце?

– Кнігі па гісторыі чыталі, – сказаў Круглец. – Не кароткі курс ВКП(б).

Сталін на гэта прамаўчаў, а Ціхан, які крочыў, унурыўшыся, раптам ускінуў галаву.

– Патрыярх Гермаген ўратаваў Маскву. Заклікаў паўстаць "супраць літоўскіх людзей". На заклік ягоны Мінін з Пажарскім апалчэнне сабралі – і пагналі літву з палякамі! З Крамля, з Масквы, са святой...

– Байкі! – не даслухаўшы, запярэчыў Круглец патрыярху. – Яны шаблі ў руках ніколі не трымалі, вашы Мінін з Пажарскім. Ваяводаў знайшлі!.. Ды ў муку вялікі гетман тое апалчэнне перамалоў бы, калі б не князь Трубяцкі! Літвін з роду Гедымінавічаў, а выступіў на баку Масквы, здраднік.

"Ды які ён здраднік?.. Які літвін?.. І якая Арда?.. Нас з магіл паднялі, каб такое слухаць?.." – зашапацелі ззаду, упершыню выявіўшы нязгоду з тым, што адбывалася, нябожчыкі, князі з генераламі, купцы з чальцамі Прэзідыума Замаскварэцкага Савета, а жаночы голас спытаў высока: "Чаму гэта ён здраднік, калі ягоны бацька быў ваяводам Івана Грознага? Калі дзяды і прадзеды ягоныя царам служылі?.."

Ганны голас! Ён не памыліўся, пазнаўшы яе ў манашцы. Але што яна, жывая, робіць сярод мёртвых?.. І ўсё нутро ў ім сцялася: “Ці яе таксама?!.”

– Павярніце, – сказаў ён уніз. – Павярніце крыж...

Няжыла паглядзеў на яго: “Навошта?..” – “Я прашу вас: павярніце...”

– Не трэба! – устрапянуўся Сталін, які паўсюль хацеў быць першым, а на крыжы, відаць, першым быць не надта хацеў, але Кумец з Кругляцом ужо рушылі кругам адзін на месца другога, дапамагаючы Няжылу павярнуць крыж, працэсіі за якім канца-краю не было відаць. Нябожчыкі займалі ўсю вуліцу разам з ходнікамі, ішлі, ніяк не замінаючы жывым, працякаючы скрозь іх, скрозь набітыя імі аўтобусы, скрозь грузавікі і легкавікі, адзін з якіх раптам рэзка звярнуў да ўзбочыны, дзе, трымаючы сабаку на ланцужку, стаяў у карычневым пінжаку з сіне-бела-чырвоным шалікам чалавек, які, пэўна, сабаку таго выгульваў, і паспрабаваў адскочыць за слуп каля аўтобуснага прыпынку, але не паспеў, легкавік прыплюшчыў яго разам з сабакам да слупа, і той чалавек, нават не ўцяміўшы, што з ім сталася, аддзяліўся ад гурмы жывых, скрозь якіх працякалі нябожчыкі, далучыўся да тых, хто скрозь жывых працякаў, і пайшоў побач з баронам Бюлерам, не зважаючы на лямант, які ўсчаўся на аўтобусным прыпынку, азірнуўшыся толькі на сабаку, што коратка ўскуголіў, адляпіўся ад слупа і пабег услед за гаспадаром...

Гэтак хутка ўсё.

Купала быў агаломшаны. Гісторыя смерці, пра якую распавяла Ганна, увачавідкі паўтарылася. Толькі загінуў на ягоных вачах не хтосьці іншы, не невядомы яму мастак, з якім Ганна пад вянец употай збіралася, а ён сам. Купала. Ён ніколі не насіў гэтакіх шалікаў, але шалік – адно, што было не ягонае. І яшчэ сабака...

За стырном легкавіка, прадваеннага “КІМ-10”, сядзела модна апранутая кабета, з якой нічога не сталася. Нават капялюшык з яе не ўпаў. Яна выйшла з машыны, атрэсла спадніцу і пайшла па ходніку насустрач Хроснаму ходу, які працякаў скрозь яе, а яна праходзіла скрозь яго, скрозь заводчыка Дзямідава і архітэктара Басэ, масона Зіноўева і мецэната Засіму, камергера Нарышкіна і заслужаную настаўніцу РСФСР Назараву, генерал-маёршу Ізвольскую і паручніка Войска Данскога Ілавайскага, нікога з іх не заўважаючы, не спыняючыся, толькі папраўляючы раз-пораз, нібы на ветры, капялюшык.

Купала пазнаў яе. Гэта была Лізавета. Стрыечная сястра Ганны. Лектарка музея Леніна ў Горках.

– Супрацоўніца трэцяга аддзела трэцяга ўпраўлення – казаў, нібы агучваў нямое кіно, Берыя. – Тое, што вы зараз бачылі, мусіла стацца з вамі ў Горках. Ганна павінна была прывезці вас у музей, а ўсё астатняе даручалася Лізавеце. Таму яна і выпраўляла вас з музея на лецішча. Ноч, дарога, падпітыя паэт з акторкай... Ён кінуўся машыну спыняць, каб падвезла... Сам вінаваты.

Купала прадчуваў нешта такое, калі Ганна запрасіла яго ў Горкі. І, пэўна, так і было б, калі б не Рэйнбат-Рэзвая-Марозава, якая не дала Лізавеце выправіць іх на лецішча. “Куды ў дождж ды на ноч гледзячы?..”

– Так, – агучыў тое, пра што Купала падумаў, Мяркулаў. – І так было б найлепей. Вам ордэн Леніна далі. Прынялі рашэнне на Сталінскую прэмію вылучыць. Дык каму ў галаву прыйшло б, што... – І ўбачыўшы, як здрыгануўся Купала на крыжы, Мяркулаў жорстка, нібы за нешта адпомсціў, скончыў. – Але і ў гатэлі выйшла не горш. Зноў віно, жанчыны. Гэта Лізавета патэлефанавала ў нумар, дзе вы гасцявалі, і сказала, што вас Ганна чакае... А яна чакала не адна.

Не адна...

Нешта з таго, што, здавалася, назаўсёды замглілася, пачало праясняцца. Ён успомніў, як выйшаў з нумара ў калідор і ўбачыў кіроўцу, які вазіў іх у Горкі. Яшчэ падумаў: Ганну ў гатэль прывёз?.. Але ж машына не Ганны была, ён не купляў ёй машыну.

Гледзячы з крыжа, Купала шукаў і не знаходзіў Ганну сярод безлічы манашак, а яна ўжо прабралася наперад, ішла, адцясніўшы Берыю, побач з патрыярхам, і калі ён убачыў яе, каменьчык на медальёне наскрозь прапёк левую далонь, якую ён расціснуў: "Лаві. І скажы мне, што гэта такое?.."

Вусны ягоныя перасохлі, ён ледзьве вымавіў гэтыя некалькі слоў.

Правая рука Ганны была занятая, левай злавіць ці спрыту ў яе не хапіла, ці яна й не збіралася лавіць – і медальён булькнуў у вядро з вадой.

– Так, – глухавата, голасам, падобным да голаса крыжа, сказаў Сталін. – Я б таксама ведаць хацеў... Што гэта значыць, калі гэта ты?

Ганна падняла вочы да Купалы, апусціла, зноў падняла.

– Я ўставіла яго ў медальён, каб... каб ты зразумеў, хто цябе... каб не падумаў... – Яна заплакала. – Я не сама...

Госпадзі! Здрада за здрадай, здрада за здрадай... Праз усё жыццё і нават праз смерць.

"Што не сама?.." – можна было ўжо й не пытаць, бо якая розніца, што?.. Хоць, мусіць, трэба было б спытаць, каб не плакала, але вусны гэтак ссохлі, што не разамкнуліся – і яна зняла з-пад чорнай накідкі белую хустачку. Намачыла яе ў вадзе, паклала на крыжавіну, якую ўзяла ў Кумца, падняла: "Папі..."

## 46

– Вітацца са мной не хочаш? – паціснуўшы вялаватую руку Віктара, спытаў Грачын. – Дарма. Я сур'ёзныя пытанні для цябе вырашыў. Ажно тры. Першае: месца ў ЦК прафсаюзаў. З пасадай не ніжэй чым загадчык аддзела. Другое: ты не проста ў складзе групы, ты зацверджаны кіраўніком беларускай дэлегацыі ў Польшчу. І трэцяе: вы з Ганнай едзеце ў Індыю. Усё, як ты прасіў.

– Я не прасіў нічога.

– Ну, добра, прасіла Ганна. А ты не сказаў, што не хочаш. Ва ўсякім разе, – прыжмурана зірнуў на яго Грачын, – у Індыю. Так што збірайцеся. Пашпарты можаце ўзяць у замежнай камісіі Саюза пісьменнікаў. З вамі Ружэвічы ляцяць, каб гэта дэлегацыяй выглядала. А то прыпішуць турызм за дзяржаўны кошт.

Паслаць дачку ў Індыю, каб нейкія індыйскія цудадзеі дапамаглі ёй дзіця нарадзіць – гэта па-любому турызм за дзяржаўны кошт. Хоць з Ружэвічамі, хоць без.

Зрэшты, член дэлегацыі – не такая тэма для плётак, каб яе смакаваць. А вось кіраўнік дэлегацыі...

Грачын на дачы быў не адзін, у яго гасцяваў ягоны сібірскі сябар. З рускай, лапатай, барадой і беларускім прозвішчам Яцук.

– Андрэй Мікалаевіч, – прадставіў яго Грачын. – Чалавек, які за ўсё стаіць прынцыпова. І за ленінскую лінію ў партыі, і за сваю бараду.

Барада Яцука, беларускі прадзед якога яшчэ ў царскія часы быў сасланы ў Сібір, здзівіла: барадатага сакратара абкама партыі Віктар бачыў упершыню.

– Хто змагаецца, той перамагае, – казаў, калі селі абедаць, Грачын. – Ан-

дрэя Мікалаевіча змушалі пагаліць бараду яшчэ тады, калі ён інструктарам райкама быў. А ён: Маркс барадаты, Энгельс, Ленін з бародкай. Чаму мне нельга? Яму: ты не Ленін! А ён: так, не Ленін. Але Уладзімір Ільіч нідзе не казаў, як вы мне кажаце, што камуніст з барадой – поп. У статуце партыі не напісана, што камуніст не можа быць з барадой. І ў кожным кабінеце, дзе яго пясочылі, ён цытаваў першы артыкул Статуту: членам КПСС можа быць любы грамадзянін Савецкага Саюза, які прызнае праграму партыі, актыўна ўдзельнічае ў будаўніцтве камунізму і... Што там, забыўся, далей?.. Сплочвае партыйныя ўнёскі. А пра бараду ні слова. Гэта ўсіх на вілы падымала, да ЦК дайшло. Суслаў яго выклікаў: ды пагаліся ты! А ён яму... Як ты яму?.. Вось вы ў галёшах ходзіце, а я ў барадзе. У кожнага свае звычкі. Ні ваша звычка, ні мая для партыі не шкодныя. І калі вырашалася, быць ці не быць яму ў абкаме, а, можа, і ў партыі, яго Леанід Ільіч падтрымаў: для камуніста галоўнае тое, што ў галаве, а не тое, што на ёй расце. – І тут Грачын засмяяўся, Віктар упершыню пачуў, як бацька Ганны смяецца: хэкне і кашляне, кашляне і хэкне. – А ён Леаніду Ільічу за тое аддзячыў, у адстаўку прапанаваў падаць!.. За тваю галаву і характар, Андрэй Мікалаевіч, – падняў Грачын чарку. – За характар і галаву! – І выпіўшы, дадаў, кашлянуўшы і хэкнуўшы. – Ён, дарэчы, вершы піша. Усе беларусы вершы пішуць, ці што?..

– Усе, – засмяяўся Яцук, і смех ягоны быў густы, як ягоная барада. – Хоць хапіла б аднаго Купалы.

– Тады і Пушкіна аднаго хапіла б, – сказала Ганна. На што Грачын, закусваючы, крутнуў галавой: “Не. Расія – вялікая”.

Яцук шырока раскінуў рукі.

– Во такая... “От Перми до Тавриды, от финских хладных скал до пламенной Колхиды”. Расія ўпёрлася ў Пушкіна, як у сцяну, за якой нібыта больш і няма нічога. А за сцяной Міцкевіч у Польшчы, Бёрнс у невялікай Шатландыі, не кажучы ўжо пра Хаяма ці Нізамі. Нельга ў сцяну ўпірацца, трэба ламаць сцяну. З догмаў выбірацца, у якіх мы закарэлі.

Грачын, закусіўшы фінскім сервелатам з 300-й секцыі, паклаў відэлец.

– Ты не надта... Рэвалюцыянер. Веліч Расіі не ў прасторы. Пушкін пісаў, што Расія – душа свету. Вось у чым яе веліч.

Яцук зірнуў на Віктара:

– Пушкін такое хіба пісаў?.. – І працягваў, не чакаючы адказу, бо яму, мусібыць, захацелася павыглядаць эрудытам, кожнаму мужчыну, няхай ён нават у гадах, хочацца перад прыгожай жанчынай, хай нават яна дачка сябра, некім павыглядаць. – А вось Нізамі пісаў такое. Толькі не пра Расію. Ён пісаў, што душа сусвету, дух зямлі – Іран. А Пушкін пераклаў. Хоць, можа, і не Пушкін, не помню. Але ў нас так: ніхто, апроч Пушкіна, нічога вялікага напісаць, талковага сказаць не мог і не можа. І далей у нас: ніхто, апроч Леніна, Сталіна, Леаніда Ільіча... Давай моладзь спытаем: хіба не так?

Моладзь маўчала. Віктар маўчаў, моцна здзіўлены тым, што пачуў ад Грачына пра Яцука. Не пра ягонае змаганне за сваю бараду, а пра тое, што ён прапанаваў Брэжневу ў адстаўку падаць. “Дзе?.. Калі?..” – шукаў Віктар зручны момант, каб спытаць пра гэта, а Ганна, па якой відаць было, што ў палітычных дэбатах, усчатых Яцуком, ёй няўтульна, чакала моманту, каб перавесці размову на іншае. І спытала, не дачакаўшыся:

– Тата, а куды мы едзем?

– Як куды? У Індыю.

– Ясна, што ў Індыю. Але куды? Да каго?

– Да Індзіры Гандзі, – зноў густа засмяяўся Яцук. – Бо ў нас няма нікога, апроч дарагога Леаніда Ільіча, а ў Індыі няма нікога, апроч дарагой Індзіры Гандзі. – І падняўся. – Пара мне, Васіль Дзям’янавіч, праз дзве гадзіны самалёт. Лятаю і лятаю над вялікай Расіяй. Туды-сюды, сюды-туды. І калі з неба глядзіш, бачыш трубы завода новага, думаеш: нешта ўсё ж мяняецца. А на зямлю спусцішся: той самы дым над трубамі. Усё, як было. Ну ды што ж... Дадому далячу, а далей відаць будзе. Як там у Купалы? – павярнуўся ён да Віктара.– “Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць, не скуеш толькі дум ланцугамі”. Я люблю Купалу. У бацькі майго ўсе старыя кнігі ягоныя былі, а мне Машэраў, пакуль жывы быў, новыя дасылаў. Там ужо не толькі вершы. Артыкулы, выступы… – І раптам, кінуўшы вокам на Ганну, змяніў тэму. – А ты на з’ездзе свежа выступіў. З энергіяй, з напорам. Як вецер. Дарэчы, калі я Андропаву пра дым над трубамі сказаў, ён мне на гэта: “Дык ўсё ў свеце дым”. Таксама вершы піша. Пасля кажа: “Дым плыве, куды вецер дзьме. Вы супраць ветру?” Не, кажу, я за вецер, – падаў Яцук руку Грачыну. – Ты мяне не праводзь, з дзецьмі пабудзь.

“Трэба пагаварыць з ім, трэба пагаварыць...” – падняўся Віктар услед за Яцуком. – “Давайце я вас правяду”. – “Праводзь, калі Васіль Дзям’янавіч не супраць. Ён казаў, што ты раман пра Купалу пішаш, мне цікава”, – абняўся з Ганнай Яцук: “Эх, якая красуня! Уся ў маці і нават прыгажэйшая!” – а Грачын, зыркнуўшы падазрона на Віктара, плячыма пацепнуў: “Чаго мне супраць быць? Пагаварыце, як паэт з паэтам”.

Паехалі на машыне Грачына. “З гаража табе, Андрэй Мікалаевіч, гэбіста пашлюць”, – сказаў Грачын. Нібы ягоны кіроўца не з гаража прысланы і не гэбіст.

– Дык пра што раман? – спытаў Яцук, калі селі ў машыну. – Пра каго, зразумела, але пра што? Пра Купалаву смерць? Я, між іншым, таксама цікавіўся: сам ён, ці яго...

– Не сам.

– Адкуль ты ведаеш? У архівах, я глядзеў, пра гэта нічога. Ніякай зачэпкі, ніякага намёку на тое, што з ім расправіліся. І я думаю, што не. Што гэтага не было.

– Я без архіваў ведаю, як было.

– Як гэта?

– Як бы ніяк, але ведаю. З вамі хіба так не бывае?..

Віктар паехаў праводзіць Яцука не для таго, каб разбірацца ў гібелі Купалы. Зараз яму трэба было разабрацца ў сабе – і здалося, што Яцук можа дапамагчы ў гэтым. Калі ён, дзіўны партыец, якога могуць скінуць з вяршыні ўлады, казаў на дачы Грачына пра краіну, якая ўпёрлася ў сцяну, пра тое, што трэба сцяну ламаць, выбірацца з догмаў, Віктар думаў: “Я мусіў, я павінен быў сказаць гэта на з’ездзе!” І цяпер спытаў:

– Як вы думаеце: з вамі расправяцца?

Такога працягу размовы Яцук, пэўна, не чакаў. Маўчаў, не адказваў. Мусібыць, узважваў: ці ўдавацца ў такую размову?

Паўза зацягвалася. Віктар разумеў: калі Яцук наўпрост зараз не адкажа, дык ніякай гаворкі не будзе. А яму вельмі хацелася з гэтым барадатым, падобным да папа чалавекам адкрыта пагаварыць.

– Вы ўзважваеце, ці варта пра такое размаўляць з паэтам, які на з’ездзе партыі свежа, як вы сказалі, падлізаў яе кіраўніку? Дык вось я хацеў выступіць, як вы. Але не здолеў. Не хапіла мяне на гэта. Спалохаўся ўлады. І цяпер гэта мая сур’ёзная праблема, разумееце?

Яцук маўчаў. Віктар пашкадаваў, што купіўся на ягоныя словы, на ягоную бараду, за якую змагаўся абкамаўскі сакратар з усёй партыяй, а Яцук, не адказаўшы на пытанне Віктара, сам спытаў:

– Дык ты пра гэта раман пішаш?

Ён адыходзіў ад размовы.

– Не толькі, але...

– Пра гэта, значыць. Што ж, вечная праблема... Свабода і ўлада, мараль і ўлада... І гэта праблема Купалы, праз якую яго не стала. Рана ці позна яна паўстае перад кожным. І кожны сам яе вырашае. Так – ці інакш.

– Пакуль я ніяк яе не вырашыў.

– Калі сам не вырашаеш, вырашаюць за цябе. Вунь Грачын сказаў, што ты ідзеш у прафсаюзы. На немалую пасаду. Вось гэта і ёсць вырашэнне. З прафсаюзнага ЦК у ЦК партыйнае дарога нядоўгая. Васіль Дзям'янавіч сам яе прайшоў, так што ведае, што робіць.

– А мне што рабіць? Вось вы...

– Што я?.. Пачакай...

Яцук пашукаў па кішэнях, знайшоў пігулкі, паклаў адну пад язык, рассмактаў. Кінуў кіроўцу: “Спыніся на хвіліну, мы пройдземся... Прыціснула...”

Выйшлі з машыны, пайшлі ўздоўж дарогі.

– Кожны раз, калі вып'ю, сэрца разыходзіцца. І каму ні кажу, хоць Грачыну, хоць Брэжневу, давайце гарбату пап'ем, ніхто слухаць не хоча. Андропаў толькі, але ён увогуле не п'е. У яго іншыя магчымасці кроў разагнаць. Навошта піць, калі можаш з'есці, каго хочаш... – прыпыніўся Яцук, азірнуўшыся на кіроўцу, які ехаў за імі. – А за што са мной павінны расправіцца?

Ён, пэўна, асцерагаўся грачынскага кіроўцы, які калі не Андропаву, дык Грачыну ўсё дакладзе, таму і не падтрымаў размову, пачатую ў машыне.

– За выступ на з'ездзе.

– Я не выступаў на з'ездзе.

– А дзе?

– На банкеце пасля з'езда. Ці на прыёме, як яго назваць... Выпіў і сапраўды выступіў. Як выступаюць на п'янках. Падышоў да Леаніда Ільіча, павіншаваў яго з паспяховым з'ездам і параіў сысці. Бо наступны з'езд можа быць не такім паспяховым. Ты ж ведаеш, што ён сам збіраўся падаць у адстаўку? Грачын табе пра гэта казаў?

Можа, трэба было пайсці на прыём?.. Па спаленым запрашэнні...

– Казаў. Ведаю.

– Ведаеш. Дык вось і ў мяне сур'ёзная праблема. Пытанне да сябе самога, на якое не магу сабе самому адказаць. Калі б Грачын не прапанаваў мне на з'ездзе выступіць і я не разлічваў на ягоную падтрымку, калі б не ведаў я, што Брэжнеў сам хоча папрасіцца ў адстаўку, сказаў бы я тое, што сказаў яму, ці не? Прапанаваў бы сысці? Нават па п'янцы?..

Яцук пацёр адной рукой грудзі, другой палез у кішэню, хацеў, мусібыць, дастаць яшчэ адну пігулку, але перадумаў, махнуў рукой.

– І яшчэ... Я зрабіў гэта не толькі таму, што перакананы ў неабходнасці сыхода Брэжнева. У піку Грачыну я гэта зрабіў, які спачатку ўгаварыў мяне на з'ездзе выступіць, а пасля адгаварыў. І, пэўна, вырашыў, што я – куды вецер паверне. Дык вось не! Але каму я даводзіў, што не? Грачыну? Брэжневу? Суславу з Андропавым, якія былі побач, усё чулі і цяпер ціснуць на Брэжнева, каб мяне з ЦК, з партыі?.. Я даводзіў гэта сабе! Дзеля сябе я

ўсё гэта казаў, дзеля свайго гонару. Як і бараду дзеля гонару нашу, на якога ражна яшчэ яна мне патрэбная, адны нязручнасці з ёй...

Яцук казаў пра тое самае, што адчуваў Віктар, стоячы на сцэне Палаца з’ездаў. Ці амаль пра тое, калі не зважаць на бараду, якой Віктар не меў.

Няма барады – няма праблемы.

– Цяпер глядзі... – цягнула выгаварыцца Яцука, як і Віктара каля Вечнага агню выгаварыцца цягнула, але ён не змог, нават перад Ганнай не змог, а Яцук перад ім, амаль незнаёмцам... Зрэшты, перад незнаёмцам лягчэй, гэтак перад выпадковым спадарожнікам выгаворваюцца... – Вось ты не сказаў тое, што хацеў, і ў цябе праблема. А я тое, што хацеў, сказаў, няхай і не там сказаў, дзе хацеў, і ў мяне таксама праблема. І не толькі таму, што Брэжнеў не сышоў, што Суслаў і Андропаў з Грачыным угаварылі яго застацца... Дарэчы, мы з ім, з Грачыным, можна сказаць, сябруем, дык вось як гэта? Мне ён прапануе сказаць Брэжневу, каб падаў у адстаўку, а Брэжнева ўгаворвае не падаваць. Што вынікае з гэтага?

– З гэтага вынікае, што ўгаворваючы Брэжнева не сыходзіць, Грачын усё ж хацеў, каб ён сышоў, бо разлічваў на ягонае месца. І вас, выходзіць, падстаўляў.

Віктару здалося, што Яцук упершыню паглядзеў на яго не як на зяця Грачына. Але ўсё ж сказаў:

– Не падстаўляў, а, так скажам, скарыстоўваў.

– Гэта не адно і тое?..

Яцук падняў каменьчык з дарогі, падкінуў на руцэ... Відаць было, што ён не надта хацеў паварочваць размову ў гэты бок.

– Ну, няхай сабе адно... У цябе ёсць сябры?

– Ёсць.

– Колькі?

– Не лічыў. Можа, тузін.

– Няхай тузін. Ях вучняў у Хрыста. Дык будзь гатовы, што адзінаццаць з іх цябе ці скарыстаюць, ці прададуць.

– Хрыста прадаў адзін.

– Так, адзін. І гэта неверагодная рэч у чалавечай гісторыі здрадаў. Фенаменальны вынік. Можна сказаць, сусветны рэкорд. Хоць ёсць яшчэ рэкорд абсалютны. Вось ты ў Індыю едзеш, дык там Буду не прадаў ніхто. І не таму, што ён не хацеў быць Богам, а таму што першымі ягонымі вучнямі былі звяры. Алень, лань, слон, не помню, хто яшчэ. А звяры не прадаюць. Толькі людзі.

Яцук казаў, як пропаведзь чытаў. Гэты сакратар абкама мог быць святаром.

– Буда хоць і не хацеў, але Богам стаў.

– Бо людзі Бога захацелі.

Так. Багі ёсць толькі таму, што іх хочуць людзі.

– Выходзіць, нават Бог не ведае, кім стане. А можа Бог людзей прадаць?

– У якім сэнсе?

– Ну, адступіцца ад іх… Рукой махнуць. Гарыце вы гарам. У геене вогненнай.

Яцук кінуў каменьчык над дарогай так, як над вадой кідаюць, каб ён паскакаў. Але няўдала, каменьчык адразу адляцеў на ўзбочыну, і падобны да папа партыйны сакратар уздыхнуў:

– Дык ён і адступіўся. І мы гарым. Таму і дым над трубамі.

Кіроўца, які ехаў за імі, дагнаў, паказаў на гадзіннік...

Сеўшы ў машыну, Яцук выпіў яшчэ адну пігулку. Па дарозе маўчаў. Калі прыехалі ў аэрапорт, дзе іх машыну прапусцілі на ўзлётнае поле, і дзе Яцук, мусібыць, падумаўшы, што калі не кіроўца, дык Віктар іх размову можа Грачыну пераказаць, пачаў здаваць назад.

– Ты, зямляк, усё ж трымайся Грачына. Брэжнеў хворы, зусім кепскі, яму нядоўга засталося. Ад сілы паўгода. Ці, можа, год. Яго таму і ўгаварылі не рабіць ніякіх заяваў. Каб з'езд не напружваць, каб не было размоў у партыі, што яго прыбралі. Бог прыбярэ – і ўсё нармальна. На ягонае месца, вядома, Андропаў мецiць, але і ў Грачына шанец ёсць. А, значыць, і ў цябе. Скарыстайся ім. Адзін шанец ты ўжо праваронiў, гэта другі. Трэцяга можа не быць.

– А які быў першы?

– Такі самы, як і ў мяне. Выступ на з'ездзе. На ўвесь Савецкі Саюз, на ўвесь свет!.. Ну, пасядзеў бы, пакуль Брэжнеў жывы. Але яно таго варта. Такое варта жыцця! А цяпер табе трэба моцна думаць, як яго пражыць. І прапанова Грачына – не горшы варыянт. Пры ўладзе больш магчымасцей зрабіць тое, пра што ты не сказаў. Так што глядзі... Хто вышэй стаіць, той далей бачыць. – І, развітваючыся, Яцук пляснуў Віктара па плячы: – Калі ў геене вогненнай не згарыць!

## XLVII

Кумец і Няжыла з Кругляцом спыніліся. Усе спыніліся і глядзелі, як Ганна, намачыўшы хусцінку, падала яе на крыж Купалу і як ён піў. Спачатку ротам ваду з хусцінкі выціскаючы, а потым, успомніўшы, што ў яго адна рука не прыбітая, рукой.

Калі папіў, яго раптам заліхаманіла... Маці яму мокрай хусцінкай губы мачыла, твар выцірала, калі яго, малога, невядома скуль і з чаго ўзяўшыся, гарачая ліхаманка біла. Два тыдні амаль. Бацька думаў, што памрэ, ксяндза паклікаў. А маці нічога не думала: ночы не сплючы, на грудзях калыхала. І выкалыхала...

Адна яна не здрадзіла яму. Ні ў чым і ніколі. А ён яе ў агні кінуў...

“А мой ты гаротны!.. – падляцела і злавіла хустачку, якую выпусціў ён, калі яго заліхаманіла, Спагада. – До ўжо грахі сабе выдумляць, тут без цябе грэшных хапае. – І кінула хусцінку ў твар Ганне. – На!.. Атруты нальюць і яшчэ вады пададуць, каб запіць!”

Ганна нічога ёй не адказала. Церабіла хустачку. Раптам пабялела, хіснулася, але ўстаяла, не ўпала, і Купала скрозь крыж, скрозь дрэва адчуў, як нешта моцна-моцна ўдарыла, спынілася і зноў забілася ў чалавеку за ягонай спінай.

Сэрца?..

Малы Маскварэцкі мост прайшлі моўчкі.

– Даўно мы тут не былі, – прадыхнуў, калі ступілі на Вялікі мост, Кумец, які дасюль маўчаў. – Пад гэтым мостам нашы коні стаялі. Мы схавалі іх на ўсякі выпадак... Эх, якія коні! Помніш, Няжыла? Помніш, Круглец?.. Я і свайго гнядога, Ястраба свайго помню і помню вашых Ластаўку і Сокала. Як смала, чорную, і як снег, белага... Ястраб! – раптам грукнуўшы тарцом свайго крыжа ў насціл маста, пагукаў Кумец, і ў адказ яму ледзь чутна, быццам з далёкай далечыні, данеслася іржанне.

Пачуўшы яго, віленскія пакутнікі спыніліся на хвіліну, Няжыла сказаў: “Яны чакаюць нас...” – і ўсе рушылі далей.

– Коней нам Альгерд падараваў, – распавядаў, пакуль ішлі па Вялікім

мосце, Кумец. – Мы ў дружыне ягонай служылі. Яшчэ тады, калі ён княжыў у Віцебску і дапамагаў Смаленску ў бойках з Масквой. Потым замірыцца з ёй надумаў, паслаў нас на перамовы. З партрэтам ягоным, на якім стаяў ён з пададзенай для поціску рукой. Партрэт у залатой раме – роўна пуд золата! Князь Іван, які ў Маскве княжыў, раму залатую забраў, партрэт Альгердаў спаліў, а нас у цямніцу кінуў. І нас там катавалі, пакуль валадарыць у Маскве не стаў князь Сямён, які сказаў, што лепш сабак карміць, чым літоўскіх паганцаў, і загадаў зацкаваць сабакамі...

Патрыярх зыркнуў на Кумца: "Дык вы, выходзіць, не віленскія, а маскоўскія пакутнікі?.. Святыя паганцы? – І плюнуў. – Цьфу! Нават спрачацца не хачу!"

– А што аспрэчваць? – стомлена спытаў Сталін. – Тое, што нехта выдае сябе за сведку гісторыі, зусім не значыць, што ён кажа праўду. Гісторыя сведчыць, што найбольшыя хлусы якраз яе сведкі. Вось што могуць сказаць гэтыя святыя пакутнікі, якія ўкралі пуд золата?

– Мы не кралі! – страсянуў крыж Няжыла, а Сталін з’едліва здзівіўся:

– Праўда?

– Праўда! – сам ужо ўвесь страсянуўся, ледзь крыж не кінуўшы, Няжыла, гэтак яго абурыла з’едлівае здзіўленне Сталіна, і не адзін Купала, пэўна, падумаў: "Колькі ні страсай паветра – нічога не дакажаш тым, хто хоча думаць, што ты ўкраў".

– Што могуць засведчыць людзі, якія забілі вас, Іван Дамінікавіч? Тое, што зрабілі гэта па загадзе? Забілі, бо загадаў крыважэрны...

– Дык так і было! – у адзін голас выгукнулі, прыпыніўшыся, Берыя з Мяркулавым, а Сталін зноў нібы здзівіўся: "Няўжо?.." І зноўку Купалу падумалася, што гэтае з’едлівае "няўжо?" нічым не пераб’еш.

– Гэта даўняя завядзёнка, – гнуў сваё Сталін. – Дзеля свайго апраўдання выдумляць тырана! І чым ён страшней, тым лепш. Маўляў, мы не былі б такія, калі б не ён такі... Хоць насамрэч ён... хоць я даў вам магчымасць быць такімі, якія вы ёсць. Вызваліў ад цяжкой і стамляючай неабходнасці быць іншымі. І за гэта вы мяне...

"Ура!.. – пакацілася з Краснай плошчы па брукаванцы Васільеўскага спуску. – Ура! Ура!.."

Па Васільеўскім спуску пад воклічы "ура!" рухалася насустрач ім такая шчыльная людская плынь, што нябожчыкі, выходзячы на плошчу, ледзьве працякалі скрозь яе, і Няжыла з Кумцом і Кругляцом з цяжкасцю падаваліся за Кашкадамавым, які мкнуўся да маўзалея, да трыбуны, дзе стаялі, як звычайна на святы, хоць ніякага свята сёння не было, людзі ў капелюшах, але віленскія пакутнікі не сталі таўчыся ў цеснаце, і, як Кашкадамаў ні цягнуў, ні штурхаў іх улева, да Крамля, павярнулі правей, падняўшыся з крыжам на адзінае не занятае на ўсёй Краснай плошчы месца: лобнае.

## 48

Развітаўшыся з Яцуком, чалавекам, з якім невядома на якую перспектыву пазнаёміў яго Грачын, на грачынскую дачу Віктар не вярнуўся. Папрасіў кіроўцу падкінуць да электрычкі і паехаў у Маскву.

Апроч як у кватэры Ганны, ад якой не меў ён ключа, начаваць яму ў Маскве не было дзе. Але ў яго быў ключ ад качагаркі ў падвале дома Герцэна, узяты некалі на памяць пра Літаратурны, якому дастаўся дом Герцэна, інстытут.

Змяркалася. У вечаровым святле інстытуцкага двара сядзела на лаве

каля флігеля жанчына. Віктар і ў прыцемках адразу пазнаў яе па постаці: гэтак яна сядзела тут, на лаве каля флігеля, у якім жыла, калі ён вучыўся ў інстытуце. А калі скончыў, яна жыла ўжо ў іншым месцы, з Цвярскога бульвара перасяліўшыся на Малую Грузінскую вуліцу.

Яна была ўся ў сабе, гэтая не прыгнутая ні нялёгкім жыццём, ні няпростым часам, жанчына, якой было пад восемдзесят, палову з якіх яна пражыла ў гэтым доме, і ёй тут было што ўспомніць. Болей, чым яму.

Ён пазнаёміўся з ёй у першую восень сямідзясятых гадоў. Двор быў засыпаны лістотай, дворнічыха падмятала яе каля ўваходу ў флігель, спыніла Віктара, калі ён бег, спазняючыся на лекцыі, не ведаючы яшчэ, што ў гэтым інстытуце можна не толькі спазняцца на заняткі, але і не хадзіць на іх: «Малады чалавек, вы ўмееце рамантаваць тэлевізары?»

Гэта была не дворнічыха. Віктару казалі, што ў флігелі гэтага дома жылі шмат якія, уключна з Мандэльштамам і Платонавым, літаратурныя знакамітасці, і дасюль жыве ўдава Платонава, але ён не падумаў, убачыўшы яе з мятлой, што гэта яна. Марыя Аляксандраўна Кашынцава з графскага роду Шарамецьевых.

Рамантаваць тэлевізары Віктар умеў: скончыў тэхнікум, дзе яго навучылі гэтаму. Але як яна гэта ўгадала – па двары штодня прабягалі дзясяткі студэнтаў?

Яны зайшлі ў двухпакаёвую з адгароджаным закутком, які называўся трэцім, «зялёным», бо быў абклеены зялёнымі шпалерамі, пакоем, дзе стаяў старэнькі тэлевізар. Марыя Аляксандраўна змяла з яго пыл: «Даўно не працуе. Я і не глядзела яго, але чаго ён так стаяць будзе? Калі ён зроблены, каб паказваць, няхай паказвае, усе павінны рабіць сваё».

Віктар зрабіў сваё, тэлевізар стаў паказваць, а Марыя Аляксандраўна, час ад часу запрашаючы Віктара на каву, стала расказваць пра тое, чаго нельга было ўбачыць у тэлевізары.

«Платонаў адну аповесць напісаў для аднаго, як ён казаў, чалавека. Толькі для аднаго. Для Сталіна. І Сталін тую аповесць прачытаў. Хацеў пасадзіць аўтара, але гэта было б банальна, і ён пасадзіў нашага сына. Пасля адпусціў, але сын захварэў на сухоты і ўжо дома памёр. Пакуль ён хварэў, бацька глядзеў за ім, не адыходзіў, так любіў, падхапіў сынавы сухоты і памёр таксама. Ніколі і нічога не пішыце, Віктар, для аднаго чалавека».

– Мацвеева чакаю, – сказала Марыя Аляксандраўна, калі ён падышоў да яе. – Кран капае. Ведаеце, што самае жахлівае ў жыцці? Усю ноч не спаць, слухаючы, як капае кран, і разумець, што ты нічога з гэтым не можаш зрабіць. А кран, як на галаву: кап-кап-кап-кап… Дзе гэты Мацвееў?.

Сына страціла, мужа пахавала, а самае жахлівае, калі ўночы капае кран…

Мацвееў быў чалавекам, які прывёў некалі Віктара ў качагарку: «Тут можна жыць асобна ад СССР».

Ён не любіў СССР. Казаў, што па біялагічных законах такой краіны не мусіла быць.

Кім ён быў?.. Хто яго ведае, кім ён быў, Мацвееў. Ясна, што антысаветчыкам, але ж антысаветчык – гэта яшчэ не ўвесь чалавек. І не ўвесь чалавек – біёлаг, хоць, гледзячы на Мацвеева, можна было падумаць, што біёлаг – гэта і ёсць увесь чалавек. За антысаветчыну яго пасадзілі ў псіхушку, пасля выпусцілі, але ў біёлагі ўжо не бралі – і ён падаўся ў качагары.

У дзённіках Платонава, якія дазволіла паглядзець Марыя Аляксандраўна, Віктар прачытаў: «Чалавек сам сябе не ведае, уведаць яго мусіць пісьменнік». І вось Віктар стаў пісьменнікам, але ўведаць Мацвеева не здолеў. Неяк

сказаў яму пра гэта, Мацвееў развёў рукамі: «Значыць, ты пісьменнік так сабе. А вось Кліментаў ведаў мяне ўсяго».

Ён называў Платонава ягоным сапраўдным прозвішчам. Не псеўданімам.

Чаму? Бо лічыў яго сапраўдным чалавекам? Сапраўдным пісьменнікам?..

Платонаў, калі жыў тут, час ад часу падмятаў двор каля свайго пад'езда, праз што займеў мянушку «дворнік» і прыдуманы пра яго літаратурны анекдот. Мацвееў усім той анекдот расказваў – і толькі ў ім называў Платонава ягоным літаратурным псеўданімам, бо інакш анекдот было не зразумець. «Бяжыць па зімовай Маскве хлопчык, які шкло ў вакне пабіў, а яго даганяе дворнік. "Ну чаму я жыву ў гэтым праклятым халодным горадзе, дзе за мной дворнікі ганяюцца? – думае задыханы хлопчык. – Чаму б мне не жыць на якой-небудзь трапічнай выспе, не сядзець пад пальмамі на Кубе…" А ў гэты час на Кубе пісьменнік Хемінгуэй сядзіць пад пальмай і, знемагаючы ад спёкі, разважае: "Што я раблю ў гэтым трапічным пекле? Чаму я не ў Парыжы на Манпарнасе, чаму не п'ю прахалоднае віно ў кавярні *La Closerie des Lilas*, паблажліва слухаючы, што мне расказвае пра літаратуру пісьменнік-марксіст Жан-Поль Сартр?.." А тым часам на Манпарнасе ў кавярні *La Closerie des Lilas* сядзіць пісьменнік-марксіст Жан-Поль Сартр, п'е прахалоднае віно і думае: "Што я забыўся сярод гэтых буржуяў, у свеце, які не мае сэнсу, калі ёсць Масква, дзе пісьменнік Андрэй Платонаў стварае сапраўдную літаратуру…" А ў гэты час дворнік Платонаў даганяе хлопчыка, які пабіў шкло, і думае: "Даганю – заб'ю…"»

– Ён быў сапраўдным, але жахлівым! – то гаротна, то весела ўспамінаючы жыццё, ускліквала Марыя Аляксандраўна. – Проста жахлівым, як і ўсе пісьменнікі.

Час ад часу Марыя Аляксандраўна падмятала, узяўшы гэтую звычку ў мужа, двор каля свайго пад'езда, але «дворнічахай» яе ніхто не называў.

Усё жыццё яна таксама хацела быць пісьменніцай. Калі Платонава не стала, збіралася мемуары напісаць, ды нічога не напісала.

«Бо графіня, – казаў Мацвееў. – А што і дзе напісалі графіні? Графы напісалі, графіні – не».

– Мой выпадак, – сказала Марыя Аляксандраўна, знаёмячыся з Ганнай, пра якую яшчэ не ведала, што яна з роду Трубяцкіх. І Ганна не зразумела, а Віктар зразумеў, пра што яна. Незразумела толькі было, як яны, блакітнакроўныя, адно адное распазнаюць?..

«Жахлівага» мужа Марыя Аляксандраўна, падобна было, не кахала. А калі і кахала, дык не надта. Не казала пра гэта, але падобна было. А Мацвеева любіла. «Я на два гады ўзрост змяніла, каб у рэвалюцыйны дзевяцьсот пяты нарадзіцца, дзень народзінаў памяняла, каб з'явіцца на свет у дзень свята ўсіх працоўных, мяне ідыёткай сацыялістычная рэвалюцыя зрабіла, а вы, Мацвееў, адразу ідыётам, сацыялістам нарадзіліся, як жа вас не любіць можна?..» – казала яна і падлівала яму лішні апалонік супу, падкладвала лішнюю лыжку кашы.

Мацвееў быў антысаветчыкам, але сацыялістам. Казаў: «Я за сапраўдную роўнасць!» І ён не любіў буржуяў, не любіў блакітнакроўных, але любіў графіню Марыю Аляксандраўну.

– Дзе гэты чалавек? – узіралася яна ў прыцемкі. – Яго ніколі няма, калі ён патрэбны, і заўсёды на месцы без патрэбы.

Мацвееў з'явіўся са скрыняй балгарскага віна «Гымза», якое неслі хлопец і маладзіца гадоў дваццаці. На тое, што сам ён без нічога ідзе, а скрыню маладзіца цягне, Мацвееў не зважаў.

– Маня, – сказаў пра яе Мацвееў. І больш не сказаў нічога.

Хто такая Маня, Віктар не ведаў. А хлопца пазнаў, яго Круча з ім знаёміў. Сяргей. Сын намесніка старшыні КГБ Круглова, «куратара» культуры. Бацька, генерал, намеснік Андропава, змагаецца ў КГБ з антысаветчынай, а сын генерала антысаветчыку Мацвееву ў качагарку віно носіць.

Савецкі Саюз.

– Усё п’еш, Мацвееў?... – скрушна спытала Марыя Аляксандраўна. – І моладзь спойваеш?

– Кліментаў піў, – падаў Сяргею ключ, каб адчыніў дзверы ў качагарку, Мацвееў. Ён ва ўсім раўняўся на Платонава, толькі пісаць не ўмеў.

Ключ быў не такі, як у Віктара. Мацвееў памяняў замок. Хоць не мяняў яго ад пары, калі яны разам качагарылі. «Заходзь, калі захочаш».

– Кран пацёк, – паскардзілася Марыя Аляксандраўна, а Мацвееў рушыў у качагарку: «Пакуль не вып’ю, няхай цячэ. Ці ў двары пачакайце, ці ў нас». – «А ў вас не капае?» – паднялася з лавы, бо ўжо сцямнела, Марыя Аляксандраўна, і Мацвееў падаў ёй руку:

– У нас няма вады. Толькі агонь.

У качагарцы ўсё было, як было, адно што печ не гарэла. Мацвееў расчыніў дзверцу топкі: «Зараз распалім». – «Дык цёпла ж тут…» – хутчэй праспявала, чым сказала, Маня, а Мацвееў кінуў у печ распалку. «Не для цяпла, для красы. Яна тут і стаіць для красы, ніхто ўжо яе не паліць. Я дворнік, а не качагар. Толькі жыву ў качагарцы. Хоць гэта няправільна: у качагарцы павінны жыць качагары. Як у Балгарыі балгары, – узяў ён бутэльку «Гымзы» са скрыні і спытаў: – Маня, а ў Савецкім Саюзе хто жыве?»

– Ідыёты, – праспявала Маня. – І яшчэ камуністы.

– А камуністы не ідыёты? – адкаркаваўшы бутэльку, пачаў разліваць віно па шклянках Мацвееў. – Нядаўна нават з’езд ідыётаў быў, і некаторыя ідыёты там выступалі.

Вось чаму ён ключ памяняў.

Характар у Мацвеева быў не цукар. Ён казаў: «Мы не ядзім цукар, каб стварыць сацыялізм». Але не казаў, што гэта не ягоныя словы, а Платонава.

– Вы з ідыётамі вып’еце? – нахіліўся Мацвееў, наліваючы, да Марыі Аляксандраўны, і калі тая адмовілася, Маня ўзяла яе шклянку: «Я таксама Марыя Аляксандраўна. І я вып’ю з ідыётамі, бо няма болей з кім».

Выпілі.

У печы разгараўся агонь. Водбліскі ягоныя мільгалі ў стомленых, прыгаслых вачах Марыі Аляксандраўны, у засяроджаных, утаропленых у агонь вачах Мацвеева, прабягалі па заўсёды насцярожаным, быццам паўсюль за ім назірае ягоны бацька, твары Сяргея, бліскалі ў ясных вачах Мані. Як непадобныя былі гэтыя людзі качагаркі да тых людзей, з якімі сядзеў ён за сталом паўдня таму на ўрадавай дачы! Так непадобныя, нібы яны з іншага свету.

Віктар перасеў з грачынскай машыны ў электрычку, бо вырашыў вярнуцца з чужога свету ў свой. У сваю качагарку.

Хто толькі ні сядзеў тут, гледзячы ў агонь! І Платонаў з Мандэльштамам, і Круча са Шклярам, і Барада з Каралевічам… Ягоныя людзі. Адны сыходзілі – прыходзілі іншыя. Качагарка перастала быць качагаркай, але агонь гарэў.

А Мацвееў наліваў і наліваў…

– Подласць уваходзіць у склад сяброўства, – раптам сказаў ён, наліваючы, і Марыя Аляксандраўна ўстрапянулася:

– Вы ўжо выпілі, Мацвееў?..

– Яшчэ не.

– А словы не дагаворваеце, нібы выпілі. Платонаў пісаў: «Подласць уваходзіць у склад сяброўства, калі сябруеш з нягоднікам».

Мацвееў кіўнуў.

– Подласць уваходзіць у склад сяброўства, калі сябруеш з нягоднікам. Але яна і так уваходіць у склад сяброўства, бо ўваходзіць у склад усяго.

Ён сказаў гэта неяк… подла. Так, нібы прамовіў ісціну. І ўсе прамаўчалі, нібы згадзіліся з ім. Усе, апроч Мані.

– Няпраўда, прапяяла Маня. – Я ведаю рэчы, у якіх подласці няма.

– Няўжо? – здзівіўся Мацвееў– Напрыклад?

– Каханне.

– Чаму? Бо ты вершы пра яго пішаш?..

Паэтэса. Хто яшчэ папрэцца са скрыняй віна ў качагарку?

– Але пішаш ты, Маня, пра здраду, а не пра каханне. Бо ўсё яно ў здрадах. Ці здрада не подласць? Вы як мяркуеце, Марыя Аляксандраўна?

Незразумела было, у якой Марыі Аляксандраўны ён гэта спытаў, старэйшая сказала: «Вы сацыяліст і п'янтос, сацыяліст і цынік, Мацвееў», – а малодшая падсунулася бліжэй да старэйшай: «Вось мы з Сяргеем… Ён кажа, што кахае. А я не ведаю... Не ведаю, ці кахаю, бо што такое каханне, не ведаю. Хоць сапраўды ўсе вершы пра яго пішу. А вы ведаеце, што яно такое? Было яно ў вас?..»

Даўным-даўно, калі ў качагарцы яшчэ жылі качагары, пра тое самае спытала Марыю Аляксандраўну Ганна. І тая сказала: «Каханне – гэта калі тваё жыццё не ў табе, а ў іншым чалавеку. У мяне такога не было».

Цяпер Марыя Аляксандраўна прамаўчала. Апошнімі гадамі яе ўсё часцей распытвалі пра мужа, пра іх адносіны, і яна стала думаць, што кахала яго.

Не прамаўчаў Мацвееў.

– Каханне – гэта секс у качагарцы. Секс у качагарцы і больш нічога, – наліў ён Мані. – Ты хіба не па гэта прыйшла?

Маня не стала яму адказваць, а Сяргей ускочыў, пачырванеўшы, ён яшчэ ўмеў чырванець: «Не па гэта! У нас ёсць дзе гэтым заняцца! А сюды яна прыйшла вершы пачытаць!» – «Дык няхай чытае, а не балбоча! Ці не хоча? Тады я пачытаю…»

Мацвееў падняўся, падкінуў вугалю ў печ, якая ўздыхнула дымам.

– Адзін паэт нядаўна напісаў: «Плыви, страна, эпохи ледокол!..» А гадоў дзесяць таму пісаў зусім іншае. І вось тут, стоячы каля печы, чытаў. Паэму пра кацельную чытаў. Пра краіну Мацвеевых, прысвечаную мне, Мацвееву…

Соринки света вылетают в ночь
Из той трубы, в кой дьявол обитает,
Фабричную котельную питает,
Где молча мы – к чему слова толочь? –
Сидим с Матвеевым...

А под столом бутылка…

Матвеев чешет шею у затылка,
В глазах вопрос... В углу стоит мешок,
А в нем директор фабрики Нечаев,
На части расчлененный... Не скучаем
В котельной мы... Матвеев – корешок,
Приятель давний, он меня устроил
В котельную... И вдруг заходят трое
С директором в мешке – вот это да!..
«Сожгите, – говорят, – чтоб без следа».

Что ж, сжечь, так сжечь, об этом разве речь?
О жизни и о смерти речь, сиречь
О том, чего и сколько в мире стоит?
«Бутылка, – нас спросили, – вас устроит?»

Таков тариф в России: всё – бутылка.
Хоть жизнь, хоть смерть… Но из мешка в опилках
Нечаева частями доставая,
Матвеев торг затеял: «Нет, такая
Цена неадекватна… Здесь четыре
Неравных части… Вот кабы равны
Они все были...»
Мне весьма странны
Его сужденья показались в мире
Неравенства, но был неумолим
И тверд Матвеев. В результате с ним
Те трое обошлись неадекватно,
Хоть били, правда, крайне аккуратно,
Чтоб сохранилась в нем дееспособность.
А, впрочем, это мелкая подробность,
Мазок на вечном фоне бытия,
Которое Матвеев, как и я,
Осмысливал в фабричной кочегарке…

Он оказался все-таки в приварке,
Поскольку удалился зуб больной.
«Как быть нам?..» – рассуждал он сам с собой,
А я никак не мог понять затеи:
Убили, но зачем же расчленять?
«Ты слишком молод, – отвечал Матвеев, –
Чтобы такие вещи понимать.
Поймешь, когда умрёшь, и станешь старше».
«Матвеев… – я спросил. – Ты что сказал?..»

Гудело в топке. И прекрасен, страшен,
Матвеев встал. Огонь в глазах сверкал,
Когда открыл он дверцу топки настежь:
«Смотри, – вскричал, – отверстье каково!
Как целиком ты всунул бы его?
Вот и разъяли на четыре части!»

«Как просто!» – удивился я. Дымил
Махрой Матвеев в топку. Не дебил.
Учитель. Гуру. Человек со страстью.
С огнём в глазах…
«А член где?» – я спросил,
Поскольку эту часть не находил
На грубо расчлененной нижней части.

Матвеев, докурив, вздохнул: «Несчастье
Случиться может даже с мертвецом».
«Конец приличней, если он с концом», –
Заметил я, не понимая все же,
Зачем все части быть должны равны?

Матвеев отвечал, что я, похоже,
Не понимаю сущности страны,
В которой обитаю, и людей,
Всесущих в ней, принесших это тело,
Еще недавно полное идей,

Неравно расчлененных. «Наше дело, –
Сказал я, – кочегарское: спалить
То, что имеем...» – «Это мы умеем, –
С глубокой грустью отвечал Матвеев. –
Но тело нужно точно поделить
На абсолютно равные куски».
«Мы что с тобой, Матвеев, мясники? –
Спросил я грубо. – Или кочегары?»
«Вот только нету подходящей тары, –
Оглядывал Матвеев по углам
Всю кочегарку, мне не отвечая
Никак на грубость. – Грязь везде какая! –
Он восклицал. – Так почему же нам
Не стыдно? А?.. Ответь мне!..» Я на это
Не находил разумного ответа.
Ну, грязь и грязь…
«В России родилась
Сначала грязь, потом все остальное, –
Вспылил Матвеев. В голосе стальное
Прорезалось. Казалось: вот сейчас
Поднимет он над кочегаркой знамя
Борьбы! Но нет, не поднял… «Ведь за нами
История… Империя, цари», –
Он забубнил, по всей котельной шаря,
Найдя в одном углу воздушный шарик,
В другом – портрет недавнего вождя.

Вот также и во всей стране: гвоздя,
Шурупа, гайки днём с огнем не сыщешь,
Лишь пыль идей!..

Вдруг свист раздался. «Свищешь? –
Спросил Матвеев. – Деньги просвистишь».
«Да это из мешка», – сказал я. «Ишь, –
Матвеев взял мешок. Пустой, казалось… –
Не всё достали. Кое-что осталось».
И вытряхнул Матвеев на пол член.

«Во времена великих перемен!..» –
Член заорал, не поднимаясь, лёжа.
Матвеев удивился: «Ну и рожа…»
«Не оскорблять! – пытался член привстать,
Вниз головой болтаясь. – Вашу мать!
Я плоть от плоти русского народа!
Почетный член директора завода!
Я член ЦК! Член ВЦСПС!..»
Матвеев сплюнул: «Ишь, куда залез».

«Молчать! Моя фамилия Нечаев!» –
Ярился член, взбухая. «Я не чаю
В Нечаеве души, – глумился всласть
Над ним Матвеев. – Но, как понимаю,
Ты мелкая нечаевская часть».
«Не тыкать мне!» – член заорал, вставая,
В задумчивость Матвеева вводя.
«Пусть даже он с повадками вождя, –
Чесал башку Матвеев. – Но какая
Неведомая сила подняла
Обрубок сей, лишенный кровотока?..
Когда б еще здесь женщина была,

И то, наверно, мало было б толка,
И он и без нее… Подобные дела
Исследовать бы надо. И подробно.
Давай мы упакуем и пошлем
Его в ЦК». – «Да как-то неудобно…» –
Я возразил Матвееву, но в нем
Уже огнем идея запылала,
И понял я: ее не погасить!
«А с остальным, – спросил я, – как нам быть?»
Но остальное все, что стало гнить,
Матвеева не интересовало.
«Сходи, – сказал, – на почту и пошли…»

И я сходил, послал...
Остатки мы сожгли
И сели к телевизору, глазея…
Там был парад. Трибуна мавзолея.
И на трибуне в шляпе и плаще
Наш член стоял, что странно вообще,
Конечно, было, но не удивило
Матвеева никак!

«Вот торжество идей!
Его идея наша воскресила!
Смотри: наш член стоит среди вождей!
И слушай, как толково выступает,
И как народ трепещет и внимает!..»

Народ внимал. Но так, как будто знал,
Кто перед ним стоял и кто вещал.

«Какой талант! Какой гигант! Мыслитель!
Всех кочегаров всей страны хранитель!» –
Торжествовал Матвеев, доставая
Из-под стола бутылку…

«Мать честная! –
Те трое возвратились. – До чего ж
На нашего Нечаева похож!
Вы что его, ребята, не сожгли?»
«Сожгли, – сказал Матвеев, – что смогли.
Сгорела только плоть. А дух витает!»
«Гляди-ка, – гости сели, – как бывает!
Как вырос он! Как гриб поле дождя!..»

Плясал огонь, горела печь, гудя,
И молча глядя в глубь телеаэкрана,
Мы подняли гранёные стаканы
За нового советского вождя.

– Брава! – пачулася з дзвярэй, у якіх стаялі Ганна з Кручам. – Брава! – падышоў і абняў Мацвеева Круча. – Табе на стадыёнах чытаць трэба, а ты ў качагарках.

Антысаветчык Мацвееў вызваліўся з абдымкаў савецкага паэта Кручы. Сеў, наліў. Сказаў, выпіўшы:

– Подласць уваходзіць у склад сяброўства… Учора я паэму перадрукаваў, а рукапіс, які пакінуў аўтар у гэтай качагарцы, даслаў гэбістам на Лубянку. Каб там ведалі, хто ім пра ледакол напісаў.

## XLIX

На лобным месцы, якое аказалася чамусьці не каменнае, а, як некалі, да часоў Грознага, драўлянае, і мясцілася не бліз Пакроўскага сабора, а бліжэй да ГУМа, насупраць увахода ў маўзалей, крыж пад націскам Берыі і Мяркулава паставілі так, што Сталін глядзеў на Сенацкую вежу з маўзалеем перад ёй, а Купала – на ГУМ, у шырокім шкле аднаго з вокнаў якога адбівалася плошча, і можна было бачыць і тое, што адбывалася на ёй, і тое, што ў ГУМе, дзе некалі ў камісійнай краме каля фантана, у якой прадаваліся канфіскаваныя рэчы ворагаў народа, Купала купіў амерыканскі, з залацістай трубой тэлескоп.

Гэта было ў дзень, калі яму ўручалі Сталінскую прэмію.

Тэлескоп быў ягонай марай. Упершыню ён глянуў у яго, калі вучыўся ў Пецярбурзе, і чалавек па імені Арыстарх, з якім яны пазнаёміліся ў "Бадзяжным сабаку", зацягнуў яго ноччу з кавярні паэтаў на Пулкаўскую гару, дзе ў штатным раскладзе Галоўнай астранамічнай абсерваторыі Арыстарх значыўся ад'юнкт-астраномам. Яны прабылі там каля 30 хвілін, а потым каля 30 гадоў Купала марыў займець не маленькую школьную прыладу, якая называлася тэлескопам, а сапраўдны тэлескоп, які і ўбачыў у антыкварнай краме ГУМа. Не гэтакі вялікі, вядома, як пулкаўскі, але той жа фірмы *Alvan Clark & Sons.*

У гандляра, які прадаваў тэлескоп, Купала спытаў, ці можна будзе купіць яго сёння пазней, або заўтра, на што той гандляр, на галаве якога быў лётны шлем з чырвонай зоркай, сказаў, што так, можна, але лепей тое, што хочаш мець, браць адразу, бо пазней забраць можа нехта іншы. Вось ён, напрыклад, калі захацеў лётны шлем займець, дык узяў адразу, і цяпер ніколі не здымае – нават спіць у ім.

– Я вам зніжку зраблю, – мітуслiва, убачыўшы, што Купала вагаецца, ці купляць яму рэч, з якой не надта зручна цягнуцца ў Крэмль, стаў казаць гандляр. – За кніжку. У вас жа ёсць ваша кніжка?

Кніга ў Купалы была. Тая, за якую далі яму прэмію. Надпісаная Сталіну, якому збіраўся ён, калі надарыцца такая магчымасць, яе падараваць. Але скуль гандляр ведаў, што кніга ёсць, што чалавек, які купляе ў яго тэлескоп, нешта піша?

Гандляр падсунуў тэлескоп бліжэй да Купалы.

– Зараз усе пішуць. Хто што. І абы каму надпісваюць. Так што можаце надпісаць, – коратка хіхікнуў ён, сцягнуўшы шлем з галавы і бліснуўшы голым чэрапам, – *чорту лысаму.*

Ён бліснуў не толькі голым чэрапам, бліснуў рознакаляровымі, адно з якіх было зялёнае, а другое карычневае, вачыма, мастакі такія вочы нячысцікам малююць, і Купала, заўважыўшы гэта, падумаў, што калі ўжо амаль пражыў жыццё без тэлескопа, дык можна і дажыць без яго. Падумаўшы так, падзякаваў і хацеў пайсці, нават ступіў некалькі крокаў, але чымсьці, нейкай гульнёй, у якую гуляла ягонае зялёнае вока з карычневым, гандляр гэты прыцягваў, і ўжо адышоўшы, Купала вярнуўся, дастаў кнігу з наўмысна падшытай дзеля таго, каб кнігі ў ёй насіць, кішэні пінжака і сказаў нерашуча, як кажуць, калі не ведаюць, у якую гульню ўступаюць: "Кніга ёсць... Але яна надпісаная... Не закрэсліваць жа і не надпісваць нанава..." – на што той лысы крамнік з чырвонай зоркай на шлеме, "лётчык" той, параіў: «Вы закрэсліце толькі "*Таварышу Сталіну*" і надпішыце вышэй, во тут, пад назвай *"Чорту лысаму..."* Дарэчы, "Ад сэрца" – вельмі ўдалая назва для надпісаў...

А *“найвялікшаму правадыру ўсіх часоў і народаў”* няхай застаецца... – гэтак жа коратка хіхікнуў “лётчык”, і калі Купала праз хіхіканне ягонае зноўку завагаўся, Лётчык дастаў з-за вуха самапіску. – Вось, з залатым пяром. Але каштоўнасць не ў золаце. Каштоўнасць увогуле не ў золаце, а ў тым, што з яго зроблена. Гэтая самапіска апраўдвае зваю назву. Сама піша. Вось глядзіце... Скрэсліваем *“Таварышу Сталіну...”* Я проста трымаю яе ў руцэ, а яна скрэслівае, піша... Вашым почыркам... *“Чорту лысаму...”* – Бачыце?.. Яна можа і вершы пісаць, у вас жа апошнім часам праблема з вершамі... І подпіс ваш можа паставіць, але падпісацца лепш вам самому... Дарэчы, чаму вы не падпісаліся?.. Паасцерагліся? Падумалі: “Хто я такі, каб нешта падпісваць таварышу Сталіну? Але ж чорту лысаму падпісаць можна...”» – падаў той “лётчык”, штукар той, ці хто ён там быў, самапіску, якая бліснула залатым пяром, і як толькі Купала ўзяў яе ў рукі, адразу адчуў напаўзабыты, дрыготка-ўзнёслы, ні з чым не параўнальны стан, у які ці ты ўваходзіш, ці стан той уваходзіць у цябе, калі невядома як і дзе ўзнікаюць вершы, якія трэба толькі паспець запісаць, і тая залатапёрая самапіска ледзьве ўжо за яго не распісалася, але нешта ў надпісе:*“Чорту лысаму – найвялікшаму правадыру ўсіх часоў і народаў”,* – прачытвалася небяспечнае, таму Купала спытаў: «А нічога, што з наступнай старонкі пачынаецца раздзел “Аб Сталіне-сейбіту? ” – і “лётчык”, нібы спалохаўшыся, што ён перадумае, увогуле кнігу забярэ, выхапіў яе з-пад ягоных рук: “Нічога, можна і без подпісу!.. Подпіс іншым разам, а тэлескоп, як і абяцаў, са зніжкай. Пяцьдзясят адсоткаў! – І паглядзеў хітра. – Сталін вам, Іван Дамінікавіч, хоць ён і сейбіт, такую зніжку не дасць”. – А калі ўжо Купала выходзіў, гандляр той, “лётчык” той раптам гэтак лёгка, нібы пра надвор’е ці здароўе, пацікавіўся: “А праўду кажуць, што вы ненавідзіце Сталіна, і вершы пра яго, пра партыю, пра савецкую ўладу наўмысна пішаце кепска? І што на вас праз гэта нават данос напісалі?..”»

“Ён з ворганаў! – паламанымі іголкамі закалола ў жываце. Там, дзе ўзрэзаў ён жывот пасля допыту ў ДПУ. – Як я адразу не здагадаўся, што ён з ворганаў! Інакш скуль яму ведаць пра данос?.. Ён справакаваў мяне!.. І што цяпер?.. Зараз арыштуюць?.. Потым?.. Ды за кнігу, надпісаную таварышу Сталіну, перанадпісаную чорту лысаму...” – панічна закруцілася ў галаве, а гандляр, расчыняючы перад ім дзверы крамы, шапнуў на вуха сухімі і гарачымі, нібы распаленымі губамі: “Не бойцеся, ніхто вас не арыштуе. Вас заб’юць”.

Выйшаўшы на Красную плошчу, Купала дастаў папяросы, закурыў, хоць звычайна не паліў на вуліцы, і доўга стаяў, супімаючы дрыжыкі ў нагах. Калі здолеў ісці далей, азірнуўся на ГУМ: у вакне над крамай, дзе ён купіў тэлескоп, стаяў і курыў Берыя.

Дзіўна, што ў той краме ўвогуле нешта прадавалася, бо ГУМ тады не працаваў. Сталін загадаў выселіць гандляроў з Краснай плошчы – і ў будынку, які займаў цэлы квартал Кітай-горада, размясціліся розныя камітэты ды камісарыяты. Быў там і асобны кабінет Берыі, з якога той назіраў, як Купала йшоў па Краснай плошчы з залацістым тэлескопам, і як ён, убачыўшы наркама ўнутраных спраў, скамянеў. “Ну ўсё! Зараз «лётчык» прынясе яму кнігу – і ўсё...” А Берыя неяк так паківаў галавой, што не зразумець было, усё ці яшчэ не ўсё, і Купала стаяў каменна, як помнік, сярод плошчы, пакуль гаспадар кабінета, бліснуўшы шкельцамі пенснэ, не адышоў ад акна.

Цяпер у тым акне адбіваўся Бог.

Купала ніколі не бачыў Бога, але пазнаў Яго. Ён быў такім, якім калісьці прымроіўся, уявіўся маленькаму Купалу на стозе каля Вячы – над скошанай

лугавінай у начных нябёсах над Прудзішчамі. Цяпер Божы твар наплываў, набліжаўся, усміхаўся ва ўсе нябёсы над Краснай плошчай, дзе на трыбуне маўзалея стаялі кіраўнікі партыі і ўрада ў шэрых гарнітурах і капелюшах, адзін з якіх, найкруглейшы з усіх, глядзеў у залацісты тэлескоп.

*Люблю грозу в конце июня,*
*Когда в Москве идет парад,*
*И хмуро мокнет на трибуне*
*Правительственный аппарат!*[1]

– згадаліся нечыя нібы жартаўлівыя вершы, але якая нагода для параду ў канцы чэрвеня? Ніякай. І тым не менш Красная плошча была запоўненая дэманстрантамі, а за Гістарычным музеем стаялі, гатовыя да маршу, вайскоўцы.

Тэлескоп, у які глядзеў з трыбуны маўзалея накруглейшы з усіх кіраўнік партыі і ўрада, забралі ў Купалы на ўваходзе ў Крэмль, калі ён ішоў па прэмію. Прычапіліся: "Што ў вас?" Быццам не бачылі, што не рушніца. І забралі. Сказалі, што трэба праверыць, бо амерыканскі. Маўляў, ці мала што. "І ўвогуле: адкуль ён у вас? Як вы маглі яго ў ГУМе купіць, калі ў ГУМе нічога не прадаюць?" Дык ён аддаў ім тэлескоп і не спытаў пра яго, выходзячы з прэміяй... Хоць пра прэмію так не марыў, як пра тэлескоп.

Пра тое, што яму прысудзілі Сталінскую прэмію, ён дазнаўся ў Грузіі. У Цхалтуба, дзе адзначыў гэта з Эліко. "Сны чароўныя будзіла, ты, грузінка..." А пасля на выставе ў той жа Грузіі карціну ўбачыў, на якой Сталін стаіць на гары і, як пад карцінай напісана было, глядзіць у будучыню. У амерыканскі тэлескоп, са зніжкай куплены ў краме, дзе прадавалася маёмасць ворагаў народа.

Гісторыю гэтую ён распавёў аднойчы Ганне, якая так зірнула на яго, нібы ён прамяняў мару на прэмію. Яна не сказала, што ён прамяняў мару на прэмію, але гэтак на яго зірнула. Ён таксама не сказаў, што так яно і ёсць, – і цяпер Ганна стаяла ў ягоных нагах каля ягонага крыжа, церабіла хусцінку і ўсё пыталася, ці не хоча ён піць?

Піць яму не хацелася. Не хацелася яе чуць, але яна ўсё пыталася...

Тады яна таксама пыталася... Прычапілася: "Хто на цябе данос напісаў?" Нібыта такое можна ведаць. Хіба што здагадвацца...

Яны ўтрох прыйшлі да яго ў госці. Маладыя, акрыленыя такія...

Арляняты.

*"Тэй, узвейце сваім крыллем, Арляняты, буйна, бурна!.."*

Хто б мог падумаць...

Калі застольнічалі, адзін з іх паглядзеў яму ў вочы, дзіўна так зірнуў, дробна-дробна міргаючы: "А праўду кажуць, што вы ненавідзіце Сталіна, і вершы пра яго, пра партыю, пра савецкую ўладу наўмысна пішаце кепска?.."

Гэта было недзе праз паўгода пасля таго, як яго на допыт у ДПУ выклікалі. І паўгода ў доме ягоным не было гасцей. Нават запрошаных.

Ён глядзеў на хлопца, які пра Сталіна спытаў, разумеючы, што пытанне ягонае лепш не пачуць. Але пачуў, бо арляняты. І таму, што арляняты, адказаў. І вось цяпер з тым, каго ненавідзеў, ён на адным крыжы.

– Хто б мог падумаць! – адарваўся ад тэлескопа і ступіў да мікрафона, зняўшы капялюш і выцершы лысіну, кіраўнік партыі і ўрада з прозвішчам Хрушчоў, які па смерці Сталіна заняў ягонае месца. – Вунь як высока

[1] Верш Мікалая Глазкова.

лятаюць савецкія сокалы – нават у тэлескоп не відаць! Вышэй за Бога! – стукнуў ён кулаком па гранітнай трыбуне. – А яны там, за акіянам, страшным судом нас палохаць будуць! – І пагразіў кулаком, мусібыць, за акіян. – Мы вам пакажам страшны суд!

Тыя, хто кіраваў краінай, у якой пражыў Купала жыццё, глядзелі ў будучыню ў ягоны тэлескоп.

Але не ягонымі вачыма.

Будучыня, у якую глядзяць не тваімі вачыма, не твая.

“Слава савецкім ваенна-паветраным сілам – надзейным абаронцам паветраных рубяжоў нашай Радзімы! Ура!..” – разнёсся над плошчай голас дыктара, і, калі плошча адраўла ў адказ: “Ура! Ура! Ура!..” – над ёй як бы ніадкуль, а таму асабліва вусцішна прагучала: “Што ж, Страшны суд дык Страшны суд. Некалі недзе трэба пачынаць”.

Купалу здалося, што недзе, некалі ён чуў гэты голас. Калі і дзе?..

– Госпадзі!.. І ўсе святыя твае!.. – укленчыў і перахрысціўся патрыярх Ціхан, і ўсе нябожчыкі, пачуўшы пра Страшны суд, сцішыліся, сцяліся, а жывыя як скакалі і спявалі, так і доўжылі свае скокі і спевы, галёкаючы ў адказ на ўсё, што чулі ад дыктара: “Ура! Ура! Ура!..” – з чаго вынікала, што мёртвыя чуюць жывых, а жывыя мёртвых не чуюць, яны чуюць толькі саміх сябе, і Купала падумаў, што гэта ці ні найпершая з прычын, па якіх свет такі, які ён ёсць, а не іншы.

– Та-а-к... – працягнуў Сталін, закінуўшы галаву ў неба над крамлёўскімі вежамі. – Я ж казаў, што могуць яшчэ й павесіць. А ўявіце, што было б, калі б жывыя чулі мёртвых?

А што было б?..

У адным з вокнаў ГУМа, у краме, дзе прадаваўся абутак, жанчына гадоў сарака прымярала і прымярала туфлі, белыя і чырвоныя, сінія, зялёныя, жоўтыя, крамніца ўжо гару абутку ёй нацягала, і, калі пайшла па новую пару, жанчына хуценька засунула белыя туфлі, якія прымярала раней, у сваю торбу.

“Калі б жывыя чулі мёртвых, можна было б...” – пачаў Купала, а Сталін перапыніў: “Што можна было б?.. Сказаць ім, што нельга красці? Дык пра гэта даўно сказана... Вунь тымі, што паселі на даху маўзалея. Бачыце?..”

Угледзеўшыся ў люстэрка вакна, у якім адбівалася плошча, Купала ўбачыў, што на самым версе пяціўступнай піраміды маўзалея, на даху порціка з каланадай паселі ў застоллі дзіўныя людзі ў дзіўных каляровых апратках, над галовамі якіх пасвечвалі німбы, спачатку прынятыя Купалам за капелюшы. Падобна было, што гэта сапраўды святыя, і нагадвала гэтае застолле тайную вячэру з Хрыстом, які сядзеў у цэнтры стала і распазнаць якога можна было па крыжападобным німбе над ім.

Ніжэй, у порціку, мільгалі паміж калонамі яшчэ нейкія постаці з німбамі і без, а ў цэнтральным праёме калон стаяў у лётным шлеме з чырвонай зоркай “кур’ер з Крамля”, гандляр з камісійнай крамы ГУМа, якому надпісаў Купала кнігу, за што той са зніжкай прадаў яму тэлескоп. Справа ад яго адзін чалавек, вялізны, з сівізной і сукрыстай барадой вісеў галавой уніз на крыжы. Другі, злева, быў без галавы, толькі німб свяціўся над шыяй, па чым можна было меркаваць, што гэта апосталы Пётр і Павел, першага з якіх рымляне раскрыжавалі ўніз галавой, а другому галаву адсеклі. “Лётчык” у шлеме выглядаў паміж імі дзіўна, і як і чаму апынуўся ён у гэтай святой кампаніі, хто яго ведае. Хіба толькі ён не быў Лётчыкам.

А ў такім разе кім ён быў?..

Можна было спытаць Кашкадамава па дарозе да Крамля, хто той

разнавокі, які падыходзіў да яго каля Данскога манастыра, але сярод усіх мёртвых і жывых, якія былі навокал, найменш хацелася Купалу гаварыць з колішнім старшынёй таварыства аматараў крэмацыі.

На ўсіх пяці ўступах пірамiды маўзалея тоўпіліся, невядома як паўзбіраўшыся туды, жывыя і нябожчыкі, свае і чужыя, цывільныя і вайскоўцы, нехта з якіх глядзеў у неба і маліўся, нехта, склаўшы далоні, стаяў на каленях і маўчаў, нехта плакаў, нехта з некім абдымаўся, цалаваўся, нехта біўся галавой аб граніт – і ўсё гэта разам з натоўпам перад маўзалеем на тле Сенацкай вежы і будыніны Вярхоўнага Савета выглядала нейкай вар'яцкай тэатральнай дзеяй, грандыёзнай масоўкай з дэкарацыямі для кіно, але нідзе не відаць было ні сцэнарыста, ні рэжысёра, ніякай фота ці кінатэхнікі, калі не лічыць такой тэхнікай залацісты тэлескоп, у які, задзіраючы галовы і прытрымліваючы, каб не зваліліся, капелюшы, адзін за адным глядзелі з трыбуны ў неба кіраўнікі партыі і ўрада, паміж якімі дзіўна, як гандляр з камісійнай крамы паміж святымі Пятром і Паўлам, выглядаў Кашкадамаў, які невядома як, але ўсё ж прабраўся на ўрадавую трыбуну.

– Што спачатку?.. – гучна, на ўсю плошчу спытаў раптам гандляр з камісійнай крамы, той чалавек у шлеме, якога Купала празваў Лётчыкам, і які, калі меркаваць па ягоным голасе і паставе, якраз і мог быць ці сцэнарыстам, ці рэжысёрам. – Суд ці цуд?.. – І калі плошча, імгнення не прамарудзіўшы, выгукнула: “Цуд!..” – той чалавек у шлеме, Лётчык той сказаў: – Тады верш Купалы! Прачытайце, Іосіф Вісарыёнавіч!.. “Па беларускім бітым шляху, Б'ючы ў кайданавы званы...” Вы ж гэта любіце! Ці: “Стаім мы перад будучыняй нашай І ўсё варожым, сочым ейны ход... ”

“У-у-у...” – незадаволена прагула плошча, і Сталін буркнуў: “Народ не хоча...” – на што Лётчык спытаў даволі з'едліва: “Хіба вы заўсёды рабілі тое, чаго хацеў народ?..” – а нехта на даху порціка ціха сказаў: “Тады я прачытаю...” Памаўчаў, чакаючы, пакуль скоціцца з плошчы гул, і пачаў: *“Стаім мы перад будучыняй нашай І ўсё варожым, сочым ейны ход. Ці ўскрэснем мы з душой, ўпаўшай, звяўшай, Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...”* – а Лётчык, перапытаўшы: “Вы хацелі цуд?.. – націснуў зорку на шлеме. – Калі ласка!..” – і з маўзалея, цягнучы крыж на плячах, выйшаў Ленін. *“Сягоння мы жывём, і ўдзень мы блудзім Пад маскай, асляпляючаю нас, І што сказаць самім сабе і людзям, Не ведаем, не можам, хоць і час. Заціснуты, задушаны, як мышы Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў, Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы Таго свайго, што наша ад вякоў...”* – чулася далей з даху порціка, і пад гэтыя словы Ленін пасунуўся да магіл каля крамлёўскай сцяны, а ўслед за ім, ускінуўшы на плячо карабіны, на канцы якіх бліснулі не штыкі, а лёзы сапёрных лапатак, рушылі, чаканячы крок, вартавыя, што стаялі пры ўваходзе ў маўзалей. Убачыўшы вольнае месца злева ад першай магілы, Ленін спыніўся, агледзеўся і, застаўшыся задаволеным выбраным месцам, кіўнуў вартавым, якія, казырнуўшы яму, сталі капаць. *“Пакрыўленыя калісь нашы душы Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ; Снуёмся, ў думках зводных затануўшы, А хтось, а штось і мучыць, і пячэ. Цябе чакаем, будучыні нейкай, Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш, І гінем марна пад чужой апекай, Адбіўшыся ад родных вехаў, меж...”* – рытмічна, нібы пад музыку, гучалі вершы, і вартавыя капалі, быццам танцавалі, нібы магілы капаць іх у балетнай школе вучылі, з усялякімі там антраша і кабрыволямі – толькі сталёвыя лапаткі ды хромавыя боты бліскалі. *“А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны, сытны стол І кідае, як з ласкі, нам агрызкі, А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.*

*Нявольніцтва й жабрацтва так нас з’ела І так нам высмактала з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок...”* – плыло з вышыні, з неба да магілы, якая надзіва хутка, проста на вачах глыбела, і, пакуль ад брамы Спаскай вежы дайшла да маўзалея змена ганаровай варты, разводны якой проста застыў у здзіўленні, убачыўшы, што месцы вартавых каля ўваходу ў маўзалей пустыя, магіла была гатовая. *“Там чутна: Беларусь! Там – Незалежнасць! А там – «Паўстань, пракляцьцем»... Ну, а мы? Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць... Без толку крыллем хлопаем, як цьмы. О так, як цьмы, як спуджаны вароны!.. І слухаем, і нюхаем тут, там: Які павеяў вецер на загоны, – Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам? Аграбленыя з гонару й кашулі, З свайго прыпыну выгнаныя вон, Мы дзякуем, што торбы апранулі На нас ды з нашых нітак-валакон. З кійком жабрачым так мы, пайналеткі, Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад. І прысягаем, клічам Бога ў сведкі, Што мы – не мы, што нехта вінават...”* – трохі падвысіўся голас, і Купала ўспомніў, дзе і калі чуў яго. Ці, можа, не яго, але да яго падобны. Гэткі ж голас, толькі гусцейшы, як бы старэйшы за той, які чуўся зараз, гучаў з даху дома, суседняга з Домам літаратара, у канферэнцзале якога Купала ляжаў у труне: “Час толькі ў людзях, і жах ягоны знікае разам з імі”. Тым часам Ленін, гукнуўшы да разваднога, застылага каля маўзалея з выструненай нагой: “Таварыш салдат! Патрымайце мой крыж...” – і пачакаўшы, пакуль той падыдзе, перахрысціўся і скочыў у магілу, лёгшы там спачатку дагары, а пасля, пачуўшы: *“І так жывём, сябе саміх не знаўшы, Учора, сёння лазім між канаў... Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай Навек залом праклятаы заламаў?”* – перавярнуўся, лёг ніцма, тварам у зямлю, і вартавыя хутка-хутка, гэтак жа выраблаючы антраша з кабрыволямі, засыпалі магілу, укапаўшы ў грудок крыж. Лётчык зноў націснуў зорку на шлеме, і, як толькі прагучалі апошнія радкі верша: *“Няўжо нас не аб’ясніць розум ясны І не пакінем біцца з кута ў кут? Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны – Кліч буралoмны: вызваленне з пут?!”* – ударыла з яснага неба маланка – і крыж запалаў. “Варта!.. – адскочыў ад палаючага крыжа разводны, і вартавыя ўскінулі карабіны. – Залпам... – шчоўкнулі затворы. – Плі!” – грымнулі стрэлы, і лёзы лапатак маланкамі слізнулі з канцоў карабінаў, бліснулі ўверх, на імгненне завіслі над плошчай, нібы выбіраючы, куды ўпасці, – і адно сталёва прасвістала да трыбуны, а другое – да лобнага месца, адсекшы галовы старшыні таварыства аматараў крэмацыі, бязбожніку Кашкадамаву, і патрыярху рускай праваслаўнай царквы Ціхану.

– Чаму ім?.. – здзівіўся, нібы чакаў, што галаву яму адсякуць, Сталін, а Лётчык рукамі развёў: “Гэтак выйшла...” І дадаў, гледзячы, як коцяцца на плошчу пад ногі натоўпу галовы таго, хто супраць Бога, і таго, хто за Яго: “Зрэшты, любому можна было...”

– Ён па-ка-яўся... – сказала, коцячыся, галава патрыярха, а галава Кашкадамава сказала: “Гэ-та не ён...”

Ці праз відовішча, якое наладзіў Лётчык, ці праз верш, праз той незвычайны голас, якім верш быў прачытаны, які ўздымаўся ў нябёсы і аднначасова прасочваўся скрозь усе пяць ярусаў піраміды маўзалея да самай грабніцы і глыбей, да ўсіх ва ўсе вякі ў гэтай зямлі пахаваных, хто на голас гэты, здавалася, вось-вось паўстане з магіл, як паўстаў і пахаваўся Ленін, над плошчай запанавала трапяткая, лёгкая, нібы пошумам крыльцаў матылькоў напоўненая, ціша...

– Адзін з вас мяне прадасць, – прагучаў у гэтым лёгкім матыльковым

пошуме той жа ціхі голас, якім прачытаны быў верш з даху маўзалея, і было дзіўна, што гэтак ціха сказанае так добра чуваць – можа, таму што вечнае: “Адзін з вас мяне прадасць”. Яно чуваць было на ўсю плошчу і далей за яе, за Крэмль, з якога яшчэ нядаўна кіраваў і плошчай, і ўсім, што за ёй, Сталін, які, пачуўшы словы Хрыста, раптам выгукнуў: “Мяне ўсе прададуць!” – і, пругка выгнуўшыся на крыжы, стаў прамаўляць да святых, да апосталаў, да кіраўнікоў партыі і ўрада, да натоўпу, сярод якога павярнуліся да яго толькі нябожчыкі, а жывыя, пачуўшы чарговую славіцу: “Слава савецкім бронетанкавым войскам!..” – зноў загалёкалі “ура!”, пад якое ад Гістарычнага музея пакаціліся, рыкаючы, бронетранспарцёры, заскрыгаталі гусеніцамі, высякаючы іскры з бруку, танкі, са сталёвым лязгатам якіх то зліваўся, то прарываўся скрозь сталёвы лязгат голас Сталіна: “Я ведаў, што, калі памру... з’явяцца правадыры-пігмеі... шмат смецця нанясуць на маю магілу... прыпішуць мне злачынствы... імя маё будзе абылганае... але вецер гісторыі ўсё гэта развее... новыя пакаленні ўздымуць сцяг...”

Прамаўляючы, ён глядзеў на маўзалей і нібы чакаў, што адтуль нехта выйдзе, здыме яго з крыжа і занясе на месца, вызваленае Леніным. Ужо бронетранспарцёры з танкамі скаціліся па Васільеўскім спуску, на плошчу выпаўзлі цягачы з ракетамі, а Сталін, як сам сабе адвакат, гаварыў, гаварыў, гаварыў, і відаць было, што ў ім усё меней надзеі на тое, што яго вернуць у маўзалей, і ўсё болей страху перад тым, што можа стацца на судзе, бо невядома, *што?* – і калі ён змоўк, з даху маўзалея пачулася: “Ты сказаў”.

Купала не быў надта вялікім вернікам, на што мелася, як ён давёў сабе, прычына: зусім малым памёр брат ягоны, а потым дзве сястрычкі, і ён не знайшоў адказу на тое, навошта Бог іх забраў. Па гэтай прычыне не быў ён і надта ўважлівым чытачом Святога пісання, амаль не карыстаўся біблейскімі сюжэтамі, але тое, што Хрыстос прамовіў *“ты сказаў”* у адказ на пытанне Юды: “Гэта я, Госпадзі?..” – ён помніў. Толькі пры чым тут Сталін?.. І раптам яго пранізала: “Яшчэ як пры чым!” – бо сказанае Хрыстом на тайнай вячэры: “Адзін з вас мяне прадасць”, – звернута не толькі да Юды, да Яна, Пятра, Хамы, Матвея, Сімана, дванаццаці Ягоных вучняў, а да ўсіх! Да патрыярха Ціхана і Ганны, Няжылы і Кумца, Берыі і Мяркулава, маладзіцы Мясновай і маршала Тухачэўскага, князя Баграціёна і ротмістршы Дэмбскай, секунд-маёра Баскакава і двойчы лаўрэата дзяржпрэміі СССР Гарушынай, купецкага сына Жыгалкіна і паэта Майкава, капітана Забіякіна і акадэміка АН БССР Кайгародава, паліткамісара палка імя Валадарскага Смірнова і падпалкоўніка ГРУ Каменскага, дуэлянта Навасільцава і карліка графа Зубава Якубоўскага, да Леніна і Сталіна... да ўсіх, да ўсіх, хто тут, на маўзалеі, на ягонай трыбуне, на плошчы і далей за ёй, на тайнай вячэры на тым канцы свету, на лобным месцы, на крыжы і пад ім – і да яго, Купалы, які таксама адзін з тых, хто можа прадаць, калі ўжо не прадаў... няхай не самога Яго, дык дадзенае Ім, ад чаго ўжо амаль нічога не засталося:

“Гэта я, Госпадзі?..”

Думка была такой нечаканай і гэтакай балючай, што ён застагнаў. “Вось ён – Страшны суд. Вось яно – пекла. Не ў падзямеллях смала і агонь – у самім табе”.

Боль прайшоў скрозь сэрца, ударыў пад горла, ён захрыпеў, Ганна зірнула на яго спалохана: “Даць вады?..” – і Спагада падляцела да яе, узяла намочаную хусцінку, якую нядаўна кінула ёй у твар, паднялася да Купалы: “Папі...”

## 50

Мацвееў любіў цытаваць Платонава: «Каб жыць у рэальнасці, трэба ўвесь час трымаць у галаве нешта нерэальнае».

Дык вось гэта было нечым нерэальным: Мацвееў і данос.

– Цябе пасадзяць! Запраторацць у псіхушку! І не дапаможа Грачын! Ды ён і не стане дапамагаць! – кароткімі фразамі казала, нібы каменьчыкі кідала, Ганна. – Але Мацвееў! Мацвееў! Я не магу зразумець! Нашто яму гэта? Каб ты вярнуўся ў качагарку? Праз турму да сваіх? Дык ты ж да іх вярнуўся!

Віктар сказаў ёй, калі яна і Круча знайшлі яго ў качагарцы, што хацеў да сваіх вярнуцца. Дык яна адразу: «Да тых, хто даносы піша?»

– Позна.

– Што позна?

– Позна вярнуўся. Я ўжо нават самому сабе не свой.

– І што? Што з гэтым рабіць?..

Гэтага Віктар не ведаў. Таму прапанаваў: «У Індыю ехаць. Давай, Ганя, пакуль мяне не пасадзілі, з'ездзім у Індыю. Я там не быў ніколі». – «Табе адтуль не будзе куды вяртацца!» – «Чаму не будзе куды? У турму. Там я таксама ніколі не быў».

Учора ў качагарцы Круча сказаў: «Ты ўсё ж знайшоў яе». Віктар не зразумеў: «Каго?» – «Турму. Але яна ўжо не тая, якая магла быць. Не турма ў Палацы з'ездаў. Таму трэба выкручвацца».

«Дык выкруці яго, для таго ты і Круча», – кпіў Мацвееў, якога Круча змушаў забраць данос, а той упіраўся: «Гэта не данос, гэта помста за здраду!» І даводзіў, што яно справядліва, бо помста ўваходзіць у склад сяброўства, калі сябруеш з нягоднікам.

«Ён і ёсць нягоднік! – не магла ўтаймавацца Ганна. – І сябруе з самім сабой!»

– Я паспрабую пагаварыць з бацькам, ён вельмі добра да вас ставіцца, кажа, што ў адрозненне ад тых, хто спадцішка брэша, вы прынцыпова заявілі сваю грамадзянскую пазіцыю, і цяпер брахуны на вас накінуцца, – казаў, чырванеючы, Сяргей, сын намесніка старшыні КГБ, куратара савецкай культуры, у кабінет якога хутчэй за ўсё і прынясуць данос Мацвеева, якому Маня, думаючы, пэўна, пра нешта іншае, раптам прапяяла: «Вы правільна зрабілі, здраду нельга дараваць…»

Яна ці штосьці блытала, ці не тое чула.

– Няхай з тваім бацькам яшчэ і Круча пагаворыць, – ухапіўся за словы Сяргея Мацвееў. – Яны сябры. – І спытаў Марыю Аляксандраўну: – Ваш муж сябраваў бы з чэкістам? З мярзотнікам у генеральскіх пагонах?

Сяргей ускочыў:

– Як вы можаце?.. Пра майго бацьку!.. – Кінуўся да выхаду, спыніўся ў дзвярах. – Маня! Ты ідзеш са мной?

– Не, – прапяяла Маня. – Мне з імі цікава.

– Так яму, гэбісцкаму сыну! – наліў ёй Мацвееў. – Малайчынка! Самі гонім, самі п'ём, а гэбістам не даём!.. – І ўзяўшы Маню за талію, павёў яе танцаваць, напяваючы пад мелодыю танга:

Поздно, Маня, вы полюбили бандита,
Поздно, Маня, сердце бандита пробито,
Поздно, Маня, хоть и расстегнут ваш пояс,
Поздно, Маня, ночью уходит мой поезд…

Мацвееў набраўся ў турме не толькі блатных песень, але і звычак. Танцуючы, ён усё ніжэй і ніжэй апускаў руку па тонкай таліі Мані, тая штурхнула яго раз, другі, нарэшце не вытрывала, пляснула па шчацэ і выскачыла з качагаркі ўслед за Сяргеем.

– Я буду дома чакаць вас, Мацвееў, – сабралася за імі Марыя Аляксандраўна. – Вы мне патрэбны – і я буду вас чакаць. А што да генерала… Калі Платонава прыйшлі арыштоўваць, ён быў ужо такі хворы, што наскрозь свяціўся, на нагах не стаяў, і чэкісты, патаптаўшыся ў доме, пайшлі. Я дасюль помню, як яны патапталіся і пайшлі, і як я чакала, калі вернуцца. І думала: ну хоць бы нехта быў, каго можна было б папрасіць, каб не вярталіся!..

«Я нікога ні пра што прасіць не збіраюся! Усё – сам! Нават калі памру, сам сябе спалю!» – наліваў і наліваў Мацвееў, калі яны ўчатырох, Ганна з Віктарам і Круча з Мацвеевым сядзелі каля пагаслай печы, да поўначы лаяліся, потым Мацвееў пайшоў да Марыі Аляксандраўны, Круча сказаў: «Не вернецца! Ён данос напісаў, бо, калі сядзеў, яго завербавалі», – але Мацвееў вярнуўся, кран не адрамантаваўшы: «Жалеза знасілася. Ёсць такія рэчы, з якімі нічога нельга зрабіць», – і яны зноў сварыліся, Мацвееў вінаваціў Кручу: «Агент!» – Круча Мацвеева: «Даносчык!» – і так да раніцы, калі Мацвееў сказаў Віктару, зноў цытуючы Платонава: «У цябе праблема вераб'я: лятае на локаць, а прагне вышыні», – чаго Ганна не вытрывала, яна таксама нататнікі Платонава чытала: «Досыць! Вы самі, апроч даносаў, што-небудзь напісаць можаце?!» – а Мацвееў рукамі развёў: «Не магу. Таму і не напісаў нічога ў тым, што вы даносам называеце. Даслаў толькі паэму. Дык які гэта данос?» – пачаў ён у п'янага дурня гуляць, а пасля сказаў, што калі Круча такі ўжо заступнік, дык можа зманіць гэбістам, што гэта ён паэму напісаў, а Маргер проста перапісаў яе, Кручы гэта сыдзе з рук, як і раней усё сыходзіла, чаго ўжо Круча не стрываў: «Што мне з рук сыходзіла? Я даносаў не пісаў!» – і яны схапіліся загрудкі…

– Добра, – згадзілася дома Ганна. – Паехалі ў Індыю, калі паспеем. – І там застанемся.

Яна ў каторы раз Савецкі Саюз пакідала.

Калі сабраліся ў Саюз пісьменнікаў, каб забраць замежныя пашпарты, зазваніў тэлефон. Ганна падняла трубку, паслухала, паклала...

– Гэта з ВЦСПС. Памочнік старшыні. Сказаў, што адобрылі тваю кандыдатуру, і спытаў, калі ты зможаш прыступіць да выканання абавязкаў?.. Дык як нам цяпер у Індыю ехаць?

Та-а-к... Без яго яго ажанілі. Не ведаючы, што жаніх кульгавы.

– Як і ехалі, толькі хутчэй, – павёў ён з дому Ганну, якая згадзілася ехаць хутчэй, але па дарозе хоць нешта з'есці.

У абедзвюх кавярнях і рэстаране Дома літаратара, які быў па дарозе да Індыі, тоўпіліся паэты з празаікамі, драматургі з крытыкамі: праходзіў пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Бліскалі зоркамі герояў сацыялістычнай працы і значкамі лаўрэатаў ленінскіх ды дзяржаўных прэмій аўтар гімна Савецкага Саюза, дзіцячых і партыйных вершаў («Коммунизм»! Нам это слово Светит ярче маяка. «Будь готов!» – «Всегда готовы!» С нами ленинский ЦК!») Сяргей Міхалкоў, галоўны рэдактар «Літаратурнай газеты» Аляксандр Чакоўскі, украінскі празаік Алесь Ганчар, аварскі паэт Расул Гамзатаў, узбек Каміль Яшэн і азербайджанец Сулейман Рустам, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Георгій Маркаў, дачка якога Кацярына кінулася да Ганны: «Ты ў Маскве? Кажуць, што твой бацька будзе на месцы Брэжнева, а

ты з'ехала ў нейкую беларускую вёску! Давай кавы вып'ем, раскажы!..», – і пацягнула Ганну ў кавярню, а Віктар падышоў да Танкевіча, які таксама бліскаў зоркай героя і за якім чародкай хадзілі Брылец, Гарымякін, Пташнік, Чаргінаў, беларускія літаратары, дэлегаваныя Саюзам пісьменнікаў БССР у склад праўлення Саюза пісьменнікаў СССР.

– Ты ўсё тут ведаеш, – першым паздароўкаўся з Віктарам Чаргінаў. – Кажуць, што Брэжнеў па здароўі… А хто замест яго?

Ні дачку першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, ні сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР не цікавіла літаратура.

– Я, – сказаў Віктар, ведаючы, якія чуткі блукаюць па Мінску пра ягоныя адносіны з дачкой Грачына, і Танкевіч кіўнуў ухвальна: «Малайчына. Дзякуй, што сказаў, а то сказаць ніхто нічога не можа». А Гарымякін, які таксама бліскаў новенькай зоркай, паглядзеў недаверліва: «Ды ён пажартаваў».

У ім была наіўнасць, у Гарымякіне. Але не такая, як у наіўным Каралевічы. Ці ў Стральцы. Услужлівая наіўнасць.

Услужлівасць Гарымякіна дапамагала някепска жыць не толькі яму самому, але і Саюзу пісьменнікаў. Калі патрэбная была кватэра, машына, лецішча, Гарымякін тэлефанаваў каму трэба, ішоў да каго трэба і вяртаўся з паперамі на кватэру, на машыну, на лецішча. Казаў асабліва нецярплівым: «Стойце ў чарзе – і ўсё ў вас будзе».

Так яно і было. Незалежна ад таго, літаратар ты ці графаман, але, калі ты ў Саюзе пісьменнікаў, прыйдзе твая чарга не толькі на лецішча з машынай, але і на ордэн, і на літаратурную прэмію. Хоць якую і хоць за што, але дадуць.

Апроч зорак, бліскалі на лацканах пінжакоў Гарымякіна і Танкевіча яшчэ і значкі дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР, у якім Гарымякін быў нават старшынёй, змяніўшы на гэтай пасадзе Танкевіча. Калі партыя не знішчала пісьменнікаў, яна з імі цацкалася.

– Хочаш паесці з намі? – прапанаваў Чаргінаў. – Бясплатна.

Пра адзін з раманаў Чаргінава Віктар напісаў эсэ для «Літаратурнай газеты», і прапанова аўтара рамана бясплатна паесці выглядала нечым кшталту ганарара.

Саюз пісьменнікаў СССР быў арганізацыяй нябеднай. З усіх кніг, якія выдаваліся ў любым выдавецтве, прычым, кніг не толькі сяброў Саюза, але і кніг Пушкіна, Дастаеўскага, Гогаля, Талстога частка прыбытку адлічвалася ў Літаратурны фонд, таму стол, за якім абедалі Танкевіч з Гарымякіным і Пташнік з Чаргінавым, быў накрыты так, што сядзець за ім маглі і Дастаеўскі з Гогалем, і Пушкін з Талстым.

«Можа, сказаць ім?.. – падумаў Віктар, сядаючы. – Каб не было нечаканкай, каб гвалт пасля не падняўся: "Арыштавалі! Пасадзілі! Антысаветчык!.." Сказаць, што пагуляўся, калі яшчэ вучыўся, студэнтам зялёным быў, у дысідэнцтва, а цяпер яно ўсплыло... А калі не ўсплыве?.. Скажаш – і такое разнясуць, напляткараць, чаго і не было... Не. Пушкіну з Гогалем, можа, і сказаў бы... Хоць нават ім – не. Геніі таксама пляткарылі, плёткі цікавей за праўду».

– Чуткі ідуць, што дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў Масква ў Польшчу пасылае, – сказаў Чаргінаў. – Ты не дазнаўся тут, каго?

– Не дазнаўся.

– Калі не дазнаўся, дык які з цябе кіраўнік дэлегацыі? – закусваючы каньяк скрылікам лімона, спытаў Гарымякін, які з усіх, хто сядзеў побач за сталом, быў, можа, і не самы таленавіты, затое самы шчыры. – І чаму ты? Чаму не старшыня саюза ці не ягоны намеснік?

Вось. Толькі ўчора Грачын сказаў гэта Віктару, а ўжо сёння Гарымякін ведае...

Віктар паглядзеў на Танкевіча, Брыльца, Пташніка, Чаргінава – яны сядзелі, чакаючы.

Усе ўжо ўсё ведаюць. Усё, апроч таго, што Мацвееў паслаў у КГБ паэму пра качагарку, і сёння, можа быць, там яе чытаюць.

Стаць кіраўніком дэлегацыі беларускіх савецкіх пісьменнікаў у братнюю Польшчу Віктару цяпер наўрад ці свяціла, так што можна было супакоіць Гарымякіна.

– Я не кіраўнік дэлегацыі.

Гарымякін пражаваў лімон, паклаў дэсертны відэльчык.

– А хто?

– Не ведаю. Але для гэтага ёсць старшыня Саюза, ёсць намеснік. І шмат хто яшчэ з большым, чым у мяне, аўтарытэтам і досведам. Кожны з тут прысутных.

Віктар сказаў гэта, убачыў, як усміхнуўся няўсмешлівы Пташнік, і яго крутанула: «Я падлізваюся да іх! Лісліўлю! На лімон намазваю мёд, каб ім не кісла было, каб яны потым мяне, як дзярмо, не размазалі!»

– Шкада, што не ты, – сказаў Брылец. – Малады, таленавіты паэт на чале дэлегацыі – гэта добра выглядала б. Паказвала б на тое, што ў нас могуць быць перамены.

– І я так думаю, – падтрымаў Брыльца Танкевіч, а Гарымякін на іх абодвух вылупіўся: «Якія перамены? Што на што вы мяняць збіраецеся?»

Ён нічога не збіраўся мяняць. «Стойце ў чарзе – і ўсё ў вас будзе».

Да іх падышла Ганна, Віктар падняўся ёй насустрач, і ўсе падняліся, а яна, павітаўшыся з усімі, сказала: «Выбачайце, нам пара», – і павяла яго пад руку да выхаду з рэстарана, і ён спінай адчуваў, як усе пазіралі ўслед.

Да «дома Растовых», дзе атабарылася кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў і ў правым флігелі якога месцілася замежная камісія, трэба было прайсці цераз пераход, па якім насустрач ім крочыў Круча: адпрасаваны, паголены, свежы, нібы і не было ў яго бяссоннай ночы. Убачыў іх: «Я вас шукаю, трэба перагаварыць».

Выйшлі ў двор дома Растовых, у якім на месцы, дзе некалі стаяў мармуровы «Мысляр», пасля перанесены на магілу ягонага стваральніка скульптара Мяркурава, сядзеў на пастаменце бронзавы Леў Талстой – падарунак рускім пісьменнікам ад пісьменнікаў украінскіх. Шкляр на гэта казаў: «Маглі б Гогаля падараваць. Нейкая б логіка была».

– А ведаеце, хто пасяліўся ў гэтым доме адразу пасля рэвалюцыі? – сеў на лаву каля флігеля, запрашаючы і Ганну з Віктарам прысесці, Круча. – Чэкісты. Так што сувязь паміж мячом і пяром у нас ад пачатку. Па месцы першай прапіскі. І я магу сказаць ім, – дагаварыў ён без ніякай паўзы, павярнуўшыся да Віктара, – што паэму пра качагарку... ці як яна ў цябе называецца?.. кацельная?.. напісаў я, а ты, студэнт, яе проста перапісаў. Як гэта параіў зрабіць нам Мацвееў.

Круча, відаць, таму і сказаў так, што так Мацвееў параіў. Бо Марыя Аляксандраўна, Ганна, Маня, Сяргей гэта чулі, і ён не мог зрабіць выгляд, нібы не чуў. І хоць зразумела было, што ніхто на Лубянцы ў такую версію не паверыць, тым не менш гэта быў шырокі жэст, за які нельга было не быць удзячным.

– Дзякуй, Круча. Але аўтар паэмы «Качагарка» – я. Як і верша «Ледакол». Гэткія рэчы ў адным чалавеку несумяшчальныя – і я разумею Мацвеева.

– Каго ты разумееш? – здзівілася Ганна.

– Мацвеева. Ён напісаў данос не на аўтара «Качагаркі», а на аўтара «Ледакола». На чалавека, які качагарцы здрадзіў.

Ганна раздзьмула ноздры:

– Мацвееў здрадзіў сумленню! Не нейкай там качагарцы, дзе п'юць, куды дзевак цягаюць, і каб разбэшчанасць сваю апраўдаць, антысаветчыну пішуць! А калі іх прышчучаць, шусь – і з качагаркі ў Парыж!

Раней такога яна ніколі не казала. Бацька яе мог такое сказаць. Што ж, дачка свайго бацькі. Калі нават дачка Купалы.

Круча спытаў, ён проста не мог не спытаць, Віктар таксама спытаў бы на ягоным месцы:

– А ты ў Парыж не хочаш, Ганя?..

Раніцай, калі выйшлі з качагаркі, Круча сказаў, што да яго чапляюцца праз тое, што ён прывозіць у Маскву эмігранцкія часопісы і кнігі эмігрантаў. Тыдзень таму ён прыляцеў з Парыжа – і багаж ягоны арыштавалі. «Я ім кажу: гэта ідыятызм! Кнігі нельга ні арыштаваць, ні нават спаліць, як палілі фашысты! Кнігі праходзяць скрозь турэмныя сцены і паўстаюць з попелу!" А яны мне: "Нас цікавяць не кнігі, нас цікавяць аўтары. І мы не ведаем выпадку, каб аўтар ці скрозь сцяну прайшоў, ці з попелу паўстаў". Разумееш? Адкрыта запалохваюць! Французскага журналіста, якому я ў інтэрв'ю пра гэта сказаў, пазбавілі акрэдытацыі і выслалі… Дарэчы, гэта адзін з тых журналістаў, якім я збіраўся твой выступ на з'ездзе перадаць. І не знайшоў! Дзе ён падзеўся? Нікога ў доме не было, а паперкі з выступам не стала. Гэта гэбісты ў дом пранікл і забралі! Яны паўсюль за мной сочаць, яны жывуць у маім доме, разумееш?..»

Ён так казаў, нібы вінаваціўся, што не перадаў выступ Віктара заходнім журналістам. Больш за тое: ён казаў так, нібы праз гэта Віктар і не выступіў! Ніводным словам не папракнуўшы за «ледакол эпохі», Круча цяпер гатовы быў узяць на сябе «Качагарку», і такая бязмежная спагадлівасць вярэдзіла душу больш за папрокі, за абвінавачванні, нават больш за тое, што зрабіў Мацвееў.

Можа быць, на гэта Круча і разлічваў? Тады ён ведаў, што рабіў.

– Я ў Індыю хачу, – адказала Кручу Ганна. – Я ніколі і нікуды раней гэтак не хацела, як цяпер хачу ў Індыю.

– Тады едзьце, – падняўся Круча. – Ніхто яшчэ з качагаркі ў Індыю не збягаў, пра вас ва ўсіх газетах напішуць. – І ён зноў прысеў. – Чакайце, а што, калі напісаць?.. У «Літгазеце». Развітанне з дысідэнцтвам, з фрондай, нешта такое… Ці Віктару самому, ці я магу папрасіць рэдактара, мы з ім у сяброўскіх адносінах, каб нехта ўзяў інтэрв'ю.

Ён прапаноўваў амаль тое, што Віктару прыйшло ў галаву, калі бясплатна абедаў за сталом, за якім маглі абедаць Талстой з Пушкіным.

– Пакаяцца? – спытала Ганна.

– Ніякага пакаяння. Сталенне, пераасэнсаванне. Толькі лом стаіць на адной пазіцыі. Дзе ўвагналі, там і стаіць. А чалавек, тым больш паэт, мяняецца, рухаецца… Ды нават не інтэрв'ю – размова, дыялог! Са мной, калі хочаш! Пра час, пра тое, як мы мяняемся ў часе... Так мы папярэдзім удар!

Дыялог з Кручам у самай папулярнай газеце, якой дазвалялася тое, што не дазвалялася іншым, – быць трохі ліберальнай, выглядаў прапановай спакуслівай. Пра гэта варта было падумаць, і Віктар збіраўся ўжо сказаць, што пра гэта варта падумаць, але Ганна яго апярэдзіла: «Адкуль куды вы рухацца будзеце? Ад качагаркі да ледакола? Хто паверыць, што гэта сталенне, пераасэнсаванне? Калі відавочна, што гэта такое». Круча спытаў: «Што

відавочна, калі яшчэ нічога не напісана?» – і Ганна сказала: «Фальш. Што б вы ні напісалі, відавочнай будзе фальш. Спробу ўратаваць задніцу яшчэ нікому не ўдавалася выдаць за спробу ўратаваць душу».

– Гледзячы як падаць, – не пагадзіўся Круча. – Я сам увесь наш дыялог напісаць магу – і няхай Ганна вырашае, пра душу ён ці пра задніцу? Друкаваць ці не друкаваць… Згодныя?

Ён быў нястрымны ў сваіх шырокіх жэстах…

– Можна паспрабаваць, – няўпэўнена, зірнуўшы на Ганну, якая выглядала так, як, пэўна, выглядала якая-небудзь амазонка, што бараніла Трою, а потым, стоячы на гары, глядзела, як Троя ставала друзам і попелам, прамовіў Віктар, а Ганна, хоць усё, што яна бараніла, ператваралася ў друз і попел, сказала: «Як па мне, дык не, бо пра гэта нельга напісаць так, каб не было сорамна. – І, можа, падумаўшы, што пакрыўдзіла Кручу, дадала. – Ніхто так не напіша».

Круча не пакрыўдзіўся. Ён не крыўдаваў на жанчын – ён іх кахаў.

– Калі Віктар не супраць, – падняўся ён з лавы, – я ўсё ж паспрабую. З гэтым нельга цягнуць, трэба іх апярэдзіць. Паклічуць на Лубянку, дык позна будзе. – І спытаў, адыходзячы. – А, можа, прапанаваць саму паэму «Літгазеце»? Няхай надрукуюць, калі ўжо яны такія лібералы. Выявяць смеласць… Пайду вып’ю з рэдактарам, каб смялейшы быў. Як там у «Качагарцы» тваёй?.. «Таков тариф в России: всё – бутылка. Хоть жизнь, хоть смерть…» А вы пакуль у Індыю з’ездзіце. Я там быў, там смерці няма.

## LI

– Павярніце крыж, – прагучаў, калі Купала папіў, ужо знаёмы ціхі голас з даху маўзалея. – Цяпер яму казаць.

Віленскія пакутнікі павярнулі крыж – і Купала паўстаў перад Хрыстом. Вочы ў вочы.

“Што прад Ім мовіць?.. Верш прачытаць?.. Але які верш прачытаць Богу? Ці напісаны такі?..”

“Бог ведае”, – сказаў крыж.

– А можна мне пачытаць вершыкі? – падняў галаву ўгору, нібы пытаючы дазволу ў Хрыста, Лётчык. – А то ўсе чытаюць, чытаюць... – І не чакаючы, што скажа Сын Божы, пачаў: “Мой мілы таварыш, мой *лётчык,* вазьмі ты з сабою мяне!..”[1]

Ён чытаў вочы ў вочы – і з задавальненнем убачыў, як скаланулі Купалу першыя, з нечаканым сэнсам радкі некалі напісанага ім дзіцячага верша. Паківаўшыся ўзад-уперад, Лётчык зняў шлем і, паціраючы лоб, нібы з цяжкасцю ўспамінаючы, што ў тым вершы далей, раптам прачытаў:

Юду не страшыў суд.
Крочыў з кута ў кут,
Крочыў з кута ў кут,
Круціў запацелы вус!..
А думка біла па нервах:
Паспець бы прадаць першым!
Паспець бы прадаць першым!
Пакуль не прадаў Ісус...[2]

---

[1] “Хлопчык і лётчык”, верш Я.Купалы.
[2] Верш Ю. Улодава.

Зноў нацягнуўшы шлем, Лётчык змоўк і разам з усімі глядзеў на Хрыста і Юду, чакаючы, што скажа, што зробіць кожны з іх, але ні Хрыстос, ні Юда не сказалі, не зрабілі нічога. І ніхто нічога не сказаў, нічога не зрабіў, і тады святы Пётр крыкнуў так, нібы не мог болей галавою ўніз вісець на сваім крыжы, трываць не мог: "Гэта ты, Юда?!." – а святы Павел, укленчыўшы, спытаў немаведама як і чым, можа быць, німбам над ім: "Гэта ты, Госпадзі?.."

Сын Божы выглядаў не зусім такім, якім павялічана адбіваўся ў вакне ГУМа, і зусім не такім, якім звык Купала бачыць Яго на абразах. Ён быў такім, якім прысніўся Купалу на трэці дзень па смерці. Невысокага, меншага, чым у Купалы, росту, але мускулісты, ладны, з кароткімі сукрыста-чорнымі валасамі і такою ж барадой, Ён стаяў, нібы ўніз збіраўся скочыць, на самым краі даху маўзалея, і не было ні ў паглядзе Ягоных агатава-чорных вачэй, ні ў выразе Ягонага твару нічога, што, як меркавалі ва ўсе часы іканапісцы, мусіла быць на твары чалавека, які, ахвяраваўшы сабою, сканаў на крыжы. Ніякага ценю перажытых пакут, ніякага адчаю праз здраду блізкага чалавека, ніякага болю ці нават смутку праз тое, што ахвяра сталася марнай, што тыя, дзеля каго Ён прынёс ахвяру, аказаліся не вартыя яе. Твар Ягоны быў спакойны-дапытлівы, як у чалавека, які хоць і ўсё спазнаў, але не ва ўсім яшчэ зняверыўся, а вочы глядзелі ўсмешліва, нават трохі іранічна, толькі іронія была скіраваная не вонкі, на нешта ці некага, а ў самога сябе: маўляў, а што ж ты думаў, чаго яшчэ ад гэтых людзей у гэтым свеце чакаў?..

Чаму Ён прамаўчаў? Чаму не адказаў Лётчыку?..

Можа, гэта знак?.. "Маўчы, што б пра цябе ні казалі! Бо з'іначаць сказанае, бо перакруцяць сэнс".

Але сэнсы заўсёды падвойныя. Тое, што кажаш ты, зусім не тое, што чуюць іншыя.

Дык што: не казаць нічога?

Некалі княгіня Магдалена Радзівіл, а пазней, як згаварыўшыся з ёй, і Ганна, папракнулі яго ў падвойнасці. "Ты іншым разам кажаш, нібы не сам. Як быццам ты перакладаеш з польскай мовы на беларускую ці з беларускай на польскую, і пры перакладзе мяняеш сэнс. І тады выглядаеш не самім сабой, не такім, якім я цябе ведаю", – казала Магдалена, і калі ён спытаў: "А якім ты мяне ведаеш?" – стала чытаць ягоныя вершы.

Ганна ягоныя вершы не чытала. Проста кінула: "У табе жывуць два чалавекі. Адзін – паэт, а другі – кавалер ордэна Леніна".

Нібы ў ёй яна адна. Акторка і агентка.

Лётчык, здзіўлены тым, што Сын Божы ніяк не адказаў на ягоны выпад, нервова паторгваў шчакой і, чакаючы, пазіраў на Купалу...

Мусібыць, усё ж трэба было нешта сказаць. Толькі што? І што з таго толку? Вунь Сталін як на крыжы выгінаўся! А што пачуў?..

"Ты сказаў!"

Але і прамаўчаць не выпадала...

– Мне ў дзяцінстве чалавек адзін, які бацьку майму гаспадарыць дапамагаў, усялякія легенды, байкі ды казкі расказваў. Адну легенду я запомніў: пра прарока.

Купала не быў упэўнены, што гэта найлепшае з усяго, што ён мог бы зараз сказаць, але нічога іншага ў галаву не прыйшло, і ён, глыбока прадыхнуўшы, пачаў павольна, з цяжкасцю размыкаючы сасмяглыя вусны, распавядаць тое, што ў маленстве пачуў пад зорным небам над рэчкай Вячай ад парабка Пасляка.

"Жыло-было на свеце племя сінявокіх людзей. Жылі яны не надта багата,

але пад сваім небам на сваёй зямлі – і чужой не хацелі. А па іхняй зямлі ў чатыры бакі – на ўсход і на захад, на поўдзень і поўнач – хадзілі і хадзілі заваёўнікі. Племя білася, змагалася за сваё, ды заваёўнікі насоўваліся і насоўваліся, як чорныя хмары, і не злічыць іх было. Прыходзілі адны – і забіралі кавалак зямлі з усходу, прыходзілі другія – і забіралі з захаду, ссоўваючы племя ў лясы ды балоты. Сінявокія людзі балоты асушвалі, лясы карчавалі, мазалямі і потам здабытую зямлю засявалі, а ворагі зноў па кавалках забіралі яе. І аднойчы прыйшлі, каб забраць усё, што засталося.

Тады стаў пад высозны, векавечны дуб, што рос на месцы, з якога пачыналася зямля сінявокіх людзей, іхні Прарок, і сказаў, што калі зараз яны адыдуць, дык адыдуць ужо не ў балота, а ў нябыт. А калі выстаяць, як выстаяў ва ўсіх бурах векавечны дуб, калі адстаяць сваю зямлю, дык з племені стануць народам.

Сінявокія воі кінуліся ў бой, але ворагаў была процьма, у некалькі разоў болей, чым людзей племені, якіх яны забівалі, а хаты іхнія бурылі. Апошніх з тых, хто застаўся жывы, сагналі пад векавечны дуб, нацягалі пад яго бярвенняў з пабураных хат і падпалілі. Дзень і ноч высока, ці не да самых зорак шугала полымя, попелам сталі бярвенні і прахам сталі людзі, а з дубам нічога не сталася. Толькі адзін лісток на найбольшым суку абсмаліўся, сарваўся і зляцеў у рукі Прарока.

На адным баку лістка былі пісьмёны, але Прарок не паспеў іх прачытаць: ворагі схапіліся за сякеры ды пілы! Дзень і ноч саклі і пілавалі, секлі і пілавалі, пакуль вялізны дуб не рухнуў. Страсянуўшы пагоркі і горы, ён прабіў тым сукам, на якім абсмаліўся лісток, жарало ўглыб зямлі, скуль шугануў чырвоны струмень. Гэта быў струмень крыві, якую вякамі пралівалі продкі сінявокіх людзей, што баранілі свой край. Кроў ускідвалася да Божага святла, да сонца, што промнямі сваімі запаліла ва ўсё неба вясёлку, працякаючы скрозь якую чырвоны струмень падаў вясёлкавым дажджом. Там, дзе падала кропля гэтага дзіўнага дажджу на ссечанае дрэва, выраслі два дрэвы! Там, дзе падала кропля на попел спаленай хаціны, паўставалі дзве хаты! А падала кропля на магілу загінулага воя – паўставалі два воі, а на месцы двух – чатыры! І пагналі яны ворагаў з зямлі сваёй.

"Прах і попел уваскрэснуць, калі нявінная кроў зліецца з Божым святлом", – стаўшы на месцы, дзе стаяў дуб, прачытаў Прарок тое, што напісана было на дубовым лістку. І пра гэтае спраўджанае прароцтва, пра магутны дуб, пра прабітае ўглыб зямлі жарало, з якога да неба шуганула кроў продкаў, пра сонца і вясёлкавы дождж распавядалі бацькі дзецям, а дзеці ўнукам племені сінявокіх людзей. І ўслаўлялі яны Прарока, пакуль зноў не набралі сілы заваёўнікі, якія сталі прыходзіць, як свае, бо за стагоддзі, у якія яны прыходзілі, сінявокія людзі пераймалі іх звычкі, прынялі іх мову, некаторыя нават назваліся так, як называлі сябе прыхадні, і, вінаватыя ў тым самі, не захацелі прызнаць віны, а звінавацілі ў гэтым Прарока. "Ты прарочыў, што адстаяўшы сваю зямлю, мы станем народам, а мы на сваёй зямлі сталі прыхаднямі! Ты ілжывы прарок!" – сказалі яны і раскрыжавалі яго на тым месцы, дзе ён прарочыў. Там, дзе стаяў некалі векавечны дуб, з якога яны зрабілі крыж з надпісам: "Ты ўваскрэснеш, калі спраўдзіцца тваё прароцтва". І прыбілі да крыжа дубовы лісток, на якім Прарок...

Купала змоўк. Чамусьці яму здавалася, што прарок на тым лістку напісаў нешта, але ён не помніў, што?.. Паглядзеў на Хрыста, які маўчаў, нібы чакаючы працягу, а Сталін стукнуў патыліцай у крыж:

– Навошта?..

Купала не зразумеў:

– Што навошта?

– Навошта яны лісток да крыжа прыбілі?

– Не ведаю... Можа, каб пазначыць, што гэта крыж Прарока, а не чыйсьці. І яшчэ, можа быць, каб ён напісаў... – спрабаваў успомніць Купала, ці было на лістку што-небудзь напісана, а калі было, дык што? – але нічога не ўспаміналася...

– Што напісаў?

– Не помню... Здаецца, як народам стаць.

– І як?.. – насмешліва, як здалося Купалу, спытаў Сталін. – Як ён напіша, калі раскрыжаваны?

Ён не мог пра гэта не спытаць – і вось як ён спытаў пра гэта...

– Прамовіць мог бы, – падаў голас «лётчык». Гэтак жа насмешліва, як Сталін. – Неабавязкова пісаць. Але ён не ведае... Бо гэта не пра тое, як хлопчыку стаць лётчыкам.

Купалу нібы пад дых ударылі – і ён захлынуўся адчаем праз непапраўнасць усяго, што было ягоным жыццём, якое гэтак перайначылі, перакруцілі, што яно стала зусім не ягоным, і ў чым бы ён цяпер ні спавядаўся, ні каяўся, усе будуць казаць толькі пра хлопчыка з лётчыкам, будуць насмешліва пытаць, чаму ён не павесіўся, не зарэзаўся, а ягоная споведзь, пакаянне ягонае будуць выглядаць толькі як апраўданні. Дык перад кім апраўдвацца?.. А тым больш вінавацца, каяцца?.. Перад расплывістымі? Перад Берыем з Мяркулавым? Перад сакратаром беларускага партыйнага ЦК Геем, перад Кашкадамавым і Тухачэўскім, гаспадаром рэстарацыі "Яр" Аксёнавым і ганаровым грамадзянінам Аляксандравым, секунд-маёрам Баскакавым і ротмістршай Дэмбскай, купецкім сынам Жыгалкіным і фрэйлінай Дзмітрыевай, капітанам Забіякіным і ледзі Суханавай-Падколзінай, масонам Зіноўевым і мецэнатам Засімам, камергерам Нарышкіным і дуэлянтам Навасільцавым, карлікам Якубоўскім і палітказмісарам Смірновым, падпалкоўнікам ГРУ Каменскім і мешчанінам Кекішавым, баярынам Хрушчовым і прэм'ер-маёрам Сабакіным, дачкой юрыста Юрасоўскага і заводчыкам Дзямідавым, сынам архіварыуса Няспанава і ротным абозным Шуставым, правізарам Лук'янавым і доктарам Геральдштэйнам, першай жонкай Казлова-малодшага Хамутовай і другой жонкай Казлова-малодшага Талстой, артыстам Ларыным і асэсаршай Шніткінай, купцамі Пярвушыным і Прасцяковым – перад гэтым натоўпам, які паслухае яго і спытае: "Па колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?.."

Не.

Тады перад кім?..

Выходзіла, што толькі прад Богам, у якога не надта верыў... А калі толькі прад Ім, то ў чым?.. І Купала з цяжкасцю, бо вусны проста запякліся, прагаварыў: "Даруй мне, Госпадзі, што маці ў вайне, у агні пакінуў! І даруй, што ў вайне, у агні пакінуў Беларусь..."

– Божа, не слухай яго! – так хутка, што вецер у вянку прасвістаў, кіданулася ад лобнага месца да маўзалея, узляцела да даху Спагада. – Маці сама засталася! Падумала, што ў машыне ёй месца не хапае. Месца можна было знайсці, нейкія клункі выкінуць, але яна сказала, што не... "Яшчэ вы, – сказала, – будзеце праз мяне дабро выкідваць!" А што ў Беларусі вайна, дык хіба ён...

– Добра, добра, – злавіў вянок Лётчык і гэтак адштурхнуў яго ад маўзалея, што Спагада ветрам адляцела зноў да лобнага месца. З разгону

балюча ўдарылася ў грудзі Купалы, ухапілася за ягоную руку: "Ніхто табе не паспагадае, апроч мяне! Скажы, што ты не вінаваты, што няма за што цябе судзіць!.."

І заплакала.

– Беларусі паспагадай! – раптам жорстка, не зважаючы на яе слёзы, так, быццам яна абрыдла яму са сваімі слязьмі, – сказаў, выдыхнуўшы боль з глыбіні грудзей, Купала. – Бяда з ёй, а не са мной!

Такім голасам ён загаварыў упершыню. Сталін хмыкнуў: "Вы маглі б палюбіць уладу..." – і Купала адразу завінаваціўся перад Спагадай: "Выбачай", – а тая ў слязах адвярнулася.

– Калі б слёзы нашых жанчын выкуплялі нашу віну... – пра нешта сваё ўздыхнуў Сталін, тут жа памяняўшы спачувальны голас на ўладны. – Я жонку майго сакратара расстраляў. Яна плакала перад расстрэлам і казала, што муж яе ні ў чым не вінаваты. А ён, што яна не вінаватая, не сказаў мне. Казаў толькі, што ягонай віны няма... Дык і вы, Іван Дамінікавіч, такое ўжо казалі. Памятаеце?.. Не забыліся на адказ?

Вось што значыць сарвацца, хоць на хвіліну даць волю нервам. Нехта адразу адчуе тваю слабасць, учэпіцца за гэта...

Так, ён сапраўды ўжо казаў такое. На сваім першым допыце ў ДПУ. "Я ні ў чым не вінаваты, мяне няма за што судзіць". А яму адказалі: "У нас не бывае невінаватых. – Потым дадалі. – У нас і яшчэ ў адным месцы".

Ён спытаў: "Дзе?.." І пачуў: "На Страшным судзе".

Дык вось ён тут. І тут не страшней, чым там. Бо там ты вінаваты без суда. А тут усё ж суд.

– Там, калі нават ты невінаваты, страшней, чым тут, – прамовіў ён, і Сталін зрабіў выгляд, нібы здзівіўся.

– Ды ну?.. Хоць я там не быў, але ведаю, што там няма невінаватых. Некага судзяць за нацыяналізм, некага – за шпіянаж, здраду Радзіме... Але ж вас не судзілі. Ці вы здрадзілі Радзіме – і вас трэба было судзіць?

Купала ледзь не сказаў: "Гледзячы якой Радзіме..." – але прамаўчаў. Надта балела, каб казаць.

Сталін ягонае маўчанне зразумеў па-свойму.

– Вы хацелі сказаць, што бываюць несправядлівыя суды? Так, бываюць... Вось патрыярх, калі нас раскрыжоўвалі, звінаваціў мяне... – пакруціў Сталін галавой, шукаючы позіркам галаву патрыяха Ціхана, якую падняў з брукаванкі і трымаў у руках архімандрыт Данскога манастыра Ісідар... – чуеце вы, святы Ціхан Бесцялесны?.. Вы звінавацілі мяне ў тым, што я паставіў ідэю вышэй за чалавека. І не шкадаваў людзей дзеля ідэі. Так. Паставіў. І не шкадаваў. Але скажыце: Бог – ён хто? Не ідэя?.. Ці вы не памятаеце, як даводзілі мне пад крыжамі Данскога манастыра, што ваша ідэя – Бог! А калі так, дык чаму дзеля вашай ідэі можна людзей не шкадаваць, крыжаносцаў насылаць на іх, а дзеля маёй – не?

– Бог ён Бог! – падскочыла галава патрыярха, Ісідар ледзьве яе злавіў. – Ён – усёстваральнік!

– Ён – ідэя. Няхай сабе, як вы кажаце, ўсёстваральная. Але больш ён ніхто. І болей нікім ён, колькі вы ні падскоквайце, не будзе, – голасам, у якім адчувалася шкадаванне, што архімандрыт не ўпусціў на брукаванку галаву патрыярха, казаў далей Сталін. – Ён нават не бацька таго, хто судзіць нас тут збіраецца. Бацька Хрыста Іосіф! Цясляр, які яго карміў! А сын бацьку, які карміў яго, чым аддзячыў?.. Нічым. Нідзе не ўспомніў нават. Толькі пра свайго ўсявышняга бацьку казаў, які воляй нябеснай... А пра бацьку зямнога,

які потам і крывёй, ні слова. Дый пра маці... А яна ж крэўная, тут ужо не адпрэчыць. Людзі казалі Яму, сыну Марыі: "Дабрашчаснае ўлонне, якое насіла Цябе, і грудзі, якія Цябе ўскармілі!" А ён што ў адказ? "Дабрашчасныя тыя, хто чуе слова Божае і трымаецца яго". Яму кажуць пра тую, якая нарадзіла Яго, а Ён – пра Божае слова! Пра ідэю, дзеля якой сышоў з дому, выракся радні, братоў і сёстраў... Дык ці варта нам, Іван Дамінікавіч, – стукнуў патыліцай у крыж Сталін, які рабіў гэта так, нібы ў госці завітваў, – праз нашых матак вінаваціцца, калі нават Божы Сын маці сваю пакінуў? І ўвогуле спытайцеся ў Яго: чаго Ён пайшоў да Яна Хрысціцеля, да якога ўсе хадзілі ачышчацца ад грахоў? Ад чаго Яму было ачышчацца, калі Ён бязгрэшны?

Калі б у патрыярха не была адсечаная галава, яна б у яго адарвалася – гэтак ён, абураны, ёй матлянуў. Так матлянуў, што, мусіць, горла яму сутаргай перакрыла, і ён сказаць нічога не здолеў.

Купала на гэта таксама не сказаў нічога. Падумаў: "Я не Божы Сын... І не мне Яго судзіць, а Яму мяне", – але прамаўчаў, бо не мог вырашыць: калі ты выракаешся бацькі і пакідаеш маці, каб стаць сынам Бога, наперад ведаючы, што цябе праз гэта чакае, ты ўпадаеш у спакусу ці прыносіш ахвяру?..

Зрэшты, Сталін і не чакаў ягонага адказу, бо прамаўляў не да Купалы і не да патрыярха, а да Хрыста, які чамусьці выбраў у суразмоўцы не цара, а паэта. "Чаму?.." Гэта прыніжала Сталіна, ён нерваваўся і спрабаваў як наймацней зачапіць Сына Божага, каб той адказаў яму, як роўнаму. Дзеля гэтага шукаў і нарэшце знайшоў найбалючае месца, націснуў там, дзе гняздзечка на сэрцы... І падобна было, што там, дзе гняздзечка на сэрцы, Хрысту, які, выслухаўшы расказаную Купалам легенду пра Прарока, доўга маўчаў, забалела.

– Бог не мусіць адказваць перад царом, – упершыню голасам таго, хто над усімі, прамовіў Ён да Сталіна, які адразу ж выгукнуў: "А чаму цар мусіць адказваць перад Богам, калі Бог робіць тое самае, што цар?" – ды Хрыстос, сказаўшы тое, што сказаў, доўжыў, не зважаючы на яго. – Але паэту Бог можа адгукнуцца, калі адчуе, што паэт здольны Бога пачуць. Што спакусамі слых яму не заклала.

Ён нібы наўмысна не заўважаў, што на крыжы двое, і Сталін, які ўжо трываць такой знявагі не мог, крыкнуў, выцягнуўшыся: "А што скажа паэт Богу?" – але Купалу гэта не зачапіла, яго іншае працяла: "Як даўно Ён не адгукаўся! Бо не адчуваў, што пачую... Бо слых спакусамі заклала... – І раптам закарцела спытаць: – А сам Ты ці зведаў спакусы, Госпадзі? І ці толькі ўздымаўся над імі, ці бывала, што ўпадаў?"

Ён не спытаў пра гэта, занадта дзёрзкім здалося пытанне, але Сын Божы пачуў непрамоўленае. Павярнуўся да апосталаў: "Чулі?.. І споведзь, якую як легенду расказваў, чулі таксама?.. І як лічыце: не пачуць?.. Ці пачуць і не адказаць?.." – на што апосталы заківалі: "Так, чулі і тое, што ён спытаў, і споведзь, якую як легенду расказваў, таксама чулі, а ці не пачуць, ці не адказаць, Табе вырашаць", – і тады Сын Божы, зірнуўшы ўніз, дзе стаяў "лётчык", стаў казаць спачатку нібыта яму, а пасля і Купалу, і Сталіну, і ўсім вучням сваім.

– Сатана спакушае мяне вяршыць суд, які можа вяршыць толькі Бацька мой нябесны. Каб думаў я пра сябе як пра Бога, а не як пра Сына Ягонага. Д'ябал і раней спрабаваў увесці мяне ў спакусу. Але наўрад ці адзін з вас пытаецца пра тое, як д'ябал, калі быў я галодны, спакушаў мяне ператварыць у хлеб камяні. І наўрад ці цікавіць некага з вас, як ён спакушаў мяне валадарствам над светам. А ўсіх вас цікавіць найпрасцейшае: хто мой зямны бацька? Як быццам гэта вызначае ў кімсьці, хто ёсць ён сам...

Купала адчуў, як напружыўся Сталін, чакаючы, ці адкажа яму Хрыстос?

– Мяне называлі і сынам цесляра Іосіфа, і сынам цара Давіда, – казаў далей Сын Божы. – Першае я не прымаў. А другое прыняў. Той, хто не верыць, што я зрабіў гэта па волі нябеснага Бацькі майго, можа лічыць, што я спакусіўся. – І дадаў, памаўчаўшы: – Ці што дзеля нябеснага забыўся на зямнога бацьку і пакінуў маці.

Апосталы глядзелі на Хрыста так, нібы ўпершыню яго ўбачылі: гэтакіх размоў з імі раней Ён не вёў. Дый Купала не чакаў, што Хрыстос на непрамоўленае пытанне адкажа, таму спытаў, разгубіўшыся, Сталіна: "Ён назваўся сынам цара, каб стаць царом?.." – а Сталін, задаволены тым, што ўсё ж зачапіў Хрыста, выгнуўся на крыжы: "Каб стаць Богам! Бо хто б сына цесляра Сынам Бога прызнаў? Ніхто! Сын цесляра – гэта сын цесляра. А ў сыне цара Бога прызналі! Яшчэ б ім не прызнаць, калі цар для іх і ёсць Бог!"

Апошнія словы Сталін амаль пракрычаў, і хоць Хрыстос на гэта нават брывом не павёў, Купалу ўсё ж здалося, што Ён пашкадаваў пра сказанае.

"Вы чулі?.. – сеў Хрыстос за стол да вучняў сваіх. – Дзе тыя, якія гэтаксама казалі?.. Дзе той, хто казаў, што адзін не можа ўратаваць усіх?.." – пытаў Ён апосталаў, і нешта ў голасе Ягоным было... не, не гнеўнае, не пагрозлівае, чаго можна было чакаць пасля слоў, сказаных Сталіным, а такое, што чуецца ў галасах тых, хто пасля доўгіх сумневаў штосьці канчаткова вырашыў, і тут ужо, пэўна, Сталін пашкадаваў пра сказанае – па крыжы знізу ўверх і зверху ўніз пракацілася хваля страху. Уверх – сухая, уніз – волглая.

Купала кожны раз адчуваў спінай, калі на Сталіна хваля за хваляй то мацней, то слабей накочваўся страх, які ён спрабаваў адолець, напускаючыся то на патрыярха, то на Хрыста, але гэтым разам хваля была асабліва моцнай, па крыжы ажно дрыжыкі пайшлі, і Сталін раптам зашаптаў горача да Купалы: "Вы чулі?.. Ён сказаў, што адзін можа ўратаваць усіх... Гэта пра вас... Я не ведаю, чаму, але пра вас, чуеце?.. Нечага ён ад вас чакае – і трэба адказаць яму нешта... Не маўчыце... Скажыце тое, што мне казалі... Пра гняздзечка на сэрцы..."

Гэткага моцнага, раптам як бы ўспацелага сталінскага страху Купала не чакаў. Ён адчуў гэты мёртвы, едкі, з чужым пахам страх, які выцякаў, здавалася, з патыліцы правадыра, і страх гэты, страх чалавека, якога баяліся ўсе, мог быць Купалу ў слодыч, але ў слодыч ён не быў. Ён быў гарчэйшы за пераспелы палын, гэты страх, бо ў ім, у гэтым чужым страху, была пражытая трацiна Купалавага жыцця.

"Ён усіх змушаў баяцца, бо баяўся сам. І ён, і Ленін, і Гітлер, і ўсе, колькі іх было. Усе яны – страх. Толькі страх, і больш нічога. І за гэта, за тое, за што ненавідзяць, іх любілі?..

Тады любоў – што такое?..

І што такое Бог, які любоў?

Той самы страх?.. Праз страх любяць Бога? А калі Бог, як кажа Сталін, ідэя, дык Ён – ідэя страху?.."

"Ды не трэба пра гэта! – зноў горача зашаптаў Сталін. – Пра боль кажыце, які пасяліўся там, дзе была душа... І што боль стаў душой... Не мне ж пра гэта казаць..." – выцякала з патыліцы Сталіна, які ў страху чапляўся за Купалу, бо той быў найбліжэй, дый болей учапіцца не было за каго, і Купала так, нібы згадваў, што азначае кожнае слова, пачаў казаць пра страх, які пасяліўся там, дзе была душа, выцясніў душу з яе жытла, з маленькага гняздзечка на сэрцы, у якім яна спявала, і страх гэты, заняўшы месца душы, як бы стаў ёю, душою, якая развучылася спяваць, а толькі крыкам крычала,

гэтак драпаючы сэрца, што кроў, здавалася, пырскала з вачэй, якімі ўжо глядзець на свет не хацелася, бо ўдзень і ўночы праз гэты страх у іх было цёмна, чорна, – зазірнуў Купала ў агатава-чорныя, якія былі як бы й далёка ад яго, цераз плошчу, і ў той жа час зусім блізка, вочы Хрыста, напоўненыя, як азёры вадою, любоўю, у якой патанаў, здавалася, створаны Ягоным Бацькам свет, дзе Купала жыў і памёр, а Сын Божы сказаў, калі Купала змоўк: "Майго настаўніка звалі Купалам. Таму я тут. А не дзеля таго, каб вяршыць суд, які Бацька мой нябесны вяршыць будзе".

## 52

У замежнай камісіі Саюза пісьменнікаў, куды Віктар з Ганнай прыйшлі, каб забраць замежныя пашпарты, ім сказалі, што паездка ў Індыю адкладваецца. Чаму і на колькі, не ведалі. «Нам сказалі, што адкладваецца, і мы кажам вам».

«Хто сказаў?..»

«Нам сказалі...»

Каб не хадзіць па Маскве, чакаючы, пакуль ці паклічуць на Лубянку, ці на вуліцы арыштуюць, Віктар паехаў у Вільню. Там выходзіла ягоная кніга, і выдавец тэлеграму даслаў: «Прыедзь. Ёсць прапанова».

Паехаў на цягніку, каб па дарозе заехаць у Смаргонь. Увайшоў у хату і застаў маці на канапе. «З раніцы не падняць, – прабурчэў бацька. – Давай, кажу, хуткую дапамогу выклічу! Дык не: адляжуся».

Прыехала «хуткая»: гіпертанічны крыз. «Можам шпіталізаваць». Маці, якая толькі два разы за ўсё жыццё ў шпіталі была, і то ў радзільні, ні ў якую. Ні сілком жа класці… «Ціск мы знялі, ні інфаркту, ні інсульту пакуль няма, так што глядзіце самі...» Маці паднялася: «Мне скаціну глядзець».

Ну, калі так, ён паехаў у Вільню. Назаўтра вечарам з Вільні самалётам у Маскву. Ноччу яму прыснілася чорная ластаўка, якую выпаліў некалі павелічальным шклом (маці казала, што сонцам) на левай дзверцы шафы, у якой мясціўся небагаты матчын гардэроб: драпавае паліто, баваўняная хустка, плашч ды дзве сукенкі: шэрая зімняя і квяцістая летняя. Ластаўка білася ў акно, трывожна шчабятала нешта, ён не зразумеў, што, а раніцай патэлефанаваў доктар з хуткай дапамогі, якому Віктар на ўсялякі выпадак пакінуў нумар: маці забралі ў шпіталь. Праз паўдня Віктар быў у Смаргоні: у маці інсульт. Дактары слухаць не захацелі ягонае: «Я завязу яе ў Мінск». – «Наўрад ці давязеце. І не думайце, што там яе вылечаць, а тут не. Методыка лекавання паўсюль аднолькавая».

Ён пабыў пару дзён у Смаргоні, маці стала лягчэй, на трэці дзень яна паднялася – і Віктар адлучыўся ў Мінск. Без асаблівай патрэбы: пабачыць Бараду, Бура, Каралевіча, Стральца, пасядзець з імі, выпіць, зняць нервовую напругу, у якой апошнім часам жыў. Напруга не знялася: патэлефанавала санітарка, якой даў ён грошы, каб прыглядвала за маці: «Віктар Паўлавіч, калі хочаце ўбачыць Анастасію Іванаўну жывой, паспяшайце».

Вось што шчабятала ластаўка... Яму пасля ў вушах гэта шчабяталася і шчабяталася: «Калі хочаце ўбачыць жывой, калі хочаце ўбачыць жывой...»

Пакуль знайшоў брата на працы, пакуль брата з працы адпускалі, пакуль даехалі...

Не паспелі.

У шпітальнай палаце стаялі шэсць жалезных ложкаў, і на пяці ложках ляжалі хворыя жанчыны, а шосты быў пусты, зусім пусты, з яго нават

матрац знялі, скрозь драцяную сетку віднелася пафарбаваная драўляная падлога, пад ложкам нявытаптаная, таму нібыта гусцей пафарбаваная, чым пасярод палаты, дзе яны застылі, дапытліва пазіраючы на хворых старых жанчын, у якіх не было пра што пытацца, бо ўсё відавочна. Але Віктар усё ж спытаўся: «А дзе Анастасія Іванаўна?..» І пяцёра хворых старых жанчын неяк паспешліва, адна перад адной, ён ніколі не забудзе гэты хворы, старэчы хор, на розныя галасы прапяялі, прамармыталі: «Памерла… памерла… памерла… памерла… памерла…»

Маці ляжала ў трупярні адна – голая на высокай кушэтцы. Зрадзелапасівелыя валасы, абветраны, снегам шэрпаны і сонцам палены твар, спрацаваныя, у вузлах і зморшчынах рукі, стаптаныя на падэшвах, стрэсканыя ногі і – ад грудзей па калені – гладкае-гладкае, белае-белае, маладое-маладое, яшчэ цёплае цела. Недагладжанае, недапешчанае, недалашчанае…

Яны купілі ёй самую прыгожую, якую толькі знайшлі ў краме, сукенку. Пры жыцці пра такую яна і не марыла.

Пры жыцці, калі ён пытаў: «Што падараваць табе на дзень народзінаў?» – кожны раз адказвала: «А ты дай мне якую капейчыну, я сама сабе куплю што-небудзь…» І купляла парсючкоў. Каб вазіць яму і брату кілбасы, вяндліну… Цягала і цягала ў Мінск тое мяса разам з трохлітровікамі марынаваных гуркоў, памідораў. Прыязджала з такімі клункамі, што не падняць. Калі яны казалі ёй, каб не гарбела, не цягала, бо ўсё ў крамах ёсць, слухала, галавой ківаючы: «Ёсць – і дзякуй Богу…»

Аднойчы, не паддаўшыся на яе хітрыкі з капейчынай, за якую сама сабе яна што-небудзь купіць, яны купілі ёй футра. Назаўтра, калі справілі дзень яе народзінаў і з’ехалі, яна пайшла на кірмаш, прадала футра і купіла парсючкоў.

Днём ёй не было калі, а ўвечары, пакуль вочы бачылі, яна чытала. Беларускія кнігі, расейскія, польскія… Яе здзіўляла, што людзі ўсё пішуць і пішуць, калі ўжо ёсць Святое пісанне, – і ёй цікава было: што ж яшчэ нехта можа прыдумаць, апроч таго, што прыдумаў Бог?

Траціну жыцця прарабіла яна бухгалтаркай у канторы машынна-трактарнай станцыі і расказвала спачатку Віктару, а пасля ягонаму малодшаму брату Яну казку пра чарцяня з іменем Бухгалтар, якое прыдумала бухгалтэрыю.

Маці моцна стамлялася на працы, казала, што хацела б іншую знайсці, такую, каб можна было хоць паўгадзінкі адной пабыць, ціха пасядзець. Але дзе ж ціха пабудзеш-пасядзіш?.. Там, дзе грошы, заўсёды людзі. А вось там, дзе кнігі, людзі не заўсёды. І маці бегла, калі скончалася праца, не адразу дахаты, бо там таксама ціха не пасядзіш, – дасць табе бацька, які палітыкай дастане, ціха пасядзець! – а ў клуб, у бібліятэку, якая была працай яе сяброўкі Стэфы, і сяброўка Стэфа была адзінай жанчынай у свеце, якой маці зайздросціла: у бібліятэцы машынна-трактарнай станцыі амаль ніколі людзей не было. І калі бацька, які браў яго на паляванне, хацеў, каб ён лепш за ўсіх страляў, дык маці, калі клікала яго з выгана, дзе ён з хлопцамі, гуляючы ў пікара, палкамі бляшанкі мясіў: «Віця! Віця! Да цёткі Стэфы!..» – хацела, каб ён болей за ўсіх чытаў. І ў гэтым палягала розніца паміж імі, а не ў тым, што маці была беларуска, а бацька рускі. Калі б было наадварот: ён беларус, а яна руская, – то ўсё адно ён бы вучыў сына страляць, а яна чытаць.

Бацька быў хворы на рак, сам ужо ледзьве ўставаў, і яны не казалі яму, што маці памерла, пакуль не прывезлі яе дахаты ў труне. Вывелі яго, каб развітаўся, з ягонай бакоўкі ў пакой, дзе яна ляжала, і ён схіліўся да яе і спытаў, з ёй жыццё пражыўшы: «Хто гэта?..» І Віктар назаўсёды – грудзьмі

і спінай – запомніў, як працяла, наскрозь пранізала яго гэтае, здавалася б, амаль вар'яцкае пытанне.

Яны пахавалі маці ў Крэве, дзе яна нарадзілася і куды хацела вярнуцца на вечны спачын – да бацькоў, да дзядоў, да продкаў… Побач з ёю пакінулі месца для бацькі, які не змусіў маці доўга чакаць яго.

Бацькавы продкі – на беразе Волгі, там ягоныя крэўныя магілы, і ён, калі памёр, не хацеў класціся ў Крэве. Гэтак упарціўся, што, калі Віктар з Янам везлі яго ў труне на крэўскія могілкі, спыняў іх, не даваў ехаць машыне, глушыў і глушыў, як спрактыкаваны механік, матор. А перад тым ён ляжаў пад абразамі ў тым жа пакоі, у якім ляжала нядаўна ў труне маці, і Віктар, стоячы на тым жа месцы, на якім бацька развітваўся з ёю, пытаўся, над труной схіляючыся: «Хто гэта?..» І ўспамінаў, калі ўжо хавалі бацьку побач з маці ў Крэве, як схіляліся яны некалі над хуткаплыннай вадой рэчкі Крэўлянкі, адбіваліся ў ёй разам з небам і аблокамі, і маці пыталася ў яго, малога, на ягоны адбітак паказваючы: «Хто гэта?.. Ну, скажы, хто?..» – а ён кідаў у ваду, у неба з аблокамі каменьчыкі, і ў кружным рабацінні на вадзе не ставала нікога.

– Ну вось, – сказаў ён, калі па бацьку справілі хаўтуры, разышліся людзі, і яны ўдвух, браты-сірaціны, сядзелі за недаедзеным, недапітым, бо накупілі ўсяго, каб бедна не выглядала, памінальным сталом. – Нікога ў нас не засталося, Ян.

Брат не згадзіўся.

– Чаму нікога? Я ў цябе ёсць, ты ў мяне… – і Віктар спытаў, кілішкі наліваючы:

– Ты так думаеш?..

Ян хоць і звык да гэтакіх размоў з братам, але не любіў іх, называў выкрутасамі, таму і цяпер нервова кілішак адсунуў:

– Зноў выкрутасы?

Кілішак зачапіўся за нож, кульнуўся, і зеленаватая, настоеная на дзівасіле гарэлка плюхнула на абрус. Маці зараз пабегла б на кухню, схапіла б рушнік, падклала б пад абрус, «бо ад гарэлкі паліроўка на стале беліцца», а яны глядзелі, як абрус намакае, зелянее, як шырыцца мокрая пляма на ім, і нічога не рабілі, нібы ніколі болей не сядзець ім у бацькоўскай хаце за гэтым сталом, засланым белым з вышыванкай матчыным абрусам.

– Давай лепш прыкінем… – сам сабе наліў Ян, – што з хатай рабіць будзем? Прадаваць?.. Я б не прадаваў. Угаспадарыўся б тут, каб пад старасць жыць было дзе…

Ён сказаў і чакаў. Дадаў, чакаючы:

– Ты ж на зямлю не вернешся.

Чаму не?..

– Вып'ем за бацькоўскую хату, – падняў кілішак Віктар. – Цяпер, Яне, яна твая. Але ў ёй іхнія галасы… Спадзяюся, ты не будзеш супраць, калі я раптам наведаюся, каб іх паслухаць?

– І галасы – выкрутасы, – сказаў Ян, і яны выпілі.

З хатай вырашылі.

– Цяпер пра іншае, – падсунуўся Віктар да брата. – Пра тое, што ў хаце…

– Шафа яшчэ даваенная, – крутнуў галавой Ян у адзін, у другі бок. – Саматробная. Кніжная паліца таксама самаробка. Акардэон… Ну, ён і так твой, я граць не ўмею. Стол, чатыры зэдлі і канапа… Можаш забіраць.

Ян, не спяшаючы ўдавацца ў Віктаравы «выкрутасы», звычайна прасіў: «Давай спярша пра рэальнае». А рэальнымі ў хаце былі шафа з выпаленай

на левай дзверцы ластаўкай, акардэон, ложак, кніжная паліца, стол, чатыры зэдлі і канапа, на якой Віктар апошні раз і застаў маці, калі заехаў да бацькоў па дарозе ў Вільню... А перад тым прыляцела да яго ў сне вось гэтая, якая на дзверцы шафы выпаленая, ластаўка.

– Я не пра тое, Ян. Я пра цябе, які ёсць у мяне, і пра мяне, які ёсць у цябе. Пра нас з табой, якія былі ў бацькоў. Дык вось ці ёсць? І ці былі?

Брат паглядзеў на яго амаль пакутліва.

– Калі ты пра бацьку…

– Якога мы пахавалі не там, дзе ён хацеў! Пахавалі супраць ягонай волі, каб…

Ян не даў яму дагаварыць, нервова ўскочыў:

– Каб пакласці побач з маці! Каб ён не ляжаў у пустым стэпе над Волгай! Каб нам не ездзіць…

– Каб нам не мець лішніх клопатаў!

– Няхай так! Каб ён не ляжаў у пустым стэпе над Волгай – і каб нам не ездзіць да яго за тысячу вёрст, не мець лішніх клопатаў! Яны табе патрэбныя? Мне – не!.. А калі ты пра маці, дык пра яе я ўсё чуў. Ты казаў на памінках. Нават не казаў! Прамаўляў!..

«У дзяцінстве, ранкам прачнуўшыся, – прамаўляў ён на памінках, – я амаль заўсёды знаходзіў свае чаравікі – кожны паасобку – у розных кутах. Дзед казаў: "З табой дамавік гуляе". Хоць ведаў, што звычка ў мяне такая: кідаць, кладучыся, чаравікі абы-куды. І прыкмета аднекуль узялася: ісці ў адным чаравіку – скарачаць зямны шлях маці. Колькі крокаў ступіў – на столькі дзён скараціў. Таму, абуўшы адзін чаравік, я скакаў да другога на адной назе, але колькі я на адной назе ні скакаў – маці ўсё адно памерла.

Мы не можам ніяк, нічога і нікога ўратаваць?..

Хіба нельга было ўзяць адзін чаравік і басанож падысці да другога?.. Можна было. Але такое простае вырашэнне праблемы жыцця і смерці ніводнага разу не прыйшло мне ў галаву».

– Ты прамаўляў пра сябе! – выгаворваў яму Ян. – Нібы ты памёр! А памерла маці!

– Маці памерла, бо я ў Вільню з'ехаў! А пасля не павёз яе ў Мінск!

– Дык пра гэта б і казаў! Што не павёз. А то дамавік, дзед, чаравікі… Глядзелі на цябе, як… Думаеш, нехта зразумеў?

– Я казаў табе!

– Ён мне казаў! Для чаго ты мне казаў гэта? Каб я цябе суцешыў?.. Ну, калі хочаш, я таксама не павёз бы. Бо сапраўды лекаванне адно і тое. І насамрэч магла ў дарозе памерці. Вось што б ты тады рабіў?.. Я ў цябе першы спытаў бы: ты чаго яе ў Мінск папёр, калі дактары забаранялі?

Так. Ян спытаў бы.

– Дык невядома, што было б, Ян! Можа, не памерла б... Жывая была б! Цяпер шанец у тым, што магло быць, а не ў тым, што ёсць. Разумееш? У тым, што ёсць, шанцаў ніякіх! Бо яе няма. Хоць, можа, магла быць...

Ян не вытрываў:

– Можа! Невядома! Ты дастаў! – і вось тут Віктар сарваўся.

За час паміж смерцю маці і бацькі адчуванне віны яшчэ болей абвастрылася, бо ўвесь гэты час ён быў не дарэшты шчырым не толькі перад Янам – перад сабой, перад Богам, бо калі нават да споведзі пайшоў, не сказаў святару тое, што не дагаварыў Яну, калі памерла маці, і пра што цяпер, калі пахавалі бацьку, стаў казаць, крычаць за памінальным сталом, заікаючыся паўзамі, бо казаць было нялёгка:

– Не толькі таму, што дактары!.. Што лекаванне аднолькавае!.. У Вільні кніга мая выйшла... я на прэзентацыю ехаў. І калі маці даглядаць, усё зрываецца... А там сустрэча! З прадстаўніком выдавецтва! Не абы-якога, а такога, выдацца ў якім – гонар! Сусветна вядомага!.. Яны кнігай маёй праз літоўцаў зацікавілася... Дамову склалі – толькі падпісаць! З перакладам на ангельскую! А гэта... Гэта такі шанец!.. І маці як адчула, ты ж ведаеш, яна заўсёды ўсё адчувала... «Едзь, – кажа. – Чым ты мне тут дапаможаш?..» Нібы яна нешта іншае сказаць магла... Не магла ж яна сказаць: «Яшчэ будзе ў цябе процьма кніг, прэзентацый, перакладаў!.. А мяне – не будзе...» І самае страшнае... самае страшнае, што нават... што калі б нават так і сказала...

Ён змоўк.

Ян схадзіў на кухню, прынёс рушнік, прыкрыў ім пляму на абрусе... Цяжка сеў:

– Выкрутасы гэта.

– Не.

– Выкрутасы! Бо навошта ты гэта сказаў? Хто ў цябе пытаўся?.. Я пытаўся?

– Не.

– Тады навошта? Я не разумею!..

Віктар убачыў, што брат псіхуе, падумаў: «Што гэта я сапраўды? Яму ж таксама цяжка... Можа, нават цяжэй, чым мне...» – і падняўся, абняў Яна, прыціснуў галаву ягоную да грудзей, прашаптаў на вуха: «Каб нікому іншаму пра гэта не казаць, брат...»

Гэтак, абняўшыся, яны леглі спаць на бацькоўскім ложку – і сніліся адзін аднаму.

## LIII

Крыж перастала біць дрыжыкамі.

– Я пасланы любіць, а не судзіць, – доўжыў Хрыстос. – Але ўсе тут чакаюць суда, а не любові. Бо ведаюць, што любіць няма за што. Бо грашаць. Бо прадаюць, забіваюць... І я падумаў: калі чакаюць, дык няхай дачакаюцца. Няхай ён будзе. Няхай не страшны, але суд. І адразу ўбачыў, што кожны чакае суда над кім заўгодна, але не над сабой, – казаў Сын Божы, і відаць было, як пакутуе Ён праз тое, што кажа, а Ганна, мусібыць, падумала, што суд пачынаецца, зашаптала пад крыжам: “Скажы, што цябе забілі... Што Сталін забіў,” – але Купала не захацеў яе пачуць.

Затое захацеў пачуць Сталін.

– І што? – спытаў ён ужо без той гарачай, бо хваля страху сышла па крыжы ў зямлю, дрыготкі, якая была нядаўна ў голасе. – Калі нават забіў, дык гэта мая віна. Але не ягонае апраўданне. Так і патрыярх Ціхан, і бязбожнік Кашкадамаў апраўдацца могуць: “Сталін забіў нас!” Хай нават так, хай забіў. Але ж не дзяцей нявінных. Гэта хіба грахі з іх здымае?.. Калі здымае, дык чаму зараз мы на адным крыжы з настаўнікам Хрыстовым?..

Хрыстос усміхнуўся. Купала ніколі не бачыў Яго такім на абразах, паспрабаваў уявіць усмешлівага Хрыста на крыжы – і не здолеў, падумаўшы: як яны далёка адно ад аднаго, усмешка і крыж.

– Я не сказаў, што настаўнік, я сказаў, што ў яго імя майго настаўніка, – прамаўляў далей, ужо не ўсміхаючыся, Хрыстос. – Імя прарока. І я падумаў... – глянуў Сын Божы ў напружаныя твары апосталаў... – я падумаў, што гэта знак. Толькі які? Знак таго, што спраўдзяцца іх прароцтвы, Хрысціцеля і Паэта, ці знак таго, што не?.. – перавёў Ён

позірк на Купалу і дагаварыў ледзь чутна, так, што Купала падумаў, што ён адзін Яго пачуў. – Як і мае.

Пачуў Хрыста не толькі Купала, які звык за сваё жыццё да таго, што ніхто не чуе нікога. Але тут, на гэтым судзе, калі гэта быў суд, выходзіла так, што не чулі адзін аднаго і нікога хіба тыя, каму не трэба было чуць, а ўсе астатнія чулі ўсіх і кожны кожнага, як бы ціха хто не прамаўляў, ці калі нават маўчаў.

– Што?.. Што Ён сказаў?.. – крутнулася ў бок Купалы галава патрыярха Ціхана, які, пэўна, вар'яцеў праз тое, што бачыў і чуў, а святы Ян, які сядзеў побач з Хрыстом, паклаў сваю руку на руку ягоную: "Мы можам паспачуваць Табе, але не можам дапамагчы. Нам тое не дадзена, Бог дапамагае сабе сам".

Сталін грукнуў патыліцай у крыж: "Якія ў вас не праўдзіліся прароцтвы?.." – а Хрыстос кіўнуў Яну: "Так. Бог усё – сам. Але вы можаце Ягонае падзяліць, – узяў Ён адной рукой хлеб са стала. – Як мне разламаць яго адной рукой?.. – Аніхто з вучняў не адказаў яму, як, і тады Ён працягнуў хлеб Юду. – Вазьмі другой рукой. – Той узяў, яны разламалі хлеб напалам, і Хрыстос паклаў сваю палову пасярэдзіне стала. – Так можна падзяліць не толькі хлеб".

Купалу здалося, што Хрыстос чакаў, што нехта з апосталаў возьме палову хлеба і з Ім разломіць, а потым нехта палову паловы... але ніхто не ўзяў. Увогуле выглядала, што Ён і вучні Ягоныя вядуць нейкую даўнюю размову, у якой ніяк не могуць прыйсці да згоды, а тое, што яны доўжаць гаворку тут і цяпер, і што Сталін, Купала, маршал Тухачэўскі і народны камісар Берыя, паганцы Няжыла і Кумец з Кругляцом, патрыярх Ціхан і капітан Забіякін, уся Красная плошча з тысячамі жывых і мёртвых людзей сталі яе сведкамі, проста выпадак.

– Ён хоча, каб нешта з таго, чым Ён засмучаны ці заклапочаны, вучні Ягоныя ўзялі на сябе. Ці нейкую адчувае віну і чакае, што апосталы яе падзеляць, – няўпэўнена прагаварыў Купала, і Сталін сказаў, хмыкнуўшы: "Не дачакаецца".

Купала таксама падумаў, што наўрад ці... Калі ў людзей, якіх мільёны, заўсёды вінаваты адзін, дык што ўжо казаць пра адзінага Бога...

Хрыстос хоць і заняты быў гаворкай з вучнямі, але і гэтым разам пачуў непрамоўленае.

– Усё ў свеце праз Бога, а не праз выпадак. Ты не верыш у сябе. А гэта найгоршае для прарока. Нават горш за недавер людзей да пароцтваў.

– Да якіх?.. – не супакойваўся Сталін. – Да якіх прароцтваў? Пра беларускае царства сінявокіх людзей?.. – а Сын Божы, зноў не звярнуўшы ўвагі на нервовага Сталіна, казаў да апосталаў.

– Але і безадносна да таго, што ён прарок і што вяршыць суд над ім можа толькі той, хто даў яму дар прарока, я кажу вам, што нельга судзіць нікога за грахі ягоныя на чужым крыжы. І не мусіць ніхто несці чужы крыж. Ні цяжэйшы, ні лягчэйшы. Кожнаму несці свой.

– Няхай так, – згадзіўся Юда. – Толькі ён сам хоча, каб яго судзілі. Ён жа не сказаў, што невінаваты.

Хрыстос паківаў.

– Не сказаў. Але паэт – не цар. Ён не можа гэтак сказаць на адным крыжы з вінаватым, бо лічыць, што вінаваты ягонай віной. Як і я лічыў, калі мяне раскрыжавалі разам з разбойнікамі. Я пытаў сябе: чаму я з імі? Ці не таму, што ў тым, што яны разбойнікі, ёсць і мая віна?

Са слоў ягоных няцяжка здагадацца было, што кажа Ён не толькі пра сваю віну. Ён кажа і пра віну тых, да каго звяртаецца, таму па тварах апосталаў блукала маўклівая нязгода. Лічыць сябе вінаватым у тым, што ў свеце ёсць тыраны, разбойнікі, забойцы, ніхто не хацеў. Ніхто, апроч Хрыста, якога спакушаў "лётчык" учыніць Страшны суд: зрабіць тое, што можа зрабіць толькі Бацька ягоны.

"І што тады? Бог зазлуе на Сына свайго, які ўявіў сябе роўным Богу? Пракляне? Як пракляў Сатану, які роўным Богу сябе палічыў? Гэтага хоча Лётчык?" – думаў, спачуваючы Хрысту, Купала, а Сталін сказаў: "Ды Ён сам хацеў бы Страшны суд учыніць! Але баіцца. Бо ўжо зрабіў не сваё, паабяцаўшы Божае царства. – І ўбачыўшы, як паляўнічым сабакам наструніўся на Хрыста Лётчык, дадаў: – Дарма Ён павінаваціўся. Мацнейшы, калі вінаваціцца, ужо не мацнейшы. Не Бог".

– Дык узыдзі на крыж, калі вінаваты, – раптам прамовіў да Хрыста, у бок лобнага месца кіўнуўшы, Лётчык. – Ці двойчы ў ваду Іярдана не ўваходзяць?..

Гэта быў першы адкрыты выпад Лётчыка супраць Сына Божага, які ён дазволіў сабе, пэўна, таму, што ўбачыў расколінку ў адносінах Хрыста з апосталамі, і вырашыў расколінку пашырыць. Калі б нехта з апосталаў, нязгодных падзяляць з Хрыстом віну за недасканаласць свету, запярэчыў Лётчыку, на тым бы ўсё і скончылася. Але ніхто не запярэчыў, і Хрыстос, пакутліва паглядзеўшы на кожнага з вучняў сваіх, пачаў паволі, нібы спавядаючыся, прамаўляць да іх і да ўсіх тое, што ўжо чуў ад Яго ў сне, убачаным на трэці дзень па смерці, Купала.

## 54

Праз смерць бацькоў, праз данос Мацвеева і страх арышту, праз усё, што апошнім часам сталася, Віктару было не да Індыі, ён ужо й забыўся пра яе, калі Ганне патэлефанаваў Грачын і сказаў, каб збіраліся: купленыя квіткі.

«Гэта наша дзіця і наш паратунак, – сказала Ганна. – Ці ты ў Крэва паедзеш ратавацца?..»

Яны прачнуліся ў велізарным нумары гатэля ў Калькуце на шырачэзным ложку, па якім роўненька паміж імі, адліваючы срэбрам, паўзла змяя. Такая ж самая, што на карціне насупраць акна абвівала фалас, які ў Індыі называецца лінгамам, і пра які ім сказалі, што гэта бог Шыва. А тая срабрыстая, што абвівае лінгам, змяя з падобным да свастыкі малюнкам на галаве – каралеўскай кобра.

У змяі, якая павольна паўзла паміж Віктарам і Ганнай, быў на галаве малюнак, падобны да абсечанай свастыкі.

Кобра! Каралеўская! Не нейкі там меч паміж Ізольдай і Трыстанам!

Голыя, нават прасцінай не накрытыя, бо ў нумары горача было, яны ляжалі, знерухомленыя страхам, не ведаючы, што рабіць.

Змяя, здавалася, нават не паўзла, а цякла, як ртуць, ад ног да ўзгалоўя. Прыпыніўшыся каля Ганіных сцёгнаў, прыпадняла над пушком вагіны, ёні, як называюць яе індусы, галаву, нібы раздумваючы: ці не ўвайсці ў Ганю? – тая сутаргава сціснула ногі. Змяя спружынай слізнула вышэй, узнялася над іх галовамі, паглядзела вачамі, якімі глядзіць звычайна, напаўняючыся жаданнем, жанчына, на Ганю, на Віктара, перацякла цераз спінку ложка і схавалася пад ім.

Яшчэ з чвэрць гадзіны яны ляжалі, баючыся зварухнуцца.

– Пазвані... – нарэшце ледзь чутна сказала Ганна. – Шнурок справа ад цябе...

Гатэль быў стары, яшчэ, мусібыць, каланіяльны, са шнурамі ў нумарах, працягнутымі да званкоў за дзвярыма, каб выклікаць гатэльных служкаў. Шнур таксама быў сплецены ў выглядзе змяі, Віктар асцярожна падняў руку, торгнуў шнурок, званок дзвінкнуў, і тут жа, нібы чакаў за дзвярамі, увайшоў маладзенькі індус. Ветліва кіўнуў і, ніяк не зважаючы на тое, што перад ім аголеныя мужчына з жанчынай, прайшоў да ложка, выцягнуў з-пад яго змяю, ускінуў яе на шыю, зноў кіўнуў і выйшаў.

Калі за ім зачыніліся дзверы, Віктар нечакана адчуў, што захлынаецца не толькі страхам, але яшчэ і тым, чым былі напоўненыя вочы змяі. Зірнуў на Ганну – у яе былі гэткія ж вочы. Прахалоднай ад страху і гарачай ад жадання змяёй яна слізнула пад яго – і на старым каланіяльным ложку ў Калькуце яны кахаліся з гэткай жарсцю, так доўга і так неспатольна, як некалі на падлозе качагаркі ў Маскве і на Юр’евай гары ў Крэве.

– Свята змяі! – выдыхнула, апошні раз скалануўшыся і абмякшы, Ганна. – Гэта на яго мы прыехалі ў пяты дзень месяца шравана!

Пра тое, што свята змей адзначаецца ў пяты дзень месяца шравана, які ўбірае ў індуісцкім календары апошні тыдзень ліпеня і тры тыдні жніўня, сказала ім яшчэ ў Дэлі прыстаўленая да Ганны, дачкі члена Палітбюро ЦК КПСС, памочніца, маладая жанчына з іменем Рачана, падобная да сакратаркі дырэктара антыкварнай крамы Сюзаны, толькі ў індыйскім варыянце. Ганна папрасіла яе растлумачыць, што такое індуізм, чым ён адрозніваецца ад хрысціянства, і Рачана ў самалёце з Дэлі ў Калькуту тлумачыла: «Гэта проста. Індуізм на санскрыце – сана́тана-дха́рма. Вечны шлях, вечны закон. А на вечным шляху пры вечным законе не абавязковая прысутнасць бога, таму ў індуізме шматбожжа. У ім няма стваральніка свету, у строгім сэнсе гэта нават не рэлігія, а светапогляд. Не столькі разуменне жыцця, колькі ягонае адчуванне».

Паслухаўшы, Ганна сказала: «Зусім проста».

Калі яны выйшлі з аэрапорта ў Калькуце, да іх наблізіўся стары індус і папрасіў закурыць. Віктар працягнуў яму цыгарэту – індус адскочыў. Віктар зрабіў крок наперад – індус крок назад. Пасля, адступіўшы яшчэ на крок, паказаў рукой на лаву, каля якой яны стаялі. І тут Віктара працяла: ён з касты недатыкальных! Тое, пра што казалі Віктару ў школе, што, як яму ўжо тады ўяўлялася, мусіла быць у далёкай мінуўшчыне, у нябыце, жывое! Вось яно! – паклаў ён цыгарэту на лаву, і стары індус узяў яе, кіўнуў з удзячнасцю, прыкурыў…

Паляцець з Дэлі ў Калькуту параіла Ганне, прыняўшы яе ў сябе дома, Індзіра Гандзі, у якой была знаёмая, знакамітая на ўсю Індыю лекарка, што займалася аюрведай, лекавала ад усіх, у тым ліку жаночых, хваробаў, а да ўсяго была сястрой губернатара Заходняй Бенгаліі.

«Вам быць на прыёме ў прэм’ер-міністра Індыі не абавязкова, – сказалі Віктару ў савецкім пасольстве. – Паміж ёй і Ганнай Васільеўнай можа быць інтымная размова».

Яны нібы не ведалі, якія адносіны ў яго з Ганнай. «Інтымныя адносіны ў Індыі не азначаюць інтымных размоў?» – спытаў ён пасла, але той не стаў паглыбляцца ў інтымнае. Прыставіў да Віктара: «Каб вам было зручней…» – індуса з іменем Абхай, тварам падобнага да гэбіста, які і быў хутчэй за ўсё гэбіст, бо цягаўся за Віктарам неадступна. Нават на прыёме ў губернатара,

на які іх павезлі з аэрапорта, даўшы час толькі памыцца з дарогі: дзе і з кім Віктар – там і з тымі Абхай.

Гасцей у рэзідэнцыі губернатара было няшмат, затое служкаў – процьма. «Прыём выключна для вас», – сказала Рачана, праводзячы іх у пампезна дэкараваную залу, пасярэдзіне якой стаяў вялізны, такіх Віктар і не бачыў ніколі, слон, які быў такі белы, што можна было падумаць, нібы ён мармуровы, але слон быў жывы, і на ім сядзеў апрануты так страката, як, пэўна, павінен быць апрануты губернатар штата Заходняя Бенгалія, дырэктар антыкварнай крамы 300-й секцыі Упраўлення справамі ЦК КПСС Вензель. Вядома, гэта быў не ён, чаго дырэктару антыкварнай крамы сядзець на слане, слон не антыкварыят, але падабенства было такім, што і Ганна прыняла губернатара за Вензеля, і ўглядалася ў яго, задзіраючы галаву, пакуль слон не абхапіў свайго вершніка хобатам пад пахі і не апусціў на мармуровую падлогу.

«Індзіра папрасіла мяне чым-небудзь вас здзівіць, – пацалункамі рук павітаўся губернатар з дамамі і поціскамі – у яго была халодная рука Вензеля! – з мужчынамі. – Чым-небудзь такім, што вы запомнілі б. Дык спадзяюся, цяпер вы ўсё жыццё будзеце расказваць, што губернатары ў Індыі сядзяць у сваіх рэзідэнцыях на сланах. А цяпер прашу да стала...»

– Есці хачу, – пацягнулася ў каланіяльным ложку Ганна… Нагамі, жыватом, грудзямі, шыяй, яна заўсёды так, асобна кожнай часткай цела пацягвалася пасля любоўных дзеяў. – Дарэчы, ёсць змеі, самка якіх пасля гэтага зжырае самца.

– Няма такіх змей.

– Ёсць. Анаконды.

– Добра, што ты не анаконда.

– Скуль ты ведаеш, што не?..

– І праўда. Скуль я ведаю...

Яна прыўзнялася на локаць.

– Я б яе зжэрла.

– Каго яе? Змяю?

– Ганну.

– Якую Ганну.

– Жонку Вітаўта.

– За што?

– Калі ты ратуеш мужа, дык ратуй, сабой ахвяруючы, а не іншай.

– Тая іншая для яе ніхто.

– Тым больш. Тады гэта не ахвяра. Ганна нічым не ахвяравала. А Любоў…

– Што Любоў?

– Нават калі гэта так, як было ў нас сёння, усё адно яно не вартае жыцця. А яна палічыла, што вартае. Адно імгненне з каханым!.. І графіня Марыя Аляксандраўна, якая стала проста ўдавой пісьменніка Платонава, кажа, што каханне – гэта калі тваё жыццё не ў табе, а ў іншым чалавеку.

– Сказаць усё можна…

– Вось і я кажу… – падняўшыся, на цырлачках пайшла ў лазенку Ганна. – Кажу, што не ведаю, хто я. Ганна, Любоў, ці Марыя Аляксандраўна?..

Нібы нешта шукаючы ў сабе, яна вярталася і вярталася да гэтай размовы. За час, які чакалі яны квіткі на самалёт з Крэва да Індыі, столькі ўсяго было, нават данос быў, праз які невядома яшчэ, што будзе, а яна ўсё пра Вітаўта, пра ягоную жонку, пра Любоў – гэтак яе ўразіла тое, што ў Крэўскім замку Вензель паказаў.

Ганна выйшла з лазенкі – уся бліскучая. У пералівіста-змяінай, якая шчыльна аблягала яе, сукенцы, якой у Маскве на ёй Віктар ніколі не бачыў.

– Ты помніш, як называецца свята змей? На-га-пан-чамі!.. Давай застанемся на гэтым свяце і нікуды болей не пойдзем. Толькі паснедаем. Учора столькі ўсяго смачнага было, а я і не з'ела ні каліва – так мяне падобны да Вензеля губернатар на слане здзівіў. Слон гэта слон, а ён – гэта ён? Як ты думаеш?..

Віктар думаў, што слон – гэта слон. Хоць і белы.

На сняданку, калі яны распавялі пра змяю ў нумары, Абхай з Рачанай казалі весела: «Гэта забаўка тут такая. Прыгода на свята змяі. У вас жа пыталіся ўчора: вам нумар з прыгодай, ці без? Вы прамаўчалі. А маўчанне ў нас, як і ў вас, – згода. Вось і падкінулі ў нумар змяю… У Індыі яна – знак урадлівасці, вы ж па гэта сюды прыехалі?» – «А калі б укусіла!» – накінулася на іх Ганна, на што Абхай сказаў, што гэта выключана, бо, па-першае, джала вырванае, а па-другое, што можна лічыць першым, на сваё свята змеі не кусаюцца, за тысячы гадоў ніводнага выпадку такога не было, чаго не могуць патлумачыць вучоныя, але лёгка тлумачаць садху, святыя людзі.

– І як яны тлумачаць? – пацікавіўся Роберт Ружэвіч, з якім яны сустрэліся ўчора на прыёме: ён разам з жонкай прыляцеў з Масквы, каб выступіць у місіі Рама Крышны, прычым не з вершамі, а з лекцыяй, ён дзе заўгодна і з чым заўгодна мог выступаць, – але Абхай не паспеў яму адказаць, як тлумачаць садху тое, што змеі ў свята не кусаюцца, бо жонка Ружэвіча спытала: «А чаму да нас змяя не прыпаўзла, я ж прасіла нумар з прыгодамі?» – і Абхай развёў рукамі: «Каралеўская кобра ў гатэлі адна, а ў вас з урадлівасцю, наколькі я ведаю, усё добра».

У Ружэвічаў былі дзве дачкі.

– Учора вас прымаў губернатар, а сёння, Ганна Васільеўна, нам да ягонай сястры. Да лекаркі Дзеві-Марыі. Калі ў некага праблемы са здароўем, таксама можна з намі, Дзеві-Марыя ўсіх прыме, – абвесціла пасля сняданку Рачана, і ўсе сабраліся ехаць: праблемы са здароўем аказаліся ва ўсіх.

Селі ў падагнаны Абхаем старэнькі, шасцімясцовы, які ўжо гадоў 20 як не выпускаўся, мінівэн «Fiat 600», доўга ехалі на поўнач ад Калькуты ў бок Гімалаяў. «Аюрведа – народная медыцына, – тараторыла Рачана. – З санскрыту слова гэтае можна перакласці як веданне жыцця, якому навучыў нашых продкаў, першых індусцкіх лекараў, Брахма, і ў Дзеві-Марыі, да якой мы едзем, веданне ад яго, ад бога, і ў самой яе імя, калі перакласці з хіндзі, багіня, а другое імя яна прывезла з Еўропы, дзе вучылася на звычайную доктарку, і вы самі ведаеце, хто такая Марыя...»

Багіня ды яшчэ і маці Бога... Не ў кожнай лекаркі такое імя.

У канцы вузкай, нібы цясніна, з абодвух бакоў застаўленай машынамі вуліцы («Гэта чарга да Дзеві, людзі з усяго свету тыднямі чакаюць, але мы без чаргі») стаяў у падножжы невялікай гары звычайны еўрапейскі дом, які мог стаяць дзе-небудзь у падножжы Альпаў, у падворак якога выйшла, каб сустрэць гасцей, маладая жанчына ў блузцы і джынсах, пра якую можна было падумаць, што яна служанка «багіні» ці яе сакратарка, а Рачана сказала: «Знаёмцеся, доктар Дзеві-Марыя».

Дзеві-Марыя ніяк не выглядала на тую гімалайскую лекарку, якую яны чакалі ўбачыць: чорнавалосую ведзьму, ці сівую бабулю. Светлатварая з блакітнымі вачамі, яна і на індуску не падобная была.

– Мой бацька быў арыем, вы ж ведаеце, што арыі пайшлі з Гімалаяў, і ён быў свамі, гэта амаль тое самае, што махатма, святы, – казала, частуючы іх

кавай на верандзе, гэтая жанчына, на якую Ружэвіч глядзеў, як зачараваны, і, мусібыць, Віктар гэтаксама на яе глядзеў, бо ў Ганны торгаўся куточак роту, што бывала, калі яна трохі нервавалася. – Бацька з трох гадоў вучыў мяне народнай медыцыне, пасля вучылі манахі, потым я вучылася традыцыйнай медыцыне ў Еўропе, у Англіі, яшчэ ў Амерыцы ва ўніверсітэце Хопкінса і ў Расіі ў інстытуце Сечанава, так што не думайце, што я, як кажуць у вас, вядзьмарка. Дайце мне руку, – села яна каля Ганны. – Зараз я патлумачу спосаб дыягностыкі, якому навучылася ад бацькоў, ад манахаў, а тыя – ад багоў. Ён просты, але, каб бездакорна засвоіць яго, мне спатрэбілася амаль усё маё жыццё. Умоўна кажучы, чалавек – гэта тры контуры, па якіх цыркулюе энергія. Па крыві, па цягліцах і па костках, – паклала яна тры пальцы на руку Ганны там, дзе звычайна мераюць пульс, і куточак роту Ганны перастаў торгацца. – Ток гэтай энергіі нясе інфармацыю пра стан вашага здароўя, якую я здымаю пальцамі, як датчыкамі, з сэрца, лёгкіх, нырак, страўніка, палавых органаў, з кожнай кропкі вашага цела. Гэтаму нельга навучыцца ні ва ўніверсітэце Хопкінса, ні ў інстытуце Сечанава, – заплюшчыўшы вочы, засяроджана замоўкла на хвіліну Дзеві-Марыя, і ў гэтую хвіліну твар яе змяніўся: і без таго прыгожы, ён стаў тварам багіні, падобнай да багіні прыгажосці Лакшмі, жонкі бога Вішну, якой намаляваная яна ў храме Лакшмі-Нараян у Дэлі, паглядзець які, бо ён збудаваны пры бацьку Індзіры Гандзі, зацягнула Ганну з Віктарам Рачана. Праз хвіліну багіня Дзеві-Марыя расплюшчыла вочы, пагладзіла Ганну па руцэ. – У дзяцінстве вы перанеслі цяжкую інфекцыю, у вас хворая кроў, я дам лекі, усё будзе добра...

– А што ў мяне?.. – падсела да яе жонка Ружэвіча, потым падсеў Роберт, ёй і яму Дзеві-Марыя назвала іх хваробы, надавала пакецікаў з лекамі: «За дыягназ грошы не бяру, гэта не маё, божае, а за лекі, калі ласка, заплаціце, бо я мушу плаціць людзям, якія ў гарах збіраюць для гэтых лекаў карані, травы, мінералы... – і калі дайшла чарга да Віктара, дзіўная лекарка Дзеві паклала пальцы яму на руку і тут жа скінула іх з рукі. – Я хацела б асобна з вамі пагаварыць».

Яна правяла яго з веранды ў дом, у пакой, застаўлены кнігамі і завешаны фотаздымкамі, на якіх Дзеві-Марыя ўсміхалася побач з сусветнымі знакамітасцямі, палітыкамі, акторамі, спевакамі. На адным фотаздымку яна ўсміхалася з Мэрлін Манро, на другім з Хэмінгуэем, на трэцім з Элвісам Прэслі, на чацвёртым з Брэжневым, пад якім пасадзіла Віктара на канапу, яшчэ раз паклала пальцы яму на руку, яшчэ раз заплюшчыла вочы і стала, засяродзіўшыся, прыгажуняй, багіняй Дзеві-Марыяй, якая спытала: «Вы калі-небудзь бачылі сябе мёртвым? Ці некага падобнага да вас?»

Вось адкуль яна гэта ведае? Па току крыві дазналася?..

Ён учора бачыў яе брата, падобнага да Вензеля. Дык, можа, гэта ён сказаў ёй пра загінулага рускага паэта Віктара Маргера?

– Бачыў. Але гэта было як бы…

– Як бы як? Як бы не на яве?

– Так. Як бы не на яве. Нібы трызненне, галюцынацыі…

– А зараз у вас трызненне?

– Не.

– І ніякіх галюцынацый?

– Ніякіх.

– Як вы думаеце: чаму?

– Бо я здаровы.

– Бо вы… як бы гэта вам сказаць… не зусім жывы. Можна сказаць: мёртвы.

Апошнія словы яна сказала ціха, амаль шэптам – і ён напружана падумаў, што праз нечаканую смерць сваю павінен нешта адчуць. Жах. Боль. Роспач. Але нічога не адчуў. Зусім нічога. Нібы насамрэч памёр. Спытаў толькі:

– Як гэта? Па вашай дыягностыцы?

– Па вашай смерці. Гэта складана патлумачыць, але так бывае. Вы нежывы.

– А калі? Дзе я памёр?

– З паўгода таму ў самім сабе.

Ён і цяпер не адчуў нічога. Ні роспачы, ні болю, ні жаху.

– Вы можаце мяне ажывіць?

– Не. Я не багіня, лекарка. Але ў вас ёсць шанец. Той, хто сам у сабе памірае, можа сам у сабе ажыць.

– Ёсць такія лекі? Я куплю.

– Не. Вам на лекі не трэба траціцца. Ёсць іншыя спосабы. Розныя. Які ваш, я не ведаю. Таму не буду гадаць, гэта за межамі таго, чым я займаюся.

Яна нахілілася да яго, наплыла ўсім нябесным блакітам вачэй – і ён не стрываў, пацалаваў яе, каб пасля сніць і сніць гэты пацалунак з пахам ранішніх, асыпаных росамі горных зёлак, сказаў: «Можа, гэта дапаможа ажыць…» – і яна адказала лёгкім, як дыханне, пацалункам, ледзь крануўшыся ягонах вуснаў: «Можа быць…»

Яны вярнуліся на веранду, дзе на іх паглядзелі, чакаючы. Дзеві-Марыя сказала: «Цікавы выпадак…» – і праводзіла гасцей да брамы, за якой Ганна спытала: «Што цікавага?» – «Тое, што кожны на нешта хворы, а я абсалютна здаровы, і лекарка палічыла, што нявартa гэта пры ўсіх абвяшчаць, каб не пазайздросцілі і не сурочылі», – прыдумаў Віктар, на што Ружэвіч сказаў: «З забабонамі баба», – з чым і паехалі.

– Ты выглядаеш так, нібы памёр, – узяла яго за руку, калі пад’ехалі да Калькуты, Ганна, а Ружэвіч, гледзячы ў акно мінівэна, які павінен быў рассыпацца па дарозе туды, але не рассыпаўся нават па дарозе назад, сказаў: «А вось і могілкі. Брытанскія. Для тых, хто не быў, магу правесці экскурсію».

Экскурсіяй на могілкі ні Ала, жонка Ружэвіча, ні Ганна не спакусіліся, паехалі ў гатэль, а Віктар падумаў, што калі памёр, дык на могілках яму самае месца, хай сабе і на брытанскіх, і пайшоў з Ружэвічам, які сказаў Абхаю, што той вольны, у гатэль яны вернуцца пешшу, дарогу ён ведае.

– Запрашаю ў горад нашай будучыні, – упэўнена, відаць было, што не ўпершыню, пераступіў Ружэвіч цераз ланцуг з двума замкамі пры ўваходзе на могілкі. – Гэта не я прыдумаў, Кіплінг апісваў гэтае месца як горад. Яго можна назваць сталіцай Брытанскай Індыі. Ён меўся быць вечным – і такім стаў. Бач, якія надмагіллі на ягоных вуліцах! Сярэдневяковыя замкі, віктарыянскія палацы… І якія людзі ў іх жывуць! Вунь напісана на франтоне палаца: *Alass and Alackaday*. Гэта не штосьці банальнае кшталту «пухам зямля». Гэта тост! Пажаданне мець каханку і сто тысяч у дзень! Сто тысяч – капітал. А ім тут даставалася і па дзвесце! Менавіта па гэта ехалі сюды, наняўшыся ў Ост-Індскую кампанію, і дзеці англійскіх лордаў, і дзеці ірландскіх люмпэнаў. Тут, у гэтым гарадзе, і сын капітана Кука, і сын Чарльза Дзікенса. Сюды ж, у малярыйны край, ссылаліся афіцэры, п’яніцы і забіякі, карцёжнікі, і ўявіце, што варылася ў гэтым катле авантурыстаў! Тыя, каму пашэнціла, а шэнціла не многім, бачыце, у якім узросце яны ў гэтым вечным горадзе сяліліся: дваццаць тры гады, зноў дваццаць тры, дваццаць чатыры, дваццаць адзін,

дзевятнаццаць, – дабіраліся да пасадаў упраўляючых факторыямі, дзе хапалі шалёныя грошы. А пачыналі яны звычайна з клеркаў, былі пісцамі, якія за капейкі перапісвалі паперы і жылі ўсе разам, бо так танней было, у доме, які так і называўся, дом пісцоў, а цяпер называецца домам пісьменнікаў. Мінулым разам адна ангельская дама сказала мне, што слова пісьменнік, *Writer*, якраз і паходзіць са слова пісец, *Scribe*, а тое ў сваю чаргу з… за-за-забыўся слова, яно галандскага паходжання і азначае «клерк», – пачаў заікацца Ружэвіч, які заўсёды трохі заікаўся, а калі хваляваўся, заікаўся яшчэ больш. – Мы з вамі клеркі, Віктар, – прысеў ён на разламаную пліту каля надмагілля, на якім было напісана, што гэта дом паэта Генры Вавіяна, які жыве тут з 22-х гадоў. – Не паэты, а клеркі, пісцы савецкай імперыі, якая мае намер быць вечнай, але якая, як і Брытанская Індыя, стане могілкамі. З надпісам на маім надмагіллі, вось тут, – паляпаў ён па разламанай пліце: «Па нацыянальнасці я савецкі».

Віктар не чакаў убачыць у Калькуце, увогуле ў Індыі, дзе нябожчыкаў спальваюць і попел развейваюць, гэтакія могілкі. Іх фантастычныя, вар'яцкія, з палацамі і замкамі надмагіллі. Але яшчэ больш не чакаў ён убачыць на такіх могілках такога Роберта Ружэвіча. Самага савецкага паэта з усіх савецкіх паэтаў – і не толькі па нацыянальнасці.

Што з ім стала?

Можа, багіня Дзеві-Марыя таксама шапнула яму, што ён мёртвы?

У Віктара не было гэтакіх адносінаў з Ружэвічам, як з Кручам. Яны былі на «вы» – і трымалі дыстанцыю. Зрэдку сустракаючыся ці ў Маскве, ці ў пісьменніцкіх паездках, перакідваліся звыклымі для знаёмых людзей, не абавязковымі фразамі, іншым разам застольнічалі, але і ў застоллях дыстанцыя паміж імі заставалася дастатковай для таго, каб адчуваць яе і не спрабаваць збліжацца.

Хіба аднойчы...

Сапраўднае прозвішча Ружэвіча было Пяткевіч, нарадзіўся ён у сібірскім сяле Касіха, у мясцінах, куды ссылалі беларусаў. У Сібір з Беларусі былі сасланыя і продкі Кручы, які ў Хомічах на Палессі знайшоў свае карані і ўсім казаў, што ён беларус. Дык вось аднойчы Віктар спытаў Ружэвіча, калі той на літаратурную вечарыну ў Мінск прыехаў і пасля вечарыны яны выпівалі ў рэстаране на вакзале, чакаючы начнога цягніка ў Маскву: можа, ягоныя продкі Пяткевічы таксама з Беларусі, надта ж прозвішча беларускае.

Яны сядзелі за сталом пад фікусам, і Ружэвіч, які нідзе і ніколі не распавядаў пра сваю радню, сказаў: «Можа быць. Па сямейным паданні продкі нашы прыехалі ў Сібір з ашмянскім фікусам. Што такое ашмянскі фікус? Ёсць фікусы бенджаміна, бенедыкта, процьма розных гатункаў, але ашмянскага няма. Значыць, ён з Ашмянаў. Неяк я з'ездзіў туды з Танкевічам, там процьма Пяткевічаў. Як фікусаў. Які з маімі каранямі? Як знайсці, калі ніякіх дакументаў? Бацька ў пашпарце палякам быў запісаны, Танкевіч сказаў: "Ён гэткі самы паляк, як і я, заўсёды ўсіх, хто з гэтых мясцін, у палякі запісвалі", – і мы ў пару касцёлаў, якія незачыненыя былі, заехалі, касцёльныя кнігі глядзелі, але ж там не відаць, якіх Пяткевічаў у сібірскае сяло Касіху выслалі... А бацьку майму польскасць ягоная далася ў знакі. Ён у НКВД служыў, на высокай пасадзе быў у Омску, але пачалося паляванне на "польскіх шпіёнаў", яго звольнілі, і ён, каб не гукнулася гэта сям'і, каб мы не сталі сям'ёй ворага народа, развёўся з маці. Каб не арыштавалі, недзе хаваўся, а потым знайшоўся на фінскай вайне, пасля на Айчыннай, пад канец якой загінуў. І цяпер няма каго спытаць пра ашмянскі фікус…»

Віктар чытаў аўтабіяграфію Ружэвіча ў зборніку паэзіі 60-х гадоў. Там: «Мая біяграфія – гэта біяграфія краіны». Як бацькі ягоныя пайшлі на фронт, як марыў ён хутчэй падрасці і біць фашыстаў, як ганарар за свой першы надрукаваны верш у фонд абароны здаў. А пра тое, што расказана было ў вакзальным рэстаране пад фікусам, ні слова.

Тыя вакзальныя пасядзелкі на адносіны іх амаль не паўплывалі. Ні раней, ні пазней не здараліся ў іх такія адкрытыя, на выварат душы размовы, як у Віктара з Кручам. І раптам…

Чаму?

Можа, таму, што абодва выступілі ў Палацы з’ездаў, дзе Ружэвіч свой верш «Па нацыянальнасці я савецкі» на свята рэвалюцыі чытаў? І цяпер яны як бы ў адной лодцы – і ім трэба веславаць у адзін бок: «Я в Державу верую – вечную! Эту. Красную по смыслу. По флагу. По цвету». Але ж зараз Роберт Ружэвіч зусім не ў той, у адваротны бок вяслуе!

– Якімі жарсцямі, з якім напалам жылі гэтыя людзі! – рушыў Ружэвіч далей па сталіцы Брытанскай Індыі. – Роз Айльмер з Уэльса, сямнаццаць гадоў, бачыце, ёй вершы прысвечаныя. Што прывяло цябе ў сямнаццаць гадоў з Уэльса ў Індыю, Роз?.. Элізабет Сандэрсан, 23 гады… Люцыя Пальк, таксама 23, таксама з вершамі на надмагіллі… Як коратка – і як напоўнена, два жыцці ў адным яны пражылі! Жыццё Брытаніі і жыццё Індыі… Мы так не жывём, да старасці цягнем і жывымі паміраем, – неяк дзіўна, нібы нешта ведаў пра яго, чаго не ведаюць іншыя, паглядзеў ён на Віктара, але таго, што ведае, не сказаў. – А вунь вуліца са знакамі вольных муляроў… Дзе грошы, дзе золата, дзе таямніцы, там, вядома, масоны...

Ружэвіч падняўся ў альтанку, якая нагадвала індуісцкі храм, у якім было напісана, што гэта храм генерал-маёра Чарльза Сцюарта, які пасяліўся тут у 1828 годзе і які быў адзін з нямногіх, хто пасяліўся тут не маладым – усё ж патрэбны быў час, каб да генерал-маёра даслужыцца.

– Заходзь! – раптам перайшоўшы на ты, чаго раней між імі не здаралася, запрасіў Ружэвіч так, нібы тут, у альтанцы на брытанскіх могілках жыве. – Я, між іншым, размаўляў з адным генералам пра тваю праблему. Круча мне пра яе сказаў. Мы з ім куды больш блізкія, чым некаму здаецца. За намі гады студэнцкага сяброўства, а ты сам ведаеш, што гэта такое. У яго з тым генералам не склаліся адносіны, а ў мяне склаліся. І Круча папрасіў мяне сяброўствам скарыстацца. Я сказаў генералу, што нявартa ламаць лёс чалавеку, які па маладосці нешта не тое напісаў. А ён зрабіў выгляд, нібы не разумее, пра што я? «У нас да паэта Віктара Маргера няма ніякіх прэтэнзій, ён цудоўна выступіў на з’ездзе партыі». Я падзякаваў: няма, значыць, няма. Значыць, пытанне вырашанае. Ён тады: «А што вы, Роберт Станіслававіч, маеце на ўвазе пад нечым не тым, што напісана ім у маладосці?» Пад’ялдыкнуў, даў зразумець, што я на цябе настукаў. Дык я так і не ўцяміў: ёсць у іх на цябе што-небудзь ці няма?..

Гэта ўжо было поўнай нечаканкай – Віктар разгубіўся. Не ведаў, што сказаць. Але штосьці сказаць, падзякаваць Ружэвічу, што заступіўся, трэба было, і ён, падзякаваўшы, спытаў, трохі заікаючыся праз разгубленасць, як Ружэвіч: «А чаму, Роберт Станіслававіч?.. Чаму вы за мяне заступіліся, мы ж з вамі не ў такіх адосінах, каб...» – і Ружэвіч перапыніў яго: «Бо ёсць такая рэч у паэтаў: цэхавае братэрства. Як у масонаў. Табе Круча хіба не казаў пра гэта?»

Круча казаў. Але Круча не падобны да масона. А Ружэвіч падобны: пра

ягоныя сувязі, праз якія ён мог любую праблему вырашыць, па Маскве легенды хадзілі.

У два бакі вяслуе.

Ды хіба адзін ён?.. Што цяпер, што раней… Маякоўскі, які пад Леніным чысціўся, Купала, які дулю ў кішэні Сталіну паказваў. Але так не можа быць, каб і дуля ў кішэні, і ордэн на грудзях. Тут або-або. Таму адзін застрэліўся – і ні пры чым Ліля Брык, а другі з лесвіцы сторч галавой – і ні пры чым Паўліна Мядзёлка.

Я памёр – і ні пры чым Ганна Трубяцкая.

– Калі сказалі, што ў іх да мяне ніякіх прэтэнзій, дык, можа, ні пры чым Мацвееў? – ужо без заікання ўдалося прагаварыць Віктару. – Можа, нічога і нікуды ён не дасылаў, разыграў усіх, нагаварыў абы-чаго ў качагарцы, бо п’яны быў.

Ружэвіч паківаў галавой:

– Наўрад ці... Ён у такія гульні не гуляе. Калі мы з Алай пажаніліся і нам не было дзе жыць, дык не сакратар Маскоўскага гаркама партыі, як пра тое байкі баяць, а Мацвееў, які быў пры Саюзе пісьменнікаў дворнікам, дапамог нам пасяліцца ў падвале «дома Растовых». Я добра яго ведаю. Ёсць парода людзей, якія найбольшай здрадай лічаць не здраду сяброўству ці каханню, а здраду перакананням. Прынцыпам. Мацвееў з гэтай пароды. Я так не лічыў і не лічу, перакананні і прынцыпы ў чалавеку мяняюцца, а ён лічыць, што не мусяць мяняцца. Калі ты даў прысягу чырвонаму сцягу, дык да канца, калі беламу – да канца таксама. За прынцыпы ён змагаецца любымі спосабамі – тут у яго прынцыпаў няма. І ён не хавае гэтага. Так што, калі сказаў, што даслаў, значыць, даслаў. Іншая рэч: да каго яно ў рукі патрапіла? Можа, і не да нашага генерала, а да генерала Чарльза Сцюарта. А генерал Сцюарт нашаму генералу нічога не сказаў.

Такое магло быць. У любым выпадку цяпер зразумела, чаму Круча прапаў са сваёй прапановай дыялогу ў «Літаратурнай газеце». Вырашыў дзейнічаць інакш. Патаемна, як масоны.

– Давай вып’ем, – нечакана прапанаваў Ружэвіч. – Памятаеш, як пад фікусам выпівалі?.. Цяпер пад пальмай… Багіня Дзеві-Марыя нейкі напой ад усіх хваробаў дала, паспрабуем? Хоць ты і здаровы…

І зноў ён гэтак зірнуў, нібы нешта пра Віктара ведае.

Каму сказаць, што здаровы, бо не жывы? Ганне не скажаш. Яна хоча дзіця. Не ад мёртвага ж мёртвае, як у казцы, якую расказвала некалі маці. Сказаць Ружэвічу?.. Калі ён так адкрыўся…

– Я мёртвы.

– Што?

– Багіня Дзеві сказала, што я мёртвы.

– Як мёртвы?

– Ну, мусіць, не так, як гэтыя, што на могілках, але неяк мёртвы.

– Тады тым больш…

– Што тым больш?

– Тады тым больш трэба выпіць за здароўе, – адкаркаваў Ружэвіч бутэлечку з густа-чырвоным, як небасхіл на захадзе сонца, напоем. – І табе ўдвая болей, чым мне.

Выпілі.

Вось і ўсё. Выпілі – і ўсё. Ці ты яшчэ жывы ці ўжо не – без розніцы. Ружэвіч нават не здзівіўся.

І так праз усё жыццё. Адкрываешся людзям, чакаеш спагады, а ім усё адно.

– Гэта нармальна, – з'явіўся аднекуль знізу, Віктар нават зірнуў, ці няма люка ў альтанцы, генерал з такімі бакенбардамі, што яны ляжалі на ягоных аксельбантах. Мусібыць, генерал Чарльз Сцюарт. – Жывы пра мёртвага так, як мёртвы пра мёртвага, раман не напіша.

Віктар хацеў спытаць, адкуль генерал ведае, што ён раман пра мёртвага піша, але Ружэвіч апярэдзіў яго:

– Рады вас бачыць, генерал! – І паказаў уніз: – Як вам там?

Чарльз Сцюарт, а гэта быў ён, каму яшчэ ў ягонай магіле быць, расшпіліў гузік на кіцелі.

– Душнавата. Індыя. У Англіі было б прахалодней.

– Так, – згадзіўся з ім Ружэвіч. – У Англіі прахалодней, я бываў у Англіі.

Генерал зірнуў на яго, як пазіраюць на чалавека, які вядзе неабавязковыя, пустыя размовы, і звярнуўся да Віктара.

– Я чуў вашу размову. І хачу вам сказаць: памерлы не мёртвы, а ненароджаны жывы. Разумееце?.. Гэта адно – і гэта вельмі важна. Другое. Вы напісалі ў рамане...

Яны тут нават пра гэта ведаюць! Памерлыя не мёртвыя – і ведаюць пра ўсё?

– Я не дапісаў яго...

– Не дапісалі, бо засвавольлілі! Вам яго дыктавалі, і ў дыктанце не было ніякай нячыстай сілы, дык вы самі прыдумалі некага, хто падобны да д'ябла, каб скінуць на яго і тое нячыстае, што ў вашым героі, і тое, што ў вас. Дык вы ўжо, калі ласка, ці дыктант запісвайце, ці сачыненне пішыце – тут адно з двух. Кансэнсусу паміж Богам і д'яблам быць не можа.

– Моцна сказана, – пахваліў генерала Ружэвіч. – Не можа быць таго, чаго не можа быць. Але вось жа ёсць… Мы сядзім на магіле і выпіваем з тым, хто ў ёй ляжыць. Гэта хіба не кансэнсус?

– Я не выпіваю, – зашпіліўся генерал, нібы паказваючы, што тое, што ён хацеў сказаць, сказана, на іншае ў яго няма часу, і як з'явіўся ён аднекуль знізу, так некуды ўніз і знік.

Ружэвіч у тое месца, куды знік генерал, глядзеў задумліва. «Чаго з'яўляўся? – здавалася, напісана было на ягоным твары. – Каб сказаць тое, што сказаў? А што ён сказаў такое?»

Але надпіс на твары Ружэвіча прачытаў Віктар недакладна.

– Вялікі паэт! – задумліва глынуў Ружэвіч чырвонага, як неба на захадзе сонца, напою. – Які вобраз! Якая метафара! Геніяльны паэт!

– Хто?

– Чарльз Сцюарт.

– Чаму? Што ён сказаў?

– Ён паказаў!

– Што ён паказаў?

– Метафару.

– Якую метафару?

– Метафару ўсяго нашага жыцця. Мы прыходзім у жыццё расшпіліць і зашпіліць гузік. І ўсё!.. Хіба яшчэ, – гэтак жа задумліва паглядзеў Ружэвіч за спіну Віктара, – пакатацца на сланах.

Віктар азірнуўся: па вуліцы вольных муляраў тупалі тры белыя сланы. Наперадзе, на тым вялізным, якога бачылі яны ў рэзідэнцыі губернатара, сядзеў Вензель. Ці губернатар Заходняй Бенгаліі, але гэтак падобны да Вензеля, што не адрозніць.

– Ведаеце, як гэтага слана зваць? – спыніўся каля альтанкі губернатар. – Чарльз Сцюарт. Раней ён быў англійскім генералам, а цяпер ён – індыйскі белы слон. Вось гэта і ёсць пунарджанма. Ці больш зразумела: рэінкарнацыя. Па сутнасці – працэс эвалюцыі. Ад ніжэйшага да вышэйшага. І выходзіць, што на лесвіцы эвалюцыі індыйскі слон вышэй, чым англійскі генерал. Таму і цягне ўсіх пакатацца на сланах. Таго, які за мной, завуць лорд Гастынгс. Ён быў адным з заснавальнікаў Брытанскай Індыі, першым генерал-губернатарам Бенгаліі. Той, які за ім, Бенцінк, таксама лорд, першы генерал-губернатар усёй Індыі, віцэ-кароль. Выбірайце, каму які даспадобы, абодва цікавыя гісторыі распавядаюць…

Ружэвіч выбраў лорда Гастынгса, заснавальніка Брытанскай Індыі. Віктару дастаўся лорд Бенцінк, віцэ-кароль, які распавёў гісторыю насамрэч цікавую. Аказалася, што ён, калі стаў генерал-губернатарам, забараніў саці: абрад спальвання жонак разам з памерлымі мужамі. Усе думалі, што лорд – гэтакі гуманны еўрапеец, які не трывае дзікунства, а ён проста закахаўся ў маладую ўдаву, якую збіраліся спаліць. «Я ўратаваў яе, але не на шчасце, – сумна казаў Гастынгс. – Бацька ўдавы, які быў з секты вешальнікаў, тхагаў, што служылі багіні смерці Калі, у ахвяру ёй прыносячы людзей, задушыў дачку. Тады я знішчыў секту. І ўсе зноў падумалі, што я гуманны еўрапеец, які не трывае дзікунства, а я гатовы быў знішчыць, спапяліць усю Індыю. Ніхто не думае пра нас такіх, якія мы ёсць…»

Слон Гастынгс мерна тупаў па вуліцах Калькуты, Віктара закалыхвала ягоная хада, ягоная гісторыя, якая магла стаць сюжэтам рамана ці паэмы, і яму думалася пра тое, што калі ён, не маючы ніякіх шансаў нарадзіцца, усё ж з'явіўся на гэты свет, дык мог бы з'явіцца тут, і тады Індыя з яе сланамі магла б стаць ягоным жыццём, а калі б памёр, стала б ягонай смерцю, белым сланом, і яму хацелася, каб слон не спыняўся, каб ён тупаў і тупаў, пакідаючы за сабой Калькуту, Індыю, Азію і Еўропу, гэты і той свет, – але слон быў не ягоны...

У сны ўвайшлі твае сланы.
Ступалі за сланамі сны
І не належалі мне болей.

Іх сніў
не ў сутарэннях болю,
А ў храме радасці
манах.

Я з босых ног ягоных прах,
Схіліўшыся, сабраў рукамі,
І прахам асвянціў чало...

І, паўшы ніц, спытаўся:
– Свамі,[1]
Скажы мне:
што са мной было?

---

[1] *Свамі* – гуру, святы (*санскр.*).

***2***

– У сны твае
ўвайшлі сланы, –
Сказаў манах. – Але яны
Сваім ісці павінны шляхам.

Чало, што асвянціў ты прахам,
Вадой асвенчана святой.

Шлях з веры ў веру – шлях не твой.

***3***

«Чаму?» – спытаўся я не ўслых.

Не ўголас ён сказаў: «Ты з тых,
Чый шлях – зваротны.
Да чужых
Святых
ты рушыў са сваімі».

«Святыя могуць быць чужымі?» -
Здзівіўся я.

Нібыта ў шкло
Задымленае, глянуў Свамі,
І дым шкляны праплыў між намі,
Пусты, як тое, што прайшло.

***4***

– Устань, – сказаў манах. – Ты ніц
Дарэмна падаеш, прыкуты
Да саркафагаў і грабніц
Англійскіх могілак Калькуты.

Ты ў Індыі, – казаў мне Свамі, –
Але дарма марнуеш дні,
Упёршы вочы ў камяні.
Пустыя сны пад камянямі.

Усе, хто зараз сніць іх тут,
Дарма прайшлі свой шлях пакут,
Канаючы ад малярыі.

– Не, – я сказаў. –
Бо тут
Марыя.

– Ты знаў яе? – спытаў манах.

***5***

Гаруда, белы Божы птах,
Ляцеў – далёка ад Калькуты,
І двух аблокаў парашуты
Нёс тым, хто страціўся ў гарах.

– Марыя, нам уніз пара, –
Прасіў я, змучаны гарамі.

«Ты знаў яе?» – пытаўся Свамі.

***6***

Мандара, Божая гара,
Вяршыняй падпірала неба.

«Знямогшы без вады і хлеба,
Аслепшы без павадыра,
Зблукаўшы шлях – з якой пары я
І для чаго я тут, Марыя?»

– На тое, каб адолець шлях.

***7***

«Ты знаў яе!» – сказаў манах,
Падаў задымленае шкло,
І, як пры сонечным зацьменні,
Я ў шкло зірнуў...

Мільгалі цені,
Глядзеў я, што са мной было.

***8***

Увесь у жоўта-залатым
Стаяў манах на небасхіле,
Упэўнены ў спрадвечнай сіле
Таго, што свет заве пустым.

– Тут выйсце ў неба, – мовіў ён. –
Пераступаю я закон,
Наблізіўшы да зор жанчыну.
Ды шлях адолены. Прычыны
Для апраўдання мне стае,
Каб паказаць дарогу тую,
Дзе Веду зведаеш святую,
Марыя! Зоры ўсе – твае...

І ён накінуў на яе
Апратку жоўта-залатую.

***9***

– А хто за мной?
– Няма каму.
– А спадарожнік мой?
– Ён следу
Твайго не ўбачыць, бо яму
Час не настаў спасцігнуць Веду.

Ён вернецца. А ты – ідзі.

***10***

– Ты судзіш, Свамі?
Не судзі,
Я знаў яе, таго даволі.

Глядзі, як шкло іскрыць на сколе,
Ды што ў тых іскрах для сляпца?

Зваротны шлях – сляпы. Ніколі
Яго не пройдзеш да канца.

Па ім
вяртаешся ні з кім.

***11***

Плыў над зваротным шляхам дым
Ад Індыі да Беларусі...

– Я не хачу ісці па ім,
А незваротнага – баюся.

Шлях там,
дзе ўперадзе – сляды.

***12***

– Той шлях, – сказаў манах, – нікуды,
Па тых слядах мільёны люду
Сышліся ў гурт, у гарады.
У храмы іх, у іх суды
Ты б з Індыі вярнуўся, ды
Сюды прыходзяць адусюды –
Адсюль ісці няма куды.

***13***

Я ўніз ішоў.
Гара з гарою
Перагукаліся, сырою
Прасцінай поўз па схілах снег...
Лавіна!

Я дарма пабег
Па камянях,
па скалах слізкіх...

Дні прабягаючы, гады,
Не змог я збегчы гэтак нізка,
Каб падаць не было куды.

***14***

Лавіна падала –
на схіле
Раз’юшана, у самай сіле
Дагнала, душна абняла.

– Марыя! – крыкнуў я. – Марыя!.. –
І ўкрылі крык снягі сырыя.

***15***

Манах сказаў: «Яна дайшла
Дарогай Вед амаль да межаў,
З якіх звароту ўжо няма,
А ты вярнуў яе. Дарма».

***16***

Я не вяртаў. Лавінай снежнай
Яна вярнулася сама
Па камянях, па скалах слізкіх.

***17***

– Ты дзе была, Марыя?
– Блізка.
– Чаму на могілках англійскіх
На камені тваё імя?

– Бо шлях адолела дарма, –
Сказаў манах. – Бо не жанчыне
Пакінуць свет дарогай Вед,
Бо светам стаўся ёй паэт
Англійскі ў афіцэрскім чыне.

***18***

За нораў дзёрзкі і бунтоўны
Ён з метраполіі раптоўна
Адпраўлены ў Калькуту быў.
Тут ён гібеў, страляўся, піў,
Блукаў, зваротны шлях згубіў –
І ў дом патрапіў малітоўны.
Бог ведае, што за хімеры

Жылі ў англійскім афіцэры,
Ды выдумаў сабе паэт,
Што вернецца місіянерам
Дамоў, што прагне новай веры
Стары ягоны добры свет.

Ён кінуў піць. Пісаў увішна
Евангелле ад Рамакрышны,
Ствараў хімеру: Веру Вер.

Як сноб, на англіцкі манер
Хрыста аспрэчваў афіцэр.

Паслаў ерэтыка Ўсявышні
У горы.
Перад ім гара
Мандара ўстала – брама ў неба.
Аслаблы без вады і хлеба,
Асleплы без павадыра,
Караскаўся ён за хімерай
Дарогаю, якой не верыў,
Бо верыць не прыйшла пара.

І скінула яго гара
Лавінаю...

Яго ў снягах
Знайшла Марыя ледзь жывога,
Адняньчыла, нібы малога,
І, не адпрэчыўшы зямнога,
Згубіла свой нябесны шлях.

***19***

– Вам не ўзляцець, – сказаў манах,
Пакуль зямля цяжарыць крылы...

***20***

...Яна знайшла мяне, накрыла
Апраткай жоўта-залатой,
Сказала: «За мяжой пустой
Сырая снежная магіла –
І ў ёй усё, што я любіла».

***21***

«Шлях з веры ў веру – шлях не той?» –
Спытаўся я,
і з вуснаў строгіх
Пачуў адказ: «Адзін са многіх».

***22***

– То ў чым віна мая, Марыя,
Калі парывы ветравыя
Нясуць, нібыта дым шкляны,
Душу
зблуканымі шляхамі?

***23***

– Перад усімі, – мовіў Свамі, –
Нябесныя шляхі віны.
Зямным – зямное.
Дзеці самі –
З малога цешацца яны. –

І шкло іскрылася між намі,
Клубіўся ў ветры дым шкляны.

– І Веда Вед,
І Вера Вер –
Хімерныя, калі на згубу,
Адняньчаны, ідзе да шлюбу
Паэт, англійскі афіцэр.

Калі спасцігнуць Веду свету
Жанчыну абірае лёс,
А тая таямніцу гэту
Лавінай кідае з нябёс
Пад ногі выхрысту-паэту,
То ўсё дарма: і рух, і мэта,
Куды б дарога ні вяла…

***24***

– Марыя, ты ўсё ж там была.
Скажы мне, што там?
– Дзе?
– У Бога.
– Нічога там няма. Дарога.

***25***

Сінеча холаду начнога
Над Гімалаямі плыла.
Сыходзіліся ў храм начны
Індусы –
там спявалі хорам,
Там пакланяліся яны
Таму, пра што і думаць сорам
У Англіі...

Крывёй жывой
Жыццё бруілася, як брага,
Густой хісталася травой
У хвалях Інда, водах Ганга,

Гатовае па волі Брамы
Само сабой ахвяраваць,
Яно глядзела ў вочы Ямы,
Не баючыся паміраць,

Спазнаючы сябе, вякамі
Зямную трушчыла кару
І ўзносілася ўвысь хрыбтамі
Высокай Хары і Меру,

Каб там, дзе ўжо няма нічога,
Дзе абрываецца дарога
І зноў вяртае на зямлю,
Змяя пацалавала Бога,
І Бог пацалаваў змяю.

***26***

– Злуеш, Марыя?
– Не злую.

***27***

– Не ўсе ў жыцці, нібы на свяце, –
Сказаў манах. – Яна праз сацi[1]
Прайшла, застаўшыся ўдавой.

Той афіцэр англійскі, той
Паэт, сасланы за разбой,
Сектантам стаў,
ахвяраваў
Марыю, што жыла ў Марыі,
Прызначыўшы яе кастру,
Як сам сканаў ад малярыі...

***28***

За ёй падняўшыся ўгару –
Адзін спускаўся ўніз з гары я:

«Марыя, калі я памру,
Дзе мы сустрэнемся, Марыя?»

– Тут, дзе маланкі шаравыя
Высокай Хары і Меру,
У храме, лотасам сагрэтым,
Дзе Вішну абвіла змяя;

[1] *Сацi* – абрад спальвання жонкі па смерці мужа.

Тут, толькі тут, бо ў свеце гэтым
Ёсць Індыя, адна планета,
І ўся астатняя зямля.

Чакай свой час, сваю пару.

***29***

– Марыя, калі я памру,
Ты скажаш, што там?
– Дзе?
– У Бога.

***30***

«Нічога там – адна дарога
Ды зор ахвярнае святло...»

***31***

– А ты б хацеў, каб там было
Што-небудзь? – запытаўся Свамі.

– Каб Індыя была...

***32***

Над намі
Нябёс задымленае шкло
Мігцела зорамі і снамі.

Са сноў сыходзілі сланы.

***33***

Ступалі след у след яны
На свой зваротны шлях.
Манах
Мне ў прыгаршчы насыпаў прах,
Сказаў: «Ідзі, нясі дадому,
Развей на родных берагах.
Не суддзі мы адзін адному».

– Марыя!.. –
голас у гарах
Прапаў, не чутны мне самому.

Гаруда, белы Божы птах,
Сарваў з Мандары
кветку сому
І кінуў на зваротны шлях.

## LV

– Я нарадзіўся ў Назарэце. Гэта ў Галілеі, на той час адной з правінцый Рыма. Сям’я наша была шматдзетнай, чацвёра братоў і тры сястры. Жылі бедна, а ўсіх трэба было карміць. Я быў першынцам, таму мой бацька зямны, які быў не столькі цесляром, бо Галілея не лясны край, колькі мулярам, рана далучыў мяне да працы. А калі я вырас, у Назарэце, невялікім паселішчы з нейкай сотняй жыхароў, працы не стала. Усе, хто мог збудавацца, збудаваліся. Нас чакаў голад, але тут Ірад Анціпа, правіцель Галілеі, надумаў зрабіць з Сепфорыса, спаленай рымлянамі галілейскай сталіцы, новы горад. Аўтакратарыс. Ён быў побач, у гадзіне хады ад Назарэта. Вось там працы хапала. І аднойчы, калі, запрацаваўшыся, мы з бацькам не пайшлі на ноч дахаты, а засталіся начаваць каля тэатра, які будавалі для Ірада, да раскладзенага намі вогнішча падышоў падарожнік. Прысеў на камень і прамовіў: “Вы распалілі агонь, каб падагрэць ежу і наталіць цела, а ёсць чалавек-прарок, які распальвае агонь, каб наталіць душу”. Бацька спытаў: “Што гэта за агонь?” – і падарожнік адказаў: “Божы”. Яшчэ ён сказаў, што прарок той жыве на Іярдане і агонь ягоны ў вадзе, якой хрысціць ён, ачышчаючы ад грахоў. А зваць таго прарока, які прарочыць Божы суд, пасля якога для ахрышчаных і ачышчаных настане Царства Божае, – шырока глянуў Хрыстос на Купалу, – Ян Купала[1].

Аповед падарожніка гэтак мяне ўразіў, што я напісаў верш пра Божы агонь, які не гасне ў вадзе. Прачытаў яго падарожніку, і ён сказаў, што я паэт. “І шлях твой, – сказаў ён, – да Яна Купалы. Ідзі да яго”.

Не адразу, але пайшоў я на Іярдан. Там сустрэў мяне Купала і спытаў, ці гатовы я ахрысціцца ад яго ў пакаянне?

Пражыўшы на свеце амаль трыццаць гадоў, я не лічыў сябе бязгрэшным. Таму сказаў, што гатовы. Купала ахрысціў мяне, а калі выходзіў я з вады, расхінуліся нябёсы, з якіх Голас пачуўся: “Ты сын мой улюбёны, у якім дабраславенне маё!” І тады прарок сказаў: “Ты той, які з’явіўся за мной, але ідзе паперадзе мяне, бо за мяне мацнейшы”.

Ён таксама быў паэтам і стаў маім настаўнікам. Я паверыў ва ўсё, што прарочыў ён, і сам пачаў Божы суд і Царства Божае прарочыць. Купала казаў, што да Суда блізка і Царства для праведнікаў вось-вось настане. Я таксама стаў казаць: “Не паспееце абысці гарадоў Ізрайлевых і яшчэ не спазнаеце смерці як убачыце Божае Царства”.

Але мінаў час, а Царства Божае не наставала. І тыя, хто пакаяўся, каб яго ўбачыць, людзі, якія чакалі яго ў Віфсаідзе, у Харазіне, сталі пытаць: “Вось мы ахрысціліся, пакаяліся, а дзеля чаго? Ты казаў, што дзеля Царства Божага, а дзе яно?” Я адказваў, што хутка, вось-вось яно надыдзе, але ўжо й галаву Купалу Ірад адсек, а Царства Божае ўсё не надыходзіла. Тады ў пропаведзях і прароцтвах маіх я пачаў прамаўляць, што не прыйдзе Божае Царства як нешта відавочнае, пра што можна будзе сказаць: вось, яно тут, ці вунь, яно там. І нарэшце я сказаў, што Царства Божае – сярод вас. Толькі не ўсе яго, бо не шчыра паверылі, могуць бачыць, не ўсе ў ім, бо не шчыра пакаяліся, могуць жыць. І Бог, шкадуючы дзяцей сваіх, адкладвае Свой Суд і надыход Свайго Царства да часу, калі ўсе паверацць, калі ўсе пакаяцца...

Я спадзяваўся, што так і будзе. І казаў так, а людзі ў Віфсаідзе, людзі ў Харазіне кідалі ў мяне камяні. І крычалі, што я іх падмануў. Тады я сказаў: “Гора табе, Віфсаід!.. Гора табе, Харазін!..”

---

[1] Ян Хрысціцель, *іўр.* יוחנן המטביל (той, хто ачышчае вадой); белар. *Купала*.

Хрыстос моцна, нібы адчуўшы боль, пацёр скроні і змоўк. Маўчаў Ён, як здалося Купалу, доўга. Вельмі доўга. Выглядала, быццам Ён шкадуе пра тое, што сказаў. А яшчэ больш пра тое шкадуе, што зрабіў. Пра мукі, якія прыняў, каб зратаваць чалавецтва, якое можна было і не ратаваць...

Нарэшце, страсянуўшы галавой, Ён зноў загаварыў:

– Не, я не страціў веру ў прароцтвы Купалы. Будзе Божы Суд, і Царства Божае будзе. Але не тады і не так, як я прарочыў. І я прасіў і прашу нябеснага Бацьку майго адказаць мне, чаму? Прашу сказаць, у чым мая віна, а Ён не кажа. Кажа толькі, што разбурацца праз тое, што не верылі, Віфсаід і Харазін. Толькі што мне той Віфсаід з тым Харазінам, калі праз марныя спадзяванні мне здаецца, што марным стаўся мой лёс. Тое самае здаецца табе, – зноў шырока глянуў Сын Божы на Купалу. – І я чакаў, што ты скажаш мне пра гэта, як я табе пра гэта казаў, каб ты суцешыўся. Помніш?.. “Не ўсё спраўджваецца не толькі ў людзей, але і ў Бога”.

Калі б Купалу спыталі, колькі часу распавядаў пра жыццё сваё Хрыстос, ён не адказаў бы. Можа, тры хвіліны. А, можа, трыццаць тры гады. І калі яны прамінулі, Лётчык прамовіў, расцягваючы словы ў цішыні, якая звінела над Краснай плошчай: “Нехта злятае з дзясятага паверха гатэля, нехта – з дзясятага паверха нябёсаў... Цікавая прыпавесць... Але дзе ў ёй Бог?”

“Чулі? Я ж казаў, што дарма Ён павінаваціўся, бо мацнейшы, калі вінаваціцца, ужо не мацнейшы”, – стукнуў патыліцай у крыж Сталін, а Купала ўспомніў словы парабка Пасляка: “Сатана быў любімым анёлам Бога”.

Бог не мусіць дазваляць сабе мець любімых.

– Я і чалавек яшчэ. І як Бог люблю ўсіх, а як чалавек не кожнага, – спакойна сказаў Хрыстос, не зважаючы на выпад Лётчыка, які зноў за ягоныя словы ўчапіўся:

– Не кожнага! Таму аднаго з тых, хто на крыжы, Ён лічыць вінаватым, а другога – не. Чаму? Бо ў невінаватага не спраўдзіліся ягоныя спадзяванні?.. На будучыню краіны, у якой ён нарадзіўся ці на што там яшчэ... А спадзяванні вінаватага хіба спраўдзіліся? Жыць стала лепш, жыць стала весялей?.. – падначыў ён Сталіна, які гэтак крутнуў галавой да Купалы, што шыя хруснула: “Я ж вам казаў, мы ў адной кампаніі!..” – і Лётчык сцвердзіў.

– Так, у адной! Тады чаму адзін вінаваты, а другі – не? Таму што ў яго імя прарока? Настаўніка?.. Дык жа ў таго, хто з ім на крыжы, імя бацькі! Цесляра ці муляра, – сказаў Лётчык так, нібы невядома яшчэ, хто насамрэч той бацька, – спадзяванні якога на старэйшага сына, які заменіць яго ў сям’і, таксама не спраўдзіліся!..

“Бу-ба-бых!” – гэтак грымнула ў нябёсах, што маўзалей пахіснуўся, дзверы разнасцежыліся – і ў іх зноў з’явіўся Ленін.

– Вось яшчэ адзін з няспраўджаных! – ніколькі не спалохаўшыся грому нябеснага, працягваў Лётчык, які ці не сам прыдумаў гэты гром з другім прышэсцем Леніна. – Перамагла сусветная рэвалюцыя?.. Настаў камунізм ва ўсім свеце?.. Ды тут ані ў кога нічога не спраўдзілася! – раскінуў Лётчык рукі над плошчай. – Зямля такая! Так тут пасеена! І што? Праз тое ўсім даравать, што не ўрадзіла?..

Купала яшчэ раней заўважыў, што грудок, пад якім пахаваў сам сябе стваральнік савецкай дзяржавы, прасеў. Ды так глыбока, што ўтварылася яміна, і выглядала, нібы магіла спусцела. “У іх тут хадоў, як у кратоў, – сказаў Няжыла. – Яны па хадах тых будуць вяртацца, колькі іх ні хавай. Тут насамрэч такая зямля. Вось пабачыце: яшчэ і князь Сямён, які загадаў сабакамі нас зацкаваць,

вернецца. Хады ім трэба перакрыць, каб не маглі вярнуцца. А як перакрыць, – пакруціў Няжыла крыж, каб Купала ўбачыў увесь натоўп на плошчы, – калі такія ж хады яны пракапалі, прасвідравалі ў галовах гэтых людзей? І па іх яны будуць вяртацца, пакуль зямля гэтая не пахрысціцца агнём!"

Купала ўбачыў, як паківаў на гэтыя словы Хрыстос, і хацеў спытаць, што мае на ўвазе паганец Няжыла, кажучы пра хрышчэнне агнём, але тут ад дзвярэй маўзалея азваўся Ленін.

Гэтым разам ён быў без крыжа. З кнігай, памахаўшы якой, пракартавіў: "Іосіф Вісарыёнавіч!.. Я прачытаў «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)». Вы перабольшылі вашу ролю ў партыі і рэвалюцыі, Іосіф Вісарыёнавіч! Вель-мі пе-ра-боль-шы-лі! І ўвогуле вы капрызны і грубы, пра што я казаў вам... – пагартаў Ленін "Кароткі курс гісторыі ВКП(б)"... – вось, у мяне запісана: 5 сакавіка 1923-га. Роўна за трыццаць гадоў да вашай смерці. Тады ж я напісаў вам, што нашы адносіны могуць быць разарванымі, і цяпер, прачытаўшы кнігу, якую вы падкінулі мне ў саркафаг, я іх разрываю! Раз-ры-ва-ю! – рвануў напалам кнігу, скуль толькі сілы набраўшыся, Ленін, кінуў пад ногі, патаптаў, нібы патанцаваў, і хаваючыся ў маўзалеі, гэтак ляснуў дзвярыма, што Купала падумаў: "Сталіна ў іх ужо ніколі не ўнясуць", – а Сталін, робячы выгляд, нібы ён да гэтага абыякавы, пазяхнуў: "І яго вынясуць... Праз тое і нервуецца Уладзімір Ільіч..."

Крыж захістаўся, віленскія пакутнікі амаль не трымалі яго, стаялі, раты разявіўшы, – гэтак іх уразіла другое прышэсце Леніна. "Во сіла! – падпёр нарэшце крыж Кумец. – Гэтак гісторыю парваў!.." І Круглец падпёр крыж са свайго боку: "Наўрад ці яго вынясуць. Чуеце, што на трыбуне кажуць?.."

– Уладзімір Ільіч быў непрымірымы да ідэйных ворагаў, але заклікаў партыю быць цярпімай да тых, каго яшчэ можна вярнуць на шлях партыйнасці. У гэтым выяўлялася мудрасць Леніна, чаго не было ў Сталіна, які стаў на шлях масавых рэпрэсій, на шлях тэрору, які дзейнічаў не праз партыю, а праз карныя органы, праз банду Берыі, і арышты, ссылкі тысяч і тысяч людзей, катаванні, смяротныя пакаранні, расстрэлы без суда і следства сталі практыкай палітычнай барацьбы, – даносілася з урадавай трыбуны, дзе махаў кулакамі Хрушчоў, а галава патрыярха, не слухаючы яго, прамовіла: "З маўзалея вынесці можна. А вось з галоў..." – і рэхам нядаўняга грому гукнуліся словы Няжылы: "Яны будуць вяртацца..."

– Яны будуць вяртацца, пакуль не пахрысцяцца агнём, – данеслася з неба, і ў рэху нябесным пазнаўся Купалу Голас, які чуўся яму з вышыні ў дзень ягонага пахавання, і які – цяпер Купала гэта ўспомніў – сказаў некалі ў ім маленькім: "Не бойся".

"Я не баюся, Госпадзі! Нічога не баюся болей..." – прашаптаў у Купалу маленькі Янка, а дарослы сказаў: "Але для гэтага трэба было памерці".

Пачуўшы голас Бога, усе забыліся на Леніна, знямелі і глядзелі на Хрыста.

– Мне Ён таксама сказаў "не бойся", калі я крыж свой узнёс на Галгофу, – прамовіў Сын Божы, і Купала вышэй узняў галаву, шукаючы ў небе той дзіўнай прыгажосці твар, які ўпершыню ўбачыў са стога над рэчкаю ў Прудзішчы, дзе парабак Пасляк расказаў яму калісьці пра ягонае жыццё амаль тое самае, што цяпер распавёў Хрыстос, які таксама глядзеў у нябёсы і ківаў у згодзе з тым, што чулася з іх, але чулася ўжо Яму аднаму ды, мусібыць, апосталам, што таксама ківалі разам з Хрыстом і галавой патрыярха, пра якую цяжка было сказаць: ківала яна, чуючы тое, што казаў Бог, ці проста ківалася.

– Вы чулі, што Ён сказаў?.. – занерваваўся, спрабуючы зразумець, што адбываецца, Сталін, а "лётчык" прамаўляў да тых, хто не чуў Бога:

– Ёсць законы, якія там, – ускінуў ён адну руку ў неба, – і ёсць законы, – ткнуў ён пальцам другой рукі ў зямлю, – якія тут! Дык няхай той, хто называе сябе Сынам Божым, адкажа: нехта іх адмяняў?.. – І паколькі Хрыстос слухаў не яго, а Бога, Лётчык сам адказаў: – Ніхто! А па законах, якія тут, прызнанне віны – доказ для суда!.. Дык як судзіць будзем?.. – выгукнуў на ўсю плошчу Лётчык, і адразу ж Кашкадамаў, стоячы на ўрадавай трыбуне без галавы, якой спартоўцы каля гістарычнага музея пачалі ў футбол гуляць, немаведама чым прагалёкаў: “Тройкай!” – а потым, рашуча адсунуўшы ўбок партыйнага ідэолага Суслава, заняў ягонае месца побач з Хрушчовым, стаў нешта даводзіць яму, ды той нябожчыка, тым больш безгаловага, не чуў, так што дарма старшыня таварыства ваяўнічых бязбожнікаў да яго праціскаўся. І Купала падумаў, што гэтак не з адным Кашкадамавым: многія нешта кажуць, даводзяць, вяшчаюць з трыбун, думаючы, што яны яшчэ жывыя, хоць даўно нябожчыкі – і ніхто ад іх нічога не чакае. Таму сыходзіць трэба раней, чым памрэш, і тваёй галавой стануць гуляць у футбол.

– Можна тройкай!.. – падыгрываючы Кашкадамаву, стаў паперадзе святых Пятра і Паўла, як бы дэманструючы, што вось яна, да ўсяго гатовая, судовая тройка, і ён старшыня гэтай тройкі, Лётчык. – А можна і судом прысяжных, – тут жа дадаў ён, паглядзеўшы ўверх, дзе на даху порціка Хрыстос ужо не ківаў у нябёсы, а казаў нешта апосталам, абыходзячы стол і кладучы рукі на плечы кожнаму з іх: першаму Яну, потым Юду, Хаме, Варфаламею з Мацвеем, Андрэю, Сымону, Піліпу з Фадзеем, абодвум Якавам, і калі абышоў усіх, стаў на край порціка і, пастаяўшы з хвіліну, прамовіў: “Калі ёсць тут той, хто некаму з двух раскрыжавых грэшнікаў ногі абмыць гатовы, ці ёсць той, хто гатовы зняць некага з іх з крыжа, каб далей самому крыж пакутніка несці, няхай зробіць гэта”.

Голас ягоны быў ціхі, нават цішэйшы, чым звычайна, але Яго пачулі ўсе. Мёртвыя і жывыя. Толькі не ўсе зразумелі, да каго Ён прамовіў?.. Да вучняў сваіх? Да мёртвых, да жывых?..

“Нынешнее поколение советских людей будет жить при коммунизме! Ура!” – скончыў на трыбуне сваю прамову Хрушчоў, на што Берыя, упершыню падаўшы голас на плошчы, пракінуў: “Яшчэ адзін прарок...” – а Хрушчоў, пачуўшы апошнія словы Хрыста, паспрабаваў суаднесці рэальнае з нерэальным, павярнуўся да Суслава: “Якія грэшнікі?.. Якія пакутнікі?..” – і калі Суслаў пацепнуў худымі плячамі, маўляў, скуль я ведаю, – новы кіраўнік савецкай краіны замахаў кулакамі, затупаў нагамі: “Ды што тут дзеецца?.. Што гэта за кіно? Хто здымае, хто дазволіў?..” – набіраў ён голасу, але Лётчык націснуў зорку на шлеме, і Хрушчоў змоўк. Разяўляў рот, нешта крычаў, ды ніхто яго не чуў. Ён злаваўся, падскокваў, прабег у адзін канец трыбуны, у другі, і калі дапяў, што крычыць нямым крыкам, сам сябе спалохаўся, зняў капялюш і, выцершы лысіну, прамармытаў нешта разгублена, чаго таксама не чуваць было, і што агучыў Лётчык: “Ён сказаў, што Сталін у ботах. І што боты не зняць, бо прыбітыя”.

“Боты прыбітыя, кіцель прышыты, сам ён – нібыта са сталі адліты!” – успомніліся нечыя крамольныя вершы, і Купала злавіў сябе на тым, што яму цікава: хто? Хто вымые Сталіну ногі, хто здыме яго з крыжа, каб далей панесці крыж самому?..

На трыбуне маўзалея Хрушчоў глядзеў на Суслава, Суслаў на Хрушчова, на Лобным месцы Берыя – на Мяркулава, Мяркулаў – на Берыю... Пра тое, хто ім ногі вымые, хто іх з крыжа здыме, ніхто не думаў.

– Лаўрэнцій, ты атруціў мяне?.. – раптам неяк не па-сталінску, па-дзіцячы

ўсхліпнуўшы, спытаў Сталін, а Берыя, абышоўшы крыж, падняў галаву да Купалы: “Іосіф Вісарыёнавіч казаў ці не казаў вам, Іван Дамінікавіч, што ў жыцці і смерці вялікіх людзей мусіць быць вялікая таямніца?”

Купала кіўнуў: казаў...

– Свалата!.. – ужо не па-дзіцячаму, па-даросламу прамовіў Сталін. – Якая ж ты свалата, Лаўрэнцій...

– А гэта залічыцца ў выкупленне грахоў? – раптам пачулася з плошчы, і да Лобнага месца падышоў, трохі кульгаючы, капітан Забіякін. – Мяне аўстрыякі забілі, калі я боты чысціў. Адзін пачысціў, а другі не паспеў. Гуталін застаўся. Магу гэтаму, які ў ботах, пачысціць. Ну, калі залічыцца ў выкупленне....

– Не залічыцца! – адмахнуўся ад капітана, які, мусіць, замінаў яму, як і Хрушчоў, весці сваю гульню, Лётчык. – Грэх забойства не выкупляецца.

Забіякін пастаяў, пра нешта напружана думаючы.

– Дык не я ж забіў. Мяне забілі.

“Добра, што я гэтага не сказаў”, – падумаў Купала, а Лётчык тэатральна, ён увогуле схільны да тэатральных эфектаў быў, здзівіўся:

– Ды ну?.. Так усе кажуць. А паказаць табе, Забіякін, як насамрэч было?..

Лётчык націснуў зорку на шлеме – і на трэцім уступе піраміды маўзалея з’явіўся светлавалосы юнак у форме аўстрыйскага афіцэра часоў напалеонаўскіх войнаў, які стаяў каля намёта і, нагнуўшыся да нізенькага зэдліка, чысціў боты. Паспеў пачысціць толькі адзін. Са спіны падкраўся да яго капітан Забіякін, ударыў у спіну штыком, сцягнуў з аўстрыйца абутак ды яшчэ прыхапіў гуталін са шчоткай.

– Вайна ж была, мяне пасля таксама забілі, – паглядзеўшы, як ён аўстрыйца ў спіну закалоў, паспрабаваў апраўдацца вайной Забіякін, ды Лётчык не прыняў апраўдання: “Гэта не віна вайны”. І ўсе так падумалі, бо, вядома, вайна – гэта, як і ўсё астатняе, людзі, і што яны робяць, тое і на вайне, і паўсюль робіцца. “Але і вайна з людзьмі робіць сваё, – сказаў Хрыстос, нібыта пашкадаваўшы Забіякіна. – Вайна – гэта тое, што ў самой чалавечай крыві, але можна ачысціцца нават ад гэтага, прайшоўшы праз пакаянне”, – а Лётчык тут жа словы ягоныя перакруціў.

– Наш Збаўца шкадуе забойцаў! Ён гатовы ўсіх пашкадаваць, грахі дараваць і ногі абмыць, абы Яго любілі. І называе гэта дабром, маючы ў тым інтарэс. Патрабуючы, вымагаючы любові. А людзі поўныя зла. Так, вы поўныя зла, – гучней загаварыў Лётчык, бо плошча зашумела, – пра што самі ведаеце. Не толькі да раскрыжаваных. Да ўсіх, апроч сябе. Вы прагнеце зла, вам добра, калі іншым кепска. І калі вы прагнеце і прагнеце, патрабуеце зла, і калі ў ім вам добра, значыць, у зле болей дабра, чым у самым дабры. І я вам даю яго, зло. Даю столькі, колькі хочаце, не патрабуючы ад вас за гэта таго, чаго патрабуе Ён. Чаго ў вас няма. І вы бярэце чыстае, без прымесяў фальшывых пакаянняў, зло, бярэце яго ў мяне, жывеце ім – і мяне праклінаеце! А таго, хто не даў вам нічога, апроч цьмяных прароцтваў пра царства Божае, славіце. І з гэтай фальшы знітаваныя і ваша жыццё, і ваша смерць. Вось у чым грэх, вось за што вас трэба судзіць. Усіх, хто тут, апроч хіба аднаго, які ўзяў тое, што я даў яму, жыў з тым і быў мне ўдзячны...

“Та-ва-рыш Ста-лін!.. – зноў, перакрываючы нават гучны голас Лётчыка, прагалёкаў Кашкадамаў, на крык якога Сталін, здрыгануўшыся, выдыхнуў: “Гых!..” – і нешта торгнулася ў грудзях Купалы. Там, дзе нядаўна білася сэрца. “Божа, за што я з ім?..” – “Дык скажы, – пачулася там, дзе білася сэрца, – што невінаваты...” І Купала ўжо набраў паветра ў грудзі, каб сказаць:

“Судзіце мяне за грахі мае на маім крыжы, я не мушу цягнуць чужы”, – але тут крутнула ветрам, другім бокам павярнула вянок, у якім лятала Спагада...

З вянка глядзела маці. І ў вачах яе стаялі слёзы.

Гэта доўжылася імгненне, бо вянок зноў крутнуўся, Купала ўбачыў слязінкі ў куточках вачэй Спагады – і выдыхнуў паветра: “Гых!..”

– Я памыю ногі яму, калі мне, грэшніцы, будзе тое дазволена, – выйшла з вядром з-за спінаў віленскіх пакутнікаў Ганна, і ўсе, хто быў на маўзалеі і хто на Лобным месцы, зірнулі на яе: каму?.. Сталіну?.. Купалу?.. – І ваду вып’ю, – паглядзела Ганна на дах порціка над маўзалеем, чакаючы, мусібыць, адказу адтуль, але ніякага адказу не было. “На гэта не патрэбны дазвол”, – прамовіла галава патрыярха, якую трымаў аберуч архімандрыт Данскога манастыра Ісідар, і тады Ганна ўкленчыла пад крыжам каля Купалы, які адчуў, як раптам абмяк, знясілена звесіўшы галаву, Сталін, і пачуў, як сказаў ён шэптам: “Усе мяне прададуць...”

## 56

Вестыбюль варшаўскага гатэля, у якім пасялілі дэлегацыю беларускіх савецкіх пісьменнікаў, быў забіты маладымі паненкамі.

– Што ў вас тут? Злёт польскіх камсамолак? – спытаў Віктар парцье, і той буркнуў, не хаваючы непрыязні: “Злёт польскіх курваў. Яны ўжо даўно без працы, а ім сказалі, што ў нашым гатэлі замежныя турысты пасяліліся”. – “Якія замежныя?” – “Вы. Ніякіх іншых замежных турыстаў у Польшчу не пускаюць. Ды і хто паедзе, калі ваенны стан?” – “Мы ж прыехалі”. – “Вас прыслалі”. І парцье, зарэгістраваўшы Віктара, не падаў, адкінуў яму ягоны чырвоны пашпарт.

У варшаўскіх крамах не было нічога. Панчохі не купіць, а не тое што сукенку – і прастытуткі гатовыя былі абслугоўваць хоць за што. За шакаладку. Але члены дэлегацыі беларускіх савецкіх пісьменнікаў рабілі выгляд, нібы шакаладак у іх няма.

Пасяліліся яны днём, а ўжо ўвечары Чэслаў Любча, з якім Віктар пазнаёміўся, калі той быў карэспандэнтам польскага радыё ў Маскве, спытаў: “Ты чаго прыехаў? Я хіба цябе запрашаў? А не запрашаў, дык едзь назад!”

Яны ўсе, парцье ў гатэлях, прастытуткі, карэспандэнты польскага радыё, прадавачкі за пустымі прылаўкамі, кожны рабочы ў Гданьску і кожная прыбіральшчыца на варшаўскім вакзале, кожны прахожы на кракаўскай ці познаньскай вуліцы баяліся аднаго: што ў Варшаву, як не так даўно ў Будапешт і Прагу, увойдуць савецкія танкі. І дэлегацыя беларускіх савецкіх пісьменнікаў была для палякаў экіпажам аднаго з тых танкаў, якія стаялі за Бугам на савецка-польскай мяжы.

– А ты камандзір гэтага танка! – казаў яму Чэслаў, усё ж згадзіўшыся нарэшце сустрэцца з Віктарам як перакладчык з паэтам. – Я разумею, што пачэсна мець у сваім танку механіка-кіроўцу Танкевіча і камандзіра вежы Брыльца, але ты разумееш, у што ты ўляпаўся?

Віктар дарэшты зразумеў гэта, калі пад колы аўтобуса, у якім разам з ансамблем народнай музыкі і танца, далучаным да дэлегацыі пісьменнікаў, ехалі яны на канцэрт, кінулі трохлітровы слоік алею, а пад сцэнай палаца культуры, дзе павінны былі яны выступаць, знайшлі самаробную бомбу, – так што дзякуй Богу, што не даехалі, і ўсё абышлося разбітымі насамі і выбітымі зубамі: кіроўцу ўсё ж удалося ўтрымаць аўтобус на колах, ён знёс

прыдарожныя слупкі, слізгануў з дарогі на ўзбочыну, але не перакуліўся. “Во пшэкі! – працадзіў кіроўца скрозь выбітыя аб стырно зубы. – Жаляцца, што дзяцей няма чым карміць, а самі алей слоікамі на дарогу кідаюць!”

– Куды ты прывёз нас? – выціраючы кроў з рассечанай губы, спытаў Віктара агаломшаны Чаргінаў. – Куды і для чаго ты нас прывёз? – на што Танкевіч пракінуў раздражнёна: “Ты, Іван, не хлопчык! Не рабі выгляд, нібы не ведаў, куды ехаў і для чаго?” – але і па ім было відаць, што сам ён цалкам усведамляць гэта пачаў толькі цяпер.

У першы дзень дэлегацыю беларускіх савецкіх пісьменнікаў вадзілі па кабінетах партыйных функцыянераў, большых і меншых начальнікаў, кіраўнікоў, якія і падобныя былі адзін да аднаго, і словы казалі адны і тыя: маўляў, зараз цяжкі час, але ён міне, масты братэрства, якія ўзвялі над Бугам савецкі і польскі народы нікому не ўдасца падарваць. Калі ў другі дзень такія ж людзі сустрэлі іх у Саюзе польскіх пісьменнікаў, Танкевіч не вытрываў: “Я болей слухаць не магу гэтых маставікоў!”

– Ні з кім з прыстойных людзей звесці цябе не магу, – адмахнуўся Любча, калі Віктар спытаў яго, ці можа дэлегацыя нефармальна сустрэцца з варшаўскай інтэлігенцыяй. – Усе прыстойныя літаратары, мастакі, музыкі ці ў турме, ці ў эміграцыі. Засталіся толькі курвы ў кабінетах, у якія вас водзяць. Вось з імі і сустракайцеся.

– У нас шакаладак столькі няма, – сказаў Віктар, і Чэслаў не зразумеў: “Якіх шакаладак?” А калі Віктар растлумачыў, якіх, Любча ўскіпеў: “Не чапай нашых курваў! Нашы курвы – не вашы курвы. Вашы курвы, калі мы прыйдзем, будуць нам смактаць, а нашы курвы, калі вы прыйдзеце, будуць вас забіваць!”

Гледзячы на паненак у холе гатэля, Віктар так не сказаў бы, але не стаў спрачацца. Упершыню ён бачыў Чэслава Любчу, беларуса з Наваградчыны, які воляй лёсу апынуўся ў Польшчы, гэтакім зацятым палякам. “Цяпер і ты мусіш быць палякам, цяпер усе прыстойныя людзі ў свеце – палякі. Толькі Ярузельскі – вырадак. З Брэжневым, які гатовы ўвесці ў Польшчу войскі, цалуецца! Просіць увесці хутчэй! Васямнаццаць дывізій разам з немцамі і чэхамі! І ўяві, што тут будзе! Кроў! Вайна!”

Калі праязджалі Брэст, Віктар бачыў, што вайскоўцаў у горадзе значна больш, чым звычайна. Якраз падыходзіла, не маскіруючыся, не хаваючыся, новая калона, і ён падумаў, што не хаваюцца, каб папалохаць. Але калі падключаюць саюзнікаў, калі збіраюць “інтэрнацыянал”, тады гэта не проста запалохванне.

– Скуль ты ведаеш пра войскі?

– Ад чэхаў! Думаеш, яны забыліся пра савецкія танкі? Думаеш, у нас там сваіх людзей няма?.. Рыхтуецца акупацыя, а Ярузельскі ўсіх, хто гатовы жыццё аддаць за Польшчу, пасадзіў! Уся “Салідарнасць” за кратамі! А тых, хто яшчэ на волі, ён гатовы расстраляць, як расстраляў рабочых у Гданьску!

Чэслава калаціла, калі ён гэта казаў. І глядзеў так, нібы Віктар быў сярод тых, хто страляў гданьскіх рабочых.

– Няхай танкі! Няхай Ярузельскі вырадак! Але я тут пры чым?

– Як пры чым? Ты з Брэжневым не цалаваўся?

Што беларускія паэты ў Мінску, што польскія перакладчыкі ў Варшаве... Усе лепшыя толькі таму, што не цалаваліся з Брэжневым.

Віктар не крыўдаваў на Чэслава – за што крыўдаваць? Калі думаць, што заўтра з усходу прыйдзе да цябе вайна, і бачыць перад сабой чалавека з усходу, няхай і сябра, дык яшчэ і не такое скажаш. А сябру – тым больш.

“Саветы бацьку майго згнаілі ў лагеры пад Навасібірскам, а цяпер ідуць, каб мяне забіць! І ты ідзеш з імі! І хочаш, каб я цябе тут абдымкамі сустракаў?”

Бацька Чэслава Любчы памёр у сібірскім лагеры. Чэслаў казаў: “Вырасшы бязбацькавічам, я, ватны па натуры, стаў каменным па характары. Жыццё такім зрабіла”.

Пасля вайны маці ягоная з дзецьмі перабралася з Беларусі ў Польшчу, і Чэслаў, беларускі нацыяналіст, які ў Саюзе беларускай моладзі спяваў “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, стаў яшчэ і нацыяналістам польскім.

– Не ўсе ж прыстойныя людзі з’ехалі, ты ж застаўся, – угаворваў Віктар ускіпелага двойчы нацыяналіста знайсці каго-небудзь з вядомых польскіх літаратараў на сустрэчу з вядомымі літаратарамі беларускімі. – Значыць, яшчэ нехта застацца мог. І ўсе яны ведаюць, хто такі Танкевіч, хто такі Брылец...

– Ян Твардоўскі тут, – пачаў патроху здавацца цвёрды па характары, але мяккі па натуры Чэслаў. – Ён жа не толькі паэт, ксёндз, дык як яму кінуць паству? Сёння, дарэчы, у касцёле манастыра візітантак прапаведуе. Падыходзьце, на пропаведзь усім можна. А там пабачым...

Пабачыліся ў кватэры Твардоўскага, куды, апроч іх, запрасіў гаспадар з паўтузіна прыхаджанаў, якім не хапіла пропаведзі і якім ён ужо дома казаў: “Злом можа быць нават дабрыня. Асабліва, калі яна чужая. Я люблю кашу, дык і табе дам, і ты яе любі. Чаму? Бо я яе люблю! Я так жыву, дык і ты так жыві, як я! Чаму? Бо я так жыву! А на тое, што нехта любіць не кашу, а клёцкі, што хтосьці інакш хоча жыць, напляваць!”

Пасля такой казані ён прапанаваў прывітаць гасцей з Савецкага Саюза, і прыхаджане, тут жа спаслаўшыся на тэрміновыя справы, адзін за адным павыходзілі, засталіся толькі манашка-візітантка, што прыслужвала ў доме, і лысаваты фацэт у акулярах, які спытаў: “Ойча, можна я гасцей вершам прывітаю?” І пачаў:

*Czekamy ciebie, czerwona zarazo,*
*byś wybawiła nas od czarnej śmierci,*
*byś nam Kraj przedtem rozdarłwszy na ćwierci,*
*była zbawieniem witanym z odrazą!..*[1]

Віктар ведаў гэты верш Юзэфа Шчэпаньскага, напісаны пад канец лета сорак чацвёртага, калі немцы распраўляліся з варшаўскімі паўстанцамі, а Чырвоная армія стаяла пад Варшавай і не спяшалася паўстанцам дапамагаць. Любча, які прачытаў яму верш “Чырвоная чума” некалі ў Маскве, даводзіў, што савецкія войскі не вызвалялі Варшаву на загад Сталіна, які нібыта сказаў: “Чым болей польскіх нацыяналістаў і нямецкіх фашыстаў пераб’юць адзін аднаго, тым нам лепей”, – і, мусібыць, пра тое калі не ведаў, дык здагадваўся Шчэпаньскі, які загінуў падчас паўстання, уклаўшы ў свой апошні верш столькі нянавісці да “чырвонай чумы”, колькі яе ва ўсім ім было, і цяпер, амаль праз сорак гадоў, яна віравала ў гэтым лысаватым фацэце ў акулярах, з такім напалам вырывалася з яго, што цяжка было яе стрываць, і першым, як і ў Саюзе пісьменнікаў, не стрываў Танкевіч. Ён падняўся: “Дзякуй, пане Яне...” – і пайшоў, а Твардоўскі сказаў: “Калі ласка...” – і не стаў

[1] *Чакаем мы, чырвоная чума,*
*што ты ўратуеш нас ад чорнай смерці,*
*на часткі край наш разарвеш, на чвэрці*
*і вернеш да халопства, да ярма!..*

ні перад кім з беларускай дэлегацыі, якая чародкай рушыла за Танкевічам, перапрашацца, не стаў нікога затрымліваць.

– Ты сам гэтага хацеў! Сам прасіў сустрэчы з кім-небудзь прыстойным! – агрызаўся Чэслаў на лаянку Віктара. – Дык што ты цяпер ад мяне хочаш?

Віктару не хацелася нічога – ён не ведаў, дзе сябе падзець. Вярнуўшыся ў гатэль, у вестыбюлі якога ўсё яшчэ чакалі шакаладак некалькі паненак, успомніў, як Чэслаў сказаў: "Польскія курвы цябе заб'юць", – і ўзяў дзвюх. "Забівайце!" – завёў іх у нумар, піў з імі ўсю ноч прывезеную з Мінску гарэлку і з такой жа нянавісцю, з якой фацэт у акулярах верш пра чырвоную заразу чытаў, быў з імі, крычаў істэрычна: "Курвы!.. Калі летам сорак чацвёртага савецкія танкі не ўвайшлі ў Варшаву, стаялі за Віслай, дык я тут пры чым?.. Калі ўвосень восемдзесят другога савецкія танкі стаяць за Бугам, каб увайсці ў Варшаву, дык я тут пры чым?.." – і суцішыўся толькі тады, калі адна з іх, найбольш п'яная і найбольш падобная да курвы, выпаліла ў твар: "Ty sam jesteś kurwa!" – і пайшла з нумара, хістаючыся, не ўзяўшы шакаладку.

Курва!..

Раніцай ён патэлефанаваў Ганне: "Я твайго бацьку ніколі ні пра што не прасіў, усё, што ён рабіў, ён рабіў сам, а цяпер прашу: хай што-небудзь, што заўгодна прыдумае, каб сёння ці заўтра адазваць мяне з Варшавы ў Маскву, інакш я тут застрэлюся, чуеш, застрэлюся!" – і пачуў: "Страляйся!.. Няўжо ты не разумееш, што цяпер, пасля даноса Мацвеева, твая паездка ў Варшаву – праверка! І калі ты не пройдзеш яе, сапраўды можаш страляцца! – кінула яна трубку, а праз гадзіны тры, якія ён тупа прасядзеў на крэсле перад люстэркам, трымаючы галаву абедзвюма рукамі, не ведаючы, куды яе пакласці, і ўсё болей таго фацэта, якога ў люстэрку бачыў, ненавідзячы, Ганна сама патэлефанавала: "Я сказала Грачыну, што калі ты кіраўнік дэлегацыі, дык трэба і абазначыць цябе як кіраўніка, адпаведна статусу, і Грачын дамовіўся пра тваю сустрэчу з Ярузельскім. А пасля сустрэчы цябе будуць чакаць з выступам на польскім тэлебачанні".

Курва!

Скрозь адны курвы! Жанчыны, мужчыны, паэты, фацэты!.. У Варшаве, у Маскве!..

Вярнуўшыся ў Маскву з Індыі, ён усё чакаў, калі яго паклічуць на Лубянку, а яго ўсё не клікалі. Затое, што яго моцна здзівіла, патэлефанавалі з Мінска: "Тэрміны паездкі ў Варшаву канчаткова ўзгодненыя з польскімі таварышамі, таму вам як кіраўніку групы заўтра а 10-й раніцы трэба быць на інструктажы ў Доме дружбы". Ледзьве паспеўшы на вечаровы цягнік у Мінск, усю ноч ён думаў дарогай, што б гэта ўсё значыла, але ні да чаго не дадумаўся. З вакзала адразу паехаў у Дом дружбы, дзе два "інструктары", гэбіст і цэковец, доўга дудукалі пра найскладаную палітычную сітуацыю і магчымасць правакацый у Польшчы, але не сказалі, што прыезд у Польшчу савецкіх пісьменнікаў з танцорамі ў час, калі на мяжы стаяць савецкія танкі, гэта правакацыя і ёсць.

Калі на двух аўтобусах яны выязджалі з Брэста, танкі гэтыя бачылі, і Брылец сказаў: "Будуць стаяць і чакаць, пакуль пад нашы аўтобусы палякі падкладуць міны. Тады рушаць на Варшаву".

Віктару ў галаву такое не прыходзіла, ён вырашыў, што Брылец пажартаваў. Але ўжо не думаў так, калі Брылец расказваў яму, як, вярнуўшыся назад, напалоханыя тым, што здаралася на польскіх дарогах і ў канцэртных залах з бомбамі пад сцэнай, артысты цалавалі берасцейскую зямлю. "Я таксама

цалаваў некалі родную зямлю, – казаў Брылец. – Толькі гэта было пасля Другой сусветнай вайны, тады, калі вяртаўся з палону...”

У дзверы нумара пастукалі, Віктар адчыніў: парцье. Той самы, які пашпарт ягоны грэбліва адкідваў, калі ў гатэль сяліліся, а цяпер стаў перад ім – сама пачцівасць.

– Вас машына ўнізе чакае.

Хутка яны. Ён памяты, непамыты, непаголены. І праз дзве гадзіны ехаць у Беласток. Танкевіч учора, калі выйшлі ад Твардоўскага, спытаў: “А чаго мы ходзім, куды нас водзяць? Да чужых. Давайце да сваіх з’ездзім”. І сам дамовіўся на сустрэчу з беларусамі сёння ў Беластоку. А Віктара зноў, як і ў Мінску, і ў Маскве, ад сваіх да чужых цягнуць.

– Якая машына?

– Ад таварыша Ярузельскага, – з прыдыханнем паведаміў парцье, які не быў прыхільнікам польскіх камуністаў, староннікам генерала Ярузельскага, але па твары ягоным лёгка ўгадвалася, што гэта не было прыдыханне страху перад уладай, а прыдыханне містычнага трымцення перад ёю, шчасця, што хоць неяк з ёй судакрануўся – няхай сабе праз нейкага савецкага фацэта. Віктар паўсюль гэта бачыў, такое з усімі робіцца – і з палякамі таксама, няхай нават ты тройчы паляк з усёю польскаю пыхаю.

– Скажыце, што прашу пачакаць хвіліну. Мне памыцца, пагаліцца...

Парцье паглядзеў на яго спачувальна, маўляў, ты з раніцы гэтак выглядаеш, што хоць пяць разоў пад вечар пагаліся, лепш выглядаць не будзеш.

– Не, сказалі паспяшацца, у таварыша генерала вобмаль часу, – настойліва стаяў у дзвярах парцье, і Віктар успомніў генерал-нябожчыка Сцюарта, у якога не было праблемы з часам, але ўсё адно ён некуды спяшаўся: з’яўляўся і знікаў.

Як ён казаў?.. Мы паспяваем у гэтым жыцці толькі расшпіліць і зашпіліць гузік?

Спускаючыся, Віктар зайшоў да Танкевіча, сказаў, што ў Беласток не зможа паехаць, тэрміновыя справы ў Варшаве, і Танкевіч, зірнуўшы на яго, паківаў: “Бачу, што тэрміновыя”.

Зашпілены на ўсе гузікі міністр нацыянальнай абароны, Старшыня савета міністраў, Першы сакратар ЦК Польскай аб’яднанай рабочай партыі, Старшыня ваеннага Совета нацыянальнага выратавання генерал арміі Войцэх Ярузельскі сустрэў Віктара ў пакоі, не надта падобным да кабінета: з канапай, столікам і зэдлікамі каля яе, з мяккім, якія звычайна сцелюць у спальнях, дываном на падлозе і карцінамі на сценах, сярод якіх вісеў чорна-белы фотаздымак у едка-чырвонай раме, на якім Ярузельскі ў цёмных акулярах (“Каб не бачыць, з кім цалуешся”, – падумаў Віктар) цалаваўся з Брэжневым. Сцяна вакол рамы сантыметраў на дзесяць была трохі святлейшая ад астатняй, не кранутая сонцам, значыць, на гэтым месцы вісела нешта большых памераў, а фота з пацалункам павесілі тут нядаўна, калі не сёння.

– Як Васіль Дзям’янавіч? – падаўшы руку, адразу даў зразумець, чаму ён прымае Віктара, Ярузельскі. – Вы ягоны зяць? У нас з ім някепскія адносіны. Не сяброўскія, але някепскія. Ён… як бы гэта дакладней сказаць… адэкватны чалавек. – І жэстам запрасіўшы сесці, раптам спытаў: – А палкоўнік Мікалай Маргер вам не радня? Ён з Беларусі родам, не помню места. Пару гадоў мы служылі разам, калі ён яшчэ не быў палкоўнікам, а я генералам. Нават сябравалі. Дык радня, ці вы проста... як гэта ў вас называецца... сайменнікі? Цёзкі?

Віктар чакаў любога пачатку размовы, але не такога. Пакуль яго везлі да Ярузельскага, ён, зусім не гатовы да сустрэчы, сутаргава думаў: што сказаць? З чаго пачаць? З таго, што чаўплі яму на інструктажы ў Доме дружбы: “Паўсюль паўтарайце словы Леаніда Ільіча, што Савецкі Саюз ніколі не пакіне братнюю Польшчу ў бядзе, заўсёды польскаму народу дапаможа”? Ён пралапатаў гэтыя словы на сустрэчы ў Саюзе польскіх пісьменнікаў, але нават там яны прагучалі зусім інакш, чым у Доме дружбы. А тут... Каб іх сказаць, тут мусіў быць Брэжнеў, а не ён. Але тут ён – і пра што гаварыць з ім кіраўніку дзяржавы? Ды няма пра што! Хіба пра дзядзьку ягонага, які ўцёк у Польшчу адразу пасля вайны і пра якога ва ўсіх анкетах у графе “Ці ёсць у вас радня за мяжой?” Віктар пісаў: “Няма”.

Кожны раз, калі ён пісаў гэтае “няма”, яму было сорамна, бо ён нібыта адмаўляўся ад кроплі сваёй крыві, і аднойчы паставіў у той графе прочырк, але яму вярнулі анкету як няправільна запоўненую: “Напішыце ці няма, ці ёсць”. І калі б ён напісаў “ёсць”, а тую анкету параўналі б з папярэднімі, дазналіся б, што ён маніў, дык болей ніколі ніякіх анкет ні для вылучэння на прэміі, ні для выезду за мяжу яму б не выдавалі.

– Дзядзька, – сказаў ён Ярузельскаму. – Родны дзядзька. Родам з Крэва.

– Так, з Крэва! – нібы ўзрадаваўшыся, што ўспомніў, выгукнуў Ярузельскі. – Дзядзька ваш расказваў, як пасля вайны, калі прыйшлі саветы, усіх крэўскіх сабралі на пляцы: хто паляк – направа, хто рускі – налева! Пра беларусаў нават не ўспомнілі, што такія могуць быць, дык ён падумаў: калі прыйшлі рускія і нічога не сказалі пра беларусаў, тады навошта мне быць рускім, лепш я буду палякам. І хоць браты не пускалі яго: “Ты куды, палякаў за Армію Краёву будуць страляць!” – рызыкнуў, ступіў направа – і стаў палкоўнікам войска польскага. Вось што значыць адзін крок у нашым жыцці! Можа, мы з’яўляемся ў свет, каб зрабіць у ім адзін крок. Адзін крок – і ўсё!..

Ён так гэта сказаў, што не зразумець, пра што ён, было немагчыма, і Віктар, нечакана для самога сябе адчуўшы павагу да гэтага відавочна стомленага чалавека, здольнага ўзяць на сябе такую адказнасць, падумаў, што крок зрабіць – не гузік зашпіліць, і што, мусібыць, каб стаць палітыкам, трэба быць чалавекам са звярынага мяса з нечалавечым мысленнем.

– Хоць можна зрабіць крок не ў той бок, – паківаўся на зэдліку Ярузельскі. – Як бацька мой, які вясной трыццаць дзявятага прыехаў з сям’ёй у Вільню. А ўвосень Вільня падпала пад саветы, і ўсіх палякаў саслалі ў Сібір. Не пытаючыся, хто куды хоча... Там, у лагеры ў Алтайскім краі бацька і застаўся. Не было труны, каб пахаваць, дык я закруціў яго, як у саван, у газету “Праўда”, растрыбушыўшы лагерную падшыўку. Там жа, у Алтайскім краі, працуючы ўсю зіму на лесапавале, я захварэў на снежную слепату, і цяпер не магу глядзець на свет без цёмных акуляраў. Праз гэта ваш сябар Любча... Вы каву будзеце? Налівайце... Я таксама... Вам цікава, адкуль я ведаю, што ён ваш сябар? Памочнік мой паказаў перад нашай сустрэчай газету “Trybuna Ludu”, дзе верш ваш надрукаваны ў ягоным перакладзе. Някепскі пераклад. Дык вось праз тое, што я ў цёмных акулярах, Любча прыдумаў для мяне мянушку “зваршчык”. Хоць некалі мы таксама сябравалі, разам ў згуртаванні сем’яў рэпрэсаваных былі: ягоны бацька, як і мой, не вярнуўся з Сібіры. І, між іншым, гэта я, калі ў галоўным палітупраўленні служыў, параіў Любчу на месца карэспандэнта польскага радыё ў Маскве, а ён мне ў падзяку мянушку “зваршчык” прыляпіў. Маўляў, я Варшаву з Масквой зварваю… Што вы каву не п’яце? Тут не Сібір, але астыне…

Пра газету “Праўда” Ярузельскі, пэўна, прыдумаў ці, магчыма, і закруціў нябожчыка-бацьку ў пару газет, хто б яму даў падшыўку “Праўды” растрыбушчыць, але ж усё астатняе прыдумаць ён не мог.

З кім ні пагавары, хоць з Кручам, хоць з Любчам, хоць з Ружэвічам, хоць з Ярузельскім, ва ўсіх нехта з радні быў сасланы ў Сібір! І чалавек, які цяпер камандуе войскам, спецслужбамі, кіруе не самай маленькай краінай Еўропы, у бляску сібірскіх снягоў на снежную слепату захварэў, каб пасля ўсё жыццё на свет скрозь цёмныя акуляры глядзець! Вось метафара, Роберт!..

Ад Грачына Віктар ведаў, што кіраўнікі краін савецкага блоку па сутнасці прызначаюцца ў Маскве, і паколькі размова ягоная з Ярузельскім з як бы палітычнай, весці якую Віктар не быў гатовы, проста не ўяўляў, што ў ёй казаць (“Савецкі Саюз ніколі не пакіне братнюю Польшчу?..”), праз дзядзьку Мікалая і Любчу перайшла як бы ў размову асабістую, можна было спытаць – і ён спытаў:

– А як вас, колішняга лагерніка-антысаветчыка, пасадзілі ў крэсла кіраўніка Польшчы?

“Я на зэдліку, – зірнуўшы пад ногі, паправіў акуляры, якія былі яму вялікаватыя, спаўзалі з пераносся, Ярузельскі. І павярнуўся да дзвярэй, у якія ўвайшоў чалавек у вайсковай форме, ягоны памочнік. – Што там?” – “Вас да тэлефона. Масква”. – “Хто?” – “Таварыш Грачын. Раней, чым дамаўляліся”. – “Скажы, што я размаўляю з тым, каго ён да мяне паслаў”. – “Я сказаў. Але ён не пра гэта”. – “А пра што?” – “Брэжнеў памёр”. – “Хто?” – “Таварыш Леанід Ільіч Брэжнеў...”

З хвіліну Ярузельскі глядзеў на свайго памочніка і маўчаў. Павярнуўся да фотаздымка, на якім цалаваўся з Брэжневым. Пад цёмнымі акулярамі не разгледзець было выраз ягонага твару, але Віктару здалося, што твар Першага сакратара Польскай аб’яднанай рабочай партыі, якому паведамілі пра смерць Генеральнага сакратара Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, ні ў чым не змяніўся.

– Так! – рэзка падняўся ён з зэдліка. – Цяпер ніхто не ўгаворыць яго ўвесці войскі!.. – І падаў Віктару руку. – Я скажу таварышу Грачыну, што мы добра паразмаўлялі. А вы скажыце Любчы, які крычыць, што я хачу крыві, што крыві я не хачу. Калі б я хацеў, ён бы ўжо маўчаў. Можаце і па тэлебачанні гэта сказаць.

Апошнія словы генерал прамовіў, торгнуўшы шчакою, упершыню за ўсю размову паказаўшы, што ў яго таксама ёсць нервы.

На выхадзе з будыніны ЦК, калі Віктар здаваў пропуск, яго дагнаў запыханы памочнік Ярузельскага: “Прасілі перадаць, таварыш Грачын прасіў перадаць, што цяпер вы можаце ехаць у Маскву. А дэлегацыя можа вяртацца ў Мінск”.

На вуліцы ўжо чакала польскае тэлебачанне: “Праўда, што Брэжнеў памёр?..”

Больш іх нічога не цікавіла. Ні ён сам, ні дэлегацыя пісьменнікаў, ні народная музыка з танцамі. Аператар глядзеў, чакаючы, журналістка тыцала мікрафон у падбароддзе, у яе рукі трэсліся – так яна хацела быць першай, хто паведаміць гэтую навіну, і Віктар сказаў, што Леанід Ільіч ніколі не пакіне братнюю Польшчу, заўсёды польскаму народу дапаможа, а журналістка глядзела на яго і лыпала вачыма.

Калі вярнуўся ў гатэль, парцье падаў яму разам з ключом запіску ад Танкевіча. “Тэлефанавалі з Дома дружбы, сказалі, каб мы з Беластока выпраўляліся ў Мінск. Яшчэ сказалі, што (па чутках) памёр Л.І., і што старшынёй пахавальнай камісіі прызначаны тав. Анд. Убачымся дома, Танкевіч”.

Падняўшыся ў нумар, ён лёг на канапу і доўга ляжаў, гледзячы ў столь. Калі старшынёй пахавальнай камісіі прызначаны Андропаў, ён і будзе на месцы Брэжнева, які Польшчы ўжо нічым не дапаможа. Як і Віктару, калі ўсплыве данос Мацвеева.

Яму ўспомнілася начная размова з Брэжневым на дачы Грачына, і ён злавіў сябе на тым, што яму шкада, што не стала гэтага чалавека. І не таму, што ён мог бы дапамагчы. Яшчэ невядома, ці дапамог бы... Але калі пры Хрушчове, які назваў дэспатам Сталіна, сядзелі ў турмах тысячы палітычных, дык пры Брэжневе, які пра Сталіна маўчаў, дзясяткі. І гэта пры ўсіх анекдотах пра дарагога Леаніда Ільіча.

Трэба было б памянуць яго. Ды няма з кім. Хіба з курвамі.

Зазваніў тэлефон. Ганна: "Ты ўжо ўсё ведаеш?" – "Не ўсё. Чаму не Грачын? Не яшчэ нехта?" – "Бо ў Андропава на ўсіх быў кампрамат..." І яна пераказала тое, што сказаў ёй бацька. Што Брэжнеў памёр на ўрадавай дачы ў Зарэччы, і першым, каму паведамілі пра смерць Генеральнага сакратара ЦК КПСС, быў старшыня КГБ СССР Андропаў, які першым і прыехаў на дачу. Забраўшы ў кабінеце Брэжнева партфель з кампраматам на ўсіх членаў Палітбюро, ён паклікаў у Зарэчча міністра абароны Вусцева і сакратара ЦК Грачына. Яны селі ўтрох каля ложка нябожчыка, і Андропаў, на каленях якога ляжаў усім ім знаёмы партфель, прапанаваў неадкладна вырашыць, хто будзе пераемнікам Леаніда Ільіча. Вусцеў, які меў армію, але не меў партфеля на каленях, вырашыў, што пераемнікам павінен быць Андропаў, і Грачын, у якога не было ні арміі, ні партфеля, прапанову Вусцева падтрымаў.

Во як... Утрох вырашылі, хто будзе кіраваць краінай. КГБ. Ён і так кіраваў, але ўсё ж не наўпрост, а цяпер – наўпрост.

"Табе няма чаго асцерагацца, – хутка, нібы баючыся, што ён трубку пакладзе, казала Ганна, – Андропаў цяпер абавязаны Грачыну, так што..." – "Гэта Грачын табе сказаў?" – "Гэта я табе кажу. А з ЦК прафсаюзаў пытаюць, калі выйдзеш на службу? Калі б нешта было, не пыталі б. Так што сядай у цягнік". – "У мяккі вагон?" – "Можаш і ў плацкартны. Апошні раз..."

Паклаўшы трубку, ён зайшоў у лазенку, перабраў бутэлькі з учарашняга разгулёну. У некаторых засталося на дне, ён зліў усё ў адну шклянку. Памянуў, як вядзецца яно ў народзе...

Можа быць, пры Брэжневе для гэтага народа быў найбольш прыдатны спосаб існавання? Было што выпіць, было чым закусіць. Няхай без далікатэсаў, але было. А галоўнае: было ўсяго пароўну. Так, Грачын еў смачней, але хадзіў гадамі, як і Суслаў, у адным і тым жа касцюме. У некага была 300-я секцыя, у некага крама "Бярозка", але ў большасці ўсяго было пароўну. І гэта была як бы справядлівасць, праз адсутнасць якой народ гэты і кідаўся ў бунты, у рэвалюцыі. А яго вешалі, стралялі, гнаілі ў лагерах, што нібы скончылася, але зноў можа пачацца...

Зноў зазваніў тэлефон. Гэтым разам Любча: "Брэжнеў памёр. Замест яго будзе Андропаў. КГБ. А ён не спыніцца ні перад чым, каб падавіць у Польшчы рух за свабоду. Мы арганізуем мітынг супраць уводу савецкіх войскаў. Калі ты той Віктар Маргер, якога я ведаў раней, ты мусіш прыйсці, каб падтрымаць нас".

Ён не ведае, ці той я, якім быў раней, але яму вядома, што Брэжнеў памёр і што Андропаў будзе на ягоным месцы. Хоць нідзе не было пра гэта ніякай інфармацыі. Выходзіць, што не трэба ніякіх газет, ніякага радыё з тэлебачаннем.

– Чэслаў...
– Ну? Што?
– Ты хочаш, каб мне не было куды вярнуцца?
– Я хачу, каб табе было з кім застацца.
– А дзе застацца? У Польшчы, куды ўвойдуць савецкія войскі?
– Калі мы ўсе выйдзем, яны не ўвойдуць. Трэба не даць Ярузельскаму магчымасці іх запрасіць. Гэта кроў.
– Ён сказаў, што не хоча крыві.
– Каму сказаў?
– Мне.
– Ты быў у гэтага вырадка?
– Быў.
– Та-а-к... І як ты будзеш апраўдвацца?
Чаму ён павінен апраўдвацца? Хоць перад Любчам, хоць перад кім? І ўсё ж апраўдаўся:
– У мяне ў Маскве каханая, Чэслаў.
Любча памаўчаў. Сказаў, памаўчаўшы:
– Гэта аргумент. Але прад'явіць яго ты потым зможаш толькі самому сабе.
І тэлефонная трубка захлынулася кароткімі гудкамі.
Выпіць больш не было чаго, Віктар апрануўся, выйшаў на вуліцу. Зайшоў у бар на Маршалкоўскай – ён быў забіты выпівохамі. Узяў "Выбаровай", уціснуўся за стол у самым куце.
Некалі ў гэтым бары за гэтым сталом ён напісаў верш "Новы свят", які Чэслаў за гэтым жа сталом адразу пераклаў.

Хавалі Сталіна. Масква
Глядзіць далёка:
Драконавая
Галава
З крамлёўскім вокам.
Варшаўцы выйшлі на пляцы,
Панылa ўсталі.
«*Поляки, вроде, молодцы*», –
Заўважыў Сталін.
І Берыя згадзіўся:
*«Да,*
*Все в скорби, вроде...*
*Оделась только б... одна*
*Не по погоде.*
*Мы стерву эту устраним...»*
Як выклік, смела
Ішла насуперак усім
Жанчына ў белым.
Лубянскі снайпер у прыцэл
Зірнуў марозна.
Адзін, другі і трэці стрэл…
На след, ды позна!
Скасіўся Берыя на след,
Пенснэ ўспацела:
*«Ей богу, Коба, это бред,*
*Она без тела!*
*А посмотреть со стороны...*

*Ну, польки эти!»*
І Сталін уздыхнуў з труны:
*«Смотри, Лаврентий!*
*Одна она пусть стоит двух*
*Московских пассий –*
*Опасней, если это дух,*
*Куда опасней!*
*Держать на поводке народ*
*Учись до гроба.*
*Сама свобода не живет».*
*«Я знаю, Коба».*
Адзін, другі і трэці стрэл...
*«Стреляешь плохо!..»*
Лубянскі снайпер збіў прыцэл
Аж на эпоху.
Ва ўсіх часах, хоць жылы рві,
Свае законы;
Сукенка белая ў крыві –
Сцяг бел чырвоны!
Сама свабода не жыве?..
А ў нос вам дулю!
Яшчэ тырана па Маскве
У склеп цягнулі,
Яшчэ трашчалі ў лагерах
Лесапавалы,
А ўжо імперыя па швах
Паўзла, трашчала,
І воля ўжо ўставала з тла,
Плыла, як пава...
Жанчына ў белым і была
Сама Варшава.

На ўсё пайшло сем кухляў піва, тры на аўтара і чатыры на перакладчыка. Дапіўшы чацвёрты кухаль, Чэслаў завёўся: “Давай п’янтосам прачытаем!” Яны прачыталі: “Хавалі Сталіна. Масква глядзіць далёка, Драконавая галава з крамлёўскім вокам!..” – і п’янтосы запляскалі, папёрліся з півам за іх стол, а бармэн закрычаў з-за стойкі:

– Прастаўляю “Выбарову”!

Цяпер п’янтосы былі не тыя, не той час, і бармэн не той. “Niech wszyscy Kamuniści zginą!” – раптам, узняўшы келіх, крыкнуў бармэн, і ўсе ўскочылі: “Niech zginą!” Віктар не падняўся, выпіў, седзячы, і сусед ухапіў яго загрудкі, рвануўшы так, што паліто па шве затрашчала: “Dlaczego siedzisz? Czy jesteś komunistą?..”

Калі выбраўся з бара, яго спыніў патруль: пачыналася каменданцкая гадзіна. Ён паказаў пашпарт, патрульныя пакруцілі яго, не разгортваючы, у руках: “Каменданцкая гадзіна для ўсіх, і для рускіх, і для п’яных”, – але не сталі затрымліваць, правялі да гатэля.

– Я шукаў вас, – сустрэў яго парцье. – Пакуль вас не было, патэлефанавала нейкая жанчына, сказала, што вам куплены квіток на начны цягнік да Масквы і што вас будуць чакаць, каб перадаць яго, на вакзале каля першай касы. Калі паспяшаеце, – зірнуў парцье на гадзіннік, – паспееце.

Хто тэлефанаваў, хто квіток купіў, парцье не ведаў, і Віктар падумаў, што

гэта можа быць тая сяброўка Ганны, якая жыве ў Варшаве, блядуе, і якой у асалоду перажываць, што яна блядзь. А калі ўжо ён, сабраўшы рэчы, выходзіў з гатэля, аддаўшы парцье апошнюю шакаладку, той гукнуў яму ўслед: “Чакайце! Успомніў! Тая жанчына прасіла абавязкова сказаць, што квіток у мяккі вагон”.

## LVII

З усіх выступаў маўзалея, з порціка і трыбуны, з усёй прасторы ад Васільеўскага спуска да Александраўскага сада Красная плошча глядзела на лобнае месца і маўчала.

– Можа, спярша пап’еш?.. – падняла вядро Ганна, і Купала ўбачыў, што на донцы выбіты крыж, папярэчына якога выглядала трохі пахіленай, а левы бок яе быў карацейшы за правы. Яшчэ з гэтага ж боку было закляпанае трымя клёпкамі адно вушка – і Купала пазнаў вядро. Яно было з касцёлу ў Радашковічах, дзе яго хрысцілі: у гэтым вядры, як распавядала маці, прынеслі ваду на хрост. Назаўтра пасля хросту маці паехала ў Маладзечна, купіла і аддала ў касцёл новае вядро, а гэтае ў ксяндза выпрасіла. Яно стаяла ў іхняй хаце, вада ў ім ніколі не мутнела, заўсёды была чысцюткай, як толькі што з крыніцы, і здавалася маленькаму Купалу салодкай...

Зараз яму здалося, што ён глынуў той вады.

– Дзякуй, я напіўся... – сказаў ён, і Ганна, паставіўшы вядро, зачарпнула ваду далонямі, прахалодна дакранулася да балюча-гарачых ступняў, якія смылелі...

Не адны горкія здараліся ў ягоным жыцці часіны – бывалі і салодкія. І не толькі тады, калі быў маленькі і піў салодкую ваду. У салодкія часіны пісаліся паэмы, кахаліся жанчыны. Ну, няхай гэта былі не часіны, імгненні, але яны здараліся. Ды такога салодкага імгнення, як зараз, калі ён вісеў, раскрыжаваны, і жанчына, якую ён кахаў, вадой з вядра, з якога піў ён у маленстве, ногі яму абмывала, Купала не помніў.

“Адкуль у яе вядро з нашай хаты?..” – глядзеў ён, адчуваючы, што ўсё ёй даруе, на Ганну, і тая, таксама адчуўшы, мусібыць, што ён даруе ёй, яшчэ й пацалавала ногі ягоныя: “Маці твая ўчора прыходзіла, прынесла...” Купала не падумаў, што гэта дзіўна, бо маці памерла, а ўспомніў, што было аднойчы ў ягоным жыцці такое самае, як цяпер, салодкае імгненне!..

Хлопчыкам ён гуляў на выгане ў пікара і парэзаў нагу аб бляшанку. Парэз быў рваны, глыбокі, крываточыў і балеў невыносна. Нарваўшы трыпутніку, ён дакульгаў да рэчкі, сеў на кладку, абмыў рану, прыклаў трыпутнік – кроў не спынялася, боль не сціхаў. Яго пачало трэсці ці то ад болю, ці то ад холаду, бо ўжо азяблай была восеньская вада, па якую ішла да рэчкі маці – убачыла сына, кінула вядро, падбегла: “А маё ты дзіцятка, Яначка мой!..” Схапіла яго, падняла, прыціснула да грудзей і так доўга з ім стаяла на кладцы, паўтараючы: “Дзіцятка маё, Яначка мой...” Ён глядзеў за спіну маці на раку, на той, на другі бераг, дзе былі большыя, чым вёска, могілкі, на восеньскі, дрыготкі лес за ракой, на халодныя аблокі над лесам, якія плылі далёка за лес, за небасхіл у бясконцасць, і так шкада яму стала тых, хто ляжыць на могілках, каго ўжо ніхто і ніколі не абдыме, не сагрэе, і такая раптам абняла яго любоў, такім ён адчуў сябе шчаслівым, што яго гэтак любяць у гэтым бясконцым, дзе мёртвых болей, чым жывых, халодным свеце, у гэтым жыцці, у якім да смерці – толькі перайсці кладку, і так цёпла яму стала, схаванаму ад смерці і холаду ў матчыны грудзі, і стала гэтак со-

ладка, як не бывала ні ад ранняга травеньскага, ні ад позняга жніўеньскага мёду, які крывёй адчуў ён на вуснах маці, калі тая, вынесшы яго на бераг і пасадзіўшы ў падол, пацалавала рану – і боль сышоў.

Ноччу ён прачнуўся ў страху, не разумеючы, чаго баіцца, бо ночы, цемры ён не баяўся, і ляжаў, гледзячы ў столь, што бялела ў цемры, і на якой, як нейкія пісьмёны, ляжалі, пагойдваючыся, цені аголенай слівы за вакном, глянуўшы ў якое і ўбачыўшы прышчэрбленую, нібы параненую, поўню, ён падумаў, што любіць яго будуць толькі параненага.

"Ці раскрыжаванага, – сказаў Хрыстос у ім. – Так што трывай".

"А колькі трываць?"

"Столькі, колькі хочаш, каб любілі".

"А інакш ніяк?"

"Ніяк інакш".

"Я ўжо не хачу... Надта цяжка... Невыносна нават па смерці..."

"Але ж я трываю..."

"Дык Ты Сын Бога... Як табе Божым Сынам быць?"

Спытаўшы, Купала тут жа завінаваціўся, што ў яго вырвалася такое дзёрзкае пытанне, але Хрыстос успрыняў яго спакойна.

"Як і табе", – адказаў Сын Божы нейкім інакшым, чым перад тым прамаўляў, голасам. Як бы голасам брата – і Купала зразумеў, пра што Ён. Яму таксама не падабалася, калі людзі самі сябе называлі рабамі, няхай і Божымі, але цяжка было ўявіць Божымі дзецьмі Сталіна ці Берыю, Мяркулава ці Кашкадамава...

"І тым не менш, – сказаў Хрыстос. – Яны дзеці Ягоныя... І ўсе яны, і Качарыгі, і Юды – ягоныя дзеці".

"Таму і Страшны суд адкладваецца? Бог чакае, пакуль усе пакаюцца і ачысцяцца? Ён чакае, бо шкадуе?"

Хрыстос зноў памаўчаў.

"Ты пытаеш пра тое самае, што і я. Але няма адказу..."

Ён усё ж шукаў апраўдання няспраўджаным прароцтвам. Хацеў давесці, што не падманваў Віфсаід і Харазін.

"Я сустрэў Юду ў Харазіне, – тым жа даверлівым голасам брата казаў далей Хрыстос. – Ён распавёў мне, як жонка ягоная памірала з голаду. Цяжарная была. Яна памірала, а ён нічога не мог зрабіць: ва ўсёй Галілеі зярнятка не знайсці было, усё спаліла небывалая спёка. І ён страціў жонку і ненароджанае дзіця. А калі пачуў пра царства Божае, зразумеў гэта так, што яны ўваскрэснуць і будуць з ім. І жонка, і тое дзіця, якое ў Царстве Божым народзіцца. Таму пайшоў са мной. І калі ў Іерусаліме я сказаў Юду, што ён зразумеў мяне не так, што царства Божае ў ім самім, як дзіця ягонае ў ягонай жонцы, ён сказаў: "Дык яно ж мёртвае". І зрабіў тое, што зрабіў. Стаў тым, хто мяне прадаў. І я ведаў, што ён пакажа на мяне ў Гефсіманскім садзе, няцяжка было гэта прадбачыць... Дык вось што гэта: здрада? Ці помста за маё няспраўджанае прароцтва, якое стала ягонай няспраўджанай надзеяй?.. Тады ці можа быць кара за гэта на Страшным судзе? А калі можа быць, дык якая?.. І калі караць тых, хто спадзяваўся на прарока, дык што рабіць з прарокам?..

Сын Божы казаў гэта нібы сам сабе, нібы не чакаючы адказу, але Купала разумеў, што чакаў. І не ведаючы, што адказаць, спытаў:

"Але ж Гасподзь ведае, каму і які несці крыж?.."

"Ведае. І не хоча, каб нехта нёс чужы... А ты чаго хочаш?"

"Калі несці крыж, дык свой. І яшчэ хачу, каб таго, што было тут, не было. Так можна?.."

“Каб не было твайго Віфсаіда і твайго Харазіна?.. Ці ты хочаш, каб не было тваёй смерці?”

“Не. Жыцця, якое тут было”.

Гэтым разам Хрыстос не гукаўся так доўга, нібы, не дачакаўшыся таго, чаго чакаў, скончыў размову. Нарэшце прамовіў: “Што ж... Можа быць, людзі, якія тут сабраліся, палічаць, што гэта і ёсць Страшны суд. Такі, якім яны ўяўляюць яго. Як геену вогненную. Гэй бэн гіном...”

– Таварыш Сталін!.. – у трэці раз надрыўна, як параненыя звяры выюць, пачулася з плошчы, па якой бег ад маўзалея да лобнага месца безгаловы Кашкадамаў, і правадыр заварушыўся на крыжы, на якім павіс, быццам заснуў.

– Што?.. Што такое?.. Мне прыснілася, нібы вы размаўляеце з некім, але ў сне не разабраць было, з кім і пра што? У гэтай краіне ніколі не ведаеш, хто, з кім і пра што размаўляе. Хіба толькі тады дазнаешся, калі памрэш і не спіш. А я заснуў. І нават не магу сказаць, ці прачнуўся... Я прачнуўся, Ганна? Хто мяне пабудзіў?

– Безгаловы нейкі, – абмыўшы ногі Купалу, паглядзела на плошчу, на ўзбуджаны ў чаканні відовішча натоўп, на маўзалей, на трыбуне якога тоўпіліся кіраўнікі партыі і ўрада, на Лётчыка над імі і на Хрыста над усім, Ганна. – У гэтай краіне заўсёды нехта знойдзецца, каб вас пабудзіць.

Яна гучна гэта сказала, і Красная плошча прагула, нібы будзіла Сталіна, які спытаў: “А хто-небудзь, каб ногі мне абмыць, знойдзецца?..” Ганна прамаўчала, а галава патрыярха Ціхана прамовіла: “Вам рукі мыць трэба”. Сталін паклікаў: “Лаўрэнцій!.. Чуеш?.. Я ўсё табе дарую!..” – але Берыя таксама не адгукнуўся. Тады правадыр стаў выкрыкваць імёны адно за адным: “Хама!.. Юда!.. Пётр!.. Варфаламей!.. Якаў!... – Ён доўга крычаў, пакуль не стаміўся. – Андрэй!.. Сымон!.. Піліп!.. Фадзей!.. Ян!.. Мацвей!..” Сціх і павярнуў, наколькі змог, галаву да Купалы. “Бачыце... Я ж казаў, што ўсе... Апроч маці... А я з ёй нават не развітаўся. Барадзіно ў той дзень, калі яе хавалі, прысніў. Толькі пад Масквой не французы, а немцы. І фельдмаршалам у мяне Кутузаў-Тухачэўскі, які кажа: “Трэба здаць Маскву”. Дык што з ім рабіць было? У той жа дзень расстраляць! Вось чаму я на пахаванне маці не паехаў... Каб ўратаваць Расію...”

## 58

Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, чатырохразовага Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы, Маршала Савецкага Сюза, Галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі СССР, лаўрэата Міжнароднай Ленінскай прэміі “За ўмацаванне міру паміж народамі”, пісьменніка, лаўрэата Ленінскай прэміі па літаратуры Леаніда Ільіча Брэжнева хавалі апоўдні 15 лістапада 1982 года. У XX стагоддзі ён пражыў 75 гадоў, 18 з якіх пракіраваў адной з найбольшых краінаў свету і памёр лёгкай смерцю ў сне пад раніцу 10 лістапада.

Паэт Віктар Маргер стаяў з правага боку левай гасцявой трыбуны, адкуль добра відаць была выкапаная каля крамлёўскай сцяны і абцягнутая знутры чырвоным шоўкам магіла, якая выглядала так, нібы ў ёй нешта дагарала пасля пажару.

– Час дагарае, – прамовіў хтосьці за спінай Віктара. – Дагарае чырвоны час.

Віктар азірнуўся: у чорным паліто, чорным гарнітуры, чорнай кашулі з чорным гальштукам стаяў за ім дырэктар антыкварнай крамы Назар Януаравіч Вензель.

Труну з целам нябожчыка перанеслі ад уваходу ў Маўзалей Леніна да магілы, і на трыбуну Маўзалея пачалі падымацца таварышы Андропаў, Вусцеў, Грачын, члены пахавальнай камісіі, члены і кандыдаты ў члены Палітбюро. Усе яны былі ў мешкаватых паліто, хто ў андатравых аблавушках, хто ў старамодных капелюшах фасону кацялок, і сярод іх вылучаўся ў добра скроеным плашчы маладцаваты мужчына, які быў не ў кацялку, а ў любімым амерыканскімі музыкамі капелюшы фасону трыблі, нешырокія палі якога трохі загіналіся на патыліцы ўверх, што надавала малайцу яшчэ і заліхвацкі выгляд. “Хто гэта?.. Хто такі?..” – пыталіся ганаровыя госці, якія былі запрошаныя на пахаванне Брэжнева, але ніхто не мог ім сказаць, хто гэта такі. Віктару здавалася, што недзе ён гэтага малайца бачыў, толькі не мог успомніць, калі і дзе?

– Гэта Нячаеў, – сказаў за спінай Вензель. – Былы дырэктар фабрыкі Нячаеў. Дакладней, ягоная міжножная частка. Успомнілі?.. Як бачыце, усё так, як вы напісалі. Трэба думаць, што пісаць.

На трыбуне Маўзалея людзі ў андатравых аблавушках і фетравых капелюшах сталі ў адзін шэраг, старшыня пахавальнай камісіі Андропаў падышоў да мікрафона.

– Сёння мы і разам з намі ўвесь савецкі народ, усё прагрэсіўнае чалавецтва развітваецца з верным сынам партыі, кіраўніком савецкай дзяржавы, лідарам міжнароднага камуністычнага руху, дарагім і любімым таварышам Леанідам Ільічом Брэжневым. Слова для развітання прадастаўляецца Генеральнаму сакратару ЦК КПСС, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, чатырохразоваму Герою Савецкага Саюза, Герою Сацыялістычнай Працы, Маршалу Савецкага Сюза, Галоўнакамандуючаму ўзброенымі сіламі СССР, лаўрэату Міжнароднай Ленінскай прэміі “За ўмацаванне міру паміж народамі”, пісьменніку, лаўрэату Ленінскай прэміі па літаратуры дарагому і любімаму Леаніду Ільічу Брэжневу – прадаўжальніку вялікай справы Уладзіміра Ільіча Леніна! Пакуль вечна жывая ягоная справа, ён таксама вечна жывы! Ура!

“Ура-а!..” – не надта дружна, бо ніхто не чакаў на пахаванні ніякіх “ура”, працягнула Красная плошча, і Брэжнеў, хоць са слоў Андропава не зусім зразумела было, які Ільіч вечна жывы, павярнуўся ў труне на бок, прыпадняўся, хацеў устаць, але не змог, бо, напэўна, не надта добра сябе пачуваў, зноў лёг на спіну, і тады да яго кінуўся, скочыўшы з трыбуны Маўзалея і цягнучы за сабой шнур мікрафона, маладцаваты мужчына ў модным плашчы і капелюшы фасону трыблі: “Калі ласка, прамаўляйце, Леанід Ільіч!..”

– Дарагія таварышы!.. – пачуўся над Маўзалеем, над Краснай плошчай, над Масквой і ўсёй савецкай краінай знаёмы, трохі ў нос, прыглушаны голас. – Я трое сутак праляжаў у Калоннай зале Дома Саюзаў, дзе ноччу было халаднавата, і трохі прастудзіўся. Тым не менш, хачу сказаць, што вельмі прыгожая зала, усім рэкамендую, – скончыў прамову Брэжнеў, але над ім нахіліўся капялюш фасону трыблі, нешта шапнуў на вуха, і Брэжнеў дадаў: – У нас сур’ёзная дэмаграфічная праблема, яе трэба неадкладна вырашаць, таму рэкамендую прызначыць сакратаром ЦК КПСС па ідэалогіі таварыша Нячаева, які прайшоў шлях ад простага майстра-лялечніка да дырэктара фабрыкі цацак, выявіў сябе нястомным працаўніком, для якога клопат пра тое, каб з’яўлялася ўсё болей і болей дзяцей, не кабінетная тэорыя, а штодзённая практыка, таму рэкамендую”.

Цалкам задаволены Нячаеў пацалаваў Брэжнева, вярнуўся на трыбуну Маўзалея і аддаў мікрафон Андропаву.

– Паважаныя таварышы! Шаноўныя госці! Дарагія сябры! – урачыста, пасля кожнай фразы робячы паўзу, прамовіў Андропаў. – Па нашай партыйнай традыцыі прадаўжальнікаў вялікай справы таварыша Леніна і таварыша Сталіна хаваюць пачынальнікі вялікай справы таварыша Леніна і таварыша Сталіна таварыш Ленін і таварыш Сталін!

Загучала жалобная музыка, да труны Брэжнева падышлі ў форме рабочых пахавальнай каманды Ленін і Сталін.

Віктар, не зразумеўшы, навошта гэты маскарад, а калі гэта не маскарад, дык як такое можа быць, павярнуўся да Вензеля, той нахіліўся да ягонага вуха: “Мёртвыя бачаць мёртвых”.

– Але ж я і жывых бачу!

– Значыць, вы не зусім мёртвы. Нешта ў вас памерла, нешта не. Як у дырэктара фабрыкі Нячаева.

У голасе Вензеля з’явіліся насмешлівыя ноткі. Раней такога не было.

Зрэшты, шмат чаго не было раней. Не было Ганны. І ўсё, што прыйшло пазней, прыйшло разам з ёй. Гэта яна купіла яму квіток у мяккі вагон.

Тры дні таму, калі ён вяртаўся з Варшавы і цягнік спыніўся ў Мінску, ён глядзеў у вакно вагона: выйсці? Застацца? Паехаць у Крэва?.. Нават прайшоў у тамбур, але не выйшаў, не застаўся. Правадніца, якая курчылася на пероне пад плашчыкам, што не хаваў яе ад ветру з дробным, сякучым дажджом, сказала: “Стойце там, няўтульна тут”, – і ён стаяў у тамбуры, пакуль яна не паднялася і не зачыніла дзверы.

Прыехаўшы ў Маскву, злы на самога сябе, ён пасварыўся з Ганнай. Крычаў, што не хоча, каб квіток у мяккі вагон куплялі яму ўсялякія курвы і каб яна, калі хоча застацца з ім, збіралася ў Крэва, а Ганна пачала крычаць, што яна не пакаёўка Любоў, каб ахвяраваць дзеля яго ўсім, што мае, і калі сказала, што купіла яму квіток у мяккі вагон, бо ён сам захацеў перасесці ў яго з плацкартнага, Віктар ляснуў дзвярыма. Цяпер Ганна стаяла ў цэнтры гасцявой трыбуны побач з Індзірай Гандзі. Нешта нагаворвала ёй, тая ківала. Зацікаўлена ківала, так, як звычайна ківаюць жанчыны, калі пляткараць пра мужчын, і наўрад ці яны пляткарылі пра Брэжнева.

– Хвіліна развітання для родных і блізкіх, – жалобна прамовіў Андропаў, і члены пахавальнай камісіі, члены і кандыдаты ў члены Палітбюро пачалі спускацца з трыбуны, і, калі ўсе развіталіся, Ленін і Сталін прыкруцілі вечка да труны і на белых, доўгіх і шырокіх, як ручнікі, стужках, Ленін з галавы, а Сталін з ног пачалі апускаць труну ў чырвоную магілу. Грымнуў артылерыйскі залп, і Ленін ці то з нечаканкі, ці з таго, што аслабеў, лежачы ў Маўзалеі, ці проста таму, што з ягонага боку, з галавы труна была цяжэйшай, выпусціў стужку з рук. Пад артылерыйскі залп труна галавой уніз грымнулася ў магілу, адкуль пачулася: “Вы там зусім ахрэнелі?” – і Ленін праз такую прылюдную няўдачу мусіў бы неяк павінавацікца, разгубіцца, але ён не павінаваціўся і не разгубіўся: “Іосіф Вісарыёнавіч, вы што нарабілі?..” Патаптаўшыся дзеля прыліку яшчэ трохі каля магілы, ён горда пакрочыў у свой Маўзалей, і хоць Сталін услед яму спытаў крыўдліва: “Пры чым тут я, з вашага боку галава была, з майго ногі”, – Іосіф Вісарыёнавіч усё адно застаўся вінаватым, бо хто з іх з якога боку стаяў, мала хто з плошчы бачыў, а як Ленін яго звінаваціў, чулі ўсе, і Сталін, махнуўшы рукой, рушыў да Лобнага месца, дзе ўзвышаўся крыж, вакол якога тоўпіліся дзіўныя людзі ў апратках 40-х гадоў і часоў Вялікага Княства Літоўскага. “Лаўрэнцій! – паклікаў Сталін, і з натоўпу каля Лобнага месца выбег Берыя, якому Сталін раздражнёна стаў выгавор-

ваць: – Так нельга, Лаўрэнцій! У Суслава была няхай маленькая, але ўсё ж галава члена Палітбюро, а тут проста галоўка члена. І яна адказве за ідэалогію! Гэта здзек з партыі! Нельга так, Лаўрэнцій, трэба з гэтым нешта рабіць. Ажыўляцца мне трэба. Што ў нас з 1-й лабараторыяй? Працуе яна над гэтым?" – і Берыя выструніўся: "Працуе, таварыш Сталін! І не толькі 1-я лабараторыя, уся краіна над гэтым працуе!"

"Кіньце вашы фокусы…" – не паварочваючыся, ведаючы, што Вензель яго чуе, ціха сказаў Віктар. – І пачуў за спінай: "Гэта не мае фокусы. На гэтым крыжы гэтыя людзі прынеслі на Лобнае месца Сталіна і Купалу. Гэта вы так напісалі. І паэму пра Нячаева напісалі вы, а не я. Думаць трэба, што пісаць. Дарэчы, вашага сябра Мацвеева праз вас пасадзілі". – "Пасадзілі? За што? За маю паэму?" – "Ён даслаў яе ў КГБ пад сваім іменем. Пісаць ён ніколі не ўмеў, але марыў, каб нешта пад ягоным іменем было напісана. І яшчэ, ведаючы вашу схільнасць да маральнага мазахізму, хацеў, каб яго пасадзілі праз вас і каб вы праз тое пакутавалі. Гэтакі прысніўся яму сюжэт, які, калі б мог, ён напісаў бы, а не ўмеючы пісаць, вырашыў пражыць. Адны робяць з жыцця літаратуру, іншыя – з літаратуры жыццё".

Ну, Мацвееў! Столькі нерваў! Столькі страхаў! Столькі бяссонных начэй: што будзе? Арыштуюць, не арыштуюць? Ну, Мацвееў… Ідыёт!

"Трам-там-тарам-там-там!.." – калыхнуў трыбуну ваенны марш, і па Краснай плошчы рушылі, развітваючыся са сваім галоўнакамандуючым, пра якога расказвалі ў казармах анекдоты, жаўнеры войскаў Маскоўскага гарнізона. Калі яны адмаршыравалі і члены пахавальнай камісіі, кандыдаты ў члены і члены Палітбюро з ганаровымі гасцямі з трыццаці пяці краін свету, сярод якіх быў і Ярузельскі – які ўсё спрабаваў прыстроіцца да Андропава, каб, пэўна, папрасіць не ўводзіць у Польшчу войскі, чаго ніяк не даваў зрабіць яму міністр абароны Вусцеў – скіраваліся ў Крэмль на памінкі, да гасцявой трыбуны, з якой спусціўся Віктар, падскочыў Нячаеў.

– Мы з табой за адным сталом! І не толькі на памінках. Я ў партыі, ты ў прафсаюзах. У школе камунізма!.. І не рабі выгляд, нібы не пазнаеш! Гэта я мог бы выгляд зрабіць, што цябе не пазнаю. Мог бы пра цябе з Мацвеевым забыцца, але я помню, хто паслаў мяне ў ЦК. І Мацвееву я дапамагу. А вось ты не помніш дабра. Ведаеш, што Грачын пра цябе сказаў? Што ты няўдзячны! І лепш бы Ганна са мной была, чым з табой!

Бадай, лепш. Ад гэтага члена з галоўкай у капелюшы фасону трыблі ў Ганны былі б дзеці, не трэба было б у Індыю ехаць.

Прыпадняўшы на развітанне капялюш, маўляў, гонар маю! – Нячаеў дагнаў Ганну з Індзірай Гандзі, узяў іх пад рукі і павёў у Крэмль. Віктар глядзеў услед: не ісці ж за імі… А куды яшчэ ісці, ён не ведаў.

– Ад вас з нейкім абрэзкам у капелюшы сыходзіць каханая, найлепшая, якая ў вас магла быць, жанчына, а вы не ведаеце, што рабіць? – спытаў Вензель. – У такім разе вось вам прэзент на памяць пра яе. Падарунак ад 1-й лабараторыі.

Падарункам ад 1-й лабараторыі былі два срэбрана-бліскучыя шарыкі, падобныя да тых, што выпалі з "ашыйніка", калі яго здымалі з Віктара ў лякарні. Яны прыемна зачапіліся ў руцэ, нават, здавалася, запульсавалі, выпраменьваючы цяпло.

– І ў дадатак… – праз паўзу, нібы раздумваючы, ці казаць гэта, прагаварыў Вензель. – У дадатак да падарунка вось што. Адразу пасля аварыі Ганна завезла вас у крамлёўскі шпіталь на Уздвіжанцы. Там ёй сказалі: "Нам вельмі шкада, але…" Тады яна патэлефанавала мне.

– Чаму вам?

– А каму яшчэ, калі вы не жывы? І я назваў ёй адрас на Лубянцы, куды вас прывезці. Але ўсё адно мы вас не ажывілі б, ніякія рэгенератары не дапамаглі б, калі б не яна. У вас, каб вы ведалі, палова яе крыві, але кроў можна было ўзяць у кожнага, у каго ваша група. Ганна аддала вам палову жыццёвай сілы, якая важней за кроў, бо яна і ёсць жыццё, якое мы навучыліся пераліваць. Не буду тлумачыць тэхналогію, вы ўсё адно не зразумееце, але, каб нешта ўцямілі, гэта як дыханне губы ў губы, толькі выдыхаеш не паветра, а душу. І калі кроў можна ўзяць прымусова, дык жыццёвую сілу, душу прымусова не возьмеш, а толькі тады, калі нехта сам захоча аддаць яе некаму, не пашкадуе. Падзеліцца жыццём. Інакш нічога не выйдзе, не перальецца. Ганна не пашкадавала. Яе папярэдзілі, што гэта не кроў, якая адновіцца, а яна не пашкадавала. Прасіла ніколі і нікому пра тое не казаць, і я не казаў, але цяпер падумаў, што вам трэба ведаць. І яшчэ, я думаю, варта вам ведаць вось што: тое самае зрабіла некалі яе маці. Дзеля каго – здагадайцеся самі. Але тады мы яшчэ толькі пачыналі – і не ўсё ўдавалася.

Ганна!.. Нешта такое: лякарня, падобная да Ганны жанчына на суседнім ложку, зеленаватага колеру прылада на стале паміж імі, што міргала агеньчыкамі і падавала ціхія, як спадарожнік з космасу, сігналы, бегатня людзей у сініх халатах Віктару ўспаміналася. Так успаміналася, нібы снілася, але ці мала што можа прысніцца?..

“Каханне – гэта калі тваё жыццё не ў табе, а ў іншым чалавеку”. Вось чаму яна паўтарала і паўтарала гэтыя словы! Вось чаму вярталася і вярталася да таго, што ўбачыла ў Крэўскім замку! Да Любові, якая зратавала ад смерці Вітаўта! Пераліла ў яго сваё жыццё! Дык у каго пераліла? Ці варты ён ахвяры? Вось што Ганну, калі яна бачыла, як мітусіўся Віктар у падараваным ёй жыцці, гняло. Вось што яе мучыла, калі толькі Вензель усё гэта не прыдумаў.

– Вы таксама раман пішаце, Назар Януаравіч?

Вензель выявіў на твары штосьці кшталту крыўды.

– Я не займаюся белетрыстыкай. Жыццё – дакументальны жанр, як кажа Цапман.

Дакументальным жанрам называў жыццё Марат, які з таго часу, калі пакінуў развітальную запіску: “Жыццё – дакументальны жанр. Заўтра ўвечары самалёт. А там – як Бог дасць”, – ніяк болей не гукаўся, і ніхто не ведаў, дзе ён і што з ім.

– Цапман? – перапытаў Віктар. – Які Цапман?

– Ваш мінскі знаёмы, які збіраўся з’ехаць за мяжу, бо ў Мінску яго пераследвалі. Ці ён ваш сябар, не ведаю ўзроўню вашых адносінаў. Але ведаю, што вы папрасілі за яго беларускае кіраўніцтва, ён нікуды не з’ехаў, а пасля нам спатрэбіўся інжынер па электроніцы – і лепшага за Цапмана мы не знайшлі. А калі б ён з’ехаў, дык не было б у нас лепшага. Так што ўсё, што вы рабілі, зроблена вамі на карысць Радзімы, незалежна ад таго, што вы думалі зрабіць.

Сапраўды незалежна… Усё, што адбывалася з ім апошнім часам, адбывалася незалежна ад ягоных намераў. Але тое, што адбывалася з тымі, хто быў побач, адбывалася праз яго. Мацвеева пасадзілі, Цапмана завербавалі. Не сам жа ён, антысаветчык, у 1-ю лабараторыю падаўся. У КГБ. Не пайшоў бы Віктар прасіць за яго, ён бы з’ехаў.

Кругам па плошчы яны падышлі да Лобнага месца, дзе Сталін, усё яшчэ

нешта выгаворваючы Берыі, глянуў на іх, і позірк быў такі мёртвы, што Віктар сцяўся, нервова крутнуў шарыкі між пальцаў, адзін з якіх выслізнуў, падскочыў на брукаванцы – Сталін спрытна злавіў яго.

– А вось і таварыш Вензель! У шарыкі таварыш Вензель гуляе! А што нам скажа таварыш Вензель пра поспехі 1-й лабараторыі?

Нічога не адказаўшы Сталіну, Вензель забраў у яго шарык.

– Вы чаго, Віктар Паўлавіч, гэтак сцяліся? Ён жа пакуль не жывы. – І вярнуў шарык Віктару. – Гэта “мысляр”, як мы яго назвалі. Адзін “мысляр” кантраляваў ваш стан, калі вас ажыўлялі. Фізіку. Другі – псіхіку. Свядомасць. Каб вы нічога не западозрылі, іх схавалі ў “ашыйнік”. На той час не было яшчэ ў нас Цапмана, які зрабіў іх не большымі за макавае зерне. Геніяльны інжынер.

“Адна з уласцівасцяў любой эфектыўнай сістэмы – імкненне да кампактнасці”, – казаў Марат. І вось што з гэтага выйшла.

– І што? – спытаў Берыя, які зацікаўлена слухаў Вензеля. – Што з таго, што нешта большае стала меншым?

– Меншае стала большым па сваіх магчымасцях, таварыш Сталін, – чамусьці не Берыі, а Сталіну адказаў Вензель. – Цяпер мы можам, прыдумаўшы для гэтага любую прычыну, напрыклад, прышчэпкі супраць грыпу, ужыўляць “мысляроў” незаўважна для пацыентаў, кантраляваць іх і кіраваць імі. Для таго, каб вы ажылі, трэба ўжывіць такое жаданне мільёнам людзей, гэта вялікая праца, так што давядзецца, Іосіф Вісарыёнавіч, яшчэ пачакаць.

Сталін сувора зірнуў на Берыю.

– Чуў, Лаўрэнцій?.. А ты: гэта добра, што вы на крыжы! Хто на крыжы, той ажывае! У свеце навукова-тэхнічны прагрэс, а ты мне казкі біблейскія! Нібыта паэт нейкі, а не наркам дзяржаўнай бяспекі СССР!.. Дарэчы, дзе Купала? Мне аднаму вісець?

Тое самае, калі ўжо Сталін і Купала на адным крыжы, хацеў спытаць Віктар.

– Адлучыўся, – сказаў на ягоны дапытлівы позірк Вензель. – Ён не любіць пахаванні. Як і я. І, каб вы ведалі, я тут не праз тое, што Брэжнева хаваюць. І нават не праз вас. Праз Ганну, – пад руку павёў ён Віктара ад Лобнага месца. – Некалі я быў закаханы ў яе маці. Так закаханы, што вар’яцеў, гатовы кінуць увесь свет да яе ног. Але ёй патрэбны быў не свет. Паэт. Бачыце, нават зрыфмаваў, хоць гэта не мой жанр. І тады я паспрабаваў стаць чымсьці большым, чым паэт. Не меншым, чым свет, у якім ёсць жыццё, смерць і ўваскрашэнне. І стварыў 1-ю лабараторыю. Я прымяраў ролю бога, а Ганна прыдумала з мяне д’ябла. І гэты прыдуманы лабараторны д’ябал стаў д’яблам Купалы. Можа, праз тое і рынуўся ён у лесвічны пралёт.

Віктар адчуў, як у ім пагарачэла кроў.

– Дык яго не скінулі? Рынуўся сам?

– Скуль я ведаю? Мы пазнаёміліся, калі ён быў ужо нябожчыкам. І пра тое, скінулі яго ці сам рынуўся, не казаў.

Зірнуўшы на гадзіннік, Вензель спыніўся каля ўваходу ў ГУМ. Відаць было, што размаўляць пра смерць Купалы ён не хоча. Як і ніхто з тых, хто мог пра гэта нешта сказаць.

– Але ж вы маглі быць у той вечар у гатэлі “Масква”.

– Мог, але не быў. У той вечар я быў у антыкварнай краме. 1-я лабараторыя – праца, а крама – хобі. Як і цырк. Для адпачынку. Калі памятаеце, крама мая тут, у ГУМе. Бачылі, колькі ў ёй цікавых рэчаў? Але з усяго, як падарунак на развітанне, выбраў я для вас вось гэта, – дастаў Вензель

ключ з кішэні паліто. – Калі не захочаце адчыніць дзверы, якія ён адмыкае, аддайце ключ Ганне. У мяне будзе прычына сустрэцца з ёй, каб забраць.

І Вензеля праглынулі дзверы ГУМа.

Узяўшы ключ, Віктар доўга стаяў на Краснай плошчы, гледзячы, як расцякаецца пасля пахавання натоўп – мёртвыя скрозь жывых і жывыя скрозь мёртвых.

Да ключа быў прычэплены нумар, як гэта робіцца ў гатэлях. 414.

## LIX

Сталін змоўк знясілена, схіліўшы галаву на плячо, і Купала падумаў: "Гэта ўжо трызненне... Вар'яцтва. Калі нехта кажа, што не змог пахаваць маці, бо ў той дзень яму трэба было расстраляць саснёнага фельдмаршала, каб ўратаваць Расію, гэта вар'яцтва".

– Што ж, калі ніхто... – пераставіла Ганна вядро з-пад ног Купалы пад ногі Сталіна – і вада ў вядры, калыхнуўшыся і засвяціўшыся на дне, загарэлася, агонь палыхнуў клубам, узнёсся ўверх...

"...І агонь Ягоны ў вадзе!" – тут жа ўспомніўся Купалу сон, убачаны ў трэці дзень па смерці, і Хрыстос у тым сне, і падарожнік, які прыйшоў у горад, збудаваны Ірадам, каб сказаць Хрысту: "Шлях твой да Яна Купалы. Ідзі да яго на Іярдан».

Купала кінуў вокам на Лётчыка – той зорку на шлеме не кранаў: вада загарэлася сама.

Ганна нахілілася, зачарпнула агонь, які палаў у яе руках, і абмыла агнём боты Сталіна. Раз, другі, трэці...

"Хрышчу цябе святлом і агнём..."

– Хрышчу цябе святлом і агнём, – прагучала над Краснай плошчай, і жывыя з мёртвымі, уражаныя тым, што толькі што ўбачылі, пачалі хрысціцца, маліцца – і тут загаварыў крыж. Глухаваты голас ягоны гэтаксама, як ціхі голас Хрыста, пранікаў скрозь крамлёўскія сцены і скрозь сцены ГУМа, скрозь мураванкі Пакроўскага сабора і Гістарычнага музея, разносіўся над Масквой, з ветрам ляцеў далей, лунаў над нізінамі, гарамі і пагоркамі зямлі, што разам з землямі татарскімі і ўдмурцкімі, мардоўскімі і марыйскімі, калмыцкімі і кумыцкімі, эвенскімі і нанайскімі, саамскімі і юкагірскімі, тазынскімі і лазынскімі, хакаскімі, карэльскімі, нянецкімі, езідскімі ды іншымі, населенымі амаль дзвюма сотнямі народаў, чамусьці называлася – пад плач званоў зруйнаванага храма Ісуса Хрыста! – святой Руссю. "Не толькі агонь, усё ў свеце цягнецца да нябёсаў. Кожная травінка, былка кожная! – вяшчаў, павярнуўшыся да маўзалея тым бокам, на якім быў раскрыжаваны Сталін, крыж, і ці не ўсім, хто быў на плошчы, здавалася, што гэта ён, правадыр, і вяшчае. – І калі б Расія, як агонь, мкнула да неба, у ёй бы болела Бога! Але яна, як дым, сцелецца да небасхілу, каб у ёй болела зямлі! На захадзе і ўсходзе, на поўдні і поўначы. І пакуль будзе так, датуль валадарыць у ёй будзе той, хто рухаецца адразу ў чатыры бакі, не маючы ніякай іншай, апроч зямлі, мэты! І гэтым будуць апраўдвацца ахвяры, смерць, кроў! Так было заўсёды! Усё, што дзеелася ў Расіі вар'яцкага, жахлівага, нечалавечага, мела апраўданне ў тым, што дзеелася яно дзеля Расіі!.. – прамаўляў крыж, а полымя разгаралася, на Сталіне затлелі боты, і ён – ці праз тое, што амаль гарэў, ці праз тое, што разумеў: усім здаецца, нібы гэта ён прамаўляе! – біўся патыліцай аб глухавата-драўляны голас... А ў руках архімандрыта Данскога

манастыра Ісідара, вар'яцеючы ад таго, што чула, білася галава патрыярха Ціхана.

"Падымі мяне, Ісідар... – ледзь разнімаючы вусны, папрасіла галава патрыярха. – Падымі... прамовіць хачу..." А калі архімандрыт узняў яе, галава нешта прахрыпела...

"Анафема... – прашаптаў, мусібыць, тое, што не разабраў у хрыпах галавы патрыярха Купала, архімандрыт Ісідар. І паўтарыў гучней, ужо ад сябе. – Анафема!.."

Прыпякала ўсё болей, Купала адчуваў свае ногі так, нібы нацёр іх у новых неразношаных чаравіках, у якіх да таго ж засмылелі падэшвы. Ён рвануўся левай рукой да правай, паспрабаваў вырваць цвік, але той не паддаваўся, Несцярэнка з Кашкадамавым, Кіраў з Тухачэўскім, Горкі з Маякоўскім, Коган з Куйбышавым увагналі яго па самую плешку, і тады віленскія пакутнікі нахілілі крыж, Кумец з Кругляцом выдралі цвікі з рукі і ног Купалы, Няжыла зняў яго з крыжа, які падхапілі сталінскія сокалы, абодва ў лётных шлемах, Рыбко з Чкалавым, і ўзнялі раскрыжаванага Сталіна над Лобным месцам.

– Браты і сёстры!.. – узвіўся, здалося, языком агню Сталін, і амаль адразу, перакрываючы ягоны голас, па Краснай плошчы, якая таго, што прамаўляў крыж, нібыта й не пачула ці не захацела пачуць, пракацілася: "Ур-р-а!.." І ўзвіліся чырвоныя сцягі, разгарнуліся транспаранты, узляцелі каляровыя шары. "Няхай жыве таварыш Сталін! Ур-р-а!.. Слава таварышу Сталіну! Ур-р-а!.." – пачала выстройвацца, нібы па чыімсьці загадзе, плошча ў калоны, першая з якіх, спартыўныя таварыствы "Буравеснік", "Працоўныя рэзервы", "Дынама", "Лакаматыў", "Спартак" замаршыравалі пад музыку ваеннага аркестра, і пайшлі, пайшлі па плошчы перад лобным месцам прадстаўнікі працоўных калектываў, заводаў і фабрык, калгасаў і саўгасаў, акадэмій, інстытутаў і тэхнікумаў, мастацкіх вучэльняў і школ, таварystваў педагогаў-марксістаў, гісторыкаў-марксістаў, краязнаўцаў-марксістаў, таварыства "Далоў непісьменнасць!" і таварыства па зямельным уладкаванні працоўных габрэяў, таварыства будаўнікоў пралетарскага кіно і проста таварыства будаўнікоў, таварыства шэфства горада над вёскай і таварыства вывучэння міжпланетных зносін, міжнароднай арганізацыі дапамогі змагарам рэвалюцыі, руху "Бі скаўтаў!", таварыства пралетарскага турызма, ваяўнічых бязбожнікаў і аматараў крэмацыі з двума партрэтамі Кашкадамава, з галавой і без галавы. За ваяўнічымі бязбожнікамі і аматарамі крэмацыі дзяўчынка з ружовым банцікам і хлопчык у піянерскай пілотцы неслі транспарант "ГУЛАГ", пад якім крочылі першыя ягоныя кіраўнікі на чале з Хведарам Эйхмансам, начальнікі Стэплагу, Мінлагу, Дуброўлагу, Азёрлагу, Берлагу, гулагаўскіх упраўленняў "Галоўгідраволгабалтбуд", "Сталінградгідрабуд", "Галоўспецнафтабуд", Усходняга ўпраўлення будаўніцтва і лагераў БАМ, Заходняга ўпраўлення будаўніцтва і лагераў БАМ, "Енісейбуд", "Асоббуд", "Галоўспецбуд", "Галоўасбест", "Галоўслюда", "Сярэднеазбуд", "Башспецбуд", "УЛСПЧМ", "УТП", "ГУАС", "ГУЛГМП", "ГУЛЛП", будаўнікі Беламорска-Балтыйскага канала імя Сталіна і Сталінградскай ГЭС, Волга-Данскога канала імя Леніна, Транспалярнай магістралі, Паўночнай чыгункі, тунеля на Сахалін, гарадоў Камсамольск-на-Амуры, Савецкая Гавань, Дубна, Дудзінка, Находка, Ухта, Інта, Пячора, Варкута, мільёны ледзь жывых і мёртвых зэкаў групы "А", групы "Б", групы "В", групы "Г", сярод якіх мільгалі і мільгалі знаёмыя твары сасланых і расстраляных: вунь невядома дзе памерлы і пахаваны Восіп Мандэльштам, сябар Маякоўскага Уладзімір Нарбут, Абдула Тагі-Задэ, Тыцыян Табідзе, якога, у адрозненне ад Галактыёна

Табідзе, Берыя не цытаваў, бо Галактыёну ў Тбіліся пашчасціла выжыць, а Тыцыяна расстралялі ў Тбілісі, як у Мінску расстралялі Кляшторнага і Таўбіна, Зарэцкага і Валасевіча, Кульбака і Аксельрода, Лявоннага і Дудара, маладых таленавітых паэтаў і вучоных, музыкаў і актораў, болей за сотню якіх паклалі ў адну цёмную восеньскую ноч, – вунь яны ідуць асобнай купкай, і Міхась Чарот, які надрапаў перад смерцю на сцяне турэмнай камеры: "Я прысягаю вам, сябры, мае палі, мае бары, – кажу вам – я не вінаваты!" – убачыў Купалу, замахаў, заштурхаў хлопцаў, паказваючы: "Купала! Купала!.. Вунь там, пад крыжам, на якім Сталін!" – і ўсе хлопцы ўскінулі рукі, запляскалі, бо мусіць, падумалі, што калі Сталін на крыжы, а Купала пад крыжам, дык гэта ён, Купала, Сталіна раскрыжаваў, і цяпер усё зменіцца!.. А як і што для вас можа змяніцца, калі па баках калоны ваенізаваная ахова, калі вы закатаваныя, забітыя, хлопчыкі мае, на якіх былі ў мяне, у Беларусі былі такія спадзяванні, гэткія надзеі?!. Родненькія!.. Алесік, Юрка, Тодар, Майсей, Міхась!.. Як жа сэрца мне цісканула, які жах паклаўся агнём і дымам наперадзе, калі вас не стала, і я ўвайшоў у гэты дым з агнём, падумаўшы, што разам з вамі можа не стаць Беларусі, маці, якая вас нарадзіла, і дасюль з гэтага жаху, з дыму гэтага і агню не магу выйсці...

Завод за заводам, фабрыка за фабрыкай, калгас за калгасам, лагер за лагерам, а паміж імі то Саюз кампазітараў, то Саюз мастакоў, то Саюз пісьменнікаў, то таварыства "Веды" з транспарантам "Няхай жыве нармальны Статут навуковых, навукова-мастацкіх і літаратурных таварыстваў!" крочылі і крочылі калоны, якім канца-краю не відаць было, і ў кожнай з іх, нават самай мёртвай, жыўцом спаленай у гарах Чачні ці затопленай на баржы ў вусці ледзянога Енісея, знаходзіўся нехта, хто крычаў Сталіну "ўра!". Іх не зразумець было, гэтых людзей – ні жывых, ні мёртвых. Сталін нават не глядзеў на іх – ён пазіраў, усміхаючыся, на Хрыста.

– Таварыш Сталін!.. – узбеглі на лобнае месца і ўхапіліся за крыж разам з "сокаламі", падумаўшы, відаць, што правадар трыумфальна вернецца зараз не толькі ў маўзалей, але і ў Крэмль, Берыя з Мяркулавым. – Мы з вамі, Іосіф Вісарыёнавіч!.. Мы з вамі! – І Берыя скамандаваў "сокалам". – На маўзалей! На трыбуну!

"На маўзалей!.. На трыбуну!.." – падхапілі калоны дэманстрантаў, размахваючы сцягамі, плакатамі, транспарантамі. Яшчэ вышэй узнялі крыж са Сталіным сокалы Рыбко і Чкалаў, энкавэдысты Берыя з Мяркулавым, маршал Тухачэўскі з капітанам Забіякіным, які й не ведаў, што гэта за чалавек на крыжы, якому хацеў ён боты пачысціць, але, як усе, гэтак і капітан, – і тут Хрыстос, які доўга і самотна, самотна і доўга глядзеў на ўзвіраваную Красную плошчу, на зэкаў і фізкультурнікаў, на калгаснікаў і рабочых з інтэлігенцыяй, на правадыроў і народ, які правадырам, што тапталі яго, як анучу на ганку, гатовы быў вылізаць боты, ускінуў галаву ў неба і нешта прашаптаў. Купала не расчуў Ягоныя словы, але па губах яму здалося, што Сын Божы прамовіў: "Гэй бэн гіном..."

Абрус, якім быў засланы стол на даху, дзе сядзелі апосталы, узняло ветрам – Юда ледзь паспеў схапіць і пакласці ў кайстру хлеб, разламаны з Хрыстом. "Янка!" – крыкнула, учапіўшыся за верхавіну крыжа, каб на вянку яе вецер не знёс, Спагада. Яна спусцілася ніжэй, падала руку, віленскія пакутнікі ўсадзілі Купалу побач з ёй на вянок, які паціху пачаў падымацца, і Купала праплыў спачатку тварам да сталінскіх, якія ўжо гарэлі, ботаў, потым да ягоных галіфэ, кіцеля, а калі апынуўся тварам у твар з правадыром, вянок на імгненне завіс,

галава Сталіна павярнулася, але ўбачыў Купала не сталінскую патыліцу, а твар Лётчыка ў шлеме, які зарагатаў: "Каян Лупака!.." – і Спагада плюнула яму ў featурознакаляровыя вочы: "Сатана праклятьы!" – а ў грудзях Купалы ўскіпела такая злосць, што ён таксама не стрываў, плюнуў: "Не схаваешся за Богам!" – але галава зноў імгненна павярнулася, плявок паляцеў у твар Сталіну, які скрывіў губы, усміхнуўся змрочна: "Пры жыцці паспрабавалі б..."

– Так! Паспрабавалі б пры жыцці!.. – страшна ўскрычала, коцячыся па плошчы ад музея рэвалюцыі, галава Кашкадамава. З разгону ўскацілася на лобнае месца, павярнулася да трыбуны маўзалея. – А то цяпер рассмялеліся! Тыран! Людажэр!.. А народ любіў! Жыць стала лепей, жыць стала весялей! Вы не Сталіна – вы народ прадалі! Ра-сі-ю!.. – хрыпла ляцела ад лобнага месца да маўзалея, і не паспеў Купала падумаць, што, калі б Кашкадамаву далі слова на трыбуне, галава ягоная крычала б зусім іншае, як тая падкінулася, кульнулася цераз патыліцу і, стукнуўшыся лбом у вядро, перакуліла яго...

Купала зірнуў на дах маўзалея – нікога там не ўбачыў. Нібы Хрыстос з апосталамі адляцелі на ўзнятым ветрам абрусе. Не было і святых Пятра з Паўлам у порціку – толькі мільгнуў паміж цэнтральнымі калонамі і знік за імі Лётчык.

Полымя плёхнула на лобнае месца, драўляны насціл якога адразу запалаў, віленскія пакутнікі скочылі з яго на брукаванку, развітальна ўзмахнулі рукамі і кінуліся да Масквярэцкага маста, дзе іржалі, чакаючы іх, коні. З узнятым на крыжы Сталіным рушылі да трыбуны цераз плошчу, скрозь жывую з мёртвай чалавечую плынь сталінскія сокалы Рыбко і Чкалаў, Берыя з Мяркулавым, архімандрыт Ісідар з галовамі патрыярха Ціхана і старшыні таварыства аматараў крэмацыі Кашкадамава ў руках, маршал Тухачэўскі і капітан Забіякін, а за імі, ціскаючыся і штурхаючы адзін аднаго, лезучы адзін аднаму на спіны, усе, хто быў паблізу лобнага месца, на якім засталася толькі Ганна. Стаяла ў агні, так раскінуўшы рукі, нібы абдымалася з агнём. Адна няверная сярод верных, адна грэшніца сярод святых, адна жывая сярод мёртвых.

"Я гатовая за цябе жывой згарэць".

Вянок падняўся над лобным месцам ужо даволі высока, да ўзроўню дзясятага паверха гатэля "Масква", што віднеўся за гістарычным музеем. Зірнуўшы ўніз, Купала абняў, прытуліў да грудзей, у якіх ударыла сэрца, Спагаду, і калі яна, убачыўшы, як зірнуў ён на абнятую полымем Ганну, безнадзейна папрасіла: "Янка, не трэба... Не трэба, Яначка..." – разамкнуў абдымкі і скочыў з вянка.

"...не ўсё спраўджваецца не толькі ў людзей, але і ў Бога..."

– Янка! – вогненна закрычала насустрач яму Ганна. – Яначка!..

"...і нехта злятае з дзясятага паверха гатэля, нехта – з дзясятага паверха нябёсаў".

Спагада крутнулася на вянку, спрабуючы вярнуцца, але падхоплены гарачай хваляй вянок лёгка ўскінуўся ў неба, і затрапятала за ім распраўленая ветрам шаўковая стужка: *Мне сняцца сны аб Беларусі...*

Пакружыўшы над лобным месцам, дзе шугаў, сцякаючы на брукаванку, агонь, над маўзалеем, з трыбуны якога прамаўляў раскрыжаваны Сталін, над Краснай плошчай, па якой крочылі і крочылі скрозь полымя дэманстранты, Спагада праляцела над Крамлём, над Аляксандраўскім садам і скіравала на захад. Агледзеўшыся, яна ўпершыню заўважыла, што пахавальны вянок Купалы сплецены з тых жа кветак, якія намаляваныя ў вянку на вокладцы ягонай кнігі "Ад сэрца".

Па Кутузаўскім праспекце рухалася ў бок Мінскай шашы машына, у якой, Спагада гэта ведала, з Данскіх могілак Масквы везлі на перазахаванне ў Мінск прах чалавека, які ніколі не паміраў.

Спагада апошні раз азірнулася – за ёй, даганяючы сонца, скакалі на гнядым, на чорным і на белым конях Кумец, Круглец і Няжыла, а за імі, агнём і дымам паласуючы неба, з якога ўсміхаўся Бог, палала Масква.

## 60

Вечарам 15 лістапада 1982 года Віктар Маргер, убраўшыся ў белую з цёмна-чырвонымі агатавымі запінкамі кашулю, апрануў цёмна-карычневы, тонкага сукна ангельскі гарнітур, абуў карычневыя на тонкай скуранай падэшве чаравікі, павязаў светла-шэры з цёмна-чырвонай агатавай шпількай гальштук, сунуў у заднюю кішэню штаноў карычневую з чырвонай аблямоўкай насоўку, у левую ўнутраную кішэню пінжака – чорны скураны партманэт з пропускам у 300-ю секцы Упраўлення справамі Савета міністраў СССР і пасведчанне сябра Саюза пісьменнікаў, у правую кішэню – яшчэ адзін скураны партманэт, карычневы з пропускам у сталовую Упраўлення справамі ЦК КПСС, нататнік, на першай старонцы якога быў запісаны верш, прысвечаны Купалу, і, увайшоўшы ў вестыбюль гатэля “Масква”, спытаў адміністратарку, ці вольны 414-ы нумар? Адміністратарка, жанчына, падобная да Люцыны, ліфцёршы ў доме Кручы, якая перадавала яму, каб застрэліўся, пісталет, адказала, што нумар заняты, але чалавек, які ў ім жыве, рэдка ў сябе бывае, так рэдка, што яна не бачыла яго, колькі тут працуе, і зараз можа падняцца, каб паглядзець, ці ў нумары пастаялец… – яна пагартала нейкія паперы… – пастаялец Луцкевіч, на што Віктар сказаў, што не трэба, з яе дазволу ён падымецца сам, і адміністратарка заківала: “Калі ласка, вы ж таксама там жылі, вас я не так даўно бачыла, яшчэ дама з вамі была, шыкоўная такая, апранутая шыкоўна, і вы сёння шыкоўна апрануліся, як Луцкевіч, а дама, якая была з Луцкевічам, таксама някепска апранутая і, ведаеце, вельмі падобная да вашай, толькі старэйшая, нядаўна яна пайшла, так што там ён, калі ён там, адзін”.

Віктар падняўся на чацвёрты паверх, памарудзіў перад дзвярыма, не паспеў адамкнуць – дзверы расчыніліся самі. У парозе стаяў Купала. Відаць, ён чакаў тую жанчыну, якая нядаўна выйшла з нумара. Спадзяваўся, што вернецца. Ступіў у калідор, паглядзеў у адзін бок, у другі, і толькі тады жэстам запрасіў зайсці.

Нумар выглядаў не так, як тады, калі Віктар жыў у ім з Ганнай, а так, як быў апісаны 29 чэрвеня 1942 года ў данясенні № 3/3/6661 начальніка 3-га Упраўлення НКВД СССР Горлінскага на імя Берыі і Сталіна. На стале ляжала каробка шакаладных цукерак, пачак цыгарэт “Эліт”, стаялі келіхі з недапітым віном, попельніца з недапалкамі, а пад сталом – дзве бутэлькі з-пад шампанскага. Адзіная рэч, якая не была апісаная ў данясенні, – тэлескоп каля вакна. Пазначаныя былі нават такія дробязі, як адарваны гузік на падлозе, а тэлескоп чамусьці не.

– Вы па тэлескоп? – спытаў Купала. – Чаму вы думаеце, што ён ваш?.. Зрэшты, можаце забіраць, я цяпер без тэлескопа ўсё бачу. Нават зорку Акубенс, якой восенню амаль не відаць. Магічная зорка. Падвойная. Зорка прароцтваў і пранікненняў у мінулае.

– Вы пад ёй нарадзіліся.

– Вы гэта памятаеце? А вы пад якой?

– Таксама пад ёй.

– Таксама?.. Тады не дзіўна, што ў мінулае праніклі. Сядайце… Я ведаў, што прыйдзеце. Ці вы, ці нехта іншы... Але не думаў, што маім шляхам.

Віктар зразумеў, пра што ён.

– Так, амаль вашым. Хоць спрабаваў яго пазбегнуць.

– Не ўдалося?

– Так, не ўдалося.

Купала ўзяў цыгарку, запальнічку, закурыў.

– На жаль, нічым не магу дапамагчы. Немагчыма пазбегнуць непазбежнага.

– Але ж гэта не непазбежнае. Гэта выбранае.

– У вас быў выбар?

– Так. Як і ў вас.

– Смерць ці жыццё – гэта не выбар.

– А што гэта?

Купала прамаўчаў. Ці не захацеў адказаць, ці не меў адказу. Памаўчаўшы, спытаў:

– Вы прыйшлі мяне вінаваціць?

– Не. Цяпер – не. Але раней, у пару юнацтва...

– Калі хацелася мець ідэальных бацькоў?

– Так. Маці, якая б ні ў чым не схібіла, бацьку, які б не паддаўся, не зламаўся, не спакусіўся, а калі ўсё ж зламаўся і спакусіўся – зрабіў выбар паміж жыццём і смерцю.

Падняўшыся, Купала падышоў да вакна, доўга глядзеў у яго. Сказаў, не павярнуўшыся, і Віктар бачыў, як напружылася ягоная спіна.

– Недзе я ўжо чуў такое. Маўляў, быў у Купалы выбар... *«Ён мог падацца ў эміграцыю, мог пакончыць самагубствам, мог сказаць* “*не*” *бальшавікам і ўпасці ў дол у Курапатах. Нічога такога ён не зрабіў»,* – хіснуўся Купала, нібы яму ўдарылі ў спіну. – Перапрашаю, што не апраўдаў надзей. І перапрашаю за банальнасць адказу.

Ён вярнуўся да стала, сеў.

– Я так разумею, што размаўляць нам болей няма пра што. Усё сказана. – І кіўнуў на пустыя бутэлькі пад сталом. – Можна было б выпіць, але і выпіта ўсё. Хіба падняцца на дзясяты паверх. Там госці ў старшыні Саюза пісьменнікаў, яны выпіваюць. Хочаце?

– Не.

– Чаму?

– Бо ведаю, што будзе, калі вы падымецеся на дзясяты паверх.

Купала дакурыў, пацягнуўся да пачка па новую цыгарку – пачак быў пусты. “У мяне тут схованка ёсць”, – зноў прайшоў ён да вакна, засунуў руку пад падваконнік і дастаў цыгарку. Яна была зжаўцелая, ён закашляўся, закурыўшы, спытаў праз кашаль:

– Ведаеце, што будзе?.. Тады, можа, і мне скажаце? Бо ўсё адбылося гэтак хутка,што я не ўцяміў, як. Помню, як раней спрабаваў зарэзацца, а тут – заслона.

– Я не зазіраў за заслону і не ведаю, як. Ведаю толькі – што.

– Дык давайце падымемся. І ўсё ўбачыце. Потым раскажаце, мне цікава...

– Не!

– Чаму? Баіцёся ўбачыць маю смерць яшчэ больш банальнай за жыццё?

Ён сам сказаў тое, чаго не хацеў казаць Віктар.

– Адзін з маіх сяброў любіць паўтараць: “Невядомае – усё, што захочаш, а вядомае толькі адно”. Праз невядомае ваша жыццё небанальнае.

– А якое? Пісаць і піць, піць і пісаць – што можа быць больш банальным?.. Хіба што насамрэч скончыць жыццё самагубствам, калі піць можаш, а пісаць ужо не! Ды калі яшчэ ў цябе некаханая жонка, калі ў цябе маці, якую ты кінуў адну паміраць, і каханая палюбоўніца, якая цябе раскахала!

Так мог сказаць толькі бязлітасны да сябе чалавек.

Віктар думаў, што Купала будзе апраўдвацца, шкадаваць сябе, а ён не апраўдваўся і не шкадаваў.

– Вы не шкадавалі сябе. Тады чаму ўсё ж не паспрабавалі...

Купала ўскочыў, кінуў недапалак у попельніцу, не патушыўшы яго.

– Яшчэ раз узяць нож і яшчэ раз успароць жывот? Каб сказалі, што вар’ят, і завезлі ў вар’ятню? Бо да таго дапіўся, што не хоча жыць? А я жыць хацеў! Думаеце, гэта проста – не захацець жыць? Праз што? Знайдзіце ў сабе адказ на гэтае пытанне: праз што? І калі знойдзеце, паспрабуйце! – дастаў ён з кішэні і паклаў на стол складны сцізорык. – Я выйду, каб вам не замінаць.

– Чакайце!

– Чаго чакаць? – пазногцем патушыў недапалак Купала, якога размова з Віктарам відавочна пачала раздражняць, і Віктар падумаў: “Яго раздражняў гэты свет. Ён баяўся, што будзе раздражняць і той. Таму не паспрабаваў…”

– Яшчэ спытаць хачу...

– Што?

Не пытаць жа: “Вы не паспрабавалі, бо пабаяліся...” – і Віктар ужо й не ведаў, што яшчэ спытаць, але яму не хацелася, каб Купала вось так, даўшы нож для самагубства, сышоў, нібы нож для паэта – самы важны інструмент, таму пра яго самая важная, апошняя размова, і ён спытаў:

– Вы больш не пішаце лісты да Бога?

Выходзячы, Купала спыніўся каля таршэра, пад якім паўтара года таму спала на падлозе Ганна.

– Вы пра што? Калі пра вершы, дык гэта не лісты да Бога. І ні да каго. Гэта нашы шэпты ў вечную адсутнасць.

Такога адказу Віктар не чакаў. Так мог хто заўгодна адказаць, але не Купала.

Віктар збянтэжыўся, замітусіўся.

– Я прачытаць вам хацеў... – палез ён у кішэнь пінжака, дзе ляжаў нататнік з вершам, прысвечаным Купалу, а Купала кінуў: “Пасля прачытаеце!” – і выйшаў.

Толькі цяпер Віктар заўважыў справа ад таршэра дзверы, якіх раней не было. На дзвярах вісела шальдачка: “Лабараторыя”. Ён падышоў, торгнуў лапезную пазалочаную, якую недзе ўжо бачыў, са змяінай галавой дзвярную ручку – дзверы не адчыніліся, з таго боку замкнёныя.

Узяўшы сцізорык, лёг у ложак. Вынуў лязо з тронак, правёў па ім пазногцем: як брытва. Лёгка можна ці жывот успароць, ці вены пераразаць, ці горла... Засталося толькі адказаць самому сабе, па якой прычыне не захацець жыць?

Праз што?

Праз тое, што Ганна сышла?..

Праз тое, што Мацвеева з-за яго пасадзілі, а Цапмана завербавалі?

Праз тое, што пра ледакол эпохі напісаў?

Праз тое, што на партыйным з’ездзе выступаў?

Праз тое, што з Брэжневым цалаваўся?

Праз тое, што ў Польшчу паперадзе танкаў паехаў?..

Хто б пра ўсё гэта, калі б не было яго, Віктара Маргера, успомніў? Ніхто! І праз тое, чаго без яго ніхто б не ўспомніў, успорваць жывот? Вены пераразаць?

Калі скласці ўсе прычыны ў адну, ці выйдзе тая, па якой можна не захацець жыць?..

Такой прычыны не выходзіла. Усё ў адно не складвалася. Не было гэтак балюча і гэтак сорамна не было, каб не стрываць.

Можа, таму не гэтак балюча і не гэтак сорамна, бо ён нежывы, як сказала яму недзе там, дзе Гімалаі, дзіўная жанчына з іменем Дзеві?

Калі ты нежывы, тады гэта прычына, каб не жыць. Бадай, адзіная.

Віктар адклаў ножык, падняўся, падышоў да тэлескопа.

На захадзе яшчэ дагарала вечаровая зара, а ўжо запальвалася над ёй зорка Арктур у сузор'і Валапаса. Вышэй на небе ў сузор'ях Ліры, Лебедзя і Арла разгараліся Вега, Дэнэб і Альтаір.

Зорку Акубенс у сузор'і Рака не разгледзець было, яна зорка вясновалетняя, восенню ледзь заўважная. А вось сузор'е Вялікага Возу, хоць яно таксама вясновае, пасярэдзіне вясны ў зеніце, добра відаць і ўвосень. І найярчэй восенню ззяе ў небе Божы, Зорны, Птушыны, Млечны, як толькі ён ні называецца, шлях, па якім коціцца Вялікі Воз.

Запомніць назвы сямі зорак Вялікага Возу так, як яны пісаліся ў кнігах па астраноміі: Алькаід, Аліёт, Дубхэ, Міцар, Мягрэц, Мярак, Хвекда, – было цяжка. Гучалі яны чужынна, таму Віктар яшчэ тады, калі быў малы, прыдумаў для іх свае назвы. Ён заўважыў, ці яму гэтак здалося, што ў розныя дні тыдня кожная зорка свеціць па-рознаму. У панядзелак найярчэй зіхціць Алькаід, у аўторак Аліёт, у сераду Дубхэ... Так у крэўскім небе над дзедавай пуняй з саламянай страхой з'явіліся зоркі Панядзелак, Аўторак, Серада, Чацвер, Пятніца, Субота, Нядзеля.

Сёння найярчэй мігцела зорка Алькаід. Значыць, панядзелак.

На Вялікім Возе сядзелі і глядзелі на Віктара з другога боку тэлескопа, у якім, мусібыць, бачыўся ім Віктар меншым за макавае зерне, паэты-самагубцы. Уладзімір Маякоўскі, які застрэліўся, Сяргей Ясенін і Марына Цвятаева, якія павесіліся, Генадзь Шпалікаў і Аляксей Прасолаў, якія таксама павесіліся, Іван Ігнацьеў, які перарэзаў сабе горла, Галактыён Табідзе, які ў шпіталі выкінуўся з акна, Аляксандр Ром, Надзея Львова, Уладзімір Палятаеў, Віктар Гофман, Мікалай Дзяменцьеў, Юры Галіч, Яўген Лан, Лявон Аранзон, Вітальд Ахрамовіч, Ілля Габай, мадзьяр Ёжэф Аціла і паляк Рафал Ваячэк, грэк Карыатакіс Костас і гішпанец Альфонса Кастафрэда, француз Рэнэ Крэвель і мексіканец Хорхэ Куэста, чыліец Пабла дэ Рока, швед Хары Марцінсан – нобелеўскі лаўрэат, які закалоўся нажніцамі, амерыканцы Харт Крэйн, які ўтапіўся, Джон Барымэн, які кінуўся з моста на лёд, і Гары Кросбі, які застрэліўся разам з палюбоўніцай, Луцый Сенека і Стэфан Цвейг, якія скончылі жыццё разам з жонкамі, крэолец Эрык Роўч, які сплыў у адкрытае мора, немец Паўль Цэлан, які кінуўся ў рэчку з моста, японец Сіндзі Ока, які скочыў з даху, каб дазнацца, што бывае пасля смерці, ангельцы Джон Браўн, які перарэзаў сабе горла, і Томас Чатэртан, які атруціўся мыш'яком, італьянец П'етрадэла Віньяя, які разбіў галаву аб сцяну, рымляне Марк Лукан і Лукрэцый, адзін з якіх перарэзаў вены, а другі кінуўся на меч, украінец Барыс Танэта, які павесіўся ў турме, літовец Юлюс Яноніс, які кінуўся пад цягнік, беларусы Сяргей Палуян і Рыгор Семашкевіч, які выгукнуў, кідаючыся

з акна: "Любіце паэтаў!" – поўны воз паэтаў-самагубцаў, усім на Возе месца не хапала, і яны беглі за ім, пераскокваючы з зоркі на зорку.

Куды ехаў Воз? Куды ён іх вёз?

У бясконцую адсутнасць. У мільёны, мільярды гадоў маўчання. Вось гэтая бясконцая адсутнасць з бясконцым маўчаннем жахала Віктара, а не сама смерць, калі ён думаў пра яе. Але людзі на Возе пра гэта ўжо не думалі.

"Не здолеў? – пыталі яны. – Страціў каханую, прадаў сяброў, здрадзіў паэзіі – і не здолеў? Маці пакінуў адну паміраць – і не змог. А Купала мусіў здолець? Павінен быў змагчы?"

"Табе ж Сюзана пісталет перадала, – пахмурна казаў Маякоўскі. – Чаму не застрэліўся?" – "Я страляўся. З вашага пісталета ў кватэры Кручы" – "Тады чаму жывы?"

Адказаць на пытанне: "Чаму жывы?" – было не прасцей, чым на пытанне: "Чаму мёртвы?" Не скажаш жа: бо Вензель фокус паказваў.

"П'яны быў? – спытаў Бажыдар, футурыст, якога за Маякоўскім не адразу Віктар заўважыў. – Я таксама аднойчы п'яны страляўся. У рускую рулетку гуляў. Адзін патрон у сямізарадным рэвальверы. Тыдзень піў і тыдзень страляўся. У панядзелак, аўторак, сераду, чацвер, пятніцу, суботу... Шэсць разоў круціў барабан – і ўсё біў баёк у пустое. А ў нядзелю мяне заклініла. Чамусьці падумаў, што ў сёмы раз, калі сямізарадны рэвальвер, без варыянтаў. Канец! Вядома, не, але чамусьці я так падумаў. І вырашыў, што нядзеля – выхадны. А пасля ўжо не змог... Адно – калі з варыянтамі, іншае – калі без. Пайшоў у лес і павесіўся".

"Правільна, – сказаў Ясенін. – Калі вешаешся, заўсёды ёсць варыянты. Ці вяроўка парвецца, ці выпадзе крук. Ці, калі ў лесе, сук зламаецца. І павесіцца лепш, чым застрэліцца. Без крыві".

"Затое сіні, як баклажан", – не згадзіўся Маякоўскі, і пакуль усе яны спрачаліся, як лепш засіліцца – скочыць з даху ці сплыць у мора, узрэзаць вены ці атруціцца, павесіцца ці застрэліцца – Віктар выглядваў, ці няма сярод іх Купалы, ці не да іх выйшаў ён у гэтыя, з таго боку замкнёныя, дзверы? Не ўбачыўшы, спытаў: "Скажыце, Купала з вамі?" – на што Табідзе, які добра ведаў Купалу, сказаў, азірнуўшыся па баках: "А што яму з намі рабіць? Ён жа не самагубца".

Значыць, не сам скінуўся. Тады, можа быць, усё ж варта падняцца на дзясяты паверх, каб паглядзець, як яно было?

"Магу сказаць, як было, – скочыў з Возу і пайшоў па зорках Табідзе. – Купала быў трохі нападпітку, у добрым настроі, бо яму нейкая жанчына патэлефанавала, каб сустрэцца, і калі выйшаў з нумара на дзясятым паверсе, уздумаў каўзануцца па парэнчах лесвіцы. Ну, такое юначае глупства. Хіснуўся і не ўтрымаўся. Наўрад ці гэта можна лічыць самагубствам. Тым больш, што, куляючыся, ён нагамі спрабаваў зачапіцца за парэнчы, таму і чаравік з адной нагі зляцеў. Сам я гэтага не бачыў, Берыя мне так казаў".

А Берыя бачыў?.. Хутчэй за ўсё ён гэта прыдумаў, каб у гібелі Купалы знайсці месца ягонаму чаравіку, які застаўся на лесвіцы, і які сведчыў пра тое, што Купалу скінулі. Купала ўпіраўся, бараніўся, але...

"Можа быць, Берыя прыдумаў, – згадзіўся Табідзе. І тут жа не згадзіўся: – А можа быць, і не".

У гэтых самагубцаў фантазіі... З маста не ў ваду, а на лёд кідаюцца.

Трэба ўсё ж падняцца і паглядзець.

Раптам у тэлескопе з’явілася, запалілася, як зорка, маці. “Сынок, ніхто ж мяне нікуды не скідваў, я сама памерла. Няма праз што табе вінавацiцца”.

І зорка-маці пагасла.

Яна апраўдвала яго. Яна апраўдала б яго, калі б ён нават сякерай яе засек. Але больш ніхто не апраўдае.

“Я апраўдаю, – засвяціўся, як месяц, у тэлескопе бацька. – У тым свеце, дзе зараз мы з маці, за нас адказве Бог. А ў тым свеце, дзе ты, кожны адказвае за сябе. Мацвееў сам у КГБ напісаў, Цапман сам працаваць да іх пайшоў, а ты вінавацішся праз іх, як праз той кашалёк, які знайшоў на вакзале”.

І бацька-месяц пагас.

Больш глядзець у небе не было на каго.

Калі няма на каго глядзець у небе, дык няма на каго глядзець і на зямлі.

Але які бацька хітры! Пра тое, што сын ягоны сам, як некалі Купала, “дрындушкі” пісаў, сам з гэтымі дрындушкамі на з’ездзе выступаў, сам у Польшчу ездзіў за Савецкі Саюз палякаў агітаваць, не сказаў.

Знік у небе.

Віктар адышоў ад тэлескопа, глянуў на яго, залацістага: што з ім рабіць? Чый ён? Ягоны, чужы? Купалы, Сталіна, Вензеля?.. Чыя гэта здзейсненая дзіцячая мара?

Купала сказаў: “Можаш забіраць”. Але трэба яшчэ раз спытаць, калі вернецца. Каб не ўзяць чужое. Як той кашалёк, пра які ўспомніў бацька.

Кашалёк той дзевяцігадовы Віктар знайшоў пад акенцам касы на чыгуначным вакзале. Ніколі капейкі нідзе не знаходзіў, а тут – кашалёк. Трох рублёў, што ў ім былі, якраз не хапала на тэлескоп, грошы на які ён ужо амаль два гады збіраў капейку да капейкі. І ён не аддаў кашалёк касірцы, каб вярнула таму, хто згубіў. Але і ў краму па тэлескоп адразу не пабег, бо ўчора быў там і сказаў, што пакуль тры рублі не стае. Дык дзе ты іх сёння ўзяў?

Кашалёк быў жаночы, з шарыкавай зашчапкай, і Віктар уяўляў, як тая жанчына, якая яго згубіла, шкадуе пра прапажу. Можа, плача, бо ездзіла на кірмаш, які быў побач з вакзалам, прадаць тварог, масла ці яйкі, а выйшла, што толькі на дарогу патрацілася. А, магчыма, яна падумала, што кашалёк укралі, напісала заяву ў міліцыю, якая цяпер кашалёк шукае, і Віктар сто разоў яго перахоўваў. Закідваў сенам у пуні, засоўваў пад цэбры ў склепе, закопваў пад масцікам на левым беразе рэчкі, што працякала за хатай, ноччу ўставаў і закопваў на правым, дзе толькі ні хаваў – паўсюль міліцыя знаходзіла, здымала з кашалька адбіткі пальцаў і вяла злодзея ў турму. Урэшце ён пайшоў на вакзал, падкінуў кашалёк туды, дзе знайшоў, пад акенца касы, з якой высунула галаву касірка: “Ты што там падкінуў?..” – і яго звінавацілі, што кашалёк украў, а жанчына, якая згубіла кашалёк, сказала, што ў ім было не тры рублі, а трыццаць.

Злодзей!

Ён, нічога не ўкраўшы, злодзей! Злачынца!..

З гэтым нельга жыць! У гэтакім несправядлівым свеце з такімі подлымі людзьмі!..

Знайшоўшы ў пуні вяроўку, ён залез на драбіны, накінуў вяроўку на бэльку, доўга завязваў, бо не ведаў, як, ды яшчэ і рукі калаціліся, вузел на пятлі, а калі завязаў і надзеў пятлю на шыю, зарыпелі дзверы – і ў пуню ўвайшоў бацька. “Ён жа падумае, што я стаяў тут у пятлі і чакаў, пакуль нехта ўвойдзе, каб паказаць, што хацеў павесіцца!” – пранізала думка, і Віктар скочыў з драбінаў, забыўшыся, што канец вяроўкі, накінутай на бэльку, не прывязаў,

паляцеў разам з сэрцам, якое гэтак ударыла пад рэбры, нібы, каб не загінуць, паспрабавала вырвацца з грудзей, але не здолела, сціснулася, падскочыла пад горла, не даючы яму, імгненна напоўненаму жахам, апошнім крыкам закрычаць – і ён зляцеў на рукі бацькі.

“Давай дамовімся так, – вынес яго бацька, бо Віктара ногі не трымалі, з пуні ў двор, сеў з ім на прызбе. – Я нічога не кажу пра гэта маці, а ты, калі зноў такое надумаеш, кажаш пра гэта мне. Я пісталет дам, з ім самагубства будзе выглядаць больш па-мужчынску, чым з вяроўкай”.

Ні тады, ні пазней Віктар так і не асмеліўся спытаць бацьку, што той падумаў, убачыўшы яго на драбінах з пятлёй на шыі і не прывязаным да бэлькі другім канцом вяроўкі?..

Цётцы, з кашалька якой Віктар нібыта ўкраў грошы, ні бацька, ні маці не паверылі, але, каб яна не звягала, маці пачала ўгаворваць бацьку аддаць ёй 27 рублёў, а той адрэзаў: “Няхай наш астраном са сваіх аддае!” – і Віктар застаўся без тэлескопа...

“Калі хочаш мець сваё, абыходзь чужое, – казаў яму потым бацька. – Абыходзь чужое, калі хочаш мець сваё”.

Купала не вяртаўся.

Бо навошта? Сказанае сказалася. А выпіць не было чаго.

Выпіць можна і не з Купалам. З Барадой. Бурам, Кручам, Шклярам, Каралевічам, Стральцом, Кавалём... З тымі, каго ён любіў.

Ён і Купалу любіў, іначай не мучыла б яго так Купалава жыццё і Купалава смерць....

Ці праз Купалу ён любіў сябе?

Думка такая ўзнікала ў ім і раней, але цьмяна, а цяпер, у чаканні Купалы, раптам падумалася пра гэта з ясным болем. І ці не сябе ён любіў праз Кручу, Бура, Шкляра, Каралевіча, Стральца, Каваля?.. І праз Ганну, якая падзялілася з ім жыццём, і праз маці з бацькам, якія далі яму жыццё, ці не любіў ён сябе?..

Калі яно так, тады гэта прычына, каб не захацець жыць.

Зрэшты, тады ты і нежывы...

Вось яно! Вось пра што казала яму недзе там, дзе Гімалаі, жанчына з іменем Дзеві-Марыя! Што ён мёртвы!..

Але калі ты мёртвы, як можна хацець жыць?..

І раптам ён не захацеў! Так не захацеў, як у дзяцінстве, калі вешаўся, узненавідзеўшы гэты свет з гэтымі людзьмі, сярод якіх у яго нікога не было! А цяпер яшчэ ён узненавідзеў і сябе разам з імі – і гэтак не захацеў жыць, што стрываць не змог! Выбег у калідор, дзе нікога не было, узбег на дзясяты паверх, дзе таксама не было нікога, з разбегу перакуліўся цераз парэнчы, паляцеў разам з сэрцам, якое гэтак ударыла пад рэбры, нібы, каб не загінуць, паспрабавала вырвацца з грудзей, але не здолела, сціснулася, падскочыла пад горла, не даючы яму, імгненна напоўненаму жахам, апошнім крыкам закрычаць – і загушкалася разам з ім на нечым мякка-спружыністым, як на свежым стозе ў скошаным лузе...

Ён упаў грудзьмі, убачыў унізе нацярушанае сена, на якім стаяў, раскінуўшы рукі, каб яго злавіць, бацька, перавярнуўся, нічога не цямячы, на спіну: над ім стаяла адміністратарка, над галавой якой вісела шыльда: *4 паверх.*

Кінуўшыся з жыцця ў смерць, ён прыляцеў туды, дзе быў.

– А каб сетку не павесілі? – дапамагаючы яму выбрацца з тонкай, празрыстай, амаль нябачнай сеткі, спытала адміністратарка. – Што б вы цяпер рабілі, калі б мы не павесілі сетку?

Віктар не ведаў, што б ён цяпер рабіў. Можа быць, не калаціўся б так, гледзячы ўніз і ўяўляючы сябе на мармуровай падлозе.

“Міліцыю не выклікайце”, – папрасіў ён адміністратарку, і тая сказала, праводзячы яго ў 414-ы нумар: “Я і не збіралася. Бо што здарылася? Нічога. Нейкі нешчаслівы гэты нумар. Хто ў ім ні пасяляецца – ідзе ўверх і ўніз кідаецца. Вам, можа, выпіць прынесці?”

Яму не хацелася выпіваць. Яму хацелася легчы, заплакаць і шкадаваць сябе. Можна было б і з выпіўкай, але ён не любіў п’яныя слёзы.

– Не, дзякуй.

– Не, дык не. Хоць звычайна выпіваюць, – сказала яна так, нібы ў гатэлі, у якім яна працуе, штодня нехта кідаецца ў лесвічны пралёт, а потым выпівае. – Дарэчы, вы, калі пасяляліся, пакінулі на стойцы ключы ад машыны. Вось, вазьміце...

Ніякія ключы Віктар не пакідаў, машыны ў яго не было, але адміністратарка не стала пытаць, ці ёсць у яго машына, паклала ключы на стол і пайшла.

Ён лёг.

Не плакалася.

І не шкадавалася.

За што сябе такога, які ён ёсць, шкадаваць? За тое, што жыў не так, як мог бы жыць?

А як?..

Чым даўжэй думаў, як бы мог жыць іначай, тым больш шкадаваў не сябе, а маці і бацьку, Ганну, Кручу і Бура, Шкляра і Каралевіча, Стральца, Каваля... Яны з ім жылі не з такім, якім ён быў насамрэч, і выходзіць, што іх падмануў? Абхітрыў, надурыў?.. Яны думалі, што ён жывы, а ён...

І што з гэтым рабіць?

Дзеві-Марыя казала, што ён можа ажыць. Толькі яна не ведала, як. І Віктар не ведаў. Але цяпер яму здалося, што ведае.

Ён сеў і доўга глядзеў на ключы ад машыны, якой у яго не было... Узяў іх, сунуў у кішэнь разам са сцізорыкам Купалы, яшчэ раз агледзеў нумар. Чамусьці вока зачапілася за найдрабнейшае, за адарваны гузік на падлозе, і ён падняў яго, таксама паклаў у кішэнь. Зірнуў на дзверы з лапезнай пазалочанай ручкай і ўспомніў, дзе іх бачыў: у антыкварнай краме 300-й секцыі.

Віктар торгнуў ручку – замкнёна. Уставіў у замок ключ з нумарам 414, які даў яму Вензель, крутнуў – дзверы адчыніліся ў прыёмную дырэктара крамы, дзе сядзела жанчына ў зялёнай блузцы з доўгімі і чорнымі, як смала, валасамі і жаўтаватымі, нібы ў савы, вачамі. Сюзана. “Пачакайце, не зачыняйце, мяне папрасілі паставіць на стол шампанскае, – занесла яна ў нумар дзве поўныя бутэлькі, вярнулася з дзвюма пустымі і расчыніла дзверы ў кабінет дырэктара. – Вас чакаюць”.

– О, якія госці! – гэтак, нібы век не бачыліся, падхапіўся з-за століка, за якім сядзеў з Купалам, Ганнай і вельмі падобнай да яе, толькі старэйшай жанчынай, Вензель. – Ведаеце, – рушыў ён, трохі прыкульгваючы, хоць калі хадзілі па Краснай плошчы, не кульгаў, насустрэч Віктару, – мне нядаўна падумалася, што калі я займаюся і лабараторыяй, і антыкварнай крамай, дык няхай яны будуць адна ў адной, не трэба будзе губляць час на дарогу. Вы праходзьце, праходзьце, я ж вам казаў, што ў мяне ўсялякі антыкварыят. Не толькі мэбля з посудам, але і людзі, якія на мэблі гэтай спалі, сядзелі, з посуду таго елі. І ўсе вам знаёмыя, так што будзьце як дома.

Віктар стаяў у дзвярах слупом. За тым самым столікам з тымі самымі

кубкамі і тым самым імбрыкам на ім, на той самай капапе, на якой сядзеў ён з Ганнай, упершыню частуючыся дзіўным напоем Вензеля, зноў сядзеў ён з Ганнай, а побач на ложку, не падобным да антыкварнага, на звычайным шпітальным ложку – Купала з жанчынай, падобнай да Ганны, толькі старэйшай, і ў ёй нельга было не ўгадаць маці Ганны малодшай, якая тулілася да яго, Віктара Маргера, і глядзела на яго так, нібы ніколі не сыходзіла ні да касманаўта Рыленкі, ні да чалавечага абрэзка Нячаева. “Наперад, наперад, я ж вам сказаў, што тут з большага ўсе свае, не бойцеся…” – павёў яго пад руку Вензель, і адбылася ўжо не проста дзіўная, а неверагодная рэч: спачатку Віктар бачыў, як ён падыходзіць да століка, за якім сядзеў ён на канапе з Ганнай, а побач на ложку Купала з яе маці, на блузцы якой – чамусьці менавіта гэтая драбяза здалёк яму кінулася ў вочы – не хапала гузіка, які намацаў ён у кішэні, каб падысці і эфектна, бо ўжо было зразумела, што адбылося ў 414-м нумары, Ганне старэйшай гузік аддаць, але пасярэдзіне шляху зрок пераключыўся, і ён, Віктар Маргер, які ўвайшоў у лабараторыю, ці раптам сам памяняўся, ці яго нехта памяняў, як штукар у цырку, з тым Віктарам Маргерам, які сядзеў з Ганнай, і ўжо седзячы з ёй, ён усё выразней бачыў, як да іх паўз кніжныя паліцы з кнігамі і без, этажэркі з партабакамі і запальнічкамі, ордэнамі і медалямі, шафы, на якіх і ў якіх стаяла розная драбната са шкла, крышталю, каменя, срэбра, золата, паўз шпітальныя, якіх тут раней не было, ложкі з нейкімі міргаючымі прыладамі паміж імі падыходзіць, нешта намацваючы ў кішэні, таксама ён, Віктар Маргер пад руку з Вензелем, які кажа яму: “Вы сядайце, сядайце, зараз я вам усё патлумачу…” – і Віктар Маргер сядае на зэдлік насупраць яго, Віктара Маргера на канапе, і так падае Ганне старэйшай: “Калі ласка, вы згубілі...” – адарваны гузік, быццам па гузік гэты і кінуўся Купала ў лесвічны пралёт.

Віктар гэтак, каб жанчыне было няёмка, ніколі б не зрабіў.

– Такі вось фокус! – выключыў Вензель зеленаватага колеру прыладу, што міргала агеньчыкамі і падавала ціхія, як спадарожнік з космасу, сігналы на тумбачцы каля ложка, дзе сядзелі Купала са старэйшай Ганнай, якая, узяўшы гузік, усміхнулася: “Дзякуй…” – і ўсмешка яе была гэткай жа летуценнай, як у дачкі: такую жанчыну Купала не мог не пакахаць. – Цапман так усё наладзіў, што і ў ложак не трэба класціся, у ложку можна нечым іншым займацца, – паспрабаваў як бы пажартаваць Вензель, а Віктар Маргер, які падышоў і сеў на зэдлік, падаўшы жанчыне гузік, згублены ёй у 414-м нумары гатэля, спытаў: “Які Цапман?..”

“Ён не я, калі Цапмана не ведае. Ён не я… Але што тут адбываецца, хто б мне сказаў?..”

– Усе ўжо ўсё ведаюць, я ўсім распавёў, засталося толькі вам, – наліў Вензель свайму апошняму госцю свой напой з дзіўных зёлак. – Калі вы абодва загінулі ў аварыі, Ганна палічыла сябе вінаватай, што вы загінулі, бо кіроўца, які аварыю падстроіў, быў кіроўцам яе бацькі, у чым яна, вядома, ніяк не вінаватая, але так яна палічыла, і падзялілася з вамі ў нашай лабараторыі сваім жыццём. У ёй столькі жыццёвай сілы, што хапіла на вас дваіх, і яшчэ для самой хапіла. І здарылася, калі вярнуліся вы з таго ў гэты свет, нечаканая для нас рэч: адна і тая жыццёвая сіла, якой вы ажыўляліся, спарадзіла аднолькавую памяць і свядомасць, і вы – ды яшчэ пры вашым знешнім падабенстве – сталі як бы адным чалавекам у двух, але былая свядомасць аднаго ўсё ж замінала свядомасці другога, уздзейнічала на яе, і кожны з вас быў не самім сабой. Гэта было надзвычай цікава, і мы вырашылі нічога не

мяняць, паназіраць, што з вамі будзе, хто каго ў вас пераможа, і назіралі, кантралявалі, пакуль не прыйшоў у лабараторыю Цапман і катэгарычна не ўспрацівіўся эксперыменту, заявіўшы, што гэта можа прывесці вас да драмы, да трагедыі. Я сказаў яму, што мы спынім экперымент, калі ён знойдзе тэхнічны спосаб вярнуць вас абодвух самім сабе, што было б яшчэ цікавей за ажыўленне, – і ён спосаб знайшоў. Вынайшаў! Таму вы сёння тут. Тыя, якімі былі. Не хітруючы, скажу, што страшэнна хочацца паназіраць за вамі далей, паглядзець, як будзеце звыкацца з жыццём, якое пражылі не самі сабой, але для гэтага ў нас хапае аб'ектаў. Як Іван Дамінікавіч сказаў, пакуль мы тут, чакаючы вас, выпівалі, куды цяжэй нам будзе знайсці таго, хто самім сабой жыццё пражыў. Калі ўвогуле гэта магчыма.

– Так, – падняўся Купала. – Са мной тое самае было. Але гэтага можна пазбегнуць. І я мог бы расказаць, як, але нам пара, – дапамог ён падняцца старэйшай Ганне, якая абняла Ганну малодшую: "Мы файна пагаварылі, будзь, дачушка, шчаслівай у сабе самой", – а Купала спытаў Віктара: "Вы чаму без тэлескопа? Тэлескоп ваш, ваш…" – і яны, узяўшыся за рукі, пайшлі, нават не азірнуўшыся на парозе…

Зараз яны зойдуць у нумар 414, вып'юць шампанскае, потым паміж імі здарыцца нешта такое, праз што Ганна пакіне Купалу, і ён падымецца на дзясяты паверх да старшыні Саюза пісьменнікаў Лынькова, куды яна патэлефануе яму: "Я да цябе вяртаюся…" – і ён адразу развітаецца з усімі, з кім быў, выйдзе ў калідор, а там…

А там – цёмна. Заслона.

Вершы ў вечную адсутнасць.

– Я, бадай, таксама пайду, – падняўшыся з зэдліка, паляпаў сябе па кішэнях Маргер маскоўскі. – Так, ключы тут… А вось гэта не маё, – паклаў ён сцізорык на столік. – Хочаш мець сваё, абыходзь чужое. Хораша нехта сказаў, – пацалаваў ён у шчаку Ганну, і ўжо адыходзячы, дадаў, азірнуўшыся на Віктара. – Шкада, што я – не ён. Ці ён – не я.

Яны ўсе разам, Ганна, Віктар і Вензель прайшлі за маскоўскім Маргерам у самы канец антыкварнай крамы да "Масквічка", які быў так адрамантаваны на Лубянцы, што зіхцеў, як новенькі, і Віктар раптам адчуў, што яму шкада развітвацца з чалавекам, у якім пражыў ён калі не ўсё, дык і не малое для чалавечага веку жыццё, прычым, такое, лепшага за якое ў яго можа не быць. Чаму ён вырашыў, што ў тым жыцці ён быў не самім сабой, калі, можа быць, ён такі і ёсць? Ён глядзеў, як рассоўваецца дальняя сцяна крамы ці сцяна лабараторыі, у якой людзей могуць рабіць такімі, якімі захочацца лабарантам, мёртвых жывымі і жывых мёртвымі, і яму ўсё болей хацелася забраць у свайго двайніка ключы, сесці ў машыну і ехаць, ехаць, ехаць, пакідаючы за сабой Маскву, Мінск, Варшаву, Калькуту, Польшчу і Індыю, Еўропу і Азію, гэты і той свет...

Але машына была чужая.

– Ты вярнулася да мяне? – спытаў ён Ганну, а яна, пацалаваўшы яго ў лоб, як цалуюць нябожчыка, села ў машыну і сказала кіроўцу: "Вярнулася... Дзякуй, што звазіў у Вавукі, дзе я зразумела: ён забіў цябе ў сабе".

І яны паехалі.

Усё яшчэ не цямячы, што адбылося, Віктар кінуўся следам, чапляючыся за машыну і слізгаючы, падаючы, нібы з лесвіцы: "Ганя!.."

Ганна азірнулася – і вочы ў яе былі такія, нібы яна не пазнавала яго.

"Красная плошча ў пажары, – сказаў Вензель. На машыне яны могуць

праскочыць, а вам лепш у іншы бок. Выйдзіце праз гатэль – і наўпрост да Беларускага вакзала, можаце яшчэ паспець на цягнік да Крэва”. – “У Крэва не ходзяць цягнікі, там няма чыгункі.” – “Раней хадзілі. А тое, што было раней, можа быць і цяпер, – адступіў назад Вензель, калі Віктар зрабіў жэст, каб развітацца. – Я з вамі не развітваюся, я не развітваюся ні з кім і ніколі...”

Віктар выйшаў з антыкварнай крамы-лабараторыі – сакратаркі ў прыёмнай дырэктара не было. Прайшоў у 414-ы нумар – Сюзана з Люцыяй сядзелі за сталом і пілі шампанскае.

– Нас папрасілі нагадаць вам, каб вы забралі тэлескоп, – ніякавата замітусіліся яны адна перад адной, але замітусіліся напаказ, ім зусім не было ніякавата. – І вось яшчэ чыйсьці нататнік з вершам. Пэўна, ваш. Купала сказаў, што не ягоны, ён ні лістоў да Бога, ні дрындушак даўно не піша.

Сучкі!

Віктар прайшоў да вакна і засунуў нататнік за падваконне.

Забраўшы тэлескоп, спусціўся на ліфце.

“Высяляецеся? – спытала адміністратарка. – З вас 27 рублёў”. – “А з Луцкевіча колькі? Я і за яго заплаціць магу”.

Адміністратарка дастала з сейфа за яе спінай стос тэчак з паперамі, доўга перабірала. “Такога ў нас не было... Быў Луцэвіч. Ён за ўсё заплаціў”.

Чалавек з прозвішчам Луцкевіч, пазначаны ў данясенні начальніка 3-га ўпраўлення НКВД СССР Гарлінскага на імя Берыі і Сталіна як пастаялец 414-га нумара, у гатэлі «Масква» не пражываў. За ўсё заплаціў Луцэвіч.

Над вуліцай Горкага, колішняй Цвярской, плыў дым. Гэтая вуліца вяла ад Беларускага вакзала наўпрост да Крамля. Віктар рушыў у зваротны бок – дым плыў за ім.

На Пушкінскай Віктар прыпыніўся, пастаяў і павярнуў на Цвярскі бульвар. На лаве пад помнікам Герцэну ў двары літінстытута, захутаная ў жоўтую хустку, падобная да позняй восені сядзела Марыя Аляксандраўна. “Жыццё ў тым, што знікае, – сказала яна, убачыўшы Віктара. – У тым, што знікае”.

Памаўчала, павярнуўшы галаву да качагаркі.

– Вось і Мацвееў знік.

– Яго пасадзілі.

– Яго выпусцілі. А ён вярнуўся і знік. Калі няма качагаркі, без патрэбы качагар.

Віктар пацалаваў ёй руку і пайшоў на вакзал.

У першым акенцы касы Беларускага вакзала сядзела тая касірка, якая высунулася некалі з гэткага ж акенца чыгуначнай касы ў Смаргоні, спытаўшы: “Ты што там падкінуў?..” Гэтым разам, нічога ў Віктара не пытаючы, нават не ўзяўшы ў яго грошы: “Дваццаці сямі рублёў дастаткова, вось вам яшчэ рэшты тры рублі”, – яна падала яму квіток у плацкартны вагон, які аказаўся апошнім у цягніку. З вокнаў ягоных ужо махалі Віктару дзяцюк у чорным берэце з чырвоным вымпелам і ў чорнай куртцы, з-пад якой віднелася цяльняшка, дзядзька ў пінжаку з дзіркай на локці, мужык і кабета, якія бачылі Віктара па тэлевізары, а з тамбура тая ж праваднiца, з якой прыехалі яны ў Маскву, крычала: “Хутчэй, хутчэй, адпраўляемся!” – і цягнік рушыў, Віктар ледзьве паспеў ускочыць на падножку апошняга вагона…

“Нехта едзе туды, нехта едзе сюды…” – сустрэў яго дзядзька ў пінжаку з дзіркай на локці, і яны селі, як даўнія знаёмыя, з ім, з марскім пехацінцам, відавочна расчараваным, што няма Ганны, з мужыком і кабетай, якія бачылі Віктара па тэлевізары.

Правадніца, сабраўшы квіткі і раздаўшы бялізну, пайшла па вагоне: “Каму чаю?”

– Я без чаю не скучаю, – сказаў марскі пехацінец, але гэтым разам не выліў са шклянкі чай, каб наліць гарэлкі, і дзядзька ў пінжаку з дзіркай на локці не паставіў чаркі, і мужык з кабетай не дасталі закуску, бо, мусібыць, усё, што ў іх было, яны прагулялі, пакінулі ў гасцях, таму сядзелі і глядзелі ў вакно.

Яны не ведалі і не думалі пра тое, што маглі не сядзець і не глядзець. Што вылічальныя машыны казалі пра верагоднасць іх з’яўлення ў свеце як пра нулявую. Яны проста жылі. Туды едучы, гулялі, а едучы сюды, успаміналі.

“А што мы ў вакно глядзім, калі ёсць тэлескоп?” – спытаў марскі пехацінец, якому, калі не да маладзіц заляцацца, дык трэба было нешта рабіць, і яны да поўначы, пакуль не пачало хіліць у сон, па чарзе глядзелі ў неба.

“Якая прыгажосць! Якая веліч! Вось жа стварыў Гасподзь!.. – выдыхнуў, змяніўшыся і ў твары, і ў рухах, і ў голасе, пехацінец, перадаючы тэлескоп Віктару. – І мы сярод усяго…”

Па небе на захад, дзе дагарала вечаровая зара, плылі дымныя аблокі, сярод якіх ляцеў вянок з распраўленай на ветры белай стужкай і чырвоным, які не разабраць было, надпісам на ёй. У вянку, азіраючыся на ўсход, дзе разгаралася полымя, сядзела жанчына, а за вянком скакалі ў дымных аблоках на гнядым, на чорным і на белым конях тры вершнікі.

Стомлена падумаўшы, што засынае і ўжо бачыць сон, Віктар выбачыўся перад спадарожнікамі і лёг. Пад ім мерна пастуквалі колы цягніка, і на постук колаў спачатку разрывіста, торгана, шукаючы памер, а потым усё болей зладжана накладвалася рытміка верша, пакінутага ў 414-м нумары гатэля “Масква”. Помнілася ягоная музыка, ягоная незразумелая, “Гэй бэн гіном”, назва, але самога верша Віктар не помніў. Не помніў нават, ці гэта ён яго напісаў.

Прачнуўся ён у Крэве – адзін у вагоне. І вагон быў адзін, адчэплены ад цягніка. “Як мы тут?.. – спытаў правадніцу. – Сюды не ходзяць цягнікі, да Крэва няма чыгункі”, – а тая сказала: “У вас квіток да Крэва”.

Ён выйшаў з вагона, які, адчэплены, мог быць як апошнім, гэтак і першым. Прайшоў да Юр’евай гары, на якой, калі гара называлася Ярылавай, было паганскае капішча і стаяў, выразаны з векавечнага дуба, Купала. Бог сонца, агню і святла, якога аднойчы на Ярылавай гары не стала. У Крэве казалі, што яго спалілі, але ніхто не помніў, не ведаў, хто і чаму?..

Над гарой плыло неба, пад гарой цякла рака. Цераз раку ляжала кладка, на якой стаялі жанчына і хлопчык. Яны адбіваліся ў вадзе разам з небам, і жанчына пыталася ў хлопчыка, на ягоны адбітак паказваючы: “Хто гэта?.. Ну, скажы, хто?..” – а ён кідаў у ваду каменьчыкі і глядзеў, як разыходзіцца кругамі вада.

У падножжы гары ляжаў крыж. Вялікі, больш чым у чалавечы рост. “Мне не падняць…” – сказаў ціха, нібы здалёку, хлопчык, але Віктар яго пачуў. Узваліў крыж на спіну, панёс на гару. Чым вышэй узыходзіў, тым несці было цяжэй. І раптам трохі, але палягчэла. Віктар азірнуўся: канец крыжа, што цягнуўся па зямлі, то прадзіраючыся скрозь кустоўе, то захрасаючы між камянямі, прыпадымаў, наколькі мог, хлопчык. Той самы, які стаяў на кладцы над ракой, кідаў у ваду каменьчыкі – і вада разыходзілася кругамі да берагоў, як неба да даляглядаў над Юр’евай гарой.

## ЭПІЛОГ

Праз чвэрць стагоддзя, калі гатэль “Масква” руйнавалі, каб пабудаваць на ягоным месцы гэткі самы гатэль “Масква”, за падваконнем 414-га нумару знайшлі нататнік. У нататніку быў верш на першай старонцы.

### *ГЭЙ БЭН ГІНОМ*

Цела на захад, а кроў выцякае на ўсход.
Мёртвы народ сам сябе ўжо не помніць жывога.
Гэта такая трагедыя – мёртвы народ.
Гэта такая камедыя мёртвага Бога.

Ён у царквах, у касцёлах – у храмах памёр.
Думалі – храмы, а выйшла, што склепы і труны.
І ні пры чым ні чума, ні халера, ні мор,
І ні пры чым ні варагі, ні скіфы, ні гуны.

Час і манюк, і прарокаў да кучы грабе,
Перамяшаліся ў пыле свае і чужыя,
Мёртвы народ ажыўляе самога сябе –
І аніяк ён самога сябе не ажывіць.

Бог беларускі! Я чую тваё: “Папрасі!..”
Можа, абрынешся градам, пяском з камянямі,
Громам ударыш ці вогненны знак падасі,
Страшны свой суд, ажывіўшы, учыніш над намі?

Можа, запаліш у нас пад нагамі зямлю,
Каб мы суда пабаяліся болей, чым смерці...

Бог беларускі!
Цябе я і ў смерці люблю!
Б’ецца і б’ецца ўва мне тваё мёртвае сэрца!

Ні чый гэты верш, ні чый нататнік, ніхто сказаць не мог. Пад вершам было напісана: “Ніколі Ён не паміраў...” – і больш ніякіх запісаў у нататніку не было.

*Чэрвень 2016 – лістапад 2020,*
*Мінск, Смаргонь, Крэва, Масква, Вільня, Нью-Ёрк, Лунд.*

Таццяна Барысюк



...Гасподзь, не карай! Я кахаю,
імя яго ўслых выдыхаю...

# Самае чыстае каханне – платанічнае

***ЗАКАХАНАСЦЬ***
*(залатое сячэнне перавернутае)*

Мара пра страсць да яго – небяспечна,
невырашальна, адчайна-прывабна.
Помню, што я ўжо жанчына – не дзеўчына,
ды з ім лятункі ярчэй і прывабней.

Бачу – прыцягваю позіркам – б'юся
ў невыказальным спадзеве на шчасце.
Я прамаўчу. І хай будзе што будзе.
Гэты парыў мо патоне ў бясчассі.

Ён прамаўчыць? Проста сыдзе і знікне?
Постаць апошні раз блісне ў люстэрку.

І зарагочуць з таго люцыферкі,
што закаханасць не знесла праверкі.

* * *

Куды прыводзяць мары? Да яго.
Да вуснаў, да вачэй, да доўгіх пальцаў.
У позірку шукаю пробліск зор,
ва ўсмешцы – нашых дзвюх энергій танцы.

Баюся, што не стрэнемся калісь,
што будзе мне забыць яго так цяжка!
Жыццё таксама хутка праляціць.
Я так хацела, каб мяне заўважыў!
Так марыла да сэрца прытуліцца!..

* * *

Хачу наваражыць сабе каханне
і каб яно прыйшло ў мой скрушны свет,
каб я была шчасліваю ад рання,
каб разам мы ўсміхаліся вясне.

Я апранала б гожыя сукенкі
і вочы б мае сонцам зіхацелі!
Мой любы! Памажы мне мроі здзейсніць,
каб рай зямны адчулі нашы целы.
Каб мы ўзляцелі!..

* * *

Адваяваць цябе ва ўсіх мадам?
Запал малы і смеласці бракуе.
Табе душу і цела я аддам,
ды толькі ты ці марыш пра такую?

Вачэй тваіх прываблівы сусвет –
ён праглынае ўсю мяне, дарэшты.
Табе ці ёсць у страсці гэтай сэнс?
І я ці ёсць тваёю мрояй-мэтай?

* * *

Самы прыгожы мужчына – каханы.
Мне не хапае пяшчотных абдымкаў.

Быць з Вамі разам – мне так нерэальна,
а быць у пекле наяўным – так звыкла.

Я ратавалася б Вашымі вуснамі,
позіркам Вашым і Вашай усмешкай.
Я – у адчаі, й на сэрцы – вусцішна.
Я несвабодна, а з вамі – бязмежна.
Вы – непазбежнасць...

## *УЯВА І ЯВА-2*

Я ўяўляю нас, скажам, у Лондане,
усміхаемся ў кадры з Біг-Бэнам,
у Балгарыі, пляжнай і сонечнай,
ці ў Італіі йдзем набярэжнай.

Я ўяўляю: мы ў жарсных абдымках,
пацалункамі страсць разганяем,
з Вамі мы, як Сусвет, неабдымны,
у мілоснай пяшчоце згараем.

Уявіць можна ўсё, што заўгодна.
Мы ў лятунках – шчаслівыя й радыя.
Плюс – у тым, што не ўбачу раптоўна
Вашай жорсткай нянавісці й здрады я!

## *НОВАЕ НАРАДЖЭННЕ*

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Як б’ецца Ваша сэрца?
Ці згадваеце мой твар?
Так хочацца ў НАС верыць мне
насупраць людзям злосным.

Шукаю сэнс у еднасці –
як неабходнасць шчасця,
магчымасць разам сцвердзіцца,
ніць лёсу разам прасці.

Быць не хачу пакінутай
ля вогнішча мінулага.
Былое ўжо загінула.
Я з Вамі – як прачнулася.
Як зноў на свет вярнулася!

* * *

Вясна, зноў акрылены стан,
Ці станеш маёй ты сяброўкай?
Каб мне не зрабіць новых ран,
не плакаць аб ім зноў употай.

Каб ведаць: магчыма – усё,
што й ён мяне моцна кахае,
што радасным стала жыццё,
у мроях мяне калыхае,
гайдае на сонечных хвалях...

* * *

Госпадзь, не карай! Я кахаю,
імя яго ўслых выдыхаю.
І нашу мілосць я зазначу
галоўнай у снах варыянтаў.
Сваю маладосць раблю вечнай,
каханне яго – неаспрэчным!

* * *

Часам думаю: з кім ты і дзе ты,
часам мару і рушу да мэты.
Дом, быт, бібліятэка і праца...
Так мне хочацца разам застацца!
Разважаю: ці гэта магчыма?
Тады крылы растуць за плячыма.
Бо каханне дае мне натхненне,
а яшчэ – сэнс жыццю і цярпенне.
Я прашу: толькі не выракайся,
бо адно ў табе лёс мой і шчасце...

## *АКРЫЛЕНАСЦЬ*

*(залатое сячэнне перавернутае)*

Я крылы вырошчваю ў неба ўзляцець
і фарбы Сусвету захоўваю ў памяці.
Мой любы, без Вас – спусташэнне і смерць,
а з Вамі – яднанне ў касмічным арнаменце.
Вы мне прапануеце ў неба ўзляцець
ці я застануся бяскрылай і сумнай?
Без Вас – Сонца шлях мой асветліць ледзь-ледзь,
каб мне дажываць між рэаліяў тлумных.

Я крылы распроставаю ў неба ўзляцець,
мае ланцугі ападаюць пры ўзлёце.
Я вольная птушка, не прывід, не цень,
шчаслівая з Вамі ці ў новай самоце.
О, не пакідайце мяне ў тым балоце!..

* * *

Хацела б яшчэ раз – апошні – каханаю быць!..
А там – буду моўчкі сябе забіваць як жанчыну.
Пяшчоту мужчынскую трэба хутчэй мне забыць,
паверыць, што шчасце ўва мне, не вытворна мужчынам.

Паверыць, што я – цэнтр Сусвету свайго, значны сэнс,
дазволіць сабе вырашаць, быць самотнай ці ў пары,
у план найбліжэйшы ўпісаць слова рэдкае "секс"
і марыць на лета пра Кіпр, Туапсэ ці Канары.

Шчасліваю стаць! Для сябе! Хай згараць
масты паміж мной і мінулым – яскравым агменем!
Хай вера ў сябе стане зброяй – як моцная раць,
што знішчыць праклёны зайздроснікаў, злыбедаў цені!

Шчасліваю стаць! Дачакацца мужчыну – Свайго! –
і разам з каханым ісці да таго, што прызначана.
Дзяцей гадаваць і падтрымліваць страсці агонь,
і верыць, што сёння ў мяне – не ўсё страчана!

* * *

Ці забываць Вас, доўга, цяжка,
ці помніць, ціха, патаемна?
Хоць шчасце з Вамі недасяжна,
ды марыць так пра Вас прыемна!

Дні схлынуць хваляй прахалоднай,
і праляцяць гады, як вецер.
Мы з незваротнасцю самотнай
увойдзем кожны ў рай і Вечнасць.

## *СПЫНЯЮЧЫ КАХАННЕМ ЧАС*

Мы разам. Я хачу стрыножыць час,
спыніць імгненне з таямніцай зорнай.

Хачу да дробязяў запомніць Вас,
бо хутка цуд растане ілюзорны.

Спыніць кахання міг, чароўны, дарагі,
вачамі цалаваць Ваш твар прыгожы.
І ні адна з суперніц-варагінь
нас раз’яднаць у гэты час не зможа!

* * *

Божа, зрабі мяне ўраз – незабыўнай!
Каб пакахаў ён, са мною застаўся.
Моцны характар дай – быць незабіўнай,
каб з перашкодамі, горам змагацца.

Божа, дай волі да мэты імкнуцца
і дасягаць, перамогу здабыць.
Хочацца бачыць і вочы, і вусны
сябра майго, каб зноў марамі жыць...

* * *

Вас забываць – як сябе забіваць.
Кожная хвіля – у сэрца кінжалам.
Будзеце, любы, мяне ўспамінаць
ці я для Вас прамільгну незаўважнай?

Толькі ці здолею Вас я забыць,
сэрца схаваўшы ў жалобнай скарбонцы?
Птушкай сягнуўшы з нябёс да глыбінь,
ці ўваскрашу я ў душы сваёй сонца?..

* * *

Буду Вашу душу я гукаць,
калі будзе самотна і горка.
Некаханаю – доля чакаць,
што згадаеце ў час надвячорка.

Што прыпомніце сэрца цяпло
і пагляд спадзявання на шчасце.
Я малюся, каб наша “было”
стала росквітам будучай страсці.

## *МОЙ РОДНЫ!*

Мой родны! Здаецца, чужым быў,
калі ўпершыню Вас сустрэла.
Цяпер як без Вас буду жыць я,
як з сэрца мне выцягнуць стрэлы?

Мой родны! З Радзімаю роўны!
Каханаю, мілай не стала.
Адзіны мой, любы, чароўны!
Хай нас уратуе расстанне.

* * *

Калі лёс азмрочаць нягоды і злосць,
калі раз'яднае шляхі недарэчнасць,
трымай моцна, любы, мяне і мілосць,
каб разам сустрэлі мы згоду і Вечнасць.

* * *

Сотні дажджоў, сотні сонцаў, снягоў
раздзяляць будуць нас у імкненні да смерці.
Так хачу я пабачыць Вас, любы мой, зноў!
Не аднойчы. Штодзень у жыцці сваім. Верыце?..

* * *

Лепшая карціна –
фота каханага:
глядзела б бясконца!

проза

Васіль Гігевіч



...ці можам мы ўявіць

сябе вечнымі?..

# Развагі на вясковай лаўцы

## РАЗДЗЕЛ І

### Вяртанне

Рассыпаецца, усё рассыпаецца...

Рассыпаюцца не толькі сюжэты, падзеі – рассыпаюцца ў бязладдзі думкі, пачуцці.

Толькі дзіцячае і юначае здзіўленне агаломшвае. Бліш-частыя вачаняты суцішваюць адкрытасцю; здагадваўся, што тысячы, якія абцякаюць, якія бесперапынна снуюць, носяць нябачныя сусветы, і за іх – не датыкнуцца...

Тады акукліваешся.

І год мінае.

І другі.

Некалі салодкія жаданні, што цяплілі і весялілі настолькі, што, здавалася, свет папоўнілі жаданнямі, па адным зніка-юць. Часцей застаешся з развагамі, успамінамі – надзейным набыткам і сховішчам, куды не спяшаеш пускаць старонніх.

А так – ты ўсё гэткі ж, ранейшы, толькі ўсе побач, як у цягніку, што ад станцыі скрануўся і пакаціў ад балбатлівага, крыклівага, і на стыках рэйкавых чуецца: тук-тук, тук-тук...

Назіраеш, як паплыў назад перон, як некалі малы, які са смехам у вочы глядзеў, хутка ўгору пацягнуўся і пачаў самапасам забіраць салодкія жаданні.

Куды, навошта пацягнуў час?

Ідзеш па лясной дарозе і не пазнаеш: за спінаю нібы чужая вёсачка, побач зарослыя хмызамі прагоны, усюды трава прабіваецца, бярэзнік адступае. За вёскаю, між дрэў, жаўтаватая прыдарожная разора, мухаморы, сыраежкі, спавітыя нябачнай сеткаю грыбніцы. Кажуць, што яны, як і лес, жывыя. Але гэтага жыцця не адчуваеш, усё гэта – халоднае, разумовае.

Вяртаешся дадому сцішаны. Па дарозе мінаеш па бетонным мосце рачулку, зусім вузкую, абмялелую, зарослую з берагоў гнуткімі доўгімі пасмамі зялёнай травы.

Пасля рачулкі трэба зайсці на могілкі. Абавязкова трэба.

Пачнеш сунуцца між абгароджанымі прэнтамі пагоркамі, – як шукаць згубленае. Нарэшце застынеш перад умураванымі медальёнчыкамі – двое нерухома глядзяць устырг. Супынішся. Пачнеш чакаць.

Нарэшце гарачая хваля вечнай віны хлыне ў сэрца і сканае – да дрыжыкаў.

Тут жа паявіцца трэшчына ў халодна-лагічных развагах, хваля затопіць усяго, стане шкада. І не сябе, не... Зразумееш, што не думкі правяць табою, не... І не розум, а тое спрадвечнае пачуццё жальбы і вінаватасці.

На вуліцы ціха і пуста. Над хатамі вісіць сонца. Разгараюцца вячэрнія воблакі. Глядзіш на птушак, што купаюцца між дрэў. Неба ўсё большае, купалістае. Адчуваеш сваю малазначасць, нават нікчэмнасць перад сонцам у захмаранасці і цішыні.

Чагосьці не разумееш – таго галоўнага, без чаго і не варта паяўляцца і мітусіцца. Хочаш спасцігнуць, аб'яднаць малінавы дыск, што коціць да хаты, утравелую цішыню, хрыплаватае карканне вароны, нават курэй на мураве. Але розумам усё гэта спасцігнуць не можаш, і таму застаецца зацішвацца цішынёю і спакоем, успамінаючы, што гэткім жа бязмоўем у юнацтве на гэткай жа лаўцы поўнілася душа без ніякага жадання зразумець і ацаніць наваколле.

Слова сказанае ёсць хлусня.

А розум?

Наперадзе ноч.

Ціха будзе, бы пад зямлёю.

Скрозь шкло ўбачыш засыпанае зорамі неба. Перад вачыма ў цёмнай вадзе будуць віцца зялёныя пасмы – як і днём...

Некалі там была шырокая рака, па ёй сплаўлялі бярвенні з далёкіх лясоў. З бацькам пілавалі дубовыя Пампеі, што выторгваліся з тарфяністага берага, – чорныя, даўжэзныя, яны немаведама калі забыліся глеем і торфам. Піла пад вадою глуха шоркала, бацька казаў: «Вот, сыне, на дзядзінец у калодзеж пойдуць. Ці на шулле, а то – на плот ў агародзе...»

Дзе тая вада, у якой мы стаялі і шоркалі па крэпкіх чорных памаках?

Тыя памакі стаяць у плоце і дагэтуль.

Паварочваўся тварам да падушкі...

## Вёска

### *I*

Вёска стаіць за пятнаццаць кіламетраў ад горада.

Два рады хат, крытых шыферам. Ля асфальтаванай дарогі бялеюць домікі – для прыезджых.

У дзевяностых, калі развальваліся калгасы, маладым хвацкім хлопцам прапанавалі зямлю. Бяры тэхніку, разжывайся.

Хлопцы паверылі, уцягнуліся ў работу.

Але ж і чыноўнікі не спалі ў шапку, кумекалі. Як бы завалаць рабацяг. Прыдумалі. Планы севазваротаў, планы пасеваў. Штогод зямля мянялася, угноеная ішла ў чужыя рукі, няўдобіца – рабацягам...

Пакруцілі хлопцы галовамі, заспявалі дружна: “Гары яно гарам такое каханне”.

На гэтым паход хлопцаў у самастойнасць скончыўся. Тэхніка распаўзлася па дварах.

Пачаўся новы круцёж.

Але ж гэта хлопцаў не цікавіла: досыць, наеліся...

А было ж і жаданне, і сіла. І меры былі...

Цяпер працуюць хто дзе: на ферме, на мехдвары ля шэсніцы, у горадзе, дзе больш плацяць, на пілараме.

Лес аж гудзе, у дзве змены пілы звіняць. Лес гоняць за мяжу на валюту.

Перад вайною гэтак жа за валюту прадавалі кувалды і накавальні.

Валюта і тады, і цяпер цэніцца.

Фермы не прыватызаваныя, на іх робяць як мясцовыя, так і прыезджыя з пасёлка.

А так – усё харашо, прыўкрасная маркіза, – так любіў гаварыць Караткевіч. Ён любіў жыццё, любіў усё “прыўкраснае”.

### *II*

Ля пенсіянерак жывуць і кормяцца мужчыны – яшчэ маладыя, гадоў да сарака. Многія маюць сваіх дзяцей. Але дзеці тыя ў вёсцы ля жанчын жывуць, яны жывуць з мацяркамі ў горадзе ці ў іншых пасёлках. Мужчыны разведзеныя. На работу не ўладкоўваюцца, туляюцца на вёсцы.

Такога раней не было – каб здаровы мужчына, ды яшчэ халасцяк, без работы тупаўся...

Але ж цяпер гэта – нармальна, цяпер можна ляжаць перад тэлевізарам, а то яшчэ – самая мода – пстрыкаць праграмамі ў інтэрнэце.

Любата!

Калі ўжо прыспічыць зарабіць на бутэльку, можна пасунуцца да крамы, паглядзець у старых няпыльную работку: траву трымерам скасіць, дровы пасячы, плот падправіць. Але на сталую работу – на ферму, у горад, на лесапільню, пастухом – іх колам не загоніш... Яны даўно прывыклі да іншага жыцця. У многіх ёсць дзеці, але яны жывуць з былымі жонкамі ў гарадах, у іншых пасёлках. Мужчынам трэба плаціць аліменты. Але пра аліменты ў іх галовы не баляць, пра аліменты баляць галовы ў міліцыі.

На годзік-другі, не меней, міліцыя збірае аліменшчыкаў і адвозіць у гарады – на работу. Там іх кормяць, даюць спраўную зарплату.

Жытуха, што болей трэба?

Адрабіўшы аліменты, хлопцы вяртаюцца да тэлевізара, да аўталаўкі і магазіна.

А так – усё харашо...

### *III*

Вёска прынцыпова зменена.

Зменены дух вясковага ладу.

Яшчэ нядаўна, на памяці пакалення, сябравалі сусед з суседам, ладзілі кірмашы, дзе гулялі і скакалі сваты, сяброўкі, залоўкі, швагры, пляменнікі, хрэснікі – то быў непарушны закон еднасці. І вось гэты няпісаны закон распаўся.

Чаму? Што раз'яднала пакаленні?

Эканоміка, заснаваная на выгадзе, на грашах?

Хай будзе ён тройчы пракляты – рускамоўны тэлевізар!

Уся цывілізацыя, якая ломіць звычкі і традыцыйнасць не толькі вяскоўцаў беларусаў, але і рускіх, украінцаў.

Цяпер заводзіць гаспадарку – свінні, каровы, гусі, качкі – каму гэта трэба? Нявыгадна пасля развалу Савецкага Саюза, калі хлеб каштаваў капейкі, а буханкі куплялі ў магазіне на корм свіням. Лягчэй і танней усё купляць гатовае. Нават яйкі купляць – і тое танней.

На ўсю вёску – з насельніцтва недзе ў 400 двароў – засталося пару кароў, і тыя – у маладых працавітых хлопцаў, якія ад світання да змяркання снуюць ля двара, ля трусоў, ля цялят у загончыку. У такіх яшчэ цепліцца надзея, што выкруцяцца ад глабалізацыі і грашавітасці.

Хоць травы – заваліся, не тое, што раней, – за межы біліся... Здзічэла зямля – яна трэба?

Грашавітасць, разлік вынулі з вёскі душу. Як сусед кажа, цяпер за тое, каб курыца дарогу перайшла, – плаці.

Жыццё віруе і цепліцца ля магазіна. Людзі бяруць "напавер", "на вексель" гарэлку і прадукты. Пенсіянеркі-бізнесменшы прывыклі і гэтак зводзяць канцы з канцамі.

Мяняецца не толькі побыт вяскоўцаў, – мяняецца ўнутраны свет чалавека.

Пры пахаванні некалі ў вёсцы галасілі. То быў абавязковы рытуал – галашэнне. Гучна, з крыкам, нараспеў выплюхвалася з душы споведзь пра блізкага чалавека, які быў побач, які, здавалася, усё-ўсё чуў і якога адрываюць ад сонца, ад травы зялёнай, аддаюць халоднай зямлі... Душу ў такія імгненні скаланаў пякучы незразумелы боль жальбы і чалавечнасці...

Цяпер жа гэтага няма.

Людзі не хочуць, а тое і баяцца наблізіцца да халоднага цела. Баяцца не тое, што зрабіць развітальны пацалунак, нават дакрануцца баяцца... Яны ўсё даўно ведаюць... І таму моўчкі пастаяць ля труны, кінуць жменьку-другую жаўцяку на труну і пойдуць на памінальны стол.

Што з намі сталася? Знікае сутнасць душы чалавечай... Знікае таямнічасць быцця. Скептыцызм і разумнасць з'ядаюць чалавечнасць, пры пахаванні людзі зазіраюць у бездань і нічога, апроч традыцый і памяці, не знаходзяць – агонь пякельны палае ў крэматорыях[1], таму – далоў агонь, хаця бы традыцыю і памяць уратаваць!

---

[1] У Ізраілі на сёння ўсе крэматорыі разбураны. Думаецца, што гэта выклікана філасофскай пераацэнкаю ролі жывога і мёртвага рэчыва.

Разам з галашэннем адышла не проста традыцыя, а светапогляд, адчуванне блізасці чалавека, які паяднаны непарыўнай сувяззю з жывым светам. Разгубленыя, асірацелыя, людзі ідуць да памінальнага стала, імкнучыся знайсці апірышча ў спрадвечнай традыцыі, у далёкім забытым галашэнні першага дня пахавання, другога, дзявятага, саракавога...

Але гэты памінальны стол ім не трэба, бо ўсё гэта ля іх старое, аджылае, за што трымаюцца вяскоўцы.

Яшчэ засталася традыцыя, нават абавязак, даглядаць старога нямоглага бацьку ці маці... Бывае, што гадамі хворы ці спаралізаваны чалавек мае догляд у цяпле і бяспецы.

Такая чалавечнасць, як правіла, бывае ў не надта адукаваных, не надта разумных сем'ях, людзі так і кажуць: што паробіш, даглядаць трэба...

Разумнейшыя здаюць старых у інтэрнаты. Раней такога таксама не было.

Так званае культурнае жыццё цячэ ля рускамоўнага тэлевізара, ля канцэртаў, ля фільмаў, ля палітыкаў, як ля блізкіх родзічаў, ад якіх не адчэпішся.

Як і ў гарадах, выкідваюцца з кватэр кнігі – яны сталі непатрэбнымі.

Ад старога традыцыйнага жыцця ў вёсцы засталіся песні і прыпеўкі. Засталася чыста беларуская гаворка. Прыпеўкі ў асноўным з народнага побыту і, канечне ж, пра каханне. Іх безліч. Шмат "брахлівых". Калі жанчыны, успамінаючы маладосць, разгуляюцца, пускаюцца ў скокі, памахваючы рукамі, тады ўжо – трымайся за бакі ад смеху, заслухвайся.

Шкада, што прыпеўкі ніхто не запісвае і не друкуе, хоць сярод жанчын ёсць сапраўдныя таленты.

Таленавітасць парой праяўляецца ў тым, што ў "брахлівых" прыпеўках няма грубасці, брыдкаслоўя, ёсць мяжа, якую нельга пераступіць, калі і спяваецца пра каханне, то ў інтымнасці, намёкамі, ледзь-ледзь... І ў гэтай недаказанасці ёсць свая паэтычнасць.

Спяваюць: "...Дробны дожджык марасіў. А ён ціхонечка прасіў..."

Усё. Больш ні слова...

***IV***

Традыцыйнасць вясковага побыту закладвалася з гадамі, а потым незаўважна перацякала ў гарады.

Змалку дзеці, гледзячы на бацькоў, вучыліся працавітасці.

Потым жыццё выцягвала іх у гарады, дзе іх рукамі будаваліся праспекты і палацы, дзевяціпавярховікі і заводы. Фізічная праца, умельства рабіць работу былі ці не галоўнымі ў цэлага пасляваеннага пакалення.

Сёння сітуацыя змянілася. І не толькі ў вёсцы, але і ў горадзе. Людзі адчулі, што без вузкай спецыялізацыі, без інтэлектуальнага пачатку ў дзіцяці няма і не будзе перспектывы. Фізічная праца, умельства рабіць работу адышлі на другі план. Калгас для многіх стаў праклёнам, ледзьве не сімвалам дэбілізму.

У выніку вырастае пакаленне, не прывучанае да работы. Але ж інтэлектам людзям нельга пахваліцца – прапушчана ў школе глыбокая базавая падрыхтоўка.

Ёсць яшчэ адна прынцыповая бяда. Пасля вайны па розных прычынах моладзь была адарвана ад каранёў, ад нацыянальнай мовы і культуры.

У апошнія гады гэты разрыў дасягнуў неймаверных памераў. Мітынгі ў Мінску, у другіх гарадах скаланулі рэспубліку і змусілі людзей задумацца: да чаго нам хінуцца?

Да рускасці? Але да якой? Да той, якая пануе ў расійскай глыбінцы?

Ці да беларускасці, да тых людзей, якіх называлі “нацыяналістамі”, “свядомымі”? Слова “свядомы” гучала са здзекам, як некалі гучала “калгаснік”.

Выхад быў знойдзены ва ўсеагульнай інтэлектуалізацыі. У розных формах. Як быццам сам інтэлект мог даць падмурак чалавечнасці.

Бацькі пачалі “ўкладваць” грошы ў будучыню дзяцей. Хоць куды: у хакей, у спорт, у харэаграфію, у музыку, у мастацтва.

Але куды, у які хакей маглі “ўкладваць” грошы бацькі вясковых дзяцей?

Некалькі гадоў таму на дзяржаўным узроўні быў запушчаны кліч: падымем нараджальнасць беларусаў!

Дзяўчаты і маладыя жанчыны адгукнуліся.

А чаму не адгукнуцца: за кожнага нованароджанага больш за тысячу “зялёных”. За наступнага – дабаўка... Цяпер на пасёлку і ў вёсцы шмат дзяцей. Як суседка кажа, бегаюць, вочы адзін аднаму пікамі колюць.

Кім, якімі яны вырастуць, цяперашнія крыклівыя і бесклапотныя, гэткія ж, якім і сам быў некалі, калі з аднагодкамі лётаў па завуголлі, ля ракі, у кустах, калі існаваў у зусім іншым свеце, недаступным дарослым?

Вясковыя дзеці...

Пра гарадскіх памаўчым.

Дзеці не хочуць і не ўмеюць рабіць сялянскую працу. Парадаксальнасць, але факт... Спрадвечнае ўмельства рабіць сваю працу з нейкага часу стала „караваю працай“. Яе рабіць павінны хто заўгодна, толькі не мы – бацькі, старыя... Навучаныя тэлебайкам, дзеці мараць пра тэлешоу, пра эстраду...

Як кажуць – сцяг ім у рукі...

Мяняецца не толькі ўнутраны свет вяскоўца, але мяняецца слова беларускае, аснова гучання.

Параўнайце: “сьнег” – [х] мяккі глухі. “Снег” – [г] цвёрды, без мяккага знака. Ён – он... Пайшоў – пошёл...

Пад прэсам русізмаў, пад прэсам рускай мовы (павальнае выхаванне на рускай мове, тэлебачанне, падручнікі, трасянка – моладзь адвыкае ад беларускага слова, беларускасць успрымаецца не з гонарам за сваю нацыю, а з другагатункавасцю.

Знакамітае “дз”, “бульба”, “бульбаш”... – хто з гэтым не сутыкаўся?..

“Русского языка не понимаешь, что ли?..” Цяпер такія словы гучаць рэдка, бо ў любы міг можаш наткнуцца на хлёсткі адказ беларуса...

Беларускае слова мякчэйшае за рускае слова, беларус адрозніваецца не толькі дзеканнем, але і безліччу гукаў, націскаў у словах у розных рэгіёнах у кожнай вобласці.

Неацэннае багацце мовы характэрна ўсім народам, – кажуць, у немцаў каля двухсот дыялектаў... А так – усё харашо, прыўкрасная маркіза...

## Сусед Валодзя

Па вуліцы крочыць сусед Валодзя. Талковы, разумны мужчына, амаль аднагодак, пабываў чыноўнікам – старшынёй калгаса, цяпер на пенсіі.

– Здароў.

– Здароў.

Па звычцы трэба зачапіцца словам за слова.

Як звычайна, пачынаем з палітыкі, а потым пераскокваем на драбязу: ураджай, надвор'е...

– Ведаеш, – пачынаю новую для Валодзі тэму, – я вычытаў, што Зямля – жывая...

– Як гэта – жывая? – слупянее Валодзя.

– Яна і думаць можа. Мы толькі не можам гэтага ўявіць, бо малыя.

Валодзя глядзіць на ўсялякі выпадак сабе пад ногі, – на белы пясок.

– Ты што, вальтануўся?

Пачынаю тлумачыць, чаму Зямля жывая і чаму гэта людзі прызнаваць не хочуць.

Выслухаўшы, Валодзя махае рукою:

– Пайду. Па табе Навінкі плачуць...

Прамінуўшы ад мяне пару крокаў, Валодзя спыняецца ў роздуме. Затым вяртаецца.

Стаіць перада мною, як Піфія перад грэкам. Гэта Піфія наваражыла грэку смерць блізкую. Ён і надумаў смерць абдурыць. Пайшоў у другі горад. Ідзе, пасвіствае ад радасці. А тут, на дарозе, яго смерць чакае.

– Дык так атрымліваецца: нам трэба ўсё кідаць, усю цывілізацыю і зноў на дрэвы лезці?

## Голас

Мы вучыліся ў адным класе. Пасля васьмага бацькі яго паехалі ў далёкія мясціны, ці не ў Казахстан. Потым Міша вярнуўся. У мяне застаўся ўспамін, калі ён гаварыў, пра аграмадных змяюкаў, якія, скруціўшыся колам, ганяліся за чалавекам.

Вось гэткі ў мяне быў успамін са школы. Мы нават і сябравалі, як сябруюць у юнацтве, – бяскрыўдна, з надзеяю, што калісьці сяброўства перарасце ў нешта большае.

Не перарасло.

Але я не шкадаваў.

Вярнуўшыся з далёкіх стэпавых мясцін, дзе змяюкі, скруціўшыся колам, ганяліся за людзьмі, Міша атабарыўся ў Мінску, нават нейкім начальнікам. Ці не прарабам у метрапалітэне. Калі-нікалі ён паказваўся ў вёсцы, часцей за ўсё на Радаўніцу. Перакідваліся словам пра дзяцей, пра работу, і – раз'язджаліся да наступнай вясны.

На гэты раз Міша з'явіўся для мяне нечакана. Прыселі на лаўцы. Загаварылі пра каронавірус, пра мітынгі, пра аўтазакі... Але ўсё гэта – я адчуваў – Мішу не надта непакоіла. Штосьці іншае яго гнала. Што?

– У мяне тры гады таму жонка памерла, – пачаў Міша. – Жыву адзін. Падумваў, каб знайсці жанчыну.

– У чым праблема?.. Бяры Ляльку. Прыгажуня.

Пра Ляльку песня асобная...

– Лялек і ў Мінску навалам. Дамоў пацягнула. Прайшоўся па вёсцы. Забраў на могілкі. Гэтулькі людзей адвалілася! І ўсе яны знаёмыя. Толькі-толькі тут былі, мітусіліся. Доўга хадзіў, успамінаў. Грышку ўспамінаў Канцавога. Помніш Грышку Канцавога?

– Гэты, каторы ля возера жыў з мацерай?

– Ён.

Міша замаўчаў.

Я прамаўчаў таксама.

Грыша быў маладзей за мяне гады на чатыры, калі не болей. Ён з маці жыў ля возера, дзе вяліся карасі, і ранкамі, пакуль маці не паспявала даць заданне на работу, я зрываўся на рыбалку.

Неяк да возера выйшла з хаты маці Грышы. Яна, мабыць, была адзінокая. Стаяла ля бярозы і скардзілася на жыццё, на бесталковасць. Скардзілася доўга – даўно сонца паднялося над бярозамі, людзі на работу пацягнуліся, а яна ўсё скардзілася.

Хоць Грыша і быў нейкі бесталковы, але ён мне падабаўся. Невысокі, лёгкі пры хадзьбе, з вудаю на плячы, ён часцяком шыбаваў да рэчкі лавіць шчупакоў.

З рыбака – гэта ўсім вядома – талковага гаспадара, як і з паляўнічага, не было і не будзе. Не надта ахвочы да гаспадаркі і я, але не лепшы і Грыша. Мы часта сутыкаліся ля рэчкі, дзе віравалі затокі.

Адгарцаваўшы пару гадоў ля клуба, Грыша прыжаніўся. Жанчына, з якой жыў, хваліла яго, хоць, як і многія ў вёсцы, Грыша папіваў.

Характар не схаваеш і не згубіш, – весялосць і жартлівасць у Грышы былі прыродныя. Неяк мы паехалі ў суседнюю вёску па чарніцы. Паехалі на рэйсавым аўтобусе. Змораныя, надвячоркам з поўнымі вёдрамі ўселіся на сядзенні. Ехалі дамоў цераз чужую вёску. Па вуліцы прыгажуня тэпае, гадзікаў шаснаццаць. Ідзе ля аўтобуса і галоўка сама сабою ў бок людзей паварочваецца. Грыша высоўвае з акна сваю чубрыну і на ўвесь аўтобус: «Марфута, на танцы вечарам пойдзем?» Аўтобус грымнуў. Калі б ля дарогі ляжаў камянюка, – паляцеў бы ў акно, дзе галава Грышкі тырчала.

Неяк хутка ён звяў у жыцці. Запомніўся не скандаламі, не выпіўкамі.

Гэтак жыццё ўладкавана, што самога сябе чалавек ацаніць не можа, ацэньваюць толькі людзі. Грыша пакінуў пасля сябе цёплы, лёгкі след. Гледзячы на гэты нябачны след, людзі даюць чалавеку мянушку, трапную, якая прыліпае на ўсё жыццё. У Грышы, як памятаю, мянушкі не было. Яго так і клікалі: Грыша-рыбак...

– Дык, вось, – гаварыў мне былы аднакласнік, – хадзіў на могілках і ўгледзеў магілу Грышкі. Маці яго даўно памерла. Жонка выйшла другі раз замуж і з’ехала. Скажу адразу: зарослая была магіла. Збольшага прыбраў яе. На помніку нічога не было, ні фотакарткі, адзін сцерты надпіс...

І тут мне цюкнула, – дай яму кветкі пакладу. Кветак свежых пад рукою не было, затое на ўскрайку могілак ляжалі нікому непатрэбныя кветкі і вянкі. Там жа і прагледзеў невялічкі зграбны вянок без надпісу. Яго і паклаў да помніка.

Паехаў у Мінск.

Цераз пару тыдняў мне сніцца сон. Малюнка не было ніякага. Мне голас прысніўся. І не Грышы, а іншы, глухаваты:

– Пакладзі, дзе ўзяў...

Мы памаўчалі.

– Цяпер во, прыехаў...

Нейкі заклапочаны, надта задуменны, з партфелем у руцэ, дзе, мабыць, былі кветкі, нават не развітаўшыся, чалавек пайшоў вуліцаю ў бок могілак.

## Малахольная

У Чэхава ёсць апавяданне “Душачка”. Яно падабалася Талстому. Апавяданне не надта вялікае: пра жанчыну, прывязаную душою да мужчын, з якімі зводзіць яе лёс.

Мяняюцца мужчыны, у іх розная работа, але Душачка іх работу прымае душой, як сваю.

Вобраз Душачкі ёсць і сёння ў жыцці, у літаратуры.

Але ж ёсць іншы тып жанчын, якіх мужчыне варта аббягаць дзясятай дарогаю.

Яны і някепскія, і прыгожыя... Як правіла, ля іх цепляцца мужчыны. Пра іх гавораць – як мёдам намазаныя... З-за іх, “плечавых”, і не толькі “плечавых”, мужчыны заводзяць любошчы, губляюць сем’і, разводзяцца...

У маладыя гады, калі здымаў кватэру, у суседнім доме штораннe назіраў сцэну – з хаты на ганак выходзіла сямейная пара і голасна сварыліся.

Што яны не маглі падзяліць сярод ночы?

Маці казала:

– У сям’і звычайна пачынаецца барацьба характараў. Боруцца і боруцца, боруцца і боруцца... Некаторыя ўсё жыццё боруцца. І вот, калі адзін перамагае, тады і мір наступае...

У новым сямейным жыцці, якое мужчына заводзіць з “плечавой”, таксама няма міру і ладу. Спрэчкамі, скандаламі яна даводзіць мужчыну, што той гатовы сарвацца з работы і з’ехаць са звыклага месца, спадзеючыся, што там, удалечыні, жыццё ўстаканіцца.

Дзе там? Характар не пераменіш, гэта ўжо навечна. Крыклівасць, скандальнасць нейкім чынам перадаюцца суседзям. Тут жа, як бадлівай карове ў статку, людзі даюць мянушку – малахольная. З ёю яна і жыве.

Мужчына, змучаны такой жанчынай, не ведае, што рабіць. Маладосць, былое сямейнае жыццё паламана, а то і страчана, але і новае жыццё не лепіцца.

Здавалася б, ну, развядзіся ты з ёю, забудзь і выплюнь.

Але ж ён і сам не разумее, чаму так жыве.

І вось па вёсцы коціцца пагалоска: павесіўся... На парозе хаты павесіўся... А быў жа спакойны, талковы...

Мінае месяц, другі...

Наша прыгажуня заводзіць новага мужчыну.

Адкуль, чаму ён паяўляецца?

Трымаючыся падручкі, яна тэпае да магазіна з новай ахвяраю і з усмешкаю ў вочкі ёй зазірае. З фарбаванымі вуснамі, прыгожанькая, як лялька...

Вёска назірае. Вёска чакае новага скандалу...

## Лёша

Лёша з’явіўся нечакана і невядома адкуль. Бабы казалі, што з Масквы прыехаў, дзе пяць гадоў набіраўся розуму. Па праўдзе кажучы, нейкія карані з вёскаю ён меў. Тут жыла яго цётка, – моцная баявая Ангеліна. Ангеліна мела гаспадарку, на той час толькі-толькі пайшла на пенсію. Калі падрабляла ў калгасе, а калі сядзела з бабамі на лаўцы. Побач з Ангелінаю жыла баба Фёкла, – ужо старая, паўнацелая, з апухлымі нагамі. Жыла яна ў невялічкай хаціне. Баба Фёкла была нейкай раднёю Ангеліне. Як і

звычайна, у вёсцы хтосьці камусьці быў раднёю, кумам, хрэснікам ці проста – суседам. Гэтак жа і Ангеліна з бабай Фёклаю – жылі побач, старыліся...

Баба Фёкла памерла, хаціна яе запуставала. Запуставаў і агарод. І тут паявіўся Лёша – родзіч бабы Фёклы.

Што ж, жыві Лёша, шкада той хаціны? У некаторых лазня паболей...

Ён і стаў жыць.

На той час Лёшу было гадоў сорак. Як казала Ангеліна, прыехаў ён гол як сакол... На першым часе Ангеліна яго падкармлівала – радня ўсё ж такі, дзе дзенешся. А потым Ангеліна перасварылася з раднёю – вытурыла з хаты, дзе Лёша снедаў, абедаў, прыбягаў штодня прасаваць сарочку...

Нейкі трошкі дзівакаваты быў Лёша, мо таму Ангеліна і адступілася...

– Людзі добрыя, – махала рукамі Ангеліна, калі садзілася на лаўцы з бабамі, – як снедаць ці абедаць, ён на ўсё гатовенькае прыходзіць, а як памагчы якую работу зрабіць – не... Дроў пасячы, бульбу капаць – ён як і не відзя... Нікога...

І праўда, нейкая няўлоўная мяжа аддзяліла Лёшу ад праставатых баб і мужчын.

Святло ў хаціне Лёшы адключылі адразу ж. Ён тады прыкупіў свечачку, зажыў самастойна ад Ангеліны. Самастаяцельным ён жыццём зажыў, як казалі бабы.

З бабамі ў Лёшы складаліся дзіўныя стасункі. Зноў жа, па праўдзе сказаць, гэтых стасункаў у Лёшы з бабамі не было ніякіх. На першым часе дзе якая маладзейшая ўдавіца тыцнулася ў хаціну Лёшы, перакінулася з ім словам-другім і болей у той хаціне не патыкалася.

А што там было рабіць, калі ў хаціне быў парадак, як у казарме: падлога вышаравана, ложак з цвёрдай панцырнай сеткаю акуратна запраўлены, грубка пабелена.

Парадак быў і ў адзенні Лёшы: вымытае, адпрасаванае, сам заўсёды чыста паголены. Раніцаю ён падцягваўся на турніку мускулістым целам, а затым улетку, а то і восенню, узяўшы ручнікі, ішоў да рэчкі.

Не цікавілі Лёшу вясковыя бабы, вось што я вам скажу... Хоць, як некаторыя казалі, у горадзе ў яго было дзіця, была і жанчына – жыў асобна.

Не склалася сяброўства ў Лёшы і з мужчынамі. Мо таму, што не выпіваў, не курыў, не ўмеў пагаварыць з мужчынамі "па душах", пра палітыку і то не гаварыў. Скажа слова-другое і – пайшоў у хаціну.

Гаспадарку Лёша прынцыпова не заводзіў, нават курэй і тых не заводзіў. Двор у Фёклы як быў недагледжаны, такім і заставаўся многія гады, нават пасля смерці Ангеліны...

Чым ён жыў?

Дзе якімі падработкамі ў вёсцы, на пілараме. Работу ён умеў рабіць, акуратна ўсё рабіў – і з сякераю, і з малатком... Але зноў жа – не хінулася ў Лёшы душа да работы, як і да баб, як і да сяброўства з мужчынамі. Лёша з нейкім халадком, як староннi пазіраў на вяскоўцаў. Вельмі часта, распачаўшы работу, мог закапрызнічаць ні з таго ні з сяго і кінуць недаробленае.

Ён жыў сам па сабе. Мыў адзенне, наводзіў парадак у хаціне, бывала, ішоў на работу, але не надоўга, бо сварыўся з начальствам. Але часцей – нідзе не рабіў. Тады, узяўшы ў рукі дыпламат, ехаў у горад.

Што ён там рабіў?

Ягоная адасобленасць ад жыцця, ад клопатаў вяскоўцаў агаломшвала.

Калі мясцовая вясёлая каманда шалтай-балтай праводзіла час у пошуках *векселя* ля магазіна, то Лёша ўвесь час быў нечым заклапочаны.

Чым?

І апошнія гады, калі Лёшу стала шэсцьдзесят, ён заставаўся гэткім жа, як і ў маладыя гады: прыгожы, падцягнуты. І яшчэ ён завёў катоў – штук пяць ці сем. З каляровымі ашыйнічкамі яны круціліся ў двары, выбягалі на вуліцу. Ён мог гаварыць пра іх доўга, з любасцю, – так гавораць пра сваіх сабак ці катоў.

Ёсць людзі, якія гавораць правільнае і разумнае, але, слухаючы іх, не прапітваешся важкасцю сказанага, словы іхнія не чапляюць душу, і таму, выслухаўшы чалавека, спакойна ідзем далей.

Гэткім жа быў і Лёша. Ён шмат чытаў – гэта адчувалася па гаворцы – але прачытанае вылівалася ў банальных словах, кніжных выразах. Нават словы пра любых катоў, пра існаванне душы ў іх, пра боскасць, – усё гэта было трафарэтнае, даўно вядомае. Адчувалася, што Лёша быў адгароджаны ад рэлігійнасці мяжой разумнасці, а не пачуццёвасці.

Сярод ночы, гадзіны ў дзве-тры ў Лёшы загаралася свечачка. Тады, у цемрадзі вёскі, хаціна нагадвала жыллё манаха. Пад ранне свечачка тухла.

Ні дапамагчы, ні параіць Лёшу вяскоўцы не маглі, то быў ягоны асобны свет, куды, як і ва ўсякі свет, уваход староннім забаронены...

## Дзе падзенешся?..

Упершыню ўбачыў яе на сцежцы, якая вяла да пасёлка. Абкошваў траву ля дома і тут – яна ішла.

Не мясцовая. Мясцовых збольшага ведаў. Гадоў за пяцьдзясят-шэсцьдзесят ёй было, – адразу і не разабраць. Хустка на галаве, рабочая куртка, твар не падфарбаваны, не наведзены...

Па завядзёнцы прывітаўся.

Яна адгукнулася. Слова за словам – зачапіліся.

І сапраўды прыезджая. У пасёлку жыве. Пенсіянерка ўжо. Да нядаўняга на ферме рабіла. Муж год таму памёр.

– Хоць талковы быў?

– Нічога. Праўда, калі падпіваў, – з тараканамі...

– Мы ўсе з тараканамі, – наважыў заступіцца за мужчынскае племя.

Яна не спяшалася адыходзіць. Словы яе зацягваліся не жартаўлівасцю, а – адзінотаю, якая некалі чулася ў маці Грышы Канцавога, калі яна стаяла ля возера ля бярозы і скардзілася на жыццё.

Сын ёсць, жыве з ёю. Вялікі ўжо. Інвалід. Некалі ў школе даў нырца з берагу. На дне карчавежына аказалася. Зламаў пазванкі. Так і не выратавалі.

Настрой жартаўлівасці тут жа патух.

Яна пайшла дамоў у вёску.

Стаў думаць пра яе лёс. Пра сына-інваліда... пра ферму.

Нейкі сум ахапіў.

Некалі таксама рабіў на ферме, – падмяняў бацьку адграбаць гной ад кароў.

Тады была позняя вясна, зіма была марозная і снежная, як і ўсе тагачасныя зімы. Я выйшаў з прапахлай гноем фермы, і вось гэткі ж, як цяпер, сум навалійся...

Далёка-далёка была вясна, сцюдзёны калючы вецер студзіў плечы і я

думаў, калі ж скончыцца халадэча, калі скончыцца бясконцае маці “трэба, трэба...” Хацелася гарадоў, дзе асфальт, дзе няма кароў, гною...

Нейкі знясілены ўспамінамі пасунуўся ў двор.

Праз пару тыдняў, седзячы на лаўцы, зноўку ўбачыў яе, – ішла па вуліцы на пошту атрымліваць пенсію.

Як з даўно знаёмай прывіталіся.

Цяпер у яе быў трошкі іншы настрой, – весялей свяціліся вочы і час ад часу нават усмешка блэндала на вуснах.

Радасць у іх – сыну вазок прывезлі. Можа, нават, і заўтра ў вёску паедуць. Чатырохколавы. Лёгкі. Заднепрывадны.

Я бачыў гэткія вазкі. У Саках, дзе спінальнікі лечацца. Хлопцы і дзяўчаты нават на дыскатэку прыязджалі на іх.

Тады вечарамі гучна грымела музыка. Каляровы шар круціўся, мігцеў над галавамі танцораў і звонка-звонка звінела дзявочае:

“Танцуй, пакуль малады”.

І моладзь танцавала. Танцавалі і вазочнікі – прыпадымаючы пярэднія колы, адрываючыся ад пляцоўкі, яны круціліся... І страшна, страшна было, – а раптам, грымне на спіну каторы і бразнецца на патыліцу.

“Танцуй, танцуй пакуль малады”.

Павіншаваў яе...

Цяпер ужо, пад новы настрой, спытаў:

– А ў цэлым, як жыццё?

Усміхнулася ледзь-ледзь нечаму свайму, сваёй нябачнай радасці і ў самыя-самыя вочы зазірнула:

– А дзе падзенешся?

Аж скаланула!

## Прыгажосць

Зноўку і зноўку над галавою вісіць неба...

Калі пачаў лятаць у самалёце, прыліплы да ілюмінатара, дзівіўся: як хутка і лёгка раскрывалася неба! Як жа хутка і лёгка агалялася ўнізе зямля: квадрацікі дамоў, аблачыны, што камячкамі ваты праплывалі ўнізе, гнуткія рачулкі, квадраты лясоў, стужкі дарог...

І чым вышэй падымаўся самалёт, тым усё ўнізе станавілася больш спрошчаным, аголеным, зусім не таямнічым.

Дзівіўся: а дзе ж каляровасць неба, дзе прыгажосць незямная?

Хацелася зразумець, раскрыць загадку прыгажосці: і неба, і зямлі прыгожай. Ды як было зразумець і раскрыць прыгажосць?

Чым вышэй падымаўся самалёт, тым больш аддалялася загадка, знікала за перыстымі аблокамі. Вось і ўсё: паблісквалі халодныя зоры, і чарнеча слаілася пад імі.

Загадкаю прыгажосці мы аплецены, калі апранаем адзенне і хаваем цела. Калі ў мастацкім музеі глядзім на прыгажосць чалавека і сілімся спазнаць таямнічасць прыгажосці.

Аголенасць, нудызм – нецікавыя.

Прыгажосць бурыцца чалавекам, калі ён, свядома ці несвядома, пераходзіць мяжу прыгажосці.

У Сярэднявеччы ў Еўропе пакацілася павальная мода на жаночыя самазабойствы. Ледзь што – самазабойства...

Прыдумалі... Жанчын самазабойцаў распраналі дагала, клалі ў вазок і, аголеных, вазілі па горадзе...

Усё... Самазабойствы зніклі...

Магчыма, па гэтай жа прычыне па царкоўных канонах усіх самазабойцаў, і жанчын, і мужчын, не дазволена хаваць на агульных могілках – лічыцца смяротным грэхам...

Літаратары, мастакі, скульптары – усе творчыя людзі знаюць законы прыгажосці, ведаюць межы дазволенага і недазволенага, і талент кожнага, ад Рэмбранта да Купрына, праяўляецца ўва ўменні карыстацца дадзеным зверху талентам.

## РАЗДЗЕЛ II

### Улада

*I*

Ранішняе каляровае сонца, неба – нерукатворны цуд і на іх, як і на агонь, можна глядзець бясконца. Адчуваеш малітоўную сціпласць у бязмернай прыгажосці.

Але так адчуваеш сябе раніцай, а днём у людным горадзе, на рабоце святочнасць развейваецца, а то і знікае зусім, душа поўніцца клопатамі, машынамі, абавязкамі – нечым дробязным, пабытавым, без чаго не абысціся.

І тады ўзыход сонца, воблакі над галавою ды і сама зямля становяцца звыклымі, як звыклым стаецца ў лесе глыток паветра. Новыя пачуцці і жаданні становяцца важней за каляровыя аблокі, за птушак, што рыбамі снуюць над галавой.

Гэты дзіўны перакос мыслення, незаўважна і таямніча, праяўляецца ў пачуцці Улады, калі чалавеку думаецца, што ён уладарыць не толькі лёсам бліжніх, але і небам, птушкамі, дажджамі і туманамі, усёй зямлёю...

Маё, маё...

Чалавек у сквапнасці не ведае межаў.

Рабы, жывыя наложніцы, якіх клалі ў магілы Уладароў, золата, коней, тэракотавыя арміі – усё чалавек хоча забраць з сабою.

Кажуць, калі Ельцын стаў кіраўніком краіны, у кабінеце, раскінуўшы рукі над картай Расіі, ён выдыхнуў: "Маё"...

Магчыма, то чарговая народная байка, але яна перадае сутнасць таямнічасці Улады не толькі магутных імператараў, дыктатараў, фюрэраў усіх масцей, але і кожнага з нас.

Улада прапітвае нас з маленства, з першага глытка паветра. І гэтая Улада іншымі словамі называецца прагаю жыцця. Не начальства, не фюрэры, не палітыкі, а прага жыцця змушаюць нас шаптаць: мая жонка, мой муж, мае дзеці, мая кватэра, мая машына, мая пасада, мае грошы...

Пачуццё Улады аплятае нас ніткаю павуціння, яно складае Слодыч існавання.

Мы сарамліва хаваем яе ў душы, калі чарговы раз апладзіруем фюрэру, калі ён з трыбуны паблажліва махае нам рукою і дорыць аскалёпкі Улады: пасады, званні, грошы... Мы па-быдлячы апраўдваем сябе, што не мы

---

[1] Вобраз калектыўнага безаблічнага "мы" паказаны ў фантастычным рамане Яўгена Замяціна "Мы", які быў надрукаваны 100 гадоў таму.

калечым, сільнічаем у аўтазаках нявінных дзяўчынак і маладых хлопцаў, не мы, а яна, Улада, камандзірствуе намі, а “мы”[1] – нявінныя суддзі ў мантыях і паслухмяныя služкі яе.

У салодкім і грэшным павуцінні Улады, мы забываем пра ранішняе сонца, пра неба, пра росныя туманы над ціхімі рачулкамі.

І не ведаем, як вырвацца з гэтай павуціністасці, бо нават у каханні, у блізкіх інтымных пацалунках са здзіўленнем ловім сябе, што поўнага яднання не адбываецца, мы аддзелены адно ад аднаго таямнічым загадкавым “Маё”.

***II***

Таямнічасць Улады крыецца ў Сістэме.

Сістэма належыць не чалавеку, не Уладару дзяржавы, імперыі, арміі, Сістэма – больш магутная і загадкавая сіла, схаваная ў прыродзе чалавечай.

Мо і таму людзі гаварылі, дый і цяпер гавораць, што Улада даецца ад Бога. Магчыма, з гэтай жа прычыны Уладары: каралі, фюрэры, дыктатары, кіраўнікі мільённых армій, імкнучыся надаць сабе незямную сілу над людзьмі, аб’яўляюць сябе намеснікамі Бога, чапляюць на галовы кароны, садзяцца ў пазалочаныя крэслы, бяруць у рукі жэзлы, апранаюць мантыі, акружаюць сябе бранірваванымі лімузінамі, безліччу ахоўнікаў і прыслужнікаў.

Адкуль Улада сыходзіць?

Дзе карані яе жывучасці?

Чаму яна гэтак неабходная людзям?

Ёсць безліч тлумачэнняў Улады, яе законнасці і нават неабходнасці для чалавека, чалавецтва і цывілізацыі.

Слухаючы і чытаючы тлумачэнні, нельга адкаснуцца ад іхняй няпоўнасці; думаецца пра калектыўны розум, пра наасферу, пра цыклы сонечнай актыўнасці, пра пасіянарнасць, пра Боскасць... Урэшце змушаны пагадзіцца, што розумам нельга растлумачыць Уладу адным ці двума сказамі.

Як і нельга розумам растлумачыць жыццё.

Найбольш вобразнае параўнанне Сістэмы з Уладаю – саранча. Канечне, гэта грубае параўнанне, можна зрабіць іншыя параўнанні: пчол, шэршняў...

Як і саранча, Сістэма зменлівая ў часе, яна набывае новыя якасці, мяняючыся фізічна, Сістэма фарміруецца ў групы, арміі, дзяржавы.

Гэтак жа, як і ціхія конікі нечакана ператвараюцца ў крылатых пражэрлівых насякомых, гэтак жа цэлыя народы нечакана з міралюбівага насельніцтва ператвараюцца ў арганізаваную Сістэму. І вось, стаўшы на крыло, яны плывуць у паветры мангольскімі ордамі, шарэнгамі і сунуцца ад Міжземнамор’я да Індыйскага акіяна, сплятаючыся ў адзіны клубок, коцяцца ў бязмежныя прасторы Расіі.

І гэтак паўтараецца з веку ў век.

Міралюбівая, прыстойная, разумная Германія за некалькі гадоў таксама нечакана падымаецца на крыло і зацямняе Еўрапейскі кантынент...

Адкуль ні вазьміся паяўляюцца крыжастыя танкі, самалёты, грукацяць па асфальце абцасы шчаслівых у няведанні свайго будучага салдатаў. Паляцца разумныя кнігі, будуюцца крэматорыі. Уражанне, што дагэтуль у французскіх рэвалюцыянераў не было ні гільяцін, ні шыбеніц, ні судоў інквізіцыі, ні пальчатак са скуры чалавечай.

Што гэта? Калектыўнае вар'яцтва?

Выпраўляючыся на чарговую бойню, людзі радуюцца, спяваюць песні, пускаюцца ў скокі...

Сістэма пачынае дзейнічаць, і чалавек ператвараецца ў частку Сістэмы.

Запітваючыся структурамі Сістэмы, людзі мяняюцца эмацыянальна і духоўна.

Прыклады – уся цывілізацыя, ад паганскіх Багоў, ад Рымскіх кагорт да нашых дзён.

Структуры Сістэмы падобныя, як кроплі вады: жорсткасць да чалавека, канцлагеры і зэкі, шарэнгі салдатаў ва ўніформе, істэрычныя мітынгі і заклікі.

Структуры Сістэмы прапітваюць не толькі дзяржавы, партыі з іх аднадумствам, арміі, але і дзіцячыя калектывы – сваю будучыню...

Чалавек у Сістэме губляе сваю адметнасць, эмацыянальны свет абмяжоўваецца лозунгамі "Хайль", "Слава". Знікаюць культура, мастацтва, музыка[1].

Узнікаюць лозунгі: "Няма чалавека – і няма праблемы..."

Нават двухвекавы вопыт рэлігіі падпарадкоўваецца Сістэме – на спражках эсэсаўцаў было выбіта "З НАМІ БОГ".

### *III*

Сістэма, якой бы магутнай ні была і не ёсць сёння, сама сябе падточвае і паядае... Не можа не паядаць.

Чалавек сплецены не толькі законамі Сістэмы, але і безліччу неймаверных сілаў, памкненняў, пажаданняў, бачных і нябачных, Боскіх і не Боскіх.

Улетку 1921 года, у разгар грамадзянскай вайны ў Расіі, калі адбывалася псіхалагічная ломка хрысціянства, адбылося публічнае судзілішча святара, доктара-хірурга Война-Ясеніцкага. Судзілішча праводзіў чэкіст латыш Петэрс. Судзілішча было паказальным, і прысуды былі са смяротным зыходам.

– Як вы верыце ў Бога, прафесар Ясеніцкі-Война? Як гэта ноччу моліцеся, а днём людзей рэжаце?

– Я рэжу людзей для іх паратунку. А дзеля чаго рэжаце людзей вы?

Зала сустрэла ўдалы адказ смехам і апладысментамі. Усе сімпатыі былі на баку святара-хірурга. Яму апладзіравалі і рабочыя, і дактары.

– Як гэта вы верыце ў Бога, поп і прафесар Ясеніцкі-Война? Няўжо вы яго бачылі, свайго Бога?

– Бога я сапраўды не бачыў. Але я шмат аперыраваў на мозгу і, адкрываючы чарапную каробку, ніколі не бачыў таксама і розуму. І сумлення там таксама не знаходзіў[2].

Духоўны свет чалавека, свет нябачны і таямнічы, поўны загадак. І адна з іх – любоў...

І ў нас, беларусаў, паняцці любові і кахання розныя. Калі каханне

---

[1] "Парадак сусвету ёсць музычная гармонія ў вялікай шматвобразнасці праяў, прыведзеная ў сугучча сама з сабою, сабе сугучная" (Святы Грыгорый Ніўскі, праваслаўны багаслоў IV ст.).

[2] Архіепіскап Лука (Война-Ясеніцкі) прафесар хірургіі, аўтар класічнага падручніка па гнойнай хірургіі, лаўрэат дзяржаўнай прэміі першай ступені. Прайшоў шматгадовыя катаванні, турмы, ссылкі за Палярны круг. Цытаты, прыведзеныя тут, узятыя з аўтабіяграфіі "Я палюбіў пакуты".

асацыіруецца з чалавекам, з яго інтымнасцю, то любоў – паняцце ўсеабдымнае, шматмернае. Любоў пранізвае ўсё жывое, пад словам *любоў* людзі разумеюць і адчуваюць магутныя токі, што сыходзяць на іх з Космасу, з Зямлі як з суцэльнага жывога арганізма.

Сістэма непараўнальная з любоўю, з Розумам, на веліч якога ў апошні час спасылаюцца Уладары Сістэмы.

Спачуванне, сумленне, шкадоба, сум, радасць, жарты, парадаксальнасць – безліч пачуццяў поўніць чалавека радасцю і прыгажосцю. І гэты вечны ў сваёй прыгажосці свет змушае зразумець марнасць Уладароў Сістэмы скарыць чалавека.

Скарыць чалавека нельга. І не таму, што ён – Боскае стварэнне, а хоць бы і таму, што вышэй чалавека, вышэй ягонай таямнічасці і велічы няма нічога і нікога. Таму Уладары Сістэмы тут бяссільныя, ім толькі і застаецца – далучацца да вечна схаладнелых у пяску тэракотавых служкаў, якія каторае тысячагоддзе берагуць спакой часовых Уладароў Сістэмы.

## Муха

У хату невядома адкуль убілася муха. Дзвынькае і дзвынькае ў шыбіне. Праціўнік. Трэба прыбіць. Толькі падыдзеш – тут жа адлятае ў другі канец шыбіны.

Як ведае, што смертуха да яе набліжаецца.

Муха, бязмозгая муха...

Кажуць, што ў яе ёсць інстынкт. І гэты інстынкт камандзірствуе не толькі мухай, але і ўсім жывым на зямлі.

Але што ёсць інстынкт?

Чаму ўсё жывое баіцца смерці?

Што крыецца за ёю – небыццё ці прынцыпова іншае жыццё?

Разумны чалавек неяк мне прызнаўся, што не можа ўявіць бясконцасць.

Я таксама не магу ўявіць бясконцасць.

Як і не магу ўявіць многія з'явы і праявы жыцця.

Не магу ўявіць сваю – падкрэсліваю – асабіста сваю смерць...

Мяркую, што і многія людзі, і вернікі, і не вернікі, таксама не могуць уявіць гэтага зямнога, родзіча.

Мы бачым смерць іншага чалавека; на аснове смерці жыцця, на аснове розуму, мы бачым відавочную рэальнасць, але ж гэта не азначае, што разумеем і асэнсоўваем цалкам рэальнасць, якая нас акружае. Розум – толькі частка эмацыйнага бясконцага Сусвету, і немагчымасць розумам уявіць асабістую сувязь, уявіць пераход у іншае вымярэнне, нам не дадзена прынцыпова.

Магчыма, па гэтай прычыне людзі прыдумалі Бога, прыдумалі мноства Багоў, ад бяссілля зразумець і адчуць загадкавасць асабістай смерці, людзі прыдумалі халодны матэрыялізм...

Але ці можам усе праявы жыцця мы растлумачыць і адчуць?

Магчыма, як і муха ў шкло шыбіны, падчас смерці мы ўпіраемся ў штосьці прынцыпова іншае, незямное, вечнае, пра што многія вернікі і не вернікі разважаюць кожны па-свойму.

Але зноў жа: ці можам мы ўявіць сябе вечнымі?

## Катэгарызм

***I***

Падчас вучобы ў школе лічыў, што разумныя законы правяць людзьмі і прыродаю, і таму неяк адасоблена і зверху глядзеў на людзей, якія кіраваліся іншымі вераваннямі.

Я быў падобны да салдата-рэвалюцыянера, які з вінтоўкаю ў руцэ глядзеў на манастырскага служку і казаў сябру: "Які цёмны чалавек. Што ён разумее ў рэвалюцыі?"

Усяго дваццаць-трыццаць гадоў таму мы перажылі эпоху татальнага атэізму. З не меншай апантанасцю, чым у гады камунізму, народ кінуўся ў рэлігійнасць, – кожны ў сваю веру, канфесію: хрысціянства, мусульманства... На нашых вачах разгараюцца рэлігійныя войны. Складваецца ўражанне, нібы людзі забыліся, што рэлігія – любая рэлігія! – усяго толькі вера, і не больш.

Для многіх сёння рэлігія становіцца законам, гэткім жа, якім для мяне законам былі школьныя падручнікі.

Пасля масавага расчаравання ў рэлігійнасці як у адзіным паратунку ад шматлікіх бедаў жыцця – гэткага ж, якое наступіла ў рэвалюцыйныя гады, калі людзі патрабавалі "далоў сорам, далоў царкву, далоў рэлігію", як опіум для народа, – куды яшчэ накіруецца масавая свядомасць?

У разумнасць Штучнага інтэлекта, які праз чыны пачне кіраваць чалавецтвам?

У наасферу?

У мноства канфесій, каб зноўку, як і ў сярэднявеччы, раскалыхаць крыжовыя паходы, толькі цяпер большыя?

Не ведаю. Але прыхільнікі катэгарызму пытаюць: жывая ці мёртвая зямля?

Бог ёсць ці няма? А мо ты – паганец?

Чалавек ад Бога пайшоў ці ад малпы? А можа ён – ні тое, ні другое, а ўсяго толькі – праграма кампутарная? Электрон-часцінка ці хваля? Сказалі, што ён і часцінка, і хваля, дуалізм прыдумалі. Хоць уявіць гэты дуалізм нікому не ўдалося. Як і нікому не ўдалося ўявіць прыроду электрычнасці. Карыстаемся, а – чым?

***II***

Катэгарызм праяўляецца ў ацэнцы жыцця народаў, нацый.

Сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам нацыянальнага героя Каліноўскага... Чым яно закончылася?

...Граф Мураўёў адразу ж пасля тэлеграмы аб затрыманні банды камандзіраваў у Оршу генерала Канстанду з загадам не зацягваць суды. Да трох гадзін ночы паспелі дапытаць 200 чалавек. Сярод паўстанцаў былі браты К., якія збеглі ад паўстанцаў. Старэйшы з іх, прыгожы бландзін гадоў 23-х, ішоў цвёрдай упэўненай паходкай, спакойна разглядаючы натоўп. Малодшы, год 18, худзенькі, маленькі, з ледзь бачнымі вусікамі, быў, мабыць, моцна ўзбуджаны, ішоў дробнымі крокамі, апусціўшы галаву. Трэці паўстанец высокага росту, худы стары гадоў 60-ці, з доўгімі сівымі вусамі, ішоў горда, спакойна, блакітныя вочы глядзелі нават прыветліва.

Астатнія паўстанцы ўяўлялі сабою звычайны шэры натоўп мужыкоў, збітых, вартых жалю, замардаваных.

Паседжанне суда над паўстанцамі працягвалася з шасці раніцы да трох гадзін дня.

...Малодшы брат сцішана, запытальна паглядзеў на старэйшага, які спакойным голасам сказаў:

– Пан палкоўнік! Мы з братам прызнаём сваю віну ў здрадзе прысязе, абавязку службе і ўзброенным паўстанні супраць рускага ўрада. Больш мы нічога сказаць не можам.

– А вы, П...ій, – звярнуўся старшыня да старога, – ці прызнаеце сябе вінаватым ва ўзброенным паўстанні супраць рускага ўрада?

– Так, суддзя! – гучна і цвёрда сказаў П...ій, – я сапраўды схоплены са зброяй у руках, так! Я змагаўся супраць царскага ўрада, змагаўся за свабоду сваёй радзімы...

Сваю прамову ён закончыў словамі: “Я сваё зрабіў, а цяпер трэба, неабходна памерці. Але, панове суддзі, я маю да вас просьбу. Я ведаю, што мяне павінны павесіць... Прашу вас, не вешайце мяне, а расстраляйце. Я салдат. Будзьце літасцівы, вы самі вайсковыя і зразумееце.

Шчырыя словы старога зрабілі на ўсіх моцнае ўражанне.

Старшыня, параіўшыся з генералам Канстандам і членамі суда, сказаў:

– З-за поўнага прызнання ўсіх трох падсудных, улічваючы, што за іх злачынства маецца толькі адно пакаранне – смяротная кара, суд пастанавіў: братоў К. пазбавіць воінскага звання і ўсіх правоў і пакараць цераз павешанне. Двараніна П...скага па пазбаўленні ўсіх правоў пакараць смерцю цераз расстрэл.

Браты К. стаялі бледныя, нерухомыя Стары П... перахрысціўся, нізка пакланіўся суддзям, сказаў:

– Ды блаславі вас Бог... Дзякую вам, вельмі дзякую.

– Панове, – звярнуўся старшыня суда да абвінавачаных, – прысуд будзе прыведзены ў выкананне праз дзве гадзіны. Можа вы жадаеце перадаць вашу апошнюю волю, ваша апошняе жаданне? Я павінен усё зрабіць для вас. Можа, жадаеце пабачыцца з родзічамі? Да вас, браты К., прыйшла маці. Ці жадаеце яе бачыць?

Старэйшы з братоў сказаў:

– Не, мы бачыць яе не жадаем. Перадайце ёй, што мы яе не жадаем бачыць.

– Брат, Стась! Што ты гаворыш? Мы хутка памрэм. Як не жадаем?

– Не! – закрычаў старэйшы. – Яцэк, ты не ўбачыш маці!

– Ці маеце вы пажаданне, просьбу? – звярнуўся старшыня да П...скага.

– Не, – сказаў той, уздыхнуўшы. –Хоць я маю просьбу, але баюся, што яна пакажацца вам дзіўнай. Я шмат часу туляўся па лясах, балотах, скалеў, мала еў, а цяпер мне вельмі б хацелася выпіць чаю... Больш нічога не жадаю.

– Але вы чулі, што праз дзве гадзіны будзе прыведзены над вамі прысуд. Можа быць, вы хочаце ў чай таемна падкласці атруту і памерці раней прывядзення прысуда ў выкананне?

– Даю вам слова паляка, – сурова сказаў стары, – што я нічога падобнага не зраблю. Проста я жадаю чаю, будзьце добрыя, – мякка сказаў ён, – дайце мне чаю. Я яшчэ паспею яго выпіць.

Суд пастанавіў дазволіць абвінавачанаму даць чаю і той за дзве гадзіны

да смерці выпіў чатыры шклянкі чаю са смятанкаю, з булкамі, падзякаваў за пачастунак і весела, бадзёра пайшоў на кару.

Перад намі горкая праўда рэальнай трагедыі.

А цяпер задумаемся: што было рабіць царскаму ўраду, калі ў кожнай імперыі на ўскрайку палыхае, разгараецца бунт?

Канечне, гэты бунт трэба прыдушыць войскамі. І таму Каліноўскага трэба павесіць, як і гэтых аршанскіх паўстанцаў! Такая тупіковая сітуацыя не толькі ў ацэнцы дзейнасці Каліноўскага, але і ў ацэнцы гістарычных падзей, важнасці ці значнасці гістарычных асоб.

***III***

Мы ўсё ведаем...

Разумнасцю абмяжоўваецца жыццё, ёю, катэгарычнай разумнасцю, уводзяцца новыя межы і нормы.

Катэгарызм – хвароба веку, адсюль чэрствасць, колкасць, ганарлівасць.

"Скарыся, горды чалавек!" – усклікнуў Дастаеўскі пры адкрыцці помніка Пушкіну. Мяркуючы па войнах, чалавек і не думае пакарацца ні бліжняму, ні суддзі вышэйшаму...

Гістарычны вопыт змушае беларусаў зразумець, што жыццё ўладкавана не на катэгарычнасці, а на дрогкасці нашых уяўленняў, вераванняў, якія мяняюцца з часам.

Хрысціянства на Беларусь прыйшло праз адмаўленне паганства. Але паганскія святы, традыцыі, вобразы (каб цябе Пярун забіў!) бытуюць у народзе. Адсутнасць катэгарызму ў беларусаў многімі прымаецца за непісьменнасць, за бескультур'е, за знакамітую цемнату "дзярэўні"...

Фактычна ў сённяшнім жыцці вёскі – ды і ў горадзе таксама – існуе двухвер'е: паганства пераплеценае з хрысціянствам і каталіцызмам. Цераз святы, цераз блізкасць моў людзі паяднаны ў адзін клубок. Да дзевятнаццатага веку ў цэнтры Мінска высіўся дуб, да яго людзі прыходзілі з падарункамі, ён быў абгароджаны...

Гумар, анекдоты, жарты, смех здымаюць парадаксальнасць і катэгарычнасць. Без іх, гумару і жартаў, чалавек усыхае. Сур'ёзныя, катэгарычныя людзі – ці заўважалі? – сумныя і нецікавыя.

Не дарма палітыкі, людзі ва ўладзе баяцца жартаў, анекдотаў пра сябе. Ёсць павер'е: калі народ пачынае смяяцца з палітыка – гэта апошняя стадыя палітычнай кар'еры.

Гумар, жарты – неад'емная частка жыцця, гэткая ж, як і радасць, як сум, адчай.

"Калі б у жыцці не смяяўся, то павесіўся б..." – так сказаў Я. Брыль у вясёлай аповесці "Ніжнія Байдуны".

## Вера

З веры ўсё пачынаецца.

Мабыць, з тых далёкіх часоў, калі продак на сырой гліне зрабіў адбітак сваёй далоні, калі ён усвядоміў, што ён ёсць на Зямлі, мабыць, тады і з'явілася ў ім вера. А ўсё астатняе, пазнейшае: капішчы, драўляныя іда-

лы, валуны, якім продкі кланяліся, дубы магутныя, адкуль сілу чэрпалі, гульні і скокі ля агню свяшчэннага – гэта ўсё вера... Без веры чалавеку не абысціся, як і розум, як і сумленне, яна адна з базавых праяў жыцця, без якой ніяк нельга абысціся.

З веры з’явілася рэлігія. Рэлігіі – усяго толькі вераванні, вера... Спачатку ў славян была паганская вера, пазней – хрысціянская... Ва ўсіх народаў ёсць свае вераванні, цераз вераванні чалавек спрабуе зазірнуць за неадольную сцяну будучыні. Нават жорсткія, дзікія чалавечыя ахвярапрынашэнні Інкаў звязаныя з вераю.

У сённяшняга чалавека вера ў асноўным асацыюецца з Богам, з Хрыстом, з Бібліяй – вернуючы ці не...

Такое адназначнае тлумачэнне веры – павярхоўнае, хоць яно і закранае важнейшыя аспекты свецкага і рэлігійнага жыцця, якое сёння ўсё больш і больш пераплятаецца са свецкім.

Л.М. Талстой у 55 гадоў напісаў: “У чым мая вера”. Падчас напісання гэтага твора Талстой быў веруючы, верыў у Хрыста, у Нагорную пропаведзь. Напісаны твор быў настолькі востра скіраваны супраць дагматаў праваслаўнай царквы, што яго, веруючага Талстога, адлучылі ад царквы.

Святейшы Патрыярх Нікан быў абвінавачаны ў парушэннях канонаў праваслаўя, быў адлучаны ад Патрыяршага сану, сасланы ў пустэльную абіцель на 14 гадоў.

Джардана Бруна замахнуўся на царкоўнае тлумачэнне Сусвету, і за гэта яго спалілі, бо ён разбураў асновы царкоўнага ладу.

Жыццё цякучае і людзі ў часе выкарыстоўваюць веру, як, дарэчы, і рэлігію, у сваіх карысных мэтах.

Вера надае чалавеку моц і ўпэўненасць – гэта так, гэта, як кажуць, горкі факт. Але ж яе, веру, людзі скарыстоўваюць у сваіх мэтах. І часта, не ў добрых.

На зары хрысціянізацыі славянства полацкага князя Усяслава Чарадзея пасля крывавай бітвы на Нямізе, кіеўскія князі запрасілі на перамовы паблізу Оршы (Ршы ў Смаленску). Кіеўскія князі запэўнівалі Чарадзея ў міралюбівых намерах – крыж цалавалі... Чарадзей паверыў і... апынуўся ў порубе...

Давер ці недавер...

У нашы цывілізаваныя дні кіраўнік супердзяржавы публічна трос перад тэлекамерамі, перад міжнародным супольніцтвам колбачкаю з нейкім парашком, завяраў чалавецтва, што ў колбачцы – смерць жывая, якую вось-вось напусціць на чалавецтва тыран і зладзей усходняй дзяржавы. Чалавецтва паверыла.

Вынік – парашок знік. Знік без следу тыран і злодзей – павесілі, краіну разрабавалі...

Калі пачаў задаваць сабе пытанні – хто я і што я – адчуў адназначны, катэгарычны адказ-пасыл: “Ты ніколі не памрэш, ты будзеш вечны”.

То быў не рэлігійны пасыл, то быў эмацыйны пасыл веры.

Пра гэтае пачуццё цяжка расказаць, нікому не хваліўся, але ведаю, што невытлумачальнае пачуццё вечнасці свайго існавання – не выключнасці, а вечнасці – насіў многія і многія гады.

Мабыць гэтае пачуццё маюць звяры, птушкі, веруючыя – не ведаю, бо пазней, у юнацтве, калі ў аднагодкаў дапытваўся пра таямнічасць гэтага пачуцця, чуў розныя адказы, якія не суцяшалі, бо ў іх была нейкая размытасць.

Многія казалі пра Бога, пра рэлігійнасць.

Але наколькі такія адказы былі шчырымі?

Маё адчуванне веры – добра памятаю, не было паяднана з рэлігійнасцю, было адгароджана ад пачуццёвай рэлігійнасці.

Пазней, падчас вучобы, гэты эмацыйны пасыл знік, размыўся.

Чаму?

Там жа, на вясковай лаўцы: вера і катэгарызм паяднаныя сувяззю, суправаджаюць чалавека ўсё жыццё. Чым большая вера, тым большы катэгарызм.

І яшчэ, пакуль не забыў: блудлівасць розуму і дрогкая вера не ведаюць межаў...

## Голем

Быў хворы, і мне праснілася...

Штосьці падобнае да труны. Прыгледзеўся – то была не труна і нават не саркафаг егіпецкі, а аграмаднейшы каўчэг, у які па адной пары зямных стварэнняў пасялілі і які ў воды акіянскія адпусцілі.

Але ніякіх стварэнняў у каўчэгу не бачыў. Бачыў твар белы: шчыльна самкнутыя вусны, белыя нябожчыцкія шчокі, нос прадаўгаваты і яшчэ – заплюшчаныя вочы. Ён быў нерухомы пада мною ўнізе, у аграмадным доўгім каўчэгу. Здавалася, ён спаў. А так і было: ён спаў...

Чыстая празрыстая вада залівала каўчэг, спадыспаду зацякала і тонкім слоем залівала твар, усё бясконцае і даўжэзнае: белую шыю, доўгія скрыжаваныя на аголеных грудзях рукі, жывот, ногі...

Перада мною быў не чалавек, а хтосьці, з кім ніколі не сутыкаўся. Мо то была істота, пра якую пісаў у дзённіку Чэхаў: незямная, касмічная, яна ўяўляла зуб у целе веліканa...

Ні здзіўлення, ні жаху не было.

Не спытаў, адкуль цякла вада, што залівала спакойны твар.

Не спытаў, хто стварыў істоту: людзі, машыны, ці хтосьці іншы...

Мабыць, трызніў, і таму ўсё пераплялося ў свядомасці. Нейкім мазком мільганулі некалі ўражвальныя малюнкі Гойі – пачварыстыя стварэнні аплюталі мастака...

І тут жа, побач, узнік дзень сённяшні: мітынгі, закратаваныя, тупалобыя, як танкі, аўтазакі, якія наязджалі на дзяўчат і хлопцаў, фігуркі людзей у чорных камуфляжыстых касцюмах...

І ўсё гэта, мініяцюрнае, ліліпуцістае аплятала, душыла і крышыла бязмернае цела.

Цела крывавіла, – знізу, ад ног, ад жывата вада ружавела...

Але твар мармурова-чысты заставаўся спакойны і прыгожы, толькі заплюшчаныя вочы трывожылі: што ж пачне рабіць нечалавечая істота, калі хлыне з каўчэга вада і ва ўсёй велічы яна падымецца нада мною?

## Радасць

Таямнічы свет маленства, загадкавы і невытлумачальны, цікавей за сённяшнія галівудскія сюжэты фільмаў і кніг.

Ты яшчэ нічога не ведаеш. Навакольны свет упітваеш са словам маці, бацькі, прагна, як ваду крынічную, ловіш токі радасці ад цяпла сонца, ад

каламутных лужын, па якіх салодка тэпаць, ад аблокаў, пад якімі кружляе бусел, ад лапавухага мяккага шчанюка, які тыпаецца ў далоньку халоднай пысаю.

Радасць быцця пранізвае да астатку, ты – уладар цэлага сусвету, у якім так проста памерці – заплюшчыць вачаняты, і тады людзі, якія толькі-толькі крыўдзілі, пачнуць плакаць над табою, такім прыгожанькім, нерухомым, нават галасіць будуць. "Ай-яй-яй", – вось гэтак яны пачнуць галасіць. Як жа мы крыўдзілі яго, ён жа такі добранькі быў.

І тут жа, па сваім жаданні, ты можаш уваскрэснуць з халоднага небыцця і, адплюшчыўшы вочкі, крыкнуць: "Я – тут, я – жывы!.." І, поўны радасці, можаш несціся да сябрукоў.

Ужо дарослы, збіраючы матэрыял да кнігі, наткнуўся на фотаздымак чалавека з далёкага афрыканскага кантынента. Цывілізацыяй ад яго і не пахла... Амаль цалкам аголены, на поясе нейкае лісце матлялася, у руках дзіда, у шырокім пляскатым носе вялікае белае кальцо, амаль гэткае ж, якое чапляюць у насы маладзенькія дзяўчаткі, на шыі – вялікія белыя каралі, мо то былі зубы кракадзіла ці тыгра...

Але ж які ён быў шчаслівы, той невядомы далёкі афрыканец!

І няўжо сённяшняя цывілізацыя гэтак уладкавана, каб чыпамі загубіць у чалавеку радасць быцця?..

Дар’я Ліс



...Каханне
Жыве
Ў маёй
Галаве
AVE...

# Тваё неба з табой

* * *

яна хацела мець сэлфі
на фоне рэвалюцыі.
баялася не паспець,
не дагнаць,
тармазнуць,
але рэвалюцыя
крыху расцягнулася
па восені
да зімы.
бчб-шалікамі,
сцягамі са старых шафаў,
не паетымі шашалем.

* * *

Гэтыя хлопчыкі – дзеці цемры,
грахі неадмоленыя
сваіх дзядоў.
Павернешся спінай –
памрэш першым.
Ты слабак.
І твой сцяг – адстой.
Чужыя? Свае...
Хочаш спэўніць?
Ідзі.
Тваё неба з табой.

* * *

Нашых на вуліцах мала –
Нашы па хатах offline.
Флэшбэкі з мінулага –
Марная справа.
Па горадзе ходзіць чума.

* * *

З нуды ў адчай
Перапаўзаеш.
Марнуеш дні,
Не спіш начамі.
Ні кніг,
Ні дарог –
Маўчанне.

* * *

Я застываю ў зіме,
У снежна-ледзяным адчаі
Усё, што кажаш ты, – не мне!
Не мне і вершы прысвячаеш...
А я застыла ў зіме
У віне абвергнутых
Пачуццяў.
Без веры ў лета,
Сонца,
Келіх з белым – мне!

На сталe
Знікаю ў зуме,
Працы,
Без любові.
Гігабайтамі адчаю

* * *

Каханне быццам паветра
За тысячы кіламетраў
Ты адчуваеш мяне
Каханне
Жыве
Ў маёй
Галаве
AVE

Леанід Дранько-Майсюк



...моцны ў слове і рамястве,

тынкоўшчык ужо дзесяць гадоў, як не п'е...

# Тынкоўшчык Талаш

***Апавяданне***

## 1.

Яму за сорак, і ён яшчэ прамуе на кірмаш, таму не бянтэжыцца, не згінаецца, мае сваю сцежку, у сварку не вяжацца, а галоўнае – лішнім сябе не адчувае, бо навакольнаму жыхарству заўсёды патрэбны, і ўсё гэтае жыхарства падзяляе на людзей і дармаедаў.

Сляды былых выпівак на ягоным слюдзяным абліччы непрыкметныя, і чалавек ён ахайны, усё ў яго даву-ранду, як у таго правізара, аднак жа не аптэчны ён працаўнік, а рамесны – ён тынкоўшчык, які нарасхват, якога наўзахапкі бяруць рамантаваць і хаты, і кватэры, і катэджы, і з гэтай прычыны ён заняты не толькі ў будныя дні, а часцяком і ў суботу, а то і ў нядзелю.

Спраўны майстар!

Любую крывую сцяну давядзе да скутку, не спаску-дзіць, і, як той істэрычнай раманнай істоце, яму не бывае

нудна, бо не верыць уяўленню, а толькі сапраўднасці – пільнуецца таго, што можа ўбачыць і памацаць.

Не падманвае, але і яго не ашукаеш, бо шмат што ў галаве мае; работа ў ягоных руках не скрыпае – ладзіцца, на яць выходзіць; кожны ход самавіты – і калі грунтуе, і калі назаўтра тынкуе, і на трэці дзень, калі шпаклюе тою ж гіпсавай шпаклёўкай.

Дыхае асалодай, пачынае ціхенька спяваць-мармытаць, калі даходзіць да фінішнай палімернай шпаклёўкі, і ў мармытанні ягоным часам і два-тры выразныя словы пачуюцца – ну, там нешта раптам такое, зусім колішняе: тынкаваць – не жыта веяць...

Гэта ў яго ад бацькоў і ад дзеда з бабаю...

Ад іх і тое, што багата ўмее, ні ад чаго не адкідваецца – як той плуг у разоры, зазвычай падымае і лішняе, што ўзнікае, нібы з неба падае, пра што і ўгавору ў першы дзень з гаспадарамі не было.

Трэба збіць старую плітку і пакласці новую, тую ж керамінаўскую – збівае і кладзе; трэба прадзяўбці штрабу на даўжэйшы электрапровад – дзяўбе; трэ ўсталяваць на разеткі мантажныя каробкі – усталёўвае.

І не маўчыць, гаворыць – і пра тое, што некалі ў дзяцінстве з вуснаў бацькі-маці і дзеда-бабы чуў, і пра тое, што сёння бачыць.

Талент мае апавядальніка, таму ў яго казках і напрыдумлянага багата.

Ніхто не просіць, а ён можа расказаць пра нейкага старасвецкага дзедавага прыяцеля, які вельмі бедны быў; меў толькі дзве цыбуліны ў кішэні і сабаку ў будцы, але ў нейкі дзень усё прапала – цыбулю сам з’еў, а сабаку ўкралі.

Любіць сказануць і аб тым, што сёння надта ж разбэшчваюць дзяцей, бо не аддаюць у цяжкую патрэбную работу; колішнія дзеці ў бойцы масла збівалі, а сённяшнія збіваюць ваду, бо займаюцца праектамі, а не занятыя справай.

Гаворыць доўга, з усімі дакладнасцямі, нібыта хоча даказаць сваё, і гаворкі ягонай часам у кош не забраць.

Калі ж гаспадары пытаюцца, што тут за чым ідзе ў рамястве яго, то, не выпускаючы з рукі шпатэль, дае паясненні і пра тое, і пра гэтае, і пра тынковачны гіпс, і пра бетонакантакт...

Пчала разбіраецца ў кветках, – ён у бясколернай грунтоўцы, плітачным клеі, усялякіх шпаклёўках і тынкоўках – цэментавай, гіпсавай, а калі хто пры ім завядзе гаворку пра дэкаратыўную тынкоўку, то, не злазячы з драбін, раскажа і пра яе, – маўляў, яна іншы раз блішчыць, як фірнавы снег.

А яшчэ можа параіць, у якой фірме заказаць недарагі, але якасны гарнітур кухоннай мэблі – усё тыя ж паліцы і стол, шафы і шафкі; мае заўсёды на прыкмеце і талковага слесара, які здатны хутка, не валаводзячы, памяняць ржавыя трубы на прапіленавыя; ведае, у якім ждановіцкім закутку выгадней набыць украінскія, лепшыя за нашы, вінілавыя шпалеры...

Калі змаўкае, то зноў жа як і не маўчыць, і ў маўчанні, здаецца, уголас натужна прамаўляе: “Ёсць, ёсць яна, мая праўда, але мая праўда ці патрэбна каму, як і мне ці патрэбна чужая праўда?!”

А яшчэ можна ўгадаць у тым нядоўгім маўчанні, у незадаволеных рухах (бывае зрэдку і незадаволеным): “Не, не трэба добрае перарабляць на лепшае, бо з той пераробкі можа выйсці горшае...”

Ён крыху надаражаецца, крыху набівае сабе цану; у Менску і за Менскам

раўняе людскія сцены, як той казаў, да абуха; цвікі, як трэба іх забіваць, забівае па самую плешку.

Людзям гатовы паспрыяць, дапамагчы, толькі вось да начальнікаў (у іхнія палацы) ані нагой, ні за якія грошы – адгрэбаецца ад такіх асобін адразу ж, як толькі ўнюхвае, што рабіць давядзецца ў іх...

Такая яна, моц хатняй сямейнай навукі: будзь з людзьмі, а не з дармаедамі!

## 2.

Іншы раз, адчуўшы крывое няшчырае спачуванне: "...вам і адпачыць няма калі...", – крывога спачувальніка абсякае:

– У трупярні адпачну...

Трэба сказаць, што з абсяканнем такім не марудзіць, сваё "я" паказвае тут жа, адно ступіўшы з тынкавальным прыладдзем і з дарожным плецаком-заплечнікам на заказчыкаў парог...

І карціна тут зазвычай складаецца такая – першы раз убачыўшы тынкоўшчыка, гаспадар злёгку запабягае перад ім, удае з сябе ветлівага чалавека, як яно й бывае звычайна пры знаёмстве з майстрам, знойдзеным праз інтэрнэт; дык вось, гаспадар ласкава падае жаданаму госцю пантоплі, а госць, суха паздароўкаўшыся і амаль грэбліва зірнуўшы на пантоплі (а няхай сабе і новыя, зусім няношаныя!), выцягвае з плецака вязаныя, падобныя на грубыя шкарпэткі, стаптаныя тэпці.

– У чужых тапках няма гігіены! – тлумачыць як па пісаным.

Бывае (у абед самы) яму наліваюць талерку супу і клічуць за кухонны стол, а ён зноў козуба ставіць:

– У мяне ўсё з сабой!

І з таго ж плецака вымае на здзіўленне гаспадарам салдацкую пагнутую кварту з пакецікам гарбаты і долькай лімона на алавяным дне.

– Дайце гатаванай вады! – загадвае.

З кухні прыносяць кіпень, а тынкоўшчык не верыць:

– Так хутка ўскіпяцілі?!

– Электрачайнік секунду як выключыўся!

– Тады запарвайце! – велікадушна дазваляе і дастае закрытую пластмасавую пушку, у якой жаўцее прасяная каша на каўбасным духу.

– Разагрэйце... Э-э, не... Накрыўку не здымайце...

– Дык разаграваць жа трэба ў адкрытым посудзе!

– А гігіена?!

– Добра, тады мо хлеба?

– У мяне ўсё з сабой! – з бяздоннага заплечніка тынкоўшчык імгненна, усё адно як штукар які, выкалупвае лусту "Нарачанскага".

– А мо цукру да гарбаты?

– Не люблю...

Дык вось, у першы дзень там, куды яго паклікалі на работу, прыблізна і адбываецца ўсё такое, вышэй намаляванае, і з такой гаворкай.

І там жа ва ўсе астатнія дні запаслівы тынкоўшчык, скажам, палудную, седзячы пасярод рамонту на падлозе, па-татарску скрыжаваўшы падкурчаныя ногі, і тады можна лепей убачыць, што ягоныя вязаныя тапкі – адзін на пяце, другі каля вялікага пальца, – зацыраваны чырвонымі ніткамі.

Калі ж увечары збіраецца дадому, перад адыходам старанна мые свае тынкавальныя прылады, шчыра іх мые, быццам яны – далікатны хірургічны інструмент.

Моцны ў слове і рамястве, тынкоўшчык ужо дзесяць гадоў, як не п’е.

## 3.

Гадаваўся ў Шэйпічах у сваіх бацькоў, цесляра і краўчыхі, людзей сціплых і крыху кранутых ад усведамлення, што свет навокал такі дзіўны, не зусім нармальны, і кожны ў гэтым свеце мае свае мухі.

У Бога моцна не верылі, проста баяліся яго, у царкву не хадзілі, але Святое пісанне чыталі.

Здатныя не толькі да цяслярства і кравецтва, здатныя і на думанне, бацькі ягоныя засвоілі ад сваіх бацькоў тое галоўнае, неабходнае, што выказаць можна хіба што ў гэткіх словах – гаварыць умеюць амаль усе, а рабіць мала хто.

Здружаныя з такой зрэбнай праўдай, паціху і жылі, пільнуючыся засвоенага, таму гаварылі мала, рабілі багата, не здзіўляліся мноству зор на небе, але недаўменна пацiскалі плячыма: навошта столькі кніжак на зямлі?!

Хапіла б адной, думалі, той жа Бібліі, ды хіба што любай аповесці Якуба Коласа “Дрыгва”, якая пра дзеда Талаша і якая з дзяцінства патрапіла ў іхнюю душу і засталася там, і так падмацавала кроў, што нават яго, сына свайго адзінага, найменавалі Талашом.

Дык вось, ён, Талаш, ці Талік, як ласкава яго іншы раз клікалі, ад родных сваіх далёка не адышоў, пераняў усе іх вухваткі; бацькі ж песцілі яго, дбалі пра яго, шукалі і знаходзілі, дзе і як зарабіць, каб і хадзіў ён часцей у новым, і еў часцей смачнае...

Тое, пра што можна крычаць у хаце, меркавалі, нельга крычаць на ганку, і маленькаму Талашу падабалася, што яны жылі так, каб іх не чулі суседзі; запамінаў, калі настаўлялі: з добрым хочацца быць добрым, але часта добраму, акрамя добрага слова, нічога даць не можаш.

Сын слухаўся.

“А што большага трэба, калі сын слухаецца? – шчасліва пыталіся ў думках цясляр і краўчыха. – Нічога. А раз так, то й драч не трэба!”

“Хай цябе людзі хваляць і толькі зрэдку, калі вінаваты, хай на цябе й насварацца!” – гаварылі сыну, і ён яшчэ змалку ўцяміў, што жыццё плыве то ў хвальбе, то ў ганьбе, роўнага нічога няма; ты не заслужыў пахвальбы, а ўсё адно добра, калі цябе хваляць, і нядобра, калі ганяць, хоць ты й вінаваты...

А яшчэ настаўлялі і ў самым галоўным: будзь з людзьмі, а не з дармаедамі...

Тут крыўда сямейная, даўняя катлавала: Талашова баба, бацькава маці, таксама краўчыха, шыла дома, а пры Хрушчове спакойна шыць дома не давалі, пхалі ў патэнтаву яму.

“На дармаедаў гнуцца ў крук не буду!” – нервавалася баба, аднак гнуцца трэ было не на іх, дармаедаў, а на людзей, каб мець капейку, бо аднаго заробку дзедавага (дзед сталяркай займаўся) на жыццё бракавала, таму іхні маленькі сын, будучы Талашоў бацька, часта і зусім невыпадкова стаяў у гародчыку ля плота і пільнаваў.

Як толькі ў канцы вуліцы з’яўляўся чужы дзядзька ў капелюшы і з

начальніцкай папкай у руцэ (падатковы інспектар, а хто ж яшчэ?!), ці бліскаў кукардаю міліцыянт, – хлопчык падаваў знак, і тады Талашоў дзед тут жа тарабаніў з хаты швейную машыну, загорнутую ў радно, а баба ўслед несла ў адным мяшку пашытае, а ў другім недашытае, і ўсё гэта хавалі за адрынаю; там, у малінніку і крапіве, была схованка.

Баба звычайна садзілася за шытво, калі дзед быў дома...

Але аднаго няўдалага разу іх злапалі, – мусіць жа, нехта з суседзяў даказаў; падатковы з міліцыянтам, а да іх прыляпіўся яшчэ і пажарны правяральшчык, у двор улезлі не з вуліцы, а з боку адрыны, таму Талашоў бацька і не паспеў падаць у хату знак.

Быў суд, на якім дзеда й бабу як цэхавікоў прысудзілі да вялікага штрафу; судовая сакратарка шапнула: “Каб судзілі ў Маскве, маглі б і пасадзіць, а так вам пашанцавала...”

Дзякуй.

Адпусцілі.

Пракурор, трэба сказаць, тварынай кідаўся, і суддзя з начальнікам міліцыі вышчэрваліся.

І на каго вышчэрваліся?

На людзей, якія ніколі сваё смецце на чужы сметнік не выносілі...

## 4.

Талаш, калі вылюднеў і ўзмацнеў, то – шкадуючы бацькоў, жадаючы іх падтрымаць – напрамічыўся вучыцца на тынкоўшчыка.

У яго быў старэйшы сябар, які за чаркай неяк дыхнуў:

– Талік, тынкоўшчыкі добра маюць...

Нястрыманы і пітушчы, няскладны, як мядзведзь, і схільны да меланхоліі, сябар гэты аніяк не хаваў сваю прыроджаную злосць, на сварку заводзіўся нават з самых малых абаротаў.

Такіх у жыцці часта ссаджваюць, і яго ссадзілі таксама – доўга не думаючы, выкінулі з другога курса матэматычнага факультэта...

Жыў адзін, дыхаў пакінутасцю, жонка ад яго перабегла да нейкага адваката – не, не таму, што бедная фэйсбучніца намучылася з ім, няўдалым матэматыкам, а таму што выйшла з пароды тых сённяшніх фітнэс-маладзіц, якія ні да калыскі, ні да печы, якіх і куры не здзяўбуць, і качкі не стопчуць; завадовай гультайкай была, а такім заўсёды шанцуе; штодня змяшчала ў фэйсбуку з дзясятак сваіх здымкаў і пісала пра ўсё, не саромелася, нават калі збіралася ў прыбіральню, то так і паведамляла ўсяму свету: іду ў прыбіральню...

Дык вось, няўклюдны матэматык сагрэў навіной: тынкоўшчыкі добра маюць...

Добра маюць яны ці не – хто ведае, але ён паверыў, бо таму, каго лічыў блізкім, верыў адразу, а раз так, то пайшоў пасля школы і навучыўся патрэбнаму рамяству, а пасля войска давучыўся і пачаў зарабляць, але ад матэматыка пераняў і непатрэбную навуку – стаў заглядаць у бутэльку, слізгануў па ямістай дарозе, на якой затоб не прапаў.

Якраз тады з’явілася ў яго дзяўчына з Курасоўшчыны – слабая на здароўе, але дбайная душа; кажучы зусім па-старому: і ткалля, і пралля, бо ніколі не сядзела, склаўшы рукі, усё нешта рабіла, а найперш – займалася дома цырульніцтвам, з гэтага й жыла.

Яны сышліся па сэрцу, пакахаліся, і ён завітваў да яе звычайна ў нядзелю, прыхапіўшы ў хрусткую гастраномную торбу калі што – ці кансервавую бляшанку тунца, хлеб і пляшку таннай гарэлкі, ці якую каўбасіну з батонам і ўсё тую ж запаветную пляшку.

Слаўная дзяўчына мыла яму галаву, прычэсвала па модзе, далікатным шэйверам згольвала на твары кожны валасок; яны соладка гаманілі аб сваім, жыццёвым, бачным, вобразным – ну там, яблыкі добра есці, але цяжка збіраць; бесклапотна смяяліся, а тады, шчаслівыя, клаліся ў пасцель – не думалі аб тым, што ў асалоды кароткія крылы.

Апынуўшыся на крайняй мяжы пяшчоты, ён казаў:

– У свеце ёсць толькі адно месца, у якім я ведаю, дзе што знаходзіцца...

– І што ж гэта за месца? – пыталася яна.

– Уся ты...

Такія словы напаўнялі жаночую душу яснатой.

Пасля ўцехі садзіліся за стол.

Каб тынкоўшчык не пакрыўдзіўся, цырульніца таксама выпівала, але зусім крыху, малую кроплю; што тут скажаш – цырульніца жаўцела ад невылечнай хваробы; ён жа даціскаў заўсёды ўсю пляшку да дна і заядаў тунцом...

Надта і не думаў, што за немач да яе прыстала...

Так ён і жыў да пары, глыбока дыхаў, радаваўся маладосці, а тады і большым сваім гадам, майстэрства спазнаваў усё глыбей, таму капейка звінела, бегла ў кішэню, і ён увіхаўся ля чужых сцен то адзін, а то і з ім, старэйшым змрочным сябрам.

Калі рабілі разам, то не было таго вечара, каб не цягнуліся да бутэлькі, а з пятніцы на суботу наогул набіраліся да густога туману ў галаве – у нядзелю ж з выпадковымі якімі варэнікамі і ўсё той жа неадчэпнай паўлітрай прачыняў дзверы да сваёй паслухмянай каханай.

Жыццё ж тым часам неяк само па сабе паварочвалася нядобрым бокам, тынкоўшчык Талаш ці не пачынаў ужо співаццa, гарэлачным духам прапах больш, чым будаўнічай вапнай, і цырульніца ад неадольнай хваробы зусім зблажэла.

У рэдкую пару сваёй цвярозасці (дзякаваць Богу, бывалі й такія дні) ён пачынаў клапаціцца пра яе, вадзіў па прыватных лекарскіх цэнтрах, не шкадаваў на лячэнне грошы, аднак усё марна.

З іхняга яшчэ ўчора хуткага і яшчэ ўчора шчаслівага кола адна за адной, сумна бліскаючы, пачалі выпадаць спіцы.

А тут яшчэ й матэматык хецу ўчыніў, коніка выкінуў...

Аднаго разу, калі тынкоўшчык закашляўся і адмовіўся піць, бо не пайшло, ці праўдзівей – пайшло, але не ў тое горла, вочы ў матэматыка ярка ўспыхнулі ад злосці, нават пасыпаліся з вачэй вар’яцкія іскры.

– Ты не Талік, а дзед Талаш! Дабро табе вярну ў квадраце, а гаўно ў кубе!

Што да чаго тут сказалася-крыкнулася занадта пітушчым сябрам, якой хітрасцю словы наточаны былі – хто там разбярэ?!

З год ужо былы матэматык узяў сабе ваньку гаварыць абы-што.

Праз дзень-два тынкоўшчык даведаўся, што старэйшага сябра ўладзілі ў Навінкі, у псіхіятрычны шпіталь, бо ад алкаголю ў яго развіўся псіхоз; матэматык вельмі напалохаў сваіх суседзяў, якія і пазванілі куды трэба.

Чым напалохаў?

А здаецца й нічым – проста стаяў ля свайго пад'езда, раскусаўшы да крыві губы, і няспынна тоўк вакол сябе пустое паветра кулакамі – з некім нябачным цэлую гадзіну зацята біўся.

Бацька й маці, уражаныя пачутым, угаварылі свайго адзінага Таліка легчы адпачыць-палячыцца ў санаторыі, і ён згадзіўся, бо адцурацца ад іх, ад іхняга страху за яго – не мог...

Не хацеў, каб усё, як у таго няшчаснага матэматыка, пайшло прахам, а яно ж тым часам паказвала на тое – і ягоны стрыжань амаль сапрэў на парахню.

Бедная цырульніца даведалася, дзе ён, пазваніла ў санаторый, сказала ясна і проста, без хітрыкаў, што хутка памрэ, што рак узяў яе назусім, і папрасіла яго кінуць піць.

І ён паслухаўся, кінуў...

На яе пахаванне хацеў паехаць, але не паехаў, баяўся аднаго – на памінках не ўтрымаецца ад спакусы, пацягнецца да чаркі і вып'е.

Аднак жа на Паўночныя могілкі, дзе пахавалі цырульніцу, выбіраецца двойчы на год – у дзень, калі яна адышла, і ў дзень, калі нарадзілася.

І хай сабе на гэтыя дні прыпадае а хоць якая пільная работа, нават за большыя, чым звычайна, грошы – не, не йдзе рабіць, апранаецца ва ўсё чыстае, святочнае, купляе дарагія кветкі і едзе, наймацней адчуўшы адзіноту, на Паўночныя.

**5.**

Вечна заняты, схільны думаць: тое, што ёсць, тое і добра; заўсёды шчыры ў гароўлі – тынкоўшчык Талаш змяніўся за гэтыя гады, ягоная кроў пасталела, а яго слюдзяныя вочы пацямнелі.

З нейкага часу пачаў менш думаць аб тым, што было, больш пачаў верыць таму, што будзе; яго зачаравалі новыя тэхнічныя прыдумкі, і ён, можна сказаць, ап'янеў ад таго ж фэйсбука – адчуў сябе сапраўдным пісьменнікам, змяшчаючы ў фэйсбуку запісы пра сваю работу.

Аднаго дня з Плэй Маркету спампаваў “Лічыльнік чыстага часу” і цяпер можа любавацца лічбамі, якія асабліва цешаць.

Прайшло ўжо й прыкметнае свята – нагадаўшы, што ён не п'е з 19 траўня 2008 года, лічыльнік павіншаваў тынкоўшчыка з дзясятымі ўгодкамі цвярозасці, а ў нейкую нядаўнюю хвіліну разумны лічыльнік напомніў, што Талаш цвярозы ўжо 4299 дзён, 103188 гадзін, 6191288 хвілін і 371477000 секунд...

У тынкоўшчыка Талаша ніхто ніколі не пытаўся, чаму ён не жэніцца, аднак (майстар прадчувае!) могуць спытацца, ну, хоць бы маці з бацькам, дай Божа, ім здароўя, таму адказ мае такі:

– Мая жонка цырульніца!

“Дык ты ж, Талік, не паспеў ажаніцца з ёю?!” – могуць здзівіцца бацькі.

Прадчуваючы такое здзіўленне, ён мае і другі адказ:

– А я ажаніўся з яе клопатам пра мяне, з яе просьбай: не пі!

*6 сакавіка 2021 г., субота, 17 г. 51 хв.; Менск;*
*13 сакавіка 2021 г., субота, 23 г. 07 хв.; Менск;*
*7 траўня 2021 г., пятніца, 15 г. 30 хв.; Менск.*

Кацярына Янчэўская



...Мы – шлях
да шчырага дыхання
дабрыні...

# Падзенне не прыходзіць з лістападам

## *СЛЯДЫ*

Почырк верасня:
яблыкі падаюць на зямлю,
прыслухоўваюцца
да слядоў чалавека.

Зямля спачувае:
чалавек на ўскрайку радзімы.
Ці хутка маленства ператвараецца ў сталасць?
Сляды набліжэння і адыходу.
Роднасць.

## *ПЯШЧОТА*

Восеньскі смутак спрачаецца з колерам:
дрэвы адважваюцца святкаваць?

Жоўтай пяшчотай насычаны водар,
спадзявання блакіт
шчымліва гучыць праз зямлю...
Лістота шуміць, абдымаючы бездань,
дзе так выпадкова з'явіліся мы.

* * *

Запальваю свечку,
каля імгнення,
што знікне ў нябыт.
Каля вятроў, што з'едліва шэпчуць:
“Пакінь!”
Скрыжаванне надзеі і суму.
Спрабую стаць цёплым зіхценнем –
суцішыць наканаванне сцюжы.
Ледзяшы раўнадушша
загортваю ў воск
памкнення:
здабыць
смеласць
свечкі
у змроку халодных вятроў.
У раўнадушшы халоднай хлусні –
скрыжаванне стагоддзяў.
Запальваю свечку...

* * *

Яшчэ некалькі цёплых дзён,
калі фарбы жывуць у паветры
прасветленым восеньскім зрокам,
калі час абдымае лістотай сустрэч
адзінокае сэрца каштана
і валун пры дарозе.

### ***ПАДЗЕННЕ***

Паміж апалым восеньскім лістом
і чалавекам –
толькі крок насустрач.
Падзенне ў верагоднасць слоў
і вераломнасць?

Зняволены асенні ліст –
у маіх руках?
Не, гэта ён мяне трымае
на прыступках
трываласці.
Падзенне
не прыходзіць з лістападам.

### *СУВЯЗЬ*

Апусташальнае насланнё:
усе дні, якія не пагадзіліся
быць чорна-з’едлівымі,
чорна-зласлівымі,
чорна-здрадлівымі –
апынуліся за кратамі.
Затрыманыя, яны пішуць лісты.
Не губляюць сувязь з чалавекам...

* * *

Не стамляецца
бачыць
неба –
стогадовы клён.
Як святыню
засцерагае
родныя галасы.
Ліхалецці
змяняе
малітвамі –
на руінах тугі.
Тут знаходзіць
свае карані –
споведзь...
На руках стогадовага дрэва
засынаюць
мае шляхі...
Клён-пілігрым.

* * *

Чорныя дзіры ў сусвеце разгубленых сэрцаў.
Гарызонт спадзяванняў – паміж попелам і Ўваскрасеннем.

Замест чыстай вады – атрута.
Акіян не жадае быць Ціхім.
Ён крычыць пра гаротных, пакінутых у цемры!
Атручаных здрадай і глупствам!
Маўклівыя чорныя дзіры – даследчыцы злога сумлення –
назіраюць, як восень глытае спакусы.
Месцазнаходжанне сэрца?
...Белы анёл чытае Псалтыр як прадмову Айчыны –
чорныя дзіры змяняе свабодай руху...

## ***ВЕРБНАЯ НЯДЗЕЛЯ***

Перашэптванне.
Перазвон.
Тут цымбалы.
Тут флейта.
У свіцязянскай ратондзе -
святло П'ера дэла Францэска.
Фінікавая галінка
побач з беларускай вярбой.
У ратондзе царквы-
пшанічнае зерне
спявае
з Табой.

* * *

Мы трапілі ў слоўнік новай восені.
Ліхтар-пісьменнік усё занатаваў.
Імёны – старажытным шрыфтам – надпісы.
Адкуль ён ведае пра нас – ліхтар?

## ***СЛЯЗА***

Прамоклі ногі.
Слёзы з-пад зямлі
жывым гавораць пра жывых.
І камяні, і дрэвы, і званы –
паверхня слёз. Лязо пакут.
Выпрабаванне на Крыжы.
З зямлі мы вырастаем
ў пакаянні.
Ў зямлю вяртаемся
выратаваннем ад праклёнаў зла.
І несупынна

“Ӯсіх гаротных Радасць” – сляза –
у вершы адкрывае Крыжам
нам світанні,
змываючы пакутлівую ноч.

## ***ДЫХАННЕ-ШЛЯХ***

Трымайся, восень!
У тваім дыханні – мы.
Паасобку і разам.
Дыханне праз маску.
Цяжка.
Вірус палюе не дыстанцыйна.
Праз дождж, туман, вецер,
адзіноцтва і знясіленасць
спяшаемся дадому.
Шляхі шукаем:
вочы, мову, мары.
Твой дом – не маска?
...Мы – шлях
да шчырага дыхання
дабрыні.
Паасобку і разам.

* * *

Прыпынкі-плямы,
прыпынкі-кропкі,
гарох, рассыпаны да Рыма,
кінакарціны Федэрыка Феліні.
Лівень гуляе са штучным святлом.
Мантаж.

Катакомбы. Фрэскі.
Падземны ход да гогалеўскай паэмы.
Знікае Рым ідэальны.
Лініі падарожжа.
...Плюшкін шукае ў садзе
забыты Рым.

* * *

Некалькі метраў над узроўнем
мора.
Некалькі метраў над узроўнем
бяды.

Нашчадкі выгнання з роднай краіны,
мы, раскіданыя, чакаем,
калі
бяспечнае месца не будзе вітаць
метрамі роспачы,
структурай маўчання
берагавой паласы.
Калі цягучая горыч выветрыцца,
абуджаючы
гнёзды, горы і галасы.
...Вясна – маленькае птушаня,
што высока-высока над узроўнем бяды.
Ці ведаем мы?

* * *

І сакавік, і снегапад.
Будынкі. Жывёлы. Людзі.
Вертыкалі і гарызанталі.
Медыйныя абсягі.
Часопісы, газеты.
Кіёск як карабель у Белым моры.
Кот-капітан цікавіцца навінамі.
Усмешка як віна.
Надвор'е – хваравіты полюс.
*Шукаючы шчакі*[1], сняжынкі
у паветры пандэміі
крыху напамінаюць *кветкі зла*...

* * *

Насуперак трывожнай цішыні
у аблоках гучыць рэнесансная лютня.
Родныя Людвік, Франя, Антаніна, Францішка, Франук
ідуць да Вільні, Белагруды, Беліцы, Ліды.
Ідуць скрозь Нёман, Дзітву і аблокі.
Перакладаюць рукапіс неба на творчыя словы.
Немагчыма пазычыць чужыя крокі
для сцежак уласнага жыцця.
Паліфанія стварэння.
насуперак забыццю.

---

[1] Бо Гнеў рыхтуе ўдар, // шукаючы шчакі, // І Помста ля дзвярэй, // няпрошаная госця? Шарль Бадлер «Збавіцелька». Пер. з франц. Андрэя Хадановіча.

Галіна Пярун



...Быццам сама гаспадыня Восень
міма цябе прайшлася. Празрыстая, як расінка,
і нябачная чалавечаму воку...

# Восень

***Апавяданне***

Люблю восень з яе вятрамі, свінцовымі хмарамі, храраством фарбаў, непрадказальнасцямі і з усімі капрызамі. Менавіта гэтай парой года паэтамі і празаікамі складзены самыя лепшыя радкі, а мастакамі напісаны шматлікія прыгожыя карціны. Так і хочацца ўзяць у рукі пэндзаль і пазалаціць яго, дакрануцца да палатна і з лёгкасцю перадаць усе свае адчуванні і эмоцыі.

Неба ўвосень апускаецца ніжэй да зямлі, бо нялёгка трымаць цяжкія хмары. Пузатыя і даўгія, яны павольна паўзуць над палямі і прыбранымі сенажацямі, зрэдку чапляючыся за верхавіны дрэў або сутыкаючыся адна з адной. Парывы ветрыку прымушаюць іх бегчы крыху хутчэй, мяняць свае дзіўныя вобразы або збівацца ў статак і засцілаць шэранню неба, хаваючы сонейка. Менавіта восеньскае сонца такое непадобнае да летняга,а да таго ж рэдка выглядвае з-за аблокаў. Быццам скрозь

нейкую смугу, паказваецца ненадоўга, даруючы скупую халодную ўсмешку, і зноў знікае недзе ў патаемным сховішчы. Але гэтага хапае, каб адчуць усё хараство восені. Бываюць сонечныя пагодлівыя дні і нават тыдні. Наляціць вятрыска, разгоніць усе хмаркі і стане неба чыстым і сінім, толькі дзе-нідзе застануцца маленькія белыя воблачкі. І адразу весела зайграе восень усімі фарбамі. Зашапоча лісце між сабой. Загайдаюць галінамі дрэвы. Яшчэ ўчора яны былі ў зялёным убранні, усе аднолькавыя. А сённяшняя ноч пераапранула іх у рознае адзенне. Клёны пачырванелі, а месцамі пазалаціліся. Рабіны зусім пагублялі апошняе лісцё, затое гронкі наліліся і сталі пунсовымі, зардзеліся ў сонечных промнях. Так і хочацца паднесці спелыя ягады да вуснаў, адчуць гаркавата-кіслы смак у роце.

Бярозы сталі самымі сапраўднымі прыгажунямі. Уплялі ў свае зялёныя косы жоўтае, самых розных адценняў, лісце. Ветрык-жартаўнік блытае галінкі між сабой і зноў распускае, прыгладжвае, быццам косы дзявочыя заплятае.

А вось вербы за ноч зусім не змяніліся. Такія ж зялёненькія, як і ўлетку. Спусціліся да самага берага і ціха, пяшчотна водзяць па воднай роўнядзі лістотай, быццам дзяўчына тая да возера спусцілася, купацца надумала, вось толькі ніяк не адважыцца ў халодныя хвалі акунуцца.

Дарэчы, вада ў рэчках памяняла свой колер. Няма больш той блакітнасці і сінечы. Шэрая рабізна не прываблівае больш нырцоў. Хвалі памацнелі і ўзвысіліся. Не плывуць больш белыя пухкія воблачкі, толькі сухое лісце скача, куляецца, пакуль не намокне, а потым карычневым дываном прыстае да берага. Тут яму самае месца. Качкі з бачным задавальненнем корпаюцца ў ім цэлы дзень, толькі адны хвасты тырчаць.

Вятры ўвосень узмацняюцца. Парывы такія, што нават валяць з ног. Дзе ж там тое лісце ўтрымаецца. Ідзеш па парку, а вятрыска ў спіну піхае, валасы блытае, шапку з галавы зрывае. А потым па верхавінах дрэў як загудзе, як панясецца, здаецца, зараз галлё трашчаць пачне. І закружыцца лісце ў асеннім вальсе, абдасць цябе прыемнай пяшчотнай хваляй апошняй цеплыні і паляціць далей. Быццам сама гаспадыня Восень міма цябе прайшлася. Празрыстая, як расінка, і нябачная чалавечаму воку, толькі лісты ўплеценыя ў доўгі шлейф і заўважныя. Ты нават адчуваеш яе водар. Спелага ўраджаю з палёў, сухой лістоты, свежай перааранай зямлі, восеньскіх кветак і, канечне, грыбоў.

Якраз пра грыбы. Лес таксама памяняўся. Месцамі разаслалася жоўтая коўдра ў падножжы нязменна зялёных елак і сосенак. Статныя дубы азалацілі наваколле і ўпрыгожылі маленькія елачкі, нанізаўшы на іголкі сваё лісце. Дзе-нідзе рознакаляровы дыван папсавалі дзікі, шукаючы жалуды. А вось пад гэтым пакрывалам пахаваліся лісічкі, баравікі, махавікі, а апенькі рассяліліся на пнях і па дрэвах. Таго і глядзі аж да верху хутка дабяруцца. Апераззалі ствалы дрэў, быццам ручнікі хто павесіў. А на самым відным месцы, нібы блазен на арэне, стройны мухамор прымасціўся. Шапка чырвоная ў белыя крапінкі, а ножка высокая і спаднічка на ёй маленькая. Стаіць ганарліва адзін, сам сабе і ні з кім у хованкі не гуляе.

Цікаўная вавёрачка спыніцца на хвілiначку, каб пацікавіцца за грыбніком. Махне хвастом і сігане на суседняе дрэва. Сочыць за табой, нават ужо гатовая спусціцца, каб паласавацца нечым з тваёй далоні, а потым перадумае і ў адну хвіліну знікне, толькі яе і бачылі. Хвост яркім агеньчыкам заскача па галінках і распусціцца ў лясным гушчары.

Разбавіла залатымі фарбамі восень і балота. Пажоўкла і пакруцілася на купінах трава. Кралямі рассыпаліся спелыя журавіны. Белы туман стаў частым госцем у нізінах. Жыццё на балоце запаволілася, безгалосая цішыня непрыкметна ахінула маладзенькія дрэўцы і елачкі. Толькі нязменны жураўліны крык па-ранейшаму будзіць кожнае ранне. Але цяпер ён больш трывожны і часты. Птушкі збіраюцца ў доўгую дарогу ў вырай.

І сапраўды, восень непрадказальная і капрызная. Удзень сонейка радавала сваёй усмешкай. Промні весела казыталі мінакам насы. А потым закрапаў дождж. Той самы, грыбны. Калі ззяе сонца, а спорныя кроплі сыплюцца адна за адной, барабаняць па дахах хат, заліваюць дзіцячыя пясочніцы і невялікімі раўчукамі сцякаюць з асфальту ў рыхлую сырую зямлю. Нават на хвіліну можа ўспыхнуць вясёлка і адразу ж распусціцца, быццам і не было яе. Лагодным подыхам вечар шчодра дорыць цеплыню. Ціхія віхуры ганяюць апалае лісце і навяваюць прыемныя ўспаміны пра лета. А раніца здзіўляе золкасцю і скаванымі крохкім лёдам лужынамі.

Усё ж такі восень бярэ справу ў свае рукі. Неба робіцца сінім і шэрыя хмары бясконца плывуць над зямлёю, цягнучы за сабою з поўначы снегавых сяброўак. Павольна закружацца сняжынкі над полем, лесам, рэкамі і азёрамі. Пакрыюць лёгкай коўдрай свежую раллю, наліпнуць на неапалае лісце, ахінуць белым шалікам голыя галінкі. Але і гэта ненадоўга. Яшчэ рана зіме, некуды спяшацца. Наперадзе прыгожыя восеньскія дні. Сонечныя і пахмурныя, сухія і дажджлівыя з усім харастовом і непаўторнасцю. З новымі вершаванымі і празаічнымі радкамі, карцінамі і малюнкамі.

*14.10.2019 г. , г. Горкі*

Уладзімір Шыпіла



...Мне бачыцца цяпер, што Вы ўсё тая ж,
і пачуццё з мінулага жыве...

# Ці вернуцца уражанні былыя?..

## *VICTORIA*

Цікава, аб чым бы падумаў Міцкевіч
ці іншы ягоны калега
па вершамайстэрстве
пад выступы
групы падтрымкі дзявочай
падчас баскетбольнага матчу?
Напэўна, зусім не пра тое,
што мне прыпадала ў той момант...
Упэўнены, для хараства
межаў няма між стыляў
ды ўзораў адзення.

Уражаннем моцным
і нечаканым
ляцелі хвіліны,

цябе пераможцаю танца адзначыў,
па-іншаму бы і не сталася
нават таму, што імя я запомніў,
сказанае гучна сяброўкай.

Калі нечаканасць хвілiннай сустрэчы
цябе напужала,
тваёй спадарожніцай сталася
ўвечары сціплая ружа.
Хто ведае, можа далонямі
ты дакранешся да ейных пялёсткаў,
а можа і вуснамі.

* * *

Чамусьці у сне няўцямным убачыў:
аплецена неба ўздоўж правадамі –
высакавольтна-шэрых нябёсаў тысячы міляў.
Вядома, апоры псуюць краявіды
і не ўратоўвае колер іх срэбны...
Вільгаць на вуліцы –
часам дратуе трэск правадоў непрыемны.
Нервы падобны да іх відавочна,
можа замкнуць і тыя, і тыя,
і будзе заўважна гэта адразу.
Пытанне: што больш небяспечна?

* * *

Цікава, якія ж асобы
кіруюць ў метро цягнікамі?
Іх звыклая праца – адвозіць
людзей праз сапраўдную цемру...
Цікава, ці можа ўзнікнуць
любоў да працэсу
на хуткасці
так заглыбляцца ў тунэль?
Ці тое хвароба, калі гэтак будзе?
А што, калі не адпусціць...
Ці ёсць той тунэль,
дзе прыпынкаў няма
й дзе можна імчаць безупынна?

## ***ВЕРАСНЁЎСКАЕ***

Лепшае месца знаёмства –
на акцыі супрацiву,
у гэтым пераканаўся
на трэцi дзень верасня –
месяц змаганняў амаль.
“Бусiкi” з iхным начыннем
той дзень сапсаваць не змаглi,
яна адказала мне “дзякуй”
на мой камплiмент дылетанцкi,
не супраць была, каб алоўкам накрэслiў
на аркушы вобраз яе.
Цяперака стымул мацнейшы –
працягваць як мага болей
магчыма й таму,
каб яшчэ раз яе напаткаць.

*Верасень, 2020*

* * *

*Н.В.*

Цi вернуцца уражаннi былыя?
Мiнула дваццаць пяць гадоў жыцця...
Разгорнуцца?
Я думаю: дакладна!
Ваш танец прыгадаю... Феерычна!
Яго падаравалi назаўсёды
i гэтым разняволiлi нязвыкла,
сваiм дрыготка-пранiкнёным спевам
прылашчылi пяшчотна неймаверна,
тады неўсвядомленым каханнем
хлапечыя спадзевы ўзышлi.
Крануў той дзень чароўны незабыўна,
насычаны быў першым хваляваннем.
Мне бачыцца цяпер, што Вы ўсё тая ж,
i пачуццё з мiнулага жыве.

## ***ПЭНДЗАЛЬ***

Пухнатасцю ахоплiвае пэндзаль,
лагодзiць рысы
i не на халсцiне
дзявочыя вабноты праяўляе,

прыпудрывае бляскам мармуровым,
такім неймаверна прыцягальным.
Трымаць той пэндзаль
шмат хто пажадаў бы,
хаця б хвілінку,
гэтаму аддацца,
такому куртуазнаму майстэрству,
што надае выразнасці абліччу
і выгін цела дзёрзка падфарбуе,
і дзеянне напоўніць асалодай,
бо кожны дотык – да жывой натуры.

## *СТУЖКА*

Глядзіцца далікатна
між паўсфер
і птушкаю карункавай уверсе
гулліва разыходзіцца ў бакі
і ўсё адно сыходзіцца далей,
на пэўны час прыцягвае ўвагу
сцяжынкаю паўкруглаю такою
пад колеры настрою ды пачуццяў
ды заклікае разам адпачыць.

## *УРАЖАННІ*

Убачыць артыстак
гуллівага жанру
у чатырнаццаць,
злучыцца ў сеансе
іх выступлення
між зарасцяў пёраў
і калейдаскопе
нязвыклых убораў,
між галерэй
бездакорных фігурак.
Рух нават просты
кранае так палка,
сэрца сціскае...
з абліччаў якіх
весялосць не сыходзіць,
вуснаў-каралаў
блішчыць абрамленне
усім гледачам

без вынятку
і позіркаў пыркі
ці стрэлы,
як зброя амура.
Кожную думкай
абдымкі трымаюць,
выбар між імі
зрабіць немагчыма,
прага злучыць
хоць на момант
уласныя вусны
з кожнаю паннай,
а потым і поглядам
плаўна праводзіць
ад шыі праз спіну
да ягадак спелых,
па сцёгнах прывабных
і затрымаць на пантофлях пагляд.

### УСМЕШКА

Малюнкаў ці фотаздымкаў
з альбомаў ці сеціва процьма,
не ў тым заключаецца справа.
Да момантаў гэтых не ведаў –
хоць бачыў эмоцый нямала
ў рэальным жыцці, на экране –
таго, што ўсмешка дзяўчыны
бывае такой сексуальнай.
І гэта – вяршыня майстэрства,
адкрытасць і бачнасць інтрыгі...
Пытанне адно не знікае:
як выклікаць гэтую радасць?
Пытанне другое адразу:
як гэты сюжэт паўтарыць?

дэбют

Сяргей Здаранкоў



...Святло заўсёды
параможа Цемру...

# Казка пра згубленыя гузікі

Амаль новы Чырвоны Гузік ачуўся ў высокай зялёнай траве, не разумеючы, дзе ён. Нікога з блізкіх ці знаёмых побач не было.

Чырвоны Гузік прыгадаў, што гэта адзін з Ценяў адарваў яго ад роднага месца. Ён пачаў плакаць, а потым закрычаў:

– Дапамажыце! Я згубіўся!

– Чаго крычыш? – спытаў у яго Серабрысты Гузік з выявай рыцара на кані.

– Я згубіўся, – зноў заплакаў чырвоны Гузік. – Мне страшна.

– Не плач, супакойся, ты цяпер не адзін, нас ужо двое, бачыш?

– Бачу, але ўсё адно баюся.

– Адчуваць страх – гэта нармальна, – супакоіў яго Гузік з рыцарам.

– Праўда?

– Так.

У гэты момант побач з імі прамчаўся адзін з Ценяў.

– Калі ласка, хадзем, пакуль Цені да нас не дабраліся, – прапанаваў Гузік з рыцарам. – Я думаю, мы тут не адны. Мо сустрэнем яшчэ каго.

– Ты так лічыш? – няўпэўнена спытаў Чырвоны Гузік.

– Вядома. А цяпер бяжым!

Яны пабеглі праз траву, ахутаныя дымам, які невядома адкуль узяўся і з-за якога было дрэнна бачыць і цяжка дыхаць. Але вось у гэтым дыме нашым героям пачалі трапляцца іншыя гузікі.

У пошуках родных сярод дыму прабягалі такія ж гузікі, як яны.

– Давайце трымацца разам! – крыкнуў Гузік з рыцарам.

У гэты момант адзін з Ценяў схапіў некалькі гузікаў і паспрабаваў падняць іх над травой, але ім удалося вырвацца.

– Хутчэй бяжыце сюды, да нас! – закрычаў Белы Гузік, выглядваючы са старога кеда.

Серабрысты і Чырвоны Гузікі імгненна ўскочылі ў схованку. Там акрамя вялікага Белага гузіка быў яшчэ адзін – белы маленькі.

– Дзякуем!

– Няма за што, усе мы павінны дапамагаць адзін аднаму, – адказаў Белы Гузік.

Ён высунуўся ў дзірку, каб агледзецца.

– Цені абшукваюць усё, што трапляецца на іх шляху. Толькі што з-пад алюмініевай бляшанкі дасталі некалькі гузікаў.

– Трэба ўцякаць. Усе могуць бегчы? – спытаў Гузік з рыцарам.

– Усе!

І яны пабеглі. Наперадзе – усё той жа Серабрысты Гузік з выявай рыцара. Чырвоны Гузік бег паміж двума белымі, трымаючы іх за рукі.

Паступова да іх пачалі далучацца іншыя гузікі, самыя розныя па форме, колеры, матэрыяле і ўзросце, нават тыя, што даўно былі зняты з вытворчасці, іх звалі ласкава – «наш Вінтаж».

– Стойце, – скамандаваў Серабрысты Гузік. – Трава канчаецца, нам не будзе дзе хавацца і давядзецца выйсці на адкрыты асфальт. Там шмат Ценяў.

– Прапаную трохі адпачыць і заадно пачакаць тых, хто адстаў, – сказаў Белы Гузік, той, што быў старэйшы. – Паглядзім, можа каму патрэбна дапамога.

Паступова на мяжы паміж травой і асфальтам сабралася мноства гузікаў. Такой іх колькасці ў адным месцы ніколі не бачыла ні адна швачка, а ўжо яны, швачкі, сапраўды бачылі многае.

Белыя, чырвоныя, серабрыстыя, залацістыя, зялёныя, шэрыя, карычневыя, жоўтыя, ружовыя, празрыстыя, металічныя, драўляныя, шкляныя, пластмасавыя, квадратныя, авальныя, трохвугольныя, круглыя, прамавугольныя, шасці-, васьмі-канцовыя... Яны былі зусім розныя, але яны былі разам.

Калі б у той момант паглядзець на траву зверху, то гэта ўсё нагадала б нейкі неверагодны малюнак, выкананы дзіцём, якое імкнулася выкарыстоўваць усе магчымыя колеры і формы.

– Мы не можам доўга стаяць на адным месцы. Ценяў усё больш. Нам трэба рухацца далей, – сказаў Гузік з рыцарам.

– А хто яны, гэтыя Цені? – спытаў маленькі Белы Гузік.

– Яны ні «хто» і ні «што», яны пустэча, цёмная пустка, – адказаў Вінтажны Гузік.

– Пустэча, якая б'е балюча, – падхапіў вялікі Жоўты Гузік з рэштkамі нітак.

– Яны слугі Цемры, дзіця маё, – сказаў Чорны Гузік з дзіркамі «крыжыкам» пасярэдзіне, – у іх няма святла і дабрыні, няма пачуццяў, яны пустыя. Цемра заўсёды думае, што яна мацнейшая за святло, але гэта не так.

– Зразумела, – сказаў маленькі Белы Гузік.

– Чаго стаім? – пачулася з усіх бакоў.

– Чакаем тых, хто адстаў! – крыкнуў Белы Гузік, той, што старэйшы.

– Усе на месцы! – пачуўся адказ.

– Ну, тады наперад, усе разам, шчыльна прыціснуўшыся, не разбягаемся, бо па адным нас лавіць намнога прасцей.

Гузікі вялізным натоўпам выйшлі з травы.

– Вунь! – закрычаў белы Гузік, паказаўшы ў бок яркага Сонца, – там нашы родныя і блізкія!

– Рухаемся на Сонца, толькі спакойна, прыціскаючыся адно да аднаго, глядзім за суседзямі, трымаемся вінтажных Гузікаў, – скамандаваў Серабрысты Гузік з выявай рыцара.

Гузікі рухаліся не спяшаючыся. Яны адчувалі боязь, але баяцца ўсім разам не страшна.

Цені лёталі над імі, спрабуючы выхапіць каго-небудзь. Як толькі Цені падалі ў натоўп зверху, Гузікі расступаліся, а потым зноў збіраліся. З бакоў прабіцца ў натоўп Гузікаў было немагчыма – яны прыціскаліся адзін да аднаго вельмі шчыльна.

Яшчэ нядаўна кожны Гузік лічыў сябе адзінокім. Але цяпер яны сталі нібы адной велізарнай сям'ёй, аб'яднанай страхам, болем, мэтай, верай і неверагодным жаданнем перамагчы Цемру і яе памагатых.

Так яны ішлі – дні, тыдні, месяцы... Ішлі, губляючы кагосьці па дарозе. Некага ўсё ж забіралі Цені. Хтосьці адставаў сам. Але яны ішлі. І дайшлі. І ўз'ядналіся з роднымі і блізкімі. І Цені адступілі, бо Гузікі рухаліся ў бок Сонца. А Святло заўсёды пераможа Цемру.

пераклады

## Станіслаў Лем



...праграму, якая ёсць у галаве ў простага паэта,
стварыла цывілізацыя, у якой ён з'явіўся на свет...

# Падарожжа першае А, або Электрабалт Трурля

*(Са зборніка апавяданняў пра робатаў-канструктараў Трурля і Клапаўцыя «Кіберыяда»)*

LEM 2021
100 ROCZNICA URODZIN

*Пераклад з польскай Віктара ЯЗНЕВІЧА (проза) і Міколы КАНДРАТАВА (вершы).*

Каб пазбегнуць усялякіх прэтэнзій і непаразуменняў, мы павінны патлумачыць, што гэта было, прынамсі ў літаральным сэнсе, падарожжа ў нікуды. Бо Трурль увесь гэты час не адыходзіў ад свайго дома, калі не лічыць знаходжання ў шпіталях і малазначнай паездкі на астэроід. У глыбокім і вышэйшым сэнсе гэта было адно з самых далёкіх падарожжаў, якія калі-небудзь здзяйсняў гэты славуты канструктар, бо распасціралася яно да самых межаў магчымага.

Аднойчы Трурлю давялося пабудаваць вылічальную машыну, якая выявілася здольнай толькі на адну аперацыю, а менавіта: яна памножыла два на два, ды і тое пры гэтым памылілася. Як апавядаецца ў іншым месцы, гэтая машына, аднак, была вельмі амбіцыйнай, і яе спрэчка з уласным стваральнікам ледзь не скончылася для яго трагічна. З тых часоў Клапаўцый атручваў Трурлю жыццё,

дапякаючы яго і так, і гэтак, пакуль той не на жарт не ўзлаваўся і не вырашыў пабудаваць машыну, якая будзе пісаць вершы. Для такой мэты назапасіў Трурль восемсот дваццаць тон кібернетычнай літаратуры плюс дванаццаць тон паэзіі і пачаў іх вывучаць. Калі ён ужо не мог вытрымаць кібернетыкі, то пераключаўся на лірыку, і наадварот. Па нейкім часе зразумеў, што збудаваць машыну – гэта яшчэ драбяза ў параўнанні з ейным праграмаваннем. Праграму, якая ёсць у галаве ў простага паэта, стварыла цывілізацыя, у якой ён з'явіўся на свет; гэтую цывілізацыю спарадзіла іншая, тая, што папярэднічала ёй, а яе – яшчэ больш ранняя, і так да самага пачатку Сусвету, калі інфармацыя пра будучага паэта яшчэ хаатычна кружляла ў ядры першапачатковай імглістасці. Каб на месцы Трурля быў нехта іншы, такая задачка прымусіла б яго адмовіцца ад усёй задумы, але адважны канструктар не меў намеру адступаць. Спачатку ён сканструяваў машыну, якая змадэлявала хаос, і электрычны дух лятаў у ёй над электрычнымі водамі, потым дадаў параметр святла, тады праімглістасці і так спакваля наблізіўся да першага ледавіковага перыяду, што было магчыма толькі таму, што яго машына на працягу пяцімільярднай часткі секунды мадэлявала сто сэптыльёнаў падзей у чатырохстах актыльёнах месцаў адначасова, а калі хто думае, што Трурль дзесьці памыліўся, няхай сам паспрабуе спраўдзіць разлік. Далей Трурль змадэляваў зачаткі цывілізацыі: хвастатасць і чацвераногасць, яшчараў і патопы, высяканне агню, дубленне скураў, а таксама прабледнаватыка, які спарадзіў бледнаватыка, які прыдумаў розныя прылады, і так гэта ішло эёнамі і тысячагоддзямі ў шуме электрычных віроў і токаў; а калі мадэлявальная машына станавілася цеснай для наступнай эпохі, Трурль майстраваў да яе прыстаўку; і ўрэшце з гэтых прыбудоў паўстала нешта накшталт гарадка з пераблытаных дратоў і лямпаў, у куламесе якіх сам чорт зламаў бы сабе нагу. Трурль, аднак, неяк выходзіў са становішча, і толькі два разы спатрэбілася яму перарабляць працу: аднаго разу, на жаль, амаль ад самага пачатку, бо атрымалася ў яго, што гэта Авель забіў Каіна, а не Каін Авеля (у выніку перагарання засцерагальніка ў адным з контураў), а другі раз трэба было вяртацца ажно на трыста мільёнаў гадоў да сярэдзіны мезазою, бо замест прарыбы, якая нарадзіла праяшчара, які нарадзіў прасысуна, які нарадзіў прамалпу, якая нарадзіла прабледнаватыка, атрымалася нешта настолькі дзіўнае, што выйшаў у яго не бледнаватык, а лятучаватык. Здаецца, што ў машыну ўляцела нейкая муха і збіла суперскапічны перамыкач прычыннасці. Апрача гэтага, усё ішло на здзіўленне гладка. Змадэляваныя былі старажытнасць, і сярэднявечча, і эпоха вялікіх рэвалюцый, так што машына часам трэслася, а лямпы пры мадэляванні найбольш сур'ёзных поспехаў цывілізацыі трэба было паліваць вадой і абкладаць мокрымі анучамі, каб не выбухнулі; такім чынам прагрэс, асабліва мадэляваны ў такім тэмпе, ледзь не разнёс іх дашчэнту. Пад канец дваццатага стагоддзя машына раптам пачала вібраваць накасяк, а потым затрэслася ўздоўж, і ўсё гэта невядома чаму. Трурль вельмі перажываў з гэтай нагоды і нават падрыхтаваў трохі цэменту і скрэпы на той выпадак, калі раптам яна стане развальвацца. На шчасце, неяк абышлося без гэтых скрайніх сродкаў; машына праехала дваццатае стагоддзе і панеслася далей больш роўна. Потым толькі ішлі, кожная па пяцьдзясят тысяч гадоў, чарговыя цывілізацыі цалкам разумных істот, каторыя і самога Трурля спарадзілі; і кацілася шпуля за шпуляй змадэляванага гістарычнага працэсу да ёмістасці; а было такіх шпуляў так шмат, што, гледзячы ў бінокль з вяршыні машыны, не было відаць канца гэтым грудам; і ўсё на тое, каб запраграмаваць нейкага там вершатворцу, няхай

нават і самага цудоўнага! Але гэта ўжо наступствы навуковай упартасці. Урэшце праграмы былі гатовыя; заставалася хіба абраць з іх самае істотнае. Інакш навучанне электрапаэта зацягнулася б на шмат мільёнаў гадоў.

Два тыдні запар уводзіў Трурль у свайго будучага электрапаэта агульныя праграмы; затым ішла налада лагічных, эмацыйных і семантычных схем. Ён ужо хацеў было запрасіць Клапаўцыя для спробнага запуску, але перадумаў і напачатку запусціў машыну сам. Тая неадкладна прачытала даклад аб паліраванні крышталяграфічных граняў для папярэдняга вывучэння невялікіх магнітных анамалій. Давялося саслабіць лагічныя контуры і ўзмацніць эмацыйныя; напачатку машыну адолеў прыступ ікаўкі, затым прыпадак істэрыі, а ўрэшце яна з вялікай цяжкасцю прамармытала, што жыццё жудаснае. Трурль узмацніў семантыку і змайстраваў прыстаўку волі; машына заявіла, што з гэтага часу ён павінен ёй падпарадкоўвацца, і загадала дабудаваць ёй яшчэ шэсць паверхаў да дзевяці наяўных, каб яна магла ў вольны час падумаць пра сутнасць быцця. Ён уштукаваў у яе філасофскі памяншальнік; тады яна наогул перастала адгукацца і толькі біла токам. Ён маліў яе і змог умовіць праспяваць кароткую песеньку: «Бабка і жабка жылі супольна ў замку», але на гэтым яе вакальныя практыкаванні скончыліся. Так ён ушрубоўваў, прыціскаў, умацоўваў, саслабляў, рэгуляваў, пакуль яму не здалося, што лепш ужо быць не можа. Тут і пачаставала машына яго такімі вершамі, што падзякаваў ён нябёсам за гэтую празорлівасць: вось бы пацешыўся Клапаўцый, пачуўшы гэтыя занудлівыя рыфмаванкі, дзеля якіх давялося прамадэляваць узнікненне Космасу і ўсіх магчымых цывілізацый! Ён усталяваў шэсць проціграфаманскіх фільтраў, але яны ламаліся, як запалкі; мусіў зрабіць іх з карундавай сталі. Потым неяк стала ў яго наладжвацца: разгарнуў машыну семантычна, падключыў генератар рыфмаў, і тут ледзь не правалілася ўсё ў пекла, бо машына пажадала стаць місіянерам сярод бедных зорных плямёнаў. Але тады, у апошняе амаль імгненне, калі Трурль ужо быў гатовы накінуцца на яе з молатам у руках, яму прыйшла выратавальная думка. Ён выкінуў усе лагічныя контуры і ўштукаваў на гэтае месца моцныя эгацэнтрызатары з нарцысічнай сувяззю. Машына завагалася, засмяялася, заплакала і сказала, што ёй нешта баліць на трэцім паверсе, што ёй усё надакучыла, што жыццё дзіўнае, а ўсе вакол нягоднікі, што яна напэўна хутка памрэ і хоча толькі аднаго: каб пра яе памяталі, калі яе ўжо тут не будзе. Потым загадала падаць ёй паперу. Трурль уздыхнуў з палёгкай, выключыў машыну і выправіўся спаць. Назаўтра ён пайшоў па Клапаўцыя. Пачуўшы, што павінен прысутнічаць падчас пуску Электрабалта, бо машыну так вырашыў назваць Трурль, Клапаўцый адклаў усе свае справы і пайшоў у чым быў, бо так яму не цярпелася стаць сведкам паразы свайго сябра.

Трурль найперш уключыў награвальныя контуры, потым даў малы ток, яшчэ колькі разоў забег наверх грымучымі жалезнымі сходамі – Электрабалт падобны быў да вялізнага суднавага рухавіка, увесь у сталёвых мастках, пакрыты прыклёпанай бляхай, з мноствам цыферблатаў і клапанаў – пакуль, урэшце, задыханы, сочачы за тым, каб напружанне на анодах было, як трэба, сказаў, што так, для размінкі пачне з нейкай маленькай імправізацыі. Потым ужо, зразумела, Клапаўцый зможа прапанаваць машыне тэмы для вершаў, якія яму захочацца.

Калі ампліфікацыйныя індыкатары паказалі, што лірычная магутнасць дасягнула максімуму, Трурль ледзь прыкметна дрыжачай рукой уключыў вялікі рубільнік, і амаль адразу хрыплаватым голасам, але з эмацыйна-чароўнымі і пераканаўчымі інтанацыямі, машына сказала:

– Пацянкоцевічаракрыштафанічны хрускрыбочак.

– Гэта ўсё? – спытаў па нейкім часе нязвыкла ветлівы Клапаўцый. Трурль толькі падціснуў вусны, даў машыне некалькі ўдараў токам і зноў уключыў. Цяпер голас яе быў значна чысцей; можна было напраўду атрымаць асалоду ад гэтага ўрачыстага, не пазбаўленага спакуслівых пераліваў барытона:

Апантула няўдзёсны, да бунды грувасны,
Коч турмелі выпросніў, што кострай засмяць
Пpaмiноднай знаметы, высвірыў вачасны,
А парсажы карслівыя дрэмна вычняць!

– На якой гэта мове? – спытаў Клапаўцый, назіраючы з узорным спакоем нейкую паніку, з якой Трурль кідаўся каля пульта кіравання, а затым, махнуўшы ў роспачы рукой, панёсся, тупаючы па прыступках, на самы верх сталёвага гмаху. Было відаць, як ён на карачках паўзе праз адчыненыя люкі ўнутр машыны, як стукае там, люта лаецца, як нешта закручвае, звініць ключамі, як зноў выпаўзае і бяжыць трушком на іншы памост. Урэшце Трурль выдаў вокліч трыумфу, выкінуў згарэлую лямпу, якая разбілася аб падлогу залы за крок ад Клапаўцыя, нават не падумаўшы перапрасіць за такую неасцярожнасць, паспешліва паставіў на патрэбнае месца новую лямпу, выцер мяккай тканінай запэцканыя рукі і гукнуў згары, каб Клапаўцый уключыў машыну. Пачуліся словы:

Тры, самалож вывёрсны, кручак тасын уздынам
Сяклівай апелайдзе і баравайкі здоленай.
Грані малапалесны тыс пераслаўкім трынам,
А бамба адмуркаціцца і вернецца аголенай.

– Ужо лепш! – усклікнуў не зусім упэўнена Трурль. – Апошнія словы мелі сэнс, заўважыў?

– Калі гэта ўсё... – сказаў Клапаўцый, які быў цяпер увасабленнем вытанчанай ветлівасці.

– Чорт бы яго пабраў! – крыкнуў Трурль і зноў знік у нетрах махіны; там стукала, грукатала, чуліся трэск разрадаў і здушаная лаянка канструктара. Раптам ён высунуў галаву з трэцяга паверха праз невялікі клапан і крыкнуў: – Зараз націсні!

Клапаўцый выканаў. Электрабалт задрыжаў ад падмурка да верху і пачаў:

Смага брудай млыха, лыдастая ланэль,
Самашпак мімайка...

Голас абарваўся, бо Трурль у шаленстве ірвануў нейкі кабель, нешта захрыпела, і машына змоўкла. Клапаўцый так зарагатаў, што ажно апусціўся на падлогу. Трурль кідаўся то сюды, то туды, раптам нешта пстрыкнула, трэснула, і машына вельмі спраўна і спакойна заявіла:

Зайздрасць, пыха, эгаізм – лёсу дэградацыя.
Гэта ўсведаміць любы, хто Электрабалту
Паспрабуе запярэчыць. А таго ж Клапаўцыя
Волат духа апярэдзіць, як аўтобус малпу.

– Ха! Калі ласка! Эпіграма! І вельмі пасуе! – выкрыкваў Трурль, апісваючы кругі, усё ніжэй і ніжэй, бо ён збягаў вузкай спіральнай лесвіцай, пакуль ледзь не ўляцеў у абдымкі калегі, які перастаў смяяцца і ледзь не аслупянеў.

– Гэта дрэнна, – сказаў Клапаўцый. – Апрача таго, гэта не ён, а ты сам!

– Як гэта я?!

– Ты гэта напісаў загадзя. Здагадваюся паводле прымітыўнасці, нямоглай злосці і банальных рыфмаў.

– Во як! Прапануй што-небудзь іншае! Усё, што хочаш! Чаму ты маўчыш? Баішся, ці што?!

– Я не баюся, я проста разважаю, – раздражнёна сказаў Клапаўцый, спрабуючы прыдумаць найцяжэйшае з магчымых заданняў, бо не без падставы меркаваў, што спрэчку пра дасканаласць верша, складзенага машынай, будзе цяжка ўлагодзіць.

– Няхай складзе верш пра кібэротыку! – сказаў ён раптам прасветлена. – Хай там будзе не больш за шэсць радкоў, а ў іх пра каханне і здраду, пра музыку, пра неграў, пра вышэйшыя сферы, пра няшчасце, пра кровазмяшальніцтва, да таго ж у рыфму і каб усе словы былі толькі на літару К!

– А поўнага выкладу агульнай тэорыі бясконцых аўтаматаў не павінна там быць? – закрычаў абражаны да глыбіні душы Трурль. – Нельга стаўляць такія крэцінскія ўмовы...

Але ён не дагаварыў, бо ў гэты момант адазваўся салодкі барытон, запоўніўшы ўсю залу:

> Кіпруня, кібэратаман, калісь кадрыў красуню кафраў:
> Крамольна кветкамі крыліў, кахання клянчыў красамоўна.
> Калі кіфараю крануў, калені крамяныя кратаў.
> Кунеж, кляніся, кон кляні! Кліч, каралева, Казанову!..
> ...Калыша Кіпрыян кузін, кныр, крывадушны камбінатар!!

– І што ты скажаш на гэта? – узяўшыся ў бокі, запытаў Трурль, а Клапаўцый, ужо не раздумваючы, крыкнуў:

– А цяпер на Г! Чатырохрадкоўе пра істоту, якая была машынай адначасова думаючай і бязмозглай, грубай і жорсткай, якая мела шаснаццаць наложніцаў, крылы, чатыры размаляваныя куфры, у кожным па тысячы залатых талераў з профілем імператара Мурдэброда, два палацы і бавіла жыццё ў забойствах, а таксама...

– Гнеўны геній генератар гонар ганьбіць, грэх гуляе... – пачала было машына, але Трурль падскочыў да пульта кіравання, націснуў на рубільнік і, засланіўшы яго ўласным целам, прамовіў здушаным голасам:

– Ніякай такой лухты больш не будзе! Я не дапушчу растрачвання вялікага таленту! Альбо ты сумленна замаўляеш вершы, альбо на гэтым усё!

– А што, гэтыя вершы былі замоўленыя несумленна?.. – пачаў Клапаўцый.

– Не! Гэта нейкія галаваломкі, рэбусы! Я не будаваў машыну для ідыёцкіх крыжаванак! Рамяство гэта, а не Вялікае Мастацтва! Давай якую хочаш тэму, нават самую цяжкую...

Клапаўцый думаў, думаў, урэшце нахмурыўся і сказаў:

– Добра. Няхай будзе пра каханне і смерць, але ўсё павінна быць выказана моваю вышэйшай матэматыкі, а асабліва алгебры тэнзараў. Таксама пажаданыя вышэйшая тапалогія і матэматычны аналіз. Апрача таго, вершы павінны быць эратычна моцнымі, нават дзёрзкімі, і ўсё ў межах кібернетыкі.

– Ты што, здурнеў? Матэматыкай пра каханне? Не, у цябе дрэнна з галавой, – пачаў Трурль. Але ён змоўк разам з Клапаўцыем, бо Электрабалт ужо дэкламаваў:

Нясмелы кібернетык засвойваў моц экстрэмумаў –
Ён унімадулярных груп Кіберыяды
Браў інтэгралы, што будзілі ў сэрцы радасць, –
Не ведаючы, ёсць каханне ці яшчэ няма.

Прэч! Прэч, Лапласіяны, з вечара да пеўняў
І орты вектараў ад раніцы да прыцемкаў!
Чакаю, антывобраз! Бліжэй, бо час, напэўна,
Рэдукаваць каханку каханаму ў абдымкі!

Ён трэмар невымерны, групуе абароты
І сувязі зваротныя, яднаннем стогну служыць.
Прытым такі каскадны, такі галавакружны,
Кароткім замыканнем ён – для вачэй пагроза.

Ты, трансфінальны клас! Велічыня такая!
Кантынуум нямы! Бель звышсістэмных бруяў!
Крыстофелем і Стоксам навекі ахвярую
За першую навек вытворную кахання.

Тваіх палёў скалярных шматзначныя глыбіні
Яві, Кіберыяда, у градыентах спелых
Паглыбленаму сэрцам у Тэарэму Цела,
Памножаных на модуль палётаў галубіных!

О не, той не дажыў без сівізны да шчасця
Ні ў Браўэравай мо, ні ў Вейлевай прасторы,
Хто тапалогію пяшчотай не агорне,
Я крывізну, не ведамую Мёбіусу, лашчу!

Шматслойная жывых пачуццяў камітанта,
Як ацаніць цябе? Спазнае толькі той, хто
Паспець памерці за нанасекунды ў стане,
Згараючы штоміг у полымі фантомным!

Пункт без каардынат нахільнай асімптоты
Галанамічнае сістэмы – кібернетык
Ў праекцыі апошняй, ахрышчаны й сагрэты
Апошняй ласкай, так канае ад пяшчоты.

На гэтым паэтычны турнір скончыўся, бо Клапаўцый адразу ж сышоў дадому, сказаўшы, што вернецца з новымі тэмамі, але больш не паказваўся, баючыся, што ён міжволі дасць Трурлю яшчэ адну нагоду для трыумфу; а той абвесціў, што Клапаўцый уцёк, не ў стане стрымаць раптоўнага хвалявання. На гэта Клапаўцый запярэчыў, што ў Трурля з часу пабудовы Электрабалта стала зусім блага з галавой.

Прамінула крыху часу, і вестка пра электрычнага геніяльнага стваральніка вершаў дасягнула сапраўдных, гэта значыць – звычайных паэтаў. Абураныя да глыбіні душы, яны вырашылі не заўважаць машыну. Аднак знайшлося сярод іх колькі дзівакоў, якія наважыліся крадком наведаць Электрабалта. Той прыняў іх ветліва, у зале, поўнай ужо спісаных папер, бо шчыраваў дзень і ноч без перапынку. Паэты былі авангардыстамі, Электрабалт жа тварыў у класічным стылі, бо Трурль, мала разбіраючыся ў паэзіі, засноўваў праграмы «натхнення» на творах класікаў. Наведвальнікі высмеялі Электрабалта, ды

так, што ў яго ад злосці ледзь не палопаліся катодныя трубкі, і сышлі з трыумфам. Але машына валодала самапраграмаваннем і адмысловай схемай амбіцыйнага ўзмацнення з засцерагальнікамі на шэсць кілаампер, таму за кароткі час усё цалкам змянілася. Вершы яе сталі цьмянымі, шматзначнымі, антыэстэтычнымі, магічнымі і кранальнымі да поўнай незразумеласці. Таму, калі прыбыла наступная група паэтаў, каб паздзекавацца з машыны ды пакуражыцца, тая адазвалася такой сучаснай імправізацыяй, што ў іх перахапіла дых, а другі верш выклікаў сур'ёзную слабасць у аднаго творцы старэйшага пакалення, які меў дзве дзяржаўныя ўзнагароды і статую ў гарадскім парку. З гэтага часу ніводзін паэт не мог выстаяць перад згубным жаданнем выклікаць Электрабалта на лірычнае спаборніцтва – і цягнуліся яны адусюль з мяхамі і тэчкамі, поўнымі рукапісаў. Электрабалт дазваляў госцю дэкламаваць, прычым адразу схопліваў з лёту алгарытм ягонай паэзіі і, грунтуючыся на ім, адказваў вершамі, вытрыманымі ў тым самым стылі, але лепшымі ад двухсот дваццаці да трохсот сарака сямі разоў.

Па нейкім часе ён узняўся да такога майстэрства, што калі не першым, дык другім санетам збіваў з ног заслужанага паэта. І гэта было, напэўна, горш за ўсё, бо атрымлівалася, што са спаборніцтва з ім з гонарам могуць выйсці толькі графаманы, якія, як вядома, не адрозніваюць добрых вершаў ад дрэнных, таму яны і сыходзілі беспакарана, апрача аднаго, што зламаў нагу, спатыкнуўшыся ля выхаду аб шырокае эпічнае палатно Электрабалта, якое было вельмі наватарскае і пачыналася з радкоў:

Цямрэча, і ў ёй пустаты абаротаў
Усё ж адчувальны, хоць прывідны след,
І вецер, і вечар яшчэ не аслеп,
І чуецца крок, бы вяртаецца рота.

Затое сапраўдным паэтам Электрабалт чыніў значныя страты, хоць і ўскосна, бо зла ім ён не прычыняў. Тым не менш адзін сівы лірык, а ўслед за ім два авангардысты здзейснілі самагубства, скокнуўшы з высокай скалы, якая паводле фатальнага збегу абставінаў якраз трапілася ім дарогаю ад рэзідэнцыі Трурля да чыгуначнай станцыі.

Паэты адразу склікалі шэраг пратэставых сходаў і запатрабавалі апячатаць машыну, але апрача іх ніхто на феномен не звярнуў увагі. Рэдакцыі газет былі нават задаволеныя, бо Электрабалт, які пісаў адразу пад некалькімі тысячамі псеўданімаў, меў гатовую паэму зададзеных памераў на ўсялякі выпадак, і гэтая паэзія, хоць і на замову, была такой якасці, што чытачы раскуплялі газеты нарасхоп, і на вуліцах відаць былі задаволеныя твары, несвядомыя ўсмешкі і чуліся ціхія ўсхліпванні. Вершы Электрабалта ведалі ўсе; паветра дрыжэла ад прыемных рыфмаў, а найбольш уражлівыя натуры, узрушаныя адмыслова сканструяванымі метафарамі або асанансамі, часам нават трацілі прытомнасць; але і да гэтага быў падрыхтаваны волат натхнення: ён адразу ж стварыў адпаведную колькасць выцвержальных санетаў.

Сам Трурль у сувязі са сваім дасягненнем меў немалыя непрыемнасці. Класікі, пераважна старыя, мала яму шкодзілі, калі не лічыць камянёў, што рэгулярна разбівалі шыбы, ды некаторых рэчываў, не будзем называць іх, якімі аблівалі яго дом. Куды горш было з моладдзю. Адзін паэт наймаладзейшага пакалення, чые вершы вылучаліся вялікай лірычнай сілай, а ён сам – фізічнай, жорстка збіў канструктара. Пакуль Трурль лекаваўся ў шпіталі, падзеі развіваліся імкліва: не было ні дня без новага самагубства, без пахавання, перад варотамі шпіталя стаялі пікеты, і нават ужо чулася

страляніна, бо замест рукапісаў паэты ўсё часцей і часцей прыносілі ў торбах самастрэлы, разраджаючы іх у Электрабалта, сталёвай прыродзе якога кулі зусім не шкодзілі. Вярнуўшыся дадому, саслабелы і ў роспачы, канструктар аднойчы ўначы вырашыў уласнымі рукамі разабраць на часткі створанага ім генія.

Але калі ён, злёгку кульгаючы, наблізіўся да машыны, тая, згледзеўшы абцугі ў ягонай руцэ і адчайны бляск у вачах, вылілася такім гарачым лірычным маленнем пра міласэрнасць, што расчулены да слёз Трурль адкінуў інструменты і пайшоў да сябе, патанаючы па калені ў новых творах электрадуха, якія, месцамі сягаючы яму да грудзей, поўнілі ўсю залу шапатлівым папяровым акіянам.

Аднак, калі ў наступным месяцы прыйшоў рахунак за электрычнасць, спажытую машынай, у Трурля пацямнела ў вачах. Ён быў бы рады выслухаць парады старога прыяцеля Клапаўцыя, але той знік як скрозь зямлю праваліўся. Змушаны дзейнічаць на ўласны страх і рызыку, Трурль аднойчы ўначы адрэзаў машыне падачу току, разабраў яе, пагрузіў на касмічны карабель, вывез на адзін з невялікіх астэроідаў і там зноў змантаваў, далучыўшы да яе атамны рэактар у якасці крыніцы творчай энергіі.

Затым ён крадком вярнуўся дадому, але на гэтым гісторыя не скончылася, бо Электрабалт, не маючы магчымасці распаўсюджваць свае творы ў друкаваным выглядзе, стаў перадаваць іх на ўсіх радыёхвалях, чым прыводзіў экіпажы і пасажыраў касмічных ракет у лірычны слупняк, прычым асабліва далікатныя натуры зазнавалі таксама цяжкія прыступы захаплення з наступным атупеннем. Высветліўшы, у чым справа, кіраўніцтва касмічнай флатыліі афіцыйна звярнулася да Трурля з патрабаваннем неадкладна ліквідаваць прыналежную яму ўстаноўку, якая парушае лірыкай грамадскі спакой і пагражае здароўю пасажыраў.

Вось тады Трурль пачаў хавацца. А на астэроід выправілі манцёраў, каб яны запламбавалі Электрабалту лірычны выхад, але той аглушыў іх некалькімі баладамі, і яны не змаглі выканаць пастаўленае заданне. Паслалі тады глухіх, але Электрабалт перадаў ім лірычную інфармацыю на мігах. Сталі пагаворваць уголас пра неабходнасць карнай экспедыцыі або бамбаванні электрапаэта. Але тут урэшце машыну набыў адзін уладар з суседняй зорнай сістэмы і разам з астэроідам адбуксаваў у сваё каралеўства.

Цяпер Трурль мог вольна ўздыхнуць і зноў з'яўляцца свету. Праўда, на паўднёвым небасхіле раз-пораз успыхваюць звышновыя зоркі, якіх не памятаюць старажылы, і ходзяць упартыя чуткі, што магчыма гэта звязана з паэзіяй. Быццам паводле дзіўнага выбрыку згаданы кароль загадаў сваім астраінжынерам падключыць Электрабалта да сузор'я белых гігантаў, у выніку чаго кожны радок вершаў пачаў ператварацца ў гіганцкія сонечныя пратуберанцы. Такім чынам найвялікшы паэт Космасу агністымі выбліскамі перадае свае творы ўсім бясконцым галактычным прасторам адначасова. Гэтак той вялікі ўладар ператварыў Электрабалта ў лірычны рухавік грамады зорак, якія выбухаюць. Калі нават і ёсць у гэтым хоць часцінка праўды, усё гэта адбываецца занадта далёка, каб парушыць сон Трурля, які пакляўся ўсімі святымі ніколі больш не займацца кібернетычным мадэляваннем творчых працэсаў.

*Stanisław Lem, Wyprawa pierwsza A, czyli Elektrybałt Trurla*

пераклады

## Фёдар Цютчаў



...І верым вераю жывою,
І ў сэрцы радасць і святло!
Нібы эфірнаю струмою
Па жылах неба працякло!..

# Silentium

***Лірыка***

*Пераклад з рускай Міколы ГІЛЯ.*

**Слова ад перакладчыка**

Тым днём я, азіраючы кніжныя паліцы, запыніў чамусьці свой позірк на томіку лірыкі Ф.І. Цютчава. Рука пацягнулася зняць кніжачку. Узяў, разгарнуў. Выдадзена ў Мінску выдавецтвам “Вышэйшая школа” ў 1977 годзе. Агромністым, нечуваным на сённяшні час накладам – ажно 200 тысяч асобнікаў, у мяккай папяровай вокладцы.

Пачаў чытаць. Першы верш, другі, трэці... І гэтак захапіўся, што не ўгледзеў, як праглынуў усю кніжачку, да апошняе старонкі – пад дзве сотні вершаў і лірычных мініяцюраў. І быў так глыбока ўзрушаны, гэтак яны закранулі мяне, ляглі, як кажуць, на душу, аказаліся такімі суладнымі майму сённяшняму настрою – і ў асабістым, і ў грамадскім плане, што некалькі дзён жыў пад іх уражаннем, згадваючы і сам сабе паўтараючы ўпадабаныя радкі. І не адразу заўважыў, што паўтараю іх... па-беларуску, у родным слове...

Гэта было роўна год назад, таксама ў студзені, неўзабаве пасля навагодняга свята. Тады акурат і зрабіў першыя пераказы цютчаўскіх залацінак на нашай мове. А зараз вось завяршыў – пераагучыў увесь згаданы томік, усе сто семдзесят шэсць вершаў, сабраных у ім. Удаліся мне перастварэнні, вартыя яны, як кажуць, увагі чытача – дальбог жа, не рашаюся вызначаць: вопыт мой у гэтай справе вельмі і вельмі небагаты...

А тое, што праца гэтая, калі яна нават трошкі і ўдалая, нікому сёння не патрэбна, мяне не засмучае. Цютчава, нават Пушкіна сёння не чытаюць і на радзіме, у Расіі – сяды-тады трапляе ў рукі “Литературная газета”, яна вельмі часта і з вялікім болем піша пра гэта. Тым больш – у нас, ды яшчэ па-беларуску. Рабіў я гэта, бадай што, не для друку – для сябе, мо яшчэ для дзяцей ды ўнукаў. Рабіў усё з той жа думкаю паказаць (а хоць бы й самому сабе), сцвердзіць (насуперак нашым зласліўцам розных масцей), што мова наша – развітая і “культурная”, што на ёй можа гучаць нават такі адмысловы, тонкі, увогуле “элітарны” лірык, як Фёдар Іванавіч Цютчаў...

**Мікола ГІЛЬ**

### *З ЧУЖОЙ СТАРАНЫ*
### *(З Гейнэ)*

На поўначы змрочнай, на дзікай скале
Кедр адзінокі пад снегам бялее,
І соладка дрэмле ў імжыстай імгле,
І сон той люляе завея.
І юную пальму ён бачыць у сне,
Што ў дальніх абсягах на Ўсходзе,
Пад небам агністым, у сонцы й красе
Стаіць і цвіце,– на самоце...

*1823 – 1824*

### *ПРОБЛІСК*

Ці чуў ты ў цемрачы глыбокай
Зефірнай арфы лёгкі звон,
Калі апоўначы няўрокам
Стрывожыць струн драмаўшых сон?..

То скаланаючыя гукі,
То глуха-сціхлыя падчас...
Як быццам крык апошняй мукі,
У іх адбіўшыся, пагас!

Дыханне кожнае зефіра
Журбою выбухне струны...
Анёльская, ты скажаш, ліра
На доле прагне вышыні!

О, як тады з зямнога круга
Душа да вечнага ляціць!

Былое, быццам прывід друга,
К грудзям мы хочамі прытуліць.

І верым вераю жывою,
І ў сэрцы радасць і святло!
Нібы эфірнаю струмою
Па жылах неба працякло!

На жаль, не наш кон небажыцце,
Стамляемся мы хутка ў ім, –
Ці ж льга нікчэмнае драбніцы
Агнём натольвацца святым?

Ледзь толькі скінем на хвіліну
Мы ўладу сну чароўных сіл,
І, прыпадняўшыся, акінем
Трывожным зіркам небасхіл, –

І ацяжэлай галавою,
Асепленыя прамянём,
Зноў аддаемся не спакою,
А засынаем цяжкім сном.

*1825*

## ***ВЯСНОВАЯ НАВАЛЬНІЦА***

Люблю я навальніцу ў маі,
Калі вясновы, першы гром
З гарэзліва-вясёлым граем
Пад небным грукае шатром.

Грымяць раскаты маладыя,
Вось дожджык пырскнуў, пыл ляціць,
Павіслі перлы дажджавыя,
І сонца ніці залаціць.

З гары бяжыць паток няскорны,
Не моўкне ў лесе птушак гам,
І гам лясны, і шум нагорны
Утораць весела грамам.

Ты скажаш: ветраная Геба,
У Зеўса кормячы арла,

Громакіпячы кубак з неба
Скрозь хмаркі жартам праліла.

*1828, 1854*

### *ЛЕТНІ ВЕЧАР*

Распалены ўжо сонца шар
Зямля з чала свайго скаціла,
І мірны вечара пажар
Марская хваля затапіла.

І зоркі светлыя ўзышлі
І ўраз павіснуты над намі
Шацёр нябесны прыўзнялі
Сваімі воглымі плячамі.

Рака эфірная паўней
Цячэ між небам і зямлёю,
І грудзі дыхаюць вальней
Пасля пякельнага застою.

І хваляванне, быццам ток,
Прабегла жыламі прыроды,
Бы ступні яе цёплых ног
Абмылі ключавыя воды.

*1828*

### *БЯССОННЕ*

Гадзінніка тужлівы стук,
Стамляльнае начы цячэнне!
Для ўсіх чужое мовы гук
І зразумелай, як сумленне!

Хто слухаў без журботы з нас,
Сярод сусветнага маўчання,
Глухія часу енк, стагнанне,
Прарочы развітальны сказ?

Мяркуем: свет асірацелы
Непераможны Кон спасціг –
Мы, ў барацьбе, прыродай цэлай
Пакінуты на нас саміх;

І нашае жыццё прад намі,
Як прывід, на краі зямлі,
І з нашым векам і сябрамі
Бляднеецца ўдалечыні;

І племя новае тым часам
Няўзнак пад сонцам расцвіло,
А нас, сябры, і час наш разам
Даўно нябытам замяло!

Адно, абрад, бы развітальны,
Здзяйсняючы ў паўночны час,
Металу голас пахавальны
Аплаквае часамі нас!

*1829*

### АПОШНІ КАТАКЛІЗМ

Калі апошні прыйдзе час прыроды,
Разбурыцца ўсіх частак склад зямных:
Усё відочнае пакрыюць зноўку воды,
І боскае аблічча будзе ў іх!

*1829*

* * *

Ты яго бачыў сярод знаных свету –
То хмуры, то вясёлы рагатун,
Рассеяны, капрызны, то – маўчун,
Такі паэт – і зганьбіў ты паэта!

Вунь месяц: днём яго мы ці й згадаем,
У небе ён зусім ушчэнт знямог, –
А ноч прыйшла – і, прамяністы бог,
Ён зззяе над прыспаным гаем!

*1829 – 1830*

### ПІЛІГРЫМ

Жаданы Зеўсу бедны старац,
Над ім святы ягоны схоў!..
Цяпельца хатняга выгнанец,
Ён госцем добрых стаў багоў!..

Свет дзіўны ўвесь, іх рук тварэнне,
З найрозным явішчам сваім,
Ляжыць развіты перад ім
На ўцеху, спожыў, павучэнне...

Праз вёскі, месты і палі
Бялее-сцелецца дарога, –
Яму адкрыта шыр зямлі,
Ўсё бачыць ён і славіць бога!..

*1830*

* * *

Тут, дзе так вяла круг нябесны
На глебу посную глядзіць, –
Тут, сном скаваная жалезным,
Прырода стомленая спіць...

І толькі бледныя бярозы,
Кустоўе чэзлае ды мох,
Як ліхаманкавыя крозы,
Змярцвелы ўзрушваюць аблог.

*1830*

### ЗАСПАКАЕННЕ

Гром адгрымеў – ляжаў і йшчэ курыўся
Высокі дуб, забіты перунамі,
І шызы дым з галін ягоных віўся
Па зелені, асвежанай цуркамі.
А ўжо ж гучней і весялей даўно
У гаі песня птушак загучала,
І яркае вясёлчына вязьмо
Зялёныя вяршыні залучала.

*1830*

### ЦЫЦЭРОН

Аратар рымскі гаварыў
Між бур грамадскіх і трывогі:
“Я позна ўстаў – і край дарогі
Заспеты ноччу Рыма быў!”
Так!.. ды, сыходзячы са славай,
З Капіталійскай вышыні
Ва ўсю вялікасць бачыў ты
Згас зоркі ейнае крывавай!..

Шчаслівы той, наведаў хто
Свет у хвіліны ракавыя!
Яго пазвалі ўсесвятыя
Як субяседніка за стол.
Ён божага зазнаў там хлеба,
У іх савет дапушчан быў –
І зажыва, жыхар як неба,
Ён з чашы іх бяссмерце піў!

*1830*

* * *

Пясок сыпучы па калені...
Мы едзем – позна – меркне дзень,
І соснаў, па дарозе, цені
Ужо ў адзін зліліся цень.
Бор усё больш густы і змрочны –
Як тне журбою цемната!
Ноч хмурая, як звер ставочны,
Віжуе з кожнага куста!

*1830*

* * *

Той дзень – на яве, а не ў сне –
Заранкай шчасця стаўся мне:
Перада мной яна стаяла
І часта дыхала, маўчала,
Палалі шчокі ўсё ярчэй,
За барвы раннія зырчэй!
І тут, як сонца маладое,
Любві прызнанне залатое
Пачуў я... Ейны ціхі шэпт...
І мне адкрыўся новы свет!..

*1830*

## АЛЬПЫ

Скрозь блакітны прыцем ночы
Альпы снежныя глядзяць;
Памярцвелыя іх вочы
Сцюжным жахам ледзяняць.
Сілай нейкай счараваны,
Да ўзыходжання зары
Дрэмлюць, грозныя, ў тумане,
Быццам паўшыя цары!..

Але Ўсход запунсавее,
Чарам гібельным канец –
Першы ў небе праяснее
Брата большага вянец.
І бяжыць прамень агністы
На малодшых спакваля,
І блішчыць ў вянцах святлістых
Ўся ўваскрэслая сям'я!..

*1830*

## *ВЕСНАВЫЯ ВОДЫ*

Яшчэ бялее ў полі снег,
А воды ўжо шумяць вясной –
І будзяць бераг, яшчэ ў сне,
І абвяшчаюць покліч свой...

І покліч іх – ва ўсе канцы:
“Вясна ідзе! Вясна ідзе!
Мы маладой вясны ганцы,
Вясёлы авангард яе!”

Вясна ідзе, вясна ідзе!
І ціхіх, цёплых майскіх дзён
У светлай лёгкай чарадзе
Прыход жаданы ўжо відзён.

*1830*

## *SILENTIUM!* *

Маўчы, скрывайся і таі
Свае пачуцці, мары, сны –
Хай у душэўнай глыбіні
Заходзяць і ўстаюць яны
Маўкліва, зоркі бы ўначы, –
Любуйся імі – і маўчы!

Як сэрцу выказаць сябе?
Камусь як зразумець цябе?
Чым ты жывеш, ён ці ўясніць?
Хлусня ёсць рэкнутая мысль.
Кранеш – узбоўтаеш ключы,
Жывіся імі – і маўчы.

Адно ў сабе ты жыць умей –
Ёсць цэлы свет ў душы тваей
Таемных і чароўных дум;
Аглушыць вонкавы іх шум,
Праменні згасіць час начны, –
Іх цені слухай – і маўчы!..

*1830*

---

* Маўчанне! (*лац.*).

## *ВЯСНОВАЕ СУПАКАЕННЕ*

О, не кладзіце мяне
Ў зямлю сырую –
Скрыйце, зарыйце мяне
Ў траву густую!

Хай ветру лёгкага павеў
Шалясціць травою,
Даносіцца жалейкі спеў,
Святлістых воблакаў засеў
Плыве нада мною!..

*1832*

## *PROBLEME**

З гары скаціўся камень у даліну.
Як ён упаў – час сведак не пакінуў.
Сарваўся ён з вяршыні сам сабой,
Ці скінуты быў воляю чужой?
Стагоддзі праляцелі без адхлання:
Ніхто яшчэ не вырашыў пытання.

*1833, 1857*

---

* Праблема (*франц.*).

Адам Глобус



…ці ведаюць геніяльныя пісьменнікі, што яны геніяльныя?..

# Уладзімір

## *Словы пра пісьменніка Уладзіміра Караткевіча*

### «Чорт…»

Уладзімір Караткевіч любіў розных чарцей і збіраў іх: цацачных, выразаных з дрэва і вылепленых з шамоту. Сярод казак, напісаных Караткевічам, ці не найлепшая – «Чортаў скарб». Часам, каб надаць размове экспрэсіі, Уладзімір Караткевіч казаў: «Чорт цябе пабірай!» Ён ніколі не прамаўляў звыклае «Чорт цябе задзяры!» ці «Чорт цябе забяры!», у Караткевіча гучала толькі запамінальнае «пабірай». Ад іншых я не чуў гэты выраз у такім выглядзе, а таму аднойчы спытаў у дзядзькі Валодзі: «Чаму “пабірай”, а не “задзяры” ці “забяры”?» І Караткевіч запэўніў мяне, што «Чорт цябе пабірай!» – гэта менавіта па-беларуску.

Дарэчы, свой дэтэктыўны раман «Чорны замак Альшанскі» Караткевіч пачынае так: «З чаго мне, чорт пабірай, пачаць? З таго прадвесня, калі за акном было сутонне і мокры снег?..» Сапраўды, усё гэта так па-беларуску, асабліва пра сутонне і мокры снег.

## Рамантызм



*Малюнак Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА.*

Паэт Уладзімір Караткевіч захапляўся рамантызмам. Ён любіў дзевятнаццатае, наскрозь рамантычнае, стагоддзе, пісаў пра герояў паўстання, якое загарэлася ў 1863-м. У працоўным кабінеце Караткевіча над сталом вісеў партрэт паўстанца Кастуся Каліноўскага. Таму многія залічваюць і самога Уладзіміра Караткевіча ў шэрагі рамантыкаў. Гэта памылка, бо паэт Караткевіч належыць да іншага часу і зусім да іншай генерацыі, ён з пакалення постмадэрністаў. Ягоныя наследаванні Артуру Конан Дойлу і Ўілкі Колінзу, Аляксандру Дзюма і Вальтэру Скоту – постмадэрнісцкія імправізацыі на тэмы, узнятыя велічнымі рамантыкамі. «Я – беларускі Вальтэр Скот!» – паўжартам казаў сябрам Караткевіч. У яго, як і мусіць быць у постмадэрніста, усё не проста літаратурнае, а яшчэ і тэатральнае, і кінематаграфічнае. Караткевіч – беларускі постконандойл і наш поствальтэрскот. У драматычным часе рамантыкаў рэальнага Каліноўскага асудзілі, павесілі і пахавалі на гары Гедыміна, што ў Вільні. У рамане Караткевіча Кастусь Каліноўскі ўсё яшчэ жыве і ўсё яшчэ змагаецца за сваю і тваю Беларусь.

## Павіяны

Неяк Караткевіч расказваў пра свайго выкладчыка ў Маскоўскім літаратурным інстытуце. Той выкладчык запомніўся яму адным ускрыкам. Калі ён заходзіў у аўдыторыю, а студэнты шумелі, ён ускрыкваў: «Банда павіянаў! Вы не людзі, вы – банда павіянаў!..» Расказваючы пра гэтага выкладчыка, Караткевіч заплюшчваў вочы і сам крычаў на ўсю кватэру: «Вы не людзі, вы – банда павіянаў! Нічога вартага з вас не атрымаецца...»

Крык Караткевіча і «банда павіянаў» мне згадаліся, калі я са свайго віленскага гаўбца глядзеў на гурт студэнтаў, якія кіраваліся па Завальнай у бок Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Гэтых студэнтаў яшчэ называюць егэушнікамі, з-за абрэвіятуры ЕГУ. І ў той момант мне захацелася ўслед за Караткевічам крыкнуць: «Банда егуанаў!» Не крыкнуў, але думаю, што «е-гэ-у-шні-кі» гучыць горш за мілагучнае «е-гу-а-ны».

## УА і УК

Караткевіч любіў парадак. Навядзенне парадку выяўляла лішнія рэчы, часопісы і кнігі. На лішніх кнігах Караткевіч рабіў надпісы і раздорваў іх сябрам і знаёмым. Так да мяне патрапіла некалькі альбомаў па мастацтве. На адным з іх быў надпіс: «УА і УК і мастацтва краін Магрыба, глядзіш, і зачаруюць свет. Уладзімір, 31 лістапада 80 г.». УА – Уладзімір Адамчык, УК – Уладзімір Караткевіч. Мастацтва Магрыба згадвалася, бо альбом быў якраз яму і прысвечаны.

Наследуючы традыцыі, запачаткаванай Караткевічам, я таксама люблю наводзіць парадак у сваім кнігазборы. Нешта з кніжак я дару людзям, з якімі таварышую. «Искусство стран Магриба. Древний мир» я падараваў Уладзіміру Арлову, які захапляецца старажытнасцю і страшэнна любіць творчасць Караткевіча, з

якім так і не паспеў пазнаёміцца. Дарэчы, разам з альбомам я прапанаваў Арлову і легенду, згодна з якой ён стане казаць, што «УА» на тытульнай старонцы не «Уладзімір Адамчык», а «Уладзімір Арлоў».

Доўгі час Арлоў захоўваў падарунак у сябе, а потым перадаў яго ў фонд Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны. (Ці карыстаўся Арлоў легендай? Не ведаю...) У фондзе аўтограф Караткевіча сфатаграфавалі і перадалі ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое надрукавала яго ў 18-м томе збору твораў пісьменніка пад нумарам 1.8. Ніякіх каментарыяў да аўтографа няма, але ёсць подпіс: «Мал. 1.8. Экслібрыс У. Караткевіча. 1980 г.» Экслібрысам у подпісе назвалі бібліятэчную пячатку, якую я паставіў побач з аўтографам. Дарэчы, пячатку тую выразаў і падараваў мне брат Міраслаў. Калі папрыглядацца да яе ўважліва, то можна пабачыць літару «А». Спадзяюся, што ў адным з наступных тамоў збору твораў Караткевіча з'явіцца невялічкі каментарый пра памылкі, зробленыя на 11-й старонцы ў 18-м томе.

## Рукапіс

Апошнія гады жыцця Уладзімір Караткевіч адчуваў сябе кепска. Ён нікуды не хадзіў, сядзеў дома, хварэў. Таму, калі ён зайшоў у нашу кватэру з рукапісам кнігі вершаў «Быў. Ёсць. Буду» і папрасіў майго тату занесці папку ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», ніхто не здзівіўся. Тата паабяцаў, што цягам тыдня занясе рукапіс.

Праз тыдзень Караткевіч убачыў сваю папку на нашым піяніна і пацікавіўся, чаму тата яшчэ не занёс рукапіс. Тата сказаў, што яго паход у выдавецтва адклаўся з-за іншых справаў, а калі ёсць пільная патрэба, дык рукапіс у выдавецтва магу занесці і я. І тады Караткевіч папрасіў мяне аднесці рукапіс Міхалу Дубянецкаму ці Рыгору Барадуліну. Я перадаў вершы Дубянецкаму.

Кніга выйшла пасля смерці дзядзькі Валодзі. Афармленне рабіў найлепшы сябра Караткевіча – Пётр Драчоў. У кнізе шмат фотапартрэтаў аўтара, зробленых Валянцінам Ждановічам. Дырэктар выдавецтва Міхал Дубянецкі паспрыяў добраму паліграфічнаму выкананню кнігі. Гартаючы і перачытваючы «Быў. Ёсць. Буду», я з прыемнасцю згадваю і свой зусім маленечкі ўдзел у лёсе выдатнага зборніка.

## Дубянецкі

Пісьменніку, каб стаць класікам, трэба мець выбітнага выдаўца, які верыць у яго талент і збярэ ды надрукуе большасць з напісанага ім. Уладзіміру Караткевічу, як і шмат каму з беларускіх літаратараў, пашанцавала, калі выдавецтва «Мастацкая літаратура» ўзначаліў Міхал Дубянецкі. Караткевіча Дубянецкі цаніў, можна сказаць, што ён яго ставіў значна вышэй за ўсіх тагачасных літаратараў. Менавіта Дубянецкі выдаў кнігай раман Караткевіча «Нельга забыць»,




*Мурал да 90-годдзя У. Караткевіча. Орша. Фота* ***Inerfax.by.***

які пасля часопіснай публікацыі праляжаў у выдавецкіх шуфлядах дваццаць гадоў. Міхал Дубянецкі выдаў у палепшаным аздабленні і дэтэктыў «Чорны замак Альшанскі». Найлепшая кніга паэзіі Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» выйшла дзякуючы таму ж Дубянецкаму. Першы дзевяцікніжны збор твораў Караткевіча таксама рабіўся пад кіраўніцтвам Міхала Дубянецкага.

Тое, што Уладзімір Караткевіч – любімы пісьменнік беларускага народа, вядома ўсім, але без самаахвярнай і шмат у чым рызыкоўнай працы, якую правёў Дубянецкі, гэтая любоў не была б такой шырокай і такой своечасовай. Калі паглядзець на іншых беларускіх пісьменнікаў, чые імёны ўпісаны ў шэраг нашых класікаў, дык далёка не ўсім пашанцавала з выдаўцом так, як Караткевічу. Свайго выдаўца ўсё яшчэ чакае спадчына Міхася Стральцова, як і спадчына Анатоля Сыса чакае грунтоўнага акадэмічнага выдання з каментарыямі. У мяне няма сумневаў, што Стральцоў і Сыс дачакаюцца сваіх таленавітых і адказных выдаўцоў, як Уладзімір Караткевіч у свой час дачакаўся Дубянецкага.

## Свечачка

Шмат featured глупства пішуць пра класіка беларускай найноўшай літаратуры Уладзіміра Караткевіча. Стараюся не звяртаць увагі на такія глупствы і не раздражняцца з-за іх. Праўда, не заўсёды атрымліваецца схаваць раздражненне і расчараванне.

Надоечы прачытаў у эклектычных нататках Андрэя Скурко, што нібыта ў працоўным кабінеце Караткевіча пад фотапартрэтам Кастуся Каліноўскага гарэла лампадка. Глупства несусветнае тыражуе Скурко ў глянцаваным часопісе пра гісторыю! Якая лампадка? Нават пад абразамі ў кватэры нашых суседзяў Караткевічаў ніколі не гарэлі лампадкі. Час у Беларусі быў безлампадкавы. Жонка Караткевіча, цётка Валя, працавала ў Акадэміі навук і была членам камуністычнай партыі. Кажу як сведка, які пражыў побач з любімымі Караткевічамі шмат гадоў.

З тых даўніх часоў мне помніцца не лампадка, а свечачка, якая гарэла пад партрэтам Караткевіча, ужо нябожчыка, у кватэры Дубянецкіх...

Уладзімір Караткевіч і Міхал Дубянецкі належалі да слаўнага пакалення шасцідзясятнікаў. Акрамя ўсяго слаўнага і выдатнага ў прадстаўнікоў таго пакалення часта і загана мелася: яны шмат пілі і курылі. Выпівалі і пакурвалі ледзь не ўсе. Пілі так многа, што мне, самаму маладому, не раз даручалі праводзіць захмялелых старэйшых мужчынаў дахаты.

Некалькі разоў я вёў дамоў і выдаўца Дубянецкага. Смерць Караткевіча моцна яго замаркоціла, так моцна, што на дзявяты дзень пасля смерці дзядзькі Валодзі ён узяў лішнюю чарку. Каб нічога кепскага з Дубянецкім не адбылося, я правёў яго ад дзвярэй кватэры Караткевічаў да ягоных дзвярэй. Па дарозе на свежым летнім начным паветры Міхал Фёдаравіч працверазеў і запрасіў мяне ў сваю кватэру, каб паказаць сямейны сакрэт – «алтар» генія, які зрабілі ягоныя дочкі Ірына і Галіна. На пісьмовым стале ў «алтары» стаяў фотапартрэт дзядзькі Валодзі, ляжалі яго кнігі з аўтографамі, а перад партрэтам на белым сподачку гарэла кароценькая свечачка. «Мае дочкі любяць Уладзіміра Караткевіча. Ты не паверыш, але, калі Караткевічу далі прэмію імя Мележа, яны мне сказалі, што гэта Мележу трэба было даваць прэмію імя Караткевіча...»

## «Ногі...»

Некаторыя з нас моцна стамляюцца за жыццё. Вядома, стамляюцца ўсе, але той, хто працаваў за траіх, стамляецца значна болей. Караткевіч заўсёды працаваў шмат. Здаралася, што ён пісаў па васямнаццаць гадзін у дзень. Таму ў свае пяцьдзясят

выглядаў на ўсе шэсцьдзесят. Раніцай ён мог пазваніць у дзверы нашай кватэры і папрасіць маю маці зварыць вялікі кубак чорнай кавы. Маці варыла яе ў турцы на маленечкім агні. Караткевіч закурваў папяросу, дыміў і скардзіўся на стомленасць. Выпіўшы каву і падзякаваўшы, ён казаў: «Ногі, мае ногі, нясіце маю сраку!» Маці смяялася, смяяўся Караткевіч. Ён смяяўся, і смех яго нават маладзіў.

## Брат Хрыста

Я даўно не займаюся вытворчасцю дэтэктыўнай літаратуры. Надакучыла. Толькі не так проста выйсці з тэмы, у якой ты прабыў не адзін дзясятак гадоў. Сюжэты самі прыходзяць, самі складаюцца, самі дзівяць нечаканымі паваротамі.

Убачыўся мне сюжэт і пра старажытнага следчага, якому Понцій Пілат даручыў завесці крымінальную справу пра ўваскрашэнне Хрыста. Следчы (назавём яго Саўл) апытаў сведак, старанна аднавіў карціны падзеяў: зняцце з крыжа, укладанне ў труну і з'яўленне Хрыста народу. Справа скончылася тым, што следчы Саўл знайшоў малодшага брата Ісуса, які выдаваў сябе за паўсталага з мёртвых Хрыста. Такое адкрыццё цалкам задаволіла Пілата і ягоны імператарскі Рым.

Не стану разганяць на раман гэты дзіўны сюжэт, не стану ім больш займацца. Вытворчасць раманаў я назаўжды (спадзяюся, што назаўжды...) пакінуў у мінулым. Скажу толькі, нашто я запісаў сюжэт пра старажытнага следчага Саўла. Запісаў, бо ён выглядае больш заземлена, укаранёна і грунтоўна за сюжэт рамана з прызямленнем Хрыста ў Гародні, які напісаў наш класік Уладзімір Караткевіч, і за сюжэт «Хрыстос гаворыць па-беларуску», пра які нястомна кажа Павел Севярынец. У вобразе брата Ісуса Хрыста, хто б што ні сказаў, ёсць міфастваральная паэзія, якая нараджаецца незалежна ад майго ці твайго жадання.

## Ягамосць

Ці ведаюць геніяльныя пісьменнікі, што яны геніяльныя? Не ўсе... З усіх геніяльных, каго я ведаў асабіста, толькі два паэты ніколі не сумняваліся ва ўласнай абранасці. Гэта Анатоль Сыс і Уладзімір Караткевіч. Яны казалі пра сваю выбітнасць, падкрэслівалі сваю выключнасць, культывавалі сваю яркую непаўторнасць. Сціпласць – не іх грэх. Ягамосць і самаўпэўненасць – іх рысы. Часам падобнае самазахапленне выглядала тэатральным і гратэскным, але нават у карыкатурных формах яно заставалася пераканаўчым. Эпігоны Караткевіча і Сыса як не маглі, так і не могуць паўтарыць і нават проста сыграць іх паводзіны. Эпігонам не хапае брутальнасці, якая перапаўняла жыццё Анатоля Сыса, і экстравагантнасці Уладзіміра Караткевіча, які пазіраў на свет рознакаляровымі вачыма.

Сяргей Ваганаў



...як падлічыць

кошт памяці?..

# Шматкроп'і

*Бязмежны напачатку Час жыцця,*
*Каб Творца меў яго дзеля даробку.*
*А на мяжы жыцця і небыцця*
*Бязмежны Час сціскаецца ў Кропку.*

## Прывід у канцы калідора

У 60-70-х гадах мінулага стагоддзя вакол «Знамёнкі» («Знамя юности») у старым, даваенным яшчэ, Доме друку акрамя сталых аўтараў таўкліся людзі, якія ў рэдакцыі не працавалі. Збіраліся ў калідоры, курылі, «травілі» анекдоты, спрачаліся аб літаратуры і палітыцы, ствараючы атмасферу інтэлектуальнага дысідэнцтва.

Амаль усе яны нешта пісалі, пілі ўсе...

Адным з іх быў В., праз недасягальную эрудыцыю і бязлітасную крытыку якога прайшла ледзь не палова тагачаснай «Знамёнкі». Здаралася, ён заставаўся начаваць на падрапанай

скураной канапе ў карэктуры. Аднойчы пайшоў сярод ночы ў белым споднім да прыбіральні.

– Привидение! – залямантаваў на другім канцы даўжэзнага, у паўзмроку, калідора дзяжурны міліцыянт. І самлеў. Нават “хуткую” выклікалі...

...Сёння Дом друку выстаўлены на продаж. Разам з прывідамі...

## Ураган, Бабай і лазня

Менск, 1944-ы... Восеньскі вецер раз’юшана грукоча жалезам па даху, вішчыць па завуголлях, хістае за вакном дрэвы...

Цётка Надзея туліць мяне да сябе, а потым пачынае апранаць у нейкую лазню. І вось тут палохаюся да енку. Бо лазня ўяўляецца жытлом жахлівага Бабая, які няўмольна сочыць за маімі паводзінамі...

Я ўпіраюся, нават б’юся... Да таго часу цётка заўжды купала мяне ў тазіку, ставіла ў закутку пакойчыка, палівала з глечыка цёплай вадой... А тут – вецер, цемра, таямнічая лазня, Бабай...

Страх сцішыўся адразу, як толькі скрозь гарачую вільгаць я ўбачыў мноства аголеных жаночых целаў.

Мо ўпершыню да маёй дзіцячай душы дакранулася сапраўдная прыгажосць...

## Вось кулі прыляцелі…

Янак... Па-ваўчынаму вострыя вушы і калючы натапыраны позірк. Усё дрэннае, што здаралася ў вёсцы, – ад вароны, кінутай у комін, да рабавання крамы – чаплялася на яго.

– Дапамажыце, настаўнік, загіне хлопец, – прасіла з-пад зашмальцаванай коўдры хворая маці. – Каб жывы быў бацька...

Бацька Янака глядзеў з пажоўклых фотаздымкаў польскага жаўнера. Вось трымае пад аброць каня... А вось паклаў на калені шаблю...

...Ён загінуў у 1953-м, калі ягоны атрад “лясных братоў” абклалі ў лесе з усіх бакоў.

Праз дзесяць гадоў Янак прывёў мяне на паляну ў лясным гушчары.

Паўзруйнаваныя зямлянкі, рэшткі амуніцыі, сляды ад вогнішчаў, трэснулыя катлы, іржавыя вёдры...

У дрэвах – пазелянелыя дзіркі ад куль...

Я падумаў тады: хто ж каго насамрэч вучыць гісторыі?

З якой яе далечыні прыляцелі тыя кулі?..

## Людзі, коні і туфлікі

У музеі Айчыннай вайны ўбачыў трыптых “Рыцар свабоды” – страшыдла-кентаўр з дзідай і на капытах. Глядзеў я на “вызваліцеля”, і згадалася, як у верасні 1939 года матуля, пакінуўшы дачку сябрам, рушыла з войскам у Пінск ствараць і рэдагаваць “Палескую праўду”. Газета існуе, дарэчы, дасюль. Першы сход. Стары габрэй наборшчык: “Мадам, я правільна зразумеў, што генеральная лінія партыі – гэта нібыта маставая?” – “Так, правільна”. – “Але ж, мадам, па маставой ходзяць толькі коні. А людзі – справа і злева па тратуарах...”

Увечары маці прыдбала ў краме серабрыстыя туфлікі і сцягнула з ног вайсковыя боты.

Так і хадзіла па пінскіх ходніках – у серабрыстых туфліках і шынялі...

## Літоўскі акцэнт

Збіраюся на Куршскую касу. Першая думка – не забыцца на пад'ездзе да Клайпеды скінуць хуткасць са 130 да 100.

Аднойчы ўжо давялося пасядзець у паліцэйскім аўто, мармытаць, што літаў яшчэ не маю, што знак засланіла іншае аўто, што... Словам, прабачце, больш не буду.

Паліцыянт, бялявы велікан, цярпліва слухаў маё маленне, і раптам прамовіў: "Как пожиВаете?"

Ну, нарэшце... праняло... зацікавіўся нашым жыццём...

Хвілін пяць ён моўчкі слухаў, як цяжка жывецца пры дыктатуры... Не тое, што ў Літве...

– Как пожеВаете? Тут платите или в банк?

Куды падзенешся? Адшукаў літы...

Але ўсё яшчэ шукаю адказ на пытанне: калі ўжо будзем "пожиВать" так, як "пожеВаем"?..

## За перамогу над Германіяй

Раз на два-тры месяцы нешта балюча штурхае ў сэрца, калі, адчыняючы паштовую скрыню, бачу вялізны белы канверт. Так і ёсць: зноў бацьку. Прозвішча, адрас, паштовыя пячаткі...

Бацька памёр у 1996-м. За прамінулыя гады я не аднойчы паведамляў нямецкай амбасадзе, што "адрасат выбыў". Але канверт з часопісам "Deutschland" акуратна кладзецца ў скрыню.

Не ведаю, калі і чаму бацька стаў атрымліваць гэты часопіс пра сучаснае жыццё ў Германіі. Мо таму, што быў журналістам, ваяваў і стаў пераможцам? Нават медаль "За перамогу над Германіяй" ёсць.

Апошняе, відавочна, перадусім. Бо як інакш Германія магла даць справаздачу, што ён ваяваў з нацызмам і перамог не дарма?..

## Менскі сервіс

Я даўно не звяртаў увагі на будынак насупраць КДБ – ці ёсць там цяпер цырульня. Калі няма, усё адно захоўваецца ў памяці, як у 50-я падлеткам хадзіў у яе стрыгчыся, чакаючы, пакуль дойдзе чарга да Фімы.

Чарга звычайна складалася з маўклівых, добра апранутых мужчынаў, якіх мала цікавіла Фімава балбатня пра жыццё да вайны і пасля. Пра гета, ад якога, дзякуй Богу, застаўся толькі шрам на твары, Фіма маўчаў... Ну, а працу сваю завяршаў прымаўкай. Тэатральным жэстам здымаў з кліента прасціpадла: "Інтэліджэнс сервіс!"

Толькі студэнтам я даведаўся, што гэта назва брытанскай выведкі. І зразумеў, хто былі маўклівыя, у аднолькавых цёмных гарнітурах, мужчыны ў чарзе...

## Асечка

Восень на сыходзе... Глыбокі змрок... Як заўжды па суботах пайшоў да Арнольда, сябра, які настаўнічаў у суседняй вёсцы. Але не заспеў яго. Чакаў, чакаў, слухаў, як вые бура за вокнамі і патрэсквае ў "Спідоле" начны эфір... Раніцай пайшоў да Соні.

... – У Менск з'ехаў... Ноччу гляджу – святло ў настаўніцкай, Арнольд, нешта піша. Што там рабіць ноччу? Пайшла да яго, а ён занерваваўся... выйшаў... вяр-

нуўся: “Ідзі дахаты...” – кажа. А пад раніцу прыбег: “Еду ў Менск”... Слухай, схадзі ў настаўніцкую, там чамусьці стрэльба... нешта я з ёй зрабіла...

У настаўніцкай дробнакаліберка на канапе. Затвор зачынены. Пацягнуў – пуста. І раптам бачу – на падлозе паблісквае патрон. Цэлы.

...Праз гады, на свой 70-гадовы юбілей, Арнольд, вядомы навуковец, у добрым падпітку распавёў мне пра той выпадак: “...Бог уратаваў... Калі б не асечка...”

“Ага, асечка, – моўчкі ўспомніў і я той эпізод, пра каторы Арнольду ніколі не казаў. – Бог уратаваў... Ды калі б Соня не пагуляла з затворам...”

А потым падумаў: магчыма, і Бог.

...Пабраліся Арнольд і Соня ў траўні 1964-га. А здарылася “асечка” ў ноч на 23 лістапада 1963 года, калі быў забіты Джон Кенедзі...

## Барыкады Хеопса

– Да тут у вас настоящие баррикады Хеопса!

Я пачуў гэта на сталічным Камароўскім рынку, у радах, дзе ўзвышаюцца горы заморскай садавіны і гародніны для адпаведных пакупнікоў з адпаведнымі грашыма. Бальзакаўскага ўзросту дамачка, рызыкуючы зламаць высачэзны абцас, намагалася ўручыць гандлярцы 100-рублёвую купюру, не дацягваючыся да працягнутай насустрач рукі. З-пад густога макіяжу на цалкам правінцыйнай фізіяноміі прабіваўся пасярод марознай зімы медна-чырвоны загар.

– І дзе вы так загарэлі? – дацягнуўшыся нарэшце да купюры, запытала гандлярка.

– В Египете...

– Дзе?! – я не вытрымаў, зарагатаў.

Чорт мяне вымусіў рагатнуць! Такой колькасці і якасці адборнай лаянкі на свой адрас я не чуў за ўсё жыццё...

## Бацькавы партсігар

Кожны дзень у пад’ездзе раскідваюцца паперкі з рознымі прапановамі. Вось спакуслівы выклік: “КУПЛЮ ДОРАГА!” – розныя артэфакты часоў СССР. У тым ліку партсігар.

...Адчыніў шуфлядку, дастаў франтавы бацькаў партсігар. Колькі дасць пакупнік за кавалак дзюралюмінію? Ну, не зусім кавалак. З таго дзюралюмінію ў Казані, куды матуля і я, толькі народжаны, трапілі ў эвакуацыю, самалёты рабілі, а з таго, што пасля самалётаў заставалася, – партсігары... Кавалак! На тым “кавалку” – фотаздымак пад зжаўцелым плексігласам, мама і я. Мне трэці год, я моцна абхапіў маму за шыю. І вершык у лісце ад бацькі з фронта: “Есть у папы портсигар. В нем махорочный товар. Смотрят с крышки прямо Сережа и мама”...

– І якую ты пазначыш цану? – пытаецца са здымка мама.

Што ж, падлічыць кошт дзюралю можна. Нават па цэнах 1941 года...

А як падлічыць кошт памяці?..

## Восеньскі кампот

...Ледзь не сутыкнуўся з суседкай ля пад’езда. Расчырванелая, шпарка крочыць насустрач, трымаючы ў руках стары жаночы капялюшык, з коптурам набіты цвёрдымі, нібыта дзіцячыя кулачкі, зялёнымі яблычкамі. Адзін зваліўся, пакаціўся па асфальце, другі... Я кінуўся падымаць: “Гэта ж дзічкі, навошта вам?” – “А кампот навару... Даўно не было кампоту”...

Калісьці тут, у самым цэнтры сучаснага Менска, здаўна квітнелі сады на прыватных сялібах. У 60-х мінулага стагоддзя і хаты, і сады пайшлі пад сякеру і нож бульдозера. Але, дзякуй Богу, захаваліся дзе-нідзе яблыні. Здзічэлі, праўда, але ў вясну квітнеюць, а восенню звонка сыплюцца яблычкамі на асфальт.

...Дзівосная, несканчоная была сёлета восень. Няма на што наракаць...

## Калгасная праўда

1965 год. Даніла Еўзікаў, мой першы настаўнік у газетнай справе, на пытанне “А што такое шапка?” моўчкі адчыніў шуфлядку пісьмовага стала і працягнуў папярэднюю “Сельской газете”, куды я толькі ўладкаваўся, “Колхозную правду”.

– Вось, глядзі, – ён разгарнуў сжаўцелую паперу, – гэта і ёсць “шапка”...

Уверсе аршыннымі літарамі праз дзве старонкі заклік: “ЛЕКЦИИ – КОЛХОЗНИКАМ, ХЛЕБ – ГОСУДАРСТВУ!”...

Між тым, тая “шапка” ў адрозненне ад сучасных, была праўдай без усялякага словаблудства. Больш выразнай дзяржаўна-ідэалагічнай канструкцыі я не сустракаў...

Еўзікаў быў негаваркім, знешне сумным, але вельмі з’едлівым чалавекам. І сёння, калі бачу так званую “сацыяльную рэкламу” ці гляджу БТ, узгадваю яго глыбока схаваную ў вачах усмешку...

## Чорны пакет

Раніцай заўважыў ля суседскіх дзвярэй чорны, завязаны крыж-накрыж, як жаночая хустка, пакет. Кінуў позірк ды пайшоў далей па нейкай дробнай справе.

Вечарам пакет нерухома стаяў на тым жа месцы...

Я цісканулў суседскі званок.

– ...Чулі? – суседка зашпіліла на халаце апошні гузік. – Расстралялі... Я б за такое (выбух у метро – *С.В.*) на месцы расстрэльвала б...

– Ваш? – я паказаў на пакет. – Увесь дзень стаіць...

– А я думала ваш, – суседка баязліва саступіла ў кватэру. – Можа, сапёраў выклікаць?.. Пачакайце, што вы робіце?!

Я нахіліўся і рашуча развязаў “хустку”. Бліснула нейкае шкло, узняўся слупок пяршучага пылу... Смецце, звычайнае смецце. Толькі і ўсяго...

## Год Свінні

Менск, канец снежня, ранішні змрок. Мне пяць, пайшоў ужо шосты. Муж сястры нацягвае скураныя боты, накідвае на плечы шынель і кліча мяне да сябе. Мы спускаемся з чацвёртага паверха ў двор і, слізгаючы па абледзянелай сцежцы між сумётаў, сунемся да хляўка, дзе захоўваюцца дровы ды рохкае свіння. Яшчэ не ведаю, але ўжо адчуваю: мы ідзем яе забіваць. Але яшчэ больш адчувае гэта свіння: муж сястры толькі поркаецца з замком і ключамі, а віск ужо страшэнны...

Ён забіў яе адным стрэлам з пісталета, я добра памятаю чорную дзірачку ля вуха, дымок...

Адыходзіў 1946-ы, пачынаўся 1947-ы, год Свінні, другі год без вайны...

## Гульні ў партыю

1976-ы, мне 35, у “Нёман” не бяруць, бяруць беларускім карэспандэнтам усесаюзнай газеты. Перадумова – сяброўства ў КПСС...

Патрапіць у партыю інтэлігенту няпроста. Іншая справа – рабочы. Цягнулі б на аркане.

І вось сяджу, чакаю... Раптам з грукатам з залы, дзе адбываецца прыём, выбягае чалавек у зашмальцаванай каўбойцы. І з крыкам "Ды пайшлі вы на...!" кідаецца прэч. За ім – цэлая каманда: "Вярніцеся!"

Куды там! Не вытрымаў допыту...

Я ж запнуўся на пытанні, колькі з заробкаў камуніст вінен партыі ўнёскаў...

Цікава, якая частка тых унёскаў схавалася ў мільярдах пуцінскага атачэння.

Але на тое і гульня – заўжды хтосьці выйграе...

## Дзіцячыя гульні

Аліку падабалася абзываць мяне фашыстам. У ягоных вуснах гэта гучала нават з падвойнай нянавісцю: "У-у-у, жыд пархаты! Фашыст!"

Я і сёння, калі Алік, па звестках, жыве ў Брукліне, не ведаю, чаму ён да мяне чапляўся. Мо таму, што быў вышэйшы і дужэйшы. Аднойчы я не вытрымаў: скочыў яму на спіну, адной рукой учапіўся ў чупрыну, а другой калаціў па вуху: "Гітлер! Гітлер!" Чупрына насамрэч рабіла Аліка падобным да Гітлера, бо матлялася па лбе наўкось.

Але тады, у 1948-м, я не ведаў яшчэ, што менавіта Гітлер забіў у гета Алікаву бабулю і старэйшую сястру.

Мо і Алік не ведаў...

## Заклад

Заклад адбыўся ў 1958-м, у першую студэнцкую восень, на так званай "бульбе".

Мікола пасля службы на флоце хадзіў у марацкім бушлаце.

З перавагі бушлата над акулярамі і нарадзілася з'едлівая Міколава насмешка: "Бач ты, знайшоў дзе рукі грэць... Кусіць..."

Грэць рукі ў пахвіне каня навучыў мяне ў дзяцінстве Мацей. "Не страшыся, – казаў, – тут цяплейшае месца..."

Урэшце рэшт пабіліся аб заклад: хто хутчэй даімчыць вярхом да стайні... Падгалісты Мікола нязграбна, ногі ледзь не да зямлі, узлез на гнядога. Мне дастаўся белы.

Як паімчэў трушком! Якую адчуў я забытую асалоду! Але раптам раскруціліся лейцы... Пакуль намагаўся падабраць, адчуў, што не ўтрымаюся. І ўспомніў яшчэ адну параду Мацея: не чакай, пакуль скіне, саскоквай сам...

Згрупаваўся, адштурхнуўся што было моцы...

Разбітыя акуляры адшукаў Мікола.

А белы мой конь нават не спыніўся, паімчэў у далячынь...

## Заўтрашняя газета

Калі бачу даваенны Дом друку, мімаволі кідаю позірк на вакно на трэцім паверсе – амаль 15 гадоў жыцця...

Самае дзівоснае ад тых гадоў – нараджэнне газеты. Ад ранішняй, у спрэчках, планёркі; дзённай, у тэлефонных званках, грукатанні друкарак ды ляскатанні тэлетайпа, мітусні; начнога, да світання, дбання над палосамі ды паспешлівай бегатні ў друкарню – да таго шчаслівага моманту, калі, стомлена ўладкаваўшыся на сядзенні, працягваеш таксісту пахнучую друкарскай фарбай газету:

– Вось, заўтрашняя...

– Заўтрашняя?!.

...Сцвярджаюць, што папяровыя газеты знікнуць. Але нават калі людзі будуць чытаць навіны проста ў паветры, усё роўна гэта будзе Газета.

Бо Слова і Друк няздольныя жыць паасобку...

## Знаходка

...1961-ы, Полацак... Разам з аднакурснікамі корпаюся ў глеі XI стагоддзя. Па адзін бок раскопа Сафійскі сабор, па другі – анкалагічны дыспансер. Пасеўшы на хісткі драўляны плот, хворыя на рак людзі ў бруднаватых халатах задуменна ўглядаюцца ў мінуўшчыну...

На ўзвышшы пад парасонам, сярод лапухоў і дзядоўніку – археолаг Мітрафанаў. Велічны, бы Саваоф, сядзіць у цяньку пад вялікім парасонам, на паходным століку перад ім графін з празрыстай вадкасцю, гранёная шклянка. У руках пяльцы, вельмі любіў вышываць... Стрымліваючы дыханне, працягваю яму нібыта грабло. Ён круціць знаходку ў руках і... моўчкі шпурляе ў лапухі. Абражаны, спускаюся ў раскоп. І раптам сутыкаюся поглядамі са схуднелым, адны вочы на твары, чалавекам. У вачах – анічога акрамя змярцвелай пустэчы...

Раскоп падаецца Дантавым пеклам. Я не вытрымліваю. І ўвесь астатні час цягаю на паверхню пустую зямлю...

## Крышачку салодкага

Набліжаўся прыём у піянеры, мяне распірала ад жадання здзейсніць патрыятычны ўчынак.

Аднойчы цішком падкраўся да жабрачкі ля царквы, падхапіў падпахі, пацягнуў некуды ў бок, перакананы, што ў СССР не павінна быць жабракоў...

...Цётка Надзея моўчкі выслухала, адчыніла шафу, дзе хаваліся цукеркі... “Бяры... Пачастуй тую бедную жанчыну і папрасі прабачэння, нельга крыўдзіць жабракоў...”

Цукеркі хаваліся ад мяне для Светы, маёй стрыечнай пляменніцы. Ёй было пяць гадкоў, калі немцы забілі маці. “Ну, што ты хочаш, Светачка?”, – пыталася цётка, калі тая з нейкім смяротным адчаем кідалася ў слёзы: “Крышачку сало-о-о-дкага-а-а...”

Тады і з’яўлялася “крышачка”, якая ратавала Свету ад пажыццёвага дзіцячага гора...

## Медаль

Шура любіў парады. Апранаў доўгі бацькаў пінжак, да якога былі прышпіленыя кардонныя пагоны з намаляванымі зоркамі, строіў малышоў у шэраг і камандаваў: “На-пра-во! Шагом марш!”... Нехта збіваўся з нагі, ён падганяў, даваў у карак...

...З войска Шура вярнуўся з адной нагой, шэрым тварам і медалём на запалых грудзях. Ні з кім у двары не знаўся, піў адзін...

Яго зарэзалі ля кінатэатра “Цэнтральны” – задраўся з-за квітка...

Хавалі яго ў тым жа бацькоўскім пінжаку, з якога ён так і не вырас. З медалём.

Медаль быў за горад Будапешт. Не за той Будапешт, што ў 45-м, а за той, у якім у 56-м савецкае войска патапіла ў крыві “контрреволюционный мятеж”...

## Мёртвым баліць

Аслюк зняў фільм “Зямля”. Пра тое, як падлеткі добраахвотна дапамагаюць адшукваць непахаваных ад часоў Другой Сусветнай вайны жаўнераў. Там ёсць

такі эпізод: падлетак, яшчэ хлопчык, асцярожна, як гэта робяць археолагі, вызваляе са спрэсаванай часам зямлі косці і костачкі загінулага жаўнера. Жаўнер нібыта ўціснуты ў сцяну колішняга акопа, хутчэй за ўсё, выбухам, мы бачым ягоны шкілет амаль цалкам, у позе, падобнай да позы жыхароў Пампеі, на якіх абрынуўся ўсім сваім смяротным цяжарам выбух Зямлі. З той, аднак, розніцай, што апошні дзень Пампеі пакінуў нашчадкам замест костачак пустату...

Падлетак бярэ ў рукі чэрап, кладзе яго ў драўляную, з габляваных дошак, труну, прыстасоўвае да іншых костачак, каб жаўнер пачуваўся ў труне чалавекам. І мімаволі гладзіць яго, хочацца сказаць, па галоўцы. Счышчае рэшткі зямлі, нібыта намагаецца супакоіць, суцішыць не пазбыты ад вайны боль...

## Немата

1961-ы год, Кіеў, Дарніца, спякотны жнівень, насычаны дзяруча-жалезістым пахам пылу і ліцейкі з вагонабудаўнічага завода. Я ратуюся ад спякоты ў прахалоднай зале кінатэатра, дзе гляджу "Голый остров" – нязвыклы для савецкага гледача японскі фільм, пра які пасля Маскоўскага кінафэсту, дзе ён узяў Вялікі прыз, шмат гаворкі. Хвіліна за хвілінай на экране дзеецца адно і тое ж – бацька, маці і два іхнія сыны, адзіныя жыхары маленькай выспы на моры, маўкліва, быццам нямыя, цягаюць у гару, на гарод сярод каменняў, з якога жывуць, прэсную ваду... Аднойчы жанчына незнарок пралівае вядро вады, муж дае ёй аплявуху... Недзе праз паўгадзіны пачынаюць глухавата ляскаць сядзенні крэсел, і я застаюся ў агромністай зале ці не адзін, дачакаўшыся моманту, калі раптоўна захворвае і памірае малодшы сын, і маці ў роспачы выплюхвае ваду на каменні... А потым зноў цягне ў гару поўныя вёдры...

*(Заканчэнне будзе).*

запісы

Уладзімір Ліпскі




...хочаш жыць –

жыві...

# Каранацыя душы

***Споведзі***

*Заканчэнне.*

*Пачатак у №2 (111).*

## Люблю – не люблю

**Люблю** прачынацца на ўзыходзе сонца.

Ты праціраеш вочы, усміхаешся, і маладое сонца зіхаціць, пераліваецца, з табой вітаецца.

Сонца садзіцца на трон, каб кіраваць днём, і ты пачынаеш збірацца на службу дня.

Сонца саграває цябе сваім цяплом, і ты свае добрыя жаданні дорыш усім, хто побач, хто з табой.

Сонца прабіваецца да цябе праз хмары, воблакі, вецер, дождж, і ты змагаешся з усім, што шкодзіць табе ў яве новага дня.

Сонца ідзе на спачын, і ты кіруеш у дом ці хату, дзе твой жыццёвы прычал.

Палюбі сонца, і яно палюбіць цябе. Улюбёным разам утульней, спакойней, надзейней.

**Не люблю** людзей-кратоў.

Пастаянна рыюць, падрываюць, шкодзяць. Доўга ў адным месцы не бываюць.

Я то ведаю, чаму прыродны крот часта мяняе свае хаты. Ён сам па сабе пагана пахне. Ад сваёй “парфумы” ўцякае, пераходзіць з месца на месца. Відаць, думае, што ўсе пахі ад той мясціны, дзе ён рыецца, а не ад яго самога.

Дык і людзі-краты гэтак жа мяркуюць. Вось за што і не люблю іх. Пераходжу на другі бок вуліцы, калі сустракаю такіх, каб не псаваць вачэй і не паскудзіць нос.

**Люблю** цішыню.

Ідзеш па лясной дарозе. Маўкліва, у роздуме стаяць дубы-мацакі, сосны меднастволыя, бярозы з распушчынымі косамі. І ты разам з імі наталяешся цішынёй. Думкі далёка не сягаюць, рояцца ціха, бытта матылькі. Недзе з самога споду душы спее, вырываецца неагучаная радасць: “Божа, якая краса! Як жа смачна дыхаецца ў зялёным царстве!..”

Цішыню можна адчуць зорнай ноччу, пры цьмяным, таямнічым маладзічку. Нейкая чароўная загадкавасць ахутвае ўсяго цябе. Думкі сягаюць у космас, адтуль крылатым промнікам вяртаюцца ды нязменна пытаюцца: “Ты хто ў зямной прасторы, што робіш, які сярод людзей?”

Маўклівую цішыню можна знайсці з верным сябрам, з каханым чалавекам, з душэўным таварышам. Тады ў гаворку ўступаюць бязмоўны язык, разумныя вочы, патаемныя жэсты.

Кажуць, аднойчы да Янкі Купалы зайшоў паважаны пісьменнік. Яны доўга маўчалі. І Купала пасля дужа дзякаваў яму за маўклівую гаворку.

**Не люблю** зайздроснікаў.

З Шоўкавічаў асела ў памяці байка цёткі Арыны. Яна жыла з адным вокам, другое – прымружанае, невідушчае. Дык яе і байка пра вочы. Нейкі цар-уладар меў двух верных слугаў, але ж вельмі зайздрослівых. І вось аднойчы гаспадар кажа аднаму: “Прасі ў мяне што хочаш, але ведай: твайму таварышу я дам удвая болей”. І зайздроснік пажадаў, каб уладар выкалаў яму вока, а значыць, каб яго саслужыўцу пазбавіў абодвух вачэй.

Зайздрасць можа быць і лёгка выбуховым замесам, і мінай запаволенага дзеяння. І той, хто гэта рыхтуе для некага, – хворы чалавек. Хваравітая, чорная зайздрасць страшная рэч. Ад яе можна лопнуць, давесці сябе да белай гарачкі.

У чалавека бываюць зайздросны лёс, аклад, зайздросныя доля, работа, павага. Зайздросніку ад усяго гэтага смяртэльныя раны. Але ж незайздроснае жыццё ў таго, каму ніхто не зайздросціць.

**Люблю** любіць да слёз.

Люблю Айчыну, Дзяцей, кнігу, “Вясёлку” зямную і нябесную ...

Неяк прызнаўся пра гэта прынародна. Адзін з пісакаў паёрнічаў: “О, Ліпскі плача, хай бяжыць у магазін па насоўкі”.

Пазней даведаўся: той пісун (ці пісец?) не ведае і не любіць беларускай мовы, ніколі не заплача па Беларусі, паветрам якой дыхае. Мне, прызнаюся, шкада такіх людзей.

Для мяне любіць – дык напоўню, шчыра, аддана, да слёз. А іншая любоў называецца духоўным эгаізмам.

**Не люблю**, калі кот перабягае дарогу.

У маленстве гэтага не прыкмячаў. Я сябраваў з нашым хатнім Васілём. Хваліў, калі ён прыносіў і паказваў мыш, якая шкрабалася ў дзяжы. Ведаў, пра што дзіка мурлыкае Васіль з суседавай кошкай у загоне бульбы. Любіў гладзіць ката пад шыяй, а ён заплюшчваў вочы і мармытаў мне сваю калыханку.

З гадамі нешта памянялася. Зняверыўся перад чужымі катамі. Не люблю, калі перабягаюць мне дарогу.

Мо пастарэў? Мо стаў, як дзіця? Хаця... Гэта “дзіця” і “хаця” не маё, а Рыгора Барадуліна, якога вельмі шаную.

**Люблю** рыбу лавіць.

Паплавок над вадой, як надзея жыццёвая. Чакаеш, што во-во клюне нехта таямнічы, вёрткі. Але ж як не будзе круціцца, завіхацца, ён на маім надзейным кручку. Ён мой!

Момант ісціны – чаканне, цярпенне. Калі гэта маеш, то абавязкова дачакаешся ўдачы.

Рыбалка гострыць спрыт, дорыць перамогу. Дык чаму б не закінуць вуды?..

**Не люблю** хітрых.

Хітры, у маім уяўленні, лёгка можа перафарбавацца ў здрадніка. Хітраваць – гэта тое ж, што маніць, выдумляць, штучна жыць. Ці можна такіх любіць?

Хітрасць дарую толькі жартаўнікам. Як вось гэтаму майму аўцюкоўцу Янаку. Бяжыць ён з мехам па траву для трусоў. Мужыкі косяць. Прыпыніліся адпачыць, просяць: “Змані нам што-небудзь”. А той па-сур’ёзнаму хітруе: “Ай, хлопцы, не маю лішняй мінуткі. Гэта ж во сказалі, што запруду на рацэ адкрылі. Рыба на беразе ляжыць, дак лячу, каб ухапіць мяхоў два...” Пабег Янак, а касцы пакідалі косы, ухапілі свае торбы ды за ім. А ля рэчкі ніякой рыбы на беразе. Янак рве лугавую смакату для сваіх трусоў.

**Люблю** смяяцца.

Смех узвышае адрэналін, узбуджае мускулы, а з вачэй іскры высыпае.

Смех – дар божы. Яго адкрыў у сваіх земляках. Яны падтрымалі мой запал, зразумелі мае кнігі гумару пра іх. Цяпер гумарыстаў з Аўцюкоў ведаюць ва ўсёй Беларусі. І нават – за яе межамі.

Лепш смяяцца, чым хныкаць. Здаровы смех – найлепшы лекар, надзейны аптэкар.

**Не люблю** сем пятніц на тыдні.

Народ спявае: “Ты казала, у пятніцу пусціш мяне пад спадніцу...” Гэта можна ўспрымаць і як жарт, і як жаданне. Хай кожны выбірае сваё.

Але калі чалавек на працягу аднаго тыдня, мяняе свае намеры, рашэнні, жаданні, а разам з імі і погляды, – дык хто ён? Флюгер? Вярціхвост? Пластылін? Перакаці-поле? Хлус? Не люблю такіх. Не сябрую з імі. Баюся іх. Збаў, Госпад, адной дарогі з балаболамі.

**Люблю** быць бульбаедам.

Мне здаецца, пасля мамінага малачка мяне адразу пачалі частаваць бульбай. Тоўчанкай. Зваранай у чыгуне. Печанай у вогнішчы. Цёртай на драніке і клёцкі.

Пасля вайны хадзілі з мамай па вясковых палетках, адшуквалі ў раллі замёрзлыя клубні. З іх рабілі аладкі. Смакоцце!

Помню, бацька занёс у суседнюю вёску дзежачку, якую майстраваў некалькі вечароў. Адтуль вярнуўся з кулем бульбачкі. Дробная, хоць у стрэльбу закладвай. А смачненная, аж губы ўпрысядкі скакалі.

І хай мяне абзываюць бульбашом. Не крыўдую. Бульба – наша карміцелька, ратавальніца, прываба для гасцей свойскіх і заморскіх.

**Не люблю** рабалепства.

Вельмі рана ўкінуў у душу словы Спартака: “Да будзе праклятай ганебная памяць пра першага чалавека на зямлі, з семя якога ўзрадзіліся два розныя плямёны: вольных і рабоў!”

У народных казках часцяком высмейваецца рабалепства. І тады Заяц выхваляецца храбрасцю перад Мядзведзем, Ягнё абхітрывае Ваўка, а Конь – цара звяроў Ільва.

Сярод людзей, на жаль, квітнее нізкапаклонства, лізаблюдства, падхалімства, рабалепства. Ва ўсіх гэтых праявах – прыніжэнне чалавечай годнасці. А хіба можна любіць тое, што гняце вольнасць і гонар славалюбца?

**Люблю** вясну.

Для мяне вясна – гэта мая маладосць. У пару пралесак, шалёнай зеляніны,

абнаўлення зямлі дужа востра згадваюцца гады, калі пад носам зачарнелася прыкмета даросласці, калі сэрца ўтрапёна сціскалася ад позірку дзяўчыны, ад малінавых губ. Шчымлівую пяшчоту вясна перадае ручаінамі, кветкамі, растрывожанай чуласцю свайму зменшчыку – лету. А ў ім спякота, а далей – слота, а там – і снежная, марозная зіма. Прыродныя поры года паўтараюцца і ў маім жыцці. З удзячнасцю прыгадваю прызнанне мілага маёй душы Янкі Брыля: “Добра ў старасці быць маладым”. Ад сябе дадаю: “Добра з аснежанай галавой круглы год жыць у вясновым царстве”.

## Хачу – не хачу

**Хачу** вельмі павольна старэць.

Не зусім добра ведаю, што для гэтага рабіць. Срэбныя валасы можна падфарбаваць, але маладзёвую прычоску не вернеш. Маршчыны можна затынкаваць, але не пазбавіцца ад іх. Бяссонне можна прыглушыць таблеткай, але ад прывірэды не адкупішся. Хаду можна наструніць, але ці надоўга?

І ўсё-ткі сакрэты ёсць! Яны мае, праверaныя доўгімі гадамі. Як хочаш, запамятай ці на вус наматай.

Часцей пазірай у высокае неба, дзе сонца, зоры, імклівыя воблакі і вясёлка.

Часцей усміхайся і радуйся.

Чапляйся за кожны міг жыцця, цані кожны дзянёчак, як апошненькі.

Не стамляйся рабіць дабро ўсім пакрыўджаным.

Хай ведае кожны наўкол, што душа твая вечная.

І яшчэ адно, дужа важнае пажаданне, яно Караткевічава: не хавайся за спіны храбрых дзядзяў, не паказвай адтуль дулі і не пляскай адтуль у ладкі. Уладзімір Сямёнавіч такіх закляйміў: “Я не магу глядзець на іх. Калі я думаю, што мы адной крыві, – мне хочацца выпусціць з сябе гэтую кроў.”

**Не хачу** пагадзіцца, што чалавек чалавеку воўк.

Сапраўды, наш свет падзелены на чорнае і белае, на ваўкоў і ягнятаў, на каршуноў і галубоў, на дужых і слабых... Але ж з бруістых ручайкоў, рэчачак і рэк утвараюцца моры. Дык мо і дабрыня чалавека, яго лепшы грунт пад нагамі, яго наймудрэйшыя звіліны ў мозгу ўтвораць некалі мора чалавечнасці на зямлі? Калі гэта станецца, ніхто не прадкажа, ды верыць у такое не забаронена. Божы прарок Амос падказвае нам: “Шукайце дабра, а не ліха, каб засталіся вы жывыя...”

**Хачу** ў мае пупавінныя Шоўкавічы.

Магнітам душы цягне мяне штодня ў вёсачку, дзе нарадзіўся. Там былі сабраны ўсе цуды свету: наша хата з ластаўчынымі гнёздамі і лавачкай пад клёнам, сажалка з уюнамі і шыкоўная буслянка каля яе, сенажаць з морам рамонкаў і чмялiным мёдам, шоўкаўская дубрава з баравікамі пад колер жалудоў, сад духмяных яблыкаў нашай першай настаўніцы Аляксандры Лявонаўны Радкевіч...

Усё было, ды неяк неўпрыкмет сплыло.

Вось і вывезлі на пагост апошняга сем’яніна Шоўкавіч Мікалая Мікалаевіча Трацэўскага. Я заўсёды называў яго няйнакш як Колька. Апошні ў шматдзетнай сям’і. Малога росту. Усмешлівы. Дабрэннай душы шчырун. Ён застаўся верным вёсачцы да апошняга ўздыху. Па суседстве з яго хатай некалі стаяла наша, дзе я нарадзіўся. На тым месцы цяпер, як помнік, стаіць дуб-волат. Колька падмог пасадзіць ад дуба да вуліцы ліпавую алею. Прыцягнуў аднекуль камень-валун. А я на ім з дапамогай сяброў прырабіў мемарыяльную шыльду. На ёй – прозвішчы ўсіх шоўкаўцаў, якія некалі жылі тут.

Хачу ў Шоўкавічы. Паслухаць канцэрты салаўёў, вясёлых жаб, курлыканне журавоў. Наведаць на могілках шоўкаўцаў. Яны, гарушчыя і сумленныя, нястомна пазіраюць з гранітных пліт на бярозкі, сосны, дубкі, якія вартуюць іх суцішаны свет.

**Не хачу**, каб заканчвалася грыбная пара.

Кошык, ножык, лес і ты. Божа! Якая чараўнічасць. Во, каля арэхавага куста, з-пад леташняга, счарнелага лісця па-забіяцку вызірае дзядзька-баравік. Брыль шырокі, карычневы, нага пузаценькая, дзябёлая. Як бы моліць: “Уладзя, уладзь мяне ў свой кошык”. А далей, сярод галін паваленай і падгнілай сасны, – купкі жоўтых лісічак-сястрычак. Нібыта ў карагодзе сонечныя промнікі. “Скачыце ў мой кошык!” За травяной сцяжынкай – мама-сыраежка вывела на прагулку свой зялёны радавод. Дык жа ім таксама хочацца ў мой кошык...

А калі ціхае паляванне нулявое, тады пачынаю бязмоўна ўшчуваць: “Дурненькія, чаго ж у хованкі гуляеце? Гайда ў кош! Хаця пракатаю вас, пранясу па лесе. Убачыце Мінск, маю кватэру. А пасля вас дужа будуць хваліць нашыя госці!..” Так во сарамачу грыбы. І як бачыш, перада мною – падасінавікі, бабкі, ваўнянкі, казлякі, рыжыкі... Ад такой сустрэчы парушаецца кардыяграма сэрца...

Не хачу, не жадаю, каб заканчвалася грыбная пара! Яна шчаслівіць мяне і бязмежна радуе.

**Хачу** не ведаць вайны.

Маё жыццё пачалося вайной.

Хачу, жадаю, малю і ўсё раблю, каб ні я, ні мае дзеці і ўнукі не ведалі жудасцяў, слёз, пакутаў, якія прыносіць бязглуздая бойня. Ніхто, ніколі, нічога не заваяваў. Людзі, беражыма цішыню, красу, гаючасць вакол нас! Жыццё кароценькае. Вялікі грэх укарочваць яго вайною.

**Не хачу** падаць духам.

Той, хто ўпаў – пакалечаны. Хто ад ляноты залёг на канапу – Абломаў. Хто дазволіў сабе ўпасці – жывы мярцвяк. Пра такіх кажуць: ні сабе, ні людзям. Такога і ворагу не пажадаеш.

Дух душы, мускулы душы – нашы ратавальнікі ў жыцці і на кожны дзень.

**Хачу** запомніць усё, што бачылі вочы, што чулі вушы.

А праз дні, месяцы, гады ўсплываюць толькі асобныя імгненні жыцця. І часцяком – нешта дробязнае...

Першы раз убачыў, як купаліся дарослыя дзяўчаты ў сажалцы. Голыя! Іх чамусьці запомніў...

Таптухай ловім рыбу. Падводзім лазовую сетку пад корч. Махнулі натамі па вадзе. Падымаем таптуху, а ў ёй – два шчупакі, як бярвенні. Ад страху ледзь не абамлелі...

Прыехаў вучыцца ў Мінск, а мяне абакралі. У трамваі выцягнулі з кішэнькі дваццатку. Бацька цёлачку прадаў, выправіў мяне ў культурны горад, а тут... бывайце, “капіталы”. Плакаў. А нехта за мае рублікі піва піў...

Аднойчы тапіўся. Сусед выратаваў. Казаў, толькі шапка мая плавала на паверхні ў рэчкі...

Сына Ігара вёз з бальніцы на пажарцы. Іншай карэты не знайшлося на цукровым заводзе...

Рэдактар раёнкі паслаў на завод безалкагольных напояў, каб пісаў рэпартаж. Мяне там пачаставалі нечым салодкім, з градусамі. Ледзь вярнуўся, а шэф загадаў к вечару здаць у набор рэпартаж...

Мама, як праводзіла ў Мінск, дала наказ: “Сынок, не згубіся там, у вялікім горадзе”. Здаецца, выканаў яе просьбу...

У “Вясёлцы” пасля выступлення падышоў да мяне трэцякласнік, абняў: “Як добра, што вас у вайну мама выратавала!..” Ледзь стрымаў слёзы...

З пясчынак складваецца дарога. З дарогі пачынаецца шлях у жыццё...

**Не хачу** праспаць узыход сонца.

Часцяком згадваю адну спадарожніцу. Ехаў у сваю Рэчыцу. У Калінкавічах цягнік стаяў сорак хвілін. Ранак новага дня. Сонейка прачнулася, і я прагнаў ад

сябе сон. А мажная цётка ў купэ пахрапвае. У Мінску як бухнулася спаць, дык усю дарогу дрыхла. Раптам крычыць: “Дзе мы?” Ёй адказваюць. “А-ёй, а мне ж тут выходзіць!..” Падскочыла. Збірае ванзэлкі. “А чаму ж не пабудзіла?” – вінаваціць праваднiцу, крычыць на ўвесь вагон. Усіх устурыла. Пачуліся розныя галасы: “Во спіць!.. Во прывыкла, каб будзілі!..” Цягнік адыходзіць ад перона...

Мо пра такіх складзены прыгаворкі: “Жыццё, як сон... Пражыў, як выспаўся...”

**Хачу**, каб мае жаданні выконваліся.

Пераканаўся ў адным: не чакай, браце, і не спадзявайся, а збірайся і сам улагоджвай свае жаданні.

Хочаш маторчык, як у Карлсана, – майструй.

Хочаш быць вясёлым – будзь.

Хочаш усюды паспець – не праспі.

Хочаш на востраў кахання – едзь.

Хочаш рабіць дабро – рабі.

Хочаш, каб ногі неслі туды, куды жадаеш – дай ім волю, укажы дарогу.

Хочаш бачыць нябачанае – расплюшчы вочы.

Хочаш атрымліваць – навучыся аддаваць.

Хочаш, каб тваю кнігу прачыталі, – напішы душой.

Хочаш не мець бяссонніцы – жыві без даўгоў.

Хочаш, каб цябе паважалі – нікому не рабі зла.

Хочаш ажывіць памерлага – помні яго.

Хочаш шчасця – адгані гора.

Хочаш свет убачыць – сябе зразумей.

Хочаш, каб душа павесялела, – упусці ўсмешку на твар.

Хочаш жыць – жыві.

Хачу ўсяго хацець!

Алег Лойка



...безнацыянальнай літаратура ў новым часе не можа быць...

# Ці літаратура – літаратура?..

## 1. Не з літары таго пачатак...

Пытанне «Ці літаратура літаратура?..» – пытанне не абы якое, і ніяк не простае, а вельмі складанае. І на тое ёсць, прынамсі, дзве прычыны: па-першае, слова «літаратура» не ёсць абазначэннем таго, што мы ўласна ўяўляем, калі яно гучыць, калі яно ўжываецца ў сваёй шматзначнасці, у сваім агульным значэнні; і, па-другое, яно падманнае, яно падштурхоўвае лічыць сабою, у сваім абсягу ўсё, што зафіксоўвае літара. Але ці ж там, дзе літара, абавязкова выступае літаратура як такая, пра якую мы думаем перш за ўсё па прывычцы, не зусім цямячы, што рэальна маецца на ўвазе пры ўжытку слова «літаратура» – ужытым, так сказаць, голым?..

Раскрыем жа падручнік па алгебры. Вось ідзе формула: $a^2+b^2=c^2$. Алгебра, але ці становіцца яна ад гэтага літаратурай?

Раскрыем падручнік па геаметрыі: у трохвугольніка тры вуглы, кожны з якіх абазначаецца літарай. Але ці ж геаметрыя становіцца ад гэтага літаратурай? Возьмем, нарэшце, падручнік

па хіміі. Яе формулы: $H_2O$, HCl, $H_2SO_4$. Скрозь у формулах літары, але ці ж цераз гэта хімія становіцца літаратурай?..

Значыць, літары, калі нешта і запісана імі, не становяцца рысай, што прадвызначае тое, чым запісанае становіцца. Алгебра, геаметрыя, хімія выкарыстоўваюць літары як пэўны сродак дзеля выражэння пэўнага значэння, сутнасць жа канкрэтная рэальна праясняецца, калі назоўнік «літаратура» удакладняецца прыметнікам, калі такім чынам аб'яўляецца навукова-тэхнічная, даведачная, медыцынская, спартыўная літаратура, яўнай становіцца і сутнасць явы, калі гаворыцца: «мастацкая літаратура». XIX стагоддзе, зазначым, было куды больш джэнтльменскім, асабліва ў Расіі, дзе ад Вісарыёна Бялінскага да аўтара гімназіяльнага падручніка Саводніка яго вялікасць мастацкае слова называлі «изящной словесностью». Падхопліваў гэтую традыцыю і ў нас, беларусаў, Максім Гарэцкі, калі мастацкае слова велічаў «прыгожым пісьменствам». Такім чынам, ані якія блізкія родзічы прыгожаму пісьменству падсобныя літаратуры дзеля навуковых, вучэбных, даведачных мэтаў.

Выраз «прыгожае пісьменства» ўспрымаецца сёння нібы архаізм, і толькі калі пішам пра літаратуру высокім стылем, прадзедаўскі гэты архаізм успамінаем. А дарма! Дарма, бо губляем самую асноўную сутнасную рысу мастацкай літаратуры і як бы забываем, падзабываем яе не ў карысць літаратуры як пісьменства менавіта толькі прыгожага!

Але тут можа прыўстаць пытанне: «Што? Значыць, калі не проста з літары пачынаецца літаратура, то мо яна як прыгожае пісьменства пачынаецца з прыгожага?»

Адказваем: быў час, калі мастацтва, літаратура сапраўды пачыналіся толькі з прыгожага, адлюстроўвалі толькі прыгожае. Гэта быў час элінскі. Элады як калыскі еўрапейскай цывілізацыі. Час гэты быў і сплыў, як наступныя, іншыя часы былі і сплылі. Але кінем спачатку позірк на час элінскі.

У цэнтры арыстоцелеўскай эстэтыкі – тэорыя адлюстроўвання. Гэта паводле яе адлюстраванню падлягала толькі прыгожае і не ўвогуле навакольны свет, які ён ёсць, усе запар людзі, якія яны ёсць, а ў навакольнай прыродзе – прыгожыя краявіды, з людзей – прыгажуны і прыгажуні і, вядома, не рабы і не рабыні, бо сацыяльна-грамадскі лад быў рабаўладальніцкі, раб чалавекам не лічыўся, а толькі гаварлівым інструментам. Не дзіўна тады, што ўсе скульптуры Фідзія – лепшага грэчаскага скульптара – постаці прыгожыя, усе героі Іліяды Гамера – ад прыўкраснай Алены, з-за якой пачалася Траянская вайна, і ўсе ахейцы і траянцы – ваяры тварам прыгожыя, зграбныя фігурамі (адзін толькі герой «Іліяды» – выключэнне з шэрагу прыгажуноў: кульгавы Гефест!). І натуральна заканамерна, што героі элінскай літаратуры гаварылі прыгожа, і традыцыі еўрапейскай сярэднявечнай рыторыкі абапіраліся на законы элінскага красамоўя, і затым французскі класіцызм XVII стагоддзя традыцыі элінізма увабраў. Так, французкі класіцызм, арыентуючыся на грэчаскі тэатр і яго паэтыку, дапускаў у драму толькі герояў – князёў, рыцараў (з прастанароддзя мог быць толькі слуга). Рэвалюцыйным быў рамантызм, бо ён не толькі мяцежніка, карсара ўвёў у літаратуру, але прадметам адлюстравання зрабіў і брыдотнае, поруч з прыгажуняй-цыганкай Эсмеральдай паставіўшы Квазімоду – чалавека са страшэнна пачварным тварам. Такім чынам, калі прыгожае адлюстроўвалася, прыгожае было зместам літаратуры і рабіла літаратуру прыгожым пісьменствам. А стала ў цэнтры літаратуры брыдкае, то ці ж з брыдой твор аб ёй мог кваліфікавацца як прыгожы? Ды мог твор літаратуры ці аб прыгожым, ці аб непрыгожым, – аб брыдкай штодзённасці, брыдкім героі, нялюдскіх задворках і памыйніцах – заставацца цэласцю, аднымі і тымі ж словамі і літарамі пісаны. Такім чынам, пачалася ў літаратуры паэтызацыя не толькі прыгожага і высокага, але і гідкага, нізкага. Тэорыя адлюстравання па-арыстоцелеўску скончылася, пачалося ўсебаковае адлюстраванне жыцця, якое не пераставала ўспрымаць літаратуру

відам мастацтва, згарманізаванай цэласцю, дасканаласцю ў адлюстраванні. Так надыходзіў у мастацтва рэалізм – праўдзівае адлюстраванне жыцця ў яго ўсіх іпастасях – прыгожага, высокага, гераічнага, драматычнага, трагічнага, нізкага, брыдотнага, нікчэмнага, камічнага. Паўстала праблема дасканаласці мастацтва: не прыгожы аб'ект адлюстравання рабіў цяпер адлюстраванне прыгожым, ідэальным і гарманічным, а адпаведнасць адлюстравання ідэі, задуме, з якіх пачыналася адлюстраванне. Ідэя пачала шукаць сваё гарманічнае ўвасабленне ў слове, у жывапісе, у скульптуры, у музыцы. Ідэя абавязвала знайсці форму, адэкватную сваёй сутнасці. Мастацкім, прыгожым стаў лічыцца твор, у якім ідэя знаходзіла сваё дасканалае выяўленне. Гэтым замацоўвалася паняцце мастацкасці. Яно ўваходзіла ў эстэтыку рэалізма як спосабу, метаду адлюстравання жыцця. Дэмакратычнасць метаду рэалізму відавочная, бо найперш чалавека любога сацыяльнага стану ён браў за аб'ект адлюстравання. Калі рамантызм меў за героя незвычайнага героя ў незвычайных абставінах, калі класіцызм меў за героя толькі элітарнага героя, то рэалізм вывеў нароўні з імі слугу, рабочага, селяніна – дэмас, сацыяльныя нізы. Але ці ўсе нашыя грамадзяне і сёння адрозніваюць, дзе сапраўды мастацкая літаратура, а дзе халтура, падробка пад яе, імітацыя, прафанацыя яе? Чым душу хто задавольвае: сапраўды прыгожым пісьменствам ці сумніўным чцівам. Душу, інтэлект узбагачае толькі высокамастацкая літаратура. І таму задавальняцца толькі дэтэктывам, ці толькі фантастыкай, ці толькі прыгодніцка-авантурнай літаратурай, коміксамі – гэта абкрадаць сябе, адмяжоўваць сябе ад мудрасці, ад чалавецтва, ад выхаваўчай і пазнавальнай сутнасці сапраўднай высокай мастацкай літаратуры!..

Аднак паўторым пытанне: калі не з літары пачынаецца літаратура, то ўсё ж з чаго яна пачынаецца? Можна сказаць, што з кнігі кніг, якую людзі называюць Бібліяй – з Бібліі пачынаецца хрысціянства, хрысціянская літаратура, сусветная літаратура еўрапейскай цывілізацыі. Якая ж агромністая колькасць твораў на сюжэтах, на матывах хрысціянскай маралі, на яе пачуццёвасці светаразумення, светаўспрымання, светабачання – твораў сусветнай сённяшняй літаратуры, жывапісу, скульптуры, музыкі!

Змест вялікай сусветнай літаратуры – гэта гуманістычны змест з ідэальнай чалавечнасці, высокай маралі-цнатлівасці, дабра, спагады і асуджэння непавагі да маці і бацькі, да продкаў, асуджэння нечалавечых паводзінаў – разбою, забойстваў, крадзяжу, рабаўніцтва, здрады, ханжаства, каварства. Біблія наперш прапаведвала хрысціянскую любоў – любоў да бліжняга: палюбі бліжняга, як самога сябе. Вядомыя дзесяць запаведзяў Бібліі – усе яны гуманістычныя. У чым, напрыклад, свае заслугі бачыў А.С. Пушкін? У вершы «Памятнік» ён пісаў:

И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал.
Что в наш жестокий век восславил я свободу
И милость к падшим призывал.

Такім чынам у Пушкіна перш за ўсё стаялі: «чувства добрые ... пробуждал», па-другое, «восславил я свободу», па-трэцяе, «милость ... призывал». «Пачуцці добрыя абуджаць» – вось першая задача паэзіі, літаратуры; «славіць свабоду», быць свабодалюбным песняром, славіць свабоду чалавека, а не рабства, чалавечую годнасць, павагу чалавека да самога сябе. Незалежнасць яго думкі, самастойнасць у сваіх рашэннях, ва ўчынках, узвышаць вучыць быць гордым, смелым, магутным і разам з тым не без спагады, не без прабачвання, не без добрых спраў у адносінах да тых, хто аступіўся, не па-чалавечы пасупіў, аказаўся сярод тых, хто нізка ўпаў, страціў па сваёй ці не па сваёй волі годнасць, месца пад сонцам, увагу і павагу. Дык вось якімі пачуццямі, якім зместам была напоўнена творчасць А.С. Пушкіна – творчасць, якую ёсць усе падставы назваць узорна гуманістычнай, узорам

сапраўднай літаратуры. Хоць ёсць у Пушкіна не толькі панаванне мастацкасці, якую В.Г. Бялінскі абсалютна справядліва аб'явіў душою паэзіі Пушкіна, яе асноўнаю сутнаснаю рысаю, пафасам, красой, бо ёсць у вялікага Пушкіна і тое, што ішло ад царызма як інстытута дзяржаўнасці, ад пануючай ў Расіі Мікалая I ідэалогіі, яе патрыятызма, які быў дзяржаўным, імперскім, звязаным з кірункамі палітыкі расійскага цара, расійскага самадзяржаўя. Тое ішло ад немажлівасці Пушкіну – генію-мастаку – выскачыць з рамак свайго часу. Пушкін быў бездакорны ў сваім гуманізме, у сваёй найвышэйшых маштабаў маралі, пры асуджэнні незаконнай дзейнасці цара, яго халуёў, бяздушных паслугачоў, казённай дурасці, у сваім дэмакратызме, народнасці, любові да Расіі як Радзімы, да рускага народа як магутнага патэнцыялу мудрасці, дабра, любові. Любоў Пушкіна да Расіі, любоў роднага народа і абумовілі яго народнасць, народнасць яго мастацкасці. Будучыні рускай літаратуры А.С. Пушкін служыў не вернападданіцкімі вершамі Аляксандру I, а перш за ўсё з найвялікшай сілай выяўленай ім мастацкасці.

А калі творчасць не як у А.С. Пушкіна гуманістычная, не ўзор мастацкасці, то ці можна яе назваць мастацкай творчасцю? Ці паэзія тады – паэзія? Ці літаратура – літаратура?..

Манархічныя ноткі ў цэлым не перакрэслілі Пушкіна-літаратара, не вывелі яго за рамкі яе вялікасці літаратуры, хоць тут нельга не сказаць, што палітычныя ўхілы Пушкіна звужалі яго чыстую паэзію, былі па-за яго веліччу як паэта на стагоддзі, не былі ў гармоніі з пушкінскім геніем. Ужо ў Пушкіна палітыка біла, забівала мастака слова ў прыгостве, крышталiьнасці яго дабрыні, свабодалюбства, чалавекалюбства. Палітыка, можна сказаць, забівала ў Пушкіна мастацкасць слова, і яна ж забіла яго на дуэлі, адабрала ў паэта само жыццё. Потым менавіта палітыка цара ў літаратуры сашле на Каўказ М.Ю. Лермантава, на віселіцу асудзіць К. Рылеева, М.Ф. Дастаеўскага, замяніўшы апошняму шыбеніцу катаргай. Не без палітыкі будзе аддаваць анафеме Л.М. Талстога царква...

Палітыка для літаратуры – сіла забойчая, палітыка, вядома, таталітарная, палітыка ў XX стагоддзі рэжымаў фашысцкіх, камуністычных, дэспатычных, дыктатарскіх, каманднa-адміністратыўных. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба, бо ў памяці літаратурна-грамадскія рухі фашысцкіх Італіі, Германіі. У Італіі класічная паэзія ператварылася ў рэбусны герметызм, у Германіі толькі дзіцячая паэзія магла яшчэ лічыцца паэзіяй, бо ўсё астатняе было ў літаратуры запалітызаваным нацыянальна-фашысцкай ідэалогіяй. А да чаго прывёў літаратуры народаў СССР сталінізм, сёння гісторыя нацыянальных літаратур былога СССР памятае, ведае. І гэтая памяць, скажам наперад, не без займальнасці, але памяць балючая. І нашу нацыянальную літаратуру трагічна кранулі не толькі рэпрэсіі, бо трагічнымі былі для нашай літаратуры і перыпетыі нараджэння савецкай літаратуры, як літаратуры партыйнай ідэйнасці, сацыялістычнага рэалізму, бальшавіцкай пафаснасці. Забойчымі, не бацькоўскімі, а айчымнымі былі для нашай літаратуры, па-сутнасці, усе дзесяцігоддзі яе падлегласці савецка-таталітарнаму рэжыму.

## 2. Не ойчыя сілы забойчыя...

Сілаў для літаратуры забойчых – іх не дзве, іх усіх, відаць, не злічыць, але ўсе яны звязаныя з адным – з пераістотненнем літаратуры ў яе генетычнай, натуральнай сутнасці, у яе прыродзе як з'яве эстэтычнай, этычнай, філасафічнай. Пераістотненняў у цэлым без краёў, а сусветная літаратура, як і гісторыі любой нацыянальнай літаратуры, імі поўняцца, развіццё любой літаратуры без іх не абыходзілася. І перапады росквітаў, падзенняў літаратур – ніяк не іх рэвалюцыя, бо яны – не на ўзыходзячай лініі, не ў пераемнасці дзеля ідэалу:

вышэй, у гору – да сонца і зораў. Дыялектыка развіцця, як вядома, адмаўленне адмаўлення, адмаўленне ад таго, што сцвярджалася. Дыялектыка, такім чынам, пануе і над лёсам літаратуры, абумоўлівае яе развіццё – не без зігзагаў, падзенняў, уздымаў, адмаўленняў, росквіту. У новым жа часе, асабліва ў XX стагоддзі, самымі забойчымі сіламі літаратуры як такой былі вульгарызацыя і адаптацыя. Сёстрамі гэтыя сілы не назавеш, бо вульгарызацыя – гэта ад палітыкі, адаптацыя – ад задачаў педагагічна-выхаваўчых, ад эксперыментальных пошукаў, як часта і ад камерцыйных захадаў, моды, папулізма, спрашчэнства і г.д.

«Абое рабое...» – можна сказаць пра вульгарызацыю і адаптацыю, бо як першая, так і другая стыхія ў рознай ступені, але варожыя чыстаму мастацтву, натуральнай прыродзе літаратуры як добрага, мудрага, вечнага.

Успомнім жа, аднак, тут і Бранштэйна – аднаго з рускіх крытыкаў-вульгарызатараў 30-х гадоў. І асабліва аснову яго вульгарызацыі літаратуры, якая пачыналася з таго, што вышэйшай праявай гуманізма ў свеце аб’яўлялася класавая ненавісць, аб’яўлялася насуперак хрысціянскай ідэалогіі любові да бліжняга, любові як такой, як душэўнай сілы, што аб’ядноўвае дабрынёй, мірам, павагай чалавека да чалавека. Любоў у беларусаў – гэта паняцце ўвогуле больш агульнае, чым каханне – улюбёнасць хлопца ў дзяўчыну, дзяўчыны ў хлапца. Дык вось, паводле вульгарызатара ніякая не любоў павінна быць у аснове чалавечага грамадства, а менавіта, нянавісць – нянавісць класавая да класавага ворага – суседа-кулака, ды і да родных бацькі і маці, брата – да брата, сястры – да сястры, калі яны аказваліся ворагамі народа, бо штось нелаяльнае праявілі. Не станем тут множыць прыклады, як руская і беларуская літаратура дэгуманізавалася, ды ўспамінаючы адно паэму Сцяпана Шчыпачова пра Паўліка Марозава. С. Шчыпачоў апаэтызаваў амаральны ўчынак Паўла, які данёс у органы на ўласных бацькоў за крадзеж імі некалькі літраў бензіна. Крадзеж, канечне, учынак няўхвальны (чацвёртай біблейскай запаведдзю стаіць: «Не ўкрадзі!»). Але першай стаіць: «Чці маці і бацьку свайго!..» Якое там паважай, «чці!», калі ў абавязках піянера па-першае – даносіць. Данос – вось вышэйшая форма класічна-савецкіх паводзінаў, пралетарскай маралі, прыклад да ўсенародных паводзінаў! І С. Шчыпачоў атрымлівае за паэму пра Паўліка Марозава высокую ў СССР літаратурную прэмію, прычым не ў 30-я гады, калі ўжо ні Бранштэйна, ні Яжова, ні Сталіна не было, але ідэалагізацыя, вульгарызацыя савецкіх літаратураў заставалася ў сіле.

І тут паўстае пытанне, ці ідэалагізаваная літаратура – мастацкая літаратура, ці вульгарызаваная літаратура – мастацкая літаратура?

Бяда ў цэлым сапраўды мастацкай літаратуры пачынаецца там, дзе пераістотніваецца яе гуманістычны змест, пафас, ідэі пераістотніваюцца свядома, мэтанакіравана. Так, у рускай літаратуры яе пераістотненне ішло ад М. Чарнышэўскага да У. Леніна, да А. Жданава. Працэс пераістотнення ў рускай літаратуры аказаў самы істотны, самы магутны ўплыў на ўсе нацыянальныя літаратуры СССР, у тым ліку і на нашу беларускую літаратуру.

Гэта яшчэ далёка да савецкага часу М.Г. Чарнышэўскі сказаў: «Ілжывая ідэя мастацтва не нараджае», а А. Герцан пацвярджаў, што ні смычок музыкі, ні разец скульптара мяшчанства не паэтызуюць. Палітыкі, аднак, думалі інакш. У. І. Ленін у 1905 годзе напісаў артыкул «Партыйная арганізацыя і мастацкая літаратура» з лозунгам «літаратура павінна стаць калёсікам і вінцікам пралетарскай справы». Іншымі словамі, патрабавалася ідэалагізацыя мастацкай літаратуры, пераходу яе на службу партыйным ідэолагам, і толькі гэтая служба дэмагагічна аб’яўлялася ўгоднай народу – народнай, адзіна ідэйнай і, урэшце, бальшавіцкая ідэйнасць стала вышэйшай формай народнасці. М.Г. Чарнышэўскі, М. Дабралюбаў патрабавалі народнасці як вышэйшай праявы праўдзівасці ў мастацкай літаратуры, і падумаць не маглі, што такім чынам абернецца іх лозунг народнасці.

Але тэма бальшавіцкай ідэалогіі як вышэйшай формы народнасці шырока зацвердзіла сябе ўжо ў пасляваенным часе – пасля даклада А.А. Жданава пра ленінградскія часопісы «Звязда» і «Ленінград» (1946). У 20-30-я гады панавалі лозунгі пралетарскасці, дыпламатніцтва, так званымі папутчыкамі-інтэлігенцыяй у літаратуры, пасля ішло выспяванне формулы «савецкая літаратура – сацыялістычная па зместу, нацыянальная па форме». Пры ўсім, пры гэтым ішла менавіта ідэалагізацыя, вульгарызацыя літаратуры. Менавіта ад іх беларуская літаратура – асабліва першых двух дзесяцігоддзяў пасляваеннага часу стала такой прымітыўнай, што сёння, азіраючыся на яе, не раз жах бярэ.

Вульгарызацыя вельмі бессарамяжна надта шырока абкарнала нашу беларускую сярэднявечную літаратуру. Ленінскі пастулат абвяшчаў: «У кожнай культуры – дзве культуры: рэакцыйная і народная». Рэакцыйная з праграмаў навучання выкрэслівалася, бо яна была звязана з імёнамі магнатаў Льва Сапегі, Уршулі і Міхала Радзівіла-Рыбанькі, і, такім чынам, заставалася з рэлігійнай літаратурай. Звязанае з праваслаўем, са свецкай літаратуры выпячвалася нізавое – інтэрмедыі з батлейкі, паўстанне чорных людзей у Смаленску – летапіснае. «Наша Ніва» аб'яўлялася буржуазна-нацыяналістычнай газетай, і толькі тыя нашаніўцы, каго адносілі да рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, вывучаліся. Але самае галоўнае, што адбівала любую ахвоту і любоў да беларускай літаратуры – гэта схема, паводле якой беларуская літаратура паўставала ілюстрацыяй цяжкога беспрасветнага жыцця ў дарэвалюцыйным часе, і радаснай, шчаслівай ад свабоды і заможнасці беларуса ў Савецкай Беларусі з яе дымнай індустрыялізацыяй і неаглядными калгаснымі прасторамі пад дбайным кіраўніцтвам савецкай улады, камуністычнага ладу. Беларуская літаратура аказвалася бяздумнай, ніякага чалавечазнаўчага зместу, інтымных пачуццяў, філасафічнасці. Адно захліпанне ў ілюстратыўнасці сацыялагічнай схемы, спрошчанасць аголенага кантрасту: бяда, гора – радасць, шчасце; адсталасць, беспрасветнасць – уздым, усё перадавое, нябачанае ў свеце; бяспраўе, сацыяльны і нацыянальны прыгнёт – улада самога народа, самая перадавая ў свеце дэмакратыя, росквіт нацыянальнага ў інтэрнацыянальным сузор'і СССР, не гібенне, а суцэльнае шчасце. Пачуцці наперш якія? «Я роднаму Сталіну песні спяваю» і сурагат любоўнага – выхаванне любові да трактара, торфа-перагнойных гаршочкаў, кукурузы цераз іх паэтызацыю, па сутнасці, беларускага прыгожага пісьменства не было, не было праўды жыцця, паглыблення ў індывідуальны свет чалавека, у сацыяльныя, маральныя канфлікты, у інтэлектуалізм. Такім чынам, беларускай савецкай літаратуры амаль зусім не было чым прываблiваць вучня ці студэнта, рабочага, селяніна ці інтэлігента. Прадаўжалі іх прываблiваць найперш руская, зарубежная літаратуры. Хоць і руская літаратура не пазбегла вульгарызацыі, прыгожым пісьменствам, вялікай, цікавай, прывабнай літаратурай цераз А.С. Пушкіна, М.Ю. Лермантава, Л.М. Талстога, А.П. Чэхава, М.А. Шолахава яна заставалася. Як, напрыклад, вульгарызаваўся А.С. Пушкін? У 20-30-я гады ён аб'яўляўся рэакцыйным, дваранскім, прыдворным паэтам. А ў пасляваенны час яго набліжалі да дзекабрыстаў, рэвалюцыянізавалі. Ды, па сутнасці, даходзіла і да саветызацыі Пушкіна, да таго, што ён нібы прадбачыў бальшавіцкае будучае Расіі, калі ў вершы, прысвечаным дзекабрыстам, пісаў:

Товарищ, верь, взойдет она,
Звезда пленительного счастья,
И на обломках самовластья
Напишут наши имена.

Так чырвоная зорка бальшавікоў атаясамлівалася са «звездой пленительного счастья» з пушкінскага верша, з вобразам, які аказаўся прарочым у вуснах самога Пушкіна, таварыша Пушкіна, а не грамадзяніна, бальшавіцкага таварыша.

Савецкая ява была, канечне, на «обломках самовластья», і ці ж не як вяльбіцель самой савецкай улады, рэчаіснасці выступае Пушкін, верачы ў хвалебнае напісанне імён яго і дзекабрыста на «обломках самовластья» – на скрыжалях бальшавіцкіх перамог. Бальшавік прарок Пушкін, і толькі! І тут было самае дзіўнае дзіва! Тут спрацоўвалі адвольныя асацыяцыі, ілюзіі. Лексіка-вобразнасць Пушкіна спрыяла асучасніванню, бальшавізацыі яго паэтычнага мыслення. І зусім не здавалася, што ідзе штучнае асучасніванне, дэмагагічнае пераварочванне канкрэтнага сэнсу верша ў жаданы, у ідэалагічна важны, спрыяльны новай гістарычнай сіле, бальшавіцкім нуворышам.

А.С. Пушкін быў не выключэннем. Люстрам рэвалюцыі аб'яўляўся Леніным Л.М. Талстой. У 1910 годзе пісаўся ім артыкул аб вялікім пісьменніку, але ў паслярэвалюцыйны час без намёкаў ішло, сцвярджалася, што геніяльная творчасць мастака і мысліцеля Л.М. Талстога была адлюстраваннем самога Кастрычніка. Вядома, не адлюстраваннем пярэдадняя творчасць Талстога не магла не быць. Але толькі не ў яго славу, не ў яго карысць. Такім чынам, і ў дадзеным выпадку не абышлося без пэўнага прыўлашчвання вялікага пісьменніка сабе і гэтым яго скажэння.

Асобна падкрэслім тут, што падобнае адбываецца яшчэ і з абламаннем яе нацыянальных крылаў, і гэта можна вельмі наглядна бачыць, калі адказваць на пытанне, ці была нацыянальнай беларуская савецкая літаратура? Пачнем з таго, што безнацыянальнай літаратура ў новым часе не можа быць, асабліва з часоў Адраджэння. Яна была па-над народамі ў сярэднявечнай Еўропе, калі навука карысталася лацінскай мовай, у Азіі – калі там мовай навукі і паэзіі была арабская мова. Надмовай Усходняй славянскай пісьменнасці была стараславянская мова. Але адраджэнскі час у Еўропе, параджаючы нацыі, параджаў літаратуру на іх народных мовах – валошскай, французскай, ангельскай, чэшскай, нямецкай, польскай, гішпанскай і г.д. Руская мова стала мовай рускай літаратуры, а не царкоўна-славянская, як не на ёй, а на балгарскай, сербскай, украінскай, беларускай мовах узніклі адпаведныя літаратуры.

Не адно мовы сталі ў іх першаасновай, бо хоць мова ўвогуле – першааснова літаратуры, папярэдзе павінна ўзнікнуць нацыянальная ідэя, нацыянальна-вызваленчы рух, як то ў Балгарыі – бунт супраць Асманскай імперыі, турэцкага ярма, як то на Украіне і Беларусі – нацыянальна-вызваленчы рух супраць імперыі Раманавых. Вызваленчыя рухі народаў – дэмакратычныя, рэвалюцыйныя, перадусім культурна-грамадскія, літаратурныя. Імі кіруе, у іх пануе нацыянальная, патрыятычная, гуманістычная ідэя («Чалавекам звацца»). Патрыятызм – ён параджэнне Адраджэння, да гісторый продкаў, роднага краю, да бацькі і маці, да родзічаў-продкаў. Змест патрыятызму – чалавечны, натуральны, чалавекалюбны, высакародны, інтэлектуальны, прыгожы. Звыроднага ў ім нічога няма, і ён не пачынаецца з супрацьпастаўлення свайго чужому, з узвышэння адной нацыі над другой, з палітыкі выраджэння, дэнацыяналізацыі адной нацыі другой, са знішчэння – фізічнага, праз шыбеніцы і расстрэлы – адной нацыі другой. Патрыятызм – ад слова «Pater» – бацька. «Patria» – бацькаўшчына. «Pater» у католікаў – патэр, святар, «Patria» – бацькаўшчына, цераз роднага бацьку не толькі родная, але і святая, свяшчэнная.

Нацыянальная ідэя як святая патрыятычная пачыналася адной з самых светлых ідэяў у новым свеце. Але, ясна, што яна была мясцоваю, рэгіянальнаю, тутэйшаю. Прычым, гэтая ідэя генетычна інтэлігентная. Генетычна яна пачынаецца ад інтэлігенцыі, ад кнігі, ад яе распаўсюджанасці ў народзе. У нас, беларусаў, яе глашатаямі сталі Ф. Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі, у XIX стагоддзі – Ф. Багушэвіч (не без друкаванага слова, зборнікаў «Дудка беларуская», «Смык беларускі»). У XX стагоддзі беларускую інтэлігенцыю складалі не толькі народныя інтэліген-

ты, якімі былі Янка Купала і Якуб Колас, але і тэхнічная інтэлігенцыя – сыны чыгуначніка Луцкевіча Іван і Антон, Уладзіслаў Галубок, каморнікі Аляксандр Уласаў і Алесь Гарун, сын гандляра лесам Змітрок Бядуля, медсястра Цётка. Дык вось на пачатку XX стагоддзя беларусы, якія называлі сябе тутэйшымі жыхарамі Паўночна-Заходняга краю – губерніі, ядра геаграфічнай Беларусі, – аб'явіліся з тутэйшай нацыянальнай ідэяй. Ідэя была антыімперскай, антыцарскай, дэмакратычнай, як антыцарская – нацыянальна-вызваленчай, рэвалюцыйнай. У гэтай сувязі яе ідэалы былі за свабоду, за новы дзяржаўна-палітычны сацыяльны лад, за свабоду слова і развіццё нацыянальнай літаратуры і культуры. У рэвалюцыю верылі, у рэвалюцыю пайшлі – за рэкламаванымі ідэаламі, лозунгамі, дэкрэтамі.

Але ў рэвалюцыі перамаглі не рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэалы, а сілы, якія, выкарыстоўваючы іх, зрабілі стаўку на ўсясветную рэвалюцыю. Не было лозунга «Яднайцеся дэмакраты і нацыі!», а загучала «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!». Пралетарыі не перамаглі ў Германіі, будзёнаўцы не дайшлі далей Львова, Тухачэўскі – далей Віслы. Для Беларусі рэвалюцыя кончылася Рыжскім дагаворам 1921 года, які падзяліў яе на Усходнюю і Заходнюю з уключэннем Усходняй часткі ў СССР (1922). Былі дзве хвалі беларусізацыі ва Усходняй Савецкай Беларусі, а колькі шуганула хваляў рэпрэсіяў, накіраваных супраць т. зв. нацдэмаў, – гэта значыць, нацыянальных дэмакратаў, мясцовых патрыётаў, таго сёння не злічыць. Увогуле да рэвалюцыі ўсе мясцовыя нацыянальныя дэмакраты былі за рэвалюцыю, за яе дэмакратычныя ідэалы. Але калі гэтыя ідэалы пачалі парушацца, светлыя галовы не маглі таго прыняць, і былі аб'яўлены бальшавікамі варожай інтэрнацыяналізму сілай, буржуазнай контррэвалюцыяй. Беларускія дэмакраты ўтварылі асобную народную рэспубліку – БНР. Бальшавікамі БНР была знішчана, але, выдаючы сябе за дэмакратаў, бальшавікі не маглі не стварыць беларускай рэспублікі, якая стала БССР. Вядома, пасля 1922 года станавілася ідэалагічна новай. Ішло адхрэшчванне ад нашаніўства, не прызнаваліся тыя дзеячы культуры і палітыкі, што пайшлі супраць бальшавізму, і была самая шырокая вера ў рэвалюцыю, у Саветы, у вольную Савецкую Беларусь. Менавіта гэтая вера нарадзіла «Маладняк», лаяльнымі да савецкай улады зрабіла Янку Купалу, Якуба Коласа, вярнула з эміграцыі Усевалада Ігнатоўскага, Вацлава Ластоўскага, Зоську Верас, Паўліну Мядзёлку і многіх іншых. Здавалася, што пад савецкімі сцягамі квітнее дэмакратыя Беларусі, беларуская літаратура, ды тое, ува што паверылі, аказалася ілюзорным, бо тое, што настала, стала зусім не тым, якім чакалася, на якое спадзяваліся, у якое паверылі.

Беларусь была краем сялянскім. У дзецях сялян рэвалюцыя абудзіла энтузіязм («Мы дзеці рэвалюцыі, Рэспублікі сыны...», Алесь Дудар). Моладзь, аднак, хутка зразумела, штоо рэальна Беларусі рэвалюцыя прынесла. І пачалося ў моладзі расчараванне ёю, і што яно можа стаць крыміналам, контррэвалюцыяй, моладзь аб гэтым і не здагадвалася. Верхаводзіла пралетарская літаратура, і тое было ўсім нармальна: перамагла пралетарская рэвалюцыя, і хто з ёю, той першы. Ды такіх і ў Расіі, і ў Беларусі было мала, бо літаратурнаю ў Расіі была інтэлігенцыя, у Беларусі – хлопчыкі, учарашнія сяляне. Перамоганосная партыя імкнецца залучыць пад свае лозунгі інтэлігенцыю: пралетарская літаратура – гэта добра, але няхай пралетарскія ідэі падхопіць і інтэлігент. Яго назвалі спадарожнікам, і тое ўзаконіла ў рускай літаратуры таленавітую гвардыю, якая не была пралетарскага паходжання, а ў Беларусі выйшлі на першы план непралетарыі Янка Купала і Якуб Колас.

Палітыка партыі ў літаратуры была ўвогуле вельмі прадуманай. На чале пажаданы быў партыі не абы-хто і ў патрэбным ёй ідэйным кірунку. І стала сцвярджацца: савецкая літаратура – самая перадавая ў свеце, самая дэмакратычная, самая народная. Яна – сацыялістычная па зместу, нацыянальная па форме.

І яшчэ адзін тэзіс неўзабаве аж закрасаваў: савецкая літаратура паказвае жыццё ў яго рэвалюцыйным развіцці, і гэтым на першы план выйшла запатрабаванне ігнараваца праўды жыцця ў карысць зману, партыйным кан'юнктурным пастановам. Так адбылося адступленне ад крытычнага рэалізму да соцрэалізму, ад мадэрнізму з яго пошукамі навацыяў да жорсткіх рамак забаронаў тэм, матываў, настрояў, да спрашчэння формаў, дэфармацыі іх, перакрэсліванне інтэлектуальнага, метафарычнага, сімвалічнага, асацыятыўнага, падтэкставасці, алегорыі, «завумі», эксперыменту.

Сацрэалізм пераістотніваў традыцыі сусветнай класічнай літаратуры, і літаратура ці ж не станавілася нелітаратурнай, прафанацыяй літаратуры? Станавілася ўсім пералічаным, хоць заставалася літаратурай, не ў прыроднай яе форме, а пачварна зыначанай.

Перш за ўсё яе іначыла патрабаванне паказу жыцця ў яго рэвалюцыйным развіцці, у яе парастках «светлага будучага». Адсюль ішлі прыхарошванне, ілюстрацыйнасць, надуманая ідэальнасць, ілюзія, кан'юнктурнасць. Увогуле літаратура – ілюзія, трэцяя рэальнасць, спалучэнне матэрыяльнага свету і духоўнасці чалавека. Літаратура – свет выдумкі, абагульненняў, творчай фантазіі, інтэлектуалізм пісьменніка. Уся бяда ідзе ад таго, калі ілюзія паўстае з праднамеранасці, з зададзенасці. Сацыяльны заказ быў галоўным у патрабаваннях партыйнасці, ідэйнасці, нібы сапраўднай мастацкасці. Высокага майстэрства патрабаваў сацрэалізм ад пісьменніка, ад літаратуры, гэта значыць арганічнай адпаведнасці формы ідэі. Але калі ідэі былі прапагандысцкімі, падманнымі, дэмагагічнымі, то ніякая ідэальная форма не магла стаць узорам, прыкладам мастацкасці. Ідэалагізацыя забівае мастацкасць. І літаратура пры гэтым не літаратура, а падробка – ілюстрацыйная, псеўдамастацкая, псеўданародная, псеўданацыянальная, і ўжо ніяк не дэмакратычная, ніяк не гуманістычная, не агульначалавечая, не сапраўднае чалавеказнаўства, хоць пэўныя сацыялістычнай сістэмы чалавека рысы і раскрывае.

А першае, што нацыянальную нашу літаратуру зрабіла ненацыянальнай, гэта інтэрнацыяналізм. Якім чынам? Усё той жа формулай, якую мы ўжо ўспаміналі: беларуская савецкая літаратура, як і ўсе нацыянальныя літаратуры СССР – сацыялістычныя па зместу, нацыянальныя па форме. Пад формай мелася на ўвазе перш за ўсё мова. Дык дзеля чаго ты, мова? Дзеля таго, каб выражаць агульнапартыйны, агульнадзяржаўны, партыяй зададзены змест. Усё, што па-за гэтым зместам безыдэйшчына, антынароднае, абстрактны гуманізм, нацыяналізм – ад каварнага імперыялізму, ад рэакцыйнага Захаду і г.д.

Нацыянальная літаратура пры нацыянальнай ідэі, патрыятызме, мясцовых сацыяльна-грамадскіх праблемах, мясцовым менталітэце, нацыянальным характары праўдзівай уласнай гістарычнай мінуўшчыне, – усё гэта ні ў якім разе не пушчалася, а калі дзе праслізгвала, то выпадкова. Калі дзе толькі заўважалася, разносілася ўшчэнт, раскрытыкоўвалася. Так што ў Савецкі час у беларусаў літаратура і была, і не было яе, бо нацыянальная ідэя з яе выкарчоўвалася, бо моўленыя беларускім словам ідэі ленінізма-сталінізма былі «шрубкай і вінцікам» імперскай ідэалогіі, сродкам яе выражэння.

Але не будзем адмаўляць і таго, у чым савецкі час паспрыяў беларускай літаратуры. Нацыянальную ідэю ў яе бальшавікі забралі, гісторыю Беларусі пераістотнілі, але і ў савецкіх умовах дзякуючы багаццю сваіх талентаў беларуская літаратура займела не толькі ўсесаюзны розгалас, але стала развітай літаратурай свету і ўнесла ў яе свой уклад. Хай не высокамастацкі, не класічны ўклад унесла яна ў еўрапейскія літаратуры, але, прынамсі, для гісторыкаў еўрапейскіх літаратураў цікавы, напэўна, дзе для якога еўрапейскага меламана – займальны, нават таму, што можа ўспрымацца як экзотыка. З песні беларусы слова не выкідваюць, і ўсё знявечанае ў гісторыі беларускай літаратуры палітычнай сілай, ідэалагічным

засіллем сама гісторыя беларускай літаратуры ніяк не выкідае. І чаму ж не з'явай можа не быць замежнаму чытачу займальнай хоць бы тая ж бурапена маладнякоўцаў ці спосабы выкарыстання нацыянальнага фальклору ва ўзвышанца Ул. Дубоўкі? Не мастацкім здабыткам быў, напрыклад, таксама калгасна-вытворчы раман І. Шамякіна «У добры час», ці вытворчы, аб рабочых раман У. Дадзіёмава «Над Нёманам». Але сёння рэальна на іх прыкладзе можна паказваць, да чаго зводзілі пісьменнікаў каноны так званых вытворчых раманаў. У І. Шамякіна раман «У добры час» быў якраз у сваім часе ўзорным тыпам пракламаванай псеўдалітаратуры. Даніна часу! І разам з тым гэты раман прыклад таго, як забіваліся таленты, як нявечылася праўда жыцця ў літаратуры.

І яшчэ адзін горкі прыклад: як вульгарная крытыка забіла талент Аляксея Кулакоўскага. Сам ён на адным са сходаў у СП прызнаваўся, што сапраўдным пісьменнікам не стаў, – самакрытычнасць упрыгожвала яго постаць, ды сапраўдным праўдзівым мастаком слова ён усё ж у вялікую беларускую літаратуру ўвайшоў. Увайшоў аповесцю «Нявестка» (1958). Такой мастацкай праўдзівасці твора А. Кулакоўскі больш не напісаў. Крытыка аповесці была знішчальнай. Пад яе цяжарам мастацка-выяўленчая сіла слова А. Кулакоўскага зблекла. Ён самакрытычна, будучы сумленным, і сказаў пра гэта, але ці першапрычыны свайго спаду разумеў?..

У гэтай сувязі можна ўспомніць, як на сёння, дык анекдатычнае, самакрытычнае прызнанне аднаго іншага празаіка, які наіўна здзіўляўся: «То ж каб я хоць адну Пастанову ЦК партыі не вычытаў да косачкі, дый не раз, а ўсё ніяк нічога лепшага напісаць не магу...» Вера ў пастановы таленту не давала, а крытычныя дубіны, што натхняліся імі, пляжылі таленты неймаверна!..

Сацрэалізм сцвердзіў сябе з пачатку 30-х гадоў. Але не трэба думаць, што ўладарніцтва яго было ўсёмагутным да самога канца савецкага часу. Пасля XX з'езда КПСС яно значна пахіснулася, і ў час адлігі, калі М.С. Хрушчоў выступіў з выкрыццём культа Сталіна, і з распаўсюджаннем тэзы француза Гарадзі аб «рэалізме без берагоў». Падзенне жалезнай заслоны ад Захаду давала свае вынікі, бо пайшло зачытванне Э. Хэмінгуэем, Э. Камю, П. Сартрам, Ф. Кафкам, Джойсам, і лічыць узорамі сацрэалізма ўжо «Дні і ночы» К. Сіманава наўрад ці можна, а тым больш «У акопах Сталінграда» В. Някрасава, «Здраду» Э. Казакевіча, «Цішыню» Ю. Бондарава, «Жураўліны крык» В. Быкава, апавяданні К. Паўстоўскага, М. Прышвіна, Ю. Нагібіна, С. Антонава. Руская проза «дзеравеншчыкаў» Ю. Астаф'ева, М. Бялова, а затым «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» А. Салжаніцына, – усё гэта было ўжо не «Кавалерам залатой звязды» Сямёна Бабаеўскага, не «Святлом над Ліпскам» Макара Паслядовіча. Увогуле назасавецкай літаратурай была аб'яўлена творчасць дэсідэнтаў з выгнаннем за мяжу Даніэля і Сіняўскага, Іосіфа Бродскага.

Вышэй ужо гаварылася пра выдатны твор у нас, у Беларусі Аляксея Кулакоўскага «Нявестка». У рамкі сацрэалізма ніяк не лезлі аповесці Янкі Брыля «На Быстранцы», ягоны ж раман «Птушкі і гнёзды», уся ваенная проза В. Быкава, а якой аздобай нацыянальнай прозы сталі раманы В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына», І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», Ул. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», І. Навуменкі «Смутак белых начэй», І. Шамякіна «Гандлярка і паэт», апавяданні Ул. Дамашэвіча, Б. Сачанкі, М. Стральцова!

Трэба адзначыць, што пачатак 30-х гадоў з яго сацрэалістычнай аглабельшчынай вельмі відавочна перапыніў развіццё прозы ў Беларусі, бо, па-першаму, адно толькі з задуманых эпапеяў выдалі К. Крапіва («Мядзведзічы»), М. Лынькоў («На чырвоных лядах»). А замах на эпапеі быў самы сур'ёзны. Успомнім тут і горкае прызнанне К. Чорнага 1944 года: «А хто ж мае раманы напіша?!.» Сваіх раманаў у 30-я гады К. Чорны не напісаў, бо здавальняў вульгарызатарскія сацзаказы, пакінуўшы з гэтых гадоў кан'юнктурную аповесць «Люба Лук'янская» і жахлівы

пасквіль на беларускае сялянства раман «Трэцяе пакаленне» – (вобразы Міхала Тварыцкага, які пнецца ў кулакі, з філасофіяй каварнага ўласніка, здзічэлага ад прагі ўласніцтва, і сялянкі Зоські, яе пераліцоўцы з аблытанай патрыярхальнай мараллю вёскі дзявухі-парабчанкі ў саўковую прымадону).

Па сутнасці, найярчэйшую рэабілітацыю беларускага сялянства ў раманістыцы даў у 60-я гады Іван Мележ. Яго раман «Людзі на балоце» стаў не толькі ўсесаюзнай, але і ўсееўрапейскай падзеяй. І ўвогуле гэта было новае мастацкае адкрыццё калектывізацыі як этапа народнага жыцця, як пачварнай явы ў ім, як нацыянальнай перамогі духоўнасцю раз'ятраных нялюдскіх стыхіяў.

Увогуле і пры нарматыўнасці патрабаванняў сацрэалізма і партыйных пастаноў па літаратуры, іншымі словамі, ва ўмовах ідэалагізацыі, дэгуманістычных і дэмаралізуючых тэндэнцыяў беларуская літаратура савецкага часу даволі часта заставалася на вышынях чыстай мастацкасці, бо была багатая на таленты, таленты перамагалі антымастацкае. Але дзейнічаў і яшчэ больш усеагульны закон, які ярка сфармуліраваў Леанід Лявонаў, калі патрабаваў «не... выдаляць з літаратуры прыўкрасную і бессмяротную чалавечую тэму, здзяйсненне якой адно і мерыцца геній мастака». Чалавечая тэма, яна ж і чалавечная. Наша літаратура, застаючыся пры іх, і ўзнімалася над ліхалеццем. Яе мастацкі геній і мерыцца шырынёй здзейсненага ва ўмовах чыстай мастацкасці менш усяго спрыяльных.

### 3. Калі б не адаптацыя

Вышэй ужо адзначалася, што адаптацыя літаратуры ідзе перадусім ад задачаў педагагічна-выхаваўчых, спрашчэння літаратуры, як мае ў сваіх асновах і эксперымент, пошукі новых формаў – не без камерцыйных разлікаў, не без пэўнай моды, папулізма. Наша сучаснасць не абыходзіцца ні без першага, ні другога, і на тое ёсць свае падставы – апраўданне, прызнанне патрэбы. Ёсць у адаптацыі прымальнае, ёсць і нешта больш займальнае. Суцэльнага адмаўлення ёй даваць нельга, але, але...

Такім чынам, звычайна адаптуюць тэкст пры перакладзе яго для падручніка – дзеля палёгкі вывучэння замежнай мовы. Свая карысць тут ёсць, але першынства трэба аддаваць усё ж мастацкаму перакладу, бо водару арыгінала, ягонага духу пры сваім спрашчэнні, пропусках адаптацыя не перадае, бо ёсць пэўная іх дыскрымінацыя.

Як ні патрэбная адаптацыя, яна – парушэнне мастацкасці літаратуры, зыначванне яе, бо змест літаратурнага твора, ці адаптаваны, ці каміксаваны, ён так ці інакш зბеднены. І тут увогуле не можа не ўзнікнуць пытання, ці застаецца твор мастацкім пасля яго пераістотнення – адаптацыі, каміксавання і іншага?

Так, каміксаванне – справа навейшая ці, лепш сказаць, пазнейшая, бо спачатку была класічная літаратура, а коміксы ўзніклі пазней. Відаць, яны амерыканскага паходжання – у новаадкрытай Амерыцы еўрапейская класіка спараджала свайго займальніка-нашчадка – комікс. У займальнасці яму сапраўды не адмовіш, а галоўнае – у самым хуткім спасціжэнні, азнаямленні з вядомымі героямі, сюжэтамі свайго папярэдніка – старой класікі. Менталітэт нуворыша-амерыканца ў сваёй энергічнасці абы пазнацця класікі выбіраў найкарацейшую дарогу.

Ці Амерыка нарадзіла коміксы, ці стары кантынент Еўропы – гэта дакладна вядомым быць не можа, бо непасрэдна яго папярэднікам было і ілюстраванне кніг мастацкай літаратуры. Бо што такое комікс? Гэта найперш малюнак з героем у пэўных абставінах, у вусны якога ўкладзены той ці іншы тэкст – пытанні, клічныя сказы, рэагаванне – стогн ці насмешка, «ура!» ці «банзай!..» Але комікс, ён – від мастацтва ці не від? Вядома від, ды яшчэ і супернік мастацкай літаратуры. Бо калі ілюстрацыя ў кнізе ідзе пад руку з прыгожым пісьменствам, як сястра з сястрою, то комікс – гэта больш сын (вырадак?) літаратурнага тэксту. Ён – займальнік, і

займальнасцю наперш абслугоўвае цікавасць да сябе, сваю папулярнасць. Ды якія ні прыўдалыя маюцца ў ім малюнкі і рэплікі, комікс сапраўды больш сын-вырадак з улоння літаратуры-маці, пазбаўлены красы пісанага слова, яго эмацыянальнага гучання, маляўнічай жывапіснасці, філасофскай шырыні і глыбіні, чалавеказнаўчай напоўненасці. Сюжэтныя дзеянні свайго літаратурнага продка комікс на свой лад пэўным чынам перадае, і ягоныя героі маюць у ім свае твары, выяўляюць пэўныя станы душы, пэўныя перыпетыі дзеяння, кульмінацыю і развязку. Ёсць звычайна ў коміксе інтрыгі, напружанасць, ухопліванне на невялікай плошчы ёмкасці агульнага зместу твора – свайго продка, што і дае агульнае знаёмства з папярэднікам комікса – агульнае, а, значыць, здробненае, дылетантскае знаёмства. Іншы, праўда, выпадак – комікс не з эксплуатацыі мастацкага прататыпу. Герой яго – толькі ўласна герой яго, асобны герой з асобнага сюжэта, а гэта свой асобны мастацкі свет, асобная з'ява ў літаратуры. І, такім чынам, думаецца, што сусветную славу не толькі фільмам займеў у свой час Тарзан, але і праз комікс – менавіта коміксавы Тарзан узвялічыў комікс, узняў яго як адзін з самых займальных жанраў навейшай літаратуры.

Вернемся, аднак, да прыкладаў адаптацыі літаратуры ў педагагічна-выхаваўчым плане, і, відаць, самую найбольшую адаптацыю перадусім тэорыі літаратуры мае літаратура ў сярэдняй школе, бо вышэйшая, універсітэцкая школа адштурхоўваецца ад міністэрскіх праграмаў, якія даюць дацэнтам ці прафесарам прастор для творчага, асабістага іх выкарыстання, для асобных для кожнага выкладчыка ВНУ падходаў, сістэмаў падачы праграмнага матэрыялу, імправізацыяў, прыўнясення новых канцэпцыяў, уласна-наватарскіх метадычных метадаў. Літаратурная адукацыя ў сярэдняй школе недзе з самага пачатку зарэгламентаваная – даўнімі традыцыямі, традыцыйнымі падручнікамі, схематызмам. І справа не ў тым, колькі вучэбных гадзінаў адпускаецца на тую ці іншую тэму, на таго ці іншага пісьменніка (міністэрскімі праграмамі), – сённяшняе школьнае вывучэнне літаратуры менавіта сама найбольш заадэптаванае.

Якія ж схемы падручнікаў па літаратуры, пачынаючы з савецкага часу, прапануюцца? Пераважна з шасцю кірункамі: 1) вывучэнне літаратурна-грамадскага руху часу; 2) біяграфіі пісьменніка; 3) ідэйна-тэматычнага зместу твора; 4) яго асноўных вобразаў; 5) мастацкіх асаблівасцяў; 6) ролі і значэння. Акцэнты робяцца пераважна на вывучэнні біяграфіяў, галоўных вобразаў, мастацкіх асаблівасцяў. Але ці памятанне іх дае поўнакаштоўнае веданне літаратуры, разумення яе? Вядома, час, месца, аўтарства (кім напісаны твор), якія яго тэма, ідэя, праблематыка, філасофія (канцэптуальнасць), вобразы, сюжэт, кампазіцыя, жанрава-стылёвая сутнасць, мова, – усё гэта пры вывучэнні твора трэба спасцігнуць, бо ўсё гэта ў літаратуры сутнаснае – ад яе зместу і формы, як мастацкага адзінства, вобразнага слова як з'явы спецыфічнай, непаўторнай, прыгожай, эмацыянальнай. Аднак, ці веданне біяграфіі пісьменніка спрыяе ўлаўліванню ў яго мастацкім слове ягонай спецыфічнасці, непаўторнай маляўнічасці, эмацыянальнай сферы таго мастацкага свету, які пісьменнікам створаны, у якім жывуць яго героі? Ці вельмі дапамагае раскрыццю светаразумення, светабачання, светаўспрымання пісьменніка, канцэпцыі яго твора? Веданне характару героя, перыпетыяў яго паводзінаў у сюжэце – у пэўным часе, у пэўных абставінах, у сутычках з пэўнымі людзьмі, Яно, хоць таксама сутнаснае, фактурнае ў мастацкім творы, але яно – зноў жа не сама яго поўніца, не самое тое адзінае агульнае, што ёсць маляўнічым, эмацыянальным, разумным – менавіта літаратурай як з явы эстэтычнай, прыгожай, чалавечнай, добрай, дабрачыннай.

Дэталёвыя веды літаратурна-грамадскага руху, яно таксама перадусім пахвальнае. Якія часопісы выдавалі А.С. Пушкін і М.А. Някрасаў, як складваўся лёс расійскага рамантызму пачатку XIX стагоддзя, натуральнай гогалеўскай школы, як рэалізм сцвярджалі В.Р. Бялінскі, М.А. Дабралюбаў, М.Г. Чарнышэўскі, – без усяго

гэтага не мець патрэбных уяваў пра расійскіх пісьменнікаў XIX ст. Разам з тым цікавыя і негатыўныя адносіны А.С. Пушкіна да Ф.В. Булгарына, – пазітыўныя, сяброўскія адносіны Ф.В. Булгарына да Адама Міцкевіча, якому замежны пашпарт выстараўся менавіта Ф.В. Булгарын. Або ўзяць узаемаадносіны на эміграцыі – у Парыжы – двух Адамаў: Міцкевіча і Чартарыйскага, першага, які верхаводзіў дэмакратычна-шляхецкай часткай польскай эміграцыі, другога, які быў лідэрам сармацка-кансерватыўных сілаў. Ці ж гэта не цікава? Бо калі ўвогуле ў Адама Міцкевіча пачалі набываць большай сілы ягоныя ліцвінскія сімпатыі, то другі Адам якраз вельмі і паспрыяў, каб прыбраць магутнага суперніка з палітычнай арэны і ўжо па-за ліцвінізмам рабіць свайго цёзку вешчам-прарокам Польшчы. Ліцвінізм Адама Міцкевіча сённяшняму беларусу вельмі цікавы, бо беларусіць палітычныя пазіцыі Адама Міцкевіча. Праўда, палітыканства Чартарыйскіх уласна літаратурных спраў не датычыла, але смерць літаратара А. Міцкевіча наблізіла і гэтым ужо гісторыі польскай літаратуры належная, як і гісторыі ліцвінізму Адама Міцкевіча, які быў не без аб’ектыўнага спрыяння ўздыму нашай новай беларускай літаратуры ў XIX стагоддзі. Варта тут дадаць і такую дэталь: некаторыя сённяшнія польскія даследчыкі лічаць, што ў Стамбуле Адам Міцкевіч быў атручаны. А менавіта цераз Стамбул імкнуўся ліцвін Адам Міцкевіч у Літуанію, вызваляць яе з-пад цара арганізаванымі непасрэдна сабой воінскімі сіламі прагнуў. Атручваючы Міцкевіча, яго супраціўнікі з ім хавалі яго ліцвінізм, яго прагу Радзімы-Беларусі.

Увогуле літаратурна-грамадскі рух мае і такі сектар, як літаратурныя кулуары, калялітаратурнае жыццё. Знатакоў і любіцеляў кулуарных плётак увогуле заўсёды хапае. Матэрыял плётак увогуле часта бывае займальны, але ён – матэрыял не ўласна займальнай літаратуры. Ёсць, вядома, паняцце багема – скандальныя паэты, літаратары. Ды чым веданне багемнага жыцця творцы дапаможа разуменню яго творчасці? Па сутнасці нічым, як, напрыклад, веданне таго, што Янка Купала ў Пецярбургу багемнічаў, зусім не дапамагае выявіць паэтычную веліч пецярбургскага зборніка Янкі Купалы «Шляхам жыцця».

Увогуле багемшчына, скандалістыка – частка літаратурна-грамадскага руху. У 20-х гадах беларуская паэтычная моладзь, канечне, смехам стварыла багемнае таварыства «ТАВІЗ» («Таварыства аматараў выпіць і закусіць»). Ды смехам тое не скончылася, як і вечарына са сватаннем жонкамі Янкі Купалы і Язэпа Лёсіка дзяўчынкі, званай імі Казачок (у будучым пісьменніцы-эмігранткі Саковіч). Паэт Андрэй Александровіч вечарынку ў Лёсікаў неўзабаве зрабіў сюжэтам свае паэмы «Цені на сонцы» (1929), а КДБ аб’явіла яе палітычным кангрэсам беларускіх нацдэмаў. «Цені на сонцы» былі фактычна даносам на ўдзельнікаў вечарыны са сватаннем: Язэп Лёсік фактычна пасля яе быў рэпрэсаваны, як рэпрэсіі не мінавалі і ўдзельнікі парадыйнага на шматлікія саўтаварыствы багемнага «ТАВІЗа». Калялітаратурнае ў выніку абярнулася драматычным і трагічным.

Калялітаратурнае, скандаліцкае ў гісторыі рускай савецкай літаратуры асабліва было гучным у першай палове 20-х гадоў – у час НЭПа, звязанае з трагічнай асобай Сяргея Ясеніна. Не без рэцыдываў скандалізму было літаратурнае жыццё Беларусі ў часы перабудовы, асабліва звязанае з паводзінамі таленавітага паэта Анатоля Сыса, які мог пры прыёме ў СП замежных гасцей – падчас каляцыйнага застолля – пайсці ў прысядку па сталах з пачастункамі і закуссю. Было, што, франдзіруючы, падчас перабудовы маладыя паэты маглі прыйсці ў СП узімку басанож, напавідку ва ўсіх зашываць сабе іголкай з ніткай рот, падчас паэтычнай гадзіны ля помніка Янкі Купалы гадзіну праляжаць нібыта п’яным ля падножжа помніка. Канешне, усё падобнае ішло нібы ад апратэстоўвання чагосьці? Як французы кажуць, фрапацыя кагосьці, чагосьці – форма непрыняцця, ашарашвання, адмаўлення. Няхай і ад непрыняцця, адмаўлення, але насамрэч такія рэчы – дыскрэдытацыя літаратуры, адна з формаў стварэння сабе іміджу, розгаласу, гучнай славы. Такім

чынам, няўхвальная праява – скандалізм, але гэта больш прадмет вывучэння псіхіятраў, чым займальнай літаратуры, і не з яго пачынаць пазнанне, а з рэальнай плоці літаратуры, з тэксту (вывучэнне тэкстаў напамяць – вершаў, урыўкаў прозы, чытанне рознымі галасамі вучняў драматургічных дыялогаў, маналогаў). Тэкст – плоць літаратуры, матэрыя яе. Канешне, генетычныя пачаткі твора, жыццёвая яго аснова, асоба творцы, творчая гісторыя кожнага твора, веданне яго літаратурных герояў, прататыпаў, разуменне творчага варштата пісьменніка-творцы, арсенала вобразна-выяўленчых ягоных сродкаў, выбарачнасці – аўтарскай – сродкаў дзеля займення свайго стылю, сваіх жыццёва-стылёвых асаблівасцяў, – усё гэта прыйдзе, наступіць, стане больш ці менш навуковым спасціжэннем мастацкага слова, увогуле ўспрыняццем яго сэрцам і розумам, але прыйдзе менавіта перш за ўсё ад слова, ад успрыняцця яго – пачуццёвага, асэнсавальнага. Тэкст, ён наперш робіць літаратуру займальнай, ён прыцягвае сэрца і розум сваімі зместам і формай. Але прыцягвае не толькі ён, бо і гісторыя літаратуры. Літаратура і гісторыя літаратуры – увогуле рэчы не ідэнтычныя. Гісторыя сусветнай літаратуры, гісторыі нацыянальных літаратураў – паняцці, якія шырэй паняцця «літаратура». Шырэй таму, што ёмістасць іх, маштабы большыя, чым дадзены адзінкавы твор, які ёсць ужо літаратурай, выяўляе сутнасць яе як рэч у сабе, як пэўную эстэтычную з'яву. Паняцце «літаратура» можна ўсвоіць, зразумець, адчуць менавіта па адным творы, а, правільней мовіць, па адным творы кожнага з родаў літаратуры (эпас, лірыка, драма), па адным творы з кожнага жанра літаратуры. Літаратура ўвогуле, такім чынам, мае шмат аблічаў у залежнасці ад родаў і відаў-жанраў. Ды і не толькі ў залежнасці ад родаў і жанраў, бо і ад талентаў. А так як кожны талент мае свой стыль, то і ад стыляў.

Разам з тым, паколькі гісторыі літаратураў звязаны з гісторыяй народаў, кантынентаў, цывілізацыяў, перыядаў, асобных эпохаў развіцця цывілізацыяў, то іх шматабліčча залежыць і ад часу, і ад месца-прасторы. Шумеры (XVII стагоддзе да нашай эры) далі «Сказ пра Гільгамеша», іудзеі (VI-V стагоддзі да нашай эры) – Біблію, Элада (VIII стагоддзе да нашай эры) – «Іліяду» Гамера, Рым (I стагоддзе) – паэзію Гарацыя. Аж тры перыяды мае еўрапейскае Сярэднявечча – Ранняе, Высокае і Позняе. Гісторыя Еўропы, звязаная з імі, абумоўлівала, у прыватнасці, аблічы мастацкіх літаратураў Адраджэння, Рэфармацыі, Барока.

У гісторыю літаратуры ўваходзяць, такім чынам, літаратурна-грамадскі рух, пісьменнікі, іх творы. Веданне гісторыі літаратуры – гэта знаццё прозвішчаў літаратараў, памятанне назваў іх твораў, даты напісання твораў, памятанне як прозвішчаў літаратурных герояў прозы, эпаса ці драматургіі, так і праблемаў, узнятых у творах, ідэяў, сцверджаных у іх, тэмаў, разгорнутых у іх, асноўнай канцэпцыі жыцця як стрыжня. Гісторыі літаратуры любога народа, любога часу, падкрэслім яшчэ раз, не зразумець таксама без бачання генетычнай іх залежнасці ад эпахальных перыядаў развіцця грамадства, і яе, гісторыю літаратуры запаўняюць і паняцці Антычнасць, Адраджэнне, Барока і г.д.

Такім чынам, поўнае разуменне літаратуры можа складвацца пры паглыбленні ў самую яе і ў яе гісторыю. Але тут напрошваецца яшчэ і такое пытанне, ці пры гэтым сапраўды можа быць яно поўным? Зноў адразу адкажам, што поўным быць не можа, бо няма яго, поўнага, без паглыблення ў тэорыю літаратуры. І якраз бяда школьнага выкладання з таго найперш пачынаецца, што яго тэарэтычнае асвятленне завельмі спрошчана. Адаптацыя літаратуры ў сярэдняй школе склалася якраз на аснове спрашчэння тэорыі – перадусім падачы разумення катэгорыяў тэма, ідэя, сюжэт. Тэма, – сцвярджаецца тут – гэта тое, пра што твор напісаны, ідэя – галоўная думка твора. Такім чынам, ідзе разрыў тэмы і ідэі, ідэя – рацыяналізуецца ў тым сэнсе, што не ўлічвае значымасці эмацыянальнасці твора, а сюжэт разглядаецца як змест, а не элемент формы.

Што датычыцца тэмы, трэба падкрэсліваць, што яна шмат у чым прадвызначае ідэю твора. Так, напрыклад, М. Горкі гаварыў, што тэма «цяжарная ідэяй», гэта значыць, набраклая ёю, як бы нясе яе ў сваім чэраве.

Увогуле тэматыка і праблематыка ідуць упары, яны – не ў разрыве, а ў лучнасці. Так, напрыклад, у выдатных творах аб побыце рускага сяла, як і беларускага, украінскага, малдаўскага, высокі ўзровень філасофскі быційнага (у М. Бялова, А. Астаф'ева, Ч. Айтматава, Васіля Земляка, В. Быкава). Узняццё мастацкага твора да філасафічна-быційнага ўзроўню як бы само па сабе адмаўляе лішнасць катэгорыі «тэма», як таксама паказвае і вузкасць яе. Нездарма, па сутнасці, уцёкамі ад вызначэння тэмаў было пераключэнне ў школе ўвагі на ідэйна-тэматычны змест твора, якім уласна ахопліваліся і яго тэматычны круг, і ідэйна-праблематычная напоўненасць, агульнафіласофскае, грамадзянска-сацыяльнае, дыдактычна-выхаваўчае гучанне.

Аднак, асабліва звужаным у школьных падручніках было і застаецца паняцце, якое вызначаецца словам «ідэя». Вось яно: «Ідэя твора – гэта яго галоўная думка». Станоўчая, сцвярджальная, негатыўна-адмоўная, асуджальная, прысудная – думка, і толькі. А ці літаратурны твор, ці ж літаратура ў цэлым – толькі думкі, толькі думка? Ці ж іх змест толькі рацыянальны, разумовы, сэнсавы, ці толькі да розуму чалавека звернуты, сілагізмамі мудрасці насычаны, толькі словам павучальны? Канешне, літаратурны твор, літаратура як слова прамаўляе да галавы, вочы перш за ўсё чуюць слова, бо чытаем мы яго моўчкі, – чытаем, вухам не чуючы словаў. Але, будучы бязгучным, літаратурнае слова роўна адрасуецца і галаве, і сэрцу, бо яно і разумнае, і пачуццёвае. І пачуцці, якія яно абуджае, часта дамінуюць над аб'ёмам узятага галавой, розумам, мазгамі. Пачуцці сапраўды часцей за ўсё перахлёстваюць сэнсавы змест твора, які чалавек чытае. Кніга ўражвае, хвалюе, прымушае чалавека хвалявацца, улюбляцца ў нешта, узненавіджваць нешта, плакаць і смяяцца, радавацца і спачуваць. Ідзе разгул пачуццяў, карнавальны ці праклінальны, дзевятыя валы захаплення ці ганьбавання, прыняцця як свайго любага, мілага, дарагога ці адрынання як поскудзі, паганства, нялюдскасці, ілжывасці. Карацей кажучы, словы, выдрукаваныя маўклівымі чорнымі літаркамі, ствараюць той ці іншы настрой, бо яны абрысамі чорныя, а іх чарната ў арэоле-німбе самага разнастайнага значэння-сэнсу і эмацыянальнага ззяння. Зместам слова, такім чынам, ёсць і сэнс, і эмоцыя, і аднолькава яны разумныя і значныя, красамоўныя, і, у выніку, ідэя вызначаецца і тым, што гучыць разумна, рацыянальна, і тым, што зіхоча, як паўночныя ззянні, пачуццёва, эмацыянальна. Змест лагічны, змест эмоцыяў. Разумнае не толькі лагічнае, сілагічнае, але, свой сэнс маючы, разумная і эмоцыя. Такім чынам, ідэя твора не толькі з думак, але і з пачуццяў, не толькі галоўная думка твора, але і галоўны тон эмацыянальнага напору ў творы, эмацыянальнай яго напоўненасці, эмацыянальнай яго сутнасці. Іншымі словамі, ідэя спараджаецца і светаразуменнем пісьменніка, і яго светаўспрыманнем, светаадчуваннем. Канцэпцыя свету ў пісьменніка якраз і ідзе ад ягоных светаразумення, светаўспрымання, светабачання – ад інтэлекта і пачуццяў, ад падсвядомага і ірацыянальнага. Такі менавіта генезіс ідэі ў літаратуры.

Раскрыццё ідэі мастацкага твора – справа надзвычай цяжкая. Таму В.Г. Бялінскі і пісаў, што «памыляюцца тыя, хто думае, што няма нічога лягчэй, як сказаць, якая ідэя ляжыць у аснове мастацкага твора; гэта справа цяжкая – даступная толькі глыбокаму эстэтычнаму чуццю, спалучанаму з асэнсавальнай думкай... Паэтычная ідэя – гэта не сілагізм, не дагмат, не правіла, гэта жывая жарсць, гэта пафас».

Толькі цяжэй раскрываць кожную ідэю твора, калі пафас разумець не пагегельянскаму, што ён ёсць супадзеннем задумы з асобай, думкі з характарам, рэфлексіі з жарсцю, роздуму з пачуццём. У Ф. Гегеля менавіта падкрэсліваецца,

што ідэя як пафас – справа асобы, залежная ад яго характару, мыслільнасці, рэфлексіі, інтэлекту, эмацыянальнасці. Успамінанне ў Ф. Гегеля характару якраз ідзе ад таго, што характарам чалавека вызначаецца яго пачуццёвасць, летуценнасць, запальчывасць, жарсць, напор душы.

Форма літаратуры мае тры элементы. І хоць сотню разоў было ўжо за М. Горкім паўторана, што першаэлементам літаратуры з'яўляецца мова (а гэтага сцверджання асабліва не падважыць, не адмовіць), ды ўсё ж быць бліжэй ісціны, калі кожны з элементаў літаратуры ўраўнаважыць, бо кожны з іх аднолькава працуе на мастацкую цэласнасць твора, на яго згарманізаванасць, хараство, завершанасць, дасканаласць твора. Мова, сюжэт, кампазіцыя. Калі яны чымсьці не даведзены да мастацкага ладу, да сваёй адпаведнасці ідэі, тады поўнай мастацкасці няма. Пагэтаму кожны з трох элементаў формы роўны ў сваім значэнні, у сваёй функцыянальнасці, у сваёй ролі пры стварэнні мастацкага твора і ставіць якісьці з іх на першае, ці на другое, ці на трэцяе месца, падобнай градацыяй прыніжаць ролю і значэнне кожнага з іх. У «школьнай» жа тэорыі літаратуры асабліва прыніжана роля ў стварэнні мастацкага адзінства твора не так сюжэта, як кампазіцыі.

Самае расплыўчатае ў школьнай тэорыі літаратуры – гэта разуменне сюжэта. Сюжэт пераказваюць як развіццё падзей у творы, якія пачынаюць канфлікт. Ёсць завязка – завязванне дзеяння, яго нарастанне, перыпетыі і кульмінацыя дзеяння, яго развязка. І то гэта ўжо не так школьны, як універсітэцкі ўзровень аналіза сюжэта, а – дакладней, драматычнага дзеяння ў творы з яго асобнымі ланцуговымі элементамі – пралогам, завязкай, нарастаннем, перыпетыямі, апагеем, развязкай, эпілогам. На практыцы ідзе не аналіз сюжэта, а пераказ зместу твора, і гэта таму, што сюжэт разумеецца як катэгорыя зместу, а не формы.

Так што сюжэт звязаны, як і паняцце кампазіцыі, не з пытаннем «што?», а з пытаннем «як?». Як будуецца літаратурны твор, якія асноўныя прынцыпы і прыёмы стварыць твор «заакругленага» дзеяння – з развіццём інтрыгі, займальнасці – выкарыстоўвае аўтар сюжэта, якое майстэрства ў сюжэтабудаванні ім праяўлена? Творы прозы, драматургіі, эпічнай паэзіі ёсць вострасюжэтныя. Ёсць маруднага ці замаруджанага дзеяння: т. зв. лірычная проза можа ўвогуле быць безсюжэтнай. Усё залежыць ад таленту пісьменніка, ад яго тэмпераменту, ад характару жыццёвага матэрыялу, выбару жанра (дэтэктыў патрабуе вострага сюжэта). Так ці інакш сюжэт – элемент формы, і гэта цяжкая школа, навука сюжэтабудавання.

Форма ў прыродзе заўсёды змястоўная, так што і сюжэт як форма ў літаратуры змястоўны. Але падкрэслім спецыяльна яшчэ раз, што сюжэт – элемент формы, а не сам яе змест. У гэтай сувязі вельмі красамоўнае, хоць шматслоўнае, азначэнне сюжэта даў М. Горкі, падкрэсліваючы, што сюжэт – «гэта сувязь, супярэчнасці, сімпатыі і антыпатыі і наогул узаемаадносіны людзей – гісторыі роста і арганізацыі таго ці іншага характара, тыпа». Іншымі словамі, гэта тое, што лучыць, злучае людзей (дружба, каханне, агульныя ідэалы, справы) і тое, што людзей раз'ядноўвае (рознасць характараў, жыццёвых пазіцыяў, спрэчка: лучыць па сімпатыі, разлучае антыпатыямі). А так як у літаратурным творы кожны герой павінен праяўляць свой характар, павінен мецъ ці займець яго, выявіць праз свае ўчынкі ў адносінах з людзьмі яму сімпатычнымі ці не сімпатычнымі на адрэзку таго ці іншага часу ў свеце зменлівых абставінаў, то вось перад намі і выплыла як сакральная споведзь майстра сюжэтабудавання. Галоўнае ў сюжэтных творах усіх герояў прычынна звязаць, злюбіць і рассварыць, пусціць іх па ўласцівых іхнім характарам шляхах паступкаў, падаць у выніку чытачу сутнасць характара кожнага героя, тыпізаваць яго, тыпаж зрабіць сацыяльным, нацыянальным, сучасным або даўніх іншых эпохаў, асяроддзяў. Такім чынам, пачынаць раскрываць сюжэт літаратурнага твора трэба з выявы сувязяў, што звязваюць яго герояў у адзіны вузел (ці асноўныя сямейныя вузлы, таварыскія групы, грамадкі, асобныя калектывы). Рознароднае ўступае ў

канфлікт, перыпетыі яго развіцця, выгасанне, прыніжэнне, трагізм зыхода, – усё гэта ў руках пісьменніка, які вядзе сваіх герояў, штурхае іх, зводзіць і разводзіць, узвышае, славіць ці ганьбіць. Пісьменніцкімі рукамі ўсё робіцца, гарманізуецца ў мастацкую цэласць. Сакрэты гэтай гарманізацыі – майстэрства сюжэтабудавання, яго прыгоства і разумнасці, мастацкай цэласнасці і ўдачы.

Як жа трактуецца ў ёй кампазіцыя? Кампазіцыя – пабудова твора. Асноўнае ў ёй – суразмерыць галоўнае з другарадным, другарадным не забіць галоўнага, не дапускаць расцягнутасці, перарасцягнутасці твора. Словам, архітэктура, хоць бяры лінейку і мерай даўжыню, шырыню, вышыню. Такая вось сабе работа на вока – не без стэрэаметрыі, бо трэба зважаць і на аб'ёмнасць у прасторы, фігуральнасць, выпукласці, калоны-падпоры, арнамент (арнаментальная проза!), інверсію падачы падзей у часе ці ступенчатасць па ўзыходжванні падзей у часе наперад і іншае.

З усім гэтым майстэрства кампазіцыі справу, вядома, мае, але калі толькі ў сувязі з гэтым бачыць яе ролю і значэнне як элемента формы літаратурнага твора, то гэта значыць бачыць яго фармальна, быць у выніку фармалістам, не бачыць кампазіцыі ў яе змястоўнасці (форма ж заўсёды змястоўная!).

Школьнае ж разуменне кампазіцыі літаратурнага твора якраз і адрывае яе ад зместу, ад канцэптуальнасці аўтарскай думкі, якая сыходзіць з творчай задумы пісьменніка, і якраз гэтая задума распараджаецца будовай твора, вядзе яго да дасканаласці, мастацкай завершанасці, гарманічнасці, ідэальнага здзяйснення задумы. І якраз маючы на ўвазе ўсё апошняе, адзін з цудоўных валадароў паэтычнай формы Максім Рыльскі даў сваё красамоўнае азначэнне кампазіцыі як «гармоніі, якая вырастае з мыслі, думкі». Як і сюжэт, так і кампазіцыя літаратурнага твора менавіта з мыслі, думкі, задумы. І форма літаратурнага твора пачынаецца для многіх пісьменнікаў якраз з абдумвання, з выбару перадусім кампазіцыі твора. Мова, якою карыстаецца пісьменнік, ляжыць пад яго рукой як бы адлогам, асаблівага роздуму ў пісьменніка не выклікае, патрабуючы глыбокага ведання сябе, чуцця сябе пісьменнікам дзеля пэўнага стылю, – менавіта больш чуцця, чым мыслі. Сюжэт, кампазіцыя, яны прадумваюцца пісьменнікам, яны перш за ўсё патрабуюць напружання творчай думкі, прадвызначаюць інтэлектуальны патэнцыял творчасці пісьменніка. Мова – яна перш за ўсё дадае акрасы сюжэту і кампазіцыі. Мова – знешняя выява ўнутранага, духоўнага, сэнсавага як непасрэдна свайго, так і затоенага ў мудрасці сюжэта і кампазіцыі.

### 4. Чым глабальней, тым займальней…

Не па сваёй, не па добрай волі наша беларуская літаратура ў XX стагоддзі станавілася глабальнай. Такой на пачатку XX стагоддзя станавілася толькі дзякуючы ўдзячным адносінам да яе перадусім рускай і ўкраінскай літаратураў, уваходзячы ва ўсходнеславянскую еднасць, дзякуючы польскай і чэшскай, уваходзячы ў сям'ю заходнеславянскую, а, значыць, ужо і ў агульнаславянскую. У рускую літаратуру яна ўваходзіла перакладамі Максімам Горкім, Валерыем Брусавым, Карынфскім, Янкі Купалы, у Чэхіі прапісвалася Ёзафам Шафарыкам, з польскай стараной яднаў яе Ф. Багушэвіч сваімі вершамі, прысвечанымі Элізе Ажэшка.

Былі і іншыя, далёка не ўдзячныя прычыны пашыранасці беларускай літаратуры ў свеце. Так, пасля першай сусветнай вайны пачаткі глабалізацыі нашай літаратуры былі звязаны з першай хваляй беларускай эміграцыі: у Латвіі асеў Канстанцін Езавітаў, у Літве – Вацлаў Ластоўскі, выдаўшы сваю выдатную «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўна, 1926).

Асобна выправе нашай літаратуры ў свет спрыяла Чэхія ў сувязі з вучобай у Празе Ігната Дварчаніна, Паўлюка Шукайлы, Уладзіміра Жылкі, Ларысы Геніюш.

Сваю ролю ў Чэхіі ў сярэдзіне 20-х гадоў адыграла суполка «Прамень». У 1943 годзе ў Празе выйшаў першы зборнік Л. Геніюш «Пад родным небам».

Першая беларуская эміграцыя шматлікай не была, не тое, што другая – пасля другой сусветнай вайны. І не толькі ў бліжняй загранiцы яна асела, не толькі ў Еўропе, бо і ў Амерыцы і нават у Аўстраліі, нараджаючы беларускую прэсу ў Германіі (у Мюнхене газету «Бацькаўшчына»), у Канадзе («Голас беларуса»).

Глабалізацыя – падкрэслім – ішла не толькі геаграфічна, раз'ездам беларускіх літаратараў у шырокім свеце, з іх замежным жыхарствам, але перадусім і з тэматыкай іх творчасці, з пашырэннем яе, з асваення – асабліва ў паэзіі – новых матываў, з'яўленнем новых малюнкаў, сімвалаў, асацыяцыяў, настрояў. Вялікая проза нашай другой эміграцыі, канечне, была звязана з памяццю эмігрантаў роднае зямлі, свайго жыцця, пражытага на ёй, увогуле з Беларуссю і яе гісторыяй. У лірыцы эмігрантаў панавала настальгія па радзімаму краю, у публіцыстыцы – антыбальшавіцкі пафас, асуджэнне савецкага рэжыму, сталінізму. Лепшымі прадстаўнікамі літаратуры другой хвалі беларускай эміграцыі былі: з паэтаў – Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Рыгор Крушына, Уладзімір Клішэвіч, Мікола Хведаровіч, Сяргей Хмара, з празаікаў – Кастусь Акула, Юрка Віцьбіч, з публіцыстаў – Янка Запруднік.

Пашырэнне нашай беларускай літаратуры па зямным шары, яно, вядома, ухвальна, калі, напрыклад, у Польшчы ў пасляваенным часе ажыла і прадаўжае радаваць літаратурнымі поспехамі Беласточчына, заходні край Белавежы (ужо 50 гадоў выходзіць у Беластоку беларуская літгазета «Ніва»), калі паэт Іван Ласкоў жыў і тварыў па-беларуску ў далёкай ад Беларусі Якуціі. Але пашырэнне беларускага паэтычнага слова ў былым СССР у сувязі з рэпрэсіямі, з Гулагамі ў запалярнай тундры, у Сібіры і Магадане, на Калыме, на казахскім возеры Балхаш ніякім ухвальным не было і быць не можа. Ад нас усё гэтае глабальнае няўхваленае беларускую літаратуру ўзбагаціла і аж надта ўзбагаціла. І як не ўспомніць тут паэтаў, што пачыналі ў савецкай Беларусі ў 20-30-х гадах і былі рэпрэсаваны: Уладзіміра Дубоўку, Язэпа Пушчу, Алеся Звонака, Сяргея Грахоўскага, Станіслава Шушкевіча, Змітрака Астапенку. Рэпрэсаваны былі і паэты Заходняй Беларусі: Ларыса Геніюш, Васіль Супрун (Інта, Архангельскай вобласці), Сяргей Новік-Пяюн (Калыма), Пятро Бітэль, Надзея Дземідовіч (Карлаг). Іх лагерная лірыка – гэта ў беларускай літаратуры цэлы асобны паэтычны свет, як і ўспаміны аб лагерным жыцці – горкае непаўторнае іх асвятленне яго – у цэлым, як і лірыка сусветнага значэння.

Рост жа глабалізацыі беларускай літаратуры пасляваеннага часу меў і сваю прадгісторыю, бо яго папярэджвала ўз'яднанне Беларусі, падзеленай у 1921 годзе Рыжскім дагаворам. Толькі ў 1939 годзе Усходняя Беларусь аб'ядналася з Заходняй, літаратура Савецкай Беларусі з літаратурай заходнебеларускай. У пасляваенным часе ўсё пашырэнне беларускай літаратуры ў свеце чыніла, такім чынам, Беларусь у сваёй цэласнасці, і да гэтага пашырэння ўласна вельмі прычынілася Вялікая Айчынная вайна. Няўдзячная справа вайны, балючая справа – акупацыя, ды акупацыя якраз і спарадзіла другую хвалю беларускай эміграцыі. Такім чынам, не было б вайны і акупацыі – не з'язджалі б з Беларусі ні Наталля Арсеннева, ні Масей Сяднёў, ні Алесь Салавей і ўсе, усе іншыя эмігранты другой хвалі. Балючая справа і ўцёкі, пакіданне Радзімы, развітванне з ёю, але і гэтае балючае нараджала новае будучае беларускай літаратуры. І вайне, і акупацыі – выходзіць – прыходзіцца дзякаваць за сусветнізацыю беларускай літаратуры, хоць не людская гэта справа дзякаваць вайне за штось, што ёю ўчыніцца.

Як бы перадгісторыяй глабалізацыі нашай беларускай літаратуры ў XX-XXI стагоддзях было і тое, што і даўняя літаратура беларускага Сярэднявечча і развіццё Новай беларускай літаратуры ў XIX стагоддзі былі ў кантэксце славянскіх

літаратураў, літаратураў Еўропы і гэтым ужо ў сусветным літаратурным абсягу, у глабальным маштабе. Так, з агульнаславянскай традыцыі летапісання пачыналіся нашыя беларускія летапісы, як і нашыя арыгінальныя жыцці і казанні – з традыцыяў кіеўскай рэлігійна-царкоўнай літаратуры, з перакладной яе стыхіі, якая была ўшчата Візантыяй. А за Візантыяй маячыў Рым, Элада, Іерусалім – візантыйскі еўрапейска-хрысціянскі кантэкст. У абшарным еўрапейскім кантэксце і наша XIX стагоддзе: за яго паэмай «Тарас на Парнасе» бачыцца сам жа грэчаскі Парнас, за «Энеідай навыварат» – Катлярэўскі, наша «Энеіда», нібы малодшая сястра сваёй украінскай папярэдніцы, і яна ж нібы ў карагодзе аўстрыйскіх яе травестацыяў, нібы пад рукой самога рымляніна Вергілія – творцы «Энеіды». І тут цікава і тое, што адным з першых. хто пісаў пра нашу «Энеіду навыварат», быў чэх Ёзаф Шафарык.

І ёсць яшчэ адзін фактар глабалізацыі той ці іншай літаратуры – пераклады. Прычым, думаецца, трэба тут улічваць і пераклады твораў нацыянальнай літаратуры на іншыя мовы свету, і пераклады на нацыянальнай мове з іншых літаратураў свету. Хаджэнне нацыянальнага твора па шырокім свеце моцніць глабалізацыю нацыянальнай літаратуры, увядзенне ў нацыянальны дом твораў, народжаных літаратурай свету, глабалізуе нацыянальны дом.

XIX стагоддзе не назавеш развітай новай беларускай літаратурай. Але і яно было пры ўсведамленні важнасці нацыянальнага перакладу. «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча спрабавалі перакласці двойчы – у 1859 годзе В. Дунін-Марцінкевіч, у 1892 – Аляксандр Ельскі. Былі таксама спробы перакладу А. Пушкіна Адамам Гурыновічам (30-я гады, верш «Рэха»), паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валенрод» (50-я гады, Арцём Вярыга-Дарэўскі).

Трэба сказаць, што і пачатак XX стагоддзя ўздымнага перакладу ў нас не ведаў, хоць малады Янка Купала перакладаў А. Міцкевіча, Яна Кастровіча, Марыю Канапніцкую, Казімежа Тэтмайера, з нямецкай літаратуры друкаваўся ў «Нашай ніве» толькі адзін верш аднаго аўтара. Праўда, «Наша ніва» імкнулася на шырокі шлях перакладу, бо з рускіх пісьменнікаў зацікаўлена вітала Л.М. Талстога, шмат перакладала Васіля Стэфаніка, Івана Франко, Герберта Уэльса. Так што намаганні «Нашай нівы» у перакладах можна лічыць цалкам значнымі.

Хоць куды большымі яны былі ў Максіма Багдановіча, які, па-сутнасці, зрабіўся бацькам, першым карыфеем беларускага перакладу, ягоным класікам і тэарэтыкам – яшчэ ў дарэвалюцыйны час, на пачатку XX стагоддзя. Класікам нацыянальнага перакладу М. Багдановіч стаў толькі дзякуючы свайму крэда паэта, разуменню значэння далучэння роднай літаратуры да сусветнай цераз пераклад, свайму праграмнаму запатрабаванню пашырэння ў роднай паэзіі тэмаў і матываў, стыляў і жанраў. М. Багдановіч у гэтай сувязі з неймавернай перакананасцю ў патрэбе роднай літаратуры прысваення вопыту літаратураў розных часоў, кантынентаў, народаў упершыню ў нашай паэзіі пераклаў еўрапейскую антычную і новую паэзію – Гарацыя, Гейнэ, Верлена, Шылера, Анакрэонта. З Верлена ён, напрыклад, пераклаў аж дваццаць два вершы. Дарэчы, М. Багдановіч сам сябе пераклаў і на рускую мову, усеслаўлянячы сябе, што было таксама на шляху менавіта глабалізацыі роднай літаратуры, узмацняючы яе прыцягальнасць іншымі літаратурамі, яе займальнасць...

Увогуле, нельга сказаць, што ў час грамадзянскай вайны, у 20-30-я гады беларускі пераклад гібеў, зусім запрапасціўся, бо і Янка Купала шчодрыўся перакладамі («Інтэрнацыянала» Эжэна Пацье, «Слова пра паход Ігараў», «Эрас і Псіхея» Жукоўскага. Але да другой паловы 20-х гадоў свядомых шырокіх намаганняў у нашым нацыянальным перакладзе не было, бо, па-сутнасці, адзінкавымі былі кніжкі перакладаў Юркі Гаўрука «З чужых палёў» (1924), паэмы А. Блока «Дванаццаць» (Ігнат Дварчанін, 1926), Байрана «Шыльёнскі вязень» (Ул. Дубоўка, канец 20-х гадоў).

Калі гаварыць пра 30-я гады, то ў іх пераважалі аўральныя рыўкі, звязаныя са стагоддзямі А. Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі. Так, пад рэдакцыяй Янкі Купалы выйшаў шаўчэнкаўскі «Кабзар», сама шырока быў прадстаўлены А. Пушкін: Янка Купала пераклаў паэму «Медны коннік», Якуб Колас – «Палтаву», Аркадзь Куляшоў – «Цыганы», Пятро Глебка – «Барыса Гадунова», Мікола Хведаровіч – «Бахчысарайскі фантан» і «Каўказскі нявольнік». Але пікавым для А. Пушкіна быў і 1949 год (пераклад «Яўгенія Анегіна» А. Куляшова, аповесцяў «Капітанская дачка» і «Дуброўскі» Кузьмой Чорным.

Цікава, што з зарубежных аўтараў першым быў выбраны Яраслаў Гашак. Першымі ягоныя «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка» перакладалі ў 1931 годзе К. Чорны і М. Зарэцкі. Працягнуў пераклад чацвёртай часткі «Прыгод...» у 1932 годзе Лукаш Калюга.

Крэн жа на заходнееўрапейскую класіку таксама быў даволі відавочны: 1934 год – пераклад А. Дудара «Вільгельма Тэля» Ф. Шылера; ягоны ж пераклад «Жаніцьбы Фігаро» П. Бамаршэ ў 1936 годзе. У наступным, 1937 годзе Юрка Лявонны і С. Грахоўскі перакладаюць «20 000 лье пад вадой» Жуля Верна. Два значныя пераклады замежнікаў даў і 1938 год: Майн Рыда «Коннік без галавы» і «Домбі і сын» Ч. Дзікенса. У 1939 годзе выйшлі «Казкі братоў Грым» у перакладзе Ісака Платнера. Так што ў цэлым беларускія пераклады замежнай прозы мелі ў 30-х гадах свой – вельмі значны зачын. На жаль, яго перабілі рэпрэсіі (пагібель Ц. Гартнага, М. Зарэцкага, Ю. Лявоннага, А. Дудара, Ул. Хадыкі), перабіла Вялікая Айчынная вайна.

Сапраўды глабальнай беларускую літаратуру рабіла ў другой палове XX стагоддзя яе ўжо вельмі шырокая цікавасць да літаратур свету, і хай два-тры з замежных аўтараў уключаліся ў выдавецкія планы, за пяць дзесяцігоддзяў, за пяцьдзясят гадоў – гэта больш сотні аўтараў прэзентавала. І не толькі сучасная руская ці замежная літаратуры сталі ў полі ўвагі беларускай літаратуры, бо і біблейская літаратура, і еўрапейскі эпас Сярэднявечча, і ў цэлым гісторыі нацыянальных паэзіяў свету, прадстаўленне сусветнай літаратуры, паэзіі, драматургіі ў іх лепшых дасягненнях.

Прыўлашчванне скарбаў Святога пісання ўвогуле далося нялёгка, бо ў СССР панаваў атэізм. Яшчэ ў 1517 годзе Францішак Скарына даў пачатак перакладу Бібліі, выпусціўшы 6 жніўня ў Празе «Псалтыр». І гэта сталася нібы наканаванасцю, бо не перш за ўсё на Радзіме нашай мовы выдаваліся ў XX стагоддзі па-беларуску і Біблія, і Евангелле. Так, «Новы Запавет» у перакладзе Антона Луцэвіча спярша ўбачыў свет у Хельсінках (1931), а затым у Лондане (1948). Лонданскі варыянт рыхтаваў А. Луцкевічу Л. Дзекуць-Малей. Уласна ў Беларусі выдатныя пераклады Святога Пісання з’явіліся толькі ў 90-я гады («Стары Запавет» пераклаў Васіль Сёмуха, 1990; «Новы Запавет» Анатоль Клышка, 1989-1990).

Працяглая ў часе гісторыя і прыўлашчванне роднай літаратурай помнікаў сусветнага эпасу. Але заслуга тут цалкам належыць другой палове мінулага стагоддзя. Эпічная паэма – не чатырнаццацірадковы санет, і пагэтаму нельга з удзячнасцю не ўспомніць беларускіх перакладчыкаў твораў з аналаў сусветнага эпасу. Раўназначнай з працай перакладчыкаў паэтаў была і праца над анталогіямі нацыянальных лірык, як і над зборнікамі асобных лепшых паэтаў свету, сучаснасці. Глабалізацыя цераз асваенне запасаў паэзіі Новага часу, можна сказаць, станавілася ў нас у 70-80-я гады неймавернай...

*[2001 г.]*

Ірына Багдановіч



...Пачуць, устаць, адкінуць страх і пайсці...
Давяраючы сябе Божай любові...

# Уставаць і выходзіць: хрысціянская формула шляху

## *Слова да юбілейнага дня народзінаў Хрысціны Лялько*

Рыхтуючыся напісаць гэтае невялічкае эсэ-разважанне пра асобу і плён творчай дзейнасці руплівага і натхнёнага рэдактара каталіцкіх часопісаў "Наша вера" і "Ave Maria", пісьменніцу, перакладчыцу, а таксама маю даўнюю сяброўку Хрысціну Лялько, якая сёлета 30 сакавіка адзначыла юбілейны дзень народзінаў, я выбрала ў якасці рухавіка маіх думак, хоць, можа, і банальна гэта гучыць, слова *шлях*. Калі мы зазірнем у сур'ёзны слоўнік, то пабачым там цэлых восем значэнняў гэтага слова, прамых і пераносных: ад "шырокай прыстасаванай для руху транспарту дарогі" – да "жыццёвага лёсу". Аднак не толькі пра *шлях* як пра метафару *жыццёвага лёсу* Хрысціны Лялько мне хочацца тут паразважаць з пералікам годна зробленага і дасягнутага.

Мне рупіць зрабіць акцэнт на тым, што менавіта *шлях* – назоўнік, які натуральным чынам злучаецца з дзеясловам

руху *ісці*, адкрываючы тым самым магчымасць сімвалічна прачытваць формулу шляху ў перспектыве хрысціянскай духоўнасці. “Вось [я] іду, – піша псальміст, – ...іду, ...Божа мой, выканаць волю Тваю...” [Пс 40 (39), 8-9]. Дапоўніць гэтую формулу хрысціянскага шляху могуць словы Хрыста, сказаныя пасля малітвы ў Гетсіманіі напярэдадні мукі вучням: “Устаньце, пойдзем...” (Мк 14, 42). Гэтая цытата з Евангелля стала назваю кнігі Святога Айца Яна Паўла ІІ “Устаньце, хадзем!”, прысвечанай яго пастырскаму служэнню. Пераклала на беларускую мову гэтую кнігу, як, дарэчы, і многія іншыя кнігі Яна Паўла ІІ, менавіта Хрысціна Лялько. Заклік “уставаць і ісці” быў найперш скіраваны, як пісаў Святы Айцец, да біскупаў, але ён можа быць актуальны для кожнага з нас – для кожнага верніка, які прагне паглыбляць сваю веру, ісці за Хрыстом, быць яго вучнем. Святы Айцец звяртаў таксама ўвагу на сувязь гэтых слоў Хрыста з папярэднімі, сказанымі ў іншай сітуацыі, падчас Перамянення. Тыя самыя вучні, спалоханыя, упаўшы ніцма на зямлю, дрыжэлі ад страху, а “Езус падышоў, дакрануўся да іх і сказаў: “Устаньце і не бойцеся” (Мц 17, 7). Заклік “не баяцца” быў знакам выражэння Божай любові, бо, як тлумачыў гэтыя словы Ян Павел ІІ, “Божая любоў не ўскладае на нас цяжкасцяў, з якімі мы не здолелі б справіцца, і не ставіць перад намі патрабаванняў, якіх мы не маглі б выканаць”[1].

Такім чынам, калі трэба было б сфармуляваць, вывесці формулу хрысціянскага *шляху*, на якім мы пераадольваем свой страх і няўпэўненасць, то яна выглядала б менавіта як “уставаць і выходзіць”, і – “ісці, каб выканаць Тваю волю, Божа”. Пачуць, устаць, адкінуць страх і пайсці... Давяраючы сябе Божай любові.

Шлях Хрысціны Лялько пачаўся з маляўнічага хутара Хадзюкі каля Ліды, паблізу якога струменіліся чысценькія тады воды Дзітвы, што ўплывала ў велічны Нёман. А яшчэ бліжэй, чым старажытная Ліда з яе прысадзістай, урослай у зямлю крэпасцю, ёсць Белагруда з яе велічным касцёлам, вежы якога адбіваюцца ў Дзітве. У гэты касцёл Хрысціна ведала шлях з маленства, бо яе матуля Марыя была шчырай і глыбокай верніцай. Адсюль, з-пад духоўнай апекі Маці Божай Белагрудскай і штодзённага клопату зямной матулі, ад красы навакольных краявідаў, вышыні і паўнаты нябёсаў, урачыстай і велічнай цішы, у якую ўрываюцца шоргатам лістоты і вецер, і птушыныя спевы, нараджалася ў душы паэзія, а ў сэрцы – любоў, каб асвятляць усё, да чаго будзе клікаць Божая воля.

А клікала яна ўжо з ранняга юнацтва стаць майстрам слова – слова паэтычнага, слова высокай мастацкай прозы. Пісаліся вершы і апавяданні. У літаратуру ж Хрысціна Лялько ўвайшла ад пачатку менавіта як празаік першай сваёй кнігай апавяданняў “Дарога пад гару” (1985). Сімволіка назвы, як бачна, ужо тады змяшчала ў сабе метафару *шляху*, па якім трэба ўздымацца, не баючыся цяжкасцяў, хоць, можа, на той час ён яшчэ і не прачытваўся ў акрэсленым вышэй духоўным вымярэнні. Слоўнае майстэрства маладога празаіка, яе ўменне пабудаваць навелістычны сюжэт, напоўнены жывым водарам жыцця, былі адразу ж заўважаныя і падтрыманыя старэйшымі аўтарытэтнымі пісьменнікамі, карыфеямі літаратуры. Рэдактарам кнігі і аўтарам прадмовы да яе стаў наш вядомы класік Ян Скрыган, які разгледзеў трапяткую творчую душу аўтара, яе адметны талент. Ён пісаў: “Хрысціна выбірае тэмы пераважна глыбока чалавечыя, складаныя. Вобразы яе твораў заўсёды напоўнены нутраным напружаным рухам, таму мы і бачым іх, і перажываем разам з імі”[2].

Заканчвалася першая кніга апавяданнем “Канваліі”, адным з лепшых у прозе Хрысціны Лялько. Яно вылучалася незвычайнасцю сваёй кампазіцыі, матывам “мастацтва” і спасціжэння праз прызму мастацкасці свету, а таксама вобразам “бабы Валінкі”, суседкі аўтабіяграфічнай гераіні твора, у гародчыку якой штогод зацвіталі ландышы-канваліі. Працытую элегічна-лірычны фінал гэтага апавядання: “Так часта я ўспамінаю і думаю пра вас, канваліі. Думаю пра той запаветны куточак,

які нараджае і стварае нас, які запальвае ў нашых сэрцах агонь вялікай любові”[3]. Менавіта праз гэтую кветку, праз успамін пра яе, нараджаецца ўсвядомленае пачуццё любові да роднага кутка, а “канваліі” становяцца сімвалам патрыятызму, сімвалам гэтай высокай любові, якая здольная ператвараць “дарогу пад гару” ў *шлях*, які набудзе і замацуе хрысціянскае вымярэнне.

Той шлях, пачаўшыся з Хадзюкоў, з-пад вежаў касцёла ў Белагрудзе, з берагоў Дзітвы, вёў спачатку ў Ліду, потым – у сталічны Мінск... Ён развінаўся ў прасторы і часе, бо час уплятаецца ў шлях як яго неад’емная сутнасць. Прастора і час зліваюцца ў шляху, каб даць магчымасць адкрываць і зведваць цэлы свет, каб вучыцца распазнаваць і выконваць волю Таго, Хто паслаў цябе быць прысутным у дадзеных табе прасторы і часе. А таму шлях – гэта не толькі напрамак, дарога, месцы вандровак і сустрэч. Шлях – гэта таксама і творчасць. Гэта дар валодання словам, які выявіўся яшчэ раней за прозу ў паэзіі, дзе зліліся ў адно маляўнічасць роднай мясціны і матуліна любоў. Але кніга паэзіі Хрысціны Лялько выйдзе значна пазней за дзве кнігі яе прозы (другая – “Світанак над бярозамі”, куды ўвайшлі аповесць “Лес”, выбраныя апавяданні з папярэдняй кнігі і новыя, пабачыла свет у 1989 г.). Кніга ж паэзіі “На далонях любові” выйдзе праз немалы перапынак – у 2006 г., сабраўшы пад сваёй вокладкай вершы, што пісаліся ў розны час, былі паэтычнай споведдзю душы на тым шляху, які ўсё больш пэўна і адважна рабіўся ўсвядомленым, станоўчым адказам на заклік уставаць і не баяцца, уставаць і выходзіць.

Быў акурат канец 1980-х і распачыналіся легендарныя 1990-я гады, калі на новай хвалі беларускага нацыянальнага ўздыму адраджалася і рэлігійнае жыццё, забароненае падчас існавання савецкай імперыі, ідэалогію якой вызначаў атэізм. Адраджаўся Касцёл у Беларусі, яго структуры, была жывая патрэба ў выданні хрысціянскай літаратуры, найперш беларускіх перакладаў Бібліі, мноства літургічных тэкстаў. Была патрэба таксама ў стварэнні хрысціянскага перыядычнага друку. І духоўна, і прафесійна менавіта Хрысціна Лялько была на той момант ужо падрыхтаваная для таго, каб узяць на сябе адказнасць стаць рэдактарам каталіцкіх часопісаў “Наша вера” і “Ave Maria”, якія неўзабаве пачалі выходзіць і запоўнілі духоўную лакуну, сталі духоўным спажыткам для беларускіх католікаў, аб’ядналі вакол сябе каталіцкую творчую інтэлігенцыю. Благаславенне ж на адраджэнне каталіцкага перыядычнага друку ў Беларусі і на выданне часопісаў Хрысціна Лялько атрымала ад самога Папы Рымскага Яна Паўла ІІ у 1994 г. У Беларусі ж тады падтрымліваў выданне часопісаў светлай памяці Кардынал Казімір Свёнтэк.

Часопісы, якія ўжо перакрочылі свой 25-ці гадовы юбілей, разам з Касцёлам сталі жывым і запатрабаваным сучасным асяродкам духоўнасці для вернікаў, для шукальнікаў веры, для творчай хрысціянскай інтэлігенцыі Беларусі; сталі пляцоўкай, дзе можна разважаць пра культуру, мастацтва, музыку, літаратуру ў святле Хрыстовай веры і праўды Евангелля, удзельнічаць у такі спосаб, паводле сілаў і ўменняў аўтараў і рэдактара, у працэсе сучаснай евангелізацыі, даючы сваё сведчанне веры і любові. Вобразна кажучы, і “Наша вера”, і “Ave Maria” – гэта сапраўдныя духоўныя крылы, якія дапамагаюць узносіцца да спасціжэння Боскіх таямніцаў, адкрывацца на ласкі і праўды веры, выхоўваць адвагу і пашыраць свой досвед аб гісторыі веры, гісторыі каталіцкай культуры і аб нашым сённяшнім быцці ў святле веры і культуры.

Несумненна, Хрысціне Лялько як рэдактару тут прыдаўся і папярэдні вопыт працы ў рэдакцыі аўтарытэтнага літаратурнага часопіса “Беларусь”, і ўласны пісьменніцкі талент, і жывая практыка каталіцкай веры, катэхезу якой яна праходзіла яшчэ пры маці, з дзяцінства, у белагрудскім касцёле. Хрысціна Лялько – гэта тонкі і ўдумлівы, мудры і цярплівы рэдактар, а пры ўсёй сваёй

добразычлівасці строгі і прынцыповы. Яе бездакорнае адчуванне слова, пошук аўтараў і праца з імі, творчы падыход да стварэння канцэпцыі нумароў і напаўнення іх зместам спрыяюць таму, што аблічча часопісаў як з мастацка-эстэтычнага боку, так і з духоўна-тэалагічнага застаецца нязменна годным і прывабным, скіраваным на духоўнае развіццё. Нам, што вырваліся з бездухоўнай атмасферы часоў савецкага атэізму, як свежае паветра былі патрэбныя менавіта такія часопісы, каб аднаўляць сваю культурную памяць, мацаваць на фундаменце веры нашу культуру, спазнаваць мастацкую – спеўную, слоўную, выяўленчую – душу нашага народа, яго творчы дух і веру, якія, хоць і заліваліся атэістычным цэментам, усё ж не былі вынішчаныя бязбожнай цемрай. Праца Хрысціны Лялько па адраджэнні хрысціянскай духоўнасці ў нашай краіне была адзначана спецыяльнай узнагародай – папскім медалём “Benemerenti” (“Асабліва заслужаным”), які ад імя Папы Бенедыкта XVI быў уручаны ёй у снежні 2012 г.

Незабыўныя сустрэчы з Янам Паўлам ІІ, несумненна, сталі яшчэ штуршкомстымулам і да перакладу яго кніг і энцыклік на беларускую мову. Ужо ў 1997 г. у перакладзе Хрысціны Лялько выходзіць яго кніга “Пераступіць парог надзеі: Ян Павел ІІ адказвае на пытанні Віторыё Мэсоры”; у 1998 – “Дар і таямніца”; затым, адкрываючы новае тысячагоддзе, ужо ў беларускім каталіцкім выдавецтве “Про Хрысто” выходзяць энцыклікі “Fides et Ratio” (2000), “Ecclessia de Eucharistia” (2004) і апостальскі ліст “Rosarium Virginis Mariae” (2003), годна папаўняючы беларускую духоўную бібліятэку; а неўзабаве былі перакладзены і выдадзены яшчэ дзве выключныя па глыбіні духоўнага зместу кнігі “Памяць і самасвядомасць” (2006) і “Устаньце, хадзем!” (2008). Толькі адзін гэты пералік кніг Вялікага Папы, перакладзеных Хрысцінай Лялько, уражвае сваім маштабам і здольнасцю перакладчыцы заглыбіцца ў іх сутнасць, не страціўшы ніводнага нюансу, гожа і годна перадаць іх глыбокую духоўнасць і тэалогію сродкамі роднай мовы для сваіх суайчыннікаў.

Важным этапам у жыцці Хрысціны Лялько быў пераклад духоўнага дзённіка святой сястры Фаўстыны Кавальскай, якую Езус выбраў для пашырэння культу Божай Міласэрнасці, а Ян Павел ІІ кананізаваў у 2000 годзе. Над гэтым перакладам адважна, натхнёна і руплівa перакладчыца працавала некалькі гадоў, каб дасканала перадаць глыбіню духоўнага жыцця і сам стан душы візіянеркі Хрыста. З прадмовай-благаслаўленнем мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча “Дзённік: Божая Міласэрнасць у маёй душы” святой сястры Фаўстыны Кавальскай быў выдадзены выдавецтвам “Про Хрысто” ў 2014 г., стаўшы адразу духоўным бестселлерам у асяроддзі хрысціянскіх чытачоў.

Перакладчыцкім адкрыццём Хрысціны Лялько стала таксама паэтычная творчасць кс. Яна Твардоўскага. Спачатку яго вершы з’яўляліся на старонках часопісаў “Наша вера” і “Ave Maria”, а ў 2012 г. упершыню выдавецтвам “Про Хрысто” быў выдадзены асобны том яго выбраных вершаў “Разам з Табою” (з паралельным друкам тэкстаў у арыгінале, на польскай мове, і ў беларускіх перакладах, зробленых разам з Данутаю Бічэль). Вершы неслі нязвыкла моцны струмень духоўнай свабоды, глыбокіх філасофскіх рэфлексій, у якіх перапляталіся вопыт святарскага служэння і досвед чалавечага жыцця, трагічнага і радаснага, парадаксальнага і простага, у кожнай прояве якога адшуквалася таямніца Божай прысутнасці. Вершы прыйшліся даспадобы беларускаму чытачу і знайшлі прыхільнікаў, пра што гаворыць тое, што многія з іх проста разышліся на цытаты. Так, даўно ўжо сталі крылатымі радкі з верша кс. Яна Твардоўскага “Калі кажаш”: “...няма на зямлі сітуацый без выйсця // калі Бог зачыняе дзверы – вакно адчыняе...”[4]. Калі разумець гэты вобраз “адчыненага вакна” не літаральна, то верш падводзіць да думкі, што мы проста без Бога не ўмеем знаходзіць выйсці, якія Ён заўсёды мае для нас у запасе.

У 2019 г. беларускі чытач атрымаў яшчэ адзін духоўны падарунак ад кс. Яна Твардоўскага і яго перакладчыцы Хрысціны Лялько – кнігу “Гэтыя тры... Выбар вершаў і думак пра веру, надзею і любоў”. Назва кнігі, як сведчыць эпіграф, сімвалічна адсылае да словаў апостала Паўла з Першага паслання да Карынцянаў: “А цяпер трываюць вера, надзея, любоў – гэтыя тры...” (1 Кар 13, 13). Калі я чытаю і перачытваю гэтую кнігу, разважаю над яе вершамі і думкамі, мне яны здаюцца адмысловай формай сучасных “апостальскіх пасланняў”, якія дапамагаюць сёння чалавеку асэнсоўваць сябе і свет, бачыць рэчаіснасць у духоўным вымярэнні, адкрываць, што *“гэтыя тры...”* па-сутнасці з’яўляюцца формулай духоўнага аптымізму, бо *“той, хто жыве надзеяй, бачыць далей. Той, хто жыве любоўю, бачыць глыбей. Той, хто жыве верай, бачыць усё ў іншым святле”*[5], – гэтак гаворыць у адной з паэтычных сентэнцый аўтар.

Якое ж багацце для нас мець гэтую паэзію ў беларускіх перакладах! Мець кнігі Святога Айца Яна Паўла ІІ і, побач з кнігамі Бібліі, трымаць іх як настольныя кнігі, патрэбныя для штодзённых заняткаў і працы, або хутчэй як кнігі “напрастольныя”, бо яны – на “прастоле” твайго штодзённага сумоўя з Айцом... А вечарамі, старонка за старонкай, як у вечаровую малітву, уваходзіць у духоўны дзённік “*сакратаркі* Божай міласэрнасці”, каб мець малітоўную сустрэчу са святой візіянеркай і Тым, Каго яна бачыла ў сваіх візіях...

Дык хіба ж пасля ўсяго пералічанага ў беглым аглядзе плёну рэдакцыйна-выдавецкай і перакладчыцкай дзейнасці будзе нас дзівіць тое, што ўласная кніга Хрысціны Лялько, кніга паэзіі “На далонях любові”, пабачыць свет толькі праз даволі значны адрэзак часу ад папярэдняй кнігі прозы “Світанак над бярозамі”?! Не, не будзе дзівіць! Бо ў тым жа цытаваным ужо вершы кс. Яна Твардоўскага “Калі кажаш” знойдзем адказ і на гэтае пытанне: “<...> забудзь што ты ёсць калі кажаш што любіш”. Забудзь на сябе, калі ідзеш сцяжынаю любові... Аднак за ўсім клопатам служэння ў любові Богу і бліжняму, выконваючы абавязкі рэдактара, перакладаючы складаныя тэксты духоўнай літаратуры, калі было, як кажуць, найчасцей “не да сябе”, усё ж вершы пісаліся, і паэзіяй – гэтай формай любові да Бога – жыла душа. А крыніцы гэтай любові выплывалі яшчэ з дзяцінства, выпраменьваліся з далоняў матулі. Так і засведчыць Хрысціна Лялько ў вершы, якім адкрываецца кніга “На далонях любові”:

На далонях любові матулінай,
на далонях дабра і цяпла,
быццам Неба апекай атулена,
быццам Богам да сэрца прытулена,
ласкай мамы з маленства была.
Той любоўю, той ласкай жывая
я і сёння <...>[6]

Майстэрства ткаць дзівосныя вобразы адкрылася яшчэ ў ранніх спробах пяра. У зборніку “На далонях любові” адшукала я адзін з найранейшых вершаў Хрысціны “Восень”, датаваны 1971 годам. Чытаеш і перад табой, здаецца, залаціцца хадзюкоўская восень вачыма падлетка-дзяўчаці:

Зноў восень. У які ўжо раз
Гараць кляны. Гараць для нас.
У старане маёй лясной і ціхай
Блукае восень рыжаю ласіхай <...>[7]

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі мне давялося патрымаць у руках і перачытаць асобнік гэтага зборніка, падораны аўтаркай Янку Брылю (кніжная калекцыя пісьменніка захоўваецца

цяпер у гэтым аддзеле бібліятэкі). Іван Антонавіча таксама, як і Ян Скрыган, яшчэ на пачатку творчага шляху заўважыў і падтрымаў маладую пісьменніцу, сачыў за развіццём яе таленту, стаў добрым сябрам і дарадцам. У кнізе алоўкам яго рукою былі зроблены пазнакі – ён адзначаў упадабаныя вершы і радкі. Каля назвы верша "Восень" стаяў ухвальны плюс, а радкі "*У старане маёй лясной і ціхай // Блукае восень рыжаю ласіхай"* былі вылучаны асобным падкрэсліваннем збоку. Да густу прыйшоўся народнаму пісьменніку гэты сапраўды свежы і яркі вобраз, у якім не адчувалася ўжо і ценю вучнёўства.

Яшчэ раз "ласіху" (але ўжо не як метафару восені) і "ціхі лес" сустрэнем на старонках кнігі ў больш познім вершы "Сакавік" (1986), дзе таксама малюецца дасканалы абразок прыроды, упісаны ў экалагічную тэму:

Глянь, абцяжараны і ціхі
стаіць каля дарогі лес.
Жыве у лесе тым ласіха
і наракае на прагрэс <...>[8]

Кранае верш "Надзея", які перадае азяблы стан душы, калі яна дрыжыць і чуецца, як *"...ацалелае лісце // на безнадзейна калючых вятрах"*, калі яе ахоплівае пачуццё страху, бяссілля і нават адчаю. Што дае сілы вытрываць у такой сітуацыі? З глыбіні самапазнання прыходзіць адказ, які становіцца лірычным фіналам верша: "*Добра, што ўмею стаяць на каленях, // Можа як-небудзь не прападу*"[9]. Так душа знаходзіць выйсце, знаходзіць тое самае "адчыненае акно"... Дадам, што менавіта гэтыя радкі і ў цэлым сам верш таксама былі прыхільна адзначаны алоўкам Янкі Брыля...

З падобных усведамленняў расце і мацуецца давер да Бога, давер, які нараджаецца са шчырага прызнання сваёй кволасці, слабасці, а часам і бяссіллля. Моц вяртаецца толькі тады, калі аддаеш-давяраеш усё гэта, самога сябе Богу. І хоць такое самапачуццё прыходзіць не адразу, але яно і выводзіць на шлях – уставаць, перамагаючы сваё бяссілле, уставаць і ісці, працягваючы далоні да Таго, Каму давяраеш... І адчуваць, што ты ўзяты "на далоні любові", узняты на іх, што гэта далоні самога Бога, якія Ён "пазычае" матулям, татам, сябрам, настаўнікам і нават часам проста сустрэчнаму незнаёмцу, у якім ты не адразу можаш распазнаць Таго, з Кім ішлі вучні па дарозе ў Эмаус.

Менавіта аб цяжкасці такога распазнавання разважае лірычная гераіня Хрысціны Лялько ў вершы "Па дарозе ў Эмаус", бо людзі розных часоў падобныя ў сваёй "невідушчасці": "*Сустракаемся выпадкова, // каб ісці нейкі час разам. // Размаўляем пра падзеі і справы, // заўсёды знаходзячы штосьці, // важнейшае за самае важнае* <...>"[10]. Сапраўды, людзям, як даўней, так і цяпер, уласціва мець "*стрыманыя вочы*" і "*марудныя сэрцы*". Таму і непакоіць душу адвечнае пытанне: *"<...> па якім жэсце Цябе распазнаю // пры нашай чарговай сустрэчы?..*" У фінале верша гучыць глыбока асабістая, спадзеўная "версія" лірычнай гераіні, што такім жэстам, магчыма, стане "*нечаканае пытанне // пра <...> яшчэ не напісаныя вершы*". Гэтая думка ізноў жа глыбока кранае, бо імкненне да падобнага "распазнавання" сведчыць, што паняцці творчасці і шляху непадзельныя і зліваюцца ў духоўным вымярэнні.

Сімвалічна кожны з нас, як і лірычная гераіня, праходзіць свой шлях, сваю "дарогу ў Эмаўс". І нічога, што напачатку вочы бываюць "*стрыманыя*", а сэрцы "*марудныя*", бо ва ўладзе Бога зрабіць цуд адкрыцця нашых вачэй і сэрцаў, сустрэўшы нас на гэтым шляху. Але сам шлях адбываецца тады, калі ёсць інтэнцыя ўстаць і пайсці... Або паехаць... Напрыклад, "*у Ліду па вершы*", як у яшчэ адной паэтычнай рэфлексіі Хрысціны Лялько, дзе гаворка ідзе аб сутнасці творчасці.

Тут усё напоўнена рухам, які надае асаблівую сімвалічнасць творчаму *шляху*, бо *па вершы* трэба менавіта *паехаць*, а не традыцыйна сесці за стол і пісаць! А сам працэс творчасці набывае вобразнае асэнсаванне, параўноўваецца з апрацоўкай камянёў:

Паеду ў Ліду па вершы
і набяру іх цэлую кайстру,
як камянёў невядомы майстра,
каб выканаць твор свой найлепшы
з глыжоў шаравата-бліскучых,
далучыўшы туды неўміручасць
высокага сонца і дрэва старога...
Стварыўшы ўсё з... нічога[11].

Верш заканчваецца амаль "супрэматычнай" метафарай творчасці, адсылаючы ўскосна як да разумення акту творчасці футурыстамі, якія лічылі паэта "дэміургам", што творыць "з нічога" новую рэальнасць, так і да ідэі "чорнага квадрата" Казіміра Малевіча. Аднак верш Хрысціны Лялько наўрад ці быў навеяны футурыстамі або супрэматыстамі, хоць яе грунтоўная філалагічная адукацыя гэтага не выключае. Усё ж верш стаў хутчэй вынікам адкрыцця таямніцы тварэння на ўласным вопыце – вопыце карыстання крэатыўнай энергіяй, якой Бог надзяляе кожнага, а паэта ў першую чаргу, запрашаючы да сатворчасці з Ім, запрашаючы на шлях, дзе творчасць мае духоўнае вымярэнне і ўспрымаецца як Божы цуд, як тое і засведчыла Хрысціна Лялько ў аўтарскай прадмове да наступнай паэтычнай кнігі: "*Верш – гэта заўсёды маленькі цуд і свята нараджэння, незвычайная Божая ласка, а часам – усмешка Пана Бога*..."[12]

Не маю на мэце ў гэтых юбілейных нататках рабіць шырокі і грунтоўны аналіз літаратурнай творчасці Хрысціны Лялько. Мне рупіць толькі паказаць, засведчыць на некалькіх прыкладах, узятых з яе паэзіі, як рэальная дарога ад Хадзюкоў да Белагруды і Ліды крок за крокам станавілася сімвалічным шляхам – шляхам творчасці, які выпростваўся ў хрысціянскае духоўнае вымярэнне, становячыся адказам на Божую любоў. "Вось іду...", – нібыта сказала яна першай кнігай прозы "Дарога пад гару" (1985), а потым пацвердзіла сваю хаду іншымі кнігамі: "Світанак над бярозамі" (1989), "На далонях любові" (2006), "Адвячорак" (2016).

У апошняй па часе кнізе выразны сімвалічны вобраз *адвячорка* таксама нітуецца з матывам дарогі – дарогі *з гары*, што нібыта наўмысна палемізуе з вобразам *дарогі пад гару*, які стаў назвай першай кнігі. *"Адвячоркі бываць розныя – // ціхія, цёплыя і марозныя. // Бываюць каляровыя адвячоркі, // хоць жыццё ўжо й коціцца з горкі..."*[13], – гэтак па-філасофску разважае лірычная гераіня твора, успрымаючы час у рэальным вымярэнні. Прыведзеныя радкі і ўвесь верш прасякнуты задушэўным лірызмам, у ім багатая палітра колераў і настрояў. У маім жа чытацкім успрыняцці не гэты вобраз дарогі-жыцця, што "*коціцца з горкі*" прэтэндуе быць ключавым паводле ідэі *шляху* ў кнізе "Адвячорак", але разгорнуты ў сучаснасць вобраз "дарогі ў Эмаўс", якая рассоўвае межы часу і для якой неістотна, *з гары* яна ці *пад гару*, аднак істотна, ці адбудзецца на ёй сустрэча з Тым, Хто падзеліцца *"ўсмешкаю Пана Бога"* і скіруе шлях у духоўнае вымярэнне.

З удзячнасцю Хрысціне Лялько за плён яе шматгадовай працы як рэдактара каталіцкіх часопісаў "Наша вера" і "Ave Maria", за яе руплівасць і талент як перакладчыка духоўнай літаратуры, за яе ўласную паэзію, напоўненую любоўю і сведчаннем веры, за яе добрае, мудрае і адважнае сэрца цудоўнага чалавека, калегі і сябра хачу пажадаць шчодрага Божага благаслаўлення на далейшую чыннасць у гэтых кірунках, а таксама апекі і заступніцтва Маці Божай Каралевы Беларусі на шляху веры, надзеі, любові, каб і надалей *уставалася і йшлося*, каб натхненні

Святога Духа асвятлялі працу і творчасць, дапамагаючы бачыць рэчаіснасць найперш у святле Божай любові, здольнай перамяняць усё навокал: нашы душы, нашу Айчыну, створаны Богам свет...

Да юбілейных нататак далучаю таксама свой верш “Шлях”, напісаны з гэтай жа нагоды і прысвечаны Хрысціне Лялько.

***ШЛЯХ***

*Вось іду; <...> Божа мой, выканаць волю Тваю...*
**Пс 40 (39), 8-9**

*Прысвячаю Хрысціне Лялько*

Там, дзе лечыцца хутка трывога, хандра і прастуда,
Дзе калісьці матуля выглядала цябе з-пад рукі,
Мкнецца вежамі ўвысь – у нябёсы – твая Белагруда,
На зямлі гай-бярэзнік вартуе твае Хадзюкі.

На далонях любові цябе тут прасторы люлялі,
Кветкі поўнілі сэрца сяброўствам сваім і красой:
І матулін язмін, і містычная тайна канвалій,
І чаромха, і бэз... успамінам трывожылі сон...

З серабрыстай Дзітвой ты ўплывала ў нязведнае заўтра,
Дзе яшчэ толькі контурам быў Нашай веры каўчэг;
Проста з Ліды вярталася з вершаў паўнюткаю кайстрай,
І ўглядалася ў Крыж... І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ...

Адкрывалася звыш, што з гаркавінкай смак летуценняў,
Што няма без крыві й чысціні пераможных сцягоў,
Што салодкая доля – стаяць і стаяць на каленях,
І ўставаць, і выходзіць..., каб выканаць волю Яго...

[1] Ян Павел ІІ. Устаньце, хадзем! / Пераклад з польскай мовы К. Лялько. – Мінск: Про Хрысто, 2008. – С. 180.

[2] Скрыган, Я. Няхай шырэе далячынь // Лялько Х. Дарога пад гару. Першая кніга празаіка. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1985. – С. 6.

[3] Лялько, Х. Дарога пад гару... – С. 150.

[4] Твардоўскі, Я. Разам з Табою. Выбраныя вершы / Пераклад з польскай мовы Д. Бічэль, К. Лялько. – Мінск: Про Хрысто, 2012. – С. 201.

[5] Твардоўскі, Я. Гэтыя тры... Выбар вершаў і думак пра веру, надзею, любоў / Пераклад з польскай мовы К. Лялько. – Мінск: Про Хрысто, 2019. – С. 77.

[6] Лялько, Х. На далонях любові. Вершы. – Мінск: Канфіда, 2006. – С. 5.

[7] Тамсама. С. 16.

[8] Тамсама. С. 28.

[9] Тамсама. С. 42.

[10] Лялько, Х. Адвячорак. Вершы. – Мінск: Про Хрысто, 2016. – С. 116.

[11] Тамсама. С. 89.

[12] Тамсама. С. 11.

[13] Тамсама. С. 118.

Уладзімір Бруй



...– У каго верыш?

– У Хрыста, які размаўляе па-беларуску...

# Quo vadis? Belarusalimam

***Водгук на кнігу Паўла Севярынца "Беларусалім"***

Жыццё чалавечае – няспынны ланцуг падзей. Кожнае звяно гэтага ланцуга адметна сваёю велічынёю, трываласцю, формаю. Час ад часу некаторыя звёны ўсплываюць у памяці ў залежнасці ад роду нашых заняткаў, схільнасцяў ды інтарэсаў. Часцей за ўсё гэта неардынарныя здарэнні, сустрэчы з цікавымі асобамі, незвычайныя прыродныя з'явы. Ёсць шмат людзей, для якіх на першым плане знаходзяцца прачытаныя кнігі, апісаныя ў іх падзеі і героі.

Я адзін з іх. Маё дзяцінства – гэта "Два капітаны" В. Каверына; юнацтва – "Тры таварышы" Э.М. Рэмарка; больш сталыя гады – А. Чэхаў, І. Бунін, М. Булгакаў. Падчас перабудовы з захапленнем праглынуў "Дзяцей Арбата" Анатолія Рыбакова. А крыху пазней ледзь не ўзарваў мой мозг А. Салжаніцын. Прачытаўшы яго "Архіпелаг...", – дзякуй Богу, што якраз пачаўся летні адпачынак, – я не мог не тое, што ўзяць у рукі якую-небудзь кнігу, а нават глядзець на друкаваныя радкі. Яны

мне прычынялі нясцерпны боль ад перажывання тых здзекаў, якія чыніліся з мільёнаў людзей у парушэнне ўсялякага здаровага сэнсу пад прыгожыя словы і геніяльныя мелодыі, накшталт "Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек". "1984" Оруэла я ўжо чытаў даволі спакойна як пацвярджэнне свайго новага разумення цаны грамадству, якое гвалтоўным чынам імкнецца загнаць усіх пагалоўна ў кімсьці прыдуманае ўсеагульнае шчасце.

Да свайго паўвекавога юбілею я падышоў вернікам-хрысціянінам, і маёй настольнай кнігай і асноўнай крыніцай спазнання свету стала Біблія. На працягу апошніх трох гадоў мяне моцна прывабіла да сябе тэма ўнікальнасці беларускай гісторыі ў святле Божага Слова.

Не так даўно мне пашанцавала пазнаёміцца з новай кнігай хрысціянскага паэта і празаіка, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Яўгена Сергіені, у якой ён распавядае пра царкву хрысціян веры евангельскай у вёсцы Чудзін. Кніга не з'яўляецца строга навуковым даследаваннем, хоць і ўтрымлівае акадэмічныя звесткі пра паходжанне назвы вёскі, акрэслівае гістарычныя перыяды, звязаныя з уплывам рускай праваслаўнай царквы, стварэннем уніяцкіх прыходаў, навязваннем каталіцкага веравызнання і нарэшце надыходам атэістычных часоў, якія вызначаліся асабліва жорсткім і бязлітасным пераследам прыхільнікаў любых канфесій.

Як вучоны-багаслоў, а таксама святар з багатым досведам служэння ў якасці пастара і біскупа, Яўген Сергіеня прыходзіць да цікавых высноў аб праяўленні волі Божай праз своеасаблівы колазварот дабраславенняў і цяжкіх выпрабаванняў для беларускага народа ў апошнія некалькі стагоддзяў. Ён нагадвае пра такі важны духоўны прынцып: "Каго Бог любіць, таго і карае".

Як на мой погляд, лагічны працяг роздуму і збору матэрыялаў на гэтую тэму ў мае рукі трапляюць кнігі Паўла Севярынца пад назвай "Беларусалім". Яшчэ не пачаўшы знаёміцца з тэкстам, з добрай зайздрасцю падумаў, што аўтар не проста прыдумаў, а хутчэй атрымаў аднекуль звыш гэтае ёмістае слова, што нясе ў сабе феномен падабенства і еднасці лёсаў Княства Літоўскага, сучаснага Ізраіля і Беларусі.

З гэтай мэтай ён стварае бліскучы вобраз блогера Мацея Лявіцкага, які вядзе блог *Belarusalim.by*, збірае матэрыялы па тэме беларускага габрэйства і яго ролі ў адраджэнні Ізраіля, раскопвае звесткі пра трынаццаць габрэяў – нобелеўскіх лаўрэатаў і, зразумела, чатырох прэзідэнтаў і сем прэм'ераў, народжаных у Беларусі. Як і прыстала сапраўднаму габрэю, Моця часцяком ходзіць па краі бездані, але ніколі не застаецца без добрага прыбытку.

Павел Севярынец неаднаразова робіць важкі акцэнт на тым, што менавіта з Беларусі выйшла пакаленне аднаўлення Ізраіля, і гэта з'яўляецца біблійным прароцтвам, прыкметай апошніх часоў і блізкага Апакаліпсісу.

Напачатку прыйшлося прабівацца, як скрозь каменную сцяну, праз першыя старонкі аповеду пра Белазора і Пятра. Яны нечакана, але так дабрашчасна апынуліся ў кампаніі былога рабаўніка Глеба, колішняга алкаша дзядзькі Сцяпана, спартоўца-інваліда Косці Варацішына ды іншых, што ўтварылі сваю неверагодную царкву. Змест даходзіў няпроста, але вельмі вабіла мова – сапраўды беларуская, багатая, дакладная, здольная перадаць аблічча і ўнутраны свет людзей і бясконца зменлівае хараство прыроды.

Неўзабаве імклівае развіццё падзеяў захоплівае мяне, як галаваломны дэтэктыў. Калейдаскоп гістарычных карцін па-свойму зацягвае ў мінулыя часы, вяртае з нябыту выбітных дзеячаў і лёсаносныя падзеі. Адчуваецца гіганцкая праца аўтара з архіўнымі ды іншымі крыніцамі. Як сапраўдны геолаг Павел Севярынец "капае" глыбока і паслядоўна.

Паступова ў розуме чытача пачынае паўставаць уяўленне аб глыбокай адметнасці беларускага народа, яго "сэрцы святла", якое не можа належаць толькі

насельнікам сучаснай тэрыторыі. Аўтар слой за слоем саскрэбвае часткі чорнага квадрата і паказвае схаваныя пад ім карціны гісторыі ад пачатку пісьменнасці і дзяржаўнасці. Праз шматвекавую беларускую культуру ён ускрывае своеасаблівы код хрысціянства і выводзіць геніяльную формулу нацыянальнай ідэі: "Ісус, які гаворыць па-беларуску".

Як тут не ўзгадаць Статут Вялікага Княства Літоўскага, які ў свой час быў пакладзены ў аснову Канстытуцыі ЗША. Гэтая дзяржава няўхільна рабілася самай магутнай у свеце, практычна не мяняючы палажэнняў свайго асноўнага закону. І, на мой погляд, працягвацца гэта будзе толькі да той пары, пакуль будуць ушаноўвацца закладзеныя ў яго хрысціянскія каштоўнасці. Прыблізна тое ж самае скажу і пра Беларусь: колькі ні будзе перапісвацца яе Канстытуцыя, народ не ўбачыць лепшага жыцця, пакуль у яго сэрцы не зойме належнае месца "Ісус, які гаворыць па-беларуску".

Таму, мне падаецца, асноўная канва сюжэта трымаецца на перапляценні Евангелля, гістарычных і сучасных падзей.

У шэрагу бліскучых жаночых персанажаў вылучаецца галоўная зорка і гераіня Воля. Вобраз гэтай дзяўчыны, само яе імя і падзеі жыцця – ад студэнткі філфаку да пакутніцы – нясе ў сабе пранізлівыя рысы Беларусі.

"Вольная воля" – гэтыя словы абуджаюць у маёй памяці вершы з другога Паслання Апостала Пятра (1:19): "*І пры тым мы маем самае пэўнае прарочае слова; і вы добра робіце, што звяртаецеся да яго як да светача, які ззяе ў цёмным месцы, пакуль не пачынае брацца дзень і не ўзыдзе ранішняя зорка ў сэрцах вашых*".

Знаёмства з Жывымі камянямі, апошнімі імгненнямі жыцця Льва Каляды, падзеі ў Полацку і іншых гарадах маглі б падацца суцэльнай фантастыкай, калі б літаральна праз пару месяцаў пасля выхаду другой часткі "Беларусаліма" ў краіне ўслед за выбарамі не адбыліся падзеі, якія выйшлі на першы план сусветных навінаў.

Усемагутны Цімур, гэтае пачварнае ўвасабленне неўтаймоўнай, дзікай антыбеларускай сілы, вымушаны канстатаваць, што *"ня ўсё так проста з гэтым ціхім, балотным <u>народцам</u>. Рабы, гэта факт. Гаспадарамі не былі ніколі. Служылі і прыслужвалі. Умеюць толькі падпарадкоўвацца. Сваё і сваіх ненавідзяць, таму што ўся краіна – адзін засраны калгас.*

*Мазахісты. Іх тут снашалі тры сотні гадоў – немцы, рускія, палякі, зноў немцы, зноў рускія, потым свае бандыты. Яны ташчацца, калі іх гнобяць, кахаюць бязлітасных і гвалтаўнікоў".*

Шматлікія падзеі аповеду выглядаюць ледзь не дакладнымі прадказаннямі. Найперш, калі параўноўваць апісаны ў "Сэрцы святла" Беларух з падзеямі, што пачаліся пасля 9 жніўня, то ў вочы кідаецца нечаканая масавасць пратэстаў. Таксама нельга не згадаць, як палыхнулі сацыяльныя сеткі. І не толькі з удзелам карыстальнікаў беларускага інтэрнэту, але і ў самых розных суседніх і далёкіх краінах.

Ёсць і іншыя дэталі. "*Пасля свечак на сцэне пагаслага амфітэатра ў Віцебску, Полацку, Менску ўначы дзе-нідзе пачалі запальваць і ставіць на вокны свечкі. Класна прыдумана. Алелюя*".

Тут жа, на старонцы 51, чытаем пра прагляды начных стрымаў з двароў спальных раёнаў.

Чытаючы пра тое, як забарыкадавалася царква "Новае неба", нельга не ўзгадаць закрыццё малітоўнага дома "Новае жыццё".

Невыпадковая дробязь – успамін пра Баранавіцкі астрог, *які тхне псарняй*, таму што туды звозілі шмат арыштаваных у Мінску. Не чакалі ўлады такога ліку пратэстоўцаў, хоць і напакоўвалі іх, як селядцоў у бочкі.

Можна далучыць сюды словы пра тое, што "*сотні затрыманых вернікаў*

*разьмяшчалі ў Валадарцы, Амерыканцы, гарадскім ізалятары, Жодзінскай турме, развозілі па раёнах...*"

Надзвычай сімвалічным падаецца эпізод, калі падчас разгрому Беларуху "*немалады дзядзька сутаргава матляў, нібы даўжэзнай перабінтаванай рукой, брудным бел-чырвона-белым сьцягам*".

У "*нейкім пратэстанце*" па імені Зміцер, якога аўтар падае маскоўскім младабеларусам з асацыяцыямі пра Лжэдзмітрыя, угадваецца гераічная постаць Змітра Дашкевіча, з якім і яшчэ некалькім прыхільнікамі беларушчыны за колькі месяцаў да жнівеньскіх выбараў мы разам маліліся за мірны зыход гэтай падзеі ў вёсачцы Востраў на Ляхаўшчыне. Памятаю, што асабіста я ў той малітве раз за разам паўтараў: "Божа, дай мудрасць усім бакам магчымага супрацьстаяння".

Не стану падрабязна спыняцца на асобе Паўла Севярынца і закранаць пытанне яго адпаведнасці званню прарока, але адназначна скажу, што жыццёвы досвед гэтага неардынарнага чалавека сягае ад смярдзючых камераў турэмных ізалятараў, самай цяжкай, бруднай прымусовай працы на "хіміі" – да высокіх кабінетаў, дзе вырашаюцца лёсы сусветнай цывілізацыі.

Вяртаючыся да "Беларусаліма", узгадваецца вобраз царыцы Еўропы, галавой якой з'яўляецца Гішпанія з каронай у выглядзе Партугаліі, а сэрца яе – Беларусь! Менавіта тут адна палова рэк рухаецца праз Дняпро да мора Чорнага, другая ж праз Нёман – да Балтыйскага. Самымі блізкімі рэкамі з Нясвіжам паміж імі былі Уша і Лань. Абедзве жудасна пацярпелі падчас дзікунскага асушэння Палесся ў 1960-я гады. Так хочацца верыць, што менавіта з гэтай зямлі адзіны Госпад распачне Свой рух па ўсіх кантынентах і астравах!

Чаго б мне не хацелася, гэта каб збыліся прароцтвы Паўла пра шыхты змагароў з лозунгамі "СС" (смерць сатане), пад бел-чырвона-белымі сцягамі з выявай кулака. Таму я бачу адзіны шлях, каб сённяшнія лідары грамадскага супраціву – незалежна ад таго, знаходзяцца яны за кратамі, у сваіх дамах ці за мяжой – уразумелі, што толькі адчайная малітва да Ісуса Хрыста можа прывесці да бяскроўнага, а гэта значыць найперш духоўнага перавароту ў нашым жыцці. Мяне бясконца здзіўляе такая простая рэч: сярод заклікаў да волі, справядлівасці ды ўвогуле жыцця ў "краіне для жыцця" няма месца слову Божаму. Нават тыя, хто лічаць сябе хрысціянскімі дэмакратамі, практычна не ўжываюць слова "Хрыстос". А чаму б ім першым не паразважаць пра тое, што "ўсялякая ўлада ад Бога", што "сэрца цара ў руцэ Госпада"? Наўрад ці ў гісторыі чалавечай цывілізацыі знойдзецца больш дасведчаны, чым цар Давід, чалавек. Ён меў цесныя духоўныя зносіны з Богам і вельмі добра разумеў праблемы, звязаныя з барацьбой за ўладу і дзяржаву, якою яму прыйшлося кіраваць. Вельмі карысна было б успомніць яго словы, што "*Ён таймуе дух валадароў*" (Псальма 75:13); па Яго загаду зямля Егіпта "*ўрадзіла шмат жаб нават у спальні цароў*"( Пс. 104:30); "*Госпад праваруч цябе. Ён ў дзень гневу Свайго пакарае цароў*" ( Пс. 109:5); "*...закоўваць цароў іхніх у кайданы і вяльможаў іхніх – у путы жалезныя*" (Пс. 149:8).

Хацелася б усім нам і Паўлу Севярынцу пажадаць такой жа, як у апісанага ім Льва Іванавіча Каляды, веры ў перамогу справы Божай на роднай зямлі, сілы духу, цярпення і здароўя, каб завяршыць задуманае і наблізіць той дзень, калі на дарозе сустрэнуцца два чалавекі і паміж імі адбудзецца наступная гаворка.

– *Quo vadis?* Куды ідзеш?

– *Omnes viae Belarusalimam ducunt.* Усе дарогі вядуць у Беларусалім

– У каго вераш?

– У Хрыста, які размаўляе па-беларуску.

Марына Весялуха



...пяць соцень старонак –
немалая прастора для пошукаў
і выдатнае месца для знаёмства...

# Групавы настальгічны партрэт каля дзедавай хаты

## *Агляд альманаха “Беларус” за 2020 год*

***Беларус: Літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа 2020. – Нью-Ёрк, 2020. – 484 с.***

Бадай, у кожнага з нас у сямейным альбоме ёсць такія фотаздымкі. Зробленыя падчас вялікай сустрэчы, у перапынку на бяседзе, перад развітаннем ці наадварот – акурат пасля прыезду дарагіх гасцей. На іх – уся сям’я. Усмешлівыя, з адкрытымі тварамі, крыху чырвонымі шчокамі пасля выпітай чаркі. Сарамлівыя – сукенка не такая ўжо і святочная; упартыя – навошта псаваць дарагую фотастужку такім шараговым здымкам. А ў вачах – адначасова радасць ад прыемнасці імгнення сустрэчы і сум перад доўгім расстаннем. Магчыма – назаўжды. Нехта з’едзе за блізкі свет, каб там будаваць ужо ўласнае самастойнае жыццё, а нехта неўзабаве развітаецца са светам зямным і застанецца толькі згадкай, знаёмым ветлым




вобразам з фотаздымка. Тут усе розныя, featured розныя, featured розныя, rare пакаленняў, шчырыя вернікі і зацятыя агностыкі, але ўсе яны – з аднаго кораня.

Калі задумацца, то альманах «Беларус» – і ёсць менавіта такі групавы сямейны фотаздымак. Так, сямейны, бо аўтары, якія жывуць у розных краінах свету, – ад Літвы да Аўстраліі – аб’яднаныя агульным коранем беларускай рэчаіснасці. Для кагосьці гэта проста згадкі з далёкага дзяцінства, якія застаюцца ў памяці поруч з роднымі вобразамі бабулі і дзядулі, для некага – памяць пра маладосць і юнацтва, студэнцкія часы, а для іншых – і сёння цёплы куток, куды ён рады завітаць у часіны адпачынку ад будзённай звыклай працы за мяжой. Не ўсе аўтары з амаль трох дзясяткаў імёнаў, сабраных пад гэтай вокладкай, прадстаўленыя ў выданні аднолькава шырока, грунтоўна. Некаторыя з іх прапанавалі кароценькія эсэ, вершы, замалёўкі, каб проста засведчыць сваю прыхільнасць выданню. Іншыя прадставілі грунтоўныя падборкі, каб падзяліцца напрацоўкамі апошніх гадоў (бадай, для беларускага і беларускамоўнага творцы, які жыве за мяжой, выпадае не так многа магчымасцей трапіць да чытача менавіта праз папяровае літаратурна-мастацкае выданне), а для некага публікацыя – сцвярджэнне памяці. Бо аўтара ўжо некаторы час няма на гэтым свеце.

У любым выпадку, кароткае знаёмства ці доўгая сустрэча з творчасцю таго ці іншага мастака слова дае чытачу магчымасць дакрануцца да яго пісьменніцкага свету і пабачыць, што хвалюе беларусаў замежжа.

Калі б патрэбна было адным словам вызначыць тэму гэтага альманаха, то ў галаву адразу прыйшло б ёмістае слова: «Пакаленні». Так, фактычна кожны з аўтараў наўмысна ці не запланавана кажа хоць колькі словаў пра сваіх продкаў, сямейныя звычаі, завядзёнкі, разважае пра розніцу менталітэтаў нашых сучаснікаў і папярэднікаў. Ці не кожны хоць слоўцам згадвае Беларусь і акалічнасці свайго жыцця тут. Часам гэта проста ўспаміны маленства, выкладзеныя на некалькіх старонках, а часам – грунтоўныя згадкі пра былыя часы, аднакласнікаў і сяброў дзяцінства. З гэтымі людзьмі ўжо даўно перарвалася сувязь, многіх няма сярод жывых, але іх вобразы як найлепш дапаўняюць цэласны сусвет маленства ў беларускай вёсцы.

Так, адзін з самых шчымлівых тэкстаў альманаха «Беларус-2020» – кароткая аповесць **Алега Аблажэя** «Вектар гравітацыі». Шчымлівы – бо зямны шлях аўтара заўчасна абарваўся колькі гадоў таму, ды і падзеі, што ён апісвае ў гэтым аповедзе, нельга назваць цалкам пазітыўнымі. Калі коратка (але без спойлераў!), то сюжэт такі. Апавядальнік, чыё асабістае жыццё ў вялікім свеце склалася не надта ўдала, пасля разводу з жонкай бавіць лета ў сваёй сястры, якая з мужам жыве ў іх бацькоўскім доме на Навагрáдчыне. Тут жа ён неяк сустракае свайго аднакласніка Інакенція, ці, як яго клічуць вясковыя, – Кенцю. Успаміны пра школьныя гады пераплятаюцца са згадкамі з актуальнага для аповеда часу. Тут усплывае фігура бабулі лірычнага героя, якая, дзякуючы ўменню лячыць людзей, змагла выправіць хібу маўлення сціплага, але вельмі разумнага хлопчыка Кенці. Прыгадваюцца мары-памкненні хлопцаў стаць выдатнымі спецыялістамі. Першае каханне і вучоба ва ўніверсітэце, доўгія размовы каля вогнішча ў лесе і прыемныя пікнікі з віскі ды гарэлкай. Усё, як у жыцці: расповед нечакана абрываецца. Наш лірычны герой пабачыў Парыж і завёў кароткія, але бурлівыя стасункі са сваёй выпадковай спадарожніцай, а яго сябар... як узнік ніадкуль, так у гэтым небыцці растварэцца, пакінуўшы па сабе процьму ідэй для дзіўных вынаходніцтваў

(выдатны фізік, ён ужо запатэнтаваў некалькі сваіх распрацовак і дзякуючы ім меў магчымасць атрымліваць неблагія грошы, пры гэтым займаючыся любімымі справамі). І гэтую недавыказанасць (бо цікава ж, ці здолеў Інакенцій распрацаваць сваю даўнюю тэхнічную задумку) аўтару можна дараваць за адзін толькі сказ: «*Але тут я прамаўчу, бо даўно заўважана, што беларускім літаратарам кепска ўдаюцца эратычныя сцэны*». Сапраўды.

Калі казаць пра пакаленні, то гэты матыў стаў скразным не толькі ў сюжэтах тэкстаў, але і ў падыходах аўтараў да сваёй творчасці. Патлумачу. Так, аўтараў, якія з'ехалі з Беларусі ў 1990-я, можна назваць пакаленнем настальгіі. І жывучы на іншых кантынентах, паўшар'ях, яны ў думках згадваюць Беларусь. Параўноўваюць актуальныя краявіды з роднымі, сумуюць па дзедавых падворках, разважаюць пра беларускую мову і яе мілагучнасць. Не магу сказаць, што гэтая літаратура адкрывае чытачу-беларусу новыя гарызонты і знаёміць з новымі абшарамі. Але, напэўна, і такія тэксты маюць права на існаванне: раз тэматыка, настрой існуюць, значыць яны запатрабаваныя прынамсі ў прасторы ўнутранага жыцця беларускай эміграцыі.

Але і тут я назаву выдатны прыклад, твор, напісаны на мяжы літаратуры і журналістыкі. Гэта гутарка **Галіны Пазьняк** з **Аляксандрам Хомчанкам**, якая мае сімвалічную назву «Я звычайны беларус». Падаецца, што і спадарыня Галіна, і спадар Аляксандр – прадстаўнікі таго пакалення беларусаў у эміграцыі, якія на чужой зямлі пачуваюцца няўтульна, нібыта чужаніцамі. Таму з такім надзвычайным задавальненнем у гутарцы яны згадваюць падзеі маленства, школьных гадоў і часы навучання ва ўніверсітэце ў Мінску. Ёсць тут і досыць смешных выпадкаў. Так, напрыклад, у адным з іх спадар Аляксандр згадвае часы касьбы, калі трэба было бацьку дапамагаць працаваць на лузе. Бывала, пасля танцаў хлопцы гулялі з дзяўчатамі аж да самай раніцы, а ўжо па дарозе да дома мусілі працаваць касой: «*...цэлую ноч танцавалі, то бацька не глядзіць, што ты ня спаў ці там што. Праца ёсць праца. Бывала так: на ровары з танцаў, закасаўшы «порткі-клёш», едзеш проста на сенакос*».

У ліку тэкстаў, якія асабіста мне найбольш прыйшліся да густу, – падарожныя нататкі **Юрася Шамецькі** «Карыда». І хоць падрабязныя апісанні старажытнай іспанскай крывавай забавы-прадстаўлення з быкамі чытаць было невыносна балюча (але ж гэта нацыянальная традыцыя – што паробіш, яе не вымераць сучаснымі паняткамі маралі і пільнага стаўлення да ўсяго жывога), сам па сабе тэкст і апісаныя ў ім эмоцыі, стыль расповеду падаліся вельмі гарманічнымі. Так, перад намі твор, напісаны беларусам, але беларусам, які пачуваецца выдатна хоць у Гішпаніі, хоць у Канадзе. Ён умела счытвае энергетыку еўрапейскіх гарадоў, выдатна ў іх арыентуецца, не баіцца сустрэчы з новым і – магчыма, па гэтай прычыне – самі гарады яго выдатна прымаюць. Геній места, ці Genius Loci не дасць сябе падмануць. «*Эўропа адразу пазнаецца і прыцягвае сваёй глыбінёй і шчодрасцю. Адчуваецца непакой гісторыі, дух прыўзнятасьці, старажытнасьці. Мне аднолькава ўтульна, у якім бы эўрапейскім горадзе я ні апынуўся, бо адразу зьяўляецца дакладнае і ўпэўненае адчуванне: я ўжо тут быў і добра ўсё ведаю, а галоўнае – разумею*». Думаецца, такой упэўненасці часам не хапае многім беларусам, якія баяцца не толькі чужых гарадоў ды краін, але і новага ў сваім уласным жыцці.

Вакол тэмы пакаленняў завязаны і сюжэт апавядання **Марыны Кражовай** «Х+У=О». гэты твор – у маім асабістым топе найлепшых з альманаха. Назаву гэтаму некалькі прычын. Гераіня тэксту – вельмі цэласны вобраз сама па сабе. Гэта дзяўчына, студэнтка гуманітарнай ВНУ, якая свае канспекты ператварае ў пэўнага кшталту коміксы. Поруч з нататкамі ў на старонках сшыткаў жывуць толькі ёй вядомыя героі – Сонца, Вока, Лімон. Яны – як дарожныя знакі-сімвалы, што абазначаюць адметныя месцы канспекта, але і самі па сабе маленькія значкі –

героі, якія дзейнічаюць у сваім сусвеце. Паміж імі адбываюцца дыялогі, яны ўвесь час знаходзяцца ў працэсе камунікацыі. Па-наватарску аўтарка абыходзіцца з афармленнем дыялогаў: часам проста ўстаўляе скрыншоты перапіскі ў мэсэнджары са сваёй сяброўкай, і расповед набывае новае сучаснае вымярэнне. Бо навошта ж пераказваць размову, калі можна яе проста *паказаць*. Але не гэта галоўнае. Думкі лірычнай гераіні засяроджаныя на бабуліных дзённіках, якія не вытрымалі змагання з часам, у некаторых месцах выцвілі, старонкі пакрыліся плямамі. Яна збіраецца іх аднавіць – і тэксты, і малюнкі, змешчаныя ў тых дарагіх яе сэрцу нататках. Па-мойму, выдатны пачатак дэтэктыўнага рамана, выдатная завязка шыкоўнай гісторыі, у межах якой можа адбыцца што заўгодна. І гераіня, з думкамі-развагамі якой мы ўжо паспелі пазнаёміцца, справілася б нават з самым складаным расследаваннем.

Пэўнага кшталту адкрыццём для мяне стаўся хайбун **Макса Шчура** «Чатыры дні на пачатку жніўня». Натуральна, ён таксама трапіў у мой топ найлепшых тэкстаў гэтага альманаха. Хайбун, як коратка тлумачыць сам аўтар, гэта малы жанр японскай літаратуры, празаічны (часта падарожны) дзённік паэта, прыкладзены вершамі з каментарамі аўтара. У дзённіках пісьменнікаў, іх падарожных нататках ёсць пэўнае чараўніцтва, прыцягальная сіла. Найперш уражвае ўменне творцаў звяртаць увагу на дэталі, знаходзіць пэўныя нечаканыя бакі нават у самых звыклых прадметах, усё гэта перапрацоўваць і выяўляць чыстай, паэтычнай мовай. Напрыклад, вынікам таго, што аўтар ледзь не раздушыў матылька, які трапіўся яму па дарозе, сталася хокку (так, сам Макс Шчур у эсэ пра хокку піша, што гэтае слова трэба пісаць менавіта так, праз дзве «к», каб яшчэ раз пакрэсліць запазычанне жанру і самой з'явы):

Мне пад ногі
празь няшчаснае каханне
кінуўся матыль.

Паказальна тое, што вандроўка лірычнага героя – ён жа ў дадзеным выпадку сам аўтар – зусім кароткая. Ён ідзе з Прагі пешкі крыху больш як 20 кіламетраў у мястэчка Вшэнораў, дзе мусіць адбыцца двухдзённы будыйскі рэтрыт. Здавалася б, звычайная кароткая вандроўка, але і цягам гэтых некалькіх дзён можа адбыцца столькі падзей. Падзей, найперш духоўнага кшталту. У аўтара яны звязаныя з разуменнем сябе, свайго шляху і сваіх задач у гэтым свеце ў цэлым і на дадзеным рэтрыце ў прыватнасці. Мы ведаем папулярнае выслоўе, што з кожнай вандроўкі мы вяртаемся крыху іншым чалавекам, дык вось прыклад гэтага хайбуна Макса Шчура нам паказвае, дзе менавіта палягае тая розніца паміж лірычным героем да вандроўкі і пасля яе. Хочацца найперш падзякаваць аўтару за шчырасць, бо без яе гэты кароткі дзённік быў бы крывадушным самалюбаваннем. І ў цэлым дадзены тэкст – яшчэ адзін аргумент «за» тое, каб нарэшце пачаць весці дзённік. Гэта можа быць надзвычай карысна.

Прызнаюся, у такім калейдаскопе разнастайных імёнаў, тэкстаў, характараў і настрояў, што прадстаўленыя на старонках альманаха «Беларус-2020», вельмі лёгка згубіцца і разгубіцца. Лёгка пайсці па шляху чытання адно з тэкстаў, падпісаных знаёмымі імёнамі, і зусім абысці ўвагай новых аўтараў. Таму так рабіць не раю. Магчыма, тыя творы, што падаліся сімпатычнымі мне, у кагосьці зусім не выклічуць пазітыўных эмоцый і нават не запомняцца, а згадаюцца зусім іншыя, тыя, што не адгукнуліся ўва мне падчас чытання. У любым выпадку, амаль пяць соцень старонак – немалая прастора для пошукаў і выдатнае месца для знаёмства.

кнігапіс

Алесь Аркуш



…сёння немагчыма паэту
схавацца ў вежы са слановай косці…

# Кніжныя агледзіны

## *Водгукі на кнігі*

***Віктар Марціновіч. Рэвалюцыя. (Кнігазбор, 2020).***




Не ведаю, чаму раман называецца “Рэвалюцыя”, бо насамрэч ніякай рэвалюцыі ў рамане не адбываецца. Хутчэй транзіт улады. У рамане савецкі дыназаўр, былы чалец Палітбюро надалей трымае ўладу на постсавецкай прасторы, стварыўшы адмысловую ці то мафію, ці то нейкую таемную арганізацыю (на ўзор КДБ або Штазі), у якой кожны, самы нечаканы і небяспечны, загад мусіць дакладна і без прамаруджвання выконвацца.

Былы чалец Палітбюро дажывае апошнія дні і думае пра спадкаемца. Выбар выпаў на шараговага выкладчыка ўніверсітэта, прычым гуманітарыя. Усялякімі інтрыгамі, падставамі і хітрыкамі яго заманьваюць у арганізацыю і робяць яму розныя выпрабаванні. І напрыканцы ствараюць такія ўмовы, што, каб выратаваць сябе, ён мусіць пачаць змагацца за ўладу ў гэтай мафіі. Выкладчык перамагае (бо для перамогі ўсё было прадугледжана) і становіцца на чале арганізацыі, адмовіўшыся ад

ранейшых сваіх перакананняў, агульначалавечых маральных прынцыпаў і нават ад каханай жанчыны.

У прынцыпе, гэта ілюстрацыя змены ўлады ў посттаталітарных краінах, калі ўлада, пры любых афіцыйных раскладах, усё роўна застаецца ў ранейшых элітаў. Або яны на прамую прыходзяць да ўлады пры новым дзяржаўным укладзе (маючы кантроль у сілавых структурах), або кантралююць важныя дзяржаўныя сегменты – пераважна эканамічныя.

Вось такая атрымалася рэвалюцыя. Рэвалюцыя перадусім мусіць адбыцца ў галовах. Пра гэта Марціновіч можа напісаць новую кнігу.

***Ганна Севярынец. Гасцініца “Бельгія”. (Рэгістр, 2019).***




З’яўленне гэтай кнігі для мяне было прагназаваным. Бо перад «Гасцініцай “Бельгія”» выйшла кніга Ганны Севярынец “Ён і пра яго” пра Уладзіміра Дубоўку, а таксама том выбраных твораў Алеся Дудара, які ўклала Ганна. Балазе, менавіта яна адшукала прыватны архіў Алеся Дудара, які, як высветлілася, цярпліва чакаў свайго даследчыка ў Мінску ў нашчадкаў паэта. Такім чынам пісьменніца, працуючы ў архівах і бібліятэках, была настолькі ўцягнутая ў гэты бурлівы і трагічны час – 20-30-я гады мінулага стагоддзя – што не магла не падзяліцца гэтым у мастацкай форме ў асобнай кнізе.

У новым рамане Ганны Севярынец апавядаецца пра літаратурнае жыццё Беларусі 20-х – першай паловы 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Сярод галоўных герояў – паэты Алесь Дудар і Уладзімір Дубоўка. У рамане практычна няма мастацкага вымыслу, твор пабудаваны на архіўных дакументах, газетных матэрыялах таго часу, успамінах сведкаў, гэпэушных справах.

Пасля прачытання «Гасцініцы “Бельгія”» маё ўяўленне пра той час набыло канчатковае акрэсленне і дэталёвую прамалёўку. Але ніякіх зменаў успрымання і ацэнак таго часу і яго герояў не адбылося. І тая спантанная і інтуітыўная думка, якая ў мяне нарадзілася яшчэ напачатку 90-х, умацавалася. Пра непазбежнасць паўставання карпаратыўнай сітуацыі, калі літаратура ствараецца пры кантролі і ўдзеле дзяржавы, калі літаратура робіцца “з аднаго катла”.

Захапляюся тым імпэтам і гарэннем, з якім Ганна рабіла гэтую кнігу. Цяпер той час актуалізаваўся і стаў больш зразумелым. Ганна вярнула яго ў цяперашні літаратурны канктэкст. Прынамсі, зразумелым стаў канфлікт Дудара і Дубоўкі і прычыны “нараджэння” Тодара Глыбоцкага.

Я крыху інакш успрымаю некаторых герояў таго часу, напрыклад, Язэпа Пушчу, які добра намаляваны ва ўспамінах Яна Скрыгана. Але, я так разумею, ён быў у “Бельгіі” “спадарожным героем”. І мне сімпатычны ўчынак Міколы Нікановіча, які пайшоў вызваляць у ДПУ сваіх сяброў Таўбіна і Астапенку ў 1933-м. Пайшоў і не вярнуўся. То бок кніга ўтрымлівае толькі асобныя малюнкі і гісторыі з літаратурнага жыцця Беларусі таго часу, пераважна датычныя А. Дудара і У. Дубоўкі. Можа, цэнтральныя і найбольш значныя, але ж вельмі шмат засталося па-за кадрам. Гэта значыць, магчымыя новыя і новыя кнігі пра той бурлівы і трагічны час. Час, калі нараджалася наша сучасная беларуская літаратура.




***Уладзімір Някляеў. Толькі вершы. (Кнігазбор, 2016).***

Уладзімір Някляеў незаўважна перайшоў у кагорту найстарэйшых беларускіх паэтаў. У гэта цяжка паверыць. Бо, калі

казаць пра старэйшае пакаленне беларускіх пісьменнікаў, то нікога і блізка нельга параўнаць з Някляевым у творчай актыўнасці. Штогод выходзяць яго кнігі, а нярэдка па некалькі кніг за год. Прычым гэта не толькі зборнікі вершаў, але і кнігі прозы. Вось і сёлета часопіс "Дзеяслоў" друкуе новы раман Уладзіміра Някляева.

Але мы разглядаем зборнік паэзіі "Толькі вершы", які выйшаў у 2016 годзе ў выдавецтве "Кнігазбор".

Даўно сталі хрэстаматыйнымі радкі Ганны Ахматавай: "Когда б вы знали, из какого сора. Растут стихи, не ведая стыда..." Дык вось за апошнія 10-15 гадоў у біяграфіі Някляева было столькі розных падзеяў, столькі розных уражанняў, што іх хапіла б любому пісьменніку на некалькі жыццяў. Самыя драматычныя падзеі мінулага – гэта арышт і патрапленне ў СІЗА КДБ. У 2011 годзе пабачыў свет зборнік паэта "Лісты да Волі", які аб'яднаў выключна турэмныя вершы і паэму "Турма". Але і ў зборніку "Толькі вершы" ёсць цэлы раздзел турэмных вершаў, які называецца "Турэмная бібліятэка".

Халодны карцар.
Адзіночка.
Нядрэмныя глядзяць у вочка
Вартаўнікі. Нібы з нябёс
Вада і хлеб. Нібы Хрыстос
Прыйшоў, каб падзяліцца з намі:
Са мною і вартаўнікамі.

Адметнасцю кнігі з'яўляецца тое, што ў ёй вельмі шмат прысвячэнняў, паэт прысвяціў вершы амаль усім сваім сябрам і блізкім людзям. Відавочна – праз удзячнасць за тое, што яны ў яго былі і ёсць, што ніхто з іх не здрадзіў падчас выпрабаванняў лёсу.

У вершы "На беразе вечнага часу" паэт у родным Крэве каля магілаў дзядоў разумее штосьці невытлумачальнае пра жыццё:

Пайсці назад праз лес, праз жыта,
Праз поле, поўнае трысця,
І зразумець, што ўсё пражыта,
Спазнана ўсё, апроч жыцця.

Верш "Каляды" прысвечаны жонцы Вользе. А Зміцер Вайцюшкевіч з гэтага верша зрабіў цудоўную песню. Бо Каляды былі і ёсць – як надзея на лепшае.

***Леанід Дранько-Майсюк. "...Натуральны, як лінія небасхілу". (Кнігазбор, 2017).***




Гэтай кнігай Леанід Дранько-Майсюк мяне асабіста здзівіў. У другой палове XX стагоддзя такія кнігі пісалі славутыя беларускія даследчыкі айчыннай літаратуры: Генадзь Кісялёў, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Калеснік. Яны працавалі ў архівах і аднаўлялі малавядомыя або зусім невядомыя старонкі жыцця беларускіх пісьменнікаў XIX – пачатку XX стст. Вось і Леанід Дранько-Майсюк напісаў кнігу на аснове архіўных матэрыялаў, якая апавядае пра віленскія падзеі 30-х гадоў у жыцці найвядомейшага паэта Заходняй Беларусі Максіма Танка.

Пра Максіма Танка ўвогуле напісана шмат біяграфічных кніг, але, як аказалася, у іх шмат блытаніны і недакладнасцяў. Напрыклад, з датамі і прозвішчамі. Леанід Дранько-Майсюк вырашыў аднавіць як мага больш падрабязна гісторыю ўвязнення Максіма Танка ў віленскіх Лукішках.

Максім Танк з юначых гадоў далучыўся да беларускага левага руху, пісаў для

камуністычнага друку, распаўсюджваў падпольныя выданні, дзейнічаў як агітатар. Нават тагачасныя служкі закону ў Вільні – суддзі і пракуроры – прызнавалі смеласць і зацятасць беларускага юнака. Аўтар падрабязна апісвае, як на адным з судоў Максіма Танка апраўдалі, хоць суддзі выдатна ведалі, што гэты хлопец, які не мае адваката, дакладна вінаваты. Але не хапіла ў суда стоадсоткавых доказаў і сведчанняў, каб пакараць, бо гэта ўсё ж былі не сталінскія тройкі і не лукашэнкаўскія анлайн-суды. Суды ў паваеннай Польшчы, нягледзячы ні на што, кіраваліся законам. Маглі, канечне, чарговы раз суддзі кінуць хлопца ў Лукішкі, бо былі ў іх ускосныя сведчанні, але пашкадавалі, а хутчэй не пакаралі проста праз павагу да адважнага хлопца, які нават у турме займаўся, з дапамогай турэмнай пошты, распаўсюдам пракламацыяў і сваіх агітацыйных вершаў.

З гэтай кнігі і паўстае партрэт паэта – смелага, адважнага, рызыкоўнага. І менавіта гэтая смеласць, відавочна, дапамагала Максіму Танку ў пасляваенныя часы бараніць Ларысу Геніюш або Алеся Разанава. Як напісана ў анатацыі кнігі, дакументальная "аповесць «...Натуральны, як лінія небасхілу» – вынік шматгадовай працы ў віленскіх і менскіх архівах".

І яшчэ варта адзначыць, што кніга прысвечана гданьскай даследчыцы беларускага руху Алене Глагоўскай, якая дапамагала аўтару працаваць над гэтай аповесцю.

***Рыгор Сітніца. Ток. (Чатыры чвэрці, 2018).***




Гэтая кніга ў нейкім сэнсе ўнікальная. Тое, што мастак Рыгор Сітніца піша вершы, не было для аматараў беларускай паэзіі таямніцай. Час ад часу яго вершы друкаваў часопіс "Дзеяслоў", і нават у 2006 годзе паэт атрымаў прэмію часопіса "Залаты апостраф". Прычым Сітніца пісаў вершы са школьных гадоў. Але толькі ў 2018 годзе нарэшце пабачыла свет яго першая кніга вершаў "Ток". Кніга выйшла ў выдавецтве "Чатыры чвэрці" і аб'яднала лепшыя паэтычныя творы Сітніцы, напісаныя за ўсе ранейшыя гады.

І гэтая кніга сапраўды ўражвае – і паэтычнай культурай, і глыбокімі думкамі, і грамадзянскім гучаннем, і скіраванасцю на класічную паэтычную традыцыю. Нечым вершы Р. Сітніцы блізкія да паэтыкі Уладзіміра Някляева. І формай рыфмаванага верша, і нейкім грамадзянскім нервам, калі паэтычны радок адгукаецца на жыццё і падзеі ў тваёй краіне. А таксама ўвагаю да роднай гісторыі і культуры. Таму ў вершах Сітніцы шмат гістарычных асобаў, згадак гістарычных падзеяў. Ёсць тут і Вільня, і Наваградак, і Свіцязь, і полацкія старажытныя героі, але таксама ёсць і Варшава, і Паланга. І нечакана, усё ж аўтар мастак па адукацыі і асноўнай сваёй прафесійнай дзейнасці, шмат вершаў пра музыку, пра класічную музыку. Бо вершы і музыка – гэта для Р. Сітніцы штосьці роднаснае, штосьці з аднаго, вельмі блізкага, культурнага шэрагу. То бок для Р. Сітніцы важна, каб у вершы гучала музыка.




Ну і варта тут прывесці словы Рыгора Барадуліна, якія пададзены ў анатацыі да кнігі: "*У вершах Рыгора Сітніцы – раскутасць і ашчаднасць, аратайнасць і панавітасць, апантанасць і раздумнасць, прыпар шчодрадайнасці й прысмерк смутку, баляванне гуку і раскоша майстэрства*".

***Міхал Бараноўскі. "Volumen.2". (Медысонт, 2020).***

Міхал Бараноўскі – цэльны, глыбокі творца. Практычна ўсе ягоныя іпастасі звязаныя з літаратурай. Працуе ён дырэктарам

мінскага Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Жыццёвае хобі – заўзяты букініст, збірае кнігі. Захапленне – музыка, заснавальнік гурта «Нельга забыць». Пераможца “Бардаўскай восені” 2012 года. Прычым усе асноўныя праграмы, якія былі створаныя ім для гурта, выключна літаратурныя – адна на вершы Уладзіміра Караткевіча, другая на вершы Максіма Багдановіча. Ну і асноўны творчы занятак – паэзія.

Першы свой зборнік вершаў “Volumen.1” Міхал выдаў у 2016 годзе. Кніга прынесла яму лаўрэацтва прэміі “Дэбют” імя Максіма Багдановіча. Свой другі зборнік, які выйшаў летась, Міхал назваў, як называлі свае альбомы класічныя рок-гурты, напрыклад, *Led Zeppelin*, дадаўшы лічбу, – “Volumen.2”. Гэты зборнік названы ў апытанні на “Радыё Свабода” лепшай беларускай паэтычнай кнігай 2020 года.

Зборнік практычна з’яўляецца працягам папярэдняга. Ніякіх істотных зменаў ані ў паэтыцы, ані ў стылістыцы няма. Па-ранейшаму, дамінуюць верлібры – глыбока спавядальныя, часта вельмі асабістыя. Але ў новым зборніку дадаліся трывожныя ноты.

іду побач з вальерамі
прыслухоўваюся да звера ўнутры
правяраю ці моцныя краты
ці надзейныя засаўкі

Неспакой, трывога, абурэнне. Бо сёння немагчыма паэту схавацца ў вежы са слановай косці.

душа не на месцы
прапала бяз вестак
гарыць пад нагамі зямля
ці гэта... усё
што ад нас застанецца
што застанецца пасля

І нават разгубленасць і няведанне: як, чаму, што рабіць?

адчынены дзверы і
няма выйсця
непад’ёмныя
кайданы свабоды

Але песня можа падтрымаць, узняць дух, натхніць на творчасць, дапамагчы выжыць.

птушка Сірын ляціць праз ноч
песню трымае ў дзюбе
бы птушаняці
у вусны мае
радасць нясе

***Цемрык Велет. Злом. (Галіяфы, 2019).***




У другую кнігу “Злом” Цемрыка Велета ўвайшлі вершы, напісаныя за апошнія гады. Творы паэта – спробы зазірнуць у сваю памяць, свядомасць і падсвядомасць. “*Гэта фантасмагарычны свет рэфлексій, асацыяцый ці назіранняў, дзе нават у звыклым і будзённым бачыцца штосьці таямнічае і тагасветнае*”.

Так напісана ў анатацыі да кнігі. Зборнік сапраўды ня-

звыклы, можна сказаць мадэрнісцкі. Праўда, яго не назавеш рэвалюцыйным для беларускай паэзіі, дастаткова згадаць паэзію Янкі Юхнаўца або верлібры Янкі Сіпакова 60-х гадоў. Ну, а ўжо ў XXI стагоддзі такі мадэрновы верлібр стаў у Беларусі ледзь не традыцыйным вершам. Дастаткова згадаць Міхала Бараноўскага або Вольгу Гапееву.

Але верлібры Велета ўсё ж адрозніваюцца. Адрозніваюцца сваёй іранічнасцю і фантасмагарычнасцю. У іх часам адбываецца тое, што адбывацца не можа, і здараецца нешта, што нібыта здарацца не павінна. Але на тое паэт і мае сваю фантазію, каб ствараць свой свет, у якім можа здарацца немагчымае.

у нябёсах, дзе я калісьці намагаўся нарадзіцца і не змог,
жыве матыль, што крыламі сваймі
змяняе колеры святла, з якімі
усе жывуць у згодзе, а я не здольны...

Здавалася б такія медытатыўныя вершы мусяць быць абсалютна апалітычнымі. Бо ў іх існуе толькі лірычны наратар і навакольны свет. А часам і самога наратара няма, ёсць толькі метафізічны свет. Але Велет рэфлексуе і на навакольныя падзеі.

раструшчаны людзьмі, часам
і пачуцці згубіў.
маляваў нешта ўпотайкі
і ніколі не паказваў свой твор.

Або вось такое:

я годна ўздымаю свой штандар дрэннага настрою
і йду цераз гэты сталічна-правінцыйны горад,
што так падобны да хворага на страўнік
маразматычнага дзядка.

Ёсць у Велета рэфлексіі і пра мінулае. Пра Літву, княства і Навагрудак.

па небасхіле цёмным караскалася чародка птушак,
у густым тумане цямешыліся вёскі.
літва памерла, княства ў руінах,
у старыя зубы вежаў Навагрудка
залезлі пустазелле й ветру пах.

Кніга называецца “Злом”. Злом бывае негатыўны, калі ідуць пад адхон лёсы, надзеі і мары. Але бывае злом пазітыўны. Калі на злом ідзе старое, беспрасветнае жыццё, калі знішчаюць беззаконне, хлусню і дэспатыю.

***Ігар Сідарук. “Непазьбежны лістапад”. (Полацкае ляда. 2019).***




Для мяне асабіста вяртанне Ігара Сідарука да паэзіі сталася прыемным сюрпрызам. Больш за тое, гэтае вяртанне адбылося ў новай якасці – якасці прадстаўніка класічнай беларускай сілаба-танічнай паэзіі. У 90-х гадах Ігара Сідарука можна было назваць нават панк-паэтам, настолькі яго паэзія была анархічнай і брутальнай. І вось зусім новы паэт Ігар Сідарук са сваёй новай кнігай.

Дарэчы, гэта ўжо другая яго кніга паэзіі, якую выдала выдавецкая ініцыятыва “Полацкае ляда”. У 1994 годзе ў По-

лацку пабачыў свет ягоны бадай самы анархічны беларускі зборнік вершаў "Саната Арганата".

Назва новай кнігі "Непазьбежны лістапад" дакладна адлюстроўвае настрой і змест вершаў. Гэта паэзія восеньскага перыяду жыцця паэта. Тут ён як бы спрабуе пераасэнсаваць свае мінулыя гады, вызначыць, што ў іх сапраўды было вартым і каштоўным, а што другасным і другарадным. З вершаў вынікае, што самым каштоўным для паэта былі чалавечыя адносіны, пераважна з любімымі жанчынамі. Кніга прасякнута ўспамінамі пра шчаслівыя імгненні жыцця. Прычым паэт не наракае, што шмат было расстанняў. Ён удзячны за тыя месяцы і дні разам, за тыя сустрэчы і супольныя вандроўкі.

Заплюшчыў вочы я тады
і ціха папрасіў у Бога:
Хоць ў шчасны час, хоць ў час бяды
Я мог знайсьці твае сьляды
На ўсіх замеценых дарогах.

І паэт разумее, што гэтыя імгненні знікнуць разам з ім. Захаваць іх магчыма толькі ў вершах.

І ляціць, і ляціць, і ляціць
Сьнег нястомна, няспынна, татальна.
І пад ім так глыбока ляжыць,
І так хоча хоць трошкі пажыць
Адзінот дзьвюх забытая тайна.

І таму нараджаюцца вось такія вершы:

Я не шкадую ні аб чым!..
Што мы з табой тады знайшліся,
Што крыху лёсы не сышліся,
Што нас кружляў салодкі дым,
І верасень сьпяваў дваім
І за каўнер шпурляў нам лісьце!..
Я не шкадую ні аб чым.

Атрымаўся рамантычны, настальгічны зборнік, які будзе актуальны ў любы час, асабліва ў час расчаравання, зняверанасці, разгубленасці і развітання.

# Нашыя аўтары

**Аркуш (Козік) Алесь** — паэт, празаік, крытык, выдавец. Аўтар кніг «Вяртанне», «Тайніца», «Крылы пературорацца ў карэнні», «Разьвітаньне з Танталам», «Палімпсэст», «Захоп марсіянамі Беларусі», «Сядзіба», «Спадчына», «Возера вялікае» і інш. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку.

**Багдановіч Ірына** – паэтка, крытык, літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кніг «Чаравікі маленства», «Фрэскі», «Сармацкі альбом», «Янка Купала і рамантызм» і інш. Перакладае з польскай мовы. Нарадзілася ў 1956 годзе ў Лідзе. Жыве ў Мінску.

**Барысюк Таццяна** – паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Аўтарка кнігі вершаў «Аўтапартрэт», кампаратывістычных прац «Сон у беларускай і польскай паэзіі 80-90-х гадоў XX стагоддзя», «Традыцыі англійскага і польскага рамантызму ў сучаснай беларускай паэзіі», «Пошукі бессмяротнасці ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі» ды інш. Нарадзілася ў 1971 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бруй Уладзімір** – празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Нябесны банк», «Трэцяя Бярэзіна», «Две души – одна судьба», «Приключения сирийца в СССР», «Сэрца новае». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Гарадзеі. Жыве ў вёсцы Карцэвічы на Нясвіжчыне.

**Ваганаў Сяргей** – журналіст, эсэіст, паэт. З 1961 года працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Знамя юности». У 1976–2008 гг. – уласны карэспандэнт газеты «Труд», галоўны рэдактар газеты «Труд» в Беларуси». Аўтар шматлікіх эсэ і публіцыстычных нарысаў, частка якіх друкавалася ў розных тэматычных зборніках, а таксама ўвайшла ў кнігу «Мосцік над вечнасцю». Двойчы лаўрэат конкурсу «Вольнае слова». Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Казані, у эвакуацыі. Жыве ў Мінску.

**Весялуха Марына** – паэтка, крытык. Магістр філалагічных навук у галіне літаратуразнаўства. Выступае з матэрыяламі пра актуаліі літпрацэсу, піша крытычныя артыкулы і рэцэнзіі на кнігі. Лаўрэатка конкурсу імя Адама Бабарэкі (2013). Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мёрах. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гігевіч Васіль** – празаік. Аўтар кніг «Спелыя яблыкі», «Калі ласка, скажы», «Жыцьва», «Астравы на далёкіх азёрах», «Доказ ад процілеглага», «Карабель», «Марсіянскае падарожжа», «Пабакі», «Прыгоды Базылябеларуса» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Жыцькава на Барысаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Перакладаў на беларускую мову творы літоўскіх, венгерскіх, шведскіх пісьменнікаў. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Драздоў Генадзь** – мастак. Працуе ў галіне графікі, жывапісу, мастацкіх праектаў. Творы захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у прыватных калекцыях. Узнагароджаны дыпломам I ступені за серыю графічных прац на II Мінскай міжнароднай выставе графікі (2009), дыпломам III ступені (у намінацыі лічбавае фота) на IV Мінскім міжнародным фестывалі лічбавага мастацтва (2013). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Паддуб'е на Рагачоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Здаранкоў Сяргей** – актор тэатра і кіно, рэжысёр. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Працаваў у Магілёўскім аблдрамтэатры, Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, Драматычным тэатры беларускай арміі. Нарадзіўся ў 1982 годзе ў Ліепаі (Латвія). Жыве ў Мінску.

**Кандратаў Мікола** – паэт, перакладчык. Аўтар кніг вершаў і перакладаў «Возера Рудакова», «Вершы і зоркі», «Кроплі дажджу», «На Божай далані». Укладальнік і адзін з аўтараў кнігі «У святле астралогіі. Лёсы беларускіх літаратараў». Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Замосце на Талачыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Лем Станіслаў** – польскі пісьменнік, філосаф, футуролаг, сатырык, крытык. У ягонай творчасці – літаратурнай і філасофскай – тры асноўныя тэмы, распрацаваныя на працягу ўсяго жыцця: Космас, Жыццё і Розум, іх узнікненне і эвалюцыя, пры гэтым мастацкая літаратура часта была ілюстрацыяй тэарэтычных разважанняў. Яго самыя вядомыя творы – раманы «Салярыс» і «Непераможны», зборнікі апавяданняў «Зорныя дзённікі» і «Кіберыяда», філасофска-футуралагічныя манаграфіі «Сума тэхналогіі» і «Фантастыка і футуралогія». С. Лем – найбольш перакладаны польскі пісьменнік. Нарадзіўся ў 1921 годзе ў Львове. Памёр у 2006 годзе ў Кракаве.

**Ліпскі Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, сярод якіх «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка», «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска», «Антонік-понік», «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь» і інш., зборнікаў прозы «Раны», «Дзень нараджэння» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Я. Маўра (1993), імя В. Віткі (1997), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001) і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Шоўкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Ліс Дар'я** – празаік, паэтка, журналістка. Аўтарка кнігі вершаў і прозы «Вясновы джаз». Прызёрка II міжнароднага конкурсу web-журналістыкі «Yousmi Media Awards» (2011), лаўрэатка стыпендыі імя Магдалены Радзівіл (2017). Нарадзілася ў 1981 годзе ў вёсцы Залессе на Смаргоншчыне, дзе і жыве.

**Лойка Алег** — паэт, празаік, літаратуразнаўца, перакладчык. Аўтар кніг «Задуменныя пералескі», «Блакітнае азерца», «Каб не плакалі кані», «Шчырасць», «Грайна», «Скрыжалі», «Паэзія і час» і інш., раманаў-эсэ «Як агонь, як вада», «Францыск Скарына, або сонца маладзіковае». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990). Нарадзіўся ў 1931 годзе ў Слоніме. Памёр у 2008 годзе.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Знічы кахання» і інш., прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2017) і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Пярун Галіна** – празаік. Скончыла Барысаўскае медыцынскае вучылішча і Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт. Аўтарка кніг «Прости», «Воля судьбы», «Прыгоды сяброў і парады ад Усімдапамагайкіна». Нарадзілася ў 1975 годзе ў Заслаўі. Жыве ў Магілёве.

**Цютчаў Фёдар** – рускі паэт, публіцыст, дыпламат. Жыў у Мюнхене, Турыне, Парыжы, быў знаёмы з Г. Гейнэ і Ф.В. Шэлінгам. Удзелу ў літаратурным жыцці не браў і ніколі сам сябе не зваў літаратарам. Захавалася каля 400 ягоных вершаў, некаторыя радкі з якіх часта цытуюцца ў Расіі. Нарадзіўся ў 1803 годзе ў Аўстугу на Браншчыне. Памёр у 1873 годзе.

**Шыпіла Уладзімір** – паэт. Займаецца антрапалогіяй. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Справа», «Верасень». Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Мінску.

**Язневіч Віктар** – перакладчык Станіслава Лема, кандыдат тэхнічных навук. Аўтар кнігі «Станислав Лем», за якую атрымаў Бяляеўскую прэмію (Расія, 2015), і шматлікіх артыкулаў пра творчасць і філасофскую спадчыну польскага пісьменніка, апублікаваных у васьмі краінах. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

**Янчэўская Кацярына** – паэтка, мастацтвазнаўца, філосаф. Скончыла магістратуру і дактарантуру Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня). Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф». (2019). Нарадзілася ў 1981 годзе ў Лідзе, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Міраслава Адамчыка, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.